**Сымон Баранавых**

# НОВАЯ ДАРОГА



*Сымон Баранавых*

# НОВАЯ ДАРОГА



**АПАВЯДАННІ,
АПОВЕСЦІ,
РАМАН,
ЛІСТЫ**

**МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989**

ББК 84Бел7
Б 24



Укладанне, уступны артыкул і каментарыі
*Л. Савік*

Эта книга — наиболее полное издание творческого наследия известного белорусского советского писателя Сымона Барановых (1900—1942).

Объемные и колоритные образы, оригинальный стиль его произведений воссоздают атмосферу 20—30-х годов, отражают сложный процесс рождения нового в недрах старого жизненного уклада.

Б $\frac{4702120201-077}{М\ 302(03)-89}$ 106—89

ISBN 5-340-00111-3

## «Я СУМЛЕННА СЛУЖЫЎ СВАЙМУ НАРОДУ...»

Сярод празаікаў паслякастрычніцкай генерацыі адно з відных месц належыць Сымону Баранавых — мастаку, які чуйна адгукаўся на важнейшыя падзеі свайго часу. Ён пачынаў пісаць, калі ў нашай літаратуры былі ўжо добра вядомыя творы такіх самабытных майстроў слова, як Я. Колас, К. Чорны, М. Зарэцкі, М. Лынькоў і іншыя, творчасць якіх найбольш інтэнсіўна пачала развівацца ў другой палавіне 20-х — пачатку 30-х гадоў. Гэта быў перыяд імклівага росту беларускай прозы, развіцця буйных яе жанраў — аповесці, рамана, перыяд, калі эстэтычнае наватарства ўсёй савецкай літаратуры набывала вялікія маштабы, вылівалася ў шырокую шматстайнасць форм. Пісьменнікі, цесна звязаныя з працоўным народам, імкнуліся асэнсаваць небывалыя змены ў жыцці, паказаць героя — пераўтваральніка і будаўніка новага ладу ва ўсёй разнастайнасці яго сувязей з эпохай.

Творчых поспехаў дасягалі тыя мастакі, якія знаходзіліся ў самай гушчыні падзей, актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе за новы, сацыялістычны ўклад жыцця. Іменна такім чалавекам быў Сымон Баранавых. Празаіку была ўласціва вострая зацікаўленасць усім, што адбывалася ў краіне. Ён быў з тых пісьменнікаў-першапраходцаў, якія пачыналі распрацоўваць няўзнятыя пласты жыццёвага матэрыялу. Гэта пра іх і пра сябе трапна заўважыў А. А. Фадзееў: «Нам выпала на долю шчасце расказаць людзям пра сацыялістычнае жыццё і пра тое, як яно заваёвана. Нам выпала на долю шчасце — дзіцячымі яшчэ вуснамі вымавіць такія словы ў мастацкім развіцці чалавецтва, якія да нас не мог сказаць ні адзін, нават самы буйны, з мастакоў мінулага» [1].

Сымон Баранавых (Сымон Якаўлевіч Баранаў) нарадзіўся 1 верасня 1900 г. у вёсцы Рудкова Уздзенскага раёна Мінскай вобласці (родная вёска пісьменніка была разам з людзьмі спалена фашыстамі ў 1943 г.). Бацькі яго былі бедныя, малазямельныя сяляне. Давялося і малому Сымону зведаць цяжкую сялянскую працу: з сямі гадоў ён становіцца пастухом, пасля батрачыць на фальваркоўцаў, памешчыка, каб дапамагчы бацькам. Нягледзячы на гэту непасільную для яго ўзросту работу, Сымон знаходзіў час

[1] Фадеев А. А. За тридцать лет. М., 1959. С. 195.

вучыцца, цягнуўся да кнігі, паступова закончыў чатырохкласную школу.

Сапраўднае прозвішча Сымона — Баран, але калі ў 1920 г. юнака прызываюць у Чырвоную Армію, то ў палкавой канцылярыі запісваюць: Баранаў. І ўжо пазней, на рабфаку, сваё вельмі пашыранае прозвішча ён змяніў на Баранавых. «Захацелася даць прозвішчу нейкую этнаграфічную акрасу,— успамінае Я. Скрыган.— Чамусьці пра гэтакі клопат ён захацеў параіцца са мною...

Вось і сказаў я Сымону:

— Хіба ты забыўся, як у вас на сяле гавораць? Ты цяпер вучышся ў Мінску, а калі прыедзеш дадому, то суседзі скажуць: «У Якава Баранавых сын жа ў госці прыехаў». Гэта значыць не хто прыехаў, а чый сын прыехаў. У аснове прозвішча ляжыць сям'я, гняздо, зборнасць, гурт. Адсюль ты і мяркуй, як табе пісацца.

Сымон падумаў, паўздыхаў, памеркаваў сам сабе... І ў друку паявілася прозвішча: Баранавых. Праўда, мы тады не падумалі, што канструкцыя прозвішчаў з канчаткам на *ых* лічыцца сібірскай. Але ж у Сібір з'ехала нямала і нашых людзей, і ўсякая пераемнасць гаворыць і пра пэўную блізкасць...

То, можа, і з прозвішчам мы не нарабілі ніякай бяды» [1].

У Чырвонай Арміі С. Баранавых праслужыў тры гады (1920—1923) кулямётчыкам, удзельнічаў у баях з палякамі, быў паранены. Вярнуўшыся ў родную вёску, ён актыўна ўключыўся ў грамадскую дзейнасць. На працягу 1924—1925 гг. працаваў старшынёй сельсавета, членам камітэта ўзаемадапамогі, загадчыкам хаты-чытальні, адначасова з'яўляўся селькорам беларускіх газет. Але ўвесь час адчуваў, што яму не хапае ведаў, што ён павінен вучыцца далей. У заяве аб прыёме на рабфак БДУ С. Баранавых пісаў: «Я сын селяніна, служыў тры гады ў Чырвонай Арміі, цяпер у пераменным складзе 2-й дывізіі, пастаянна працую на гаспадарцы свайго бацькі, у якога гаспадарка складаецца з сямі дзесяцін зямлі, аднаго каня, трох штук дробнай жывёлы. Усяго членаў сям'і сем чалавек.

Прашу камісію ВНУ звярнуць на маю просьбу належную ўвагу як сапраўднаму бедняку, які толькі імкнецца прынесці плады карысці для нашага Саюза, для якога я шчыра хацеў бы ісці наперад...» [2].

Уступныя экзамены С. Баранавых здаў добра і быў прыняты на рабфак. «Як сёння, бачу Сымона Баранавых у палінялай гімнасцёрцы, на якой яшчэ не паспелі выцвісці чырвонаармейскія пятліцы, у доўгім кавалерыйскім шынялі, які ён надзяваў пры любым надвор'і» [3],— успамінаў М. Хведаровіч.

[1] Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1979. С. 99.

[2] ЦДАКР, ф. 6, воп. 1, спр. 195, л. 1. Справа студэнта рабфака Баранава Сымона Якаўлевіча на 16 лістах.

[3] Хведаровіч М. Пра Сымона Баранавых // Полымя. 1947. № 10. С. 180.

На рабфаку ў поўную сілу разгарнулася актыўная, дзейсная натура Сымона. Яго шчырая, адкрытая душа прыцягвала людзей, і нездарма ў хуткім часе ён апынуўся ў цэнтры студэнцкага жыцця: абіраўся ў рэдкалегію насценгазеты «Голас рабфакаўца», прымаў удзел у выпуску вуснай газеты, у мастацкай самадзейнасці. У п'есе Я. Коласа «Забастоўшчыкі», якая была пастаўлена студэнтамі, Сымон выконваў адну з галоўных роляў. На прадстаўленні п'есы прысутнічаў сам Я. Колас і застаўся задаволены. Поспехі на сцэне былі значныя, і Сымон з вялікім захапленнем выступаў у драматычным гуртку пры клубе імя КІМа. Усе, хто ў той час бачылі С. Баранавых на сцэне, прадказвалі яму шлях артыста. Аднак літаратура была першым і адзіным захапленнем і любоўю Сымона. Ён пачынаў з невялікіх селькораўскіх допісаў і, знаходзячыся ў асяроддзі здольнай, таленавітай моладзі, пісаў вершы, апавяданні, фельетоны, якія змяшчаліся спачатку ў насценгазеце, затым — у рукапісным часопісе «Голас рабфакаўца», а пасля — у перыядычным друку. Пісаў ён звычайна ноччу. Нялёгка было з пачатковай адукацыяй вучыцца на рабфаку, праграму сярэдняй школы прайсці за тры гады. Але настойлівая прага ведаў, сіла волі спадарожнічалі Сымону ўвесь час навучання, і ў 1928 г. пасля паспяховага заканчэння рабфака Сымон Баранавых быў прыняты на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. У тым жа годзе ён уступіў у Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў. На гэты час прыпадае яго знаёмства з многімі беларускімі паэтамі і празаікамі. Ён захапляецца творамі Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага.

Па сведчанні М. Хведаровіча «...да Баранавых часта заходзіў і Янка Купала з цёцяй Уладзяй. У сярэдзіне трыццатых гадоў паміж Янкам Купалам і Сымонам Баранавых усталяваліся шчырыя, сяброўскія адносіны. Сымона амаль заўсёды можна было бачыць за гасцінным Купалавым сталом. Цёця Уладзя называла яго ласкава: наш Сымонка. Сымон адказваў такой жа шчырай павагай, адданасцю сям'і Янкі Купалы. Ён, як мог, стараўся сэрцам адказаць на бацькоўскую ўвагу Янкі Купалы» [1]. Да пяцідзесяцігадовага юбілею народнага песняра Беларусі С. Баранавых пераклаў на прозу верш «А зязюлька кукавала» і прысвяціў гэты невялікі твор юбіляру, які пад назвай «Матчын сын» быў змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1932, 10 верас.). У хатняй бібліятэцы С. Баранавых захаваліся многія кнігі, зборнікі вершаў Я. Купалы. На адной з іх рукой паэта зроблены надпіс:

«Міленькаму і даражэнькаму Сымону

*Янка. Менск, 2/VIII—32 г.*».

Пасля заканчэння ў 1931 г. Беларускага дзяржаўнага універсітэта С. Баранавых быў накіраваны ў Беларускі радыёцэнтр, затым працаваў адказным сакратаром рэдакцыі літаратурна-мастац-

---

[1] Хведаровіч М. Пра Сымона Баранавых // Полымя. 1970. № 10. С. 182.

кага штомесячніка «Беларусь калгасная». Перайшоўшы працаваць у бібліятэку Дома пісьменніка, ён бліжэй знаёміцца з вядомымі беларускімі празаікамі і паэтамі. Частымі наведвальнікамі бібліятэкі былі К. Чорны, У. Хадыка, П. Броўка, Э. Самуйлёнак, А. Куляшоў, Ю. Таўбін, З. Астапенка.

З многімі беларускімі пісьменнікамі С. Баранавых давялося шмат паездзіць па краіне, па Беларусі, удзельнічаць у калектывізацыі. З групай маладнякоўцаў (М. Зарэцкім, В. Кавалём, В. Сташэўскім, М. Хведаровічам) у 1930 г. ён наведаў па запрашэнні Самахвалавіцкага райкома партыі вясковыя клубы раёна, у тым ліку і родную вёску, якая была далучана да калгаса «Бальшавік», разам з Ц. Гартным пабываў у калгасах Слуцкага раёна, дзе пазнаёміўся з працай калгаснікаў. Некаторыя з іх з'явіліся потым прататыпамі яго герояў у аповесці «Новая дарога». Надзвычай карыснай была паездка на адкрыццё Днепрагэса (1932) у складзе беларускай дэлегацыі, у якую ўваходзілі Я. Купала, А. Александровіч, М. Лынькоў, П. Галавач. Актыўная грамадская работа, цесная сувязь з жыццём народа дапамагалі С. Баранавых у яго творчай дзейнасці.

На *той* час пісьменнікаў падзялялі на розныя катэгорыі: пралетарскія, сялянскія, спадарожнікі. У 1933 г. была створана арганізацыя сялянскіх пісьменнікаў, куды ўвайшоў С. Баранавых. Яна пачала выдаваць свой штомесячны часопіс «Беларусь калгасная», адказным сакратаром якой ён быў прызначаны. У часопісе друкаваліся мастацкія творы пра сялянскае жыццё, змяшчаліся артыкулы супрацоўнікаў райкомаў, наркамата земляробства, калгаснага актыву. Часопіс выходзіў цікавым і змястоўным нягледзячы на тое, што С. Баранавых працаваў у часопісе адзін — рэдактар быў няштатны. Што б ні рабіў С. Баранавых, ва ўсім адчувалася яго вялікая самаахвярнасць, актыўная жыццёвая пазіцыя. У хуткім часе, пасля выхаду ў свет аповесці «Новая дарога», С. Баранавых пакінуў службу, каб займацца толькі пісьменніцкай дзейнасцю. Мяркуючы па ўсім, С. Баранавых мог вырасці ў сапраўднага майстра, мастака-эпіка. На жаль, яго творчасць была непрацяглай (1927—1936). Незвычайны лёс С. Баранавых, таленавітага беларускага празаіка, выклікае моцнае і балючае пачуццё суперажывання яго драматызму. «Шкада маладых год жыцця, шкада дарагой свабоды, і за што гэтыя пакуты? Не сумуй,— пісаў ён жонцы ў адным з пісем,— што так далёка заеду ад цябе. На Калыме, кажуць, жывуць не дрэнна... Я да гэтага часу не ведаю, каму «трэба» было арыштоўваць чалавека, які горла перагрызе любому ворагу за маю, дарагую мне, Савецкую ўладу... Тое, што я спазнаў у жыцці — ніхто не раскажа, ні адна кніга... Калі б я мог вярнуцца да сваёй літаратурнай працы — я мог бы напісаць эпапею...» [1]

Малады пісьменнік, якому так хацелася ствараць новыя раманы, аповесці, паспеў толькі паспрабаваць сваё пяро да той не-

---

[1] ЦДА ЛіМ БССР, ф. 46, воп. 1. Лісты Баранавых да Н. І. Бударкевіч.

забыўна-жахлівай ночы 3 лістапада 1936 года, калі яго беспадстаўна арыштавалі, выслалі ў Новасібірскую вобласць, а затым на Калыму, адкуль яму не суджана было вярнуцца... Памёр пісьменнік у самым росквіце сіл (1942), далёка ад роднай Беларусі. Абставіны склаліся так, што ён не змог ажыццявіць свае творчыя планы, якіх у яго было шмат. Але і тое, што ён паспеў зрабіць, ставіць яго імя побач з лепшымі празаікамі таго часу. Яго апавяданні, аповесці, раман — самабытная, цікавая і яркая старонка ў развіцці нацыянальнай літаратуры. Яны сведчылі, што фарміраванне творчай індывідуальнасці празаіка адбывалася інтэнсіўна, бо пісаў ён пра тое, што яму было добра вядома, блізка і дорага — пра жыццё свайго народа.

Шлях С. Баранавых у літаратуру звычайны, традыцыйны. Пачынаў ён, як і многія беларускія празаікі 20-х — 30-х гадоў, з селькораўскіх допісаў і карэспандэнцый, спрабаваў пісаць вершы. Аднак пачаткам яго мастацкай творчасці лічыцца 1927 г., калі ў газеце «Чырвоная змена» было надрукавана першае апавяданне «У млыне». Усяго ім было напісана каля дваццаці невялікіх апавяданняў і нарысаў. Многія змяшчаліся ў газетах і часопісах.

Першыя апавяданні С. Баранавых — гэта своеасаблівыя, блізкія да нарысаў, рэалістычныя замалёўкі сялянскага побыту. Часцей за ўсё іх сюжэт быў заснаваны на выкрыцці адмоўнага, якое моцна яшчэ трымалася, нягледзячы на жыватворчыя павевы Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Пісьменнік як бы выхопліваў асобныя кавалкі жыцця, праз якія найбольш яскрава высвятлялася сацыяльная характарыстыка таго або іншага персанажа, яго асабістыя якасці, выяўляліся адносіны аўтара да сваіх герояў і навакольнага свету.

С. Баранавых, як і М. Лынькоў, К. Чорны, В. Каваль, П. Галавач,— пісьменнік выразна сучаснай тэмы. Ён імкнуўся адлюстраваць жыццё, тыпы людзей у самых розных абставінах і сітуацыях, быў больш схільны да псіхалагічнай прозы К. Чорнага, хоць і ў яго творах ёсць адзнакі пафаснай маладнякоўскай узнёсласці.

Лепшыя апавяданні С. Баранавых вызначаюцца дынамічнасцю сюжэта, вострай канфліктнасцю, займальнасцю, дасціпным, мяккім гумарам. Нельга не пагадзіцца з меркаваннямі М. Гарэцкага, які, аналізуючы апавяданні 20-х — 30-х гадоў, пісаў: «Сымон Баранавых умее даваць невялічкія, просценькія, але вельмі жывыя сцэнкі, кавалачкі жыцця, напісаныя з дасканалым веданнем і разуменнем справы, з тонкаю нагляднасцю і з чыста народным гумарам. Яму асабліва ўдаюцца апавяданні з дзіцячымі перажываннямі, малюнкі кірмашу, вяселля, выпіўкі, бойкі, пляткарства і г. д.— наогул жанравыя бытавыя зарысоўкі, асабліва чым-небудзь смешныя. Апавяданне С. Баранавых вядзе роўна і спакойна, без траскучай фразеалогіі, без тэндэнцый і падкрэсліванняў, не ўпадаючы, з другога боку, у засмучэнне,— піша як свой аб сваім і аб сваіх. Ён стаіць на тым ідэалагічным шляху ў літаратурнай бе-

ларускай творчасці, які вядзе да здаровага народнага рэалізму, да блізкіх народным масам інтарэсаў і гісторый і да лёгкай і роднай дзеля іх формы жывога, трошку камічнага апавядання. Вобразы ў С. Баранавых простыя, народныя, жывыя апавяданні яго з прыемнасцю і з карысцю дзеля сябе будзе чытаць селянін, рабочы, савецкі служачы — наогул масавы сучасны чытач» [1].

Аповесць «Чужая зямля», якая была надрукавана ў часопісе «Маладняк» у 1928 годзе і мела назву «На абрэзках зямлі»,— гэта першая спроба С. Баранавых у буйным празаічным жанры. Пісьменнік ставіў перад сабой задачу — паказаць сацыяльнае расслаенне вёскі напярэдадні вялікіх змен у яе жыцці. Але ўдалося яму шматгранна і глыбока высвятліць толькі адзін аспект праблемы — сутнасць кулацкай ідэалогіі, тое, што адыходзіла назаўсёды, аджывала свой век. Што датычылася адлюстравання новага, то тут поспехі аўтара больш сціплыя, ён змог раскрыць толькі некаторыя яго прыкметы, паказаць кола знешніх падзей: умацаванне Савецкай улады пасля таго, як закончылася вайна з палякамі, перадзел кулацкай зямлі; змены ў паводзінах былых парабкаў, якія перастаюць баяцца гаспадароў, смела адстойваюць свае правы.

Старонкі, прысвечаныя жыццю кулакоў-хутаранцаў, іх сямейнаму ўкладу, норавам, звычаям, напісаны больш цікава. С. Баранавых наогул у адлюстраванні старога побыту вёскі, раскрыцці вобразаў сялян адчуваў сябе вельмі ўпэўнена, бо, па-першае, па ўласнаму вопыту добра ведаў гэта асяроддзе, а па-другое, ідучы ў рэчышчы, пракладзеным папярэднікамі, імкнуўся паглыбляць традыцыю рэалістычна-канкрэтнага ўвасаблення рэчаіснасці.

Наступныя аповесці С. Баранавых «Межы», «Новая дарога» (праблемна і тэматычна звязаныя з «Чужой зямлёй»), раскрываюць найбольш складаныя моманты жыцця сялянства. Пісьменніка цікавяць пытанні калектывізацыі, якую ён імкнуўся паказаць літаральна па гарачых слядах падзей, а таксама новы чалавек, глыбіня яго свядомасці. Працягваецца шматграннае спасціжэнне рэчаіснасці, адкрыццё яе новых пластоў. Па гэтых аповесцях можна прасачыць як тое, што змянялася ў творчай індывідуальнасці празаіка, так і тое, што заставалася нязменным. У «Межах» і «Новай дарозе» ў параўнанні з папярэднімі творамі прыкметна павысілася мастакоўская культура, глыбіня выяўлення ўнутранага свету чалавека, яго адносін да сацыяльна-гістарычных змен, майстэрства кампазіцыйнай пабудовы, уменне абгрунтавана паказваць сацыяльнае размежаванне вёскі. Тут празаік амаль пазбавіўся ад другарадных апісанняў, выпрацаваў свае прыёмы псіхалагічнага аналізу характараў. Гэтыя аповесці больш дасканалыя ў мастацкіх адносінах, чым «Чужая зямля», якую можна лічыць своеасаблівым эксперыментам, подступам да больш значных і глыбокіх твораў.

У 20—30-я гады былі напісаны многія аповесці і раманы, га-

---

[1] Гарэцкі М. Творчасць маладнякоўцаў. Сымон Баранаў // Чырвоная змена. 1928. 7 кастр.

лоўнай мэтай адлюстравання якіх сталі падзеі калектывізацыі («Узнятая цаліна» М. Шолахава, «Брускі» Ф. Панфёрава, «Нянавісць» І. Шухава, «Лапці» П. Замойскага, «Капкан» Я. Пярміціна, «Адшчапенец» Я. Коласа, «Вясна», «Ідзі, ідзі» К. Чорнага, «Вязьмо» М. Зарэцкага, «Язэп Крушынскі» З. Бядулі, «Мядзведзічы» К. Крапівы, «Чорная Вірня» Б. Мікуліча, «Спалох на загонах» П. Галавача і інш.).

«Беларуская проза, у тым ліку і аповесць С. Баранавых «Межы», дзякуючы ўдумліваму даследаванню сацыяльных працэсаў, адкрывала заканамернасць карэннай перабудовы вёскі і разам з тым спасцігала характар знамянальных зрухаў, што адбываліся ў псіхалогіі беларускага сялянства» [1]. Складаны і напружаны працэс перавыхавання чалавека станавіўся ідэйна-тэматычным цэнтрам шматлікіх твораў пра калектывізацыю, значнасць якіх была ў тым, што яны раскрывалі гістарычны змест эпохі, спасцігалі магістральную лінію сацыяльнага развіцця грамадства.

Калі ў творах многіх пісьменнікаў разглядаецца тыповы для таго часу канфлікт дзвюх супрацьлеглых сіл — кулака і бедняка, то С. Баранавых у «Межах» не ў меншай ступені цікавіць асабістае, інтымнае жыццё селяніна. Выразна выявілася жаданне аўтара раскрыць сутнасць натуры серадняка, ад пазіцыі якога шмат у чым залежаў лёс калгаснага руху.

Аповесць «Межы» не вылучаецца шырокім ахопам падзей у прасторы і часе. Асноўная каштоўнасць твора ў тым, што пісьменнік адлюстраваў грамадскія працэсы праз раскрыццё ўнутранага свету чалавека, яго клопатаў, думак, перажыванняў. С. Баранавых адступае тут ад традыцыйнага прыёму, характэрнага для пазнейшых твораў беларускай прозы пра калектывізацыю, у якіх галоўнай дзеючай асобай абавязкова выступаў новы для вёскі чалавек, прадстаўнік рабочага класа. На першы план ён выводзіць перадавых, найбольш свядомых сялян, якія ўтвараюць калгас па ўласнай ініцыятыве, без агітацыі і дапамогі збоку. У аповесці няма асабліва драматычных калізій, імклівых змен падзей, матэрыял для яе ўзяты з таго часу, калі да вёсак яшчэ толькі пачыналі даходзіць малавядомыя паняцці: «камуна, калектыў, калгас» і класавая барацьба не была яшчэ такой абвостранай, як у часы суцэльнай калектывізацыі.

Перад сялянамі паўстае мноства розных пытанняў, на якія яны жадаюць атрымаць пэўныя адказы. У першую чаргу іх цікавіць, якую яны будуць мець «выйгранку» ад калгаса. Падрабязна і праўдзіва адлюстраваў пісьменнік ваганні, роздум сялян перад рашучым крокам, паказаў, «як праз тоўсты пласт наноснага, узгадаванага часам, умовамі жыцця і быту патрыярхальнай вёскі, яе кансерватыўнымі традыцыямі, усё больш выразна праяўляюцца рысы новай свядомасці, новага светаразумення. З якімі маральнымі набыткамі, з якім духоўным багажом ідуць у новае жыццё,

[1] История белорусской советской литературы. Мн., 1977. С. 56.

што замінае ім знішчыць тыя межы, якія спрадвеку аддзялялі аднаго чалавека ад другога — вось асноўныя пытанні ў творы»[1].

Калі «Межы» адлюстроўвалі самы пачатак калектывізацыі, то ў «Новай дарозе» С. Баранавых паказаў моманты суцэльнай калектывізацыі, што патрабавала больш глыбокага раскрыцця падзей, чалавечых характараў, матываў іх дзейнасці. Для «Новай дарогі» характэрны прыём шматфарбнага пісьма, пошукі сродкаў для рознабаковага паказу жыцця, ускладненасць сюжэта, напружаны драматызм, нават дэтэктыўныя моманты, псіхалагічнае напаўненне вобразаў, іх ідэйная акрэсленасць. Пісьменнік тут падаў воблік новага чалавека, прадстаўніка рабочага класа, які дапамагае сялянам у правядзенні калектывізацыі. Аўтар меў ужо дастаткова вопыту і жыццёвых фактаў, што дазвалялі праўдзіва і шырока разгарнуць глыбінную плынь апавядання. Ужо сама назва твора — «Новая дарога» — гаворыць аб зменах, звязаных з распаўсюджваннем у сялянскім асяроддзі ідэй калектывізацыі. Што нясуць яны ў народнае жыццё — вось праблема, галоўная для аўтара і яго герояў. Пісьменнік не толькі сцвярджаў неабходнасць і жыватворнасць калектыўнай працы, але даследаваў сам працэс, выяўляў тыя сілы, якія затрымліваюць яго. Ён амаль пазбаўляецца ад прыёмаў плакатнага, чыста знешняга апісання вобразаў кулакоў, як гэта было ў «Межах» (вобразы Капруся, Аўласа), павярхоўнага раскрыцця ідэйнай задумы, спрошчанага, невыразнага вырашэння сацыяльных і маральна-этычных канфліктаў. Месцам дзеяння, асноўнай тэматыкай, нават некаторымі персанажамі «Новая дарога» перакрыжоўваецца з «Межамі». Але «Новая дарога» — гэта не просты працяг папярэдняга твора, у ёй можна назіраць «прынцыпова новыя якасці ўсёй беларускай прозы, прыкметныя зрухі ў структуры асноўнага ў той час жанру — аповесці. Перш за ўсё тут трэба адзначыць тэндэнцыю да ўзбуйнення жанру, да ўмацавання жанравай асновы аповесці, умацавання змястоўнасці яе формы»[2].

У «Новай дарозе» пісьменніку ўдалося стварыць не толькі вобраз новага чалавека — кіраўніка калгаснага руху, глыбока і нешаблонна раскрыць сутнасць кулацкай натуры, але і паказаць той прагрэсіўны напрамак, які выводзіў краіну на шырокі шлях сацыялістычнага будаўніцтва.

Аповесці «Чужая зямля», «Межы», «Новая дарога», як і папярэднія творы С. Баранавых, сведчаць пра яго добрае веданне беларускай вёскі, яе побыту, звычаяў. Яны былі напісаны як непасрэдны водгук на падзеі пачатковага этапу калектывізацыі, раскрывалі істотныя моманты гэтага перыяду. Галоўная ўвага празаіка была засяроджана на драматычна складаным лёсе селяніна ў працэсе калектывізацыі. Творы С. Баранавых былі найбольш

---

[1] Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць. Мн., 1971. С. 101.
[2] Тамсама. С. 104.

блізкія і зразумелыя людзям, якія вызваляліся ад векавечных аднаасобніцкіх устояў, таму празаік пісаў іх мовай, максімальна набліжанай да паняццяў і ўяўленняў свайго чытача, датычылася гэта апісанняў прыроды ці стану людзей.

Гады стварэння аповесцей С. Баранавых — гэта якраз той час, калі наша маладая проза пазбаўлялася ад маладнякоўскай «бурапены», незвычайных, вобразных асацыяцый, гучнага, на сённяшні погляд, наіўнага і знешняга аздаблення фразы, слоўных эфектаў. У аповесцях С. Баранавых гэтыя моўныя ўпрыгожванні, хоць і ў меншай ступені, чым у творах іншых празаікаў-маладнякоўцаў, але ўсё ж даволі адчувальныя, асабліва ў «Чужой зямлі» і «Межах». Зразумела, што ідэйна-мастацкія прыёмы маладнякоўскай прозы аказвалі адпаведны ўплыў на творчасць пісьменніка, таму побач з выразнымі пластамі сялянскай лексікі ў яго аповесцях прыкметны сляды стылявога арнаменталізму, гучнаслоўя, квяцістасці, празмернай экспрэсіўнасці: «Месяц глыбей запусціў у чорнае неба свае клыкі, больш сярдзітым зрабіўся. Як дзікі кабан, наставіўшы хіб, хацеў рынуцца і распароць адвіслы жывот чарназорнаму небу — парадзісе ваўчыцы, хацеў раніць яго аж да самай крыві». «Нібы падстрэлены звер, бег стары час наўцёкі. Бег, спатыкаўся... Спатыкаўся і бег... Каб аблізаць свае крывавыя раны, каб захавацца ад людскога вока — загаіць свае раны ў папёмках, бег стары час у невядомую далячынь».

Есць шмат дыялектызмаў (скерпалася, джэгаючы, збіцца з трыбу, чнару, госці наюдзіліс і г. д.). Што датычыць дыялогаў, унутраных маналогаў, то пісьменнік тут больш дакладна і строга перадаў жывую гутарковую мову персанажаў з мэтай грунтоўнай характарыстыкі вобліку, інтарэсаў, запатрабаванняў, інтэлекту. Паступова пераадольваючы свае захапленні, прыхільнасці да маладнякоўскай традыцыі, адчуваючы яе недахопы, С. Баранавых у аповесці «Новая дарога» і асабліва рамане «Калі ўзыходзіла сонца» амаль зусім не ўжываў непраўдападобныя параўнанні, розныя ўпрыгожванні, імкнуўся да стрыманага, дакладнага пісьма, выпрацоўваючы свой непаўторна-індывідуальны стыль.

Апавяданні, аповесці заканамерна прыводзілі амаль кожнага пісьменніка да жадання паспрабаваць свае сілы ў жанры рамана. У С. Баранавых шлях да рамана таксама традыцыйны. Ужо аповесць «Новая дарога» вылучалася многімі «раманнымі» адзнакамі: пашыраным сацыяльна-гістарычным фонам, актыўным удзелам станоўчага героя ў пераўтваральным жыцці, паглыбленым аналітызмам і псіхалагізмам, выкарыстаннем рэтраспектыўнага плана, шматлікімі сюжэтнымі адгалінаваннямі.

Вызначаючы асноўныя моманты сваёй творчай біяграфіі, С. Баранавых пісаў: «1935 год — працую над раманам на тэму: Камсамол у падполлі ў час польскай акупацыі Беларусі. У гэтым жа рамане пад назвай «Калі ўзыходзіла сонца» выкрываю нацдэмаў як прадажных псоў. У 1936 годзе заканчваю першую кнігу рамана і здаю ў друк. Раман атрымаў добрыя водгукі ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў...». Пазней, знаходзячыся далёка за межамі

роднай Беларусі, С. Баранавых у лістах да жонкі Надзеі Іванаўны прасіў захаваць рукапіс рамана, спадзеючыся калі-небудзь яго дапісаць. Адносна лёсу рамана паведамляў А. Пальчэўскі: «С. Баранавых увосень (1936) перадрукоўвае яго, здае два экземпляры ў выдавецтва, для выданняў у 1937 г., а два — сябрам пачытаць, каб атрымаць парады. Твор цудам уцалеў. Адзін экземпляр з чатырох надрукаваных на машынцы Сымон даў пачытаць сям'і Рудакоўскіх [1]. Пазней раман быў вернуты Сымонавай жонцы Надзеі Іванаўне, якая здолела захаваць яго і да нямецкай акупацыі, і ў час яе.

У 1957 г. мне пашчаслівіла рэдагаваць гэты твор. Больш як праз 20 гадоў напісання чытач змог пазнаёміцца з харошым раманам. Самому аўтару не давялося ўбачыць кнігі» [2].

Раман і сапраўды з'яўляецца адным з найбольш значных і памастацку завершаных твораў С. Баранавых. Ён вылучаецца стройнасцю, зладжанасцю кампазіцыі, дынамічнасцю, драматызмам сюжэта, цікавымі, змястоўнымі вобразамі, лаканічнасцю, апрацаванасцю мовы.

Пісьменнік імкнуўся перадаць атмасферу непрымірымасці, непакоранасці беларускага народа перад акупантамі. У гэтым плане раман працягвае асноўны напрамак папярэдніх твораў — паказ барацьбы двух светаў у паслякастрычніцкі час. Камуністы і камсамольцы падполля, створанага ў невялікім павятовым горадзе, увасабляюць ідэю гераічнай барацьбы і перамогі над класавым ворагам. Гэта бясстрашныя, самаадданыя змагары за Савецкую ўладу, якая несла людзям святло новага жыцця. З гуманістычных пазіцый вырашаў аўтар праблему гераічнага. «Думка пра чалавека як найвялікшай каштоўнасці складае найбольш прываблівы бок гэтага твора» [3]. Паказваючы нябяспечную, мужную барацьбу сваіх герояў, пісьменнік праўдзіва выяўляў слабасці і недахопы іх непрыкметнай, але такой неабходнай працы. У рамане няма той ідэалізацыі вобразаў маладых патрыётаў, рамантызацыі іх незвычайных подзвігаў, якія назіраліся ў маладнякоўскай аповесці, заснаванай на падобнай тэматыцы («Свінапас» М. Чарота, «Двое» А. Вольнага, «Партызан» Я. Нёманскага). С. Баранавых пераадолеў «хваробу» росту, ды і пэўная адлегласць часу спрыяла аб'ектыўнай інтэрпрэтацыі падзей 20-х гадоў. Ю. С. Пшыркоў, адзначаючы станоўчы вопыт, здабыты беларускімі празаікамі ў адлюстраванні мінулага, які «дапамог глыбей зразумець характар і сутнасць рэвалюцыі і грамадзянскай вайны», ставіў раман «Калі ўзыходзіла сонца» побач з такімі значнымі дасягненнямі беларускай прозы,

---

[1] Рудакоўская Ганна Іванаўна — родная сястра Надзеі Іванаўны, жонкі С. Баранавых.

[2] Пальчэўскі А. Сябар далёкіх гадоў. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1975. Т. 2. С. 404.

[3] Мушинский М. Окрыленность таланта // Сымон Барановых. Межи. Новая дорога. М., 1976. С. 253.

як «Дрыгва» Я. Коласа, «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Праз гады» П. Галавача, «Будучыня» Э. Самуйлёнка» [1].

Раман С. Баранавых, як і яго лепшыя аповесці, вытрымаў выпрабаванне часам. Разам з аўтарам сённяшні чытач захапляецца лёсам маладых герояў-падпольшчыкаў.

Пісьменніку хацелася пранікнуць у сутнасць характараў, зразумець матывы паводзін людзей, якія змагаліся за вызваленне.

І хоць раман застаўся няскончаным, але першая частка яго ўжо сведчыла, што пісьменнік дасягнуў значных поспехаў у стварэнні запамінальных характараў, сацыяльна абгрунтаваных, глыбока праўдзівых. У рамане дакладна выяўлена пазіцыя аўтара ў адносінах да сваіх герояў, а экскурсы ў мінулае, апісанні сялянскага, местачковага, гарадскога побыту, уменне раскрыць вострападзённыя праблемы тагачаснага жыцця сведчылі аб імкненні празаіка па-мастацку асэнсаваць вялікія рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў жыцці беларускага народа, раскрыць багацце душы разняволенага чалавека, працаўніка зямлі.

Жыццё пісьменніка працягваецца да таго часу, пакуль жывуць яго кнігі. С. Баранавых быў чалавекам, ад нараджэння надзеленым мастацкімі здольнасцямі, якія грунтаваліся на яго цесных, непарыўных сувязях з побытам і традыцыямі сялянскага асяроддзя, дзе ён рос, мужнеў, набіраўся вопыту. Валодаючы абвостраным пачуццём часу, пісьменнік сэрцам адчуваў надзённыя праблемы і запатрабаванні сялянства, са страснай зацікаўленасцю адлюстроўваў іх у творах, чуйна адгукаючыся на праявы новага ў жыцці і псіхалогіі людзей. Сведка і ўдзельнік вялікіх падзей эпохі: рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, калектывізацыі, С. Баранавых разам з іншымі мастакамі слова ставіў і вырашаў складаныя, важныя пытанні развіцця, фарміравання маладой беларускай прозы, садзейнічаў пашырэнню яе жанравых і сюжэтных рамак, уводзіў новыя тыпы жыццёвых канфліктаў, узбагачаў літаратурную мову, распрацоўваў сродкі псіхалагічнага аналізу, традыцыі высокай сацыяльнасці, партыйнай, класавай ацэнкі з'яў рэчаіснасці. На працягу свайго зусім кароткага творчага шляху С. Баранавых прадэманстраваў неабходныя якасці пісьменніцкай натуры — нястомную энергію, працаздольнасць, любоў да жыцця і літаратуры, вернасць абранай тэме. Гэта сведчыла аб тым, як шмат мог бы напісаць гэты таленавіты чалавек цікавых, мастацкіх твораў, калі б жыццё яго не абарвалася так рана і так трагічна. Да апошніх сваіх дзён ён сачыў за поспехамі роднай літаратуры: «Напішы, як жывуць Пятрусь, Якуб, Янка, Кузьма? — прасіў ён у адным з лістоў да жонкі.— Што новага напісалі яны? Якія п'есы ідуць у тэатрах? Я прачытаў у «Звяздзе», што ідзе п'еса Крапівы «Партызаны». Віншую. Савецкая драматургія расце. Крапіва літаратурна ўзмужнеў — рухаецца наперад. Гэта вельмі добра. Радуешся, а з

[1] Пшыркоў Ю. Велічная тэма // Полымя. 1957. С. 139.

другога боку авалодвае сум: а чаму ж я не магу прынімаць удзелу ў росце савецкай літаратуры, драматургіі? Так! Крыўдна. Беражы, Надзянятка, мой раман. Я калі-небудзь яго дапішу. У мяне вельмі многа задум» [1].

Дзякуючы Надзеі Іванаўне Бударкевіч — вернаму сябру і жонцы С. Баранавых, мы маем сёння магчымасць чытаць многія яго творы. Надзея Іванаўна — сумленны чалавек, была надзелена вялікай сілай і мужнасцю, падтрымлівала мужа ў час цяжкіх выпрабаванняў, не адраклася ад «ворага народа», пісала яму пісьмы, слала пасылкі і грошы, наколькі гэта было магчыма ў яе становішчы. Яна захавала дакументы, пісьмы, рукапіс рамана, зберагла іх у час вайны, хаця ў сувязі з акупацыяй перастаў С. Баранавых атрымліваць усё тое, што прывязвала яго да жыцця, умацоўвала веру ў людзей.

Надзея Іванаўна была ўдзельніцай партызанскага руху на Беларусі (сувязная-разведчыца партызанскага злучэння Слуцкай зоны), узнагароджана медалём «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.».

Адразу пасля вайны яна пачала шукаць сляды мужа, пісала на Калыму па старым адрасе, дамаглася адмены прыгавора С. Баранавых, пасмяротнага аднаўлення яго ў членах СП БССР.

Памерла Н. І. Бударкевіч у 1957 годзе.

С. Баранавых застаўся ў памяці ўдзячных нашчадкаў. Гэта быў чалавек высокай палітычнай свядомасці, маральнага абавязку, прынцыповасці і вялікай чалавечай і грамадзянскай мужнасці. Ва ўсіх сваіх творах ён выступаў зацікаўленым прапагандыстам і агітатарам ідэй Савецкай улады, якая змагалася і змагаецца за шчаслівую будучыню свайго народа.

*Лідзія Савік*

---

[1] ЦДА ЛіМ БССР. ф. 46, воп. 1. Ліст С. Баранавых да Н. І. Бударкевіч ад 3 чэрв. 1938 г.



# АПАВЯДАННІ

*

## У МЛЫНЕ

Круціліся пасы па жалезных шпулях, прыводзячы ў рух велізарныя каменні-жорны.

Грук, які аддаваўся каменнямі, напаўняў млын так, што нельга было пачуць, калі гаварыў той ці іншы завознік. Толькі і чуваць было, як мельнік-вусач выкрыкваў:

— Засыпай!.. Адгортвай!..

Затое ў завозніцкай было спакойна. Недзе, як бы далёка, быў чуцен млынавы гук, які аддаваўся асобнымі гукамі: «тук-так-тук-так...»

У завозніцкай, якая была тут жа, пад адною страхою з млыном, сабралася каля дваццаці чалавек завознікаў. Было вельмі накурана.

Завознікі не шкадавалі самаросліку, які без перапынку тлеў, даючы клубкі дыму.

Не зусім стары і не зусім малады, а так сабе сярэдніх гадоў мужчына, якога звалі Рыгорам, сядзеў за доўгім, вузкім сталом, курыў і вёў гутарку.

— Не, так не абойдзецца ў гэтым годзе, пасварымся яшчэ,— казаў ён, выпусціўшы сінія клубочкі дыму.

— Ты думаеш? Хочаш? — запытаў у яго Дзям'ян — нізенькі, у кароценькай жакетцы чалавечак, на галаве ў якога была даволі зношаная шапка з пераломаным брылём, а яго суконныя, тоўстыя порткі былі так зашмальцованы, што блішчэлі, як бляха.

— Не думаю і не хачу, а справа відавочная — справа кожнага года,— казаў Рыгор далей.— Ідзе вясна, і мы, хутаранцы, больш не будзем цярпець, калі на нашым выгане будзе хадзіць ваша быдла і коні. Ды яшчэ мала таго, збіваць нашы дарэзкі-шнуркі,— скончыў ён, кінуўшы далоў акурак.

— Чаму гэта на вашым выгане? Які гэта ён ваш? — з падскочыўшаю раптам злосцю запытаў Дзям'ян у Рыгора і дабавіў: — Што гэты вы за асэсары? І дакуль гэта ён будзе называцца вашым?.. Наш выган, вось што! — дабавіў ён рашуча з яшчэ большаю злосцю.

— Пачакай, не гарачыся! — сутрымаў Рыгор Дзям'яна, развёўшы рукамі.— Ты вось скажы: як папаў гэты выган у вашыя рукі? Ці не дапамагла часамі вам каламажка грошай, якую высыпалі з Хлёрчыкам земскаму начальніку, і заабладалі гэтым выганам — трыццаццю дзесяцінамі на трох гаспадароў? Скажы па праўдзе: каму належыў і павінен належыць гэты выган ад старых надзелаў яшчэ? Ці не таму, хто адбываў паншчыну, ці таму, хто быў у шляхецкае пастаці? Не, брат! Шуціш, што ж будзе плаваць і надалей, як карабель па моры, даволі,— закончыў Рыгор і злосна плюнуў на замурзаную дзеравяную падлогу.

Пакуль Рыгор гаварыў, Дзям'ян аж задрыжэў ад злосці. Ён як быў маленькі, дык яшчэ зрабіўся меншым на пядзі дзве. Твар яго пачырванеў, як журавіна ў познюю восень. Бляшаныя порткі, што былі на ім, ад яго злоснага дрыжання, пачалі лапатаць усё роўна як тая муха, што ад свайго цяжару ніяк не можа падняцца з аконнае рамы на шкло шыбы.

— В-а-а-ш в-ы-г-а-н! Ваш-ы ш-нур-кі! Як ваш-шы?! прабачай!.. Я казаў і кажу, што, што!.. Як пасвілі, так і будзем пасвіць! бо, наша паша, н-н-а-

ш-ш-а! — і ён так пусціў наперад, у Рыгораў нос, сваю «трохпальцавую махінацыю», што калі б той не паспеў адхінуцца, дык, напэўна, нос бы яго стаў зафарбаваным.

Стары Марцін, які сядзеў на рагу стала і палуднаваў, пакройваючы сытую скварку, моцна зарагатаў.

Другія мужчыны, якія сядзелі тутака ж, і некаторыя з іх стаялі на сярэдзіне хаты, таксама зарагаталі.

А сярод іх рогату нехта падхваціў:

— Герой Дзям'ян!

— П-п-а-дай яшчэ!

Дзям'ян адчуў сваю няёмкасць. Ён, акінуўшы сваім кароценькім позіркам мужчын і пабачыўшы іх іранічны рогат, зусім збіўся з панталыку.

Рыгор толькі сплюнуў убок, як бы адчуўшы нейкае нездавальненне, і на яго твары прапаўзла нявольная ўсмешка.

— Д-у-р-а-нь! — мог толькі прамармытаць ён.

У завозніцкай на момант як бы ўтварылася цішыня.

Мужчыны зноў выпусцілі па «клубочку» дыму.

Час праходзіў. Рыгор першы парушыў маўклівасць.

— Ну як, пасварымся яшчэ? — сказаў ён, падміргнуўшы ў Дзям'янаў бок.

Зноў прабег смех. Зноў нехта не вытрымаў і падпусціў слаўцо.

— І ты цярпіш, Дзям'ян? Э-х-х!

І сапраўды, для Дзям'яна мяжа была пераступлена. Дзям'ян не вытрымаў.

Не паспелі мужчыны зрабіць нат і позірку, як ён спрытна падскочыў і штурхануў Рыгору кулаком у бок...

А праз некалькі хвілін у завозніцкай нікога не было, было спакойна.

Сіні дым толькі расплываўся пластамі — плаваў, асядаючы маленькімі кропелькамі на абголеныя сцены завозніцкай, ды грук млынавых жорнаў не пераставаў паўтараць сваё абрыдлае: «тук-так, тук-так, тук-так...»

*1927*

# ПЛЯМЫ

I

Мікалай Іванавіч, седзячы ў сваім кабінеце, перабіраў заявы і нерваваўся.

— Шаснаццаць, усяго шаснаццаць можна здаволіць, а не цэлую сотню!

— Падурнелі, зусім падурнелі, разбазыралі людзі,— мармытаў ён, барабанячы па стале пальцамі.

— Алесі Астапавай Смаршчок,— прачытаў Мікалай Іванавіч вачыма на адной з гэтых заяў, і з яго вуснаў пачулася нешта падобнае не то на гук «о», не то зусім на «го». І гэтае «о», «го» адчулася так, што аж на яго далікатным твары падняліся і выпучыліся рыжаватыя вусы. А барада, якая тырчала клінам, выцягнулася, пабольшала на цэлы цаль.

— У другую чаргу,— сказаў ён злосна і, паклаўшы заяву, узяў другую.

— Верабэя... Зыгманта... Дзяркача...— чытаў далей Мікалай Іванавіч і таксама адкладваў на другую чаргу.

Ён адкладваў іх адну за другою, каб пераглядзець збольшага, каб мець уяўленне і загадзя ўжо паставіць іх на пытанні перад камісіяй, як у гэты час да яго пастукалі.

— Можна,— адказаў Мікалай Іванавіч, не падымаючы вачэй, і ў кабінет увайшла жанчына.

Жанчына была ў вясновым паліто. З-пад яе жаночае шапкі прабіваліся пярсцёнкамі чорныя, нібы смоль, валасы. А сама яна была тоўстае постаці, і на яе твары, скрозь пласт пудры, прасвечвалася ружавізна.

— А, Надзея Варывонаўна! — ускочыў Мікалай Іванавіч з крэсла.— Як маецеся? Сядайце,— і на яго твары распаўзлася ліслівая ўсмешка.

— А я да вас з заяваю...

— О, калі ласка!

І Надзея Варывонаўна пачала выкладаць сваю просьбу.

— Вырашыла паехаць на курорт, і маю пэўную надзею толькі на вас,— казала яна, песцячы ў руках бліскучы рыдыкюль.

Пры словах «маю пэўную на вас надзею» Мікалай Іванавіч зусім растаяў.

— На мяне мае надзею гэтая прыгожая стэнаграфістка!

«Ды што ж гэта адзначаю я ў яе твары?» — мільганула нібы маланкаю і прапала думка ў галаве Мікалая Іванавіча. І ён, ён толькі цяпер успомніў, што ён досыць немаленькая шышка.

— О, з вялікім гонарам маю за вас клопат,— выказаў Мікалай Іванавіч, пстрыкнуўшы злёгку пальцамі па маленькай нітачцы, якая асела на яго досыць чыстай, элегантнай жакетцы.

— Каб вы толькі ведалі,— казала далей Надзея Варывонаўна,— як мне хочацца пабываць на поўдні! Там, кажуць, такая прыгажосць, супакой. Тым больш я сябе так дрэнна адчуваю, не сплю па цэлых начах. А нейкія агідныя думкі так і ціснуць, так і лезуць аж у самае нутро.

— Нервовасць,— даказаў Мікалай Іванавіч.— Са мною таксама бываюць такія выпадкі. Але я, мужчына, мала звяртаю ўвагі. Вам жа, вядомая рэч, патрэбен адпачынак. Курорт, напэўна, можа адагнаць усякую агіду. Там будзеце гуляць на вольным паветры, слухаць музыку, гойдацца на гамаку, ну і наогул, прыгажосць поўдня... О, якая мастацкая прыгажосць! Я, калі з'ездзіў летась, дык толькі і цікавіўся ёю. Вось мора, вось хвалі, а там купаюцца... а там у чоўне паехалі, ды так шпарка паехалі — прама ў распасцёртае мора. І вось чуць-чуць відаць ужо — пункт толькі адзін... Поўдзень, добрая краіна поўдзень! — і Мікалай Іванавіч так захапіўся паўднёвымі ўзорамі, што чуць не забыўся пра сваю пацыентку.

Надзея Варывонаўна таксама адышла ў сваіх думках да пякучага поўдня. Ёй пад клічнікі Мікалая Іванавіча здавалася, што яна ўжо там, у гэтым чуць прыкметным пункце, і яна ад церазмернае асалоды засмяялася, паказаўшы кончыкі пазлацоных зубоў.

А на развітанні Мікалай Іванавіч сказаў:

— Чыя-чыя, а ваша заява, Надзея Варывонаўна, будзе задаволена.

— Хіба яна не з пралетарскага паходжання,— сказаў ён, застаўшыся адзін у кабінеце.— А па-другое: чаму не паслаць яе ў сезонны час, у першую чаргу, калі і Георг Змітравіч — доктар, добры знаёмы? Калі я, хто я? — старшыня курортнай камісіі, ды і па пасадзе не

абы, так сказаць...— разважаў Мікалай Іванавіч, стоячы каля акна, гледзячы на клубкі дыму, якія толькі што раскідаў вулічны аўтобус.

II

Другі месяц вясны, а ўсё яшчэ калі-нікалі прабуе падаць маленькімі прасянымі крупінкамі снег. Дрэвы распускаюцца вельмі цяжка.

Каштан, што стаіць супраць мураванага будынка, ледзь-ледзь пачынае пукацца, і яго набрэнкшыя пупышкі вось ужо некалькі дзён усё яшчэ аніяк не могуць расхінуцца.

Алеся назірае за гэтымі пупышкамі кожную раніцу, як прыходзіць яна сціраць пыл са стала Мікалая Іванавіча ды падбіраць папсутую, непатрэбную паперу, кідаюцца яны ёй у вочы...

Вось і цяпер, стаіць яна з анучкаю ў руках каля акна і глядзіць на гэты каштан.

«Ніяк не можа расхінуцца — халадна»,— мільгаціць у Алесіных думках.

— К-хе-к-хе,— кашляе яна, і ёй успамінаецца леташняя вясна.— Як цёпла было, як прыгожа!

Алеся помніць як цяпер, што летась нават яна і не прыкмеціла, калі прыйшла вясна. Глянула гэтаксама ў акно ў адну з прыгожых раніц і падзівілася толькі. Каштанавае лісце распускалася ва ўсім хараstве. А цераз некалькі дзён гэтае лісце так вырасла, паспела, што зусім загараджвала акно.

І тады Алеся садзілася на падаконнік, і тады ў яе думках напаміналася тое агіднае, пройдзенае.

Бацька загінуў у крывавым віры вайны. Матка пакінула яшчэ маленькаю. А яна?.. Колькі здзекаў было над ёю!

У наймітках з маленства працавала, ды як працавала?!

А паны, агідныя паны! Колькі здзекаў ад іх?!

І ёй напаміналася, як сцерлі гэтыя паны яе маладосць, як зняважылі яе дзявоцкую пашану.

Тады Алеся цяжка ўздыхала, а на яе вачах накручваліся слёзы.

— К-хе-к-хе,— закашляла зноў Алеся і, яшчэ раз паглядзеўшы на набрэнкшыя пупышкі, адышла.

Цяпер, у гэты час, яна добра разумее, што азначае яе гэты маленькі кашаль.

Яна добра разумее, што гэта жарсцвяныя сляды мінулага ў гэтым кашлі, сляды, якія ўжо зрэдку афарбаваны ў чырвоныя плямы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А праз некалькі дзён, калі пупышкі каштана ўсё яшчэ не пачыналі пукацца, Надзея Варывонаўна была ў жаданым пункце.

Весела ехала яна паўз бераг Чорнага мора і глядзела на тугую сцяну паўднёвых раслін, якія цвілі морам красак і напаўнялі паветра свежасцю і пахам.

Мора зціху хвалявалася, і яго хвалі конскаю грываю рассыпаліся аб прыбярэжныя зубы скалаў. Нібы лізалі яны іх, а потым раптам абамлявалі, спаўзалі да нізу, накідваючы кропелькі пены.

Гэтая пена, змешваючыся з тысячнаю беллю марскіх чаек, якія сваімі гукамі глушылі паветра, ламала вочы.

І тады ад усяго гэтага Надзея Варывонаўна зажмурвалася на абрыдлую стэнаграфію.

А Алеся?.. Алеся зноў стаяла каля акна і ўглядалася на набрэнкшыя пупышкі, і зноў мільгацела ў яе думках: «Ніяк не могуць расхінуцца — холадна».

*1927*

## РАНІЦАЮ

Раніца. Росна. Ярка.

Вёска толькі што прачнулася.

Вёску сваім галёканнем абудзілі пастухі, якія каля кожнага акна цягнуць сваё абрыдлае і непакойнае для гультаяватых баб: «Вы-га-ня-й!»

Гэтыя бабы вельмі ўжо не любяць гэтага «выганяй», бо ў такую раніцу так соладка спіцца!

Агапа, больш рухавая жанчына, устае заўсёды раней. Яна ніколі не чакае, пакуль будзе будзіць пастух. Яна і сёння ўстала рана і, падаіўшы загадзя кароў, пачакала і выгнала іх да пастуха.

Цяпер паветра ў вёсцы зразу напоўнілася шумам, крыкам. Там рыкалі каровы, бляялі авечкі, а там яшчэ

стары Пракоп цягнуў сваё «выганяй» — і ўсё гэта, прабіўшыся на прасторныя абшары поля, за вёску, рассыпалася на гэтых абшарах, і далёка, аж у алехавым гаі, адбівалася густым рэхам і прападала.

Агапіны дзеці ўжо паўставалі і гулялі цяпер на вуліцы. Лаўрэн, яе мужык, пайшоў на поле араць папар, бо днём за аваднямі ды мухамі і носа нават нельга выткнуць: да таго ўжо вельмі стаіць гарачыня. І цяпер, астаўшыся адна дома, Агапа падпаліла ў печы, і пакуль угараліся дровы, узяла вёдры і пайшла за вадою.

— А мая ты сястрыца!.. А мая ты міленькая! — сыпала нібы шротам Іваніха, спатыкнуўшыся з Агапаю каля студні.— Ды гэта ж на людскі смех, ды гэта ж каб на мяне, дык я яе з хаты вон бы, каб і нага яе не была!.. Гэткая валацуга,— казала яна, размахваючы рукамі ва ўсе бакі,— гэта ж трэба! А ён цярпіць, а ён слухае, як дурань, ды яшчэ і не абзавіся, маўчы, а то, дальбо, у морду нават хлыснуць не баіцца — вось што!

Апошняе яна сказала так цвёрда, што Агапа аж паставіла вёдры, у якія яна ўжо набрала вады, ды хацела адыходзіць.

— Ды што ты кажаш, мая Іваніха? Няўжо такі ў морду? — зацікаўлена паківала галавою Агапа.

— У Мікалаіхі запытайся, яна бачыла, дальбо, бачыла! Вось каб мне з месца не сысці, каб мне тут праваліцца, што бачыла,— зноў, яшчэ шпарчэй, засыпала Іваніха. Але на гэтую гутарку з-за плота якраз выйшла і сама Мікалаіха. Іваніха, убачыўшы Мікалаіху, яшчэ лепш пачала бажыцца і клясціся, каб даказаць аб тым, што яна аб усіх і аб усім ведае, як ніхто.

— Што ў вас тут за спрэчкі? — запыталася, падышоўшы з вёдрамі, Мікалаіха.

— А мая ты кумка, а мая ты залаценькая! — не сутрымлівалася Іваніха.— Аб сцерве аб гэтай, аб Марылі гутарым. Я кажу, што гэтага яшчэ нідзе не чуваць. Ён, Антось, яе мужык, гэтак працуе, глядзіць, каб быў хлеб і да хлеба, а яна круціцца з гэтым Сцёпкам. А бадай табе галава скруцілася з карку! Вось брыда...— І Іваніха плюнула, нібы яна гэтым узяла свой верх і замацавала сваё «я», хоць ніхто супярэчыць ёй і не збіраўся.

— А я, каб была яе мужыком, дык за валасы ды вон сцерву з хаты: ідзі, каб і чнару твайго не было. Ідзі, валацуга, з сваімі кавалерамі, дзе горкі перац ра-

сце. А то нюня, горай як якая баба, а не мужчына — гэты самы Антось.

Не менш Іваніхі, у сваю чаргу, разышлася Мікалаіха, але больш паважна, вытрымана.

Іваніха з Мікалаіхаю ў вёсцы Язвішча бабы першыя, якіх ніхто ніколі не можа ні ўгаварыць, ні абгаварыць. Ніхто не можа раней іх дачуцца аб той ці іншай навіне; ніхто першы не выдумае і не пусціць па ўсёй вёсцы тое, што яшчэ і на свет не паспела нарадзіцца.

Часамі возьме ды ўзбрыдзе ў галаву Мікалаісе альбо Іванісе думка, што Пятрусь, мужык Тэклі, якому каля шасцідзесяці гадоў, ходзіць да ўдавы Ганны. І яны будуць клясціся і бажыцца кожнаму, каго толькі не спаткаюць, што гэта праўда. І будуць клясціся датуль, аж пакуль не пасвараць старых людзей, якія дажываюць спакойна свой век і ўжо пагадавалі дзяцей.

Іваніха пабожыцца, што яна нават бачыла, як ён, Пятрусь, калі пачынала сутоньвацца, ішоў агародамі. І ішоў аглядаючыся, каб ніхто не бачыў. А дайшоўшы да Ганнінага прыгумення, пералез цераз засоўкі і пастукаў ёй у шыбу.

Мікалаіха ў сваю чаргу падхопіць, што яна бачыла, як Пятрусь ішоў, калі чуць пачынала развідняць, тады яна ішла даіць кароў і таксама бачыла, як ён аглядаўся.

І пайшло, і пайшло...

Цяпер яны ўдзвюх, у абедзве лапаткі, даказвалі Агапе, што Сцяпан, Юзікаў хлопец, ходзіць да Марыі, Антосевай жонкі. І што яна нават не то не баіцца свайго Антося, але б'е яго ў морду.

Да студні падышлі якраз яшчэ Хадора [redacted] Зосяю. Хадора таксама ўмее калі-небудзь выпусціць «слоўца». Але яна больш бярэ з «палітычнага» боку.

— Ці ведаеце вы, сястрыцы, што я вам за навіну скажу? — сказала Хадора, перапыняючы гутарку Мікалаіхі.

— Што? Кажы!..— запыталіся ўсе ў адзін голас.

— Вайна пачалася, вось што,— каротка адрэзала тая.

— Ды як жа гэта?

— Што ты кажаш?

— А вось тое, што вы чуеце: пачалася!

— Адкуль гэта ты даведалася,— падскочылі Іва-

ніха з Мікалаіхаю. А Агапа, якая хацела адыходзіць, ізноў паставіла вёдры і абаперлася на каромысла.

— Ды ці хіба ж вы не бачыце, не чуеце: і солі ўжо нідзе і за дзесяць рублёў пуда не дастанеш, і газы нідзе таксама няма; коні вунь пішуць, калёсы,— усё, каб забіраць... А з горада дык усе салдаты выязджаюць, вось што,— скончыла Хадора і ўзялася рукамі ў бокі.

— Ды гэта, можа, у лагеры выязджаюць,— умяшалася Агапа.— Бо мой сын, Васіль, прыслаў пісьмо, дык піша...

Але не паспела Агапа дагаварыць, як разам нешта бухнула, нібы і сапраўды пачалася вайна і разарвалася першая бомба.

Бабы пераглянуліся, а потым раптам неяк адчулі: стала горача і душна...

Гэта ўгарэліся ў печы Агапіны дровы, якія былі накладзены блізка каля цялешнікаў...

Агапа цяпер аб іх успомніла, але... але ўжо было позна, бо агонь сваімі меднымі языкамі лізаў усю страху Агапінай хаты.

Яна першая падняла свой позірк, і ў яе замітусілася ўваччу.

Агонь хутка перакінуўся на стрэхі Іванішынай, а потым Мікалаішынай хаты, бо яны былі побач, нібы зросшыся ў адзінае цэлае.

Цераз некалькі хвілін вёска напоўнілася другім шумам і крыкам. Яна цяпер напоўнілася тым крыкам, які раздзірае чалавечае нутро, ад якога станавілася жудасна і страшна.

Раніца з расою зразу знікла. У паветры закруціліся чорныя клубы дыму. Дым слупамі каціўся па-над вясковымі палоскамі і нік там, дзе прападала ранішняе рэха.

Людзі страцілі ўсялякую свядомасць.

І толькі сонца з кожным разам паднімалася ўсё вышэй ды вышэй. Яно нібы нарочна сілілася падняцца, каб накінуцца зверху, каб прыдаць больш моцы ліслівым медзяным языкам, якія з кожным разам, нібы з нейкім агідным смакам, шпарчэй ды шпарчэй лізалі стрэхі...

Цяпер раніца ператварылася ў нешта найстрашэннае, жудаснае...

І было зусім горача і душна...

*1927*

# АБЛІГАЦЫЯ

I

— Ноль, ноль, два, сем, тры, адзін, ноль, ноль,— мармытала Агрыпіна Ігнатаўна, ходзячы па сваім пакойчыку то ўзад, то ўперад.

— Ды што гэта з табою, Агрыпінка,— запыталася яе матка Пелагея Панцялееўна, пачуўшы, што яе дачка, нібы дурная, не перастае мармытаць нейкую курну.

— А вот не ваш інтэрас, мама. Я ведаю...— адазвалася яна весела ды зноў пачала мармытаць тое самае «ноль».

— Што ты ведаеш?

— А тое, што выйграю,— адрэзала яна.

— Ну, такі ж і сапраўды, мусіць, здурнела дзяўчына,— разважала Пелагея Панцялееўна. А пакуль яна разважала, дачка ўжо стаяла каля яе і каля самага яе носа трымала новенькую, нібы трохчырвонцавую паперку.

— Вось мама,— сказала яна,— аб-лі-га-цы-я!

— Ну і што?

— Ну і нічога, выйграю пяць тысяч, ды ўсё тут. Разумееце?

Але Пелагея Панцялееўна нічога не разумела.

Яна стаяла, вытрашчыўшы вочы, ды глядзела на паперку. Тады дачка вытлумачыла сваёй матцы, што яна сёння купіла рублёвую аблігацыю і што па ёй можна выйграць пяць тысяч, пры гэтым яна, Агрыпіна Ігнатаўна, мае надзею, што гэты выйгрыш будзе за ёю.

— Я ўвесь час трымала на ўвазе выйгрыш і вось... О, якая я шчаслівая! Я дастала выйгрышную аблігацыю,— скончыла яна і пусцілася ад маткі чуць не ў скокі, паўтараючы: «Ноль, ноль, два, сем, тры...»

Маці цяпер зразумела дачку. Маці ўгаварвала, што, можа, хто і выйграе, а не яна. Але Агрыпіна Ігнатаўна казала, што ў гэтым «хто» вось і ёсць, вось і павінна быць яна.

Пелагея Панцялееўна ўсміхнулася, сказала: «Дай жа, божа, чутае бачыць»,— і выйшла з яе пакойчыка.

Час ішоў, і Агрыпіна Ігнатаўна не пераставала працаваць на сваёй службе, на пошце. Сядзіць яна насупроць акенца, прадае паштовыя маркі, а ў яе ваччу так і круціцца «ноль, ноль...». І гэтыя «ноль» так і блытаюцца, пераплятаюцца адзін з другім альбо выцягваюцца, павялічваюцца ў некалькі разоў. І тады яны ёй здаюцца найвялікшымі, нібы нейкімі страшыдламі.

Прыйдзе Агрыпіна Ігнатаўна са службы дадому, і тут тое самае мільгаціць у яе позірку.

— Ну як не верыць у выйгрыш,— разважае яна,— калі гэты нумар стаіць, так і не выходзіць з галавы.

Вось і цяпер, ляжыць яна ўжо ў пасцелі, а гэтыя «нулі» як назнарок ані на хвіліну не перастаюць «маршыраваць» у яе вобразах.

— Ну выйграю, няхай сабе і выйграю,— разважае Агрыпіна Ігнатаўна, засынаючы,— так, так — выйграю... А тады?.. Не, не, служыць тады не буду, нашто? — і нейкі іранічны рогат вырываецца з яе вуснаў.— Нашто тады тая служба?! Ды я нават не пайду пехатою і па грошы... Не, ні ў якім разе! Фурмана вызаву, што мне тады... А цукерак колькі накупляю... О, хі-хі,— і яна аблізвае губы, нібы сасмактаўшы мандарынку.— Вось буду тады днём дома па садзе гуляць, а вечарам? А вечарам на лодку... У тэатры пайду... Эх! — і ў яе захоплівае дыханне ад радасці, яна, лежачы, перакручваецца на другі бок.

Недзе ледзь чуваць стукаюць гарадскія часы.

Агрыпіна Ігнатаўна налічвае тры, але гэта нічога.

Яна зноў перакручваецца на той самы бок і зноў блытаецца ў думках: пяць, пяць тысяч!..

— Пачакай! — нібы перабівае яна кагось і, паразважаўшы хвіліну, мармыча: — На паліто, значыцца, трыста рублёў... так, так, трыста... О, не! Я не буду хадзіць у такім, як Галена Змітраўна ходзіць, што ўжо і богу і людзям прыгледзіўся гэты яе падроблены «кот». Не, не менш як трыста на паліто,— канчаткова вырашае яна.— На тры шаўковыя сукенкі... так, так — на тры... А што там... Ну, няхай таксама трыста... Чаравікаў дзве пары: жоўтыя і чорныя, ну і ўсё такое... Няхай сабе разам на тысячу сабярэцца... А яшчэ? а яшчэ чатыры, чатыры тысячы! Ух!..— І яна ад асалоды за-

бываецца, аб нечым мармыча, падобным не то на той жа «ноль», не то аб нечым са сваёй службы, і засынае.

І сніцца Агрыпіне Ігнатаўне, што яна стаіць каля самай латарэі: не адна яна стаіць, а цэлыя тысячы людзей стаяць — чакаюць галоўнага выйгрышу.

Круціцца машына, выкідае выйгрышы адзін за другім. Хвалююцца людзі, чакаюць: кожны хоча выйграць галоўны выйгрыш, яе, Агрыпіны Ігнатаўны, выйгрыш. Ненавідзіць яна гэтых людзей, што хочуць адабраць ад яе тое, што ёй належыць. А машына круціцца ды круціцца, і... замітусіліся людзі, ды сціхлі — слухаюць.

— На аблігацыю 00273100 паў выйгрыш, самы галоўны выйгрыш — пяць тысяч рублёў,— заяўляе старшыня розыгрышнай камісіі ды дабаўляе: — Хто мае гэтую аблігацыю, грошы можа атрымаць праз тры дні, як выйдзе ў друку гэты нумар. Грошы можна атрымаць у Дзяржаўным банку.

І Агрыпіна Ігнатаўна маўчыць, нікому не кажа, а толькі бліжэй прыціскае да сэрца сваю аблігацыю, ды шэпча аб сваім шчасці, аб сваіх марах...

— Але не, не, я яшчэ раз перадумаю, што лепей купіць... Не, не — я перадумаю,— мармыча яна і прасынаецца.

Свет раніцы прабіваўся праз акенцы, калі Агрыпіна Ігнатаўна раскрыла вочы.

— Дык гэта я ў сне...— здзіўлена, яшчэ не верачы, разважала яна.

У той жа дзень пачаўся розыгрыш.

Патрэбна мець уяўленне, з якімі пачуццямі сачыла, праглядвала Агрыпіна Ігнатаўна кожны дзень выйгрышныя табліцы?

І вось, калі Агрыпіна Ігнатаўна ў адзін з прыгожых летніх дзён сядзела за сваёю працаю і звычайна праглядала выйгрышную табліцу ў свежым нумары газеты, дык яна сваімі дрыжачымі вуснамі «ноль, ноль, два, сем, тры, адзін, ноль»,— прачытала і зусім страціла прытомнасць.

На гэты нумар і паў галоўны выйгрыш у пяць тысяч рублёў.

— А! — хацела крыкнуць тады Агрыпіна Ігнатаўна, але так і засталася з адчыненым ротам. Яна яшчэ і

яшчэ раз праверыла нумар і — о! — не хапала, не хапала, аднаго... аднаго ракавога нуля не хапала!

— Значыцца, галоўны выйгрыш у пяць тысяч рублёў не мой...— застагнала яна.

І тады... і тады, дастаўшы сваю аблігацыю, з нейкім шалёным здавальненнем падрала яе, на самыя дробныя кусочкі падрала!

А праз некалькі дзён... А праз некалькі дзён, калі розыгрыш яшчэ цягнуўся, калі Агрыпіна Ігнатаўна, як і раней, спакойна сядзела і прадавала маркі, да яе падышоў знаёмы ёй тэлеграфіст Міхал Цімафеевіч і сказаў:

— Агрыпіна Ігнатаўна, наколькі мне памятуецца, на вашай аблігацыі павінен быць гэты нумар,— і ён паказаў ёй на нумар выйгрышаў у свежай газеце. Яна моўчкі падняла вочы і прачытала, выразна прачытала: «На аблігацыю 00273100 паў выйгрыш у пяцьсот рублёў».

У яе ваччу тады зрабілася цёмна. Маркі, што ляжалі перад ёю, так і распаўзаліся ў розныя бакі. Чырвоныя кругі мітусіліся, гарэлі тысячамі іскраў, а потым ніклі, прападалі, а іх месца займалі другія, больш яркія, выразныя.

Міхал Цімафеевіч, паглядзеўшы на яе здзіўленнымі вачыма, адышоў.

Нехта папрасіў марку,— яна не чула.

*1927*

## НА ВЯСЕЛЛІ

Святочны дзень. Маўклівасць на абшарах поля. Чуць-чуць варушыцца лісце клёна. Захад сонца. А насупроць ганка ў Тараса паветра забруджана густым пылам. І яркае рэха гармоніка ды скрыпкі праразае гэты пыл — музыкі граюць вальс.

Сёння вяселле.

Сёння Тарас аддае замуж сваю дачку Анюту. Маладыя даўно ўжо паехалі да «шлюбу» і цяпер з хвіліны на хвіліну павінны вяртацца.

Пар дваццаць вясковых хлапцоў, дзяўчат перасоўваюць ногі па пяску на Тарасавым двары. Нічыпар, хутаранскі хлапец, дырыжыруе скокамі, і яго элегантныя боты, у якія ўвабрана і чуць не на галянішчах павісае прасторнае галіфэ, так і выбіваюць такт вальсавых фігур. Чорная рубашка Нічыпара, якую абдымае навіваны паясок, з-пад адкладнога каўняра якой і амаль не да гэтага пояска звісае штучна падвязаны гальштук,— вельмі ідзе да твару яго асобы. Амаль кожную хвіліну паміж гоману, што нясецца з табуна баб, якія стаяць — глядзяць на скокі моладзі,— прабіваецца Нічыпараў «кансананс», у якім чуваць «вальц злева — са сваімі».

— Паглядзі, як круціць Арцём Макрыну! Але рыхтык — бацька. Той жа, бывала, калі пойдзе польку цераз нагу, дык ніхто з ім не згуляецца,— казала з табуна баб Рыпіна да Мальвіны. Але ж тая нічога не адказала, а толькі кіўнула галавою ды зноў глядзела ў напрамак клёна, на ногі вальсуючых.

Мальвіна зусім не хацела гаварыць з Рыпінаю.

«Так і любіць, каб абгаварыць каго: пахваліць перш, а потым у адну хвіліну і паганіць, на адным тыдні сем пятніц»,— мільгацела думка ў яе галаве.

— А Мікалай, глядзі, глядзі! — нібы ўгадаўшы Мальвініну думку, звярнулася Рыпіна да Аўдоцці, і тая падтрымала сваю суседку.

— Вельмі брыдка глядзець, калі чалавек лішняе робіць,— перавяла свой позірк Аўдоцця на Прузыну, якая сядзела з пасялкоўцам Юзікам.— Ну чаго ты тулішся да яго, нібы габляваная дошка?

А Юзік сядзіць з сваёй каханаю Прузынаю, ён мала калі гуляе. Прузына таксама не вельмі ўбіваецца за скокамі.

І яны сядзяць, разважаюць аб сваёй будучыні.

— Не, не, не гэтак мы будзем спраўляць, Прузынка! Хоць твае бацькі трохі і артачацца, што я мару аб чырвоным вяселлі, але ўсё ж ты мусіш іх пераканаць.

— І пераканаю! Гэта мамка трымаецца «законаў», а татка, дык той, як хочаце, кажа. Я, кажа, за вас не буду жыць.— І вясёлы, тоненькі галасок Прузыны шчакоча Юзікаў твар, вусны.

— Вось і добра!.. Разумна разважае твой стары бацька,— і ён прыціскае да сябе яе стан.

А Рыпіна з Аўдоццяй зноў пераходзяць на вальсу-

ючыя пары, і ўжо ні адна не выходзіць з іх позірку неабгаворанай, хто чаго варт.

Цень, які расце кожную хвіліну ад клёна, Тарасавых будынкаў і напаследак вырастае ў вялізарную велічыню, цяпер зусім, нібы замурзанаю абалонкаю, зацягвае Тарасаў двор, агарод. Яшчэ і яшчэ ўздрыгваюць, нібы назаўсёды хаваюцца пазалочаныя праменні і гаснуць. І тады ўжо прастора вясковых абшараў робіцца зусім поснаю.

А музыкі ўсё граюць.

— Круг! Дзяўчаты ў круг! — дырыжыруе зноў Нічыпар, і яго кучаравыя валасы, выбіўшыся з-пад шапкі, блытаюцца ад яго скокаў то на адным, то на другім баку галавы.

— А чый жа гэта хлопец, камандзір? — нібы шкадуючы, што дагэтуль не заўважыла, пытае Аўдоцця ў Рыпіны.

— З хутароў, з Пералясанкі, сын Шпунта. Пералясанцаў сёння прыйшло чалавек дзесяць, багатыры ўсе,— адказала тая, аб чымсьці разважаючы.

І не паспела Аўдоцця яшчэ аб нечым запытацца, як нехта з дзяцей крыкнуў: «Маладыя!»—і ўсе замітусіліся, зблыталіся.

— Дзлын-дзлын, шам-шам,— нібы расколаты чыгун, неслася рэха, і ўсе, нібы пчаліны рой, высыпалі на вуліцу. Але праходзіць хвіліна, і тады паважанае, расцягнутае «ш-а-м» чуваць каля Тарасавых варот. Коні цяпер стаяць, бо пералясанцы зачынілі вароты і таргуюцца з маладым за сваю «працу». Малады не зацягвае «таргоў», а, дастаўшы з сядзення бутэльку, поўную як вока, падае яе пералясанскаму Ігнасю.

І тады ўжо, з тым самым звонам, фанабэрыяю, пад гукі марша маладыя ўз'язджаюць на Тарасаў двор.

У паветры разносіцца прыгарэлы пах гарэлкі. Цёмная ноч і блешнявая скронь зорак напамінаюць аб нечым далёкім, мінулым.

А праз акно, з Тарасавай хаты, нясецца песня баб:

Трэба ў сваццi папытаці, папытаці,
Ці ўрадзіла пшаніца...
Ці ўрадзіла пшаніца, пшаніца,
Ці напякла сваццяя пірагоў...

І гэта «ой» працяглым рэхам застывае за Тарасаваю сядзібаю ў начной вільгаці.

А на двары цяпер гурт, вялікі гурт хлапцоў, дзяўчат. Тут уся моладзь вясковая, хутаранская і пасялкоўская.

Нічыпар з сваёю хеўраю зусім п'яны. Да бутэлькі, што даў малады, яны яшчэ прыбавілі па адной на брата. І ад гэтае п'янай ватагі ўтварылася нейкая калатуша, бурда.

Зусім зніклі вобразы цвярозых людзей, знікла іх прыгажосць. І Юзік, седзячы цяпер з Прузынаю на лаўцы, на вуліцы, адчувае боль у сваім нутры.

— Э-ха-ха! — цяжка ўздыхае ён, і яму не то шкода гэтых людзей, не то крыўда нейкая на іх.

— Ты не будзеш, Юзічак, ніколі не будзеш піць,— пытае ў яго Прузына і, злавіўшы ў яго маўклівасці рашучае «не буду», туліцца бліжэй і гладзіць яго руку.

— Ррр-а-зайдзісь!.. Музыку! — крычыць нехта з пералясанцаў, і музыкі граюць польку.

— Па-а-жалуста,— хістаючыся ўлукаткі, у адзін момант стаіць перад Прузынаю Нічыпар, і яна ад нечаканага «госця», зусім спужаная, бліжэй туліцца да свайго Юзіка.

— Што вам трэба? — нібы не разумеючы, пытае Юзік, і Прузына, не дачакаўшы Нічыпаравых слоў, адказала:

— Я не гуляю, вазьміце другую.

— Я... я хачу цябе, а не другую,— і ён схапіў яе за руку так, што яна ад болю ўскрыкнула.

— Адыдзіце! — устаўшы, пытліва змераў сваім позіркам Юзік Нічыпара. Але той нічога не адказаў, а толькі Юзіку цяпер прыйшлося пераняць Нічыпараў кулак каля самага твару дзяўчыны.

І тады не паспеў ён апамятацца, як Юзік, абхапіўшы яго постаць, спрытна швыргнуў яго пад Тарасаву надваротню.

— Пералясанцы!..— і гэтага было даволі.

Затрашчалі калы, жэрдкі, нібы людзі збіраліся напасці на цэлы варожы полк.

Як ашалелае звяр'ё, рынуліся пералясанцы на вуліцу. Цяпер у Тарасавай хаце агонь пагасілі, і, не разумеючы, у чым справа, усе заперліся ў сенцах.

Што было цёмна, дык яшчэ стала цямней. І толькі маўклівая вуліца вёскі напаўнялася нечым жудасным, нечалавечым у гэтай цемры. То ў адным, то ў другім кутку Тарасавай сядзібы толькі і было чуваць «лаві», «ён», і потым усё на момант змаўкала і зноў і зноў...

Пералясанцы «гулялі».

Яны даўно збіраліся ўстроіць гэтую гульню. Яны не забыліся Юзікавых допісаў, абрэзкаў, сходаў...

І ўспамінаючы цяпер, яны яшчэ з большым асцервяненнем будзілі шыбельнымі размахамі, прымушалі дрыжаць нават зямлю.

Яны шукалі Юзіка.

Яшчэ і яшчэ цягнуўся момант, і нейчы прарэзлівы крык прарэзаў паветра:

— Ён! Бі яго!

І тады кінуліся наўздагон. Але не прайшло і моманту, як скрозь востры шум пранёсся той самы немы, раздзіраючы чалавечае нутро, крык.

— Што я зрабіў!

Рынуліся на крык і... анямелі...

— Ён, мусіць, даганяў... І я... якая цёмная ноч!..— заскрыгатаў Нічыпар зубамі, трымаючы ў руцэ мокры нож.

А каля ног ляжаў Ігнась.

І цяпер зорная скронь, нібы злілася ў адзін алавяны камяк,— прытулілася. Цёмная ноч расчыняла ляпу, распаўзалася мільярдамі сваіх каморак, якія блыталіся тонкім павуціннем.

І ў паветры цяпер пахла свежаю крывёю.

*1927*

## КАЛЯ ГІЛЯРАВАЙ СТУДНІ

### I

— А каб ты не ўстаў! Каменем каб ляжаў! Азыз каб лежачы! От дык чалавек! От дык гаспадар! А божухна ты мой, а бацюхна! І на што мне бог даў гэтакага абібока: мучся цэлы век. От толькі ці хочацца людзей смяшыць ды дзіцяці шкода, а то, дальбог жа, у сельсавет пайшла б. распісалася! Нашто ж, каб мяне вечна заядала нэндза, нашто мне гэтакі неўставяка. У людзей, пане мой, як шкло і будынкі тыя, і на двары, як у вяночку, а то і стрэхі — ні аднае цэлай няма —

усе цякуць. Свіння адна, і тую няма куды загнаць. А студня дык ужо зусім зараз рассыплецца: за вадою да суседзяў прыйдзецца хадзіць. Уставай! Ідзе нехта, людзей пасаромся.

І Гіляр, падняўшы галаву, кінуў праз акно свой заспаны позірк. «Маніць»,— мільганула ў яго думках, і набраклы твар зноў апусціўся на збітую падушку.

— Ляжы і хоць ніколі не ўставай! Бакі хай азызнуць,— сказала Настуля, пабачыўшы, што яе апошняе аружжа «нехта ідзе», якім яна калі-нікалі брала Гіляра, скарыстана, і, бразнуўшы дзвярыма, выйшла з хаты.

На двары Настуля ганялася за свінёю. Свіння расхінула калы, улезла ў агарод і цяпер, бы карабель па моры, плавала па градах. А сярод двара сядзеў двухгадовы Паўлюк і на чым свет стаіць крычаў немым голасам. І Настуля, увагнаўшы свінню і супакоіўшы дзіця, пачала забіваць колікі.

А Гіляр тым часам ляжаў. Гіляр быў з такіх людзей, у якіх учарашняя работа павінна рабіцца цераз тыдзень, а калі гэта магчыма, дык і на другое лета можна пакінуць.

— Усё роўна не пераробіш усяго,— казаў Гіляр.— Выпала лішняя гадзіна, аддыхні, паляжы,— і ён адпачываў. І калі жонка Настуля з усіх бакоў не пераставала абіраць яго лапаткі і ўрэшце выводзіла з цярплівасці, дык тады Гіляр уставаў і ішоў да свайго суседа Мітры.

— Ну як, пане суседзе,— казаў Мітра,— вайна набліжаецца? Ангельшчына прырыхтавала па дзвесце пудоў і пятнаццаць хунтаў бомбы. Як думаеш, пане суседзе, збаімся мы ці не? — І Гіляр моршчыў лоб, чакаў хвіліну, бы змяраў двухсотпудовы з пятнаццаццю хунтамі аб'ём бомбы і тады ўжо адказваў:

— Яно-то, вядомая рэч, гэтая вага дынаміту можа зруйнаваць ураз цэлы горад! — І потым, пацерабіўшы ў сваёй рэдзенькай бародцы, дабаўляў: — Але і мы не лыкам мераны. Тут, брат, калі што якое, дык сіла на сілу пойдзе, і бомбы гэтыя тады на бок! Сіла, брат, саломү ломіць!

— Але ж сіла,— адказваў Мітра, і суседзі доўга яшчэ гутарылі пра будучую вайну. Мітра казаў, што ў Амерыцы ерапланы ёсць, якія зразу перавозяць за

адзін мах цэлую армію, са зброяй, з харчамі. І Гіляр спрачаўся, даказваў, што гэта немагчыма.

— Што вялікія ёсць ерапланы, дык гэта факт,— казаў Гіляр,— а што не па цэлай арміі, а толькі па адной дывізіі перавозяць, дык тут таксама бясспрэчная справа. Я, брат, усю мікалаеўскую праслужыў, я, брат...— І гэтак паразважаўшы пра «палітычныя падзеі», суседзі пераходзілі тады да бягучых сваіх гаспадарчых спраў.

І Гіляр ляжаў цяпер, перабіраў у думках тыя вобразы, якія цераз акно кідаліся яго позірку.

— Пагода, мусіць, змінтрэжыцца: сёння змена квадры,— разважаў Гіляр, лежачы.— Бачыш, якія белабокія, так і шмыгаюць. А касіць яшчэ рана, якая карысць, што гнісці будзе. А пагода ўжо абавязкова зменіцца. А студня? Гэта ж не аднаго работа, пакасіўшы, ужо вазьмуся, пазаву Мітру ды яшчэ каго-небудзь. А свіння, можа, разам з канём заганяцца: і цяплей зімою, і гной у адным месцы.— І ён, каб не драпежылі, не шчыкаталі мухі, адвярнуўся ад акна, нацягнуў на твар коўдру.

II

Узгоркі, што за вёскаю Лог, якія выбрукавала каменне, зараслі рутаю. Дзе-нідзе, паміж руты, прабіваўся, вушы апусціўшы ў гарачыню, быльнёг. Нібы чарэнь, награваўся пясок, і Настуля босымі нагамі, асцярожна жала каля гэтых узгоркаў сваю палоску.

Жніўнёвы дзень мучыў сваёю спякотаю. Прыпарвала, і ад млявай істоты хацелася піць. І Настуля, дажаўшы сноп, адыходзіла дадому.

— Дзень добры,— вырасла з-за гары Атрахімава постаць з касою на плячах.

— Дзень добры,— і Настуля пайшла па адной дарозе з Атрахімам да вёскі.

— Ну, як жа твой Гіляр, папраўляецца? — запытаў Атрахім у Настулі, спускаючыся з узгорка.

— Дзякаваць богу,— весела адказала Настуля.— А то, Атрахімка, аніякай надзеі не было,— казала Настуля далей,— дзе ж, двума наваротамі адкідала.

— Дык у яго, значыцца, у поўным сэнсе быў ціф,— зацікавіўся Атрахім.

— Вот жа! Фельдчар казаў, што зусім малая надзея. Па яго гарачыні дык ніхто не мог вытрымаць, да

таго ўжо яго паліла. А ўсё праз дур: прыйшоў разагрэты з лазні ды і напіўся. Яно-то і здаровая вада потнаму шкодзіць, а тут наша трохі аддае. От каб паправіўся, дык жа студню, канешне, трэба перасыпаць. Ну як напіўся, дык зразу яго ў холад, потым горача, і от пяць нядзелек як адзін дзянёк пралежыў. Але цяпер нічагусенька, устае ўжо сам.

— Вады трэба схадзіць ды дзіцяці есці даць, а то кінула з ім,— сказала Настуля, падыходзячы да вёскі, і Атрахім павярнуў на сваю сценку.

Гіляр быў не на жарты хворы. Доктар аніякае надзеі не меў на яго папраўку. Але моцны Гіляраў арганізм перанёс гарачку брушнога тыфу.

— Напіўся нячыстай вады,— канчаткова вырашыў доктар, і ён не памыліўся.

Гілярава студня кожную хвіліну была на беразе падзення. Дошкі зруба, які быў над хлутам, зусім рассоўваліся, адкідаліся ад падоўжных слупкоў. І тады маленькі ветрык-жар захватваў цэлымі прыгаршчамі брудны пясок ды сыпаў яго патрошку на ціхую, ніколі не зліваную ваду. Настуля некалькі разоў у дзень падымала то адну, то другую з гэтых дошак і, прылажыўшы да дзеравянага цвіка гатовую дзірку, прыстуквала далонню. Але калі праходзіла каля студні яе рабая свіння, ад якой не было ні плоту, ні замёту, дык гэтыя дошкі зноў з'язджалі з сваіх месц і тады зноў была для Настулі работа.

Усярэдзіне, у Гіляравай студні можна было бачыць, як сцены хлуту, бы выцертым дыванам, засцілаліся кароценькім мохам. Паабапал з бакоў, на гэтым імху раслі на сваіх доўгіх, крохкіх карэннях нейкія слізкія грыбы. А ніжэй трохі, каля самай вады, тырчэлі канцамі ў вадзе дзве дошкі, на якія напіраў, плыў цераз край сівы глей. І пасля ўсяго гэтага, гледзячы на ваду, у якой аддаваўся падрапаны люстраны водбліск блакітнага неба, можна было бачыць, як на ёй плавалі нейкія невядовыя арганізмы ўсемагутнай прыроды. Вада то разбягалася дробнымі пацеркамі, кружочкамі, то зусім бурболіла на адным месцы. І тады здавалася, што гэтыя бурбалкі зыходзяць ад нечага большага за гэтых вадзяных кузурак, ад нечага зусім вялікага, якое лёгка можна разглядаць, нават няўзброеным вокам.

— Дзе ж дзіця? — увайшоўшы ў адчыненыя сенцы, запыталася Настуля ў Гіляра, які ляжаў на ложку.

— На дварэ. Нядаўна бегала каля ганка,— адказаў ён, і Настуля з матчыным пачуццём кінулася да студні.

— Няма,— мільганула ў яе галаве страшэнная думка і, прамчаўшыся нібы маланкаю, знікла. За студняю, калупаючыся ў пяску, сядзеў яе Паўлючок.

І тады Настуля з нетрывалаю радасцю ўзяла дзіця на рукі і ад усяе матчынай шчырасці пачала цалаваць. А калі яна абярнулася, хацела ісці да хаты, дык тады толькі заўважыла разбураны зруб студні.

— Зноў, мусіць, свіння, каб яна выпруцілася,— прамармытала Настуля, але, падышоўшы да студні, так і застыла на адным месцы.

Верхні зруб студні з аднаго боку зусім быў зруйнаваны. З дошак, якія адкінуліся ад слупка, ляжала толькі адна. Слупок быў пашчыпаны, і ад яго валялася рассыпанае гніллё. А калі Настуля асцярожна глянула ў процьму цёмнай студні, дык грыбы, якія ніколі не чакалі катастрафічных падзей, былі збіты. Павуцінне, толькі што ададранае, свежаю плёнкаю матлялася, вісела на скрамзоленым імху. І калі Настуля ўглядалася ў дно студні, дык ранейшага, здрапанага люстранага водбліску відаць не было. Нейкая незразумелая куча бураломy была відаць заміж вады. І калі яна яшчэ яшчэ ўглядалася ў незразумелы буралом, дык тады мімавольны крык вырваўся з яе нутра, і яна кінулася бягом дахаты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цераз некалькі часу, калі Настуля зусім спакойная стаяла каля студні, пяцёх мужчын з вялікай марудлівасцю, на вяроўцы, даставалі з студні яе рабую свінню. І калі свіння дакранулася верхняй цвёрдай глебы, дык Мітра, які дапамагаў цягнуць чацвераногую жывёлу, канчаткова канстатаваў яе смерць.

— Так, так, утапілася, няйначай...

*1927*

# ХЛОПЧЫК ПЕТРУЧОК

— Уставай, мой сынок, уставай, Петручок. Умыешся, дык і сон пройдзе. Я табе паснедаць дам, і ў торбачку возьмеш... Уставай, маё дзіцятка, ды сходзіш...

І Петручок, дзесяцігадовы хлопчык, падняўся і сеў на ложку. Ён пачухаў каля вуха, потым пад пахаю, а калі Хрысціна, яго маці, трымала над цабэркам коўку халоднай вады, саскочыў з ложка ды пачаў умывацца.

Вялікае гора было ў Хрысціны: яе сямігадовая дзяўчынка Настуля ляжала пры смерці.

— Вось нічога ані ў рот, акрамя калі жыжачкі з крупніку паспрабуе, ды і тую вырве, вытузае зразу ж,— плакала Хрысціна, жалілася суседцы Макрыне, якая прыходзіла даведацца яе дзіцяці.

— Спалохана. Пярэпалахі трэба выкачаць,— вырашыла тая.

Але Хрысціна казала, што яна ўжо заклікала Паладзю, два разы нават, дык горай яшчэ: паліць пачало.

— Ну, дык не сядзець жа злажыўшы рукі,— бедавала Макрына далей,— а трэба шукаць якога-небудзь ратунку,— казала яна.— Да Воўка трэба даведацца, вады прынесці: і калі на смерць — памрэ зразу: кавенчыцца не будзе, а не — папраўляцца пачне.

Хрысціна і сама ведала гэта, але што значыла для яе матчынага пачуцця «кавэнчыцца не будзе, памрэ зразу». І яна, тоячы ў сваім сэрцы вялікі жаль, адкладвала страшэнную думку на заўтра.

— Хоць хворая пабудзе ў маім позірку,— разважала Хрысціна,— бо гэты смутны, маўклівы, вечна без смеху, стары дзед абавязкова вырашыць лёс маёй дачушкі.

Але цяпер у такі цяжкі час, калі зусім была малая надзея на дзяўчынку, Хрысціна канчаткова вырашыла паслаць Петручка за вадою. Вось за гэтым і ўспарола яна яго так рана.

— На ж табе рубель грошай,— казала Хрысціна, калі Петручок надзяваў шапку,— а калі будзе мала — скажаш, аддадзім... Бутэльку я разам з хлебам у торбачку ўлажыла,— дадала яна, і Петручок выйшаў з хаты.

Сонца толькі што паднялося. Раніца была маўклівая, росная. І толькі пастухі парушалі гэтую маўклі-

васць, бо кожны хацеў паказаць сваю здольнасць іграць у трубу. А Петручок ішоў са сваімі дзіцячымі развагамі, ішоў за тым, за чым паслала матка.

Ён ужо мінуў поле, выйшаў на луг і пайшоў нацянькі, каля рэчкі.

Дарога яму добра была вядома: лугам каля рэчкі, цераз лес, а за лесам дзевяць вёрст да Амшарнікаў, дзе і жыў Воўк, вядомы на ўсю ваколіцу знахар.

— Хто ж сходзіць?... Трэба схадзіць...— разважаў Петручок ідучы.— А яна, бедненькая, так стогне... Усю ноч я не спаў. Цяжка стагнала... Мне нават хацелася плакаць... Я думаў, што яна канае. Бедненькая... Хто ж сходзіць?..

І Петручок ад цяжкіх разваг пераходзіў з сваімі думкамі да шклавіднае люстранае рэчкі.

Ён ішоў, углядаўся ў празрыстую ваду, якую злёгку карбаваў маленькі, нячутны для твару ветрык. А то і кружочкамі разбягалася вада, і тады была думка ў Петручка: «Ваду, мусіць, п'е рыбка».

Ён агібаў адзін за другім крывыя павароты рэчкі.

Бацькі ў Петручка не было: ён не вярнуўся з расчыненага жорала вайны, якая праглынула яго, як глытае полымя камара, што кружыцца ў цёплым дыме запаленага дома.

— Без вестак прапаў,— плакала часта Хрысціна і гэтак жыла, гадавала дзяцей, ускладала на іх свае надзеі.— Вырастуць — да смерці дахаваюць, прыгорнуць костачкі,— цешыла сябе думкаю...

Сонца ўжо сходзіла з паўдня, як Петручок збіраўся пакінуць рэчку. Яно цяпер прыпякала ў яго загарэлую шыю і трамаціла яго зірк. Паветра было застылае, густое.

— Сяду,— вырашыла дзіцянё,— адпачну.

І ён сеў на сакавітую, мяккую траву каля ракітавага куста.

Навакол шалясцела лісце ракіты ды беленькі матылёк непадалёку рабіў кругі — лукаціў паветра, а потым сеў на лісток.

Петручок дастаў свой полудзень.

За кустом ціха булькала рэчка, нібы іграла яна нейкую песню.

Петручок папалуднаваў, напіўся з рэчкі і прылёг — на хвіліну прылёг. Ён ляжаў дагары, як пласт, глядзеў у блакітнае неба. Доўга ў адзін пункт глядзеў.

Але вось пункт ператварыўся ў шэрую пляму, вочы гублялі яго, знаходзілі і зноў і зноў гублялі...

Па целе распаўзалася прыемная асалода, якая абхінала яго спакойнымі марамі.

Было прыемна, хораша, мякка і ціха.

Яшчэ і яшчэ паказалася ўваччу шэрая пляма і потым замітусілася і знікла.

Ён заснуў і спаў моцным дзіцячым сном, падлажыўшы пад галаву ручку, локаць якой прасвечваўся праз прадраную зрэбную кашулю.

Ён спаў, а дома маці чакала вады — чароўнай сілы чакала, якая павінна адратаваць яе дарагое сэрцу дзіця. Але хіба ён вінаваты ў гэтым? Хіба ён не імкнуўся выратаваць маладое жыццё?..

І ён спаў, а сонца не чакала — плыло да невядомага кругавіду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Прачніся... Устань...— бубнілі ў вуха невядомыя шэпты.

— Ты ж старэйшы... Ніхто ж не паможа... Устань...— зноў не адставалі абрыдлыя шэпты, і ён адкрыў вочы.

— Што я скажу дома! — вырваўся дзіцячы плач, калі Петручок глянуў на сонца.— Яна памірае. Яна мо памерла... Што я зрабіў...— застагнаў ён ізноў.

А сонца павісала над лесам. Астатняя пазалота хутка збіралася пагаснуць. І тады кінуўся бегчы, каб да поўнага змроку да дому дабегчы.

— Што?.. Што?.. Што я скажу? — бег Петручок з гнятучаю думкаю.— Дома не было,— скажу,— мільганула ў яго галаве, і ён зажмурыў вочы.—Ой, не,— застагнаў Петручок.— Ой, не. Гэты стары дзед — Воўк — ніколі не вылазіць з сваёй пакрыўленай на бок хаты. Колькі хадзіў, заўсёды заставаў... З мамкаю хадзіў да Воўка, як мне балела горла... Адзін хадзіў мамцы вады, як спалохалася пры адступленні... Колькі хадзіў, заставаў.— А Воўк усё ж не памог матцы... Памерла б, каб дзядзька Цімох не прывёз таго чалавека ў акулярах... Пастукаў нейкаю трубкаю, паслухаў праз худыя грудзі ды даў у гэтакай маленькай бутэльцы нейкай горнай вады... Не гэтулькі, як Воўк... А памагло...— А як моцна спужалася тады!.. У ногі цалавала тоўстаму паляку з рыжымі вусамі, каб не запальваў нашай

хаты... А ён нібы дурны: думаў, што ў нас ёсць конь... Дзядзька ж Цімох засяваў нам поле. Цяпер дык вось купілі... Бедная матка, як яна спужалася... Добры быў чалавек у акулярах.

Ён бег, развaжаў, ставіў пытанні і не знаходзіў выйсця з свайго слёзнага становішча.

Сонца ўжо зайшло. Яго празрыстая ружавізна густа асядала на вострыя верхавіны лесу. Ад рэчкі ўсплываў туман, які пластам распаўзаўся па-над маўклівaю, вечна задумёнаю вадою. І тады яго дробныя капелькі асядалі на траву, рабілі яе больш сакавітаю, крохкаю.

А вось і зорачка вынырнула з бяздоння густога блакіту ды пачала моргаць сваімі рожкамі. Жукі прарэзвалі паветра. А там недзе пасярод лугу квактуха закумкала. Яе падхапіла другая, трэцяя... і безупынныя песні жыхароў балота рассыпаліся па ваколічных абшарах.

І тады музыка прыроды глушыла дзяцінyю журбу, якая вылівалася буйнымі, як боб, слязьмі.

— Што я скажу?.. Што... Што...

І Петручок супыніўся — пайшоў крокам. Да дому заставалася вярсты паўтары. Ён цяпер увайшоў у добра знаёмыя месцы, ад чаго баязлівасць з надыходам ночы знікла.

Ён ішоў каля рэчкі, тою самаю сцежкаю і глядзеў, як цягнецца туман, адчуваў, як сціскаецца, б'ецца сэрца.

— Набяру...— мімавольна, незразумела для яго нават, ці можа ён выказаць гэтае слова, прамчалася думка ў дзіцячым розуме.

— Набяры...— нібы шапнуў на вуха нейчы голас, і ён астанавіўся — дастаў бутэльку.

— Буль-буль-буль...— бегла вада праз вузкае рыла, і ён набраў. Адліў трошкі назад — гэтулькі набраў, колькі даваў стары Воўк.

А тады... ашчупаўшы за пазухаю грошы, пайшоў памаленьку з сталаю адвагаю да хаты.

Сырызна, пра якую хварэла Хрысцініна дзяўчынка Настуля, амаль не давяла яе да смерці. Дзяўчынка хварэла халярынаю.

Пасля крызісу Настуля хутка пачала папраўляцца. Цераз тыдзень, у адну з раніц, Настуля нават сама ўстала з ложка ды папрасіла есці.

І тады:

— Вялікі чалавек!..

— Усемагутная сіла!..

А Макрына з гуртка сабраўшыхся ў Хрысціны баб нават крыкнула:

— Мёртвых васкрашае...

І ўся гэтая хвала старому Воўку, нібы на хвалях шырокавяшчальнае радыёстанцыі, разляталася па абшарах.

А Петручок?

А Петручок слухаў тады сваім маладым дзіцячым розумам бабскі гоман.

Слухаў ды ўсміхаўся...

*1927*

## У МАЛАДЗІКОВУЮ НЯДЗЕЛЮ

Пякучы дзень. Хочацца піць. І ў Фруцкай ні на адну хвіліну не зачыняюцца дзверы. Вёдзер пяць прынесла яна вады, а яе ўсё ж не хапае.

— Чорт яго пойдзе больш,— рашуча кажа Фруцкая, ставячы ў сенцах вядро з вадою,— рукі ўверадзіла,— звяртаецца яна да чаргі, што выстраілася — хоча сагнаць смагу.

Ціт, які сёння прадаў карову і ўжо выпіў барыш, пад гэтую гарачыню, першы выцягнуў дзве конаўкі халоднае вады. Ён цяпер абцёр свае доўгія вусы і накіраваўся да мястэчка.

— Трэба што-небудзь купіць хоць з дробязі,— разважаў Ціт, падыходзячы і гледзячы на кірмаш, які варыўся варам.

Першае, што папалася Цітаваму позірку на мястэчку, гэта колы. Праўда, ён не думаў іх купляць, але, праходзячы каля калёсніка, астанавіўся.

— Колькі просіш вось за гэтыя, патрэсканыя? — кінуў калёсніку, пастукваючы колам аб сухую зямлю.

— Пятнаццаць за стан,— адказаў той, пыхкаючы люльку, гледзячы цераз галаву Ціта ў невядомы міжвольны пункт.

Ціт праціскаўся далей.

— Каму боты новыя, хромавыя?!

— Каму галіфэ?!

— Каму ножыкі магнітныя?.. каму?..— наўсцяж адзін перад другім выкрыквалі местачковыя гандляры, і Ціт учапіўся за боты.

— Не тандэнтныя?.. Колькі? — пачаў ашчупваць прыстрочкі.

— Браток! Каб я век такія прадаваў! — пачаў гандляр добра вывучаную ім цырымонію.— На заказ шыў... ведаеш жа, можа, Ліпніцкага,— дык яго хлопцу... Ён абы-якіх не закажа... О-го, брат!

Але Ціт не ведаў ніякіх Ліпніцкіх, для Ціта было ўсё роўна.

— Няхай драпежыцца тваё нутро, а я не хачу, не куплю,— мільгацела ў Цітавых думках.

— Падэшва разлезлая,— слінячы яе, заўважыў Ціт, каб адчапіцца ад гандляра, ад ботаў; але вось ззаду нехта палажыў руку на яго плячо.

— Ды ці ты гэта?! Апанас! — азірнуўся Ціт.— А бадай цябе цяміла. Вось дык не чакаў...

І старыя дружакі моцна пацалаваліся.

Гутаркі ў старых дружакоў (служылі некалі разам) было шмат. Ціт расказваў, як цяпер жывецца яму, як пагадаваліся, выраслі яго сыны. Апанас расказваў, як ён разлучыўся з сваёю Агатаю і цяпер ажаніўся на Настулі — Ціту незнаёмай. Вядома, што шмат было гутаркі: пяць гадоў не бачыліся, шмат змен утварылася. Дружакі былі рады сваёй сустрэчы.

Пякучае паветра напаўнялася шумам местачковага кірмашу. Гэты шум, бы на адным месцы, стаяў застыўшым.

Тут Арына купляла рэшата і бажылася-клялася, што яна аніяк не можа набавіць грыўню, якую вымагаў ад яе рашотнік. Там нема пішчала на чым свет стаіць парасё, якое купіў Мікалай ды нёс на аберучках. А там конскія гандляры, Гарбуз з Перапечкам, наярвалі пугаю каня, які чуць набадры ўжо цягаў. Яны таксама кляліся і бажыліся, што конь — каб давеку гэткія мецьі І нізенькі, з чорнаю бародкаю чалавечак, які ўжо каля дваццаці разоў абышоў і абшчупаў гэтага каня, не разумеў, каму верыць: ці сваім вачам, ці Гарбузу з Перапечкам, якія — дайшло да таго — кляліся чуць не сваімі дзецьмі.

Невядома колькі б яшчэ прастаялі Ціт з Апанасам у сваёй гутарцы, як да іх раптам далучыўся Андрэй.

— Ціт, дык чаго ты марнееш на сонцы, сушыш горла? — запытаў Андрэй.

— А дай жа рады! Гэта ж з землякамі сустрэўся. Пойдзем, але ж. Пойдзем да Лук'яніхі,— згадзіўся Ціт з Андрэеваю прапановаю.

— Дык вось жа, там і конь мой стаіць,— узрадаваўся Андрэй за Цітаву згоду.

— Пачаць галоўнае,— разважаў ён, калі рушыліся з месца,— а там само пакажа.

— Душа меру знае,— прамармытаў Андрэй.

Там і тут па местачковых дарожках, якія былі абстаўлены вазамі, шпацыравалі маладыя пары.

Паўднёвая бель ламала вочы. Трымцела паветра.

Вунь хлопец давыпуску — з шырокім гальштукам з-пад каўняра, трымаючы ў руках шапку,— выкручваўся, фанабэрыўся перад местачковаю Ганнаю. Ганна ж тое і мела на ўвазе — акідвала позіркам то сваю сукенку фальбоністую з белага батысту, то хлопцавы кучаравыя смольныя валасы.

А вунь Сцёпка сельцерскаю вадою частаваў Алену, і яна разоў з пяць, мусіць, прыкладала губы да шклянкі — смакавала, саромелася.

А там ішла цэлая сцяна сплёўшыхся пад рукі дзяўчат, якія кідалі позіркі на незнаёмага для іх франта. Франт быў адзеты зусім па гарадской модзе: ён хадзіў адзін — ні да кога не далучаўся.

Не сціхаў гоман.

Па дарозе да Андрэевай капэліі далучыліся яшчэ Давыд з Пракопам.

— Хіба нашы душачкі суконкі, ці што?! — разважалі яны, уваходзячы ўсе разам у Лук'янішыну хату.

Вельмі было накурана ў Лук'янішынай хаце. Пахла хлебнымі крошкамі ды разлітаю гарэлкаю. Густымі пластамі асядаў дым да долу. І калі ўвайшлі Лук'янішыны «госці» — узварухнуўся дым, папоўз збэрсанымі пасмамі.

— Па бутэльцы на брата,— загадаў Андрэй, калі расселіся за сталом.

— Нясі, расплацімся,— падмацаваў Ціт.

Але Лук'яніха ведала гэтыя расплаты. Яна таксама пабажылася разоў дваццаць — казала, што ўвесь яе заработак толькі на посудзе.

Давід, які не любіў гэтага таргавання, з гонарам вы-

кінуў на пачын траячку, і Лук'яніха зусім супакоілася — выйшла з хаты.

Мужчыны закурвалі цяпер.

— Шмат узяў за карову,— запытаў Пракоп у Ціта,— прадаў, ці што? — дадаў ён.

І Ціт расказаў, як ён чуць-чуць нацягнуў сорак сем рублёў.

— Грошы, брат, патрэбны да зарэзу,— казаў Ціт далей.— У раёне як пазычыў на каня, дык яшчэ не аддаў. Трэцяга абвестку прыслалі.

— А я падсвінака за дванаццаць рублёў — такога мяккага падсвінака аддаў. Таксама на ўсялякую надабнасць, так сказаць, патрэбны,— сплюнуў убок той самы Пракоп.

— Будзем жывы, будуць грошы,— уставіў Давыд.— Грошы, грошы,— разгладзіў ён кароценькую шчаціну сваіх вусоў.

— Ды табе што?.. Ты пастаіш каля кавадла раніцу,— заўважыў Пракоп,— вось табе і грошы. І ты вось як ні круці, дык шыварат-навыварат выходзіць.

Мужчыны на момант змоўклі. У хату ўваходзіла Лук'яніха.

А цераз некалькі хвілін у Лук'янішынай хаце моцна гаманілі, спявалі нават.

Сутоньвалася.

Паціху хвалявала нагрэтае за дзень паветра. Сонца скрэбла пазалочаны крыж царквы. На мястэчку нікога не было.

І толькі вячэрнія жукі парушалі маўклівасць.

Толькі цяпер з моцным гоманам выходзілі мужчыны з Лук'янішынай хаты. Тут нейкім чынам былі Гарбуз з Перапечкам і яшчэ чалавек тры незнаёмых. Уся ватага цяпер была п'яная. Гутарка іх была моцная, працяглая, гаспадарская.

— Чо-о-ор-т,— цягнуў сваім басам Пракоп,— чо-о-ор-т... ты павінен узяць бутэльку,— не адставаў ён, тычучы кулаком у Гарбузаў нос.

— Ма-ікка-ла, ці што, з твайго горла? — адпіхаў яго той.

— Кінь, Пракоп,— угаварваў Перапечка,— даволі.

— Я ведаю, што вы а-мм-атары на чужое,— хацеў замахнуцца Пракоп. Але тут нешта здарылася.

Ціт, на якога ніхто не звяртаў увагі, так грукнуўся аб намошчанае каля ганка каменне, што аж у нутры ў яго нешта ёкнула. Усе кінуліся на дапамогу.

Андрэй убачыў непярэліўкі. Ён кінуўся запрагаць каня. А цераз некалькі хвілін мужчыны ўздзябурылі Ціта на калёсы, і Андрэй паехаў дахаты.

На другі дзень, калі Ціт прачнуўся на сваім ложку, яму вельмі балела галава. Бы нешта падказвала яму, рупіла, калі ўстаў з ложка. Яму ўспомніўся ўчарашні кірмаш.

— Колькі ж я прапіў,— палез Ціт у кішэню сваіх шарачковых портак.

Цітава сэрца чамусьці моцна білася.

Вывярнуў кішэні Ціт, вытрас і... грошай не знайшоў.

Замітусіўся свет.

Яскрава ўявіў Ціт свайго земляка, з якім ён, выпіваючы, так цалаваўся. Лук'яніху ўявіў, якая раз-поразу бажылася. Гарбуза... Перапечку.

Усіх з гарачэчаю на душы ўспомніў Ціт.

*1928*

## МОЦЬКА

Калі вы будзеце ехаць альбо праходзіць цераз пасёлак Навадвор'е, дык, будзьце ласкавы — заходзьце да старога Моцькі!

Калі вы замарыліся — адпачнеце ў яго.

Захацелі папалуднаваць — папалуднуеце, не пашкадуе вам Моцька. Прамерзлі — Моцькава жонка, Элька, самавар паставіць вам. Моцька чалавек гэтакі: ён у людзей бывае, а людзі — у яго.

Моцька заўсёды рад людзям.

Ого, колькі знаёмых у Моцькі! Хто толькі не ведае пра Моцьку, хто не бываў і не бывае ў яго.

Дык будзьце ж ласкавы, заходзьце!

Калі вы не ведаеце дарогі, дык запытайцеся ў малога дзіцяці: усякі стрэчны-папярэчны пакажа дарогу да Моцькі.

— Да Моцькі... дарогу?.. А вось проста, нацянькі

каля лесу, потым цераз узгорак, пойдзеце да лагчыны, через бальшак — каля хмызняку, побач з тэлеграфнымі слупамі...

А там, налева — сценка будзе на пасёлак... Здалёк яшчэ ўбачыце новыя будынкі. Вось там і жыве Моцька.

Там ужо хоць хто пакажа Моцькаву хату, толькі што адбудаваную.

Дык заходзьце ж. Будзьце ласкавы!

I

Раней гэта было. Тады, як Моцька яшчэ быў у карчме. Вы не ведалі Моцькі. Вам не было ніякага інтарэсу да чалавека, які жыве ў гэтай выветранай будыніне, што выкінута за вёску, нібы вывезенае, непатрэбнае смяццё. Зусім не прыходзіла думка аб будыніне, у якой шыбы занітованы атрэп'ем.

Які каму інтарэс быў. Клопат. Хі!

Але затое, хто ведае, хто заходзіў...

— Колькі таго Моцькі? — звычайна кажа стары Лявон, Моцькаў сусед.— Колькі яго?.. Жменя...

Заходзячы да Моцькі, казаў Лявон:

— Ты, Элька, хоць бы падкармлівала яго лепей,— штукуе Лявон, звяртаючыся да Моцькавай жонкі,— падкармлівала б, авось пачаў бы таўсцець твой Моцька. Жываценак з'явіўся б, як у вашага шафара Моўшы. Так, падгладжвай яго!

Але Элька махае рукою.

— Ёсць каго падгладжваць, вось яны,— паказвае на малых галапупцаў — на трохгадовую Сару, на гадовага Шлёмку.

Моцька ж у гэты час нічога не кажа.

Ён нібы толькі што вылез з саду, дзе за ім ганяўся вартаўнік, моргае вачыма, маўчыць Моцька.

Добры чалавек Моцька. Ой, які добры!

— Золата, можна сказаць,— кажуць крывалукаўцы,— Моцька — золата, а не чалавек. Яй-права!

Калі вы, незнаёмец, пападаеце да Моцькі і калі вам патрэбна яго ўслуга, дык толькі намякніце, і Моцька вас зразумее.

— Ха-ха-ха-а,— раскрываеце вы рот альбо праціраеце кулаком вочы, і ён разумее, што вы хочаце спаць.

І тады, пакруціўшы ў пальцах тры калівы чорнай бародкі, Моцька пачынае клапаціцца аб вас.

— Элька,— кліча ён тады сваю жонку,— Элька, пасцялі чалавеку.

І Элька нясе на аберучках палосістую падушку, якая распората ў адным месцы па шве, адкуль вытыркае дробнае курынае пер'е. Яна кладзе яе паважна на цыратовую, абшарпаную канапу, штурхае збольшага пад яе перапелістыя бакі і кажа:

— Адпачывайце з дарогі. Кладзіцеся, адпачывайце! Я дзяцей супакою, ціха будзе.

Моцька чалавек гэтакі. Ён не пашкадуе пераначаваць чалавеку. Цыратовая канапа для гэтага, можна сказаць, і служыць.

Вось чаму не толькі ваколіца ведае Моцьку, а шмат хто — зусім з пабочных людзей ведае. Вось чаму.

— Ну, як жывецца? — часамі папытае падарожнік у Моцькі.— Як крэпішся, Моцька?

І Моцька, нібы пагушкаўшы на далоні, зважыўшы сваё становішча, адказвае:

— Эт, жывецца... Хто не ідзе, дык наступіць нагою... Жывецца...

І зусім так. Моцька не зайздросціць ніколі другім. Ён чалавек незайздросны. Крыўдзіць нікога не ўмее. Вось які Моцька.

— Мяне б не чапалі,— кажа ён,— а я... а я ўжо нікога не зачаплю.

Але ж бывае наадварот: чым больш не чапаеш, тым больш цябе чапаюць.

— Гэта ўжо яно зроблена на свеце,— кажа Моцька.

## II

У Моцькі ў хаце, над сталом, вісіць лямпа. Дарма сабе што лямпа не запальваецца нават і па суботах. Няхай сабе, што не міргае яе разгатае полымя.

Затое Моцька памятае, як гарэла лямпа ў час яго вяселля. О! Ён памятае і нават добра ўяўляе тое святло лямпы. Хоць гэтаксама як і тады змрок клаўся на сэрца, але святло лямпы, хоць штучнае святло, пачуцці яднала. І гэта было толькі на адзін момант тады.

— Даволі... Шмат нават і гэтага...— незразумелы зык крануў сэрца, і Элька, мусіць, за гэтым плакала.

А назаўтра...

— Вельмі ўжо яе нутро, лямпіна,— кажа Моцька,— шмат патрабуе — хунт на вечар.

— Куды лепш ужо пяты нумар,— кажа Элька.— На тыдзень хапае хунта.

Вось за гэтым і не запальваецца Моцькава лямпа ад яго вяселля.

Цяжка вісіць яна над круглым сталом.

Падарожны чалавек ляжыць цяпер на канапе і глядзіць на яе пунцовыя, хмурныя рубцы. Ён ляжыць і разважае аб ёй і аб лямпе пятнаццатага нумара.

— Каб адарвалася — у дробныя цурачкі, напэўна, рассыпалася б,— думае падарожны госць.

Але затое лямпа нічога аб госцю не думае. Яна вісіць, як ні ў чым не бывала. Цяжка вісіць. І будзе вісець, глядзець, фанабэрыцца перад Эльчынаю камодаю, якая стаіць тутака ля сцяны.

— Дзве раўналежныя рэчы: камода і лямпа. Лямпа і камода — на ўвазе ў Моцькі.

Як адна, так і другая — старыя ўжо. Ножкі даўно паадкідаліся ў камодзе. На падкладках стаіць.

Эльчына камода не то што простая камода, а з буфетам.

— Дзе шклянка? — пытае Моцька ў Элькі.— Напіцца няма чым.— Ён ведае, што шклянка... дзе ж ёй быць, калі не ў камодзе ў буфеце, ён ведае... Але Моцька хоча, каб Элька сказала гэтае слова «ў буфеце».

Моцька разумее, што і ён — хоць у сябе дома, а — людзі? Ён мае волю над шклянкай.

Камода дасталася Эльцы ад яе маткі як пасаг. Эльчына матка атрымала гэтую камоду ад сваёй маткі таксама тады, як ішла замуж.

Вось чаму паадкідаліся ў камодзе ножкі, вось чаму даўно скрышаны верхнія выразаныя цацкі ў буфеце і таксама выбіты ніжнія шыбы, цераз якія шмыгае рука малой Сары. Не толькі камода з лямпаю, гадзіннік таксама ёсць у Моцькі. Над камодаю зусім сіметрычна вісіць ён. Гадзіннік не ідзе цяпер. І калі Моцька п'е гарбату — часта вырываецца думка:

— Ой загарак, загарак! — разважае Моцька, гледзячы ў адно месца.— Ой, мой ты загарак, як няма за што цябе папраўляць. Няма,— глытае Моцька чай, адваліўшыся да арэхавых абручоў свайго крэсла, што скрыпіць пад яго постаццю.— Няма.

А гадзіннік, Моцькаў загарак, чатырохкантовы сценны, нібы хоча заківаць у гэты момант звіхнутым

маятнікам, хоча ўсміхнуцца, адказаць, што ён зусім разумее добрага Моцьку.

— Пачакаю... Вытрымаю...— шэпча гадзіннік усёй постаццю вішнёва-здрапанай фарбы.— Пачакаю.

І Моцька разумее яго, як сам сябе.

— Ото ўжо хіба няхай прыйдзе вясна,— разважае ён далей,— вясною хіба разам з кузуркамі абудзішся і ты, маятнік.

Калі Моцька кажа аб вясне — ён кажа аб сваім багацці. У людзей вясною голад, а ў Моцькі наадварот.

За цэлую зіму, за халодную зіму, хто не назбірае ануч? Хто? Поўныя запечкі і ў крывалуцкіх баб і ў падгацкіх.

У каго няма ануч па вясне?

Моцька радуецца за вясну.

— Хіба толькі,— разважае Моцька,— Янкель лошанскі наедзе на ўзахапкі зрабіць... хіба толькі... наедзе... Трэба будзе наўперад падумаць аб гэтым,— вырашае Моцька. Яшчэ тады вырашае, калі мяцеліца круціць, калі самая нішто гульня лютаўскай завірухі. Ого, вясна для Моцькі! Найшчаслівейшая пара года!

І сапраўды, толькі вясною бывае самы найбольшы збор ануч у Моцькі.

III

— Элька! Бадай, ты спрахла з гэтаю Элькаю,— кажа Моцька.— Элька, дзе ты забавілася!

І Элька разумее Моцьку.

Калі ён кажа: «Каб ты спрахла», дык гэта ў яго вельмі добры настрой. Гэта значыцца, Моцька сёння ўтаргаваў паўтары капейкі. Ён прадаў Аўдоцці фунт газы і кусок зялёнага мыла «Блімовіча».

Не без таго-о: Аўдоцця напавер узяла сваю пакупку. Але гэта хіба не ўсё роўна? Моцька ведае, што яна аддасць. Абы-чым, але аддасць. Ён таксама ведае, што Аўдоцця прыйдзе да яго, каб яшчэ ўзяць напавер. Моцька за гэтым адвёў у сваёй вузкай кніжцы старонку, на якой і накрамзоліў: «Аўдоцця, Ярэмава жонка, узяла фунт газы, кусок мыла — гэта на трынаццаць з палавінаю».

Моцька гэтакі. Ён чужога не хоча.

— Няхай мяне сударгі возьмуць,— клянецца Моцька,— мне непатрэбна чужое. І яму вераць. Усе крыва-

лукаўцы вераць. Падгацкаўцы вераць. Дзе ні павернецца Моцька на сваім белым кані, у якога сіняю абалонкаю зацягнуты вочы, дзе ні павернецца — усюды вераць Моцьку. Таргуюцца нават мала з ім.

— Ці не паскупееў ты,— кажа падгацкая Вулляна,— нешта ты, Моцька, мала даеш. Гэта ж цэлае бярэма ануч, а ты толькі адзін тузін... Накінь што-небудзь. Іголак хоць з пару, ці што?

І Моцька накідае. Дастае тонкую іголку і накідае Вулляне на тузін белых гузікаў. Чаму якраз тонкую іголку? Грубыя іголкі ў вялікім ходзе. Іх толькі Моцька можа прадаваць. Імі ён накідаць на прадажны тавар ні ў якім разе не можа.

Вельмі ўжо вялікі попыт на тоўстыя іголкі ў падгацкіх баб.

— Моцечка, даражэнькі, мне... мне... шпілек дай! Дай! — пішчаніцаю лезуць да Моцькі дзеці.— Вось і анучы, вось і яйцо...— Дай, Моцечка, шпілек!

І дзеці тычуць анучы, Моцька дае шпільку. Але гэта ў першы раз толькі гэтак. У першы раз могуць ашукаць дзеці Моцьку.

Адным словам, калі Моцька ад'едзецца і выпадкова пачне ўтаптываць анучы... толькі тады ён заўважыць, што дзеці напхалі яму крамных ануч. Крамныя анучы вельмі дрэнна збываюцца.

Моцьку клопат патрэбен, каб збыць крамныя анучы. Не без таго, ён таксама абкруціць іх стусам зрэбных і збудзе. Не без таго. Але затое потым ужо дзеці нізавошта не ашукаюць Моцьку, не пажывяцца.

Па адной кожную перабярэ Моцька анучы, пакуль класці іх на воз.

## IV

Колькі гора, колькі клопату!

Моцька ў вялікім няшчасці. Плача малая Сара. Расплакаўся таксама і Шлёмка. Элька супакойвае дзяцей. Але ж усё роўна. Цэлы вэрхал усё роўна ў Моцькавай хаце.

— Дзесятка не маеш права, карабка аднаго, не маеш права, адной сярнічкі — не толькі што — не маеш права.— Гэтак крычыць на Моцьку валасны старшыня Гарбуз.

Гарбуз — гэта які жыве за дзве вярсты ад Моцькі,

на хутары. Які трэці год старшынёю ў Падгацкай воласці. Ён цяпер прыехаў да Моцькі ў хату і крычыць на яго на чым свет стаіць.

Моцька, не маючы на запалкі патэнта, учора, ездзячы, збіраючы анучы, вазіў запалкі з сабою. Ён знячэўку накінуў на кусок мыла падгацкай Тэклі,— накінуў адзін карабок за конскі хвост. Вось за гэтым і прыехаў Гарбуз да Моцькі.

— Сто рублёў штрафу альбо месяц астрогу,— з кулакамі кідаецца Гарбуз.— Разумееш, Моцька, што такое астрог? — тыцкае ён чуць не ў Моцькаў нос.— Разумееш?!

І Моцька зусім разумее.

— Элька! — моргае ён на жонку.— Элька!

І тая здагадваецца, падыходзіць да камоды. Яна адчыняе яе і нібыта порацца, чагось шукае ў ёй. Гарбуз гэтага не заўважае. Ён не заўважае, але толькі садзіцца за стол і больш мякчэйшым тонам кажа:

— Так, так — ста рублямі пахне. Н-галяцеў, Моцечка,— расхінае ён кніжку ў чорных абкладках, як ні ў чым не бывала.— Н-наскочыў,— перагортвае ён літкі кніжкі, збіраецца апісваць Моцькаву камоду, лямпу, гадзіннік і нават перапелістую падушку.— Н-наскочыў!

Але праходзіць некалькі хвілін, і Моцька, стоячы пасярод хаты, блытаецца пальцамі ў сваёй барадзе. Элька цяпер стаіць каля стала. У хаце ціха цераз некалькі хвілін. Дзеці, Сара і Шлёмка, не плачуць, а супакоіліся і глядзяць на рыжы твар Гарбуза. Зусім ціха ў хаце. Толькі і чуваць, як брынкоча на шыбе тоўстая першая веснавая муха, ды Гарбуз здзімае-сёрбае з іспадка каламутную каву.

Вось яно сённяшняе Моцькава гора. Ой, якое вялікае няшчасце! Да чаго ўжо ўеўся ў Моцькавы косці гэты Гарбуз.

— Няхай бы яны праз бок вылезлі, ці што,— кажа Моцька тады, як Гарбуз мінае яго карчму.— Вобмагам каб вылезлі.

— А ўсё цераз Тэклю,— злуе Моцька, ходзячы то ўзад, то ўперад па хаце.— «Накінь, накінь,— дражніць Моцька Тэклю.— Мо-о-тачка, накінь карабок запалак...» Вось каб цябе вопрамеццю...

Вось табе і Мо-о-тачка.

І Элька пачынае разважваць свайго Моцьку:

— Едзь заўтра... Цяпер вясна... Акрэпімся... Акрэпнем сяк-так... Ці не праўда, Моцька? — звяртаецца Элька.— А ўсё ж такі ён не вельмі зайздросны: на пяці рублях згадзіўся. Ці не праўда?

— На пяці, на пяці,— пяць яму штыхаватых,— выходзіць Моцька з хаты, бразгаючы моцна дзвярыма.

Гаспадарка ёсць у Моцькі: карова, той самы белы конь і адна сівая авечка.

Моцькава карова вельмі брыкаецца. Колькі набярэцца Элька клопату, пакуль падоіць карову.

— Стой, Пралеска, стой,— перш просіць Элька карову, а потым, як выйдзе з цярплівасці, б'е яе па кумпяках дручком і таксама толькі не просіць, а крычыць: — Стой, стой, воўчае мяса.

Моцька некалькі разоў збіраўся, каб прадаць Праляску, але за яе малако з густам, як кажа Моцька,— ён не можа рашыцца на продаж.

— Хіба ўжо ўвосень,— адкладвае ад вясны да восені, а там ад восені да вясны.— Хіба ўжо...

А карова як брыкалася, так і брыкаецца. Як абірала дручком Элька каровіны лапаткі, так і абірае. Вось што значыць малако з густам.

У Моцькі — у яго гаспадарку ўваходзіць града агароду. Праўда, Элька загадвае гэтаю градою: агуркі на ёй садзіць. Але ж усё роўна града лічыцца па спіску за Моцькам. Арэнду пану Зыгманту носіць Моцька, а не Элька.

Абое яны вельмі любяць гэтую граду. Полюць удваіх. Агуркі выбіраюць.

— Ой, каб яшчэ хоць адну гэтакую граду,— часта мараць Моцька з Элькаю.— Прадаваць можна было б агуркі. Хлеб можна было б купляць за агуркі.

## V

Кожны вечар, няма таго вечара, каб не збіраліся да Моцькі. Крывалукаўцы прыходзяць пачуць навіны ў Моцькі. Падгацкаўцы прыходзяць... А то падарожныя начуюць. Кожны вечар стаіць гоман у Моцькавай хаце. Дыму круціцца, хоць ты сякеру вешай. Гэта ад люлек, ад папярос. Не ад куплёных папярос — ад сваіх, уласных, якія закручаны ў кніжную грубую паперу.

— Калі я не пабуду адзін вечар у Моцькі,— гэтак

пачынае падгацкі Янук,— дык нібы рупіць штось, дрэнчыць на сэрцы.

І Моцька рад сваім суседзям.

У гэтыя вечары доўга заседжваецца Моцькава, як кажуць, хеўра.

— Дык раскажы, Моцька, што-небудзь,— звяртаецца хто-небудзь з хеўры,— раскажы!

І Моцька пачынае. Ён не будзе далёка лазіць, вышукваць факты. З свайго жыцця мае столькі фактаў, што іх хопіць на кожны вечар. Абы слухалі.

— Я быў тады хлапчуком,— кажа Моцька.— Порсткім хлапчуком, гадоў адзінаццаць мне было. Аднойчы гэта было. Цэлы дзень мы з бацькам збіралі галлё. Зыгман даў права назбіраць сухога ламачча. Бацька яму за гэта боты пашыў.

Сутоньвалася, калі я ехаў дадому. Вёз воз сукоў. Бацька пайшоў нацянькі, і я ехаў адзін. Прамінуў ужо, як раптам заўважыў: пуга. Так яно і ёсць, пуга. Я саскочыў з воза і падняў хоць і схвостаную, але з досыць добраю стусінаю пугу.

І Моцька расказвае, а суседзі слухаюць. Яны зрэдку аддзімаюць, студзяць гарачы, засалоджаны сахарынаю, чай, а пастудзіўшы, асцярожна датыкаюцца, мачаюць кончыкі сваіх вусоў — п'юць, смакуюць, ахкаюць.

— Што-што, а стусіна вельмі добрая была,— кажа Моцька, адхлябнуўшы з кубка,— дубовая стусіна.

І ён расказвае ўсё па парадку. Моцька ніводнага слова не прапусціць. Моцька чалавек гэтакі. А здарэнне з Моцькаваю знаходкаю — з пугаю — скончылася зусім нечаканым вынікам. Пугу, як потым выявілася, згубіў местачковы ўраднік Іларывон.

— Злодзей! Абармот! Валацуга! Аддавай пугу! — гэтак заявіў Моцьку Іларывон, калі даведаўся і прыехаў за пугаю.

Бацька таксама казаў: «Аддай, Моцечка, аддай пану стусіну». Але Моцька закардыячыўся. Гэтакі ўжо ён быў у дзяцінстве.

Калі людзі краталі яго пачуццё — ён тады забываўся.

— Н-не аддам я пугі! — так адказаў дзіцячы розум, крышачы стусіну на дробныя цурачкі перад Іларывонам.— Не аддам!

І тады падаў Іларывон у суд. І Моцькаў бацька заплаціў рубель судовых страт ды паўрубель за пугу.

— Прайшла хвіліна,— кажа Моцька,— не вернеш. Другая займае яе месца. Адным словам, учарашняя субота,— кажа ён да Элькі,— не вернецца. Як ні круці, а такой раніцы з туманам альбо такога захаду сонца — не будзе. У наступную суботу ў момант захаду на сонцы не з'явіцца палоска хмары,— тая палоска, якая ў гэтую суботу падпеpазала сонца. Нізашто не з'явіцца.

І Элька радуецца за Моцькаў розум.

— Мой Моцька,— кажа яна да Талляшовай Макрыны,— мой Моцька, мая суседка,— давеку, каб гэтакія людзі. Мне не патрэбна за маім Моцькам варочаць мазгамі. Розум! Вось хто мой Моцька.

А Моцька тым часам зусім упэўнен у сваім розуме. Ён як мае быць упэўнен цяпер, што ануч ужо вазіць не будзе. Так, не будзе.

— Каапepатывы няхай цырымоняцца з імі, з анучамі,— кажа Моцька.— Каапepатывы няхай, а не я. Яны, можна сказаць, на гэта зроблены. Вось як.

А каб даказаць гэтую цырымонію на факце, каб спагнаць на анучах сваю злосць, Моцька вытрасае, дастае з усіх куткоў — ды так, што ніводная не захаваецца ад яго вока. Знячэўку Моцька нават заграбае Эльчыны падношаныя зрэбныя панчохі і ўсё гэта, стахторыўшы ў адзін стус, вязе да навадворкаўскага каапepатыва.

— Вось яны,— кідае ён з нейкаю аблегчанаю адвагаю ў куток.— Паважцe, ягамосць крамар, ды цукарку там... за гэтае «дабро».

Не без таго: назаўтра Элька трошкі кляне Моцьку. Яна здагадваецца, што панчохі яе паехалі і не вярнуліся разам з непатрэбнымі трантамі. Яна трошкі сварыцца. Але якая там сварка! Для Моцькі гэткая сварка — смех.

Як пугаю па вадзе, гэтакая сварка для Моцькі. Абы злосць была спагнана на анучах. Вось што галоўнае для яго цяперашняй натуры.

— Ну, то не вярнуцца ж... пакінь буркаць,— супакойвае ён Эльку.— Новыя куплю, крамныя. У пяту будзе мякка. Пакінь.

І Элька налівае Моцьку шклянку салодкага малака.

Чаму цяпер Моцька ануч не збірае? Што і якператварыла яго натуру?

— Свет другі пайшоў,— адкажа Моцька на няхіт-

рыя пытанні.— Анучы збіраць — нэндзу збіраць. Вось так і чэрпаць яе, нэндзу, поўнымі прыгаршчамі. Другі, зусім другі свет. Шпарчэйшае жыццё пайшло. Вось як!

І Моцька звычайна расказвае цяпер суседзям па пасёлку, як гэта ўтварыўся другі свет.

— Не агледзеўся, браткі! — пачынае так, як і некалі ў карчме, але толькі з большаю астаноўкаю, з больш завостранымі, абкругленымі словамі.— Учора, здаецца, было. Сон быў. Вось як. Не верыцца часамі. Учора, здаецца, вазіў, збіраў анучы. Учора Элька поркалася над адной градою... Іларывон... Зыгман... Гарбуз...— учора былі. Ды ці мала што было! Ведаю толькі тое, што камарамі дзвынкалі ўчора незразумелыя гукі. А там пажары, крыкі, енкі... усё гэта было ўчора. Нібы сон: было і прайшло. Прайшло і не вернецца... Як і пасак той, што падпяразваў заход у мінулую суботу. Нізашто не вернецца.

Гэтак разумее, гэтак адкажа цяпер Моцька на пытанне аб другім свеце, аб другім жыцці.

Дык будзьце ж ласкавы, калі будзеце ў тым баку, дзе жыве Моцька,— будзьце так уважлівы — заходзьце.

Ніколі не адмовіцца Моцька прыняць вас. З ахвотаю будзе расказваць пра сваё жыццё. Новае будзе апавядаць здарэнне. Цяпер іх куды шмат больш знойдзецца. Моцька будзе апавядаць цяпер не пра пугу, а пра будыніну.

Ну, дык не забывайцеся!..

Моцька чалавек гэтакі...

Ён можа і закрыўдаваць, калі даведаецца, што вы, ды яшчэ, можа, яго стары знаёмы, абышлі Моцьку.

Заходзьце, а то, яй-права, закрыўдуе.

*1928*

# БОТЫ

I

Боты...

Звычайнага чорнага крою боты. Гамбургскія перады. Платавыя халявы. На высокіх абцасах. Насы-гулы. Крыху запэцканая падэшва. Нібы толькі што знятыя з капыла. І от нібы ад прымеркі гэтае «запэцканае».

Адным словам, з ботамі майго дзядзькі Тадэвуша вялікае няшчасце. Можна сказаць, цэлае гістарычнае здарэнне ўтварылася.

— Я скора высахну ў шчэпку, у арэх! Яны мне, жывому, дамавіну зробяць!

Аж рукамі ўсплёсквае мой дзядзька.

Аж валасы рве на сваёй галаве.

А няшчасце альбо гістарычнае здарэнне не звяртаецца назад. Хоць ты ўсе валасы з галавы павыцягвай. Хоць ты размудрыся сабе ды галавою ў ваду плёхніся,— нізашто не звяртаецца.

Але хіба можа зразумець мой дзядзька аб тым, што здарылася з яго ботамі? Хіба ён можа разумець, што яно, гэтае здарылася, не звяртаецца? Хіба ён можа, калі перад вачыма як на далоні ўсё роўна распластаўся факт, ды такі факт, які, можна сказаць, за самае нутро, за самы кончык сэрца жме, жме, як абцугамі шчыпле? Не, дзядзька Тадэвуш не можа зразумець!

— Боты! Такія-то боты! Гамбургскія перады! Оо-гго!

От што разумее, от што бачыць цяпер перад сабою мой дзядзька.

Па-першае, хто такі мой дзядзька? Колькі яму гадоў? Які ў яго характар? Якая ў яго сям'я? І якім чынам ён прыходзіцца мне дзядзькам?

Каб адказаць на закранутыя запытанні, я прымушан падысці да майго дзядзькі вельмі асцярожна.

Чаму іменна асцярожна? А таму, што мой дзядзька хварэе катарам трыбуха (жалудка). Гэтая хвароба ў яго не з малых дзён. Яна пасялілася, як ён стаў самастойным гаспадаром.

Дзядзька кажа, што яна ў яго ад людской пераяды. Гэта значыць, людзі ніколі не даюць дзядзьку спакою.

Інначай кажучы, людзі зайздросцяць майму дзядзьку. Глядзяць на яго жыццё ды зайздросцяць.

— Оо-гго! Але ж, але! — гэта прыказкі майго дзядзькі. Першую прыказку найболей дзядзька ставіць у пачатку свайго сказа. Апошняю — ён падмацоўвае гэты сказ.

Дык от:

— Оо-гго! Гэтыя людзі... яны от не бачаць, як я мучуся. Але ж, але — не бачаць!

А мука майго дзядзькі вельмі простая. І яе, можна сказаць, людзі век не пабачаць.

— Каб іх папераядаў чэмер! Каб іх папранізвала стрыхліна! Але ж, але — стрыхліна!

Гэтак кляне людзей мой дзядзька. За тое кляне, што яны (людзі) бачаць, як яно прыйшло, і зусім не бачаць, як яно выйшла.

Цяпер от сядзіць за сталом, абедае ды кляне.

Калі дзядзька кажа прыйшло, дык ён пад гэтым «прыйшло» разумее прыбытак у яго гаспадарцы. Гэта за цэлы год дзядзька сабраў пяць з паловаю пудоў каровінага масла. Ён сабраў дзвесце трыццаць адну капу яек. Сабраў трыста адзінаццаць сыроў.

Гэта за цэлы год.

Мой дзядзька не любіць цыркаць — прадаваць па адной штучцы. Па-другое, у кожны час года — свая цана.

І мой дзядзька... ён мог бы заўсёды датрымаць свой тавар да гэтае цаны.

Але от цяпер...

— Оо-гго! Столькі-то дабра. Боскага, такога-то дабра зглумлена. Але ж, але — зглумлена!

Гэтак, цяпер абедаючы, кажа мой дзядзька. А справа от у чым: усё назбіранае за цэлы год, можна сказаць, згніло. Збуцвела, адным словам, не дачакаўшыся лепшай цаны.

З дзвесце трыццаці аднае капы яек толькі паўтары капы за тры дні адабраў Мордух. (Гэты, што краму трымае, дробным гандлем займаецца.) З пяці з паловаю пудоў масла — паўпуда адкупіў Мордух.

Пяць пудоў такога-то каровінага масла як за плот.

Але хіба можна «боскі» дар за плот выкідаць? І от мой дзядзька цяпер... мучыцца, седзячы за абедам. Ён ніяк не можа праглынуць дашчэнту з'елклага, стухлага масла. А яйкі?!

— Каб іх нэндза гэтак ела, гэтых людзей! Каб яны вытарашчылі свае вочы на самы лоб! Але ж, але — на самы лоб.

От чаму перaядаюць людзі дзядзькава сэрца. От чаму не бачаць яны, гэтыя людзі, як «яно» выходзіць.

І галоўнае, праз такіх-то катар дзядзькавага трыбуха выходзіць.

Дык от за гэтым я і павінен ужо падысці асцярожна да пытанняў аб маім дзядзьку.

Адным словам, каб не ўкволіць дзядзькавага хворага месца.

Майму дзядзьку Тадэвушу каля сарака гадоў. І каб сказаць, што ён не служыў у вайсковыя часы,— дык нельга.

Нягледзячы на катар, служыў дзядзька.

— Оо-го! Хто гэта ні выслужваўся вайсковым часам. Я на што ўжо хворы чалавек, а от давялося. Ад самых пакроў ды да самага Пятра пратарабаніў. Але ж, але — пратарабаніў!

І калі разглядаць, у якія вайсковыя дні і ў якасці каго давялося пратарабаніць гэтую службу майму дзядзьку, дык от што можна ўстанавіць з яго гутаркі.

— ...Такі-то ваенны час! Палякі толькі г-гыых па вёсцы: «Хто солтыс! Коней солтыс!» Оо-го — гэтая служба. За ёю, за гэтаю службаю, зямля мая была ў свой час не дагледжана. Але ж, але — не дагледжана.

От што можна ўстанавіць.

Цяпер мой дзядзька жыве на адной валоцы гэтай зямлі. (Гэта на дваццаці дзесяцінах...) У яго не так-то даўно паўвалоку адрэзалі, ці, як кажа мой дзядзька, адцялі.

— Каб ім галовы, мае дзеткі (гэта да мяне кажа дзядзька, гэта на тых, кажа, хто адрэзаў), каб ім галовы паадцінала, як яны адцялі такі-то кусішча. Без хлеба мяне з сям'ёю пакінулі. Але ж, але — пакінулі.

А сям'я майго дзядзькі складаецца з яго самога, з яго жонкі Хадоры — траюраднай сястры майго бацькі,— ад чаго дзядзька Тадэвуш і прыходзіцца мне дзядзькам, з яго адзінаццацігадовага сына Габруся і з парабка Амялляна.

Амяллян служыць у дзядзькі Тадэвуша адзінаццаты год. Дзядзька годзіць яго не то што на год, а залпам.

— Што там гэты год, мой мілы Амяллянка,— кажа мой дзядзька,— як кажу: зіма — лета, от табе і год. Оо-гго — гэты год. От ужо, мой мілы Амяллянка, нечага захад адзін: от кажы, колькі ты захочаш разам за тры гады. Яно ўжо і бог тройцу любіць. Але ж, але — любіць.

І Амяллян кажа:

— Паўтараста трэба за тры гады. Дый боты, каб з хромавымі халявамі...

Але мой дзядзька... збівае на дзевяноста дзевяць рублёў з палавінаю.

— От ужо хто яго, мой мілы Амяллянка, аб паўрублю хадзіў.

— Не, няхай роўна круглая сотня,— упіраецца Амяллян.

— Ды ці хіба ж ты, мой мілы Амяллянка, лічбіне прысягнуў? — сарамаціць мой дзядзька яго. Яно ж у лішку ды ў палавіну і ў жыцці лепш павязе. Але ж, але — павязе.

І ў Амялляна няцвёрдая натура. Ён паддаецца: ідзе на дзядзькаву прапанову.

А Амяллянавы грошы, за тры тройцы гадоў, ну куды іх? — на пакладжы ў майго дзядзькі. Чацвёртую «боскую» тройцу заслужвае Амяллян, ніводнай капейкі яшчэ не атрымаў ад майго дзядзькі.

Збірае Амяллян, усё ў пакладжу збірае.

— Не ўсе дома ў Амялляна,— спатайка кажа мне, і толькі мне, мой дзядзька. Але ж, але — не ўсе.

І дзядзька круціць над сваім ілбом паветраныя абаранкі.

Дык от я ўжо і падышоў якраз да няшчасця альбо да гістарычнага здарэння з дзядзькавымі ботамі.

II

Мой дзядзька любіць акуратнасць. Ён не то што кінуў-рынуў. Ён чалавек, які любіць, каб табе рэчы на сваім месцы ляжалі.

На куце стаялі боты. Пад самымі абразамі на лаве.

Яшчэ як хлапцом быў мой дзядзька, як да свайго вяселля шыў, дык от з таго часу занялі боты на куце гэтае сваё месца.

Суседзі-аднавяскоўцы, прыходзячы да майго дзядзькі, часамі браліся за насы, каб утрымацца ад рогату — міргалі адзін на другога, паказваючы на боты. Але гэта

найбольш з тых, як называе цяпер мой дзядзька, з малакасосаў.

Дзядзька Тадэвуш браў тады боты з кута і, не зважаючы на «малакасосавы» насмешкі, паказваў боты. Яны разглядалі прыстрочку, мацалі насы-гулы, глядзелі ў сярэдзіну халявы, слінілі падэшву, стукалі па ёй шчыкаләткамі пальцаў і толькі тады ўжо казалі:

— Эх-х, боты! Вельмі ўжо перады мясістыя. А падэшва, а падэшва, брат, як камень,— вечная. Работа, ыы-хх работа: чы-ы-стая, мо-оцная.

А мой дзядзька пад гэта:

— Оо-гго! Я ж кажу: усё адно да другога падагнана. І так шчыгульна. Але ж, але — шчыгульна. Па-ас-таў жа іх, нябож, ды прыкрый анучынаю,— пасля агляду загадваў мой дзядзька жонцы Хадоры, якая сядзела за сталом, нешта шыла.

І боты стаўляліся. Яны завешваліся адмысловымі чыстымі анучамі з кужэльнай старызны. Адным словам, праходзіў год, другі, пяты... Боты паказваліся таму, хто яшчэ не бачыў, ды ізноў стаўляліся нібы на вечную варту «святых» абразоў.

Не без таго, бывалі дні, калі дзядзька Тадэвуш абуваў свае боты. Але бывала гэта толькі ў самыя ўрачыстыя дні: на каляды, на вялікдзень, на сёмуху, часамі, не болей.

Тады мой дзядзька загадваў Амялляну запрагчы каня і пад'ехаць да ганка. А дзядзька, абуўшыся ўжо ў боты, выходзіў дый садзіўся на каламажку проста з ганка. Ён тады ехаў да царквы і не далей. У госці дзядзька Тадэвуш ехаў — хай яны будуць залатыя, гэтыя госці — у новых лапцях. Яны адмысловыя, на дванаццаць вушак.

— Оо-гго! У гасцях — гэта не ў царкве. Там табе (у царкве) ніхто на боты не ўзаб'ецца; там табе такі-то прасторышча. Але ж, але— прасторышча.

Але час ішоў. Наступіў адзінаццаты год дзядзькавым ботам. Яго сыну Габрусю таксама пайшоў адзінаццаты.

Шмат, адным словам, утварылася змен. Амяллян даслужваў чацвёртую тройцу. Дзядзька Тадэвуш пастарэў неяк. І от аднойчы...

— Оо-гго! Але ж, але.

Успляснуў дзядзька Тадэвуш рукамі аднойчы адною раніцаю.

Перад нядзеляю гэта было. Мой дзядзька лёг на адпачынак. Хоць заўтра на працу і не трэба спяшацца, але от лёг. Што пажылому чалавеку: гульня ці якое ліха патрэбна? Дык лёг сабе гэтак дый заснуў. Цётка, дзядзькава жонка Хадора, таксама заснула.

Адным словам, не спалі Габрусь ды Амяллян. Амяллян на двор нечага выйшаў. Мала чаго чалавек выйшаў.

Дык от тады, калі Габрусь толькі адзін застаўся...

— Такія-то боты! Гамбургскія перады. Валацуга, гультай, абібок...

Гэтак раніцаю ляскаў мой дзядзька ў далоні.

От што тады.

Адным словам, калі ўчора ўвечары ніхто не мог бачыць, тады Габрусь абуў боты дый — ш-шасць на вечарынку. А яна, гэтая вечарынка, тут жа пад бокам, у Марцінавых была. А на вечарынцы яго таварышы, Аніська з Лукашыкам, такога-то раскамарыцкага выбівалі. Хіба мог уцярпець Габрусь?

І от пасля таго, як ён, Габрусь, не мог цярпець:

— Такія-то боты! Гамбургскія перады.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але ж, але — адсталі ад падэшвы, выскалілі зубы.

Адным словам, збуцвелі за адзінаццаць год. Дык от якое няшчасце, можна сказаць, гістарычнае здарэнне ўтварылася з ботамі майго дзядзькі.

*в. Рудкова, 25.VI.1928 г.*

## НАЧНЫЯ ЦЕНІ

Ноч...

Цені...

Ціха і мякка крадуцца цені. Нібы на кончыках пальцаў падымаюцца, ува ўсю веліч выцягваюцца, хочуць заглянуць аж за ўзгорак, у невядомую далячынь.

Тады ў чалавека ёсць імкненні — нацягнутыя струны.

Тады ў чалавека ёсць мэта — пункт у канцы гэтых струн.

Цені нячутна дакранаюцца голымі пальцамі да вострага шкла распасцёртай ночы...

Цені крадуцца і не зважаюць, што ў іх фальшывая мэта, што яны даходзяць да рашучасці.

А гэта тое, што можа быць з найгоршага. Бо ў напружаны момант, пэнкне струна і... засмяецца ноч.

А скакун, што ўтварае начны цень, не дакончыўшы апошняга «па», засаромеецца перад сваімі імкненнямі. І гэта самае з горшага...

Лепшае — у час сказаць музыканту: «Даволі! Вельмі ўдзячны!» Гэта адно з лепшага.

Ноч тады будзе маўчаць.

Цені крадуцца... Пішчаніцаю лезуць... З тысячы закануркаў цёмнай ночы вытыркаюцца...

Яны імкнуцца да пункта, у якім аздабляецца, сваім хараством вабіць мэта.

Калі чалавек імкнецца да мэты, створанай з неіснуючых на тое правоў...

Тады ён робіць над сабою самагубства. Ён не хоча праверыць створанай сваім прымусам фальшывай мэты.

І зноў будзе смяяцца ноч.

Чалавек не глядзіць сабе пад ногі. А цені ўсё больш ды больш выцягваюцца. Чалавек забываецца, што шкло да крыві папраразала голыя пальцы... Цені глядзяць аж у самы жаданы пункт — туды, дзе аздобіцца мэта.

Чалавек не бачыць, што застаўся адзін крок і... адыдзецца ён — паляціць у бяздонне...

Абарвецца струна імкненняў.

Чалавек не адчувае, што яму стане сорамна перад фактамі свайго існавання.

...Нават на глыбокім дне пустой процьмы стане саромна.

А гэта і ёсць тое, што не сказаць у час музыканту: «Даволі! Вельмі ўдзячны!»

I

Вясенняя ноч. Кароткая, але мяккая ноч. Плюшавая. Яна лагодна ахіляла натапыраныя, крохкія кляны. Спавівала іх сваім каморачным змрокам.

А жукі і хрушчы спявалі песню.

Ціха было гэтаю ноччу, каб не жукі, але цёмна. Як

пальцам у вока — цёмна. Яно гэтак у звычаі. Ноч першых дзён вясны заўсёды цёмная. Гэта пакуль прывыкнуць чалавечыя вочы: ад белага снегу да талай чорнай зямлі.

Дык хто ж мог бы згадзіцца — угледзіцца ў гэтую ноч і так, каб убачыць? Хто мог бы наскрозь бачыць гушчар лесу? Хто?

Усё ў свае транты закутвала ноч. Захоплівала яна сваім ахапкам, спавівала і адносіла некуды далёка, аж у лясныя нетры.

А там цяпер страшна было.

Сава, як малы пястун, на ўвесь лес крычала нема. Часамі суччо патрэсквала — бы ішоў хтось. А то чуцьчуць верхавіна хвоі шумела. Чамусьці раптоўна прачыналася дый шумела. Страшна было.

Але гэты страх мог трывожыць чалавечыя пачуцці толькі тады, калі ў чалавека не было клопату. Ён мог парушыць спакой чалавека ў тым выпадку, калі яго, гэтага страху, не выціскала нешта другое, больш важнае, чымся ён сам. І калі гэтае важнае, чалавечае, даходзіла да апошняга пункта, плячыма ўпіралася ў яго, тады павінна было пачацца нешта другое. І гэтае «другое» называлася «не баяцца нанава». Чалавек толькі ў гэтым гушчары, у гэткую цёмную ноч адчуваў сябе ўсё роўна як дома, на старой печы.

Нудна неяк маўчала старая хвоя. Ці яна, можа, жалілася, што пастушкі-падшывальцы выпалілі дупло ў яе прысадзістым пні, ці яна мо пагодаю была нездаволена: бо хмары во-во навісалі на яе верхавіну. Нудна маўчала. Шамацела папяроснаю карою.

І не заўважыла нават старая хвоя, як зусім смелымі крокамі падыходзіў чалавек.

— Хто гэта ён, гэты чалавек? Чаго яму тут трэба? Нашто парушыў ён мой супакой?

Нібы схамянулася старая хвоя, чуць-чуць захісталася яе верхавіна.

А ён, у ватавым паліто, падношаным крыху, прысеў пад яе выпаленым дуплом дый маўчаў.

Ён, седзячы цяпер моўчкі, разважаў, па яго вуснах бегала нейкая нібы дзяцінная радасць.

— Мала прайшоў, але самае важнае.

Яму было вельмі лёгка, што ён прайшоў гэтае важнае. Яго цела таміла нейкая асалода, млявасць. І ён на момант зажмурыўся.

— Усё роўна,— пачаў разважаць далей,— цёмна ж усё роўна.

Дык нашто ж дарэмна глядзець у цемру ночы? Нашто псаваць дарэмна зірк?

— Усё роўна! — мацней яшчэ сціснуў ліпкія абячэйкі вачэй.

Ён адзін момант быў без думак.

Недзе недалёка залапатала санлівая варона. Сук трэснуў з-пад яе і паляцеў далоў, барабанячы па галлі.

— Змарыўся... зноў парушыў свае думкі,— колькі таго ходу, а як змарыўся...— пачаў вобмацкам агледацца наўкола.— Раніцаю разгледжу... падрыхтую дарогу для наступнага вечара...— плылі ў яго думкі адна за другою.— Там лягчэй будзе.

Чым далей ад мяжы, тым лягчэй...

— Гу-ых! Якая цемра,— расчыніў вочы на момант.— Добра ў гэткую ноч! Два крокі, а не відаць прадмета.

Ён абмацаў на карэннях месца, каб палажыць галаву.

— Я гатоў цалаваць ноч. За тое, што яна слепіць усё і аднімае раўнамерную частку сіл у аднаго і аддае яе другому. Ці як гэта? Не сілы, а нечага такога, што называецца змораю. І, галоўнае, раўнамерна распрадзяляе: дае таму, хто павінен рабіць нешта, адымае ад таго, хто павінен забараняць гэту работу... Так. Я, здаецца, драмлю, і мне абы-што пачынае вярзціся...

Ён прыхіліўся да старой хвоі, палажыў на яе карэннях галаву і падкурчыў ногі.

Недзе недалёка, у гаі, свіснуў салавей. Салавей яшчэ і яшчэ раз свіснуў, потым памаўчаў і, нібы ноч хацеў разагнаць рознымі ладамі песні, на ўвесь лес пачаў пераліваццa.

Пачынала зарэць. За пяць вёрст, мусіць, пачуўся стрэл.

— Гэта з памежнікаў нехта... Мала што магло выклікаць стрэл...— падумаў ён скрозь усмешку, скрозь сон.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Дазволь! Мезены пальчык, толькі мезены! Панна Адольфа, дазволь!

— Кроцік ты, кроцік мой! Юлік, ты от так якраз, як крот тышчыцца пад зямлёю... так і ты. Ну, на табе

мой пальчык. Цалуй жа яго, мой хлопчык, колькі хочаш...

Дзве скрыпкі з акампанементам піяніна граюць мазурку. Яны зусім захлёбваюцца: глушаць залю старога пана Вярцінскага. Музыка чуць-чуць сюды даносіцца. Падзямельным рэхам чуваць яе далікатныя акорды. Таму так чуваць, што цераз шэраг пакояў.

А яны сядзяць. Юлік зусім аддаўся ў абладанне яго каханай. Ён прыхіліўся, скурчыўся на плюшавым дыване, каля яе крэсла. Ён палажыў галаву на яе калені... І яна песціць яго валасы; часамі гладзіць адною рукою па яго каструбаватых, вышытых срэбраным дротам, афіцэрскіх наплечніках. Яны, як ніхто ў свеце, шчаслівыя.

— Ці памятаеш ты,— перарывае асалоду шчасця Юлік,— ці памятаеш ты першую нашу сустрэчу? Ці адчувала ты тады нешта такое, што ўвесь час шчыпле сэрца — надае яму ў некалькі раз болей, байчэйшага руху?

Ён падымае галаву з яе каленяў:

— Ці памятаеш ты наша дзяцінства?

І яна ружаю ўсміхаецца, абдае яго твар жывым і п'яным пахам: глядзіць яму ў вочы, маўчыць.

— Адольфа! — прыхіляецца ён шчыльней да яе цёплых каленяў.— Адольфа, ці памятаеш ты, як мы беглі ў садзе каля фантана «Вялікай вужакі»? Ці памятаеш ты, каханая мая Адольфа? Гэта было ў той год, калі я скончыў гімназію. Гэта было, калі мы з маім бацькам заехалі ў маёнтак пана Альбінскага, заехалі да твайго бацькі... Панна Адольфа!..

Музыка нібы прыціхла. У суседнім пакоі нешта шамечацца. Але яны не зважаюць, не чуюць абрыдлых гукаў.

— Так, я памятаю, мой хлопчык! Памятаю,— зноў песцячы яго доўгія, белыя як лён, валасы, кажа Адольфа.

— Ты мяне тады падняў, калі я, хаваючыся ад цябе, паваліласся, заблытаўшыся маім адзеннем за куст півоні.

— Усё тое памятаю...

— А можа, не патрэбна ўспамінаць? — хоча падняцца яна з крэсла: аблакочваецца на тоўстыя качалкі, якія абшыты плюшам валавянага колеру.

— А можа, не трэба...

— Адольфа...— сутрымлівае ён яе імклівасць,— я ж заўтра ад'язджаю ў полк...

І ён глядзіць ёй проста ў вочы. Яна разумее яго. Яна без усялякага абладання над сабою, млява аддаецца ў яго распараджэнне.

Яшчэ — чуць не зусім змаўкае музыка.

І ім цяпер здаецца, што яны з аднаго кубка п'юць асалоду шчасця.

— Сёння, у вечар майго ад'езду ў полк,— шэпчуць яго вусны,— мы павінны быць найшчаслівейшыя з табою. Наша шчасце падзеляць нашы бацькі. Мы ў іх — адзіныя... Панна Адольфа...

І яна плюшчыць вочы. Чуць бачыць яна проста на акне нацягнутую, абвіслую цёмную фіранку.

А ён яшчэ большую адчувае цеплыню, якая разыходзіцца, млявіць гультайскае на гэты раз цела.

— Юлік...— шэпчуць вусны міжвольна.

— Адольфа...— замірае, абрываецца сказ: зліваецца ў нешта адзінае, але не мяккае,— калючае...

І ён падымае галаву.

Сонца веснавой раніцы свеціць ва ўсім харастве. Яно зусім прыпякае. У бок, у плечы, у твар — свеціць сонца. Для яго ўсё роўна. Яно не разбірае куды — не знаходзіць розніцы ў фактах, у палажэннях.

— Ах! — вырываецца з яго вуснаў.— Які сон! Усё маё дзяцінства, юнацтва...

Недзе далёка-далёка, ад старой хвоі, затрубіў пастух.

— Адольфа... Хутчэй бы, хутчэй сустрэцца... дапамагчы... за спалены маёнтак, за яе загінуўшага бацьку... Які прыемны сон пройдзенага... Ах!

Пастух, мусіць, адвярнуўся з процілеглага боку, бо труба цяпер ярчэй падае гукі: не мог жа ён так хутка прыблізіцца да старой хвоі. Дробным шротам рассыпаецца трубнае рэха.

І ён падымаецца з зямлі. Ён бярэ ў рукі сукаватую палку. Чалавечая цень на паўтара крока, але ён не звяртае ўвагі на пару, на сваё начное распалажэнне.

Памаленьку патрэсквае пад яго камáшамі, ангельскай моды, дробнае галлё. Птушынае шчабятанне, яркае і бадзёрае, заглушае гэты трэск.

І каб пачуць цяпер трэск дробнага галля, дык для гэтага патрэбна вельмі добра і ўважліва прыслухацца.

## II

Сцепаніда Мацееўнаківае галавою. Яна сядзіць на балконе свайго ўласнага мураванага будынка, глядзіць у завулак, па якім праходзіць Соня, яе кватарантка, глядзіць дый ківае.

— От што значыць: хто ды ў што ўцягнецца. У кожнага сваё. Кожны мае гонар над гэтым «сваім»,— разважае гэтак Сцепаніда Мацееўна.— Але каб папытацца, от хоць бы і ў яе, чаго варта,— ну, паўгроша хоць ці варта,— гэта яе «сваё»? Каб папытацца: падцерці нос гэтым ганаровым асобам.

І Сцепаніда Мацееўна мацае парэнчу балкона — утварае ў сваёй галаве ўзапар дзве думкі. «Парэнча псуецца на дажджы»,— вынырнула гэтая другая думка і хоча цяпер выціснуць першую — «чаго варт чалавечы гонар». Але праходзіць хвіліна, і думкі ў галаве Сцепаніды Мацееўны схапіліся ў накрыжкі ды барукаюцца. А Сцепаніда, нібы воддаль толькі стаіць — назірае за імі: каторая каторую абсіліць. І от думка аб «чалавечым гонары» ў натуры Сцепаніды Мацееўны, мусіць, займала не апошняе месца: так што думка аб парэнчы пахіснулася, абнядужала, і «думка гонару» запанавала ва ўсім харастве.

— Ну, хто ж ты, хто? — пачала красавацъ думка. Глядзела зноў Сцепаніда Мацееўна на Соню, якая адыходзіла ўсё далей і далей, аж пад канец завулка.

— А колькі гэтаму будзе, як пасялілася яна ў мяне? Колькі? — уяўляе Сцепаніда Мацееўна, акінуўшы позіркам перш шыльду, на якой напісана: «Здесь заливаются стария галоши», а потым вераб'я, які вылецеў з-пад суседняга даху.

— Пасля гэтага вэрхалу пасялілася,— ківае яна галавою,— так: пасля вэрхалу.

Сцепаніда Мацееўна, гаспадыня мураванага двухпавярховага будынка, усе пераваропы ўлады (а яна іх налічвае некалькі) называе вэрхалам. Яна аніяк не можа адрозніць Кастрычніцкага перавароту ад Лютаўскага. Для яе гэта ўсё роўна. Яна толькі ведае адно: з кожным годам усё большаюць падаткі за яе будынак, за хлеў, што чатырнаццаць на дваццаць пяць, і за дом. Так што гэтыя перавароты для Сцепаніды Мацееўны нічога добрага не прынеслі.

— Яны вось тут, пад грудзьмі, пад самаю лыжач-

каю, каменем сядзяць, гэтыя пераварoты,— кажа Сцепаніда Мацееўна.— Яны, можна сказаць, кроў з мяне ўсю дасталі.

У камяніцы Сцепаніды Мацееўны жывуць кватаранты. Іх каля трыццаці чалавек. Большасць з іх — сямейныя. Дык яны — большая палова гэтых кватарантаў — плоцяць Сцепанідзе Мацееўне па таксе, што камхозам зацверджана.

І тады Сцепаніда Мацееўна:

— Каб яму ні дна ні пакрышкі, гэтаму камхозу. Каб яму скрозь зямлю, аж на той свет, праваліцца...

Кляне Сцепаніда Мацееўна. Яна кажа тады, што ў яе ад камхоза пасівелі валасы. Яна кажа, што гэтыя валасы цэлымі жмукамі вылазяць з яе галавы.

Але яна ўсё гэта кажа сцішка. Затым кажа, што яна не дурная: яна добра разумее, што такое «кам-хоз».

І калі цяпер Сцепаніда Мацееўна глядзела на Соню, якая ўжо схавалася з яе позірку,— накіравалася да гарадскога сквера,— дык от якую ўстанавіла пару:

— Пяты год таму назад: як пасялілася і жыве от гэтым паскудніцкім заработкам.— І, устанавіўшы, Сцепаніда Мацееўна дабавіла: — А яшчэ і фуфырыцца: што-то я. Мяне голаю пядзяю не мерай! Цьфу!

У першыя гады Сонінага кватаравання Сцепаніда Мацееўна не ведала, з якіх сродкаў жыве Соня. З чаго плаціць ёй за кватэру.

Ёй не было ніякага інтарэсу.

І толькі на другім годзе, аднойчы раніцаю Сцепаніда Мацееўна заўважыла: з пакоя, дзе жыла Соня, выйшаў мужчына.

— Ага! — здагадалася тады Сцепаніда Мацееўна.— Вось з чаго пражывае мая Сонечка, з чаго плаціць мне за кватэру. Ага!

Пасля гэтага выпадку Сцепаніда Мацееўна зусім прывыкла да нейчых там прыходаў-выхадаў. Яна не звяртала на іх жаднае ўвагі. Для яе было ўсё роўна.

Вось чаму ўсплыло цяпер пытанне аб Соні ў Сцепаніды Мацееўны. Вось чаму янаківала галавою, седзячы на балконе.

Тым часам пачынала змяркацца, але яшчэ не запальваліся гарадскія ліхтары.

Надвячорак быў яркі, як пасля дажджу. І от ад гэтага публікі ў гарадскім скверы было не так-то шмат.

Соня падышла да рагавой лаўкі на скверы. Яна села і, дастаўшы з рыдыкюля скрынку з папяросамі, пачала закурваць.

Курыла Соня не так, як кураць заядлыя курцы. Яна курыла ад таго, што перад яе жыццём склаўся нейкі супярэчны факт. І яна гэты факт толькі курэннем магла на момант адштурхоўваць — зацягваць, каб не прасвечваўся, пасмамі сіняга дыму.

— Усё скончана! — глядзела Соня міжвольна на адчыненую будку, з якой быў відаць чырвоны сіроп і тоўстая прадаўшчыца.— Усё скончана...— асенняю хмараю плылі думкі.— Яны арыштаваны... Бедны мой Казімер... Пётрусь... Эдуард... Яны... О, я не паражыву гэтых дзён! Ха-ха-ха...— дзікі смех пачуўся з яе вуснаў.— Учора толькі... Чаму іменна ўчора, а не раней... А ўсё ж такі не раней! Бальшавіцкае хам'ё...— вырваўся стогн з яе грудзей. І толькі стогн, але не словы.

Соня не ведала, што рабіць у захопленым адчаі. Яна нават не заўважыла, як перарвала папалам цясёмку рыдыкюля.

Зусім змерклася. Цэлаю капэлаю краліся цені з лісцяў гарадскога сквера. І было відаць, як на вуліцы раптам запаліліся ліхтары. Ад святла не паменшалі цені. Яны яшчэ больш гусцелі сярод лісцяў.

Соня сядзела і не прыкмячала вячэрняе варыяцыі. І толькі, нібы скрозь расколаты звон, чула Соня гутарку дзвюх асоб. Яны ішлі па суседняй дарожцы.

— Ты не ведаеш яе характару...

— Яна, брат, агонь, а не кабыла.

— Эт, баба бабаю: як ёсць баба.

І далей Соня чула, калі павярнулі гэтыя асобы на другую дарожку:

— ...за шклянку сельцерскай! Чэснае слова!

І толькі як праз цэлы тоўсты пласт зямлі чула Соня. Яна ў гэтую ж хвіліну забылася, аб чым гаварылі асобы.

— Ён адзін... Мы ўдваіх... Наш план узрыву... Ах! — пеністымі хвалямі адна на другую насядалі думкі ў Сонінай галаве.— Мы ўдваіх...

Каля яе лаўкі прайшла расфуфыраная, як называла іх Сцепаніда Мацееўна, асоба. Соня не заўважыла. Але праз хвіліну асоба зноў прашпацыравала каля яе ног, акінуўшы сваім позіркам.

— Трэба ісці адгэтуль,— падумала Соня.— Але, ні-

бы штось прыгнятала яе да лаўкі, яна не магла з яе аніяк падняцца. І яна зноў міжвольна глядзела ў той самы пункт адчыненай будкі.

Цяпер чырвонага сіропу не было відаць. Нехта засланіў яго сваімі шырокімі плячыма. Ён, мусіць, хацеў ганарыцца сваёю постаццю перад прахожымі, хацеў ганарыцца, што ён можа купіць за пяць капеек шклянку сельцерскай вады.

Над садам, над гарадскім скверам навіслі цені ва ўсім сваім афармленні.

Недзе ў лісцях клёну, а можа, ліпы шамацелі гракі.

І Соня зусім не заўважыла, як да яе падышоў не то абарванец, не то якісьці старац.

III

Чалавека, які называўся Захарам, ведалі ўсе. Яго на цагельным заводзе ведалі, на лесапільным ведалі, таксама ведала яго і гарадская міліцыя.

Дзе ні бываў Захара і ў каго ні бываў!

— Ану, падымі, Захара, падымі,— жартавалі хтонебудзь са старэйшых рабочых лесапільнага завода,— ану, пакажы сваю храбрасць, утры гэтым падшывальцам нос.

І Захара браў пудоў у дзесяць брусок дзерава, клаў яго на плячо, трошкі прыгінаў галаву — нёс да станка і, як ні ў чым не бывала, растапырыўшы шырока свае ногі, шпурляў гэты брусок на зямлю.

З міліцыяй Захара пазнаёміўся ў першую чаргу. І зусім невыпадкова.

Неяк пад восень гэта было. Тады шайка бандытаўшпіёнаў вялікай сумятохі па ўсім горадзе нарабіла. З іх трох злавілі, а двое ўсё ж уцякло. Яны хацелі ўзрыў на фабрыцы ўтварыць. І от тады было больш назіранняў як ад міліцыі, так і ад палітычнай управы.

Каб злавіць гэтых двух, сачылі дзяржаўныя органы.

У адну раніцу, хутка пасля здарэння гэта было. Міліцыянер Галубок на пасту стаяў. Рухам кіраваў. Знячэўку неяк тады падняў ён вочы на рог вуліцы, аж — убачыў: чалавек з алоўкам, з запісною кніжкаю ў руках піша нешта. Глядзіць на сцяну мура дый піша.

— Што ты робіш? — запытаўся ў яго Галубок.

— Назву вуліцы запісваю,— адказаў той.

І Галубок накіраваў тады гэтага чалавека з яго назваю ў штаб міліцыі.

Па дарозе чалавек Захарам назваўся.

А ў штабе міліцыі Захару сустрэў следчы. Кароценькі чалавек з тоўстым, як агурок, выпуклым тулавам. Яго звалі Ніканорам Ніканоравічам.

Калі Захара пераступіў парог пакоя следчага, дык ён, Ніканор Ніканоравіч, седзячы за сваім рабочым столікам, пазяхаў на дажджлівую пагоду.

— Хто ты, чалавеча, і адкуль ты? — запытаўся ён у Захары, не падымаючы вачэй.

І Захара не міргнуўшы нават левым вокам адказаў яму:

— Я — сам бог.

Не трывожным позіркам, гледзячы на сцяну, на старыя, трохі зашмальцаваныя абоі, адказаў Захара.

І тады толькі Ніканор Ніканоравіч зняў паважна сваё пенснэ.

Ён працёр яго шкелцы баціставаю, белаю як снег хустачкаю.

А потым зусім паволі, навесіўшы яго, гэтае пенснэ, на выямістае пераноссе, акінуў ужо Захару пытальным позіркам.

— Ты лжэш! Прытвараешся! — наюдзіўся вожыкам Ніканор Ніканоравіч, акідаючы адным вокам Захараву вопратку: дашчэнту парваную ватоўку і такія ж самыя порткі.

— Нашто ты запісваў вуліцы?

І Захара з тым самым позіркам, пераступіўшы толькі з левай нагі на правую, адказаў:

— Каб не заблудзіцца.

А тады, яшчэ вытрымаўшы адзін момант, дабавіў:

— Ці няма ў вас чаго-небудзь такоўскага, каб падшамаць?

На гэтым амаль што і закончыўся допыт Захары Ніканорам Ніканоравічам. Не без таго: Ніканор Ніканоравіч яшчэ панерваваўся перад Захарам. Пастукаў нават кулакамі па стале, чым вельмі здзівіў і напалохаў Захару. Але, не дабіўшыся ад Захары ні на погаць карысці — накіраваў яго ў лячэбніцу псіхічнахворых.

Месяц праблытаўся Захара ў лячэбніцы. Ніякіх вынікаў не прыйшлося ўстанавіць. Захара толькі і ведаў тое: еў, спаў ды разводзіў гутарку аб тым, як ён зрабіўся самім богам. Ну, а пасля таго як Захара выйшаў з лячэбніцы ды мог разгульваць па горадзе, яго ўжо ўсе міліцыянеры ведалі.

Аднойчы гэта было. Ноччу. На варце стаяў міліцыянер Круглік.

З поўначы было, як заўважыў Круглік, нейчая цень крадзецца з пад'езда. Натапырыўся Круглік: «Што за ліха,— разважае,— каму, што трэба ў гэткай глухой вуліцы?» Аж калі не прыгледзіцца — ён, Захара. Як ёсць — ён.

— Чаго ты па ночы туляешся? — пытае Круглік.— Што табе тут трэба.

І Захара зусім пераканана гаворыць:

— Я цябе хацеў напалохаць. Гы-гы-гы!

— Дурань! Кругом як ёсць дурань,— памысліў тады Круглік, сплюнуўшы ўбок.

От чаму цяпер ніхто не звяртаў на Захару аніякае ўвагі.

Арцель вясковых рабочых размясцілася на адпачынак. Яна выгрузіла сёння тры платформы колатых дроў і цяпер ляжала, як мост, перад станцыяю, на станцыённым дзядзінцы.

Пархвен Такельчык спаў. Ён адтапырыў чырвоную шчэць барады, цераз расхрыстаныя грудзі датыкаўся пальцамі левай рукі да пальцаў правай рукі і спаў. Рот у яго быў адчынены, а адтуль быў відаць раскіданы плот — тырчаўшыя па аднаму зубы. Нейкая чорная, спрытная вельмі муха поўзала па чырвонай шчэці Пархвенавай барады. Яна, прашпацыраваўшы па яго шэрсці то ўзад, то ўперад некалькі разоў, дапаўзла ўрэшце да яго ніжняй адтапыранай губы. Тут толькі муха сутрымалася — пачала тыцкаць сваім тупым, раздвоеным джалам у тонкую чырвоную абалонку.

А Пархвен, як ні ў чым не бывала, ляжаў дагары, спаў і сніў:

— Абібок! Гультай! — на чым свет стаіць крычала Пархвенава жонка, сніў ён.

Гэта ў яго жонкі, Тэклі, не хапала мукі на замешку цеста, і яна крычала. Пархвен ведаў гэты крык наперад, і ён зусім не баяўся гэтага крыку.

— Па-настаяшчаму, дык ты сама вінавата,— казаў Пархвен,— непатрэбна было разводзіць цэлую дзежку цеста.

І, каб не слухаць Тэклінага лямanту, ён, Пархвен, падняўся з ложка і хацеў пайсці да суседа Кірылы...

— Цьфу! — пралупіў Пархвен вочы.— У роце пе-

расохла як.— І ён абапёрся злёгку на локцях на Кірылаву нагу.

Кірыла — гэта яго сусед. Ён таксама, выцягнутым і раскрыжаваным, ляжаў тутака ж.

— Узвярзецца ж от...— глянуў Пархвен на сонца, якое вісела над станцыйным дахам.

— Мусіць, мука выйшла ў Тэклі,— памысліў Пархвен.— Трэбла б...— упіліўся ён вачыма ў адзін пункт, пазяхаючы.

На дзядзінцы была ўся арцель. Тут былі дзяўчаты, хлопцы і старэйшыя, гэтакія, як Пархвен, жанатыя мужчыны. Яны сабраліся з розных вёсак па два-тры чалавекі. Усе яны, адно для другога, з знаёмых вёсак. Яны прыйшлі ў горад, каб рабіць тую работу, якая можа здарыцца выпадкова. Сёння яны разгружалі платформу, заўтра капалі б дзе-небудзь за горадам роў, а паслязаўтра і зусім часамі маглі сядзець, ляжаць без працы.

Яны прыйшлі пасля сякой-такой, сваёй вясковай, вясенняй працы.

І калі Пархвен раскатурхаўся — падняў лепей вочы, дык першае, што кінулася цяпер яго позірку,— Захарава постаць.

— Трэці тыдзень як ён з намі,— падумаў Пархвен.— Здаровы, падла, як конь.

І зусім міжвольна ўявіў Пархвен на момант, як прымкнуў гэты чалавек да іх арцелі.

— Нехапае аднае клёпкі,— казаў Галапупец Лявон, чамусьці набеглі цяпер Пархвену на памяць словы аднаго з іх арцельшчыкаў.

— Урвіла! — не паляпаў, а толькі так для прыкляпу палажыў тады Перапечка (другі арцельшчык) сваю руку на Захарава плячо.

А тады яны падзівіліся яго шырокім плячам, яго расплывістаму, абросшаму рэдкімі валасамі, твару, а нехта сказаў: «Лішнія рукі прыгодзяцца», і Захара пачаў разам з імі разгружаць платформы, капаць равы.

Захара цяпер з Перапечкам і з Галапупцам сядзелі і размяралі саломінкаю паўлітроўку. Яны адзначалі, пакуль кожны павінен выцягнуць. А Пархвен тым часам, загнаўшы сваю думку аб Захару аж у самы тупік, на запасны шлях, глядзеў цяпер, як дзяўчаты разувалі нагу ў соннага хлапца з іх арцелі ды прывязвалі яе доўгаю аборкаю за прэнт жалезнай агароджы.

Надыходзіла ноч. Зусім навісла ноч над палатном чыгуначнай дарогі.

Пласт за пластом, адна на другую клаліся начныя цені...

І арцель, нібы свежае, толькі што згружанае сыр'ё, размеркавалася і начавала ў начовачным рове, каля дарожнага палатна.

Сярод арцелі яшчэ не спалі. Аб гэтым гаварыла тлеючае вогнішча ды шапатлівая гутарка дваіх людзей.

— Ты кажаш, уласнасці пры сацыялізме не будзе. Няўжо ж хіба я і над крысом маёй капоты не буду мець уласнасці? Гм?

Гэта спынялі гутарку Лявон Галапупец з Арцёмам Перапечкам. Лявон Галапупец ляжаў дагары, падлажыўшы пад галаву рукі, на палове Перапечкавай капоты, глядзеў у бяззорачнае неба-пустэчу дый казаў:

— Так, не будзеш. Панадабіцца мне, прынамсі, крысо твайго лапсардака — без усялякай гавэнды лягу на ём. Ты ні на волас не будзеш тады супярэчыць. Гэта не то што аханькі табе. Гэта табе сацыялізма.

Арцём не чуў на гэты раз Лявонавага адказу і прамаўчаў.

Абодва хвіліну прамаўчалі.

Перапечка з Галапупцам гэта два не разлучаныя нікім у свеце чалавекі. Яны з аднае вёскі. Яны аднагодкі, разам гадаваліся, цераз вуліцу толькі. Разам выраслалі, і цяпер ужо абодва ў адзін год пажаніліся, Але каб магчыма было, дык яны яшчэ б па разу ажаніліся. Яны б... адзін з другім ажаніліся.

Цяпер на падзённай працы яны ядуць разам, працуюць разам — не адыходзяць адзін ад другога і спяць разам. Гэтак не маглі быць Арцём без Лявона, а Лявон без Арцёма.

Яшчэ прайшло некалькі маўклівых момантаў... закранутыя пытанні Галапупца круціліся аж за дзесятаю гарою.

І тады толькі зноў ён, Лявон Галапупец, парушыў дрынчэўшую маўклівасць.

— Уласнасць?.. Раўнапраўе?.. Гм? Я, брат, от што магу сказаць аб раўнапраўі.

Але пакуль Перапечка паднімаўся наўзлокатках, адшукваў сярнічкі ды прыпякаў у люльцы карэньчыкі махоркі, якія выглядалі адтуль гарохам-мяшанцам,

дык Галапупец маўчаў. Ён вытрымаў цэлы момант, у які напружваў твар, каб раскусіць моцную скуру сухога арэха.

— Раўнапраўе... цяпер... яго, брат, няма і не можа быць. Яно от толькі ў лазні можа быць. Яно пры сыцыялізмах можа быць.

Перапечка прырыхтаваў свой слух.

— Якія гэта ты кашалі кярзоліш? Як у лазні?

І Галапупец, прыняўшы звычайны выраз свайго твару, так як полымя над люлькаю Перапечкі знікла і цяпер у ёй разгарэўся жар, казаў:

— Ды не кярзоліш. А от ты ўяві сабе голых людзей у лазні? От вазьмі гэтак дый уяві! Ну, а цяпер скажы: калі ты пападзешся ў лазню сярод незнаёмых людзей, дык от скажы мне, хто з іх мае большы гонар, славу і найбольшы чын? Не, ты от скажы?

І Арцём Перапечка, сплюнуўшы ды яшчэ некалькі раз прыціснуўшы цыбук у сваіх тоўстых губах, прагаварыў:

— Смяхотнае пытанне! Але калі ты з мухі ды пачаў штукаваць слана, дык от ужо сам і скончы.

— І скончу,— глядзеў Галапупец аж у чорнае неба.— І дакажу. Там яны ў лазні ўсе як адзін раўнапраўны. І над гарачаю і над халоднаю вадою раўнапраўны. Бо ім патрэбна гэтая вада: яны хочуць памыцца. І не болей. Але няхай толькі пачнуць адзявацца гэтыя людзі... Дык от што ты тады скажаш?

— Тады яны не будуць раўнапраўны,— усміхнуўся Перапечка.

— О, то-то ж! Усе гэтыя чыны, славы і гонары ты ўбачыш у вопратцы гэтых людзей. І — не далей. А пры сыцыялізмах яно, брат, усе пад адно. Таксама не разлічыш.

Перапечка нічога не адказаў. Ён толькі пастукаў абячайкаю люлькі аб свой вышчарблены ногаць на вялікім пальцы.

— Дык от табе...— хвіліну памаўчаў Галапупец.— А ты кажаш...

— Я нічога такоўскага не кажу,— схамянуўся Перапечка.— Але ўсё ж такі, па-маему, не ў чынах, а ў волі гэтых чыноў — раўнапраўе. Па-маему...— і ён шырока расцягнуў рот.— Па-маему... аб чым я хацеў сказаць? — Як бы перад сабою паставіў пытанне.

Але Галапупец глядзеў у цемру ночы. Ён разважаў,

блудзіў з новым пытаннем: з чаго складаецца цемра, які матэрыял уваходзіць для гэтага складання. І Перапечка, не знайшоўшы падтрымання для таго, каб устанавіць на сваё месца няскончанае пытанне, дабавіў: «Трэба спаць. Давай будзем спаць».

І Галапупец падчыніўся яго волі. Яны разам, удвух, нацягнулі на галовы старую Перапечкаву бравэрку.

Арцель уся даўно спала. Ноч зусім увабрала ў свае лапы ўсё жывое. І сярод арцелі нават і ўва сне не снілася, што цяпер, па Захаравых слядах, не спускаючы з вока, краўся ззаду Пархвен Такельчык.

## IV

Учарашняю ноччу гэта было. Пархвен не спаў. Неяк выбіўся са сну, прачнуўся сярод ночы, ляжаў так сабе, нават без думак.

Пачынала зарэць. Недзе пелі певуны. Брахаў надакучлівы сабака. І Пархвен, слухаючы гэтыя непатрэбныя гукі, неяк зусім выпадкова прыслухаўся: каля логава арцельшчыкаў нешта шамацела.

Пархвен бясшумна падняў галаву.

Чорная постаць курчылася перад яго позіркам: гэта чалавек падпаўзаў да арцелі.

— Што за ліха?! — пачаў углядацца. І зусім атарапянеў, калі заўважыў... Да вогнішча падпаўзаў і раптам прыціснуўся да зямлі Захара.

— Дзе цябе носіць нячыстая? — хацеў выказаць Пархвен, але сутрымаўся і толькі сплюнуў. Ён пачуў раптоўнае Захарава храпенне.

— Дзіўна! Як хутка мог заснуць гэты дурань? — памысліў ён.

Пасля здарэння, якое надало Пархвену цэлую галаву думак, ён не мог заснуць. Да раніцы лезлі ў Пархвенаву галаву нейкія трывожныя думкі.

— Хто ён? Што ён за чалавек? Дурань дурнем, а адкуль ён? — не адставалі пытанні.

Пархвен раніцою і цэлы дзень нікому і нічога не казаў. Ён нават лагадней неяк абзываўся да Захары. Скачваючы сёння бярвенні, ён памог Захару падважыць запаўшае бервяно. Сам не разумеў для чаго, а памог.

І толькі як змерклася... Пархвен пачаў сачыць за Захарам. Ён не скідаў вопраткі гэтак, як тыя разы, а

лёг спаць адзеты. Ён чуў, лежачы, добрую палову гутаркі Галапупца з Перапечкам.

І цяпер, калі Захара нячутна адпоўз ад арцелі, Пархвен у сваю чаргу пачаў адпаўзаць. А калі падняўся ды пайшоў каля горада, тады лягчэй было Пархвену сачыць за кожным Захаравым крокам.

Начныя цені згушчаліся, уздрыгвалі.

Ноч не пакідала ні аднаго месца: усё забракаванае дзённым жыццём было завасковала, азцоблена і гадзілася для любога карыстання.

Ціха шамацела дробнае галлё тапалёў. У завулку пахла спелымі яблыкамі. А недзе па бруку вуліцы цокалі конскія падковы. На станцыі прарэзліва свістаў дзяжурны паравік. Білі цэлым тузінам удараў гарадскія часы. А за горадам, недзе, мусіць, на бліжэйшым пасёлку, нехта, падняўшы голас аж пад чорнае неба, апускаў:

Адважна мы
І смела мы
У бой і-дзё-о-м!..

І Захара, нібы ад гэтых гукаў, якія бы хвасталі нечым вострым па яго галаве, прытуліўся каля муравانага будынка.

Ён, як тхор, сваімі дробнымі вачыма акінуў рагавое акно ніжняга паверха і зусім асцярожна пастукаў у шыбу.

Выразна паўтарылася рэха стуку, а цераз хвіліну адчыніліся дзверы.

— Ты, Юлік? — жаночы шэпт пачуўся.— Ідзі ж, ідзі...— і дзверы праглынулі чорную і шырокую постаць Захары.

Цяпер ціха было каля дзвярэй. Нібы туман — знікала ўсё... ноч ашчарэпіла, пакінула адно пустое месца...

І Пархвен, які быў у пяці кроках, зусім збянтэжыўся. Яго вабражэнні збіліся на хвіліну з панталыку. Як укопаны слуп, момант прастаяў нязручна. І толькі мацнейшы шэлест тапалёў ды той прарэзлівы, паўторны свіст паравіка вывеў яго з баламутных мар.

— Захара... Юлік... Т-а-ак... зусім разумею,— мармытаў Пархвен.— Раз-з-зумею...— разважаў, накіраваўшыся да штаба міліцыі.

Калі дзверы рагавога пакоя ў мураваным будынку Сцепаніды Мацееўны зачыніліся і калі зуб нутранога замка ўвайшоў у загадзя прырыхтаваную зазубрыну, тады жанчына, якая сустрэла Захару, казала:

— Мы загінулі! Юлік!

Яны ўвайшлі ў невялікі пакой.

Пры тлеючым канчары саляной свечкі ўвайшоўшаму можна было б заўважыць у пакоі вялікі буралом.

На падлозе валялася непатрэбная папера, каля сцяны стаяла голае жалезнае ложка, яно сваімі скабамі наводзіла нейкую нуду. Пасярэдзіне пакоя стаяў на адной ножцы круглы ненакрыты стол. А на ім стаяла фанерная круглая, як рэшата, скрынка.

Захара быў у Сонiным пакоі. Ён не здзівіўся бураломy.

— Ты мяне гэтак не заві,— сказаў ён, сядаючы на вывіхнутае крэсла, і так, як кажуць дзеці: «Мама, я цябе не баюся».

— А па-другое, што здарылася?

І Соня дастала з-пад гарсэта белы канверт.

— Я не магла дачакацца цябе, я загадзя прырыхтавала ўсе рэчы,— падала Соня канверт і дабавіла: — Мы загінулі.

Захара нібы не звяртаў увагі на Соню. Ён не спяшаючыся дастаў з канверта вузенькі ліст, спісаны алоўкам, падсунуў бліжэй да сябе падсвечнік і чытаў.

От што прачытаў Захара:

«Панна Адольфа! За вамі сочаць. З атрыманнем ліста зараз жа сабрацца і выехаць. Зараз жа перадайце аб гэтым пану Юліку Вярцінскаму. Вы павінны выехаць разам. Ён ведае куды. Каб сесці на цягнік, вы ад'едзеце ад горада да трэцяй станцыі.

Сядайце з хуткім.

З прывітаннем — пулкоўнік Крушынскі».

Прачытаўшы, Захара зложыў ліст папалам, потым яшчэ раз папалам і, падтрымаўшы хвіліну, зусім павалі разадраў яго на дробныя кусочкі.

— Якая ты палахлівая, панна Адольфа,— «мы загінулі». Гм! — з адвагаю, перапоўненаю надзеямі, сказаў Захара. — Ты гатова палохацца маіх трантаў, як бога кохам. Помніш у садзе пасля арышту нашых сяброў? Калі я ў новым «касцюме» падышоў да цябе, як ты сядзела на лаўцы... Ты вельмі і вельмі палахлівая.

— Бо іначай не можа быць...— сказала Соня, нервова зашпіляючы спражкі ў скрынцы.— Ты чуеш, што піша пулкоўнік?

— Калі пан Крушынскі так піша, то гэта не значыць, што ён ведае дасканальна аб нашым палажэнні.

Захара падняўся з крэсла з нейкім гонарам.

— Седзячы на печы, я таксама мог бы напускаць страхі. Там у іх, у гэтых страхаў, вельмі вялікія вочы.

Ён прайшоўся па пакоі.

— Юлік, ты вельмі жартуеш з сваім жыццём! — адвярнулася Соня ад стала.— Збоку лепей відаць. Юлік, пан Крушынскі клапоціцца аб нас больш, чым мы аб сабе. Мы павінны сёння ж выехаць.

Соня паглядзела на Захару пытлівым позіркам.

Свечка тым часам патрэсквала. Бляшнявы колер полымя во-во дакарабкваўся да меднага падсвечніка.

І тады карцела неяк, што яно ўтопіцца зараз у закапаных яго берагах.

— Безумоўна...— парушыў Захара маўклівасць.— Мы сёння ж выедзем.

Ён яшчэ некалькі разоў прайшоўся па пакоі і падышоў да стала.

— Адольфа! Я толькі еду для таго, каб надзець другую маску. Мне абрыдалі мае транты. Я адтуль адпраўлю цябе за мяжу. Я адзін застануся тут, каб выконваць свой абавязак...

Па сценах пакоя шпарчэй забегалі цені змроку. Гэта зусім даходзіла да берагоў падсвечніка полымя свечкі. Яно во-во сабіралася затхнуцца, прапасці і... назаўсёды...

— Я не паеду без цябе! — адважна, але мякка, спакойна палажыла яна абедзве рукі на яго плечукі.— Я павінна сама ўчыніць помсту за нашых арыштаваных сяброў. Я павінна за сябе, за тваю от вытаркшую вату, мой мілы Юлік, учыніць над бязбожнікамі помсту. О, не — я павінна... так, так...

— Адольфа! Я табе не супярэчу. Мы павінны, і гэта будзе відаць там, на месцы. А цяпер я табе яшчэ раз напамінаю: ты прывыкай называць мяне Захарам.

— А ты не называй мяне Адольфаю. Соняю заві альбо зусім Зосяю.

І яна, акінуўшы цягучым позіркам яго моцны, засівераўшы твар, на якім тырчалі доўгія, рэдкія, рыжыя валасы, якія злучаліся з гусцейшымі вусамі, яшчэ свят-

лейшага колеру, яна мяккім і ціхім тонам даказала:

— Тут небяспечна.

Захара не зразумеў. Ён глядзеў у апошняе кола склянiстага кругавіду. Ён разглядаў матэрыял у гэтым скляпенні — мысліў аб неіснуючых фактах.

— Я згодзен,— перарваў думку,— з тым згодзен, што небяспечна. Але ты можаш прывыкнуць і забыцца... Ты абы-дзе тады назавеш мяне Юлікам. Ось у чым небяспека...

Ён моўчкі прайшоў да дзвярэй ды зноў астанавіўся каля Соні.

— Хораю цяпер заві. От гэтакаю хораю,— ён адцягнуў рукамі абедзве скроні.— «За хораю» мужыцкаю пакуль што няхай сядзіць твой Юлік,— пачаў зноў хадзіць.— Дурнем няхай будзе. Трантамі няхай патрасе. Адным словам, пакуль што.

І далей не пакідаў хадзіць, але маўчаў.

Было ціха. Можна было чуць, як за акном пакоя шуршэлі таполі.

Яны не заўважылі, як патухла полымя свечкі, як цені змроку яшчэ больш ўтваралі рух...

Соня, хвіліну стоячы, разважала. Нешта вострае кратала яе сэрца... А ў галаве блыталіся думкі.

— Цяпер без чвэрткі першая гадзіна,— паглядзеўшы на руку, выйшла Соня з блытаных мар.

— Так,— раптам застанавіўся Захара.— Мы возьмем толькі твае рэчы. Столькі возьмем, каб можна было ад'ехацца з адным фурманам. Я цяпер пайду, а цераз чвэртку гадзіны мы выедзем. Прырыхтуйся як след з рэчамі ды не жахайся, мая каханая. Забудзь аб лісце. У імя нашага дзяцінства: помніш каля фантана «Вялікай вужакі»...— сказаў ён каля дзвярэй. А калі Соня хацела штосьці адказаць, дык ён зачыніў ужо за сабою дзверы.

Калі Захара пераступіў парог — выйшаў на двор, дык нейкая калючая цемра ўдарыла ў яго вочы. Нібы жывое і нежывое — усё разам праглынула ноч.

І от гэтак, як трымае маці малое дзіця на аберучках, так трымала ноч усё гэта недзе далёка, аж на самым чорным і глыбокім дне.

А калі ступіў адзін крок ад парога, дык нейкі ражон і толькі ўсяго заўважыў Захара.

У сярэдзіну калючай цемры хацеў адсунуць гэты

ражон, як зусім не моцнае, але цвёрдае «рукі да верху» стукнула Захару па патыліцы. Абярнуўся тады да дзвярэй, крыкнуць хацеў, але не змог. Таксама і ад дзвярэй тырчалі халодныя і надакучлівыя ражны.

І калі на момант уявіць хацеў аб сваім палажэнні, дык толькі тады, скрозь вушны звон, пачуў: «Ён — той самы Захара — Юлік».

Знаёмы Пархвенаў голас пачуў і зразумеў.

Глыбокае дно ночы ўбачыў і...

— Гы-гы-гы...— зарагатаў не сваім голасам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А таполі зноў жа шуршэлі. Ноч смяялася пад гэтае шуршэнне.

І толькі шкло ад невялічкага ветру недзе ў акне дзвынкала, мусіць, дрэнна было закітована...

...Як абарваная струна, брынчэла шкло.

*в. Рудкова, 9—18.VI.1928 г.*

## ВЫПАДАК

З Антонам Антонавічам здарыўся выпадак. Але пакуль пра выпадак — некалькі слоў пра самога Антона Антонавіча.

Антон Антонавіч — чалавек сярэдняга росту і не тоўстай постаці. З вялікімі, не зарослымі валасамі-затокамі па баках ад ілба. Галава яго спусцістая, на пярэдняй частцы як самадзелкавая ледзяная гара. От па гэтым спусцістым і ляжаць затокі, ствараючы сабою валасатую завоіну. Такія людзі вельмі разумныя. Аб гэтым кажа сам Антон Антонавіч. Не, не са сваёй галавы бярэ ён прыклад, а са свайго практычнага назірання за людзьмі, якія пападаліся яму з такімі галовамі.

Канечне, у першую чаргу як «саманазіранне» ўваходзіць і свая галава. Безумоўна, перш-наперш Антон Антонавіч, паназіраўшы за сабою, пераносіцца з усім гэтым тады да другіх.

— Такія людзі,— кажа ён,— найбольш па канцылярыях, на адказных пасадах: суддзі, пракуроры,

прафкомаўскія старшыны, урачы, часамі і яшчэ хто-кольвек.

Адным словам, Антон Антонавіч ганарыцца сваёй галавой. Антон Антонавіч ходзіць да выпуску і ў фрэнчы. Фрэнч у яго заўсёды зашпілены на ўсе гузікі. А таму, каб і размудрыўся, не відаць ніколі, што ў яго падыспадам: рубашка верхняя ці адразу ніжняя сарочка. На галаве носіць ён капялюш з натуральнымі палямі, а ўзімку шапку-стаўбун. Паходка яго сталая, размерана-цвёрдая, упэўненая. Яна кажа сама за сябе, куды ідзе чалавек.

Ходзіць ён звычайна з палачкаю, злёгку апіраючыся на яе. І калі глядзець здалёк на Антона Антонавіча, на яго паходку,— здаецца, у яго на пяце маленькі нарыў.

Партфеля Антон Антонавіч не носіць з сабою, хоць мае іх два.

Раней насіў яго. Але зусім не так даўно кінуў.

— Кожны і малы і вялікі чын,— кажа Антон Антонавіч,— пачаў насіць. А я ж не малпа, не хачу быць малпай, якая робіць тое, што бачыць.

Характар Антона Антонавіча — да трох не гавары, альбо дзяржы вуха! Не таму дзяржы, што Антон Антонавіч будзе біць. Не! Калі заходзіць хто-небудзь з падначаленых у кабінет Антона Антонавіча, от тут і патрэбна ўмець сябе трымаць.

Антон Антонавіч акуратны чалавек, а таму і патрабуе ад таго, хто зайшоў да яго ў кабінет, акуратнасці.

Калі хто-небудзь упершыню заходзіць да Антона Антонавіча і заходзіць адным скрыпам як ад яго хто-небудзь выходзіць — гора таму. Антон Антонавіч перш акіне вокам гэтага чалавека ад ног і аж да канца галавы, потым зважыць акінутае, пашавеліць яшчэ раз у сваім разуменні... І толькі тады, калі пераканаецца, што нічога не ведае, увайшоўшы да яго, толькі тады скажа:

— А не мяшала б, таварыш, папярэдзе, чым пёрціся ў дзверы, паглядзець на гэтыя дзверы, бо бывае — не ў тыя дзверы можаш заехаць!

Калі ж увайшоўшы смякалісты, адразу зразумее, калі ж не, выйшаўшы зразумее. Паглядзіць на яго дзверы, прачытае на іх: «Без даклада не ўваходзіць» і — зразумее...

Той дзень, у які адбыўся выпадак, назаўсёды застанецца ў памяці Антона Антонавіча.

Быў тады гэты самы дзень сонечны. Як на тое, сонца свяціла так ярка, так ярка і чыста.

Усё наўкол — аж трымцела. Усё наўкол было заліта залатым хараством. Якраз быў гэты дзень у сярэдзіне вясны.

Антон Антонавіч, захоплены хараством дня, бляскам вясны, адчыніў на балкон са свайго кабінета шкляныя дзверы. Яго абдало мяккім пахам вясны. Быў чутны гарадскі шум: цоканне падкоў аб брук, рыканне аўтобуса і іншае нешта незразумелае, ламавое — шумнае. Паглядзеўшы з балкона на праязджаючы вулічны аўтобус, на раскіданыя ім клубкі дыму, Антон Антонавіч увайшоў з балкона ў свой кабінет.

Хіба магла лезці ў галаву Антона Антонавіча праца ў такі дзень?

— Што такое праца? — задаў Антонавіч вуснае пытанне, ходзячы па кабінеце, і адразу, не адказаўшы на гэтае пытанне, адышоў да мінулага.— ...працавалі некалі. Так! — мармытаў ён.— Былі часы. Бывала, сядзіш у асобным пакоі «Земского присутствия» і нібыта пішаш. А перад акенцам — чарга. І от ты пішаш, малюеш што-небудзь, а яны, гэтыя лапцюжнікі, чакаюць. Ты тады з найбольшым імпэтам пішаш, а яны зноў чакаюць. І вось падскочыўшая найбольшая злосць прымушае тады ўсхвацiцца з крэсла: «Што трэба?! Мужыкі, што, пытаю, трэба!» І от яны — дрыг-дрыг-дрыг. Як асінавыя лісты... Гэта я разумею. Гэта была праца!..

Антон Антонавіч сеў каля стала ў сваё мяккае, абітае кітайскім плюшам крэсла.

— Так, была праца! — паўтарыў ён і ўзяў у рукі ляжаўшы на стале часопіс «Крокодил».— Дзіўны малюнак,— паглядзеў ён на першую старонку, на якой было дрэва з тоўстымі сукамі. А на суках сядзелі птушачкі ў кепках і плявалі далоў на што б ні папала.— Дзіўны...— паўтарыў.— І выдумаюць жа людзі. Чаго толькі не выдумаюць, ха-ха-ха...

Але ў гэты час адчыніліся ў кабінет Антона Антонавіча дзверы і да яго ўвайшоў незнаёмы чалавек.

— Вы будзеце Пстрычка Антон Антонавіч? — запытаўся незнаёмец, прырыхтаваўшыся расшпіліць свой партфель.

— Я...— падняўшыся з крэсла і абапёршыся пальцамі рук аб масіўны стол, адказаў Антон Антонавіч.

І тады незнаёмец расшпіліў свой партфель і, дастаўшы невялічкую паперку, падаў яе самому Антону Антонавічу.

Дрыжачымі вуснамі прачытаў. Перш пачырванеў пры першых радках. Потым збялеў. А потым чырвоныя і белыя плямы абляпалі яго твар. Але да канца прачытаў і тады... тымі самымі дрыжачымі вуснамі выказаў:

— Мне... старшыні трэста... адказваюць у пасадзе... я аслабанён ад працы... гы-гы-гы... Гэта, таварыш,— звярнуўся ён да незнаёмага,— памылка... грубая памылка. Магчыма, каго-небудзь другога... А я... я ж старшыня трэста!!!

Незнаёмец нічога не сказаў, а толькі папрасіў распісацца аб паведамленні. Антон Антонавіч распісаўся. Распісваючыся, ён усё паўтараў тыя самыя словы:

— Памылка. Канечне, памылка! У нас, у нашых дзяржаўных апаратах гэта не наўда! Вельмі часта і вельмі шмат бывае памылак...

І ён палажыў асадку з уваткнутым пяром, на якім засталося яшчэ няспісанае чарніла.

*Менск, 1.11.1929 г.*

## НА ПРЫГУМЕННІ

Пад маімі нагамі хрумкае снег. Яго каструбаватыя ледзяшы расціраюцца на драбнюткі друз. Тады сонца кідае на іх бліскучыя праменні, і драбы пачынаюць шліфавацца ад сонца.

Я іду па загуменнай дарозе і сустракаю цётку Марыну.

— Ужо!..— кажа мне цётка на хаду, і я разумею, што азначае гэтае «ўжо». Калі яна мне кажа цяпер гэтае слова, дык я разумею, што ўжо прыехаў са станцыі Цімох-камсамолец, Кірылаў сын і што ён, прыехаўшы, прывёз машыну, якая сартуе насенне рознага гатунку. (На станцыі склад розных сельскагаспадарчых машын для сялянскіх патрэб.)

У мінулую нядзелю быў сход. І от на сходзе, у бягучых пытаннях, была вынесена Цімохам прапанова: «Купіць сартоўку, бо вясна на самым носе,— казаў Цімох,— а насенне: леташняя практыка паказала...»

А практыка леташняя — вось у чым:

Цімох у Клянкі ездзіў наўмысля. Ачысціў цэлых шэсць пудоў пшаніцы, і от бацька Кірыла рассеяў яе. Дык якраз напалову прыбыла ўраджайнасць. Там на паўзагона не хапіла было гэтай адсартаванай, дык Кірыла нячыстага засеяў. І от — але ж, як аддзяліў хто, як адцяў: куколь ды аўсюк дашчэнту заглушылі пшанічныя каласы. Кірыла казаў тады, падзываў каго-небудзь з суседзяў, ківаючы пальцам здалёк, з другога паўмежка, і казаў:

— Паглядзі! Ідзі, ідзі сюды,— паглядзі. От што вычварыў мой падшывалец. От табе й факт.

І яны глядзелі ўдвух перш на нэндзную, а потым на буйную каласістую пшаніцу.

Я іду цяпер, прыбавіўшы кроку, каб скарэй убачыць машыну, сартоўку, якая будзе адсартоўваць адны буйныя насенныя калівы, якая будзе адбіраць ад гэтых каліў усялякую злыбеду-траву.

Яскравая пагода прадвеснага дня аж слепіць вочы. Баляць проста-такі вочы — нельга глядзець на прытухшы снег.

Цяпер, калі заходзіш знадворку ў хату — нічога не відаць, пакуль разгледзішся. От нейкія кругі, кругі сінія мітусяцца перш... А снег асядае ды асядае. З кожным днём усё больш і больш чарнее дарожны след. Крычаць мацней гракі, крумкаюць птушкі — вароны.

І цяпер ад усяго гэтага зусім напамінаецца надыходзячы пасеў яравога.

На прыгуменні, каля Кірылавага тока, натоўп.

І не то што натоўп, а цэлы, можна сказаць, вэрхал-гармідар. Нехта нешта некаму гаворыць. Нехта гэтага некага перапыняе. А нехта, каб не застацца ад гаворкі, проста так толькі — падказвае.

...А вясна вось-вось, здаецца, парве апошні зімні ланцуг, які на адным жалезным валасе трымае вясну. І тады ўжо ўздыхне вясна, затрапечацца радасць яе і хараство яе на волі, на прасторы.

— Я ж казаў...— чуваць з натоўпу-вэрхалу.

— А хіба ж я не казаў?! — перакрыжоўвае другі голас.— То-та ж! І зноў зліваецца ўсё ў адзін агульны камяк неакрэсленых гукаў.

Тады я праціскаюся скрозь натоўп.

— Сартоўка для align="left"рознага гатунку...— вырываецца з маіх вуснаў голас, і я падыходжу да машыны.

Яна стаіць і маўчыць сабе пакуль што, як ні ў чым не бывала. Такая пукатая, памалёваная, з боку сіты і іншыя прычындалы.

А наўкол гэты самы натоўп. Шум. Наперадзе ціснуцца сляпіцаю, лезуць падшывальцы-жэўжыкі, і от на іх сварыцца Цімох, каб яны не заміналі. А гэтым часам кожны гаворыць сваё і адзін перад другім наўзахапкі.

— Ці пройдуць васількі? — пытае Лаўрэн, драпаючы пальцамі па тонкім драцяным пераплёце сітаў.

— Званец, таварыш Цімох, ці можа высеяцца? — перабірае Аўлас, тонкі, сухарлявы, у кароценькім кажушку.

— Не, от аўсы, скажы, ці можна вывесці з маёй пшаніцы.

А Наста пад гэта:

— Што-што, а от ці можна будзе ахаяць маё сем'я ад жыцікаў? Такі-то лён-даўгунец расце — і немачы аніякай няма на гэтую брыдоту — глушыць дазвання, такі-то лён! От бок укрывавеў ён мяне, гэты жыцік, уеўся ў косці чэмерам, братка Цімох, пераеў ён маё сэрца!

І нехта стрымлівае нас:

— Не дуры, баба, чалавеку галавы!

Тады Цімох адказвае:

— Усё перачысцім і адсартуем да зярняці. І почату не застанецца ад рознай злыбяды-травы.

Дык ізноў задаюцца пытанні.

А гэтым часам дзеці і некаторыя мужчыны мацаюць машыну пальцамі, кратаюць корбу, двума пальцамі бяруцца за зуб на шасцярні, стукаюць па барабане шчыкалаткамі пальцаў. Барабан-пуза ярка адзываецца рэхам на гэты стук, і Хадора, Астапава жонка, кажа:

— Як звон — чысты гук!

...А вясна зноў б'ецца, тузаецца і вось-вось здаецца вырвецца на волю, пабяжыць раўчукамі перш-наперш.

— Падсабеце! — звяртаецца Цімох да мужчын.— Давайце ўнясём яе ў будынак!

І мы бярэмся за яе точаныя ручкі ззаду і спераду ўчатырох, і паволі, каб чаго не звахтаваць у яе ўсярэдзіне, падымаем, нясём, ледзь-ледзь падсоўваючы ногі, і ставім яе на біты, чыста вымецены ток.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Крык вясны зліваецца з калючым для вачэй бляскам, з татахканнем ад рання і да вечара машыны сартоўкі. На прыгуменні ў Кірылы цэлы абоз. Адны прыязджаюць, другія ад'язджаюць. Цімох то́лькі спраўляецца прымаць, я памагаю яму.

І от цяпер напаўняецца пачуццё нейкім запалам. Хочацца проста-такі крыкнуць:

— Пасеем чыстае, здаровае насенне... Адсартаванае каліва ў каліва... ні васількоў, ні званцу, ні кукалю, ні... ні... Эх! Вырасце ярына ад здаровага зярняці, не закажанелая, не заглушаная травою... Колас бічом будзе звісаць аж да зямлі... Густа адзін каля другога...

Тады ветрык будзе шамацець паміж аўсянага пер'я, паміж ячменных доўгіх вусоў.

*1929*

## ПАД СКРЫП ПАЛАЗОЎ

Рыпеў пад палазамі снег, енчыў. Нібы прасіўся ў кагосьці сухім голасам. Мароз быў.

Ён перш пацепваўся — драмаў, а потым, каб не заснуць, паварушыўся ў сядзенні. І от тады ўсплыла думка ў яго галаве:

— Прыеду... правяду сход... член сельсавета Харытон, камсамолец, дасць цёплую хату, пераначую тады ў цёплай пасцелі, укрыюся цёпла, і, о, як соладка будзе спацца пасля дарогі, пасля ўсяго!..

І зноў неакрэсленае нешта пачало засланяць дзеі сапраўднасці, пачало мітусіць свядомасць, зацягваць яе туманнаю плёнкаю. Але фурман паварушыў плячыма, узмахнуў доўгаю стасінаю і кінуў:

— Н-но!

І гэтае «н-но» прарвала сплеценую павуціну заслоны. Яго цвярозасць прабілася наскрозь, туманная плёнка павісла абарванымі кавалкамі.

Тады захацелася яму гаварыць з кім-небудзь і гаварыць што-небудзь жывое, бойкае. Але ён не пачаў услых.

Яму захацелася адысці са сваім разважаннем усярэдзіну свайго адчування.

...А сані ўсё скрыпелі. Часамі сыпаўся іней з навіслых над дарогаю прысад. Тады сані праходзілі па гэтых сняжынках сваімі тоўстымі палазамі і цёрлі іх крохкія, раўнамерныя шпількі, скрыпелі. Пад гэта скрыпенне ў яго думках адбывалася дзея з будзённага жыцця:

— ...Каб дзесяць хоць гадоў мне назад... каб мог я быць гэткім маладым, як яны... каб мог я гарэць гэтым юнацкім запалам, безупыннаю бадзёрасцю... каб я мог, эх!..

— О, якія яны шчаслівыя! Іх не вычарпанае мора энергіі саўпала і часам жыцця... І от таму яны шчаслівыя. Як бы я хацеў быць імі, маладымі, шчаслівымі сваёй маладосцю... О, як бы я тады з гордасцю, і нахлынутым шчасцем пазіраў на гэтыя тры літары — «КІМ»! Мілыя мае літары, добрыя мае!..

Гэтым часам з-за хмары, нібы з-за вугла, крывым рогам вытарк-высунуўся месяц. Глянуў на ніз, засерабрыў іней і зноў схаваўся за абскубены камяк сівой хмары. А ён — аграном з раёна Дзяніс Рыгоравіч Камлюк — разважаў далей:

— Прыеду і скажу, усё выкажу... толькі ці зразумеюць... Не, Харытон зразумее. Камсамольцы зразумеюць. Прыеду і скажу ім... Як я пачну?.. Трэба цяпер, пакуль еду да іх, зрабіць рэпетыцыю, каб там выразнасць і цвёрдасць была, каб не блытаўся язык... Таварышы,— пачну.— Не, не таварышы, а так з чагонебудзь... Усе пачынаюць з гэтага слова. Лепш от як пачну: — З надыходам вясны патрэбна ўзмацненне сіл на фронце «за ўраджай». Таварышы, патрэбна ачышчаць насенне ад усялякага бруду, патрэбна пратручваць насенне фармалінам, патрэбна ўмела пратручваць так, каб не перадаць фармаліну... Вось...

...А сані скрыпелі. Фурман часамі выкідаў з сваіх вуснаў свежае «н-но» і парушаў гэтым апрача саннага

скрыпу цішыню. А так усё навакол маўчала. Здавалася, маўчаў увесь свет, апрача саннага скігітання.

Дзяніс Рыгоравіч прыедзе зараз у Зарэчча, а там ужо будуць чакаць яго. Аб гэтым ён папярэдзіў Харытона — члена сельсавета — камсамольца Клімаўскай ячэйкі, што за тры вярсты ад Зарэчча. Будуць чакаць яго аднаго цэлы гурт людзей. Хто ж гэта такі ён адзін?! І Дзянісу Рыгоравічу стала неяк брыдка, што яго будзе чакаць ды цэлы гурт. А ў думкі зноў:

— ...Патрэбна пераходзіць на шматполле, на шасціполле, от! Патрэбна, таварышы...

— Н-но, каб цябе!..— кажа фурман і перабівае разважанні агранома.

Як кінастужка абрываецца ды скручваецца, так абрываюцца яго разважанні. Цяпер у яго думках:

— ...Поле. А на полі, на прасторным, шырокім, без межаў полі расце жыта. Каласы яго тоўстыя, бічастыя звіслі ад цяжару буйных зерняў. А зерні вытраршчыліся з-пад рэдкіх вусоў, як пачынкі, тоўстыя, з тупымі канцамі.

— Якое тут угнаенне? — пытае Дзяніс, едучы паміж жыта, па загумнічнай дарозе, у дзядзькі Лаўрэна, зарэчанскага гаспадара.

— От лубін быў, а вот на канюшынішчы частка! — адказвае той.— Расце патроху! — і ў яго доўгіх вусах хаваецца прыемна-радасная ўсмешка.

А вось і яна, Марына, Харытонава сястра. Якая яна спрытная і да чаго бойкая дзяўчына! Яна не задумваецца над адказам на пытанне, яна... Ах, якія ў яе бровы! Бровы як вугаль: чорныя, чыстыя. Яна ідзе. Яна некуды пайшла ўперад. Размашыстая такая паходка. Эх, каб хоць колькі-небудзь, каб назад вярнуцца ў маладое, вечна рухомае, безупыннае, нястомнае жыццё.

І рып саней усё ж узяў канчатковы верх над чалавекам. Іх скрып быў штораз мацнейшым для яго ўспрымання. А нарэшце ён перайшоў у музыку цэлага аркестра, а потым, паміраючы, паступова рассыпаўся на дробны шрот, расцёрся на сухі парашок і знік невядома дзе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзяніс Рыгоравіч адчуваў і цяпер цёплую хату, а ў ёй перад ім — сяляне і сялянкі. Усе яны сядзяць на

лавах, а наперадзе іх — Харытон. Усе слухаюць яго, Дзяніса Рыгоравіча, аднаго чалавека. Слухаюць і матаюць сабе на вус, а ён кажа:

— Канюшына мала таго, што корм дае, дык яшчэ ўга колькі ад яе і іншай карысці: яна на карэннях мае ўгнаенне!..

— Але ж канюшынішча заворваць цяжка! — нехта дадае з сялян.

— Для гэтага непатрэбна запушчаць яго! — кажа далей аграном.— Скасіў і адпусціў атаву, зноў скасіў і зноў адпусціў гэтую самую атаву і яшчэ раз скасіў...

— Ніколі гэтага не бывае, каб па тры разы,— заварушыліся ў гурце.

Але ён кажа далей:

— Таму не бывае, што дагляду няма. Не трэба пускаць жывёлу на маладую, на асеннюю першую атаву. А то ў жывёлы капыты вострыя, вось і выбіваецца яна маладая з карэннямі... Дык і яшчэ раз можна касіць. А налета, цераз зіму, скасіў дый заворвай. Лепш заворваць з атаваю, канешне!..

А ў хаце накурана, дым пасмамі расцягваецца, плыве і вісне, як іней, на сценах, па століі. Харытон сядзіць побач за сталом. Пільна сочыць за выразам твару Дзяніса, а ён, Дзяніс, раўнамерна кладзе на стол раз-пораз свой кулак і гаворыць:

— Выстаўкі абавязкова патрэбны. Мы павінны ісці навыперадкі, каб падняць свой ураджай, а падняць мы павінны яго, што б там ні было! А хто павінен быць першым? Вось яны, канешне, яны! — і ён паказвае на камсамольца Харытона, на дзяўчат, якія, сабраўшыся ў гурт каля акна, слухаюць яго, глядзяць на яго вусны, адкуль плывуць гарачыя словы.— Яны,— кажа Дзяніс Рыгоравіч,— сіла! Яны — закалец, маладая безупынная бадзёрасць, нявычарпаная сіла, вот што!.. Таварышы,— звяртаецца аграном да сялян і сялянак,— я, можна сказаць, на гэтым, таварышы, і скончыў!

Але Харытон устае з-за стала і кажа: «Мужчыны, ша! Мужчыны і жанчыны, пачакайце!» — і, абапёршыся пальцамі абедзвюх рук на стол, пытае:

— Чулі? Чулі, што казаў аграном, га? Ну дык от то-та ж?

Яны разыходзяцца. Адчынілі насцеж дзверы і выходзяць, а пара белая і густая ідзе ў хату праз дзверы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Таварыш аграном, а таварыш! Уставайце!

І ён, Дзяніс Камлюк, падняў галаву.

— Што? — перш не зразумеў і пачаў праціраць вочы. Але фурман, які злез з развалак і стаяў цяпер каля іх, казаў:

— Трэба ж вам, васпан, так разаспацца... Ледзь раскатурхаў! Злазьце, можа, змерзлі... Пойдзем у хату, прыехалі ўжо. А от і падыходзіць нехта да нас!

І да развалак падышоў Харытон.

— Добры вечар, Дзяніс Рыгоравіч! — сказаў ён.— Мы ўжо сабраліся. Думалі, мо занятыя вы, мо не прыедзеце... Мы вельмі рады!..

— Добры вечар! — раскатурхаўся Дзяніс Рыгоравіч і, падаючы-ціснучы цёплую руку Харытона, сказаў: — Я таксама рад!

*1929*

## АДСТУПЛЕННЕ

Дзядзька мой, Тодар, барануе грэчку. Барана такая шырокая ў дзядзькі, што аж дастае мяжу дзядзькі Рыгора, а з другога боку — мяжу майго бацькі. Я пасу нашу Машку на сценцы і думаю сам сабе: «Не мог Тодар зрабіць вузейшае бараны. Усю мяжу нашу абдзярэ бакавым заднім жалезным зубам».

Машка смачна шчыпле дзятлік, і я пераводжу мае думкі на яе мызу. У Машкі вельмі мяккая мыза. Яна спрытна глэмае, мусіць, смачны дзятлік.

А надвор'е такое ветлае... Учора пад вечар крапіў дождждык — бацька казаў, што пойдуць грыбы расці. Мне не вельмі-то хочацца стаяць на сценцы. Вельмі ж марудная работа, гэтая паша. Ды калі яшчэ, чую я, вунь дзе, на Цітавым узгорку. Цітаў Сцёпка з Амяллянавым Ванькам качаюць кацёлку...

«От бы я загнаў гэтага Амяллянчыка з кацёлкай... аж пад самае балота»,— думаю я. Але раптоўны грукат перапыняе мае думкі.

— Ці не абоз гэта едзе? — кажа мне дзядзька, адкідаючы барану на завароце.

— Хто яго ведае,— кажу я,— можа, і абоз.

Калі дзядзька Тодар пытае ў мяне пра абоз, я сморгаю нашу Машку за вобраць: хай бачыць ён, што Машка ў мяне не разбазырана.

— Еш, еш...— кажу я Машцы, і мяне апаноўвае злосць на дзядзьку Тодара. Ён, калі адкідаў барану — зачапіў палавінаю бараны за нашу мяжу і адарваў ад яе цэлы кавалак. Я спрунжыніў мае губы — сплёўваю ад гэткай работы, ды сам сабе думаю:

«Стары чалавек, як малы ўсё роўна...»

А грукат яшчэ большы чуваць за Карповічаваю кудзяркаю.

«Гм...— думаю я,— няўжо ж гэта абоз?»

Але мяне перапыняе старая Марыся:

— Цышка, Цышка... Цышка,— чую я, як на ўвесь голас кліча Марыся сваю перапёлістую свінню.

«Мусіць, недзе ці не ў грады ўвабралася,— падскоквае да мяне думка.— Нямашака на яе белых палякаў...»

Праз усе гэтыя дні ішлі белых палякаў абозы. Мой бацька казаў, што ім вельмі зрабілася крута. Бацька казаў, што іх і вунь як прышпічылі нашыя чырвоныя армейцы. Дык яны як мага праз усе дні валам валяць па гасцінцы. І пазаўчора ў дзядзькі Флёркі забралі рабога парсючка. Як плакала ды як прасіла Флёрчыха ў іх, каб не бралі... У іх жа быў толькі ён адзін як на развод.

Да чаго белыя палякі не бяруць на ўвагу, калі хто плача.

І я сморгаю Машку за вобраць:

— Скубі, скубі,— кажу я на Машку ды пазіраю, чаго яна паюдзіла свае вушы.

Аж раптам:

— Садзіся!..— чую я, крычыць мне дзядзька Тодар.

Я не разумею, чаму ён крычыць мне «садзіся»?

— Садзіся! — на ўвесь голас крычыць дзядзька.

Тады бачу я, як спрытна адчэплівае ад бараны пастронкі ды сядае на свайго каня. Я зразумеў цяпер, што і мне ён кажа, каб я садзіўся.

— Куды ён?..— пачынае свідраваць мяне думка. Але не паспеў я падумаць гэта, як бачу: да нас імчыцца на кані белы паляк.

Увесь ён вельмі ж прыбраны: з шашкаю, з лярворварам, са стрэльбаю.

І я зразумеў: дзядзька Тодар крычыць, каб мы ўцякалі. І мне адразу падумалася, што ён хоча забраць нашу Машку і дзядзькавага каня.

Праз усе дні гэтыя, як ішлі белыя польскія абозы,— мы хаваліся на балоце. Нашы коні вельмі нават не баяцца балота; найболей наша Машка... Яна табе па самае чэрава ўлезе аж у самую твань і будзе мянціць павітуху.

Мой бацька кажа, што гэта залатая кабыла...

— Стой... стой! — на ўсё поле крычыць прыбраны белы паляк. А мы — як не чуем. Я цяпер вельмі моцна трымаюся за Машчыну вобрацъ. На ўсю выскачку ляціць Машка. Я з усяе сілы тузаю вобраць, каб яна яшчэ мацней бегла. Вось-вось, здаецца,— дагоніць мяне белы паляк. У мяне аж ёкае сэрца, што не будзе тады нашай Машкі.

— Нну-у-у! Ну-у-у!..— цісну я, стукаю босымі нагамі па яе цёплых баках. Ну-у-ж!..

Але што ж гэта?.. Мы раз'ехаліся з дзядзькам Тодарам. Ён проста паехаў, а я падаўся ўбок. Я цяперака еду — па сабе. І я не чую цяпер за сабою белага паляка.

Каля канавы — хлопцы з нашай вёскі: Лаўрэн Тадэвушаў, Максім Крупнічак, Пахом Цітаў, Лявон Анупрэйчык... І яшчэ — незнаёмыя нейкія. Мусіць, ці не з Балотца. У іх таксама ляворвары. Мяне — пакуль я адразу не пазнаў быў — аж страх працяў. (Потым я ўжо здаўмеўся, што яны хочуць падсцерагчы белых палякаў.)

Гарыць агонь, і мы ўсе вот гэтак каля агню. Аж нават неяк весела. Дарма сабе, што няма як, праз белых палякаў, ісці дадому.

— Маладзец,— кажа мне дзядзька Тодар,— маладзец, што не ехаў за мною, а раз'ехаўся.

Цітаў Пахом кажа:

— Табе ж трэба было адразу падумаць: удвух будзеце ехаць — абодвух можа злавіць белы паляк. А так — аднаго каторага.

І мне аж весела, што сцяміў я ды раз'ехаўся па сабе.

— Каб польскі ахвіцэр паехаў за ім (гэта, за мною),— кажа Лявон Анупрэйчык,— злавіў бы.

— Не вельмі...— кажу я.— Машка мая бегла на ўсю сілу.

— Злавіў бы,— паддакуе адзін з незнаёмых.

А я сам сабе другое думаю, толькі не хачу ім ісці больш на перакорлівасць.

— І вышлася яно, маё малое, што мы ад польскага ахвіцэра ўцяклі,— кажа дзядзька Тодар.— Калі раз'ехаліся — ахвіцэр паехаў за мною. Убачыў, што конь лепшы ў мяне (вельмі ж порсткі мой конь). На выскачку ехаў я і каб трохі — да самага б балота. Саўсім крыха заставалася, каб даехаць, як — скінуўся быў з каня. Тады бягом пабег, не пусціў каня з рук. І ўжо — вот-вот — ахвіцэр наехаў. А я адразу і пайшоў па балоце з канём. «Стой, стой!» — крычыць ахвіцэр. І ўсё цэліцца, каб выстраліць. Пстрык, пстрык, а яно і не страляе.

— Патронаў не было, бадай,— заўвагу зрабіў Цітаў Пахом.— Не было б цябе ўжо, Тодарка!..

— Мусіць, што не было патронаў,— кажа дзядзька.— Я нават і не меў на вуме, што ён будзе спробу рабіць — страляць у чалавека...— Дзядзька Тодар палажыў на агонь галіну ды гаварыў: — А з каня свайго, ліхі гад, не хоча злазіць: капытуе поплаў — хоча, каб ехаць за мною на кані, па балоце. Дык дзе ж то відана — такі-то сухапутны конь і ні блізка... На дыбкі становіцца.

І калі дзядзька Тодар гаворыць нам усім,— мы чуем, што нехта бяжыць да вогнішча. Я гляджу на Цітавага Пахома, а ён папраўляе рукою за пазухаю лярворвар. (Каб ён не вытыркаў.)

— Што робіцца!.. Што робіцца!..— сіпатым, ціхім голасам кажа, падбягаючы да вогнішча, Мікітава Зося.—Усё дашчэнту ачысцілі,— кажа яна да дзядзькі Тодара,— усю адзежу, да рубчыка, забралі. Палатно забралі. Гэта ж за тое, што ты ўцёк. Смусь падказаў, дзе ты жывеш... Мы ж усе бачылі, як вы ўцякалі.

— Смусь думае, што ён будзе векаваць солтысам,— кажа са злосцю дзядзька Тодар.

Лявон, здаецца, аж хацеў скамячыць свой лярворвар.

— Яны казалі нават,— кажа Зося,— падпалім тваю хату. Іх жа поўна вёска. Адступаюць і адступаюць, без канца...

І калі я слухаю, як апавядае Зося — у мяне вунь якая ўздымаецца злосць на польскага ахвіцэра.

Па-першае, што гэта,— хіба яго коні? А па-другое, хай ён сабе ведае, што і ў дзядзькі Тодара, і ў майго бацькі магла б застацца без коней непасеянай грэчка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніцаю Лаўрэн Тадэвушаў, Марцін Крупнічак, Пахом Цітаў і вельмі ж шмат незнаёмых з ляворварамі (як потым я даведаўся — гэта былі партызаны) сустрэліся каля старых бяроз, што за нашаю вёскаю, з чырвонымі армейцамі.

*Чэрвень, 1932 г.*

## ПРЫСАДЫ

Міхалка не мог дачакацца Андрэя. Тупаў каля маладога саду, рукі цёр ад сіверу, а таго Андрэя не было.

— Чалавек...— бурчэў сабе пад нос Міхалка Белячок.— От жа мешкаваты чалавек. Можна было справіцца за гэты час дзесяць разоў...

Вецер, здаецца, наўмысля злаваў Міхалку: быў вельмі ж золкі, халодны, як тое жалеза. І, бадай, таму быў золкі сівер, што ішоў ён з рэчкі Галай, з поўначы.

Малады калгасны сад — вось жа ён — над крутым берагам рэчкі. Можа, трыццаць якіх крокаў ад саду да рэчкі. Некалі быў тут агарод фальфаркоўца Пліса. Агарод быў абсаджаны ад рэчкі ліпамі, між ліп сустракалася часамі і бяроза.

І ўсё гэта было ў Плісавых руках аж да самай рэвалюцыі. А прыйшла рэвалюцыя — адабрала ад Пліса ўсю зямлю з прысадамі, з хараством, ды аддала ўсё гэта карзюкоўцам у рукі. (Пліс недзе скруціўся.) Толькі карзюкоўцы,— яны і самі не ведаюць, куды дзеліся, куды зніклі прысады. Зямля вось засталася, агарод застаўся; і на гародзе гэтаю вясною пасадзілі малады сад; а прысады — нібы іх у адну навальнічную ноч некуды знесла бураю. Бо гэта ж так даўно было... Нават калі сказаў гэтымі днямі Міхалку брыгадзір Банэдзік, што трэба засадзіць ад рэчкі прысадамі, той ажно лыпнуў вачыма.

— Як жа гэта... Навошта тыя прысады!

Чамусьці здалося Міхалку, што прысады растуць там праз увесь час. Але ён не дагаварыў быў сваёй думкі.

— Дапраўды,— успомніў ён,— не відаць нешта такі тых даўнейшых прысад.— Ён паправіў тады на поўслове сваю разгубленасць і дагаварыў: — Але ж... гэта ж вецер дзьме цэлы год з гэтай Галай. А наш малады сад, канешне, можа вымерзнуць.

І вось яны ўдвух з Андрэем Верамейчыкам былі вызначаны на пасадку дрэў. Учора і пазаўчора яны ўдвух капалі ямкі і клялі тых людзей, што пазразалі такія-та ліпы.

Прыселі былі — Андрэй на старым ліпавым пні, а Міхалка каля Андрэя на кукішках,— круцілі папяросы ды:

— Я памятаю,— казаў Міхалка, закручваючы канец папяросы,— тут вось такая, такая была ліпа! Гладкая і тоўстая. Адзін не абдымеш. Мусіць, нехта зрэзаў яе на начоўкі.

— Ёсць што гаварыць,— даючы Міхалку прыкурыць, казаў Андрэй,— усе яны былі адна ў адну. З іх і начовак нехта нарабіў, і дыляў [1] навыразаў.

— Дзіва што навыразаў! — выпускаючы праз нос збэрсаныя пасмы дыму, сплёўваючы асеўшыя на губе карашкі, праказаў Міхалка.— Дылі... ого! З ліповых дыль які можна зрабіць тапчан. Унь у Ахрэмчыка ліповы тапчан, жоўты, як жаўток. І ніколі не пацямнее.

— Каб ён жытла не ведаў, хто гэта пазразаў! Дай жа ты рады... Каб яго рэзала рэзь! Пакуль жа яны цяпер вырастуць!

— Вырасці-то вырастуць. І яшчэ, ведаеш, лепшыя як былі. Мы іх пасадзім — будуць адна ў адну! Толькі вось адразу не будзе зацішна саду нашаму...

— От, ёсцека ж на свеце ўсякія злыдні!

— Уга! Яшчэ ж і якія!

Памаўчалі. Сівер дзьмуў з рэчкі. Восень ужо зусім смела хадзіла каля рэчкі Галай. Галлё пад нагамі, лісты — усё было мокрае. Гэта ж цэлую ноч быў надакучлівы золкі дождж-імжак.

Першым узняўся на ногі Міхалка. Ён тужэй зацягнуў па сваёй салдацкай ватоўцы папругу, нязручна неяк крутнуў рукой у паветры, праказаў:

[1] Дылі — двухвяршковыя дошкі.

— Каб застаў такога чалавека... я такога б гада на дзесяць год!

Узняўся з пня таксама і Андрэй. Кінуў акурак на мокрае лісце, скрозь зубы сплюнуў ды:

— На дзесяць не на дзесяць, а на пяць год упёк бы.

Акінуў цэлы шар выкапаных ямак — нібы зважыў сваю сілу, што аддаў на гэтыя ямкі, дагаварыў:

— Такога чалавека лепш за ўсё — самасудам. Прыпільнаваў, злавіў, адняў глузды і няхай тады сохне, як гэты пень! І больш нічога!

Прайшло ўжо, бадай, больш гадзіны, а Верамейчыка Андрэя ўсё ж не было. Міхалка, чакаючы яго каля ямак, зусім змерз. То сюды, то туды тупаў каля ўчарашняга пяску, рукамі разводзіў — зводзіў, як малады фізкультурнік, і не мог сагрэцца. Ён агонь расклаў бы, дык было тры запалкі — галоўкі пазлятвалі. Мусіць, адсырэлі.

Ужо плюнуў на ўсё Міхалка халоднаю злосцю — ісці хацеў дадому, у калгас: «Хай тады адзін садзіць!»

І нават ступіў, азіраючыся, некалькі крокаў — аж едзе Андрэй. Вунь паказаўся ён з-за ўзгорка з маладымі прысадамі.

Маладняк на прысады капаў Кандрацюк з Рыгоравым Лявонам у Грабеншчыне, і Андрэй паехаў па яго. Тут жа паўгадзіны язды, а ён немаведама дзе прападаў. Як паехаў Андрэй па прысады, Міхалка яшчэ унь колькі быў на калгасным двары. Конюх Лаўрык чысціў каля канюшні жарабца Ляха, а Міхалка да яго зайшоў, закурыў. Гаварылі тое-сёе... Пра кабыліцу Муху, што добрае будзе племя ад Ляха, пра грузавік, што прыбыў для калгаса на шаснаццаты раз'езд. Потым пайшоў Міхалка павольна да гэтых ямак і вось...

— Дзе цябе трымала тое, нядобрае? — яшчэ здалёку, калі пад'язджаў Андрэй, накінуўся Міхалка.— Гэта ж можна было за гэты час з'ездзіць аж у Анупрова і назад прыехаць! От жа чалавек!

Андрэй пад'ехаў да самых ямак, злосна смаргануў каня, астанавіўся.

— То трэба было самому ехаць, калі такі спрытны. Стой! — крыкнуў ён на каня ды больш заспакоеным голасам.— Прыехаў, а яны ж не накапалі. Яшчэ трэба было выкапаць тры штукі. А потым усклалі, выехаў з лесу, гляджу — рэхва... Скінулася з кола рэхва. Добра

што агледзеўся. Дык пакуль узагнаў яе збольшага каменем...

Міхалка кінуў беглы позірк на кола, ступіў двума крокамі да Андрэя:

— А табе трэба было запрэгчы ў новую драбінку, а не ў гэта стар'ё.

Пераступіў з нагі на нагу і з большым задорам:

— Ты тут яго чакай, а ён майструе старое кола! А што ж тады будуць рабіць нашы кавалі?

Падбіраючы лейцы, завязваючы іх за паўшоры, Андрэй не сцярпеў:

— Няхай сабе і старое, але гэта ж мае калёсы. А я не хачу, каб мая снасць была без дагляду?

— Што твая, то твая,— з усмешкай праказаў Міхалка.— Я добра памятаю, як ты, будучы аднаасобнікам, фарсіў на ёй. Бывала — дзве лёсткі з аднаго боку, паўтары лёсткі — з другога... без перадка, без задка — пыл ажно курыць! Але якая ж яна цяпер твая. Тым больш што калгас паўстаўляў ёй новыя лёсткі. Хіба ты не абагульваў яе, ці што?

Андрэй разгубіўся:

— Пры чым тут абагульваў не абагульваў!

Ён раскілзваў Беляка, не ўзнімаючы на Міхалку вачэй, гаварыў:

— Няма табе чаго вельмі выскаляцца, як і на чым ездзіў я. Не вельмі ўжо і ты ездзіў... Ды і не думай сабе, што такая работа аднаго толькі каваля. Таксама — гаспадар!

Міхалка не адказаў. І ў гэтай маўклівасці Андрэю здалося, што ўзяў ён над ім верх. Тады яшчэ, нібы сам сабе, мармытаў пад нос:

— Гаворак тых колькі хочаш! Абы сход — кожны і гаворыць: трэба глядзець у калгасе, трэба даглядаць за ўсім-усякім. Адзін аднаму гаворыць. Лепш чым гаварыць, глядзеў бы...

Апошніх Андрэевых слоў Міхалка не чуў. Ён ізноў падышоў да кола. Нібы хацеў зрабіць праверку: ці сапраўды скідвалася рэхва і чаму яна скідаецца?

А рэхва была ўздзета на калодку кола касяком. Ведама, каменем узганяў яе Андрэй — нязручна было. Яна толькі для прыкляпу трымалася на коле. Ад яе колу не было ніякай карысці. Рэхва гэта і скінулася, мусіць, не з той прычыны, што рассохлася кола. Вось жа яна — ніт... Некалі была, відаць, знітавана не ў каваля,

не агнём, а дрылем — самадзельна, самім гаспадаром.

— Гэта ж мая рэхва! — нечакана ні для сябе, ні для Андрэя вырвалася з Міхалкавых вуснаў.— Дзе ты яе ўзяў?

Адзін аднаму момант пазіралі ў вочы. Андрэй першым зрушыўся з месца. Як быў на тым баку драбінак, перайшоў на гэты бок. Яго апанавала раптоўная злосць.

— Твая?! Як жа гэта твая? Гэта ж былі некалі мае калёсы і яна мая, а не твая!

Стаялі каля кола хвіліну, не зводзілі вачэй з рэхвы. Потым Міхалка не сцярпеў:

— Ён будзе мне яшчэ гаварыць! От жа — ніт. Я сам дрыляваў! Нават памятаю — не было падхадзячага цвіка для ніта, дык свайго хлапца пасылаў к Юзіку...

І раптам як узняў, так і абарваў свой голас. Нібы яму стала няёмка, што з-за гэтай рэхвы такая спрэчка, нібы нешта прыйшло на розум, успомнілася. Ён нават на цэлы крок адступіўся ад Андрэя.

— Твая, дык няхай сабе твая,— сказаў заспакоеным голасам.— Я ж яе ад цябе не адбіраю.

Такі раптоўны пераход Міхалкавай гаворкі не задаволіў Андрэя. Андрэй хацеў давесці, што няхай не думае Міхалка, нібы ён украў у яго гэтую рэхву.

— Што ты мяне вельмі робіш злодзеем, ці што? — сказаў Андрэй.— На якое ліха мне твая рэхва. Я яе, калі на тое пайшло, знайшоў. І тут вось... яшчэ калі былі прысады, пасвіў каня і знайшоў.

Па Міхалкавых вуснах прабег штучны смех. Ён адвярнуўся, ступіў да перадка драбінкі і пазіраючы на маладыя ліповыя дрэўцы:

— Ніхто цябе тым злодзеем не робіць. Чаго ты крычыш? Усё адно яна цяпер твая і мая. Падумаеш — ёсць аб чым гаварыць! Бяры вось, давай будзем садзіць!

...Цэлы дзень садзілі маладыя ліпы і больш пра рэхву не гаварылі. Гаварылі пра Пліса... якія некалі тут, у Пліса, раслі агуркі. Гаварылі пра рыбу... невядома, ці будзе ў гэтым годзе чысты лёд, ці будуць глушыць рыбу. І кожную гаворку пачынаў Міхалка. Пачынаў і на тым канчаў. Неяк не клеілася гаворка. Не было спрэчак альбо каб з пачатай гаворкі нарадзіліся новыя ўспаміны ці свежыя думкі.

А самым змяркканнем перад канцом работы, закурваючы, Андрэй сказаў, што гэты год у яго будзе ўмалотным:

— На сто сорак працадзён больш, як у мінулым годзе. От калі яшчэ з месяц працягнецца да гадавога падліку — наскрабу каля васьмісот.

— Каб я, гэтак як і ты,— утраіх ішлі штодня,— Міхалка ўставіў спачуваючае слова,— і ў мяне не менш было б...

І як і пра што б яны ні гаварылі, Андрэю ўсё ж рупіла рэхва. Яму хацелася ўвесь час проста і адкрыта сказаць Міхалку: «Што ты мне загаварываеш зубы. Ты, чалавеча, быў з канём, зразаў ліпу і згубіў тут рэхву. Ты думаеш, што ты разумны, а я дурань і нічога не разумею». Толькі ніяк ён не мог гэтага выказаць. Можа, таму не мог, што ён таксама быў вінаваты. І нават невядома, хто з іх двух больш вінаваты. Хоць Андрэй і не лічыў сваёй віны за віну, але ўсё ж яна непакоіла яго. Андрэева віна цяпер загарэлася тарфяною іскраю (не відаць, а пякучая) і тлела недзе глыбока ў яго нутры.

Было гэта, бадай, калі адлічыць гадоў з восем назад. Неяк пасля захаду сонца Андрэй навастрыў нож і выйшаў з хаты.

Па зямлі ўжо разаслаўся вячэрні змрок, а на траву пала раса. Густымі пластамі ўздымаўся ад рэчкі туман. Недзе ў чаротах рэчкі, а можа, у аеры трашчаў драч.

Андрэй ішоў паўз рэчку, поплавам, а як параўняўся з ліповымі прысадамі — спыніўся. На адным месцы прастаяў хвіліну, нібы лавіў невядомы, схаваны шорах чаротаў — глядзеў у адзін бок, у другі — слухаў. І калі пераканаўся, што ніхто яго не бачыць, хутка закрочыў напрамкі па густой траве да ліповых прысад. Ён нават і не заўважыў, што ішоў па высокай траве, што абрасіў калошы сваіх зрэбных штаноў да самых каленяў. Ён спяшаўся: «Хаця б хто не падгледзеў». А калі падышоў да першай ліпы, забыўся на ўсё. Андрэй любаваўся ліпаю. Яна была ў самым цвеце. Над ёю гулі вячэрнія хрушчы...

Андрэй яшчэ раз і яшчэ ўважліва агледзеў дрэва. Потым нож заткнуў за папругу, якой падперазаны былі яго штаны, сплюнуў на даланю, пацёр сліну і палез па гладкім камлі дрэва аж у гушчар лісцяў, цвету.

— Ах, якія хвацкія сукі! — рукамі мацаючы ліповую кару, цешыўся Андрэй.— Не сукаватыя, маладыя... З аднаго такога сука — пара лапцей!

Зручна ўсеўся на суку ды ў сваіх думках:

— Ні стуку ні груку... Ніхто нават і не падумае на мяне. Усё адно нейкі лысы чорт будзе спажываць гэтыя лыкі. А чаму не я?

За якую гадзіну Андрэй абадраў усе лепшыя сукі і, калі злез з ліпы, не паверыў сам сабе. Вельмі ж кідалася ў вочы ліповая бель у вячэрнім змроку! Здавалася, нібы нехта ўсцягнуў на зялёную, цвітучую ліпу шкілет нейкага вялікага звера. Нават на момант зрабілася жудасна.

Тады хутка пакруціў ліповыя луты ў вярчы. Цэлае выйшла вясло. Не раўнуючы як вясло тых кірмашовых абаранкаў.

Дадому ідучы, разважаў:

— З такога вясла... з такога вясла выйдзе дзесяць пар лапцей. А можа, нават і больш!

Вось чаму не важыўся Андрэй і выказаць Міхалку сваёй думкі. А віна Андрэева была большая за Міхалкаву, і вось у чым.

Карзюкоўцы тады абадраную ліпу заўважылі толькі праз два дні. Не было, мусіць, нікому патрэбы хадзіць у рабочы час каля прысад.

Перш-наперш убачыў белыя сукі Лявон Кірэйчык і сказаў Захару, а Захар Міхалку. Міхалка вельмі ж здзівіўся такой рабоце: «Як ні кажы — прысады ўсіх карзюкоўцаў». Плісава зямля, канечне, падзелена, а прысады — агульная маёмасць вёскі.

— Каб застаў такога чалавека,— казаў Міхалка,— скуру злупіць з такога чалавека і то мала.

Гаворак было на некалькі дзён. Потым усе гэтыя гаворкі ўлягліся. Ліповыя прысады хутка адцвілі, і лыка на іх не адставала. Падышла восень з сваімі замаразкамі, і рэчка Галая замерзла. Цэлымі днямі карзюкоўцы хадзілі па чыстым лёдзе ды глушылі даўбешкамі рыбу. І неяк у адну такую марозную раніцу Міхалка быў на рэчцы з даўбешкаю і здалёк заўважыў абадраныя сукі ліпы.

«Яна, напэўна, сохне»,— падумаў Міхалка і сышоў з рэчкі. Ён перайшоў мёрзлы поплаў і падышоў да самага дрэва. Нібы першы раз ён убачыў яго.

— От жа нехта абчысціў,— пазіраў, галаву задраўшы, на аголеныя сукі.— Ну і людзі-ы...

Думаючы так, Міхалка нібы збіраўся выратаваць ліпу — загаіць яе балючыя раны. (Памазаць сукі тар-

патынаю, абвязаць сукі рагожаю, замазаць глінаю сукі.) Бо вось жа надыходзіць зіма, і мароз без літасці будзе смактаць мядовы сок з голага яе цела.

Але ў Міхалкі былі другія меркаванні. Калі гаварыў думкамі сам з сабою, што сохне ліпа, і кляў чалавека, які абадраў яе сукі,— такімі думкамі цешыў сябе. Ён сціраў перад ліпаю сваю віну, якую меўся зрабіць.

Яшчэ з лета, калі першы раз убачыў яе, абадраную, паспела думка: «З такой ліпы, ах — начоўкі!»

Стоячы цяпер каля дрэва, Міхалка яшчэ раз і яшчэ акінуў сціплым позіркам ліповы камель. Ліпа была ў камлі вельмі ж гладкая. Камель быў такі, што аднаму не абняць.

«Каб толькі хаця не было дупла»,— меркаваў Міхалка, не зводзячы з яе сваіх вачэй. Яшчэ зірнуў і яшчэ: «Не павінна! Ліпа маладая! Я ж памятаю, калі яна была яшчэ падліпкам. Тут зямля тарфяністая, яе і выгнала».

Тады абышоў наўкол, зірнуў на самы яе верх, потым адвёў вочы на дарогу, што ідзе за былым Плісавым агародам, і ў сваіх думках:

«І надвор'е як наўмысля! Зямля мёрзлая, і ніякага следу. Та-а-ак... З яе можа быць... адзін рэз, два, тры... З яе можа быць чатыры кавалкі па дзве плашкі з кавалка,— васьмёра начовак. Ды не тое, што асінавых начовак, а ліповых!»

У тую ноч як наўмысля і вецер быў вялікі. Гуло ў камінах, а зямля яшчэ больш мерзла. І з той ночы першую ліпу прысад нібы знесла сіверным ветрам. Больш ніколі не палохала яна ўначы сваімі абадранымі гукамі.

Міхалка цяпер добра ведаў: канечне, ён згубіў рэхву, як рэзаў тую ліпу.

Колы Міхалкавай драбінкі тады патрэбна было перацягваць. І шына на яго колах чапалася. І рэхвы на калодках ледзь ліпелі. Калі не было маразоў — гразь была — замочацца колы, і нічога. А прыўдарылі былі маразы, зямля стала грудаю, рагляком. Дык недзе едучы раздрогалася, а тут зачапілася ў кустах і згубілася.

Праз увесь дзень Міхалка думаў:

«Пацягнула мяне нядобрая за язык! Нібы ў мяне хто пытаў — мая гэта рэхва ці не мая! На якое ліха яна мне як калгаснаму чалавеку патрэбна, хоць сабе і мая?»

Міхалка не ведаў, што Андрэй абадраў ліпу. Каб ведаў ён — малы клопат быў бы. Ды які клопат? Уся віна была б Андрэева. «Патрэбна было не драць, а ён бы яе і не рэзаў!» Міхалку проста рупіла: цэлы дзень Андрэй быў такім насупістым. Буркне слова, другое ды маўчыць. Міхалку ўвесь час думалася, што Андрэй, напэўна, мяркуе: «Міхалка рабіў бандарку, і ён пазразаў усе прысады на клёпкі».

Нават аж крыўда агарнула. Ён добра памятае: на другую ноч, як зрэзаў тую абадраную ліпу, нехта зрэзаў аж дзве ліпы. Тады была заварушылася ўся вёска. Гаварылі: «Трэба прыпільнаваць!» І Міхалка, канечне, не палез больш у гэту бяду. Бо і сапраўды хадзілі пільнаваць. Макась, што жыве каля Гіляра, дык хадзіў, каб ніхто і не ведаў. Яго цікавіла не толькі тое, каб злавіць чалавека, а каб і ведаць, хто мае такі спрыт. Потым Макась выехаў на настаўніцкія курсы, прайшоў тыдзень, другі — і зноў нехта зрэзаў дрэва. Пачалі менш гаварыць, нібы ў закон увайшло сяды-тады рэзаць па аднаму, па два дрэвы. А пакуль ішла маруднаю хадою зіма, ад рэчкі ачысцілі ўвесь бераг.

І нават зусім пакінулі дзівіцца.

Так і зніклі, невядома дзе дзеліся, ліповыя прысады.

... Калі збіраліся сёння садзіць прысады, і ў думках не было, што скончаць яны такі доўгі шар. Брыгадзір Банэдзік так і размеркаваў — «на два дні». Ім і самім не верылася, як гэта яно здарылася.

А яны садзілі прысады з нейкім нявыказаным імпэтам. Міхалка сваім спрытам хацеў сказаць Андрэю: «Ты думаеш, што калі я зрэзаў тую прысаду, дык я вораг для савецкай уласці? Яшчэ мы, гэтага, паглядзім!» Андрэя дык толькі крыху скрэбла сумленне: «Драў я некалі лыкі, а цяпер давялося садзіць. І пасаджу!»

Андрэй вельмі быў рад, што ні адной не зрэзаў прысады. Ад гэтага куды больш шчымела б цяпер сэрца. Не без таго: калі з'явіліся пні на прысадах — Андрэй у адзін вечар таксама хацеў паехаць. Ён думаў тады цэлы дзень. Але пад вечар пайшоў снег, і Андрэй вырашыў: «Паеду, нараблю слядоў. Нехта цэлую восень рэжа, а я за ўсё буду адказваць».

І не паехаў. Цяпер Андрэй проста дзякаваў першаму снегу, што ён затрымаў яго. Нечага на сэрцы чыстае сумленне. «Толькі ж вось гэтыя лыкі... Можна ж было лазы надраць, дык не!»

Зусім змерклася, калі Міхалка з Андрэем ехалі дадому. Конь ішоў павольным крокам. Лейцы аслаблі ў Андрэевых руках. Міхалка сядзеў на біле калёс. Абапёрся аб біла абедзвюма рукамі, нагой упёрся ў лёсткі драбінкі, другую — падагнуў пад сябе. «Каб не выкінуцца, калі дзе падскочыць кола на каляіне».

Змрок вечара згусцеў, як тое цеста. І скрозь асеннюю густату вечара блішчэлі толькі адны аганькі. Здавалася здалёк, што гэтыя аганькі — шматлікія ліхтары на нейкай вялікай чыгуначнай станцыі.

Яны пад'язджалі да свайго калгаса і маўчалі.

Конь спускаўся з гары ў лагчыну і хацеў бегчы. Андрэй напяў лейцы і, нібы з кпінкаю, дакорам, на каня:

— Ціш! Цішай! А то зноў пагубляеш Міхалкавы рэхвы!

Міхалка як сядзеў на біле калёс аж прыўзняўся.

— Няма табе чаго выскаляцца! — праказаў голасам вялікай крыўды,— я табе, можа, не Лявонаў Стасік!

Андрэй такі не даў каню разгону. Хамут налез на конскія вушы, а конь перабіраў дробным крокам, як на парадзе.

— Я і не выскаляюся...— праказаў безуважна.— Я ж кажу, што рэхвы слаба трымаюцца на колах.

Міхалка сеў на памост драбінкі. Яму хацелася заплакаць ад крыўды, як таму маломў дзіцяці. Ён сцяў зубы і прамаўчаў цэлую хвіліну. Потым узняўся — стаў каленкамі на голым памосце ды абуджаным голасам:

— Андрэй! Ведаеш што, Андрэй... Ну, я зрэзаў. Я, можа, і дарогу ўсім паказаў. Бо я перш-наперш зрэзаў. Я зрабіў пачатак. Тую зрэзаў, што нехта драў з яе лыкі. Нейкі недавярак абадраў яе, а я думаў, што яна ўсё адно ссохне...

Па Андрэевым целе прабеглі халодныя дрыжыкі. Як трымаў лейцы, смаргануў каня, нават крыкнуў на Міхалку:

— А хто ў цябе пытае?!

Конь іргануўся, а Міхалка абхапіў рукамі білы калёс і нейкім надламаным голасам:

— Як гэта хто пытае? Я, можа, сам у сябе пытаю? Я яе зрэзаў, і яна збуцвела, лежачы ў таку. Шашаль з'еў яе. А я сёння садзіў гэтыя дубчыкі. Я ў цябе пытаю: калі гэтыя дубчыкі вырастуць?

Андрэй здзіўлена азірнуўся на Міхалку. Ён проста

не хацеў чуць, слухаць таго, пра што думаў сам. Ён абярнуўся тварам да Міхалкі, сустрэў яго твар ды:

— Ці не звар'яцеў ты? Я ж кажу, хто ў цябе пытае? Навошта табе леташні снег?

— Не, брат, не леташні снег! Я не хачу, каб мяне мучыла сумленне. Не адзін я рэзаў прысады, а я сёння бачыў, што ты злуеш на мяне аднаго. Ты думаеш — я не чалавек, а той гад, якога мы ўчора клялі? А я нават скажу перад усімі калгаснікамі. Пабажуся табе, што скажу! Паглядзіш!

І ён змоўк.

Яны пад'язджалі да самага калгаса. Міхалкавы словы нават расчулілі Андрэя. Ён хацеў цяпер сказаць яму: «Не ты першы вінават, а я. Мая была першая віна. Давай не будзем успамінаць старых прысад, а будзем даглядаць за новымі».

Але ён не сказаў. І, можа, таму не сказаў, што конь рыссю ўбег у вішнёвыя прысады калгаснай вуліцы. А можа, таму, што выказаў Андрэй сваю думку і за сябе і за Міхалку. Гэта, бадай, праўда! Бо цяпер зусім лёгка стала на сэрцы, весела... Уз'едуць яны зараз на калгасны двор, а Міхалка, каго спаткае, першаму і скажа:

«Пасадзілі маладыя прысады, і няхай паспрабуе хто-небудзь кранудь хаця пальцам! Хай паспрабуе...»

Яны абодва цяпер маўчалі і, здаецца, бачылі:

Вось ужо і выраслі маладыя ліпы і як прыемна маладому калгаснаму саду! У сад не залятае нават шорах ветру.

Летні, сонцам заліты дзень. Цвітуць ліпы... Колькі, колькі вунь на ліповым цвеце пчол! Ліпы сляваюць танкаструннай музыкай. Кожны ліповы цвецік прымае дарагіх гасцей, частуе іх, усміхаецца сонцу! З маладых ліп, з сочных, капае пераспелае, асыпанае сонцам жыццё.

Сярод ліп — цвіце вясна!

А цень ліповы — мяккі, ціхі... Гэта цень з-пад дзявочых расніц! А потым вечар... Над маладымі ліпамі кружацца, наўзахапкі снуюць кросны майскія хрушчы. І зноў не змаўкае музыка ліп. Толькі яна цяпер была музыкай басэтлі, мяккай, як плюш...

*Сакавік, 1935 г.*

8. Зак. 1010



# МЕЖЫ

Аповесць

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

У бакоўцы, у каморы стары Пракоп доўга шныпарыўся. Куркішкамі ўспёрся над расклееным куфэркам. Перабіраў, бразгаў зборным жалезам. З аднаго боку ў другі перакідаў абы-якое, мала на што патрэбнае ламачча. Шукаў нейкае нітэркі ды некалькі дробных цвікоў-вухналікаў. Цвікі, як лягчэйшыя, былі параскіданы па дне куфэрка, былі змешаны разам з стар'ём. І ён лавіў іх па адным за іх тонкія дрынгалястыя спіны сваімі каструбаватымі, нязграбнымі пальцамі.

Некалькі нашчупаў вухналікаў, а нітэркі ніяк не мог знайсці.

А ў хаце Макрына кроіла кравецкімі ножнамі кужаль. Выкройвала пару адмысловых штаноў. Мармытала нешта сама сабе, пела.

— Макрына... Макрынка! Хадзі сюды,— пазваў

стары Пракоп.— Вазьмі сярнічкі. Пасвеціш мне. Ніяк не знайду... Каб яе нараду не было... Ліха яго ведае, дзе тут што.

І Макрына ўзяла з зымса запалкі.

Макрына от цяпер у мясаедзе — другі тыдзень ужо як пераехала ў Пракопаву хату. Яна замуж зайшла. За Пракопавага сына Яўгена. За спакойнага гаспадарскага хлапца. Стары Пракоп сказаў Яўгену:

— Даволі ўжо табе з ёю валэндацца. Няхай і людзі чаго не думаюць, не гавораць. Бяры ты ўжо яе, дый годзе! Бо няма ж каму і рабіць, чалавеча,— казаў бацька сыну.— А яна — працавітая дзяўчына. А гэта — галоўнае. Гультая возьмеш — ні табе спакою, ні табе атхлання не будзе. А яна, калі што якое,— за плугам зможа пайсці, за касою... Каб яшчэ калі, як Параска была дома — такое яно дзела: пачакаць можна б... А так — жаніся, нябож.

Параска — Яўгенава сястра. Яна неяк па восені, перад пакровамі, пайшла замуж у Камары. У хаце двух мужчын пакінула. Самім трэба было і варыць і паліць. Яўгену — во як падаспела да жаніцьбы! Ды і сам Яўген: — з год, мусіць, не спускаў з вока Макрыны.

— От, нічагусенькі сабе дзяўчына,— разважаў,— бацькоў не дрэнных... Вельмі ж бацька ўжо добры чалавек. У паблуд слова не кіне. Зараней — калі што якое — абмяркуе, праверыць і тады скажа: «Я нічога не знаю і не ведаю! Я малапісьменны чалавек. Мо яно і зусім не вартае і зусім дурное, што я кажу. Але паколькі кожны чалавек мае права казаць...» — І так заўсёды. Заўсёды другога лічыць вышэй за сябе. І от, бадай што, за гэта я яго страшэнна паважаю. Каб, здаецца, усе такія былі, свет бы ўраз перайначыўся. Іменна, людзі няхай надаюць вартасць чалавеку, а не ён сам сабе. Не тое што як другі — каторы любіць выстаўляцца, штосьці якаць: «Я! я!» У яе бацькі, Цімоха, ніколі не ўбачыш гэтага.

— Ды і Макрына...— далей разважаў Яўген.— Чаго ж там хацець ад яе: нябрыдкая з твару. Аднае вёскі: я яе як пяць пальцаў ведаю. Я, можна сказаць, прывыкаю да яе. Яна па бацьку пайшла. Яна такая адкрытая. Калі што — яна не будзе жмурыць вока. А з твару яна: зубы ў яе такія, як часнок, вельмі ж белыя. Голас такі звонкі, як сталь. Калі запяе «Сонца

нізенька, вечар блізенька» — проста слухаў бы... Аж пераліваецца ўсё, аж дрыжыць... Рухавая такая. Не патрэбна будзе катурхаць. Сама сябе дагледзіць, мяне дагледзіць. А жаніцца — час. Гады, тым часам... А брат, мусіць, не вернецца...

Яўгенаў старэйшы брат, Гіляр, трэці год як з ламавіком-аўтамабілем працуе. Служыць за шафёра. У вайсковай службе навучыўся. Восьмы год як жанаты. На вайсковай службе і ажаніўся. Узяў сабе нейкую бежанку родам з-пад Вілейкі. Калі скончылася вайна, заехаў дадому, як у госці. Так і застаўся на чыгунцы. Нічагусенькі сабе жыве. А яно і дома можна было б жыць, хоць і не поўны надзел на іхняй гаспадарцы: Пракопава сястра, як ішла замуж, дык прыданым адняла чатыры дзесяціны...

Калі зайшла Макрына ў каморку, цемень кінулася ў вочы. Ведама, як з хаты, дзе святло тышчыцца ў твар. А тут — безаконная каморка. Дык пакуль асвойчыцца зірк...

— Пасвяці ж ты мне, нябож! — сказаў стары, калі ўвайшла Макрына.— От тут пасвяці... Ліха яго ведае... Ніяк не знойдзеш вобмацкам. Усё тут перавернута дагары нагамі...

І ён бразгаў, перакідаў старое ржавае жалеза: старыя цвікі, сапсутыя замкі, зашчапкі, кручкі, завесы з адламанымі канцамі.

— От, каб яе немач...

А запалка дагарэла і — чуць не прыпякла пальцаў — стухла. Макрына пачала паліць другую. Мусіць, адсырэлі запалкі, ці што: не загарэлася і другая. Раз шарганула — агонь толькі бліснуў у цемені каморкі, а не загарэлася. Другі раз, трэці...

— Такі ж адсырэлі...— сказала скрозь думку. Пачала даставаць трэцюю запалку.

А стары Пракоп чакаў, пакуль запаліць. Чуў, як спяшаецца яна, каб запаліць. Шоргае, шоргае па карабку... Сапе — дыхае тугімі ўзрывамі духу.

«Добрая жонка...— падумаў стары.— Не варты ён яе. Прахвост — ціхі ж вельмі. Нюня».

Запалка загарэлася і асвяціла каморку, асвятліла яе поўны твар. Крамяны, млечны, ружовы, малады твар. Валасы разблыталіся і абы-як звісалі на смуглявыя бровы. І гэта так добра падыходзіла да яе!

— Пазлятвалі галоўкі,— сказала Макрына, гледзя-

чы на сапсутыя кінутыя запалкі.— Яўген браў з сабою, дык адсырэлі недзе ў кішэні.

— Ага...— міжвольна адказаў Пракоп.— Вось і яна — знайшоў — нітэрка,— вярнуўся да сапраўднасці.

Макрына не заўважыла міжвольнасці старога. Яна была затакавана, каб як лепей пасвяціць яму, каб знайшоў ён, не марудзячы, згубленую шрубу-нітэрку.

## II

Яўгена Бурцеліка выбралі ў члены сельсавета ад насельнага пункта вёскі Брод. І вось як.

Прыехаў той чалавек, што перавыбірае. Сабраліся ўсе ў Міхалкаву хату. Яго хата вельмі прасторная, вялікая. Пакуль галасаваць, ці за таго, ці за другога — ужо было вырашана.

— У што б там ні стала — Яўгена!

— Няма там чаго адвільваць!

— У хаце ўтраіх!

Па вёсцы гаманілі, што ніхто з іх, з Бурцелікаў,— уга! — ці цяперся — не служыў. Бацька як служыў некалі старастам, дык і ўсяго ж. Так што гэта яшчэ аж перад вайною. І таму — ужо ці цяперся падышла чарга. І ніхто за іх, за Бурцелікавых, не будзе выслужвацца.

А калі прыезджы для выбірання гаварыў цяпер нешта ў Міхалкавай хаце, а потым нешта перабіраў у стусе паперы і тады сказаў: «Будзем выбіраць»,— бродаўцы зразумелі. Яны зразумелі, што от іменна цяперака ім не патрэбна маўчаць. Бо калі будзеш маўчаць, зноў будзе тое самае. Зноў — адзін па дзесяць разоў будзе служыць, а другі — будзе хадзіць, пазакладаўшы ў кішэні рукі, як якісь асэсар.

І яны ўсе ў адзін мах:

— Яўгена!!!

— Не трэба хітрыкаў строіць, віхлець.

— У што б там ні стала...

Адзін канцавы Карпусь засупярэчыў:

— Можна, калі на тое пайшло, каго-небудзь і другога...

Але шум галасоў скамячыў яго словы. Змяў іх у тугі каструбаваты камяк. Потым яшчэ і яшчэ змяў, сцёр іх на дробны парашок і рассеяў нябачным пылам

па густа ўзагрэтым паветры, вымеджаным лямпачным святлом.

Прыезджы перш быў зморшчыўся і, як салёны агурок:

— Як жа гэта — адразу? Мо падумаеце, памяркуеце?

Але бродаўцы зноў:

— Абдумалі, абмеркавалі...

— Так што кожны няхай папабегвае...

— Няма чаго...

— То ж, то...

— Але ж, але...

Прыезджы хацеў вытлумачыць. Прыезджы казаў:

— Выбіраць трэба самага найсумленнага, самага найлепшага працаўніка. Так што глядзіце.

Бродаўцы таксама тлумачылі, казалі:

— Ён не злодзей.

— Ні з кім ніколі не задзіраўся.

— На пабягушкі ніякага сумлення такоўскага не патрэбна.

— То-та ж...

На гэтым і выбралі. Разыходзячыся з Міхалкавай прасторнай хаты, былі вельмі задаволены. Былі задаволены, што ў гэтым годзе «дапяклі» Бурцелікавым.

* * *

Калі са сходу прыйшоў Яўген, у хаце ўжо спалі. Ён чуў, як сапе яго бацька. Ляжыць на палку і нібыта выдзімае нешта шкляное, вельмі, вельмі тонкае. Яўген хацеў не слухаць сапення, але не мог. Калі ўжо чалавек накіраваў свой слых і ўлавіў першае — марудна перайначыць на другое: не хацеў слухаць, а чуў. Падышоў да ложка і — усё роўна.

На ложку ляжала, адкінуўшы даланёю ўверх руку, Макрына.

— Туды...— штурхануў сонную жонку,— разляглася...

Яўгена брала нейкая злосць. Сам не ведаў, якая і чаму. От нешта мітусіла, блытала яго настрой. Мо тое, што выбралі членам: мо, што моцна, выдзелена з цішыні, соп бацька? — І ён усё гэта неакрэсленае, нестасаванае ў адну форму, спаганяў на соннай жанчыне.

Калі штурхануў Яўген, Макрына нешта сніла. Яна

памыляла мяккімі санлівымі вуснамі, замармытала сама сабе, здала лёгкі ўздых і — зноў намеркавалася заснуць. Але да Яўгена падскочыла большая злосць.

— Кажу, адсунься, от бок...— мацней штурхануў, і яна прачнулася. Перш не разумела спрасонку — нібы злякнулася, а потым:

— А-ах, гэта ты... Яўген... Ужо прыйшоў. Ну, дык кладзіся. А-ам... А я так моцна спала. Накрывайся... Дай я цябе накрыю.

І Яўген усё роўна чуў, як соп-пыхкаў яго бацька.

Назаўтра Пракоп прачнуўся вельмі рана. Досвіткам пераплятаў лыкавы лапаць. На дварэ радзеў змрок. Спадала — некуды дзявалася — фіранка ночы.

А калі на вокны блакітным вэлюмам навісла ранне, калі ўсё больш і больш гусцеў яго блакіт, бацька сказаў сыну:

— Пойдзем у лес. Паробім з дзень, з два... Усё ж нейкі рубель, хоць на соль ці на што будзе.

Пракоп меў, як ён казаў, рубель пра ўсякае здарэнне, пра запас. Ён быў чалавекам ашчадным. Мала якія дні састракаюць чалавека.

— Бывае — скарынцы будзеш рад,— казаў стары.— Мала якая патрэба выдарыцца. Глядзіш — не сёе, дык тое, не сёння, дык заўтра можа адчыніцца — знайсціся якая прорва.

Канечне, калі Пракоп казаў «рубель», гэта не значыць, што іменна рубель, капейка ў капейку. Чырвонец-другі мог быць у Пракопа. Сотня рублёў магла быць. Гледзячы як да года, калі выпадзе які год. Ды ўтрымаць рубель, закінуць яго — умець трэба. Бо ён, «рубель»,— слізкі ж вельмі. От так і тышчыцца, от так і плыве з рук, немаведама куды дзяецца — знікае.

— Шмат патрэбна сілы зарабіць «рубель»,— казаў Пракоп,— больш, яшчэ больш патрэбна сілы, каб утрымаць, каб не вышчаўкнуўся з рук гэты «рубель».

І бадай што: мусіць, ні ў кога доўга так не здаралася «рублю» не бачыць «божага свету», як у Пракопа. Марудна было вышчаўкнуцца яму з Пракопавых рук, хоць і слізкі ён, як апараная апенька.

Яўген не ведаў, дзе кладзе бацька грошы, не цікавіўся. А ён пашыў адмысловы джгурык [1], прышыў тасёмкі і прывязаў на паясніцы на голым целе.

---

[1] Джгурык — мяшок, на падабенства як для носкі тытуню.

Перад выхадам у лес — снедаючы — нічога не гаварылі. Яўген нейкім насупленым быў. Не то злаваў, не то што. А бацьку — усё роўна. Нават не звярнуў увагі, не кінуў вокам. Чэрпаў нешта з міскі, як ні ў чым не бывала. Вешаў кроплі гэтага «нешта» на доўгія свае рыжаватыя вусы, на спрэс цёмную, як перамочаныя плоскуні, бараду.

Ужо ідучы ў лес, па дарозе (у лесе рабілі шныпры, шпалы, барылкі) бацька запытаўся:

— Што ж Анісь: мо зноў дурыў табе галаву сваім калектывам?

— Калі?

— Учора, што дзве гадзіны прабалабосціў каля варот?

— Ды не, каго выбіраць, саймікаваліся. Аб членах гутарылі.

— А каго ж выбралі?

Яўген не адразу адказаў, а ступіў некалькі крокаў.

— Чаго гэта ты неважта,— сказаў Пракоп,— насупіўся, як мыш на крупы?

— Нічога...— І, памуляўшы словам язык, выказаў: — Мяне выбралі.

— Цябе-е...— пераказаў, а не запытаўся бацька.— Хто ж гэта наважыў, каб цябе? Што ж гэта, гэнам, свет клінам сышоў, ліха іх матары. Сам от не пайшоў...

Ішоў за Яўгенам і бубніў:

— Дзе ні пайдзі сам — улезеш у бэту. Абязацельна, не каго другога, а цябе ўбэтаюць.

— Але ж каму-небудзь ды трэба быць? — уставіў клінам Яўген.

— Не ўмееш здачы даваць,— казаў Пракоп сваё,— кіслы ты ў мяне, нябож. Слухаеш розных Анісяў.

І пападаючы сваім следам у сынаў след, ідучы ззаду, недзе далёка, аж на самым цвёрдым дне сваіх дум, зусім другое: «А мо і лепей яно, што выбралі? Ліха яго бяры! Мала што якое бывае... Мо і лепей яно н-т-та-ак...»

## III

Вёска Брод з яе палоскамі-ўзрэхамі абкружана балотам. Доўгім, імшарным, цягучым, як сама смычайка на гэтым балоце. Для выезду ёсць грэбля. Гнілая такая, з вечнымі — прадаўнейшымі патарчакамі-раж-

намі. З вечна ўзмучанаю, бурбалістаю ад муты вадою. Канцы грэблі, найбольш ад Брода, вымашчаны і чым ні папала: пілавіннем, карою, стружкамі. З левага боку, ідучы ад Брода,— кладкі. Не адмысловыя кладкі, а, звычайна, выпадковыя. Тут ляжыць жэрдка, прызначаная для плота, ляжыць гнілое шуло — непатрэбнае, выкінутае гаспадаром, калі перасыпалася адрына або ток; тут ляжыць таксама і згніўшая, але для кладкі вартая азяродная рашэціна. Па ёй вельмі добра ісці: яна гладкая, абчасаная некалі. Толькі на яе дзірках, дзе былі зацягнуты некалі азяродныя жэрдкі, часамі можна зачапіцца нагою, можна чуць спатыкнуцца.

Вуліца ў Бродзе заўсёды каравая. Ці пагода, ці дождж — усё роўна. Кажуць, што бродаўская зямля такая. Кажуць, што Брод на крынічным месцы, таму і гразь.

Бродаўцы прывыклі да яе, ліпкай, густой, вечна ўзмешанай цяжкімі панарадамі, конскімі капытамі, чарадою вострых каровіных капытоў, авечых капыцікаў і свіных тупа завостраных лычоў. А яна, мяккая, чорная, калі праходзіў дождж, блішчэла застыўшаю шавецкаю смалою. Нібыта выліта была вуліца растопленай чорнаю лавінаю суцэльнага тоўста-таўстога пластакрыгі, і нібыта баяліся гэтай лавіны бродаўцы, каб не папячы аб яе сваіх босых ног,— абыходзілі каля платоў у адзін смелы след.

Двароў у Бродзе трыццаць чатыры. Хаты густа-густа. І так усе будынкі — сплецены, пераплецены, скілзаны-знізаны на адну доўгую тоўстую нізку. Таму і не дзіва, што бродаўскія жанкі, сабраўшыся ў гурт, часамі кажуць:

— У нас у Бродзе, як у вяночку. Жыў-жыў бы, здаецца, і паміраць не хацелася: ото ж, бок, хараство!

Так кажуць — лепш будзе — не бродаўцы, а іх прывычка кажа. Спрадвечная прывычка іх, так моцная, так звязлая! Прывычка чалавека — адно з мацнейшых сродкаў у свеце. І сапраўды,— каб раптоўна знікла гразь з бродаўскай вуліцы, яны б абалдзела сказалі:

— Як жа гэта?

— Мо яно і горш будзе?

— Без гразі-і...

Адзін другому гледзячы ў вочы, казалі-пыталі б.

Надзелы ў бродаўцаў ад «аслабаджэння». Па дванаццаць дзесяцін і без сенажаці. Сенажаць у іх — выган. Хочаш касі, хочаш пасі. А навокал выгану была панская сенажаць. Некалі пры надзеле так выпала яно. Старшынёю тады быў Макась нейкі. Пан з ім вельмі жыў добра. Ён з панам за гэта ў адну дудку іграў. Дык, бадай што, ці не толькі падбухтарыў яго пан нашчот надзелаў. Так што калі прыйшло «аслабаджэнне», калі пачалі наразаць бродаўцам панскую зямлю, Макась і пачаў даказваць і пачаў.

— Сорак дзевяць гадоў выплачвання,— даказваў Макась.— Так што, мае міленькія, мае даражэнькія,— казаў ён,— шалду-балду гэта. Так што глядзіце. Яно можна і больш нарэзаць і сенажаці і чаго душа захоча: на тое ж воля прыйшла. Але ж сорак дзевяць... Гэта ж вам не сорак дзевяць тыдняў, месяцаў, казаў. Гэта ж вам гадоў сорак дзевяць. Глядзіце. Бо калі што якое тугое з грашыма — з вамі не будуць, казаў, цацкацца. На чорта, на якую немач вам гэта балота-сенажаць? Шчот абы большы хочаце? А от, то з поплаву (з выгану), то канюшыны каторы насееш... Пражывіцё, як той казаў. Аднак жа дагэтуль, казаў, ніяк не мелі, ані рубчыка, і жылі — уга!

І ўгаварыў. Не згадзіліся браць балота-сенажаці. Каб менш было выкупу. Так і адышло, асталося пану. Напалавіну потым касілі. І гэтак цэлы век. Бо трэба было ўсё ж такі жыць. І жылі. Цвэгалі-жылі без свайго сена.

І толькі ў тысяча дзевяцьсот дваццаць першым атрымалі прырэзку па паўтары дзесяціны на гаспадарку. А гаспадарак цяпер не столькі, як пры «аслабаджэнні» было. Тады з дваццаці надзелаў складаўся Брод. Толькі чатыры надзелы не падзеленых у Бродзе цяпер. А так — то найбольш напалам, а то і на тры часткі раздзелен той ці трэці надзел. Палоскі во-во які-мі сталі вузкімі!

— Нічога не папішаш...— развакалі бродаўцы.— Навокал — балота. Не павялічыш зямлі. Не ўздымеш яе цвёрдага грунту з-пад доўга-доўгага балотнага кустарнага імху.

— Трэба як-небудзь меркавацца.

Так і жылі: меркаваліся і жылі на падзеленых надзелах. Толькі Карпусь канцавы ды Ярэма з Аўла-

сам — суседзі — ганарыліся шырокімі палосамі. Да іх любіў далучацца Пракоп.

— Няхай сабе ў мяне і не поўны надзел,— пад п'яную руку часамі казаў Пракоп,— але ж я, гэнам, не пазычаю хлеба. Што, мо скажаш, пазычаю?

— Не, не...— упрошваў яго той, да каго ён прыставаў, на каго глядзеў ён вачыма недаверлівасці.

* * *

Яўген чалавек мяккай натуры. Вельмі ж спакойны. Па ім — што хочаш, абы не зайшло за жывое. Абы не зачапілі яго чалавечага «я». Яўген у сваёй натуры роўны, як струна. Ён не тое што як у другога злосць,— не паспееш запаліць запалку. Быстрая такая. Ён вельмі ж з меркаваннем і ва ўсякай справе. Хоць стары Пракоп і кажа на яго гэтае «меркаванне»: «спрыту ў цябе, нябож, няма, вёрткасці», Яўген не крыўдуе на бацьку. На такіх раўнамерных людзей Пракоп кажа:

— Як мокрае гарыць: ні з павароту, ні з языка.

Яўген невысокага росту, але звязлы такі, карчукаваты, шыракаплечы. Блакітныя маленькія вочы. На губах — невялічкія, тупа завітыя, русыя, востраканечныя вусікі. Ён іх накручвае, хоць і марудна ўзяць іх кончыкі ў два пальцы. Яўген поўны з твару. На пераноссі, на самай седлавіне яго, рассыпаны кроплі, як на цецеруковым яйку, кропкі рабаціння.

Любіць Яўген прасторную вопратку. У яго — каб прымеў ён — кашуля не павінна нідзе датыкацца. Рукавы павінны быць без манкетаў. Каўнер — па штрыфлях.

Есці любіць Яўген, як і яго бацька, кіслую капусту, буракі. Рэдзьку з цёртым пер'ем цыбулі. Хрэн. Картофлю ў «мундзірах». Піць любіць бярозавы кіслы сок і хлебны квас. Мо затым і дужы Яўген, што любіць усё кіслае. Невядома. Яўгенаў бацька кажа:

— У кіслаце, у горычы — сіла і моц. Не ўсякі любіць горыч і кіслату, не ўсякі мае моц, сілу.

Яўген можа чытаць цэлымі словамі друкаванае і слібізуючы — пісанае. Сам, як быў малы, ахвоту меў, «праз сябе» навучыўся. Неяк хадзіў быў каробачнік, дык здачы не было ў каробачніка за куплены бацькам ножык-сцізорык. Дык бацька сказаў:

— Дай хоць чым здачу. Мо што для хлапца ёсць такое?

І каробачнік даў «Рускую азбуку». З яе і навучыўся. І як знайшоў усё роўна.

Пасля вельмі ж любіў чытаць дзесяцікапеечныя кніжкі. Абы на кірмаш,— што б там ні было, а купіць. Прачытаў, «Бову королевича», «Конька-горбунка», «Дедушкин колпак». Прачытаў «Историю одного ребенка» — пераклад з ангельскага — Альфонса Дадэ. А цяпер, калі вырас, калі «з'явіліся газеты», найбольш газету чытаў. Таксама з канца ў канец прачытваў, якія толькі былі, дадаткі да гэтай газеты. Цераз газету першы раз і даведаўся аб калектыве, аб камуне, аб гэтым гуртавым жыцці. А тут Аніська якраз навёрзся: прыйшоў з Чырвонай службы. Аніська сфармаваў, прывёў да парадку тое, аб чым даведаўся Яўген праз газету і чаго не мог угрунтавацца сваім розумам.

Неяк перад Парасчыным вяселлем Яўген бацьку свайму сказаў пра калектыў. Выказаў сваю думку; думаў, бацька сустрэне неахвотна. «Усё роўна ж старому,— разважаў.— Я ж хутка буду такім самым гаспадаром. І нават на мне будзе лічыцца гаспадарка. Калі падатак ці спіскі якія з сельсавета, дык не на «Пракопа Бурцеліка» будзе пісацца, а на «Яўгена Бурцеліка». Так што бацька стары...» Але стары аж пачырванеў ад злосці. З кулакамі, з пакамечанымі, кінуўся да Яўгена.

— Пасля маёй смерці, гэнам... хоць галаву звернеш з карку! Хоць у тры пагібелі, сабе, скруціш сваю галаву! Пасля маёй смерці, сукін сын! Я цябе скалектыўлю, я цябе вон выганю! Есці не дам! Мая гаспадарка! Мая! Чуеш? Што хачу, тое і раблю над сваёй гаспадаркаю! Разумееш? А можа, я перавярну дагары нагамі маю гаспадарку і нават нічога не дам? Не дам! Вот жа не дам! Басячыць ідзі. Гад!

Яўген маўчаў. Ён ведаў бацькаву раптоўнасць. «Лепей змаўчаць. А то — чым далей у лес, болей тым дроў». Яўген ведаў, што хутка пройдзе пыл бацькавай злосці. І сапраўды, цераз гадзіну напружанай маўклівасці Пракоп казаў. Стаяў каля стала, глядзеў на гурт выпушчаных Параскаю з падпечка курэй і казаў:

— Бачыш, як спяшаюцца. Кожная сама сабе. Так і ў калектыве ў тваім — адзін цераз другога будзе ха-

паць, каб пад'есці. А рабіць, як бог даў. Есці ўсякі зможа.

— Пры чым жа тут тое, што яны спяшаюцца,— абазваўся Яўген на астываючы голас бацькі.— Гэта ж, можна сказаць, птушка, жывёліна. Нашто ж меркаваць яе, неразумную, да чалавека?

— Ты вельмі розуму, гэнам, набраўся. Анісь цябе давядзе, давучыць. Усе вы, ліха вашай матары, разумныя на бацькавай шыі!

Сказаў і выйшаў з хаты. Выходзячы, хацеў бразнуць дзвярыма, але запаў слясак у дзвярах: Пракоп, тармосячы яго, прытрымаў дзверы. Так што размах дзвярэй адышоў дарэмна, звалтужыўся, расціснуўся без груку.

Пасля неаднойчай гутаркі пра калектыў, пасля таго як Параска пайшла замуж, хутка пасля Яўгенавай жаніцьбы, будучы ў кузні каваля Атрахіма, казаў Пракоп:

— Мой Яўген — адыхтар уся матка. Але ж усе кропелькі, гэнам, пазбіраў. Таей жа, бывала, хто што скажа — яна і згодна, яна і слухае. Верыць. Тут, гэнам, патрэбна людзей слухаць і патрэбна свой розум мець, а не то што. А то мужчына, мужчына... Які з майго Яўгена мужчына. Ажаніўся і тое, можна сказаць, цераз мяне. Каб не я, дык слова не мог бы абярнуць. Цялё самалёўскае.

Калі Пракоп вінаваціць Яўгена ў яго спакойнай натуры, дык не вінаваціць за жвавую натуру, за натуру — «сюд-туд» свайго Гіляра. Таму і любіць Пракоп больш Гіляра, чымся Яўгена. Так ужо, мусіць, спрадвеку яно: кожны любіць больш тое, чаго больш «свайго» знаходзіць у гэтым «тым». Гіляру зазлаваць — таксама, як і запаліць запалку. Але як запалка хутка згарвае, так хутка праходзіць і тухне яго гэтая злосць. А што лепей — ці вострасць характару, ці павольнасць,— невядома. Мо першае, а мо і другое. Бадай што абодва карысныя і адзін для другога. Бо: Пракопава рухавасць была аднойчы вінавата. Затое Яўгенава павольнасць цераз гэтае «вінавата» дасягнула сваёй мэты. Бывае ж так: дробязь, а вырашыць цэлую справу. Разблытае часамі ніколі не разблытванае, непадатлівае. Развяжа, зусім выпрастае канцы. Так што бяры толькі ў рукі гэтыя канцы, глядзі на іх і дзівіся.

## IV

Санная дарога яшчэ трымалася, але ледзь-ледзь. У лесе была нават дабраватая. Слізгавата толькі. Але на чатыры нагі кутыя коні не баяліся.

Яўген траляваў шныпры.

Яго конь быў куты на перад, але дарма. Конь не востракапыты. Ды насякаючы перадам, не так-то слізгаўся.

Быў нявыбеленага зрэб'я дзень. Пражаным бобам на скаварадзе — было неба. Пахла вільгаццю ў паветры. Пахла сырнягом хвоі ды елкі. Лес маўчаў. Здавалася, думаў нешта лес. Даўнейшае, глыбокае думаў. Так было зранку.

А з паўдня...

Хмарная плёнка, што засланяла блакітную глыбіню неба, то сям то там раздзіралася па цэламу, матлялася выбрызганымі абы-якімі кавалкамі, з'язджала на вастрыё кругавіду, чаплялася на верхавінах лесу, блыталася ў галлі і — нікла. Ніклі адзін за другім, невядома дзе дзяваліся яе смугалістыя кавалкі. Нават нейкі шум, адсюль-адтуль, пачаў збірацца, прабівацца скрозь зялёнае галлё хвой, недзе цвыркаў верабей, барабаніў сук па галлі,— падаючы далоў, збіў засеўшы па восені шышку. А над верхавінамі лесу закаркала адна-другая варона.

І неяк аж весела стала ў Яўгена на сэрцы. Ён, заўсёды маўклівы, абыякавы, седзячы цяпер на возе, на шныпрах, замармытаў-запеў:

Дзе ты, хмелю, зімаваў,  
Што не развіва-аўся?  
Дзе ты, хмелю, зімаваў,  
Што не развіваўся...

Конь лопаў заднімі капытамі-кубкамі аб заледзянеўшы снег, ішоў лёгкім вольным крокам. Шына саней церла ледзяшы ў соты раз на дробны парашок і аж да таласці, да вады.

Яўген, от гэтак седзячы на возе, выводзячы на гасцінец шныпры, перадумаў за цэлы дзень цэлую гару. Во колькі прамільгацела, прабегла думак у яго галаве. І рознага калібру. Найбольш мерана адкладаліся думкі сартыраванымі пластамі пра сваё жыццё, пра яго нядаўнюю жаніцьбу.

Толькі што Яўген разважаў:

— Яна такая добрая! Яна ото ўжо мяне шкадуе! Калі дзе едзеш ці ідзеш,— «Яўгенка, бяры ж ты хлеб з сабою. Глядзі ж ты, каб не быў галодны».

— Хаця ж, каб не быў...— сморгаючы за лейчыну, адводзячы яе ўбок ды спушчаючы па конскіх скабах, без нокання, разважаў Яўген.— Мая ты Макрынка...

Думаў далей, едучы, сам сабе: «Мо яна і не такая, думалася, як браў. А прывык — зусім другое ў галаву тышчыцца. Што-што яно значыць... прывычка. У прывычцы яно чалавек толькі добрае знаходзіць. А дрэннае — губляецца. Сціраецца добрым, як пыл сухою фанцінкаю. А яно ж, як ні кажы сабе, у кожнага чалавека, а якая-небудзь ёсцека вáда».

— Правей! — крычаў насустрач яму Аніся.— А то ўчапіцца можна.

Яўген размінуўся з Анісем.

І так кожны чалавек з сваімі думкамі: пакуль не стрывожыць што іх, плывуць яны аднатонна, як асеннія хмары. Плывуць, перабягаючы часам, забягаючы, выпярэджваючы адна другую. Датуль плывуць, пакуль вецер ці што не завернецца, не затрымае, не раздзьме іх на ўсе бакі. Так плылі думкі ў Яўгена. Яны былі пачыналі з канца, міналі сярэдзіну, ішлі-заходзілі далёка-далёка... І зноў варочаліся, і — усё па адной сцежцы.

А калі гэтае «што» напаткала іх, калі праехаў Анісь, Яўген пра яго пачаў разважаць. І так заўсёды самі змяняліся Яўгенавы думкі ў яго аднастайнай натуры. Яўген разважаў цяпер:

— Хітры чалавек. Малайчына.

Конь ішоў на павароце, а ён:

— Хоць хітры, ды разумнага не тасуецца, кажа мой бацька, але ж... ён і розум, як сабе ні было б, мае. З нічога, а паглядзі ты, як абжыўся. Адзін з жонкаю, дзеці як боб, а і ў заработках і дома... Спраўляецца. Зямлі — як старой бабе сесці... Эх, каб не бацька... Добра кажа Анісь. Сам гэта пачынаю разумець. Але што ты зробіш з старым... Ды калі чалавек уляпіць у што... Мой ты бацечка... Анісь у паблуд не скажа,— далей і далей у сваіх думках.— Гуртам працаваць не тое, што аднаму пэцкацца, марудзіць. Як сабе ні кажы, што сабе ні кажы — гурт. Ды калі, скажам, у цябе будуць малыя дзеці... Тады сілу сваю ўсю паложыш. Як на далонь, вылажыш сілу ды выкінеш за акно без

дай рацы. Не разагнеш рук ніколі. Закажанееш. Ні табе на хвіліну адхлання не будзе, ні табе... Што значыць, як бы сабе ні было, гурт!

— Н-но!

— «Гуртам і ў кашы спорна». Што гутарыць: калі б горай яно, не марочылі б людзям галоў. Людзі ёсць больш разумнейшыя за нас. Не казалі б, у газетах бы, яно, не пісалі... Ім жа, як той казаў, усё роўна. Што ім ад гэтага — холадна ці горача? Яны толькі дабра хочуць, от што.

І сам сабе глыбей у сваіх думках:

— Як будуць у мяне дзеці, ці спраўлюся я ці не? Цікава, якія будуць у мяне дзеці... І напэўна, калі цераз кожны год будуць і будуць, як у майго дзядзькі Ціта, не спраўлюся, мусіць. Гэта добра, што бацька мой крапок: шмат чаго памагае, хоць сабе і каля дому...

— Н-но! — пагнаў каня. Нібы засаромеўся сам перад сабою, перад сваімі разважаннямі аб дзецях. І от гэты патаемны сорам перайшоў у радасць, зліўся ў адзін камяк з мядзяна-серабрыстым днём, працёршым з-за хмар свае заспаныя вочы, нізка апаўшым сонцам. Таму і запеў Яўген і пеў, штораз вышэй і вышэй падымаючы голас:

Я у лесе зімаваў,
Ў лесе на тычы-ы-не.
Ў лесе, ў лесе на тычыне,
На самай вяршыне.
. . . . . . . . .

...А конь яго пярэднімі капытамі сваімі сек абледзянеўшы снег аж наскрозь, аж да мокрай зямлі.

* * *

Цэлую раніцу, як паехаў Яўген у лес, Пракоп замінаў каля печы. Ён то вымаў, то зноў укладаў у печ бярозавыя патарчакі — парыў вязы. Ён наліваў ваду ў выдзеўбаныя карытцы вязоў, грэў іх каля жару, збоку, ад самага поду. Макрына моршчылася, што замінае свёкар,— не дае варыцца, гатавацца гаршкам. Спатайка гэтак кідала сваё нездавальненне.

А потым — цэлы дзень амаль загінаў параныя чаўнакі Пракоп на капылы новых саней. На двары была гэтая праца, бо там ёсць дзе разгарнуць рукі.

Макрына ў гэты дзень мыла бялізну.

Сонца, як і Яўгену ў лесе, так Пракопу на двары — пырскала-рассыпала свае праменні; нібы хтось шпурляў з ветрам жмені залацістае пшаніцы-зімкі.

Пракоп увайшоў у хату. Стоячы ад парога на тры крокі, шырока, раўнамерна расставіўшы свае ногі, нібы збіраючыся штосьці цяжкае падпіраць, якое во-во павінна было рушыцца, скручваючы ў газетную паперу калівы пражана-жаўтаватых жылак, сказаў да Макрыны:

— Кінь мыць — ідзі: паможаш зрэзаць сечкі.

І, запаліўшы сярнічку, адтапырваючы вусы, каб не прыпаліць іх, прыкурыўшы:

— А то прыедзе з лесу намерзшыся. Дык ты ж ідзі... Я пайду скідаць акалот.

Выйшаў з хаты, выпускаючы рэдкія пасмы мыслінавага дыму. На двары млеў, плакаў буйнымі кроплямі прэснай вады, на падабенства падмокшага цукру, руды снег. Певень недзе на суседнім двары лапатаў крылламі, як падстрэленая качка на тоні. А цераз момант певень закукарэкаў. Куры гаманілі паміж сабою, разграбаючы конскі памёт. Яны былі глыбока затакованы сваімі справамі. Кожная з іх шукала нечага. Грэбла кіпцюрамі, выпучваючы ўперад напоўнены валляк, глядзела перад сабою асавелымі вачыма і тады зноў шукала, апускаючы дзюбу ў разбэрсаную кучу.

— А-кы-ыш-ш, каб вас нараду...— махнуў рукою без дай рацы, пералазячы цераз паркан. Куры стасаваліся, як малодкі-карты, а Пракоп пайшоў цяжкою важыстаю паходкаю да адрыны. Ідучы, кідаў паабапал свой зірк, нібы направа і налева садзіў-вытыкаў дарогу след для часу вялікіх снежных заносаў. Пракоп разважаў:

— У гэтым годзе шмат было снегу — ураджай павінен быць, трава павінна быць. Прошлы год быў даўся ў знакі: ніколі не было таго, каб купляць сена, купляць акалот.

І ўжо ў адрыне, скідаючы з падкладышаў снапы акалоту, зусім пра другое:

— Дзе ж яна?.. Чаму не ідзе яна?

Хоць і не бавілася Макрына, а думаў чамусьці. Бо не паспеў скінуць снапоў, як увайшла ў адрыну.

— Складай жа іх, гэнам, каля сячкарні,— сказаў злазячы.— Лепш, зручней было б, каб падаваць...

І ён пачаў класці ў карытца пруткую салому, раўнамерна рассоўваючы яе, запіхваючы яе колкія канцы ў зубы цыліндраў.

Макрына круціла пасавае кола. Рамы яго зліваліся ў рэдкую сетку, белую такую, квашаністую. Было відаць Макрыне цераз гэтую сетку, як нагінаўся Пракоп, давіў ручку чыгуннага колца, памагаў круціць адной рукою, трымаючы ў карытцы другою спружыністую салому. Нажы хапалі за канцы сплюснутай цыліндрамі саломы, адразу адсякалі іх раз за разам: густа-востра. Але от цішэй пайшло пасавае кола. Пракоп пачуў, як засаплася Макрына. Гэтым часам не была роўна размешчана салома ў карытцы, і Пракоп сказаў, выпускаючы корбу з сваёй рукі:

— Аддыхні... Перасапніся, нябож. Цяжка рэжа, каб яе нараду не было.

І Макрына абвяла кругом — раз, другі раз — дзеравяную ручку корбы. Сечкі набегла повен жалабок. Нагнулася адгарнуць, каб нажы не хапілі назад. А Пракоп прырыхтаваў да карытца свежы сноп.

Развязваючы перавясла, кладучы ў карытца, глянуў на зардзеўшы ружавізнаю твар Макрыны. Пусціў у доўгія вусы ўсмешку, схаваў яе там недзе далёка, далёка ў гушчары валасоў. І, не адрываючы зірку ад яе расістых, поўных, крамяных, выступіўшых на яе спелых яблычных скронях кропель поту, сказаў павольным голасам:

— Ну, як ты з Яўгенам?..— Адкрыта ўсміхнуўся, упэўнена кажучы: — Да душы ён табе?.. Прывыкла ты да яго?.. Бо ён такі ў мяне — целегаваты...

Гладзячы рукою раз-пораз скручанае перавясла, прыціскаючы канцы яго пад латачок, не спускаў позірку.

І яе скроні больш і больш раздзьмухаў яго гэты позірк, распальваў густы тлеючы жар. Тады залівала яна гэты жар апушчанымі вачыма, навесіўшы на іх выбрызганую чорную фіранку валасатых век. Не ведала, што адказаць, як адказаць яму на такую раптоўнасць, на такі пэнт.

А ў ім заварушылася нешта даўнейшае, маладое. Выплыла аднекуль капля гарачай іскрыстай крыві. Разбеглася па ўсім целе. Нібы паходні то сям то там запаліла-лупнула. Ударыла ў твар усім напорам. Запеніла, узбунтавала. Яшчэ і яшчэ шыбчэй пачала біц-

ца — горача стала. Тады нахлынула нейкая млявая асалода, найшло забыццё...

Яна адгортвала нагою дробную сечку, глядзела на яе сплюснутыя, плоскія, усечаныя калівы.

— Ты кажы мне... калі што,— сказаў напружаным голасам, ступіў ад карытца скрадзеным крокам.— Мо што такое... бывае ж такое... Бо я гляджу — а ты, бывае, як ні ў сім ні ў тым, як не свая...

— Нічога, татка...— сказала-абазвалася.— Яўген добры для мяне...— Не хацела зразумець. І зноў адгортвала блішчастыя калівы сечкі.

— Не ў гэтым сіла, што добры... дурная ты...— сказаў кранёным голасам.— А бывае тое, што і дрэнны. Добры і дрэнны, вось як яно.

І падышоўшы, нібы адграбаючы адгрэбеную сечку:

— Калі што-о якое... ты да мяне... Я яго, машэнніка, сукінага сына...— Узяўся за яе сваімі нязграбнымі пальцамі. Так моцна ўзяўся.

Атарапянела Макрына ад раптоўнасці. Як слуп стаяла, не разумела, не бачыла дробнай блішчастай сплюснутай сечкі. Крануў сваімі вусамі, густымі, доўгімі, яе тонкія, маладыя, ружова-млечныя вусны. Апамятавалася. Хацела з усяе сілы адштурхнуць.

— Та-ат-ка...— вырваўся крык з-пад яго вуснаў, абдаўшы іх жоралам агню.

Выбегла з адрыны.

## V

Яўген атрымаў з сельсавета паведамленне-паперку. На ёй было наверсе напісана і падкрэслена: «Бродаўскаму члену т. Бурцеліку Я. П.».

А ніжэй крышку і лявей пачыналася:

«Сельсавет паведамляе вас, што 17—IV г.г., роўна а 9-й гадзіне вечара, адбудзецца на вашым насельным пункце сход. Вам патрэбна апавясціць усіх гр. вашага пункту.

Яўка на сход абавязкова і без спазнення.

На чарзе дня будзе стаяць пытанне калектывізацыі і бягучыя справы.

Старшыня с/с *Патапчык*».

Яшчэ раз прачытаў паперку. Нешта радаснае адчуў. Несвядомае, а радаснае.

А ў думках чамусьці з'явілася і прайшло, як для

паказу: «Дзеці... Калі шмат дзяцей — добра, але ж і дрэнна...» — І зноў прачытаў, з невядомай радасцю, апошнія словы.

Бацька сядзеў каля стала. Меркаваў скурат да пераплеценага лапця. Глядзеў, як прыладзіць яго, падшыць. Потым пачаў працягваць доўгую тонкую аборку. І от ад першага разу неяк засмаргнулася яна. Тады пачаў блытацца. Падскочыла злосць, што замарудзіў, як конік-пстрыкун. А Яўген пад гэта, трымаючы ў руках паперу:

— Калектыў будзем рабіць. Прыедуць сёння з сельсавета, а не то што.

Пракоп разблытаў аборку. Глянуў на сына. Потым глянуў на пераплецены лапаць. Потым зноў паглядзеў на Яўгена і спыніў свой позірк на яго чакаючым твары.

— Ну, то што ты мне штокаеш? — сказаў Пракоп.— Што ты гэтым мне хочаш сказаць?

— Нічога. Я толькі кажу...

— Мне не патрэбны твае казалы. Раз я сказаў, сказана! Я гаспадар ці ты?

— Ну, дык што?

— Пакуль я гаспадар, каб мне па гэты раз гэтыя казалы. Мой бацька не еў з катла і мне не вялеў. Няхай гультаі, абібокі выціраюць халадкі, а я працаваў сам сабе, і ты павінен працаваць. Так што можна абысціся і без лындыкаў [1].

І беручы са стала лапаць, нібыта ён, лапаць, меў тут больш павагі, чымся сынавы словы:

— Пра гэтую камуну яшчэ ў першую слабоду адурылі галаву. А цяпер Анісь пераядае ёю вантробыпечані.

— Не камуну, а калектыў,— паправіў Яўген.

— Не кіем, дык паленам,— упікнуў бацька.— Не ўсё роўна лысы чорт.

— Іменна, што не ўсё роўна.

Тады Пракоп, моцна палажыўшы наводліў, з левай рукі, на лаву лапаць:

— Змоўч лепей! Не рассярчай мяне! От ім што: от гэткую ім вялікую, вя-а-лікую дулю... аж пад самы нос тваім сельсаветчыкам, разам з тваім Анісем.

— Якія гэта яны мае,— сказаў Яўген.— Гэткія яны і вашыя, як і мае. Я толькі кажу... Пры чым тут Анісь?

---

[1] Лындыкі, лындыкі біць — гультаяваць, нічога не рабіць.

— Глупства не патрэбна казаць. Табе гэты Аніс сваім калектывам адхлання не дае. А яшчэ і ў савеце набілі галаву, як мяшок амяляннем, дык ты і чаўпеш чорт ведае што! Хто ўжо з Анісем увойдзе ў гешэфт — будзе чалавек з таго: выйдзе антыхрыстам, недаверкам, бязбожнікам. Ён жа ніколі не перахрысціцца табе пад заклад. Папытайся ты ў яго, калі ён у царкве быў? Дык ты думаеш, з гэткага людзі будуць? Ён ужо сваю душу запрадаў чорту...

«Кіньце, татка, даўнейшыя забабоны»,— хацеў сказаць. Але з сянец пазвала Макрына і перашкодзіла ў спрэчцы.

— Яўген... Яўгенка,— сказала Макрына,— ідзі загані ў хлеў свінне.

І ён выйшаў, ненаўмысна бразнуўшы моцна дзвярыма.

— Яны пад'елі ўжо,— сказала, калі выйшаў,— так толькі абціраюцца каля платоў. Ідзі, а то пабягуць на вуліцу. Тады набегаешся за імі. Яны ж, як чортам падшытыя.

Яўген загнаў свінне і не заходзіў у хату: пайшоў загадваць на сход.

Сутоньвалася. Дзе-нідзе запальваліся агні. Вострыя, тугія агні. То сям то там свяціліся скрозь змярканне, як гарачыя параскіданыя вуглі. Стаўшы за Бродам на ўзгорку і кінуўшы позірк навокал — перад такім вечарам хараство з усяго сабранага дня залівала вочы. Брод тануў у разгатых, во-вопокнуўшых смалістых пупышках кляноў. Спрадвечных кляноў, ліп, дубоў. Пахла іх смалістая каша. Тут, навокал балота аддавала свежасцю расцвітаючых вясенніх першых вечароў. А там за балотам, на яго каржакаватых дрэвах, аж на самым вастрыі кругавіду, спадалі чырванню падфарбаваныя наўмысна хмары. Яны спадалі на край кругавіду, упіраліся ў верхавіны, чапляліся за дробнае балацянае галлё.

Прыслухаўшыся, можна было пачуць у гэты вечар тысячу скрыжаваных, адзін цераз другі, гукаў. Тады невядома было, які з іх паперадзе слухаць, лавіць, песціць ім сваё прастыўшае — у зімнеснежных нарывах холаду — чуццё. Шпак... гэтая ладная чорненькая, з доўгаю дзюбкаю птушачка, седзячы на самым вяршку векавечнага дуба,— колькі нясе славы жыццю сваім столадным пераліврам! Як льецца, як пераліваецца па

ўсім Бродзе, па яго маўклівых, заспаных пасля снегу палях, як коціцца перш ціхім, а потым узрастаючым вышэй і вышэй рэхам аж на махавое балота, на зацвіўшую цецерукаватым чорнагаловым смычайку яго пераборыстая песня! Колькі... колькі жвавасці ў гэтай чорненькай птушачкі! А жукі... Якім шчокатам млявяць вуха майскія жукі, як быстра кілзаюць яны застоенае паветра, уздымаюць яго спакой на дыбы, на ўз'юшаны лямант. Узад і ўперад, узад і ўперад... Каб, здаецца, рабілі яны аснову, каб пакідалі за сваім лётам маленькую, хоць найцянюткую павуціну,— збліталі б... збэрсаным быў бы ўвесь свет дашчэнту. Усё было б заткана ў густую тонкую абалонку і мітусілася б там, мітусілася б, кішэла...

Стоячы на ўзгорку, за Бродам, яшчэ можна было б пачуць, прыслухаўшыся добра, невядомыя гукі ад нябачных чалавечым вокам істот у атуляючай імгле — спевы зямлі. Яна такая чорна-чорная пасля белага снегу! Яна такая мяккая, набрэнкшая, жывая! Во-во, здаецца, яе гукіператворацца ў голас, і загаманіць яна, вечна маўклівая... Пачне апавядаць пра цэлыя вякі мінуўшчыны. О, колькі ведае, чаго ведае кожная пядзя зямлі! Кожная пядзя, чорная, жывая, дыхае свежасцю. Ляжыць, раскінуўшы свае прасторныя грудзі, і дыхае поўнымі імі, жывымі. Прыслухаўшыся, можна б пачуць у невядомых гуках новыя спевы... Спевы радасці пасля адвечнага гора і слёз...

Калі Яўген ішоў па вуліцы, неба было на захадзе падабранае зборыстай фіранкаю ружаватай хмары. А на ўсходзе з цёмнага прадоння яго нырцом выплывалі па адной зоры. Выплываючы, зоры ўціраліся сваімі калматымі лапкамі-міргамі. Прыгледзеўшыся лепей, яны былі падобны на чыста выпаласканыя, расплясканыя цяжкім абухам малатка плешкі цалёвых цвікоў. Туга-туга былі ўвагнутыя яны ў падшытую столь чорнага неба.

Было во як ціха! Быў ярка чуваць Яўгенаў голас. Падыходзячы да штакет, што аддзялялі вокны бродаўцаў, Яўген загадваў:

— На сход да Міхалкі! На схо-од!

— А што за сход?

— Хто прыедзе?

— З раёна ці толькі з савета?

Яўген адказваў:

— Ідзіце, убачыце. Якія цікавыя. Хочаш, каб, седзячы на печы, усё ведаць.

— На схо-од!

А сам у сваіх думках:

— Ото ж забалабосцяць, загамоняць нашы ўчасні-кі. Ім самае слова калектыў — нож у сэрца, ражон у горла. Яны, каб прымелі — Анісю гэтага распетушылі б. Во-то ўжо даўся ён ім у знакі! Тры які-небудзь гаспадары, з бацькам, чацвёртым на прыпражку, і хочуць табе ўсім правам завалодаць. Хочуць, каб на іх вуліцы быў кірмаш.

Ішоў ад аднае хаты да другой. Пад нагамі была мяккая, упрасаваная, вільготная зямля. Ззаду віхляла Лаўрэнава Нэрка.

— Пайшла вон, каб цябе...— абярнуўшыся, ляпнуў далонёю па штанах.

— На схо-од...— адбівалася на агародах рэха, чаплялася за зламаную абячайку віславухага месяца, павіслага над балотам.

## VI

Макрына выбегла з адрыны, як аблітая жарам. Яна не ведала, дзе дзець вочы, як сустрэцца з чалавекам. Ёй здавалася, усе ведаюць, усе, з кім сустракаецца, знаюць.

— Што ён надумаўся... што-о,— шапталі вусны, гарэлі сорамам вочы.— Што мне рабіць?

І думка пішчаніцаю лезла, вярзлася, не адыходзіла ані на крок, не давала збыту, адхлання.

— Ці сказаць Яўгену?.. Што будзе з гэтага, калі скажу? Што будзе ён рабіць? Усё ж такі бацька, як бы яно сабе ні было.

Во як тасаваліся думкі!

Да вечара не сустракалася з свёкрам у вочы, не находзіла на яго — старалася знайсці такую работу і ўсё думала: «Сказаць ці не? Сказаць, сказаць... Скажу, і няхай як хочуць... Мне ўсё роўна... Што ён надумаў... Чаго ён, ах, чаго прычапіўся ён! Старызна... Абы прыехаў з лесу, так і скажу: «Здзяцінееў на старасці... от што!»

А Пракоп увесь быў прыняты потам. Як выбегла з адрыны, набіраў у шаснастку сечку. Гарнуў яе сярэбраныя калівы і пад густым лесам вусоў:

— От да чаго падшыхнула... каб цябе агонь. Дур-

ная шэльма, як бот. То-та была мая маладосць... каб цябе, гэна, пярун!..

Дзесяты год, як памерла Пракопава жонка. Ішоў тады пяцьдзесят сёмы год. Думаў другі раз ажаніцца. Сыны не дазволілі. Гіляр казаў:

— Астанемся мы ні пры сём ні пры том. Людзям насмешка. Да чаго яно гэта?

Так і абыграў.

Потым па вёсцы хадзілі чуткі, афарбаваныя ў сяміцвет: Юзічыха казала Антосевай нявестцы, Антосева нявестка старой Лаўрэнісе, Лаўрэніха Юстыне, а Юстына прыпамінала:

— А-гга! Дык вось калі я здагадалася! — а-гга! Бо я-то думаю сабе і аніяк у галаву не вазьму, дык во-ось яно што-о...

І ўжо назаўтра, зусім упэўнена з узнятым аж да самага дна захапленнем:

— А сястрыца мая, а міленькая...— падпёршы пальцам шчаку, локаць паставіўшы на мякаць далані другой рукі,— дык я выйшла гэтак на цямочку... а мая ж ты залаценькая! Дык ён, падла старая... цялёп, цялёп цераз Матруніна гумно, цераз яе засаўкі...

Паладзі казала Юстына, што ішоў Пракоп. На самым на цямочку, як толькі зарэла.

— Дык я ўсё адразу і прыпомніла: выйдзеш, бывала, гэтак на двор на цямочку, а нешта — мільгецьі! Але ж як маланкаю спаліць. Дык вось яно што-о...

— Цьфу! паскудніца,— расціравала Паладзя нагою не даляцеўшую да зямлі сліну.— Нечаму і яна варта. Каб ты не вытрымала, як ты не можаш вытрымаць. Ці даўно ж тут што было,— абураным голасам казала Паладзя,— ён жа яшчэ не паспеў астыць. На спаса два гады, ці што, як памёр. Цьфу!

— Дай жа ты рады! Дык ён гэтак, увагнуўшы галаву, уабраўшы яе ў плечы, як мядзведзь — дзэб, дзэб... А я — як акхакну, як кашляну... Дык ён як пойдзе, дык мяне аж смех разбірае.

— Кавалер, каб цябе агонь спаліў,— сказала Паладзя.— Каб цябе немач абкавалерыла! Кныр стары.

Пасля гутаркі з Юстынай Паладзя спатайка казала Рыпіне:

— Нікому ж толькі не кажы: уга, ці цеперся ён ходзіць... Яна ж ужо грубая. Як мае быць, што ты не бачыш? Гэта ж аж на нос прэ!

Рыпіна перапыняла Паладзю:

— Дык як жа гэта будзе? Што ж гэта ён сабе думае? Іліменты ён будзе ёй аплачваць, ці што?

«А я ўжо не ведаю»,— хацела сказаць Паладзя. Але не сказала. Не хацела паказаць сябе няведаючай. Захацела яшчэ больш здзівіць суседку.

— А ён жаніцца думае...— сказала, папраўляючы валасы за хустку, пацягнуўшы за рагі хусткі, каб тужэй трымалася.— Што яму абыходзіць. Якая трасца.

Цераз дзень данеслі Пракопу. Яго сустрэў на вуліцы Арцём Мікалайчык.

— Дзядзька... што гэта я чуў: жаніцца збіраешся на Матруне, ці што? На другі век пайшоў?

Пракоп вытрашчыў вочы. Тады Арцём расказаў чуткі. Сказаў, што казала Рыпіна. Пайшоў Пракоп да Рыпіны. Тая паслала да Паладзі, Паладзя зляжыла ўсё на Юстыну. Юстына памуляла ды:

— Ды няма чаго таіцца. А што ж, бок, і няпраўда, не ішоў? Э-э-э... Няма чаго жмурыць вока перад праўдаю. Э-э-э-э...

Але Пракоп не за гэтым жмурыў вока. Юстына не зразумела гэтага прыжмурвання. Каб не ўхілілася, не паспела — во як заехаў бы Пракоп за доўгі язык.

— Сука,— абазваў.— Ліха тваёй матары! Пачы на цябе няма, немачы...

Моцна бразнуў дзвярыма. На вуліцы ўжо, ідучы дадому:

— О-то, бок, уелася ў косці! Пранцы шарыя. Заўшніца, гэнам. Брыда, язычніца, гэнам.

Але мала што выдумаюць бабы. Чаго толькі не зложаць. З белага могуць зрабіць чорнае. З мышы могуць зрабіць слана. Ёсць такія ў кожнай вёсцы. Уродзіцца такі чалавек, такім і памрэ. Ніхто такога чалавека не справіць.

От так і свярбіць язык, аж да прышчыкаў, маленькіх, чырвоненькіх, як брушніца, от так і рупіць ён у такіх людзей. Магнесам цягне што-небудзь сказаць. Абы-што сказаць. Хоць каб на тую хвіліну, а здзівіць свет.

Ужо добра змяркалася, як прыехаў з лесу Яўген. Вясёлым такім быў, гаварлівым.

— На колькі ж натраляваў? — калі селі вячэраць, спытаўся бацька.

— На тры семдзесят пяць...— адказаў, несучы

лыжку.— Папаліся нейкія такія лёгкія... пад рукамі. Толькі спраўляйся, вазі.

Макрына выліла ў міску астачу з пабеленага чыгунчыка. Выліваючы, кінула рэжучым позіркам на старога: «І ні лыс».

— Скажу,— шаптала недзе ў глыбіні яе нутра.— Як ляжам спаць, так і скажу.— Зноў глянула на старога. Нават пратрымала свой позірк цэлы момант. Убачыла: як і трэба, рысы твару. Падстрыжаная роўна цёмна-русая барада. Дзе-нідзе асыпана іністым серабром.

Чэрпала раз-пораз лыжкаю ў паліванай місцы, кідала скрадзеныя ад сябе позіркі і зноў бачыла.

Больш святлейшыя за цёмную бараду, на колер тонкай хваёва-лапатлівай кары вусы. Густа-густыя, раздвоеныя на дзве роўныя палавіны правільным праборам. Таксама раскіданы па іхнім лясістым гушчары, але менш прыкметна на іхнім светлым полі — каліва іністага сухастою. Канцы абедзвюх палавін іх вастрыліся і зліваліся з бакамі цёмнай барады, з лагчыністай палянкаю над ніжнім берагам тонкай ружавізнаю накарбаванай вусны.

Зноў несла лыжку да паліванай міскі. І ўжо забыўшыся на асцярожнасць позірку:

...плоскі, з раўнамернымі маршчынамі, завоїністы лоб. Калматыя бровы, храбра насупленыя над правільнымі беларускімі вачыма.

Як браў у рот лыжку, убачыла: два шары белых, як часнок, зубоў, падхвачаных кароценькімі ружовымі дзяснамі.

— Усё роўна скажу,— з прымусова ўсплыўшай злосцю сказала. Сказала сама сабе. Устала ад стала і пачала прымаць пасуду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Макрына, як леглі спаць, і назаўтрае, і прайшло некалькі дзён — не сказала Яўгену.

## VII

У Міхалкавай хаце накурана. Хоць ты павесь тапор-калун. Духата — аж лупае ў лямпе агонь. Няма ж вольнага месца, каб дзе сесці. Сядзяць на ложках і на лавах. Стаяць у парозе. Цісн уцца-лезуць наперад.

А за сталом сельсавета — старшыня. Патапчык, у картовай рубашцы. А побач з ім — мусіць, аж з акругі. На ім кручком зробленая рудая рубашка. Валасы зачэсаны назад. Як гаворыць, відаць спераду залаты зуб. Як гаворыць, устае з лавы, абапіраецца аб стол старчава пальцамі. Злёгку то нахінаецца на стол, то адхінаецца. Часамі, гаворачы, адымае ад стала руку. Тады трымае яе даланёю ўверх, чуток прыкурчыўшы пальцы. Нібыта штось важыць у руцэ — хоча вызначыць яго каштоўнасць. Тады ён даказвае «немагчымае».

— Я не буду вас агітаваць,— кажа, мусіць, з акругі.— Я ўсё буду даказваць вам на простых фактах. Я ні на адзін крок не пайду ад зразумелых для вас фактаў. Каб вы, дзядзькі, усё ж зразумелі, згадзіліся. Каб не з тым палажэннем, якое я даводжу, згадзіліся, а каб з яго правільнасцю. Няхай сабе і не ідзіце ў калектыў. Ніхто, як той казаў, вас не прымушае. Я толькі мушу прывесці некалькі мізэрных, нязначных фактаў. А вы — ужо тады гледзячы — згаджайцеся ці не згаджайцеся з імі.

— Па колькі ў вас палосак на адзін надзел? — пытае з залатым зубам.

З гурту адказалі:

— Як у каго.

— У сярэднім, канечне?

— Па чатыры,— кажа Карпусь.

— Мала што ў цябе «па чатыры»,— папраўляе Аніс.— Калі браць найбольшы гурт з вас, гаспадароў...

— Іменна, найбольшы.

— ...дык па восем, таварыш-грамадзянін,— канчае Аніс.— Гэта яго надзел не падзелены, дык па чатыры. А хто раздзелены — па восем.

— А то і болей...— нехта з парога.

Аніс дадае:

— Калі надзел ды на тры часткі... Ага, нашто ж тут доўга: Астапчыкавых надзел дванаццаць палосак мае на іх трох.

І ён, гэты самы, што трымае руку даланёю ўверх:

— Ну, дык вось: у вас дваццаць, скажам, было надзелаў. У сярэднім — па восем палосак на кожны (бо хто падзелены, а хто яшчэ і не падзелены). Па восем палосак, па восем межаў. А кожная мяжа... Ну, коль-

кі займае, па-вашаму, кожная мяжа? Самая вузенькая? Дзесяць сантыметраў займае? Два вяршкі гэта?

— Дзіва што займае!! — некалькі чалавек у адзін голас.— Тры нават займае.

— Няхай, скажам-дапусцім, два,— кажа чалавек,— уявім сабе, што два. Дык вось давайце зложым і вылічым. Канечне, мой доказ вельмі просты...

А з ложка жаночы голас:

— Не трэба вылічваць. Усё роўна на кацёл не пойдзем!

Карпусь з парога падхапіў:

— Каб я не меў права над сваім кавалкам хлеба! Каб глядзеў на тое, што выдадуць мне! Каб нехта мною камандаваў, сядзеў на маёй шыі.

— Ціха, таварышы! — устаў Патапчык.— Не перашкаджайце. Дайце гаварыць таварышу. Не трэба, таварыш Карпусь, захапляцца заржавеўшым розумам. Цябе ніхто не прымушае. Кажыце, калі ласка, далей,— звярнуўся да чалавека з залатым зубам.— Ціха, таварышы!

І чалавек казаў:

— Восем межаў па дзесяць сантыметраў ушыркі, гэта будзе восемдзесят. А колькі, скажыце, удаўжкі вашыя палосы?

Адказалі не адразу. Памулялі момант. Яўген парушыў маўклівасць:

— Сажняў з паўтараста будзе?

— Але ж, будзе,— згадзіўся, з імі побач стоячы, Васіль.

— Дзіва што будзе,— некалькі галасоў разам.

— Дык цяпер мы і зусім зможам вылічыць,— казаў чалавек.— У сажні, прыблізна, дзвесце шаснаццаць сантыметраў (мы перавядзем на сантыметры)... Значыць, дзвесце шаснаццаць перамножым на паўтараста... Мы атрымаем... ноль, ноль... чатыры пішу, адзін замячаю... два, тры... Мы атрымаем трыццаць дзве тысячы чатырыста сантыметраў. Гэта будзе даўжыня аднае мяжы. Цяпер мы перамножым і атрымаем квадрат. Трыццаць дзве тысячы... на дзесяць ушыркі... атрымаем, будзем мець...

У парозе Карпусь падбіваў скупіўшыхся ў кучу:

— Не падпішамся на пратаколе. А сілком, найц (скарочанае «знаеце» — прымаўка Карпуся), нічога не зробяць.

Пятрок наўмысна, спатайка сціснуўшы вокам, каб не заўважыў Карпусь:

— Цяпер жа слабода, і ён нас не прымусіць.

— От жа, бок-то, што слабода, ліха іх матары.

Яўген піў ваду ў парозе і далучыўся:

— І мой жа бацька гэтак кажа... Але ж, па-мойму, раз яно тлумачаць табе, гавораць катораму, убіваюць у тваю галаву... Не гаварылі б без дай рацы, дзядзька Карпусь!

— Табе, найц, сорак бочак арыштантаў нагаварыць,— упікнуў Карпусь,— а ты ўсё будзеш разяўляць рот.

Карпусь сплюнуў сярдзіта сабе пад ногі і, абцёршы рукою вусны, павёўшы ёю туды-сюды, сказаў:

— Мне анэглы казаў мой швагер з-за Вішнёўкі... Там каля іх быў утварыўся калектыў гэты самы. Дык божухна-бацюхна, казаў, што было, што рабілася. З галаду былі пачалі мерці. Вядома, палавіна начальства. Кожны хоча быць начальнікам...

— Таварыш Карпусь! — пачулі голас Патапчыка.— Прашу цябе не парушаць ціхату. Пасля сходу будзеш раскладваць свае рэестры, а не — выйдзі на двор.

І чалавек, свецячы пад агонь непрыродным зубам, казаў:

— Я падлічыў. Слухайце, таварышы, от што выходзіць. Паглядзіце, колькі марна гіне ў вас пад межамі! Колькі расце на іх быльнягу, нікому некарыснага. Слухайце і вырашайце самі. Вас, кажу зноў, ніхто не будзе прымушаць. От я тут маю... На адзін васьмімежны надзел я падлічыў... На адзін надзел прыходзіцца два мільёны пяцьсот дзевяноста дзве тысячы квадратных сантыметраў! Толькі на адзін. Гэтая лічбіна складае сабою кавалак зямлі велічынёю ў дзве з паловай і яшчэ з чым-та дзесяціны! Ну то што вы на гэта скажаце? Гэта значыць, у вашым Бродзе пад аднымі межамі — каля пяцідзесяці дзесяцін. Дык скажыце: на колькі б павялічыўся ўраджай? Колькі можна было б сабраць хлеба з гэтага аблогу, заглушанага дзікаю травою?

Сход прыціх. Каб чэкалі часы, было б чуваць — такая ўтварылася ціхата. Усе слухалі і не верылі сваім вушам. «Як жа то,— вісела ва ўсіх на цянюткім валаску адна думка,— як жа то яно, гэ! Столькі налічыў!»

Яўген стаяў каля самага стала. Рука яго няўважліва ляжала на плечуку дзядзькі Андрэя. Вачыма ён не міргаў, а трымаў іх, востра паставіўшы ў адной меры цэлы момант. Таксама трымаў напалову адчынены, сухімі вуснамі абведзены, акруглены рот.

— Межы...

...Тыя межы, дзе расце каржакаваты быльнёг. Тыя вузенькія межы, вузенькія... якія хавае ў сабе высокае бічастае жыта. Калі глядзіш на жыта, значан маленькі раўчучок. У добрым жыце ледзь-ледзь бывае значан. Зліваецца ў вялікім жыце раўчук: не пазнаеш, дзе ёсць мяжа.

І гэтыя вузкія межы... колькі, колькі займаюць сабою поля без дай патрэбы! Для таго займаюць, каб адзяляць не раздзеленае ніколі. На «маё» і на «тваё». Дык што ж гэта такое «тваё» і «маё»? Хто мае права называць так?

Але абарваўся волас маўклівасці. Яго абарваў і на некалькі канцоў за адзін раз Карпусь.

— Што ён чаўпе? Чаго вы разявілі раты? Вароны вы баслаўскія!

І сход адразу скалыхнуўся. Ахнуў цэлым слупам галасоў:

— Няправільна падлічыў!

— Правільна сказаў таварыш-грамадзянін!

— У свой бок сказаў!

— Што ён, па-твойму, у сваю кішэню наказаў? — балда!

— А ты не мацюгайся вельмі!

— Не будзе ён лушчыць сваіх казалаў замест гарбузоў.

— Ты вельмі не размахвай рукамі: языком шалахчы, а рукам не давай волі.

— ...а ты колы ў Мікіты пакраў: злодзей ты!

Патапчык не мог уняць буры галасоў, як Аніс, абярнуўшыся, узмахнуў шапкаю:

— Ці-ы-хха! Кажу ціха, супакойцеся!

І сціраючы буйныя кроплі поту з маршчыністага лба, казаў:

— Мы вельмі рады, што таварыш-грамадзянін нам растлумачыў. Вельмі аж нават рады. Я ўвесь час мысліў аб гэтым гурце.

— Мацней! — нехта сказаў з лавы, з гурту.— Не чуваць.

— А ты, другі-каторы, не балабосць, дык пачуеш,— сказаў Васіль.

— Я ўжо казаў некаторым,— далей казаў Аніс.— І калі б хто згодзен, я хоць сёння рад гуртавой рабоце. Патаму што я ўсё гэта вельмі добра цямлю. Я яшчэ як быў у службе, дык зразумеў усё гэта такое. Палітрук у нас быў вельмі добры чалавек. Бывала, як пачне табе выказваць, дык усё табе як на далонь выкладзе...

А гэтым часам Карпусь за Міхалкавай гамарнющафаю, каля ложка, сярод таўбуна жанок:

— ...ты каторая не будзеш мець права над сваёй чапялою, над вілкамі. Тады ўсё будзе жыць на гадзінах. Дождж табе ці якая слота — рабі свае гадзіны. Хворая ты ці не — рабі, як чорны вол. Бо трэба ж будзе каму-колечы працаваць: якраз палавіна будзе закамандзіраў. Камандзірам то што — няцяжка ім, закілзаўшы, сморгаць за лейцы. Я таксама — каб хто за мяне рабіў — быў бы камандзірам.

— Тады, бадай, і святкі,— пераняла мову Шаляшыха,— пойдуць набок: як вялікдзень, скажам, ці каляды?

— Дзіва што пойдуць! Што гэта табе, мая ты кабеціна, саблюдаць нехта будзе, калі тут калякцыў. Уга!

Абступілі Карпуся наўкол жанчыны. Стварылі цэлы гармідар.

— А ты, Карпусь, добра ведаеш?

— А мо ты гэта на вудачку нас бярэш?

— А-гэ...

— Бо, як тым часам, твой падзел не кранёны...

— А як там, Карпусёк, за Вішнёўкаю было?

— Ціха! — пачаў стукаць Патапчык кулаком па стале.— Зноў, мусіць, таварыш Карпусь?

А нехта падхапіў:

— Ён з бабамі за шафаю...

— Камароў ловіць у пацёмках...

Пракаціўся перабоісты рогат, і Карпусь змоўк. Спатайка праціснуўся каля печы да парога. Сплюнуў толькі і выйшаў нячутна з хаты.

Аніс доўга гаварыў. Ён казаў:

— Былі некалі панскія маёнткі,— колькі яны давалі хлеба? Якія былі ўраджаі на гэтых землях? Па колькі статка таго трымалі? Цэлымі, як той казаў, таўбунамі. Незлічоны прыбытак быў — цёк у кішэню нашых «вяльможных». А таму, што разам усё было

яно. Разам усе на гэтага «вільможнага» працавалі. Дык чаму ж не далучыцца, як той казаў, адзін да аднаго? Чаму ж не разгарнуць тую працу разам, калі ад гэтага яно большая карысць? Калі тады, пане мой, як той казаў, у кішэню пана ішло ўсё эканомленае, дык чаму ж яго, гэтага эканомленага, не змеркаваць на ўвесь на наш гурт, на хаўрус?

— І расло яно даўней куды лепей,— уставіў Яўген.— Здаецца, пясок-плывун, а жыта як гай!

— Таму што не зямля наша вінавата, а мы самі вінаваты,— умяшаўся чалавек,— вядомаю меркаю трэба араць, вядомае ўгнаенне павінна быць пасеяна ў вядомую пару,— усё гэта зроблена? Абшарнік сустракаў некалі агранома, як свайго збавіцеля; ён без яго не ступаў ані кроку, тады як мы на ўсё гэта часамі гатовы махаць рукамі. Дык і немагчыма ўсё гэта кожнаму аднаму зрабіць. Безумоўна. Не хапае сілы, не хапае сродкаў...

— Ды калі хто, скажам, з дробнаю сям'ёю,— сказаў Яўген,— дзеці малыя.

— Дык от то-та ж,— нехта падхапіў,— хто ж гэта будзе рабіць на тваіх дзяцей?

Чалавек перапыніў:

— Тады ўсё будзе прадугледжана: будзе, скажам, калектыўны фонд, яслі будуць, дзеці ў доглядзе будуць...

Аніісь скончыў.

— То-та ж...

Позна зацягнуўся сход. Позна Яўген вяртаўся са сходу. Думкі роіліся ў Яўгенавай галаве. Віліся клубком. Чапляліся адна за другую. Хацелі, каб знайсці нешта, за што можна было б учапіцца. Каб не было гэтак далей, каб быць самастойным, новым. Але не паспявалі сфармавацца, звіцца думкі ў правільныя часойкі, як блытала іх адно горкае слова: «Бацька!» Яўген разважаў, ідучы:

— На сходзе пастанавілі збіраць подпісы на калектыў. Каб чым больш запісалася, тым лепш: большы кавалак зямлі будзе, больш прывілегіі. Усё ж такі я запішуся... Ну, а бацька, бацька... Не... усё роўна, як сабе хоча мой бацька, а я вырашыў...

Яўген ішоў і не заўважыў у плывучых марах, як падышоў да хаты. Падышоўшы, пачуў, як шалясцеў

па вуглах маленькі ветрык. Ціхі такі, лагодны. Ветрык страпаўся ў замшэлых пазах хаты.

— Мусіць, на перамену пагоды,— памысліў сам сябе міжвольна, калі зачыняў вароты. Але не паспеў зачыніць, як у хаце нехта запаліў запалку. Міргаючы водбліскам, кінуўся свет агню на шыбы вокнаў. Прыціснуўся да іх, пачаў лізаць.

— Чаго яны поначы...— памысліў Яўген,— каго там узганашыла?

Падышоў да акна, глянуў і не адразу зразумеў.

— Чаго гэта ён...— не даказаў ашаламучанымі вуснамі.

І не то крыўда, не то змешаная крыўда з радасцю застыла на яго вуснах.

## VIII

Аніcount не праслужыў без нечага паўтара года ў царскай і чатырох з паловаю гадоў у Чырвонай. Неяк у жніво, праводзячы ў царскую, маці яго прыказвала:

— А мая ж ты кра-а-сачка... А мой жа ты ка-а-са-чык... А на каго ж ты на-а-ас пакі-да-э-э-еш...

Але ніхто не браў пад увагу, што гаварыла баба. Каму які быў клопат? У кожнага быў свой клопат.

Аніс папаў у артылерыю. У Петрапаўлаўскую крэпасць. Там і захапіла яго свежая навала. Не зразумеў, што такое, калі пачуў слова «рэвалюцыя». Па-свойму зразумеў. Быў дзяжурным па кухні, як сказалі. Прыбег на кухню Кавалёў і паведаміў:

— Рэвалюцыя... Чаго ты дрэмлеш, развесіўшы нюні. Рэвалюцыя... дзем.

— Куды ідзе? — устаў з табурэткі. Але выбег Кавалёў, не адказаўшы: мусіць, не пачуў яго запытання. А ён думаў, стоячы пасярод кухні... Апраўляў шынель на сабе. Паправіў гівер шапкі і думаў: «Сюды мо, на кухню, зойдзе... Мо рапарт прыйдзецца аддаваць ёй... Сваячка мо камандзіра... ці так якісь лысы чорт. Мала іх тут швэндаецца».

Яшчэ як дома быў, злосць разбірала Аніся. Даўно вастрыў зубы, а не ведаў на каго. Ёкала нешта ўнутры, хацелася гаварыць нешта, а не ўмеў.

— Чаму яно так на свеце,— разважаў часцяком,— аднаму аж па горла, а другому ані ў зуб? Што ж ён другі-каторы за лепшы? Ці хіба ў яго два трыбухі?

Ці хіба ў яго дзве галавы, два раты? А тое, што і мне, і дзесятаму, і кожнаму хочацца, лепей каб яно ў жыцці, дык аб гэтым нават няма аніякой гавэнды? Дык як жа гэта яно: хто вінаваты ў гэтым?

Але не знаходзіў адказу. Ніхто не мог растлумачыць. Таму і не зразумеў слова «рэвалюцыя» ад першага разу. Бо вельмі абыраў цераз меру. Думаў — так трэба, мусіць. Мусіць, на гэтым свет пабудаваны.

Але... зразумеў незразумелае. Во як пакахаў раней незнаёмае. Убачыў чырвань, кінуўся напралом. Нутром адчуў нешта ў гэтым сымбалі. Роднае нешта, сваё ўбачыў. Адчуў братнюю кроў... усё прасмоктанае крывёю. Родную крывёю такіх, як сам. Дык дзіва што будзеш любіць... Адразу ўзлюбіў чырвоныя штандары. Дзіва што... Магнесам будзе цябе цягнуць. Ты толькі прыслухайся і ўспомні... Успомні, і ўбачыш... кожны крок прошлага ў крывавай расе.

...Мілыя мае, дарагія мае, чырвоныя штандары!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніла пад Брэстам, але нічагусенькі. Ведаў, за каго рана. А тады зусім іначай, калі ведаеш. Тады радасць заглушае найбольшы боль. Бо ты ведаеш тады, што тваю рану будуць памятаць. Таму і не такі боль у сэрцы.

Прыйшоў дадому, калі навокал найбольшыя ўціхлі буры. Застаў шмат непарадку ў гаспадарцы. Маткі не застаў. Жонка не змагла, не хапіла сілы — апусціла гаспадарку. Адна з сваімі малымі дзецьмі.

Узяўся з новым уздымам, з новым запалам. Не хапала хлеба, да хлеба, а неяк не чулася голаду. Прывык шмат чаго пераносіць, будучы ў службе. Разумеў, што іначай нельга. Добра запамятаў словы палітрука. Часта марыў, кладучыся спаць.

— Разам... што значыць разам!

— Гуртам, і палец прылажыўшы, зрушыш сто пудоў!

— Адзін — што капля ў моры.

— Супраць гурту нішто на свеце не ўстаіць.

Увесь час трымаў думкі: «Прыйду дадому і раскажу тое, чаго не ведаюць... А там яны ў глушы гэтай — не ведаюць».

Вясёлы смех праймаў. Як дзіця, радаваўся, песціў думку.

А дома — не зразумелі. На смех паднялі бродаўцы, калі загаварыў пра жыццё гуртам, пра камуну. Спрабаваў усё сваё разуменне выпажыць. Во як хацеў, даказваў. На сям'і пчол даказваў.

— Паглядзіце, як дружна, ахвотна працуюць,— казаў,— паглядзіце, колькі астачы ад іх сумеснай працы. І яны, гэтыя маленькія стварэнні... А вы ж такі — людзі...

А яму:

— Што ты, чалавеча, чаўпеш...

— Нашы бацькі век пражылі самі па сабе...

Вельмі ж на непадзельных надзелах:

— Цяпер парабкам ёсць прытулак. Не будзе каторы-другі пухнуць з галадэчы. А не будзе гаспадароў, дзе дзенецца гэтая галеча?

Карпусь аж пырскаў слінаю:

— Усіх хочаш парабкамі зрабіць. Дык тады ж красці не будзе ў каго — з голаду пачэзнуць.

Аніс іранічна смяяўся:

— А і гэта ўжо дабро: добра, што выведуцца зладзеі.

Карпусь аж цямнеў ад злосці, не знаходзячы слоў. Аніс не пакідаў свайго: не адыходзіў ані на крок. Ён хацеў знайсці хоць аднаго, хоць двух — пакуль што — чалавек. Хацеў от гэтакі маленькі распачаць калектыўчык. Каб паказаць, каб даказаць сваё. Ён гаварыў, тлумачыў кожнаму, як разумеў.

— Ты, каторы-кожны, адзін,— казаў Аніс,— павінен мець плуг, барану, каня, атосу, аглаблю... Табе, котораму-другому, усё гэта патрэбна мець — нажываць. На ўсё патрэбна праца і грошы. А гуртам не патрэбна будзе табе, трэцяму-чацвёртаму, котораму, мець трыццаць плугоў, трыццаць чалавек, каб ісці за імі. Адзін трактар з адным чалавекам усю ўскоціць аблогу ўраз... рассыпле скібу. Вось што! А гэтых дваццаць дзевяць чалавек другую якую будуць рабіць работу. Таму яно і лягчэй на столькі-та вось будзе!

Цяжка, ой як цяжка было зрушыць з месца! Шмат мяшалі з непадзеленых надзелаў. Але... скрануў-такі. Пачаў перш ціха, а потым штораз мацней і мацней хістаць маятнік забруджанага вякамі гадзінніка.

У прошлую нядзелю, перад сходам гэта за дзень, каля Міхалкавай хаты на лаўцы вось што гаманілі:

— Усамдзеле: каб узяў, як кажа гэты Аніс, запісаўся, далучыўся адзін да другога?..

— А жытла б яно не ведала.

— Усё ж такі чалавек дзе-кольвек пабываў — выцерся. Так што не тое што — шалду-балду.

— І яно, калі раздумацца, гутарыць да ладу.

— Аб тым жа,— што не паказвае на ўзвей вецер.

Плячысты Васіль, вечна ходзячы босы, ад чаго ступні ног яго падаліся ва ўсе бакі раўнамерна, з вечна сур'ёзным тварам, па якім рассаджана рэдкае рыжае шчаціннe,— стаяў, глядзеў на мужчын вострымі вачыма, раз-пораз сплёўваў, неяк мудра спрунжынячы верхнюю губу, і казаў:

— Аджывацца трудна. Нашаму брату дай! Дай, каб ён табе рукамі абмацаў, вачыма каб агледзеў. І то — ён знойдзе табе прычыну. Прывычка нашага брата, па-мойму, заразае. Ён калі ўляпіць у што, дык як...

— Ты, Васіль, праўду кажаш.

А нізкаразлы такі, дробны ў твары, з падстрыжанай рыжа-сіваватаю бародкаю — Лявон Махавік, чалавек найсправядлівы ў Бродзе, чалавек, якому кожны бродавец пазычыць абы-што, бо аддасць. Лявон точ-у-точ, як скажа, не прыйдзецца хадзіць — Лявон Махавік, выпускаючы з-пад цыбука люлькі сінія стружкі дыму, жмурачы свае маленькія шэрыя вочкі, перапыніў суседа:

— Ото ж, бок-то! Ты, Васіль, ета, не памыліўся. Мне, ета, здаецца, як я маю тую бацькаўскую зямельку злучу з, ета, нечаю, чужою? Мне думаецца — грэх, ета, нават. Ты ведаеш, што, ета, мая тая палоска, мая тая мяжа. Дык як успамянеш — як жа, ета, тады нават і следу не застанецца — не знойдзеш, не ўбачыш сваёй роднай зямелькі! Васіль, ета, праўду кажа: прывычка.

Лявона перапыніў бродаўскі каваль Атрахім Апалонік. Заўсёды з неадмытым тварам, з чорнай пудраю на твары — нібы і нарадзіўся такім,— зложыўшы вітым канатам на грудзях рукі, з роўнай вытрымкаю стоячы, чмыхаючы раз-пораз к сабе ў нос, сказаў:

— Уся наша бяда ў гэтым. Каб знайшоўся хто другі, трэці... Каб адважыўся, дык і пятага каторага б зайздрасць узяла. Тут галоўнае — пачаць. Надысь я ездзіў па вуголле ў Гуту, дык там арганізавалася неяк

пазалетась, вясной яшчэ, камуна з сарака гаспадароў... Дык каб бачылі, як дружна ў іх: усё роўна, як і адна сям'я, як адна, тая самая гаспадарка, казаў мне тамашні чалавек. Пане мой, і быдла тое і коні — як ліны, казаў. Насеялі ў адным полі канюшыны-дзятліку і распасваюць сабе. Трахтар набылі...

Дагэтуль маўчаўшы Яўген сказаў:

— Дык дзіва што будуць распасваць.

І ўзяўшы свой нос у два пальцы, папнуўшыся і ўзмахнуўшы рукою, а потым патрымаўшыся за штаны гэтымі пальцамі, нібы памацаўшы імі засмуголеную якасць штаноў, Яўген казаў:

— Дык вось і жывуць людзі. Не гэтак, як мы — з прывычкаю цацкаемся. Гэта што мой бацька такі, гэта што я пакуль што не хачу яму ісці наперакор, а то, далібог бы, хоць сёння згодзен у гурт!

— Усамдзеле,— адставіўшы руку і застыўшы трымаючы яе, як той Аніс, казаў: — Даволі б яно таптацца нам на адным месцы. Вось яно што!

## IX

У той вечар, калі Яўген быў на сходзе, старому Пракопу не спалася. Рана лёг, а сон збягае, як вада з гусінага пер'я. Мо таму (хоць і не перашкаджала гэта ніколі Пракопу), што ў Макрыны былі Гэлька з Анцяю. Яны прыйшлі крыху пасядзець з Макрынаю, каб работа ішла не так надакучліва. Гэлька, Лявонава дачка, рабіла парцяную панчоху — дарабляла пяту, а Анця шыла. Макрына дапрадала ў гэты вечар кужаль: не хапіла на цэлую губку [1] на аўток. Гэлька запыталася ў Пракопа:

— Ці мы дзядзьку не памяшаем спаць, калі запяём?

— Спявайце сабе, дзяўчаткі,— адказаў стары.— Яшчэ і лепей пад песню спацца будзе.

І Анця з Гэлькаю запелі:

У лясочку ды на верасочку.
Вясна красна на дварэ!
Там хлопчычак ды каня пасе,
Вясна красна на дварэ!

---

[1] Губка — мера асновы, пражы, даўжынёю на звычайную сялянскую хатнюю сцяну.

Макрына, насленіўшы кужэльную нітку, далучылася да голасу дзяўчат:

Дзевачка яму абедаць нясе,
Вясна красна на двару!

Яны сядзелі каля комінка. Макрына падкладала раз-пораз смалякі. Смалякі тлелі. Смольныя былі, але сырыя — таму і тлелі. Макрына часамі ўздзьмухвала, каб гарэлі ярчэй. Іскры зрываліся, калі дзьмухала. Пракоп тады парушаў свой спакой:

— Не дзьмі ты гэтак, нябож! Асцярожна... Можа загарэцца сажа.

І зноў пелі дзяўчаты. Другую песню пелі. І Пракоп чуў, лежачы, тонкі чысты голас Гэлькі. Анця падхватвала гатовы голас, нібы на далоні на свае, і несла ўгару — высока, высока. А Гэлька цягнула раўнамерна, пералівала чыстым дрыжачым срэбрам:

. . . . . . . . . .
Вой ды ты не стой, не стой
На гары крутой!
Гэй, да не кідай галля
Ў мора сі-ы-ня-е.
Гэй, па мору сі-ы-ня-му
Карабе-эль плы-ы-ве.

Падскоквала да Макрыны свежая хваля ахвоты, і яна зноў далучалася, гладзячы тонкую нітку:

Вой да карабель плыве,
Аж вада-а раве-э.

Хацелася гаварыць Пракопу, лежачы на ложку, але ленасць нейкая апаноўвала: не хацелася расчыняць вусны, узнімаць аблежаўшы на сваім месцы язык.

Не так-то позна сядзелі дзяўчаты — Гэлька з Анцяю. Скончыўшы дарабляць у панчосе «нос», Гэлька сказала да Анці:

— Пойдзем, сястрыца.

— Пасядзелі б, дзевачкі,— паспрабавала затрымліваць Макрына.— Ахватней бы шпуля дапралася.

Але ўсё ж такі пайшлі: бо ні так ні сяк сядзець без работы, злажыўшы рукі. Гэлька сказала:

— Заўтра больш работы будзе, больш пасядзім: буду шыць каптан мамцы.

Пракоп запытаўся і раптоўна для сябе:

— Як цяпер — дарагі гэтыя каптаны?

— Па трыццаць дзевяць за метру.

— Даўней, бывала, не знalі,— сказаў Пракоп,— ні гэтае метры, ні гэтых, табе, набораў.

Калі пайшлі дзяўчаты, Макрына адна дапрадала шпулю. У хаце было горача. Нейкая тугая, сціснутая была духата.

Пракоп адкрыў да пояса суконную коўдру. Расхрыстаў грудзіну, палажыў пад галаву рукі раўнамерна локцямі ў бакі, ляжаў і глядзеў, як спрытна сморгала з кужэльнай барады чыстае, бліскучае валакно.

І аніяк от не хацелася спаць старому. Нейкая ўздрыгваючая бадзёрасць перабягала па жылах. Глядзеў свежымі вачыма — далёка быў, далёка ад дрымоты. А ў думках вярзлося нешта неакрэсленае, няпоўнае. Пра адно думаў, як не канчаў — другое неслі думкі, распавівалі прынёсшы, клалі перад вачыма, як на далоні. Не паспяваў агледзецца-асвоіцца, чацвёртае, пятае неслі на змену трэцяму. І от гэтак кішэлі, тармазіліся без адхлання, без формы.

— Ці пазаганялі ўсё хаця... ці пазапіралі,— набрыла старому думка і зышла галосна да Макрыны. Бо, канечна — ніколі не было таго ў Пракопа, каб незагнаную ў хлеў засталася жывёла. У Тадэвуша гэта бывае так. Заганяюць, бывае, дзеці. Дык што яму, дзіцяці? Абы скарэй яму, каб загнаць, каб заперці. І заганяюць і так: цэлую ноч брэнгаюць па вуліцы і дзе ні папала рохкаюць па чужых дварах незагнаныя парасяты.

— Чаму гэта прыйшло вам у галаву? — сказала Макрына, кінула на старога свой позірк.— Пазаганялі. Яўген жа заганяў.

— Мне пачулася,— сказаў стары,— здаецца, рохкаў наш падсвінак на двары.

А Макрына цяпер у сваіх думках: — «На памяць прыйшло тое... Тады што было ў адрыне, як рэзалі сечку...» Не зляканулася цяпер, а так толькі, нібы рабінавы холад прабег па целе.

— Брр!

Памысліла, адышла ў думцы назад: «Чаму не сказала Яўгену?» Не знаходзіла адказу, не ведала чаму. «Не сказала от. Так от не сказала». Не магла знайсці тое, на што б абаперціся. «Чаму не сказала?» А было яно недзе вельмі далёка, далёка, неакрэсленае, незразумелае, бессвядомае. Таму мо і не сказала, што не змагла дастаць з глыбіні пачуцця. А мо так... так от

проста не хацела сказаць: каб сваркі не было ці чаго? Хоць Яўген і ціхі і спакойны...

І моцна круціла лісіцу [1], пускала скручаную нітку ў дзірку шпня, на зубы вілачак, на шпулю.

Па кутках мітусіліся цені. Карабаціліся, гнуліся, расплываліся ў тонкі неаформлены пласт, моргалі ў такт тлеючым смалякам.

А ў корбе пішчэла нешта. Пры кожным звароце кола, на пэўным месцы — цыліхкала нешта, пішчэла.

— Падлажыла б ты здору, каб не скігітала яно,— сказаў Пракоп.— А то псуецца шпень... Аж увушшу закладае — рэжа. Ды клалася б ужо: заўтра раней, гэта, устала б...

Нічога не сказала.

Пачала дзьмухаць прытухшыя смалякі — зусім стушыла. Тлеў, выскаліўшы чырвоныя дзясны, жар. Ішоў, віўся дым цэлымі густымі пасмамі чэсаных плоскуняў.

Яшчэ і яшчэ дзьмухнула: загарэліся смалякі, лупнуў разам агонь.

— Кладзіся, кажу, а то не гараць: сырыя. Казаў Яўгену, каб насек загадзя: не дзьмухала б цяпер.

— От дапраду зубок...— Глянула на шпулю, пачала ціснуць нагою на падножак.

А стары — ужо ў свежых узвівах дум:

— ...было, як быў маладым. Ні плоту, як кажуць, ні замёту. Усё было пад маімі нагамі. Дзе Воўчая Града — дзесяць вёрст, а дапінаў. Дзяўчаты-зводніцы...

Зноў патухлі смалякі. Макрына пакінула прасці. Пайшла да свайго ложка. Пачала раздзявацца, класціся.

А Пракоп:

— У Пагуляйцы ўсе дзяўчаты ведалі Пракопа. Алеся... Прыйдзеш, бывала, а сабакі — каб іх воўк павыразаў — як звяры. Так і мяркуй, каб абысці, каб не пачулі. Супраць ветру, бывала, заходзіш. А так — воўчае мяса — шчуюць, як ні ідзі ціха, а шчуюць... Дзе ні павернешся, усюды поўна... Ах, каб цябе агонь!..

І што больш успамінаў, больш захапляў яго маладыя пых. Шыбчэй бегала па жылах кроў. Загараліся і беглі па жылах маладыя іскры. Будзілі, баламуцілі,

---

[1] Лісіца — драўляная дошчачка з прарэзанай дзіркаю, у якую прадзета корба для перадачы.

падбівалі стары імпэт. Маладзілі, бадзёрылі, крынічылі іскры. Раслі, разрасталіся, поўнілі старое цела.

А калі адплюшчыў вочы, было цёмна. Захапіўся так, што не чуў, калі лягла Макрына. Нейкая млявасць ахапіла, апавіла старога. Успомніў пацалунак у адрыне... яе вабныя смуглявыя бровы, яе звіслую пасму валасоў. Шчокі — ружовыя, запаленыя, як бурнелька, дробненькім агеньчыкам...

Яшчэ раз пракацілася па ўсім целе набракшая, узнятая, поўная да берагоў, крамяная хваля стомы. Хруснуў суставамі пальцаў, падымаючыся з пасцелі. Падышоў, моцна засопшыся, спацеўшы.

— Макрына...— сказаў скрозь гарачыя ўздрыгі.— Ты ту-ут... Макрынка...— Абмацаў рукамі — адкінуў коўдру.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...развязаўся неяк шнурок джгурыка. Сцёрся джгурык з голага цела, згубіўся. Пачуў адразу і пачаў шукаць вобмацкам. Шчупаў некалькі хвілін і не мог знайці. Запаліў запалку, забыўшыся на ўсё.

## X

На Пракопавым двары цэлы гармідар. Усё раскідана, растрэсена. Не пазнаеш, не разбярэш, дзе што і да чаго. Усё зрушана, скранёна з месца. Старая, даўнейшага фасону, каламажка і тая знята з вышак. Яна зусім збуцвела і стаяла як непатрэбная. Шашаль даўно паеў яе, патачыў на дзірачкі з усіх бакоў. Нібы штофер пахадзіў машыннай іголкаю без ніткі, так патачыў, на такія дзірачкі пасвідраваў шашаль старую каламажку.

А бродаўцы... усе збіліся дазвання з панталыку, з трыбу. Глядзяць адзін на другога і не разумеюць. Моргаюць, гледзячы асалавелымі вачыма, і не знаходзяць адказу.

— Мо ты што ведаеш?

— Мо што ты ведаеш?

— Не, не ведаю...

— І я не ведаю...

А Юстына, забегшы да Антосіхі:

— Дык Пракоп як скропіў Яўгену... дый той і абсеў і абсунуўся. Абсунуўся, паляжаў, а потым усё ж ачучарыўся. Ачучарыўся дый кажа: «Дзяліцца буду».

Не хачу, кажа, з табою, арыштантам, разбойнікам, жыць! (Так і кажа на бацьку, вось мой моцны божа!) Ты, кажа, пад злосць чалавека можаш зарэзаць.

— За што ж ён яго скропіў?

— Не ведаю.

— Ды як жа ты чула?

— Так вось і чула... Казалі. Не будуць жа яны дзяліцца без дай рацы...

А Паладзя, забегшы да Мікалаіхі пазычыць густога рэшата — прасеяць мукі на клёцкі:

— Ці чула ж ты?

— Не, не чула...

— Гэта ж Пракоп жаніцца наюдзіўся...

— Няўжо?

— Дзеліцца з Яўгенам. Сёння з сельсавета прыехалі дзяліць. От каб цябе, даў пан бог, безгалоўе якое раздзяліла!

— А матачкі, дай жа ты рады: нашто ж гэта яму гэтая жаніцьба? Каб яго ўжо трасца абжаніла! Гэта ж на людскі смех. Дзеці такія-то, пане мой... Жонка дзесяць год, бадай, як памерла.

— Дай жа ты свет. Я ж кажу...

— Каго ж хоць бярэ?

— Не ведаю, залаценькая! Уга — ці мала знойдзецца пачы-немачы. Як сабе ні кажы, усё ж такі частка гаспадаркі. А ці доўга тут яму засталося тае жызні? Дык дзіва што знойдзецца... Мала хіба зайздрасці на чужое дабро? Матруна можа пайсці з лапкамі, абы браў. От так бы і пачапілася на ўстрэчнага-папярэчнага...

— Ды ёй што: абы штаны...

— Каб ты цямілася. Псіна гэтая старая...

— Далібог. О, гэтакія бываюць яшчэ з'ядлымі!

Пракоп, стоячы на сваім гумне, гледзячы, што ўзяць лепей — ці новую — пятнаццаць на восем — адрыну, ці падзержаны — трыццаць на дванаццаць — ток, казаў мужчынам:

— Надумаўся от хлопец ні з сяго ні з таго. З глузду з'ехаў. Хто яму не дае жыць? Ці я заганяю яго калі,— крый мяне божа,— крыўджу ў чым? Жылі ж дагэтуль, жылі б і цяпер. Эх, сукін сын... Анісся слухае!

— Бяру адрыну!

І старшыня запісаў адрыну.

Дзялілі па выбару бацькі. Бацька што хацеў з лю-

бой палавіны, тое і браў. Усё дзялілі на дзве часткі. Гіляры не прымалі ў разон. Таму што ён чацвёрты год як на службе. Яўген казаў:

— Няхай сабе і на тры часткі: і на Гіляра. Я нічога не маю супраць.

Але бацька, паглядзеўшы на мяккую натуру сына, раздабрыўся:

— Не дзве! Калі што якое — Гіляр маю частку забярэ. А я — пры ім веку дажыву.

Ніхто нічога не разумеў аб раптоўнай дзяльбе. Чаму такая раптоўнасць, ад чаго — усе былі здзіўлены. Жылі заўсёды ў злагадзе. Яўген ніколі не сказаў на бацьку нават «ты». Яўген такі спакойны чалавек. Што, бывала, скажа бацька — свята і непарушна. І вось раптоўна такая нечаканасць.

— Чаму ты наважыў дзяліцца? — пыталі бродаўцы, абступаючы Яўгена.

— Ён жа цябе ўзгадаваў,— казала Тэкля.— Але?

А Яўген маўчаў. Ішоў ззаду бацькі. Глядзеў для прыкладу, што яму, а што бярэ бацька, і маўчаў. Во-во зрывалася нібы штосьці з яго вуснаў: хацеў нешта моцнае, моцнае сказаць і не мог. Адкашліваўся тады і сплёўваў.

Падзялілі будынак і пачалі дзяліць у хаце розную дробязь.

— Мне гэты маленькі пабяляны чыгунчык, гэна,— казаў Ракоп.— А ты бяры вялікі аплятаны гаршчок. Ён вельмі вытлушчаны і вельмі добра абваран. Аплецен — як камень, вечны.

— Я вазьму дзежачку: на мяне аднаго. А табе — вялікая дзяжа.

— Вазьмі сабе складаны нож з касцянымі тронкамі, а мне будзе з дубоваю калодачкай, што Атрахім надоечы зрабіў.

— Можаш сабе забіраць абедзве жакеткі, а мне застанецца кажух. Мне, старому,— я баюся холаду.

Яўген доўгім поглядам акінуў бацьку. Сціснуў зубы і праглынуў сліну.

Увесь час, пакуль дзялілі на двары, Макрына была ў хаце. Нібы гэтая дзяльба яе і не тычылася. Усё роўна, як бы там на двары ўсе сабраліся, каб нешта падняць цяжкае гуртам, каб перасунуць з месца. Яна даўно выпаліла ў печы і паролася, перабірала ў плеценым з лучыны кашэліку. Шукала якога-небудзь, ладнага

такі, крамнага кавалка — залатаць локаць у Яўгенавай сіняй рубашцы. Як увайшлі ў хату, выйшла на двор. Ніхто не заўважыў кабеціну. Усе былі затакованы, замаркочаны клопатам аб дзяліцьбе.

Як выходзіла на двор, сустрэлася на ганку з Ярэмавай Тэкляю.

— Чаго гэта вы не падзялілі з бацькам? Ён жа і робіць колькі можа. Чаго ж гэта ад яго хацець, як той казаў?

— А мая цётачка,— апусціўшы разам абедзве рукі на фартух,— гэта ж Яўген... Я яму казала, дык і слухаць не хоча, нават ані блізка! Як прыйшоў пазаўчора са сходу (я ўжо такі і моцна заснула), дык як уз'еўся, як усхадзіўся — радачкі мала. Проста хоць ты ўцякай з хаты. Я, кажа, не буду на каго рабіць. Я, кажа, не хачу быць пад чыёй-та камандаю. Ці яму мо гэты Аніська што начоўп, ці мо на сходзе — я не ведаю што.

І, махнуўшы рукою ў пусты вецер:

— Мала што выдумаюць людзі, нагутараць. Слухай толькі людзей.

Каб на Тэклінаым месцы была Юстына або Паладзя, другі б напрамак узяла гамонка. Яны б здаўмеліся знайсці канцы, разблытаць іх, развязаць і ўзяць у абедзве рукі іх, як лейцы, каб кіраваць. Яны б, гэтыя вядомыя на ўвесь Брод жанчыны, узяўшы кірунак, во як далёка б заехалі! Але Тэкля была зусім другою. Яна верыла і не прыбаўляла да таго, хто ёй што гаварыў. Перадавала ў меншай меры, як ёй гаварылі. Самае тое перадавала, што было для яе дзіўным. Перадаючы, любіла бедаваць, чаму яно так, а не гэтак.

— Я ж кажу,— казала Тэкля, стоячы каля ганка.— Стары... Адзін стары бацька, і не могуць ужыцца. Сын? Вот, бок, божухна-бацюхна, свет цяперака пайшоў! Бацька з сынам на нажы ідуць. Сваё тое дзіця... То ж, бок, не было б крыўды, каб хто чужы...

А ў хаце стары Пракоп, дзелячы, беручы сабе «абыкаторы» з двух роўнай велічыні зэдлікаў:

— Можа, ты, гэнам, сынок, абдумаўся? Няхай, можа, мы будзем разам?

Старшыня Патапчык падхапіў пад гэта:

— І сапраўды, Яўген: нашто гэтае драбленне гаспадаркі? Мы ж імкнемся-такі да калектыву. Пазаўчора ты ж быў на сходзе — чуў, што гутарылі? Жылі б, як той казаў...

Яўген перабіў і вельмі злосна:

— Бацька... Кажу, бацька,— маўчы! Не трэба мяне ўводзіць у злосць. Я ведаю і ты сам ведаеш, што гэтак не можа быць! Я не магу, каб яно гэтак было... Чуеш, бацька? Чуеш?

Вусны яго пачыналі дрыжэць. Увесь збялеў і сціснуў кулакі. Увесь затросся і заскрыгітаў зубамі. З усяе сілы крыкнуў:

— Заб'ю! Заб'ю сцерву!.. Заб'ю! — Кінуўся скрозь натоўп да стала. Пачаў шукаць вачыма і не знаходзіў.

— Заб'ю! Дзе яна, дзе?

Рынуўся ад стала да парога. Хацеў выбегчы на двор, але не пусцілі; затрымаў у парозе Ані́сь. Каб не падсабіў Тамаш, адзін не даў бы рады: да чаго рвануўся з усяе сілы. Удзержалі Яўгена і пасадзілі на лаве.

...Моцна-моцна ўздрыгваючы, заплакаў.

— Жы-ы-зня мая, жы-ы-зня... — Цяклі па шчоках салоныя, гарачыя, поўныя, як водар, кроплі слёз.

## XI

Анісь сказаў Яўгену:

— Пераносъ дробныя рэчы ў хату. Больш каштоўнае што — у куфар у камору можна пакласці. Жонка мая ўладуе дзе што. Пераносъ.

— Адным словам, мы першымі будзем. І не толькі па спіску,— казаў Анісь,— а і на справе. Так што няхай далучаюцца, хто хоча. Будзем жыць, як той казаў. Не горш за людзей. Будзем працаваць, то будзем і мець. Колькі там таго нашага жыцця бывае цяперашнім векам, і каб мы, можна сказаць, прасветлае гадзіны не бачылі. Адзін, як той вол, будзеш пнуцца, пнуцца цэлы век і аніякога адхлання не ўбачыш. А тое, што наша ўлада кажа лепей, значыць, яно лепей. Аб гэтым не можа быць гавэнды. Бо што ў нашым сойміку, у савеце ў нашым, сто галоў, тысяча галоў — розумаў вырашае і кажа, што гэта не адна галава. А раз табе яно вырашана і гутарыцца, значыць, цябе зблуджаць ніхто не будзе, значыць, ты павінен першым разумець, як пачуў першым.

Яўгену на сэрцы лёгка зрабілася. Ён адчуваў, як дыхае на яго нейкая жывая свежасць, поўная свежасць, сочная, расістая.

І на сэрцы зноў нарастала, пласт за пластам, ра-

дасць, чыстая, нефальшывая. Хутчэй, во як хутчэй хацелася пачаць... зрабіць пачатак жыццю. Адмыслоўваму, бойкаму, імпэтнаму жыццю. Здавалася Яўгену, што не было шчэ пачатку, шчэ не пачыналася яго жыццё. А от так марнеў ён, ліпеў, блытаўся, як у павуцінні — чакаў нечых рук, нечага ратунку. І от толькі цяпер адчуваў Яўген радасць, адчуваў, што ён будзе старацца, зможа клапаціцца, каб дапячы Карпусю, Ярэму, Аўласу.

У дзень дзяліцьбы пераносіў Яўген да Аніся сваю частку.

А падзелена было ўсё, да маленькай нават магулінкі-цырубінкі.

Зямлю раздзялілі папалосна. Было чатыры паласы. Пракоп казаў дзяліць кожную папалам, але Яўген не згадзіўся з бацькам.

— Бярыце любыя дзве, а ўзрэхаў рабіць не буду,— сказаў Яўген.

Тады бацька абмеркаваў, выбраў любыя дзве, што на Луцішчы. А дзве, што на Змітраўшчыне, прыпалі Яўгену.

Уся зямля Бурцелікавых мяжуецца з Анісеваю. Таму і будынкі іх — страха з страхою, таму і ахвота была большая ў Аніся, што спрытней злучацца іх палосы.

Пераходзячы ў Анісеву хату, пачаў растахторваць дзе што. Сёе-тое да часу, пакуль дзе што прыйдзецца ўладаваць, зляжыў у сенцах. Аплятаны вялікі гаршчок паставіў пад прыпечак разам з Анісевымі гаршкамі. Выйшла — нібыта там ён і стаяў. Дзве суконныя жакеткі павесіў у шафе. Зэдлік паставіў каля шафы.

Анісева жонка, Наталя, прылажыўшы далонь, нібыта памацаўшы, як стаіць зэдлік, сказала:

— Мала хто зойдзе, дык вось нечага і сядзе.

Маленькую сякерку, што прыйшлася Яўгену, якою мала што можна часаць, у адной руцэ трымаючы, заткнуў за лаву. Павесіў на самаробным, выцертым, белым кручку, з масенжнаю спражкаю, на якой стаяць літары «Л. Р. Ж. Д.», шырокую патрэсканую папругу.

Аніська сказаў:

— Усё роўна, як нідзе нічога і не было. Усё роўна, як мы год тут цэлы, вот што, знацца.

А Макрына не ішла.

Як выйшла з хаты, калі зайшлі дзяліць, як пачула лямант, пайшла да бацькоў і не ішла.

Бацькі — з таго канца Брода, цераз семнаццаць хат. Матка, досыць вёрткая яшчэ кабеціна, сустрэла Макрыну:

— Што гэта ў вас там, дачушка, натварылася? Да чаго гэтая дзяліцьба? Я от толькі думала ісці да вас, свінням, думала, замяшаю толькі...

І, гледзячы Макрыне ў вочы, сыплючы сваімі вачыма маўклівыя пытанні, бачачы выпаласканыя зрэнкі дачкі, казала:

— Чаму гэта ён нажадаў: бацькі свайго выракацца ды ісці ў падсуседзі?

У хату ўвайшоў Макрынін бацька Цімох.

— Дык чаго гэта ты рымстаеш? — сказаў, гледзячы на Макрыніны ўсхліпы.— Што ён: мо набіў цябе?

— Не-э...— адказала.— Але хацеў.

— Чаго вы не падзялілі? — пытаў далей.— Я толькі што дачуўся. Ні з сяго ні з таго — дзяліцьба нейкая? Ліха вас ведае...

Матка перабіла:

— Казала, не ідзі, дачушка! Ці ж ты перарасла, не дай бог! Ці ж табе ў бацькі хлеба не хапала! Ці ж ты загнаная была ў нас?

І, абярнуўшыся да свайго Цімоха, з пералітым цераз край упінкам:

— Вось яны табе, цяперашнія замужы! Абмыдзгуйся! Сэрца бацькаўскае: што ж яно — камень, што па ём можна гасіць? Ліха іх матары!

Цімох паварушыў насупістымі брывамі.

— Ты не бунтуй, старая,— сказаў,— можа, сама вінавата? І гэта больш — як «цяперашні свет»?

— Не дуры галавы ты са сваім светам.

— Гэта ж ты дурыш.

— Я як пайду,— казала далей,— дык я, ліха яго матары, я яму чапялу на галаве пашчаплю. Я яму, сукінаму сыну, далібог, пакажу, як церці дзяўчыну ў маладым вяку! Пакажу гаду гэтаму, як марнаваць...

— Сціхні лапатаць, як той лапацень,— перапыніў Цімох,— з твайго, з гэтага крыку, як з пугі па вадзе якраз. Ты от лепей давай свінням, а то аж глушаць...

А Макрына плакала. Нічога не казала, плакала толькі. І так моцна-моцна — аж уздрыгвала.

— Ну дык што выйшла? — пытаў бацька зноў.—

Да чаго дзяльба гэта?.. Што — прагнаў ён цябе? Ну, ну, кажы!

— Яму нехта на-а-гавары-ыў на мяне... Дык падшыхнула нячыстая,— скрозь уздрыгі казала.

— Ты мне не загаварвай зубоў...— ловячы хістанне ў яе голасе,— бо мне не баляць пакуль што мае зубы. Глядзі, дачу-у-шка... Ніхто без дай рацы не нагаворыць. Ой, глядзі-ы... Ты мне, калі што,— узяўшы пруткі тон, казаў далей,— калі што, на вочы не ідзі! Я цябе, калі што, на парог не ўспушчу, такой шэльмы!

— Чаго ты прычапіўся да дзіцяці? — успала матка.— Тая богу душою нявінна, а ён — «глядзі, глядзі»! Чаго там на яго глядзець — недавярак гэты!

— Старая! Кажу — не тыцкай свайго носа, дзе не трэба! Не твой інтарэс! Я ведаю, што кажу. Мяне наконт гэтага вучыць не трэба. Я, дзякаваць, не маленькі. Я навылет бачу, дзе што. Чалавек жа, мусіць, неспроста ведае, калі гутарыць. Нябось не будзе так, на ўзвей вецер, чапіцца да чалавека. Прытым: я добра ведаю Яўгена...

— Трасцу ты ведаеш! — перапыніла матка.— Адкуль ты яго ведаеш? З носа ды ў рот ты ведаеш! Усе яны, ліха іх матары, цацы!

А калі пачало сутоньвацца, калі матка Макрыны за цэлы дзень «штось-кольвек» пачула, тады, падышоўшы да дачкі, шэптам запытала:

— Скажы, дачушка, з кім ён цябе застаў?

Макрына нічога не сказала. Уткнуўшы ў падушку галаву, яна залілася слязьмі.

Моцна-моцна заплакала.

* * *

Гіляр атрымаў ліст ад бацькі. Вось што пісаў стары Пракоп:

«Гілярка, мой сынок, кінуў мяне Яўген. І цяпер, як хочаш, так і рабі адзін. Гэтага нашага пустамалота, Аніся, паслухаў. Той падбухторыў яго, што табе лепей будзе са мною (з ім, значыцца), што мы будзем гуртам (яны, значыцца), што яны калектыўна будуць жыць, і сёе і тое. Дык ён і паслухаў яго. Так што ты, сынок, не сярчай на мяне. Я тут ні пры чым.

Падзялілі гаспадарку напалам. Мне прыйшлося хата і адрына, а яму хлеў і ток. Ён узяў сабе адну ка-

рову і пярэзімка. Тую карову, што некалі ад Квятулі было нарадзілася цялё. Ад тае Квятулі, што забралі палякі пры развёрстцы. Дык от ад яе! Добрая карова. Па чорным полі белыя плямы на пахвінах і на крыжы, і з лысінаю на лбе. Ну, я ж кажу, і пярэзімка. А мне — дзве каровы засталіся. Узяў ён таксама двое падсвінакаў, а мне — кнораза і старую свінню пакінуў. Конь мне прыйшоўся, а яму — стрыгун. Нецікавы будзе конь з стрыгуна. Так што закажанеўшы: ведама, зімою аўса было вобмаль. Так што я не шкадую стрыгуна. Узяў адну авечку з ягнём, і мне таксама адна з малым.

З адзежы — дзве жакеткі ўзяў, а мне кажух прыйшоўся. Аўчын было тры вырабленых і дзве ў вырабатку. Дык мне дзве вырабленыя, а яму — адна, і тыя сыскаць,— я аддаў бірку,— што ў вырабатку. Мае хвацкія аўчынкі: з аднае могуць выйсці плечы без падточак. Другая таксама не дрэнная аўчынка: ад старой авечкі і нястрыжаная воўна. Пасудак падзялілі і так і далей. Абразоў не захацеў дзяліць. Так што ўсе мне дасталіся.

А Макрына, мусіць, рассярчала на тое, што падзяліўся Яўген. Дык пайшла да сваіх і адтуль і вачэй не паказвае. Так што невядома, якая ў іх жызня будзе. Можа, яшчэ яна яго часамі кіне. Дык я пішу табе, сынок, мо ты кінеш сваю должнасцю ды прыедзеш на зямлю. Усё ж такі, як ні кажы сабе, сякая-такая гаспадарка. І нават можна жыць. А мне, старому,— ці шмат мне трэба? Пры табе от і пражыву. Дык ты прыязджай, можа. Я буду чакаць, што ты на гэта скажаш.

Яшчэ: кланяюцца табе ўсе знаёмыя і блізкія. А таксама шле з любоўю нізкі ўклон твая цётка з яе мужам Рыгорам і з іхнімі дзеткамі. І жадаюць усіх благ у дзялах рук тваіх.

Дык бывай жа здароў, сынок. Напішы мне, што ты на гэта мяркуеш. А я буду пакуль што трымаць гаспадарку.

Твой родны бацька *Пракоп Бурцелік*».

## XII

Дзяліліся ў сераду, а сёння была субота. Яўген асвоіўся ўжо і нават зусім як дома: адзін робіць адно, другі — другое. Скажы толькі або Аніcь — Яўген паслухае, або Яўген — Аніcь згодзен. Часамі пасеймікуюцца,

памяркуюць і згодзяцца. Канечне, у гэтым шмат натура чалавека робіць. А натуры — разбітнасць дапамагае. Для разбітнасці, канечне, розум патрэбен. А ў гэтым не было скупасці як у аднаго, так і ў другога. Што да чаго тасуецца, кожны з двух ведаў. Бо хоць Яўген і не быў нідзе на свеце, а чуў што-кольвек ад разумных людзей. А тое, што чуў, што да ладу яно, заўсёды прымаў да свайго розуму.

Сёння Яўген, цяпер, мяшаў на авёс. Учора заворвалі і запасвалі. Учора ўвечары, калі пачало сутоньвацца, калі змрок пачаў ахутваць усё ваколічнае ў свае неабмацаныя чалавечай рукою лахманы, Наталя сказала:

— Сёння не будзем паліць агню.

Аніс хацеў спрачацца. Але паколькі змарыўся быў, памысліў у сваім духу: «Усё роўна: раней ляжам, раней устанем».

Ніколі, аж спрадвеку, не паліцца агонь у той дзень, калі заворваюць, запасваюць. У той дзень не можна паліць, бо «сажа будзе на збожжы, скаціна не будзе браць цэгу. Звяры могуць вярзціся».

Яўген раскідаў поле ўроскідку. Хадзіў з канём навокал, прыкідаў да аднае, суседняе мяжы і да другой. Раскідаў запар дзве палосы: сваю і Анісеву. Злучаў іх у адну шырокую, суцэльную.

Аніс сказаў, калі ішоў Яўген на поле:

— Дык ты там жа ведаеш, як і што: ары...

Аніс не дасказаў усяго. Неяк было прыемна больш ад таго, што не дасказаў. Прабегла нейкая дзіцячая ўсмешка ад цяразмернай радасці. Хацелася проста-такі пець. Але не запеў — пасаромеўся сам перад сабою, палічыў за нейкую нясталасць.

Яўген хутка канчаў роскідку — даходзіў да мяжы, да той мяжы, якую патрэбна было раскідаць, заараць. От будзеш раскідаць плугам скібы то направа, то налева, будзеш хадзіць, хадзіць навокал гэтай мяжы, а тады...

Усё бліжэй і бліжэй будзеш падыходзіць. Будзеш падыходзіць і — дойдзеш. Урэшце пасадзіш пад яе бераг востры і шырокі нарог, і калі з усходу будзеш ісці, скіба направа ляжа, калі ж з захаду — налева. Толькі зашапоча, загамоніць узрушаная плугам зямля і перавернецца быльнёг дагары нагамі. Прыцісне яго тоўстая, векавечная, задзірванеўшая скарынка. Адны кончыкі

яго, вострыя, разгатыя, будуць відаць дзе-нідзе з-пад скібы.

О, з якою злосцю разарве на кавалкі-крыгі сваім вастрыём яе, векавечную, скілзаную карэннямі, з якою злосцю разарве нарог блішчастага плуга.

Яўген разважаў, ідучы за плугам:

— От жа не ідзе... От жа смешыць людзей... Як толькі не пазырыць бацька: каб аж за дзесятаю гарою апынулася. Яна хоча, каб я па яе прыйшоў. Сама вінавата і яшчэ кардыячыцца... А я не пайду. Няхай таго сабе не думае.

І сам неяк не ведаў, як яно выйшла. Зусім не так разважаў ён, калі ўбачыў праз акно, пад святло запалкі. Бацьку абвінаваціў, а не яе. Мо таму гэта, што прычыну знайшоў. Бо адразу вырашыў: «У што б ні стала — дзяліцца. Інакш — ён маю жызню змарнуе. Сапсуе маю маладосць. Мяне будзе цёнгле гнебіць думка. Заўсёды будзе калатаніна ў хаце».

А мо таму, што раней марыў аб дзяліцьбе. Бо не даваў бацька і словам абазвацца пра калектыў.

А калі шукаў яе вачыма, калі крычаў: «Заб'ю», трэба ж спагнаць на кім-небудзь сваю знявагу. Каб хоць маўчаў тады бацька, ведаючы сваю віну, лягчэй было б на сэрцы. А то прыкідацца пачаў, «няведаючым» пачаў прытварацца. Ды яшчэ кепікі пачаў строіць. Вось і сабралася ўсё разам... А не хацеў, каб ведалі людзі. Не хацеў зняважаць бацьку. Спатайка, самнасам сказаў бацьку:

— Вам мала, татка...

Гледзячы запаленымі зрэнкамі вачэй, не мігаючы імі, закасцянеўшы на адным месцы, падавіўшы-заціснуўшы аж на самае дно свайго пачуцця балючую крыўду, стаяў і казаў:

— Вы, татка, пражылі сваю жызню... Я пачынаю жыць... Дык нашто ж вы мяшаеце мне? Нашто вы няславіце сябе на старасць? Нашто вы трыцё маю маладосць?

Бацька быў папрабаваў супярэчыць. Ён сказаў, што яму, Яўгену, «нешта здалося». Але Яўген сплюнуў толькі і выйшаў з хаты. Макрыне толькі-натолькі заўважыў, кінуўшы неміласэрны позірк:

— Пасаромелася б... паскудніца...

І гэтага было даволі: у яе набеглі слёзы. Каб сварыўся ён, каб кідаўся біцца, ёй лягчэй было б. А ад

гэтых двух кароткіх слоў з яго калючым позіркам во як млосна стала Макрыне!

Не то не давярала Макрына Яўгену, што не ішла да яго, не то хацела выкупіць сам-насам сваю віну ў маўклівых слязах.

Хутка канчаў Яўген роскідку. Яшчэ два разы, тры абыдзе — і канец полю: на авёс будзе ўзмешана. Туды зойдзе і адтуль — адна мяжа застанецца.

Ідучы за плугам каля доўгай мяжы, адышоўшы назад, у сваіх думках:

«...Ведама, спрадвечная тая, задзірванеўшая. Каменне панакідана... Во і во... На купалле некалі, як была жыва матка...»

— Пцц, н-но.

«...Як была жыва матка, дык як пачне заходзіць сонца, купалкі, бывала, пасылала рваць сюды. А тут іх шмат расло: яны любяць расці на падзолістай зямлі. А калі сутоньвалася, матка... матка пасылала, каб дзевяць каменьчыкаў прынёс... З трох межаў па тры каменьчыкі... Парыла імі збанкі. Казала: «Малако ніколі не будзе збягацца. Будзе шмат смятаны ад купальскіх каменьчыкаў у малацэ. Нацэдзіш у тыя збанкі, што выпараны гэтымі каменьчыкамі...»

— Н-но! — тузануў за ляйчыну і зноў, і зноў.

«Матка апавядала мне малому: «Па межах ведзьмы ходзяць у купальскую ноч. Дояць каровы, у каго не пазатыкана ў варотах жыжка-крапіва, і ходзяць... ходзяць і пырскаюць надоеным малаком па межах... Наўмысна гэта робяць: выдойваюць і пырскаюць, каб вымя ў тых кароў не прыбывала... каб было такое дзікае, як межны быльнёг, бескарыснае каб было...»

Дайшоў да канца і завярнуў каня. Падвёў плуг пад самы край мяжы: толькі ўзяцца за ручкі і сказаць «но». Конь пераступіў ляйчыну.

— Ваўкарэзіна!..— крыкнуў Яўген.— Не ўгамуешся... Нагу! На-агу, каб цябе...— І конь падняў нагу.

Тады ўзяўся быў за ручкі плуга, хацеў пагнаць каня. Але не пагнаў. Падчапіў толькі пад край мяжы бліскучым жалезам і пачаў закурваць.

«Залетась касіў тут...— глядзеў Яўген то на мяжу, то на паперу, каб не рассыпаць паджарыстых карашкоў.— Залетась яна палола лён, а я касіў канюшыну... Сядзелі на гэтай мяжы... Вуньдзека, вунь, на сярэдзіне. Колькі часу, а от неяк жа набыло на памяць. Чалавек

вельмі памятлівы... Яна нейкая тады сарамяжлівая была. Маладая была, як сабе ні гавары. І неяк... я тады першы раз, перш-наперш пацалаваў яе. З таго часу і не спускаў з вока, аж пакуль вось... і не ажаніўся. Прыўклі... На свеце, мусіць, нічога няма мацнейшага за прывычку... Ну, і бацькі... Вельмі ж добрыя бацькі. Я іх во як паважаю! А яна такі моцна кахала... Як хвацка адпрэчыла была Юрку Лявончыка. Ні на вока!»

Яўген скруціў папяросу. Дастаў запалкі і, моршчачы твар, угінаючы кончыкі вострa закручаных вусоў, пачаў прыкурваць. Ледзь-ледзь маленькі ветрык падхапіў рэдкія пасмы сіняга дыму і збэрсаў яго ў дыск, ушчэнт.

«Колькі мы тады перагаварылі на гэтай мяжы? — Блукалі думкі Яўгена.— Я тут даў ёй маё слова... Яна тады загарэлася, як парэчка, як іскра... Я не скасіў канюшыны ў той дзень...»

— Н-но! — пагнаў каня, не дакурыўшы папяросы. Трымаў яе ў губах; пацягваў яе, жмурачы вочы ад едкага дыму.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Макрына адчувала тугую гарклівасць у сваім стомленым перажываннямі нутры. Гняло нешта цяжкае, алавянае, карцела, асядала ўскаламучаную мутою — прыкрасцю не перамерзшых рабін-ягад.

Яна чакала Яўгена.

Чакала яго ў той дзень, як пайшла да бацькі, чакала назаўтра, чакала паслязаўтра... А ён не ішоў па яе. Каб прыйшоў ён, каб пакрыўдзіў яе моцна-моцна, уздыхнула б яна вольна трапяткою порсткасцю, спала б з яе сэрца смуга.

А бацька... То кідаў на яе скосы, слізготны позірк, то гаварыў, не звяртаючыся да яе; адным звагам, як напільнікам па ржаваму жалезу, пільгокаў яе нутро сваімі тупымі словамі.

Надоечы сустрэўся быў стары Цімох з Яўгенам. Той спяшаўся некуды — ішоў па вуліцы, адрывіста, як маятнік, размахваючы рукою.

— Каторае з вас не памірыцца,— з прымушанай усмешкаю на твары запытаўся Цімох пры сустрэчы.— Як гэта... Што гэта яно ў вас вычвараецца?

Яўген сутрымаўся як прыкурыць папяросу. Яму не то сорамна стала, не то крыўда хацела ўзяць верх над цесцевым запытаннем. Запнуўся быў, нібы хацеў закашляцца, а потым за адзін раз, з падскочыўшаю вастратою:

— Яна ведае, хто вінаваты. Яна добра ведае. І я больш не хачу, каб хто ведаў.

І пайшоў тою самаю паходкаю, пакінуўшы Цімоха сярод вуліцы.

Тады большая злосць пераядала бацькава сэрца, больш пасля гэтай сустрэчы дапякаў дачцэ чамярыцаю.

— Дык што ж гэта будзе? Як гэта будзе, дачушка, дачушка?..

Матка перад бацькам дробным шротам рассыпала свае словы, адным звагам чаўпла, імжэла аднатонна:

— Ён, ліха яго матары, наздзеквацца зажадаў. Ён думае — я пагляджу на яго, калі што...

І запаліўшы зрэнкі сваіх вачэй фальшывым святлом начнога чарвяка, каб асадзіць старога, каб астудзіць яго злосныя ўздымы,— кідала жмукі крыўдных слоў на яго іністыя валасы.

Вясна шырокімі ўзмахамі крылляў білася ў акно, лапатала па шкле шыбы, сушыла яе, мокрую, заплаканую, ад зімняй ледзяной скарынкі. Нехаця спаўзалі на падаконнік апошнія кроплі прэснай узмучанай вады. Дзень быў асыпаны густым яблычным цветам, мяккім, пахучым; сонца не шкадавала сваёй трымцяча-спавіваючай белі. Цімоха не было ў хаце, і матка падышла да дачкі.

— Схадзі да Наталі,— сказала.— Ён на полі. Пагутары з ёю, як ён... Што ён кажа пра цябе.

Сонца расплёхала сваё малако па столі Цімохавай хаты густою лужынаю — «зайчыкамі»; яно не шкадавала сваёй узбітай вясенняй пены; яно сапло наскрозь расчыненай свежасцю. А Цімошыха казала:

— Ты ж не маленькая. Я сама б пайшла, каб зручней яно. Дакуль жа гэтак яно будзе?.. Трэба было глядзець сябе, кабеціна. Ніхто не вінен. Дзіва што той

бацька грызе. Бо і варта. Па сяле вунь колькі чутак ходзіць. Дачуецца бацька, данясуць,— я не буду цярпець за цябе. Хопіць.

— Усялякае ліха, усялякае безгалоўе — усё на маю тую галаву. Меншыя былі — клопат быў; падраслі — думала, прасветлую гадзіну ўбачу. Дык ня́ табе: — матачка святая!

Макрына ішла цяпер агародамі заплаканая, пакрыўджаная невядомай крыўдаю, несучы ў грудзях распырсканы боль. Ішла, каб не бачыў ніхто. А то зараз залатататахкае вёска: «Прасіцца пайшла», «Бацька прагнаў».

Ішла, раскідаючы скрадзены позірк паабапал агародаў. Разважала ідучы Макрына, з чаго прыйдзецца пачаць. Меркавала дзесяткамі пытанняў: пачынала іх і не магла скончыць.

Чула ідучы і як скрозь сутарэнне — на галіне набрэнкшага веснавой жывасцю дуба спяваў чорнасмуголісты шпак. Бачыла і як скрозь туман — то сям то там чынілася па блакітнаму небу кужэльнае, хмарнае валакно.

Трымцела, карбавалася дзённая бель. Слалася бель у Макрыніным ваччу шырокімі баваўнічнымі анталяжамі.

А калі ўвайшла ў Анісеву хату,— не ведала, чаго прыйшла.

— Што ў вас чуваць? — сядаючы на кант зэдліка, які стаяў каля шафы, спытала.

У хаце была адна Наталя. Зразумела Наталя Макрынін прыход. Бачыла яе блудлівы, збэрсаны позірк, але не паказала выгляду.

— Нічога такога,— адказала Наталя. І непрыкметна, як бы сама для сябе, як бы так:

— Яўген недзе на полі... а мой на гумне.

Макрына сядзела, глядзела на Яўгенаву жакетку, што вісела на біле ложка. Глядзела і бачыла ўшыты гузік... белай суравою ніткаю. Сама ўшывала гэты гузік на тым тыдні. Ушывала тонкай іголкаю. Не было грубой. Дык, ушываючы, павярнула ўбок неяк і зламала іголку...

Наталя казала:

— Учора позна сядзелі: Атрахім быў, Захара быў, Васіль... Гаманілі нашчот калектыву. Каб ты пачула, што Атрахім... Сёння прыйдуць, казалі...

А Макрына тугімі часойкамі слала свае аднатонныя думкі.

«Вуньдзека і папруга яго...— бачыла Макрына Яўгенаву папругу, бачыла літары на масенжавай спражцы.— Вуньдзека аплятаны гаршчок пад прыпечкам... Стары аплятаў... Яўген прынёс дроту ад Васіля. Пазычыў...»

— ...У Гутаўскай камуне,— скрозь Макрыніны думкі клінам тышчыліся Наталіны словы,— як выйдуць на работу — пылам курыць работа, казаў. Ведама, гурт. Тут і спорнасць табе і здароўя свайго не падарвеш. Старшы іхні, а ўсё роўна — нараўне. Казаў Атрахім, калі трэ, дык і за плугам ідзе... Загадае, раскамандуе работу паміж усіх — і сам разам з усімі...

«...Стары аплятаў,— бралі верх над Наталінымі словамі Макрыніны думкі.— Ён умее моцна аплятаць гаршкі. Вельмі ж злаўчыўся аплятаць. Не пацячэ, калі ўцісне дротам. Аж пакуль іржа не пераесць, пакуль не перагарыць дрот...»

— ...Калі выйдуць гутаўцы на сенажаць! Валок за валком, капа за капою. За дзень — унь які аблог зграбуць, скідаюць у стагі! Дык дзіва што і ахвота будзе падшыхаць...

«...Стары, мусіць, быў дужы. Не такім быў, як цяпер Яўген... Даўнейшыя людзі дужыя... Што ён цяперака робіць?..»

Макрына далёка пайшла са сваімі думкамі. Не чула Наталіных слоў. Чула нейкую аднатоннасць, глядзела ў Наталіны вочы — паказвала выгляд, што слухае яна,— а ў думках свежыя і светлыя ўзвівы:

«...Ён, мусіць, як быў малады... Які ён цудны... Я ніколі больш не сустрэнуся адно на адно. Я ніколі, ніколі... Яго гэтая барада...»

— ...Аніссь кажа, абы зарганізавалі гурт — уміг трактар будзе. Уласць цяпер ідзе на падмогу. Гэта ж не даўніна...

Макрына спыніла, абарвала свае думкі. Яна незнарок неяк абмацала сук у зэдліку. Пасунулася тады на канец зэдліка і ўбачыла: іх зэдлік. Яўгенаў зэдлік, што прыйшоўся ад дзяліцьбы.

Аж паднялася неяк. Твар заліўся ружавізнаю. Па нутру расплылася сарамлівая прыкрасць. І яшчэ і яшчэ падышлі наплывы ружавізны да твару. Пады-

шлі і згусцелі — разаслалі гаручы асадак чырвонай фарбы.

Тады вочы зрабіліся глыбокай студняю.

Наталя заўважыла Макрыніны мокрыя вочы. Заўважыла, але зацерла — не паказала выгляду. Дадала Наталя:

— Дык вось што кажа мой.

І далей:

— Яўген на полі, на авёс мяшае. З рання шчэ як пайшоў вось...

І каб не маўчаць, каб не апалі Макрыніны набрэнкшыя кроплі слёз, казала, не гледзячы на Макрыну:

— А я вось з малымі. Латы латаю. Пойдуць на двор,— для пяску самы раз.

Макрына бачыла, як падняла Наталя зрэбныя афарбаваныя ў мучане штаны шасцігадовага Змітрука, як падняла насупраць сваіх вачэй — глядзела, дзе трэба яшчэ зашыць або даць адмысловую латку.

Не заўважыла Макрына, што глядзела Наталя косым позіркам з-за Змітруковых штаноў на яе паўшыя расою вочы.

Склалася хвіліна, ахутаная павуціннай маўклівасцю. Толькі муха, зімовая, вялікая, грубым басам барабаніла па раме, па шкле. Макрына не вытрымала і прабіла гэтую сетку маўклівасці.

— Цётачка,— сказала Макрына,— што кажа Яўген... пра мяне?

Наталя не адразу адказала. Меншы яе, трохгадовы Васіль, папрасіў, седзячы на ложку:

— Мамка! Дай, мамка, хлеба! Скваўынку дай!

Наталя ўстала ад акна, а Макрына чакала. І гэтае чаканне было такім доўгім, такім ліпкім, цягучым, бесканцовым, круглым, як вобад. У Макрыніных думках чамусьці карцела, пішчаніцаю лезла, як слота лезла:

«Можа, ён мяне кінуў? Можа, Яўген кінуў мяне? Можа?.. Ён, Яўген... Ён не пакіне мяне ніколі, ніколі... Як гэта было? На паўмежку... на мяжы... словы... Як яны доўга, як яны надоўга ў памяці...»

Зноў дрыжэў у яе ваччу слёзна-квашаністы застой.

— Хто яго ведае,— сядаючы на тое самае месца, казала Наталя.— Нічога не кажа. Што мяркуе. Мо і ведае мой. Я спытаю. Яны мужчыны: павінны яны адзін другому выказаць. Магу запытацца.

Так і пайшла з гэтымі Наталінымі словамі.

Выходзячы з хаты, папрасіла Макрына:

— Не кажыце, цётачка, што я была. Не трэба. Я вельмі вас прашу.

Наталя дакляравала. Праводзіла Макрыну аж на ганак.

* * *

Калі Яўген вярнуўся з поля, змрок апускаўся на стрэхі, на ліпу, што пад хлявом, на белы двор. Змрок з кожнай хвілінаю гусцеў, чапляўся за прадметы, рабіў іх аб'інеўшымі, невыразнымі.

На захадзе чуць-чуць была яшчэ паджарыстая пасма неба.

На двары, калі Яўген скідаў хамут цераз галаву каня, заўважыў: раўнаважна каля падпаветкі, пад водбліск асядаючай зарніцы захаду, камары «таўклі мак». То ўверх, то ўніз... і зноў — то ўверх, то ўніз падымаліся камары, бэрсаліся, кідаліся гуртам, клубком, звінелі аднастайна, як тонкі волас у механізме далікатнай машыны.

— Гу-у-у-у-у...— і гэтак бесперабойна, адным звагам і бясконца.

«Пачулі цяпло...— памысліў Яўген сам сабе.— Адкуль толькі жвавасць у іх... От што значыць, вясна тая прыйшла... Усякая мошка цешыцца, лезе з-пад кары...»

А камары не сціхалі, нібыта хтосьці плаціў ім за гэта.

— Гу-у-у-у-у....

Пусціў Яўген каня з вобраці, і той, адчуўшы волю, пачаў качацца па вільготнай, асвежанай вясною зямлі. Фыркаў конь. Заграбаў нагамі падзолісты пясок двара — перакочваўся з аднаго боку на другі... Аж стагнаў, перакочваючыся, адчуваючы волю ад скінутай вупражы, ад пакінутага плуга.

«...тая жывёліна, а як рада!» — прайшоў у Яўгенавых думках абрывак сказа.

Стаяў Яўген, трымаў вобраць на руцэ і маўчаў. Хваля радасці ад усяго клалася на сэрца: і ад таго, што ён разам з Анісем, і ад таго, што конь смела фыркае — рад сваёй волі,— і ад гэтага камарынага гулу... Радасць клалася на сэрца шчыльным пластом, нябачным, але тугім, упрасаваным.

Не даў Яўген стомленаму каню напіцца вады, каб не было ахвату.

«Кладучыся спаць, напаю»,— памысліў Яўген, пускаючы ў хлеў каня.

І скрозь усё гэта, не стасаванае, няпэўна выразнае, як здань калматае,— стаяла ў думках Яўгена ўяўленне яе, Макрыны.

«Мяжа... Мы... Такі прыемны подых паўднёвага ветрыку... Спелая канюшына. Пчолы: «гу-гу-у». Бяруць мёд. Пералятаюць з галоўкі на галоўку, смокчуць яе атожылкі. А каса ляжыць пад пракосам свежай канюшыннай жмені...»

Зачыняючы хлеў, чуў, як конь пачаў перш шамацець, а потым хрумкаць прырыхтаванае Анісем загадзя ў яслях сена. І зноў: каса блішчыць пад сонцам. Не ўся, а яе вытаркшы канец — нос.

— Нагрэецца, адойдзе,— кажа Макрына, беручы жменю канюшыны, прыкрываючы бліскучы яе канец — вастрыё. Тупа будзе тады рэзаць...

А лён дзе-нідзе расцвіў блакітным цветам. Сінім, сінім... А мяжа такая доўга-доўгая! Як сядзіш на ёй — не відаць за яе лагчыністымі выгібамі канца... Быльнёг высокі, мятліца...

І Яўген, апавіты марамі пройдзенага, адышоў ад канюшніка, падышоў да паркана. Цэлую хвіліну з ціхай асалодаю прастаяў Яўген. Поўны пачуцця быў, таму і не было думак.

А камары не пакідалі — звінелі. Усё роўна як тыя пчолы на канюшынных галоўках...

Не заўважыў Яўген, калі пералез цераз паркан, як пайшоў. А пайшоў... упэўнена, рашуча.

Раз, два... раз, два...

Чамусьці ідучы зноў прабегла ў думках: «...сіні, сіні...»

Калі ішоў Яўген па вуліцы, цень яго гойдаўся, палюскаўся ў мізэрным водбліску месяца. А ён, месяц, высунуўшы два клыкі чорнаму, пацягнутаму чырвона-выліняўшай фарбаю небу, вісеў як на аборцы над покнуўшымі пупышкамі разгатай ліпы.

— Пайду скажу,— вырашыў ідучы,— няхай ідзе, няхай не смяшыць людзей.

І ішоў Яўген раўнамерным тахтам, вагаючыся з аднаго на другі бок. Цень варушыўся на скабках Міхалкавых штакет, потым — Васілёвых... Ішоў з напорам імпэту, з чулай радасцю.

«...Скажу: ідзі дадому, нямаш там чаго кардыячыцца. Што гэта — прасіць, ці што? Скажу, каб не мудравалася баба. Цудная. Нарабіла штукенцыяў, а цяпер некага хоча вінавацiць. Свет!»

І зноў пераступаў [illegible] аднае нагі на другую.

Ад працы за цэлы дзень нылі суставы, нылі косці, шэрхалі лёгкасцю рукі, ногі і ўсё цела. Ішоў, пераступаючы ўсё далей і бліжэй. Цераз тры хаты Цімохава хата. Вось і Аўласава чырвоная брама. Яго белыя аканіцы. У хаце гарыць лямпа. Здаецца, вячэрае Аўлас. Сам, адзін.

Ён цёнгле асобна есць. Сям'я яго асобна, а ён асобна. Яму асобная яда. Хлеб шатраваны, сеяны на падсітак. У маленькім пабяляным чыгунчыку нешта тлустае, заўсёды ў печы — збоку, за засланкаю. Ён кажа, што ў яго катар і яму абы-чаго нябожна есці...

Падыходзіў ідучы і падышоў да Цімохавых варот. Хацеў адчыніць калітку: узяўся за слясак — як з другога канца нехта ішоў, і хуткімі крокамі.

— Пачакай,— пачуў голас, калі падняў слясак у калітцы.— На пару хвілін.

І тады застаўся нездаволены перашкодаю: застаўся з памучанаю радасцю, што састаялася была так чыста, так празрыста-крынічна.

Падышоў Васіль. Быў у Атрахіма і цяпер ішоў дадому. Паздароўкаўся, падышоўшы, і, шырока расставіўшы ступні сваіх плоскіх, як пранікі, ног:

— Мы вырашылі! — сказаў, як выкінуў з горла два гарачыя вуглі.

— Што? — паглядзеў Яўген, бегучы позіркам на шырокія грудзі Васіля.— Хто што вырашыў?

— Я згодзен, Атрахім, Захара... Яны ўсе будуць згодны,— казаў, трымаючы ў кішэні шарачковых штаноў сваю руку, падтрымліваючы ёю раз-пораз спадаючыя, не падперазаныя папругаю порткі.

Яўген не разумеў Васіля. Чуў яго словы, гарачыя, раздзьмуханыя веснавою свежасцю,— чуў, задаваў пытанне, глядзеў абыякава ў Васілёў твар. Думкі роіліся пра другое, таму і не адразу зразумеў.

А тут якраз недзе над галавою, над самым вухам зноў той вячэрні камарыны клубок:

— Гу-у-у-у-у...

— У чым рахунак, што вырашылі вы? — глядзеў Яўген у Васілёў непаголены твар.

— Запісвацца будзем, от што! Згодны мы. Яны прыйдуць да вас,— казаў, пераступіўшы з аднае нагі на другую.— Я загадаў усім: хто хоча, няхай сёння прыходзіць на запісю.

— Ты адкуль ідзеш? У цесця быў? Пойдзем,— не дачакаўшы Яўгенавага адказу, сказаў Васіль, сступаючы з месца.

І Яўген міжвольна выпусціў з рук слясак Цімохавай каліткі.

А ідучы ад Цімохавай брамы, ад варот:

— Сёння быў у мяне з Камароў... Дзяніс. З камсамольскай ячэйкі... Ну-у, што сакратарствуе... Дык мы завялі былі бяседу, у Атрахіма сабраўшыся. Я... Стапан Атрахімаў... Арцём Мікалайчыкаў...

— Пра што? — перапыніў Яўген.

— ...Анця Лявонава навярзлася была... Дык вось пра што: гаманілі былі нашчот ячэйкі. Як ты на гэта пазіраеш?

— Як нашчот гэта ячэйкі?

— Ну як... Ну, каб зрабіць і ў нас гэтакую ячэйку, як і ў Камарах... Камсамольскую...

Васіль ішоў ззаду за Яўгенам, глядзеў сабе пад ногі — у адзін праложаны след, што быў каля самых штакетаў, ішоў Васіль, перахватваў рукамі то адну, то другую штакеціну, не паслізнуцца каб...

І пасля некалькіх крокаў, пасля некаторай маўклівасці:

— Дык яны унь, казаў, горы варочаюць сваёй ячэйкаю... Што значыць! Казаў, і чытальня наладжана: кніжкі табе, якіх душа хоча, і радыё прывезлі — зладжыліся, хто сколькі змог, і, казаў, рыхтуюць уньдзека цяпер у вучылішчы ціятар ставіць... От! Дык дзіва што весела будзе і ахвота тая падшыхаць будзе... А то — чорт яго матару ведае — жывеш... Як ты жывеш, да чаго жывеш? Жывеш, і твайго жыцця ніхто не бачыць. І ты, можна сказаць, не бачыш. Бо сам сабе, самапасам жывеш... як дзікун...

Яўген ішоў з маўклівымі думкамі, а Васіль:

— Толькі і ёсць адно, што карты... Узырала, прыкраю ўеліся ў косці. Яшчэ ж як летам, дык праца... У працы хоць знаходзіш уцеху — праходзіць час. А зіма прыйдзе — рамс і ачко, рамс і ачко...

І цяпер асвяжылася Яўгенава думка, і ён, азірнуўшыся на Васіля, зацікаўлена запытаўся:

— Адкуль гэта ты розуму набраўся? — А той, пераступіўшы некалькі крокаў, нібы не ўчуўшы Яўгенавых слоў:

— Дзяніс казаў, у іх у месяц пяць заняткаў бывае нашчот палітыкі: разбіраюць, як, дзе, што, калі рабілася і як цяпер. Разбіралі, казаў, нядаўна... Забыўся, дзе... здаецца, у немцаў, некалькі тысяч рабочых, фабрычных... не пайшлі на работу... За тое не пайшлі, што ім збавілі плату. Ён як нараcказваў нам... дык колькі чаго на свеце робіцца, бра-а-тачка... Вось і набярэшся розуму.

— Дык ты, мусіць, як наслухаўся Дзяніса,— казаў Яўген, пераходзячы на другі бок вуліцы па ўкінутай у гразь штакеціне-аполку, па канчару абламанай жэрдкі,— як наслухаўся, дык і вырашылі вы цяпер аб запісу ў наш гурт?

— Не-э... не тое што наслухаўся... наслухаўся. Зразумела, як сядзіш, як нідзе не бываеш, то здаецца, усё як па масле ідзе. Чалавек агоўтаецца, звыкнецца, яму здаецца, гэтак яно і патрэбна... Але я ўжо і раней меркаваў... марыў аб новым жыцці...— І яшчэ з большым запалам Васіль казаў: — Ячэйка іхняя ў Камарах ураз зладзіла калектыў... І ўсе здаўмеліся аб яго карысці... Вось што, значыцца, ячэйка...

Яны ўзышлі на Анісеў двор. Яўген маўчаў. Яму прыемна было. Лагоднасцю слалася пачуццё, слухаючы чалавека... трэцяга па ліку. Хацелася толькі запытацца Яўгену ў некага: «Хто наступны?..»

І, зачыняючы вароты, бачыў ён, як:

Месяц глыбей запусціў у чорнае неба свае клыкі, больш сярдзітым зрабіўся. Як дзікі кабан, наставіўшы хіб, хацеў рынуцца і распароць адвіслы жывот чарназорнаму небу — парадзісе ваўчыцы, хацеў раніць яго аж да самай крыві.

## II

Цэлы вечар меркавалі ў Анісавай хаце: як яно будзе, з чаго пачынацца будзе.

У Лявона Махавіка былі цэлыя жмукі сваіх сталых думак. Лявон, клапатлівы загадзя чалавек, не мог выпусціць з рук так проста, на ўзвей вецер, сваіх меркаванняў.

Глядзеў Лявон у твар то Анісю, то Васілю, то Яўге-

ну, прыгінаў кулакі рук да грудзей, нібыта меркаваўся бегчы навыперадкі.

— Добра! Няхай сабе ты ета даводзіш — і так яно будзе. Няхай ета, як ты кажаш, мы ўжо сабе і далучымся адзін да другога. Дык мне не даведзена, ета, ніяк усё ж нашчот работы? Скажам, мне трэ куды паехаць, а мой конь у плузе: Васіль ці каторы другі арэ ім або скародзіць... Або нават, нашто тут ета доўга: мая унь цяперака тчэ кросна. Дык як жа яно тады будзе, як,— калі іці трэ будзе на гуртавую работу? З гурту ж не вылучышся, гурт табе што на ета скажа...

— Лявон! Слухай, Лявон,— казаў Васіль, падхопліваючы Лявонавы думкі,— ты, што ты кажаш нашчот твайго каня,— смех гэта, як той казаў...

— Не смех,— умяшаўся Анісь.— Лявон правільна робіць. Лявон павінен выказваць, чаго не ведае: як яно будзе. Каб не было якогасьці сумнення.

— Дык ніхто ж не забараняе,— паправіў Васіль,— толькі ж тут яно вытлумачана...

— Мала што для цябе вытлумачана, а раз чалавек не ведае...

— Вось што,— казаў Анісь да Лявона,— калі табе ехаць прыйдзецца, і паедзеш. Раз твой конь у плузе будзе, другога конь, скажам Васілёў конь, будзе не ў плузе,— возьмеш і паедзеш. Што гэта ты прысягнуў свайму каню, ці што?

— Не прысягнуў, ета. Не ў гэтым. Мне мо нават і не прыйдзецца ехаць, мне ета карціць толькі: як жа яно будзе?

— Вось так і будзе,— казаў Анісь.— А работа, адлучка ад работы, як ты кажаш, нашчот красён... дык гэта ж той самы калектыў будзе. Што ты, Лявон! А каб ты, а бадай ты цяміўся!

І яшчэ паўставалі пытанні і яшчэ былі меркаванні ў Лявона. І ўсе яны былі даведзены Анісем.

Расшпіліўшы каўнер у кужэльнай кашулі, расціраючы даланёю кроплі поту, што застывалі на грудзях ад духаты ў хаце, Анісь тлумачыў мужчынам:

— Наперад кажу і сцвярджаю: раз упішашся каторы — чалавекам павінен быць. Павінен глядзець за сабою, за другімі. Каб не падымалі на смех якія-небудзь Карпусі табе, Аўласы... Павінен кожны, адзін — нос ім падцерці, даказаць, пачым фунт ліха, а не то што!

І стукаючы ўпілаваным канцом алоўка па лістку чыстай разлінаванай паперы, кідаючы то на адзін, то на другі, на пяты — твары свой вострьі позірк, казаў Аніс:

— Зараз мы складзём спіс — хто ўпісваецца, а потым напішам заяву. Напішам і ўсё разам пашлём рыку, каб ён увёў у сілу наш калектыў. Патаму, як без рыку, мы не маем права нічога рабіць. Мала што: мо тута мы якую контру робім.

— Канечне, рыку...— устаў Яўген.— Нават церав сельсавет гэта патрэбна... Патапчык раіў.

У хаце, сярод мужчын, расплыўся большы шум. У лямпе моргаў ад духаты агонь. Шум быў, а не было выразных слоў, не было на адзін момант гэтых слоў.

Аніс стрымаўся як бы,— глядзеў яшчэ больш вострым позіркам, чакаў як бы нечага суцэльнага з гэтага шуму. І нехта сказаў гэтую суцэльнасць аж з ложка, аж з самага кутка:

— Запісвай... мяне...

— Хто там? — Кінуў позірк Аніс цераз Васілёву галаву.— А-а...— Убачыў і, перакручваючы аловак: — Матруна, Матруна. Маладзец, далібог, Матруна.

Тады яшчэ большы ўтварыўся шум, а скрозь гэтую шумлівасць паасобныя словы.

Нібы кожны шкадаваў, што не быў ён першым у запісе, а Матруна. Але каб не быць і апошнім.

— Мяне запішы...— Запішы, Аніс!

— І мяне...

— Хто... каго там?

— Мяне... Захару...

А Лявон, падышоўшы да самага стала, да Аніся, жмурачы свае маленькія слязлівыя вочы, гледзячы на канец алоўка, што хадзіў па белым лістку паперы:

— Пачакай, Аніс,— раптам абарваў Лявон шум і галасы.— Пачакай!

— Чаго пачакаць?

— А ты, ета, скажы...

— Што?

— А як з гаспадаркаю, ета, будзе?

— Аб чым... што з гаспадаркаю?

— А калі ў мяне большая, ета, як у цябе, як да гавэнды, у Матруны, у Захары...

— Ну, то што ты гэтым...— умяшаўся Яўген, але Аніс перапыніў.

Анісь тлумачыў:

— Гаспадарка паем будзе. Твой, Лявон, пай большшы будзе.

— Дык добры ета рахунак: Матруна будзе жыць і я буду жыць... нараўне. Дык якая ж мне ад етага выйгранка?

— То-та ж, што няма выйгранкі,— казаў Анісь.

— У гэтым увесь факт.

— Дык тады, ета, і лякціву не трэба.

— Пачакай! Я даводзіў, Лявон, дзесяць разоў: лягчэйшая жызня будзе! Я спытаюся ў цябе,— казаў Анісь далей,— што табе, Лявон, трэба для пражыцця?

Лявон не разумеў пытання. Шумлівасць зусім знікла ў хаце і на цэлы момант.

А потым:

— Як ты ета фацэтна ставіш пытанне? — парушыў Лявон ціхату.

Яўген падхапіў:

— Гэта не фацэтнае, а самае галоўнае. Як казаў той Савёнак, прадстаўнік ад рыку, што быў у нас на плянуму,— дык як казаў ён — хто гэтага не зразумее, калектыўнасці не зразумее.

— От жа! Менш каб працаваць і больш каб карысці,— спрунжынячы вусны, сплюнуў Васіль.— Але! Не ў гаспадарцы загваздка тут, не ў набыцці па сабе, а ў лягчэйшым жыцці, мой ты Лявонка.

* * *

Назаўтра на Анісевых варотах, на шуле, была прыклеена папера. На гэтай паперы было напісана няроўнымі буквамі, грубым алоўкам. Перш-наперш уверсе было напісана:

Спіс.

А далей, лявей, з другога радка пачыналася:

«Грамадзіян вёскі Брод, што захацелі, каб разам працаваць на сваіх гаспадарках, калякцівам».

І яшчэ ніжэй наступнае:

«1. Матруна Штыль.
2. Яўген Бурцелік.
3. Васіль Бурак.
4. Атрахім Апалонік.
5. Захара Крупнік.
6. Анісь Саладуха.

7. Міхалка Каленік.
8. Арцём Мікалайчык».

Арцём Мікалайчык быў запісаны на свой адказ. Ён учора сказаў Анісю, што бацька яго кажа, як хочаш сабе, так і рабі, што для яго бацькі — як людзі, так і ён.

Таму, калі Аніс, пішучы, учора запытаўся: «А як жа бацька, ці будзе згодзен?» — Арцём сказаў, што ён за гэта будзе адказваць сам.

Унізе пад спісам калектыўшчыкаў было дапісана: «Хто жадае яшчэ ўпісацца, няхай зойдзе да таварыша Яўгена і ўпішацца на працягу трох дзён. Бо спіс прыйдзецца адсылаць у рык, дык тады ўжо будзе позна».

Раніца была спырскана, падкрэплена свежаю расою. Гэтая свежасць навісала на маладую, адскочыўшую траву. Туман, востры, імжысты, сеяўся, мяшаўся з дымам, што вылятаў з комінаў хат вёскі Брод.

Паладзя сустрэла каля студні Юстыну. Тая прыйшла па ваду, а Паладзя шукала рудзенькага падсвінака.

— Дзе ён дзеўся: ці не пабег у той канец,— падышоўшы да Юстыны, пытала, глядзела на яе неспакойным позіркам.— Ці не бачыла ты, кабеціна?

Юстына цягнула,— падхоплівала то адною, то другою рукой доўгі вочап, глядзела проста перад сабою, чула Паладзіна запытанне ды:

— Не відаць было: я толькі ж адтуль.

Паладзя хацела ісці, але — не то замарудзіла, не то наўмысна затрымалася. А як вылівала Юстына ваду з акутага вядра ў сваё бляшанае, дык Паладзя:

— Як жа там, як — ці зжыліся асэсары нашы?

— Аніс з Яўгенам?

— Ну? Ты ж павінна ведаць... Суседзі ж...

Тады Юстына паставіла вядро — падышла бліжэй да Паладзі. Мацней заціснула вузел хусткі пад барадою — пацягнула разам за абодва адтапыраныя ражкі. Залажыла ўсёй даланёю за край хусткі разбэрсаную пасму вытаркшых валасоў дый:

— Учора араў. Аж да самага цямочку. А сам — нябось не пайшоў на поле. Цэлы дзень то на прыгумені, то каля заплоцця абціраўся.

— А мая ж ты... а матачкі... Дык гэта ўжо з першых дзён?!

— Дык вось то-та ж, дай жа ты рады.

І прыгнуўшыся, пачухаўшы лытку сваёй нагі, Юстына казала:

— А днём ужо, калі ён на прыгуменні неванта там для прыкладу ляжаў, дык яна, гэтая самая Наталечка, выйшла на ганак ды: «Аніс, Аніс, ідзі палуднаваць!» Той нябось на полі без полудня, а яны ўдваіх — гарачая, сабе, страва, мо і ў цаганчыку — тлустае што, як у таго Аўласа. Дык вось ты, мая любая, яны якія мяргуюцца аляктывы. Што ты не можаш здаўмецца. Тут усякі — дзіва што — здаўмеецца.

Паладзя слухала, што кажа суседка. Забылася на рудага парсючка, забылася, што дровы падпалены ў печы і што не папрыстаўляны гаршкі.

А Юстына казала:

— Прыклеіў на шуле нейкую паперу. Ведайце, што ён ужо нейкі рыцар! Смяхоцце з чалавека. Не ведае, як той казаў, ні цэ ні бэ, а на каралёўства прэ!

— Якую паперку? — перапыніла Паладзя,— што пішацца на ёй?

— А што я... Што ты ў мяне пытаеш? Мабыць, гітацыя якаясь. Чаго людскага не начэпіць.

— Мо з сельсавета, мо пра вайну што? Некалі ж, як бралі, дык прыклейвалі. Глядзі, мо твайму Лёксу іці прыйдзецца?

Юстына схамянулася — аж холад дрыжыкамі прабег па яе целе.

— Што ты...— перш сказала ўслых, а потым сама сабе пад нос: — Вансач яе ведае, што за яна, пра што на ёй, на паперы. І мяркуючы ў маршчыністым сваім твары, пытліва гледзячы на суседку Паладзю:

— Мо і пра вайну. А што ты, любая мая, думаеш? Учора ў Камарох соль у дныск расхапілі. Мой быў у млыне, дык казаў...

Тады, шукаючы парсючка-падсвінака, ідучы вуліцаю, размінаючыся на другім баку вуліцы з Тэкляю, з Лявонаваю жонкаю,— Паладзя ёй наўздагон:

— Вайна пачалася. Каля нашага, каля члена, папера прыбіта.

Тэкля падыходзіла да свайго двара, меркавала ў сваіх думках і — з перапоўненай баязлівасцю, сустрэўшы Лявонаву Анцю:

— Кажуць, вайна... Ці чула ты, Анцечка? Божухна-бацюхна!

А цераз паўгадзіны па ўсім Бродзе насіліся чуткі пра вайну. І ніхто не ведаў, адкуль што ўзялося. Бо сцёрся першы след, не засталося ад яго нават пылупацярухі.

Займаючы з Цімохавага двара рудага парсючка, пыталася Паладзя ў Цімошыхі:

— Ці праўда гэта, што кажуць пра вайну? Хто гэта першы ўз'егліў — зажадаў яе? І чаго іх дрэнчыць, ліха іх матары. Няхай бы ўжо спакой быў. Ці хіба мала з іх, з гэтых гудуноў...

Парсючок рохкаў праз плот з Цімохавымі свіннямі, а Паладзя размахвала рукамі. То закладала іх адна за другую, то зноў размахвала і ў такт сваёй гутаркі:

— Ці то не падзеляць чаго, ці то іншая якая немач? Успадзе ж на людзей нейкі паралюш.

І гледзячы на Цімошышын разарваны па цэламу рукаў у каптане:

— Дзіва што ўспадзе: недавяркамі, нехрысцямі парабіліся людзі. Адзін другога, каб прымеў, з'еў бы. А хіба гэта работа,— падняла вочы на твар Цімошыхі,— твой зяцёк — у парабкі да Аніся пайшоў. Небарака, арэ ўчора цалюткі дзень. А яны нябось удваіх дома. То ж, бок.

Казала Паладзя і не ведала, не адчувала, які боль, які моцны боль наносіла яна суседцы і без таго — дачкою нанесены — яе матчынаму пачуццю.

### III

Вечарам Карпусь зайшоў да Пракопа, а ў Пракопа сядзеў Аўлас.

— Добры вечар! — сказаў, пераступіўшы парог.

— Вечару добры! — адказаў Пракоп.

І гледзячы на суседа, каб не было перапынку пасля прывітання (бо, бывае, зойдзе ў хату і не ведае — шукае, з чаго пачынаць бы гамонку):

— Праходзь, Карпусь, да лавы. Садзіся, гэна...— дадаў Пракоп самастойнай чыннасцю.

У хаце яшчэ не палілі агню. Быў вечар-шчэдрык. Была такая часіна, калі і агонь паліць яшчэ рана, і не паліўшы яго — прыцемна.

Змрок скакаў па кутках поўнай даўжынёю. А знадворку ўвайшоўшы — большая цемень у хаце. Таму і сказаў Карпусь, падыходзячы да стала, да лавы:

— Седзіцё ўпацёмку, як тыя начніцы...

Аўлас паварушыўся на лаве.

— Ранавата шчэ: відна,— сказаў за Пракопа.— Гэта ж табе не даўніна, што газа — на капейку па фунту была...

— На капейку-то не было...— парушыў Пракоп сваю гаспадарскую маўклівасць. А Карпусь, сеўшы на лаве, успіраючыся над сталом:

— Што гаварыць... Даўней, даўней! Што гаварыць пра даўніну. Было ды сплыло. Даўней цябе каторага не вадзіў бы за нос які-небудзь падшывалец. Даўней, калі ты меў у кішэні рубель, сотню рублё-оў — ты пан і воінскі начальнік!

— Калі б мне прыйшлося, бывала...— пачаў Пракоп, але Карпусь перапыніў — хацеў выказаць усё за адзін раз:

— Даўней, бывала... ліха іх матары, гэтых самых хоць сабе і дваравікоў. Чаго ім, бывала, здаецца, не хапала? — І андынарыя тая, і хата без клопату — панская... дармо што стлелі, камячылі за панскімі плячыма кулакі. Бывала, трэ быў катораму пуд жыта, другі, трэці — абы звярнуўся да пана, ніколі не адмовіць. Хоць наперад, хоць і вылічыць потым з першай андынарскай палучкі, але выдасць пан. А цяпер... Яны рызыкуюць...

— Што гаманіць, гэна, пра цяпер...

— Мне давялося трапіць на гутарку з Камароўскім Тадэвушам, што быў некалі ў нашага пана за кухара, дык — фі-ы! — мне, кажа, цяпер не патрэбна здымаць шапкі. У мяне, кажа, цяпер аднае шапкі хватае на пяць гадоў: яна не шмаруецца ад частага здымання...

— Яны ж гэтым і рызыкуюць,— перабіў Аўлас,— што не патрэбна здымаць...

— Дык то-та ж! А я кажу, паглядзім шчэ, дачакаемся — прыйдзе коза да воза...

— Як бы яму, катораму, ад гэтага,— уставіў Пракоп,— ад гэтага, што скідаў шапку перад панам,— карона з галавы спадала.

— От жа... А-а-гга! Паспрабуй, згаварыся з ім, з каторым. Ён жа табе змяніцца не дасць: яго павінен быць верх. Ён шышка. Ён жа што-та ён! Як бы нехта не ведае,— хоць бы ўзяць таго самага Тадэвуша, як бацька ў падсуседзях некалі сядзеў, як галеў — не меў кавалка хлеба.

Пракоп уздыхнуў цяжка і сапуча, праз нос. У хаце ўтварылася на момант руплівая ціхата.

Карпусь у цемені цыркнуў скрозь зубы слінаю на падлогу. Аўлас прымушана кашлянуў. Кожны з трох хацеў казаць нешта. Бо якраз было закранута важнае для трох, хоць і прыкрае, але смакавітае, картлівае пытанне.

Карпусь першым далей казаў — абарваў маўклівую нітку:

— ...Нарабілі, табе, нейкіх рыкаў-тыкаў. Кожны, гэна, камандуе, загадвае. Носа не ўмее ўцерці, шчэ матчына малако на губах — а загадвае, правіць. Ён ужо ўправіцель!

Аўлас падхапіў Карпусёвую думку — ухапіўся за яе, як топельнік за саломінку, аж прыпадняўся з лавы ды:

— То ж та! Даўней, гэна, пойдзеш у воласць, а там — адзін старшыня з пісарам. Двух, а ўсёю воласцю правяць.

Пракоп устаў з лавы і пачаў шукаць на гзымсе сярнічак. Мацаў вобмацкам, лэпаў рукою па запыленаму гзымсу і чуў:

— ...ведама, пане мой, выбран чалавек, гаспадар быў. Не тое што бясхлебнік які, а гаспадар! Калі што якое, калі б прыйшлося і спракудзіўся — ён гаспадаркаю сваёй мог выручыцца...

А Пракоп, шморгаючы сярнічкаю па карабку:

— А цяпер, каб прыйшлося, што ты возьмеш, гэнам, з гэтакіх, скажам, Анісяў?

Сярнічка загарэлася, і Пракоп пачаў запальваць вісячую, заседжаную мухамі лямпу. Калі надзеў нявыцертае шкло — засадзіў яго за берагі рашоткі,— убачыў муху. Яна лапатала пад шклом, пакуль не разгарэўся кнот. Пракоп пачаў падкручваць кнот — большаць агонь ды:

— Ага, ліханька табе, папалася...

— Што? — запытаўся Карпусь.

— Муха.

— Му-у-ха...

І вярнуўшыся да Пракопавых слоў:

— Ты кажаш пра Анісяў... У Анісяў... Анісем злы дух завалодаў. А твой...— І ён папярхнуўся, закашляўся.

Пракоп адышоў ад лямпы, сеў на лаве, абапёрся аб

рубец лавы абедзвюма рукамі, ды гледзячы ў Карпусёвыя вочы, перабіваючы:

— Твой... Што, гэна, мой. Мне шкода толькі, што не давядзецца ўсяго бачыць, не давядзецца бачыць канца. А хацелася б, гэнам, паглядзець на свайго вісуса, сукінага сына, як будзе пухнуць з галадэчы ў Анісевай капэле. Хацелася б сказаць тады: от як вам, не слухаючы бацькоў. Так вам, ліха вашай матары, і трэба!

— Не бядуй! Ша! Чаго ты вельмі дрэнчыш,— падхапіў Аўлас, і ў тахт узмаху сваёй рукі: — Не за гарамі. Убачыш. Паспееш з козамі на торг. Убачыш, як твой гэты самапас прыйдзе да цябе, як будзе прасіцца... будзе скарынцы хлеба рад. Дажывеш. Іх гэтыя работы, што бурбалка. І не ад мыла бурбалка, а дажджавая. Бо мыльная, як той казаў, мацнейшая за дажджавую.

Карпусь муляў нешта ў сваіх меркаваннях, цёр гэтае нешта цэлую хвіліну, цісnуў у вобмацку то з аднаго, то з другога боку — не чуў апошніх Аўласавых слоў, а потым:

— Запісалі ж... Спіс на шуло пачапілі,— сказаў пакепліваючым голасам.— Так што і сапраўды, як ты, Пракоп, кажаш, залажылася Анісева капэла.

Пракоп раніцою даведаўся пра спіс калектыўшчыкаў. Прыкрасць узяла старога, калі даведаўся. Не хацеў думаць пра гэта, пра другое што, абы-што думаў.

Аўлас не ведаў нічога пра ўчарашні сход, пра спіс. Аўлас ездзіў у Войраўку. Войраўскі чалавек прадаваў кабыліцу. Дык Аўлас прачуў быў...

Аўлас кажа:

— Я люблю сяды-тады, гады ў рады — пашчупаць конскія шчотачкі. Люблю перакінуць вушка на вушка, цень на цень. Люблю, калі варта яно, індыка на быка.

Таму і не ведаў Аўлас пра ніякія спісы, бо не быў цэлы дзень дома.

І калі сказаў цяпер быў Карпусь пра запіс, пра спіс, што на шуле,— Аўлас не зразумеў перш-наперш.

— Што... Аб чым ты? — запытаўся ён, і Карпусь растлумачыў усё па парадку. Карпусь расказаў, як учора пад Анісевым акном стаяў ён, як слухаў і чуў усё да макулінкі. Чуў, як ашалапуцілі Лявона, як крычаў Анісь запеніўшыся аж... Як патакаваў Васіль яму з Яўгенам.

— ...І Матруну нават запісалі,— сплюнуў Карпусь, кажучы Аўласу пра ўчарашні вечар у Анісевай хаце.

Аўлас перш збіўся быў на хвілінку з панталыку, а потым, прыйшоўшы да сябе:

— І Матруну? — сказаў і дадаў: — Нават і Матруну ўвагналі чэрці — нячыстая сіла...

Пасля гэтага свежая разгарнулася гаворка ў суседзяў. Гаманілі пра балючыя, пра суседскія пытанні.

Глядзеў Аўлас немігаючымі зрэнкамі ў Пракопаву ў густую бараду ды:

— Чаго не навымысляюць, чаго не навыдумляюць ужо ў гэтым свеце! І кулачкі, і кулачыкі, і жменькі, і прыгаршчыкі... і — ліха іх матары...

Карпусь уставіў:

— Ды яно што казаць, у мяне-то ёмкі кулачок. І нават кулак. Так што калі б спусціць катораму другому па крэсіву,— успамянуў бы родных з таго свету...

Пракоп загарачыўся:

— Што, гэнам, ты мне даў каторы? Ну, я маю... маю, скажам, і хлеб і да хлеба... І ты, Карпусь, і Аўлас мае... Дык і ты... і ты каторы май. Май, гэна, хоць цэлыя маёнткі! Я і слова не скажу. І павагу аддам: бо тваё ж гэта, тваё, нажытае тое! Дык што мне ты ці другому, каторы, зайздросціш? Не гультуй, а нажыві... Тады і зайздросць, цешся, гэна, сам сабе.

— То ж то: чужым, тым, лягчэй яно цешыцца.

— Мала што лягчэй,— сказаў Карпусь,— я мо хацеў бы цешыцца залатымі яблыкамі... Але ж, папярадзе, трэба іх мець. Я, пане мой, плойму грошай высыпаў на жней, на касцоў, на трасцу розную, за год. Дык гэтага ніхто не бачыць і не бярэ на ўніманя. У савеце толькі бачаць, што ты маеш. У цябе ёсць. Дык нажыві, трасца тваёй савецкай матары, нажыві сваё ды і камандуй ім, а не то што... І каляктуй тады, нажыўшы, і што хочаш.

— То ж та...

І яшчэ гаманілі ў гэты вечар. Першы гэта быў збор у Пракопавай хаце пасля Яўгенавай адлучкі.

Як быў Яўген — часцяком збіраліся ў Пракопаву хату. Жывасць была нейкая ў гэтых бродаўскіх зборах. То сёй то той збяруцца, бывала, і весялей ён, час, праходзіў. Прывык Пракоп да вясёлага разгарнення. Таму і напаў сум на Пракопа, калі застаўся адзін пасля Яўгена. Не ведаў, да чаго рукі перш прылажыць. Ліст

у той жа дзень выслаў Гіляру. А Гіляра не было дома.

Што ён будзе рабіць? Ён адзін душою, што будзе рабіць, калі не прыедзе сын?

І яшчэ большы агортваў сум, большая скруха.

Але сёння праходзіў вечар непрыкметна. Нібы толькі пачаўся, а было позна. Доўга засядзеліся Аўлас з Пракопам. Не было ў Пракопавым нутры тае ўчарашняй, пазаўчарашняй адзіноты. Не было таго, што:

Глянеш у адзін куток — далёка ён, аж вунь-вунь, у другі глянеш — таксама. Цішыня звініць нейкім цягучым, ашаламочаным гулам. Застылая цішыня, нямая, прыкрая. Ніхто не парушыць, калі сам не захочаш.

Кашляе Пракоп наўмысна, каб ускалыхнуць гэты застой, каб узварушыць нямое гудзенне ўвушшу. І зноў асядае гук. Нікне, растае, немаведама дзяецца дзе. І зноў...

Вялікі сум у такой адзіноце, бязмерны сум.

На адыходзе суседзяў, калі ўсё было ў гэты вечар пераказана, узварушана і тырчэла трушанкаю — Пракоп успароўся быў.

— Добра,— казаў Пракоп,— запісаліся яны — скуру ім няхай абпішуць чэрці,— добра. Ну, а цяпер? Што будуць рабіць яны цяпер? — пытаўся Пракоп, пазіраючы тупа ў Карпусёвыя грудзі.

І ні Карпусь і ні Аўлас не адказалі на гэта. Маўчалі суседзі і датуль, пакуль трэ было хоць што-небудзь а сказаць. Тады Пракоп сам адказаў на сваё запытанне.

— Паглядаць будуць на паперу,— адказаў Пракоп.— Будуць глядзець на запісы і будуць гэтым самым жывы. Бо... дармо што запісаўся — уцягнулі, як ты кажаш, Карпусь,— Лявон, Захара... Што, Захара табе, гэнам, пойдзе ў калякцівы? Ды яму ж яго жонка такога дасць дыхту... Яна, гэнам, дасць яму такую запісю, што аж яго чэрці абліжуць, далібог! Яна пакажа яму, дзе расце горкі перац, пакажа за дзесятаю гарою гэтыя Анісевы мудрыкі.

А калі ішоў Карпусь ад Пракопа, агнёў не было на Бродзе.

Цемень, дробна рассыпаная, чаплялася на частакол, на штакеты. Месяц-маладзік даўно заліўся недзе на краі неба-прорвы.

Праходзіў Карпусь каля Анісевых варот, і неяк

сліны шмат сабралася ў роце. Плюнуў з прыкрасці, кінуўшы косы позірк на шуло з начэпленаю паперай. І пайшоў быў, мінуў. А папера белая вісіць і дражніцца. Вельмі ж выразная была бель паперы сярод ночы.

Унурыў галаву і пайшоў. Хацеў не думаць і чуў: на двары забурчэў Анісеў Лямпар.

— Здох бы ты...— сказаў сам сабе пад нос, і ўсё роўна:

Белым кляймом вісіць папера. На Мікалаевым шуле... На Арцёмавым... Ён ідзе і паперадзе. Яшчэ ідзе і яна...

— Ліха іх матары...— зашаптаў Карпусь злоснымі пырскамі.— Нагліца, пача, насланнё...

Наўмысна вярнуўшыся, падышоў шумнымі крокамі да Анісевага шула.

— Вот вам... вот вам... вот, вот... ліха вашай матары...— асыпаў застыўшую бродаўскую калатушу гразі беласнежнымі лёгкімі камякамі.

## IV

Атрымаўшы бацькаў ліст, Гіляр вырашыў з'ездзіць у Брод.

Ён ішоў з цягніка, з паўстанка, што за васемнаццаць кіламетраў ад Брода. Ён падыходзіў цяпер да сваёй вёскі. Ён ішоў, а вясенняя раніца ўплятала ў свае косы краскі-пралескі.

То перад вачыма, то тамака вунь, уводдалі тыпчылася вясенняя зяленіва, лезла напралом, станавілася на кончыках карэнняў, хацела зяленіва быць большым, паўнейшым, выдзеленым.

Кляновыя пупышынкі на разгатым галлі раптоўна, за адну ноч, калоліся-трэскаліся, падаваліся ва ўсе бакі — выпускалі з-пад сваёй ліпкай скарынкі жмук шырокіх, мяккіх, цянюткіх, як кураняцін пух, далікатных лісточкаў. А трава шаўковая, а кусты ружовай радосты... Турэцкія касачы, сінія касачы — усё лезла з зямлі пішчаніцаю, вырастала цераз суткі, цераз ноч.

Балота ў гэтую раніцу, што навокал Брода, было апавіта дымкаю-пялёнкаю. Недзе над ім, над балотам, над бродаўскімі палоскамі — высока-высока ўгары, у неба — звінелі, пераліваліся чыстай поўнай песняю галасы маленькіх птушак жаваранкаў. Не відаць яе, гэ-

тай маленькай птушачкі, а чуваць — песня празрыстай крыніцаю пераліваецца, серабрыстымі ладамі — яна жыватворчая, маладая, веснавая.

І звініць і звініць у трымцячай вышыні блакітнай далі.

А ў Атрахімавай кузні таксама чуцен звон. Ад спусцістага малатка па накавальні. Ён, Атрахім, накладае цяпер нарогі. Вясна.

— Га-ах-цін! Га-ах-цін! Цін-цін...

І напаўняецца раніца распырсканымі гукамі, уплятае іх — дрыжачыя, жывыя, млечна-ружовыя, звінючыя.

Гіляр узышоў, ідучы з-пад загумення, на бацькава гумно, на сваё гумно. Чуў у кузні Атрахімаў гэты жалезны звон; ішоў і кідаў трымцячы позірк паабапал сябе.

Бачыў Гіляр узадраны рог шчыта на старой адрыне.

«Віхар быў, мусіць, вялікі»,— падумаў Гіляр, каля адрыны праходзячы. Бачыў назмятанае ў кучу па восені апаўшае лісце, бачыў каля адрыны кола старое з выкінутай спіцаю. А калі пераходзіў вуліцу — багна, а не вуліца. На двары бачыў бацькаўскі панарад.

Учора віліся думкі ў Пракопа пра сына, а ў сённяшнюю раніцу...

Пракоп наліваў ваду ў пабяляны чыгун, калі адчыніліся дзверы яго хаты.

— Як маешся, бацька, як крэпішся? — сказаў Гіляр, пераступаючы цераз бацькаў парог.

Пракоп перш — не то не пазнаў сына, не то ніякавасць ад раптоўнасці збіла зтрыбу старога — глядзеў на Гіляра няміргаючымі вачыма. А потым:

— Вось і прыехаў... А што. Праходзь, раздзявайся.

— Дык давайце ж... давай, ці што...— і Гіляр, узяўшыся рукамі за абодва бацькавы плечукі, пацалаваў старога ў яго валасатую шчаку.

Тады пачаў Пракоп абціраць мокрыя, апырсканыя вадою рукі, пачаў па адным пальцы абціраць аб полы свайго зашмальцаванага кажуха.

Гіляр адзін прыехаў, паглядзець-разглядзець прыехаў. Бо не наўда пакінуць службу, а ці варта гэта, ці будзе якая выйгранка.

Калі атрымаў ліст ад бацькі, розныя паўставалі меркаванні ў Гіляравай галаве. Даведаўся, што калектыў складаецца ў Бродзе — розныя ўсплылі думкі.

— Як ты мяркуеш,— саймікаваўся Гіляр з сваёй жонкаю Просяю.— Хочаш працаваць на зямлі ці любіш гэтую працу? Хачу аб гэтым паставіць пытанне ў партыйным камітэце...

Прося ні сяго ні таго не сказала.

— Як хочаш,— сказала.— Па мне — абы-дзе; будзеш працаваць, будзеш жыць. Я не баюся працы.

З такім і прыехаў Гіляр меркаваннем, з такім разважаннем і зайшоў ён цяпер у бацькаву хату.

Пракоп кешкаўся каля печы — паліў у печы, прыстаўляў да агню чыгуны з вадою, каб нагрэлася вада, каб запарыць аржаное амецце.

Гіляр скінуў з сябе сваю скураную тужурку, сядзеў на лаве і бачыў: незасланае ложка, а пад ім натрэсеная пацяруха-салома. Сцёртая, расплюснутая тонкім пластом асеўшага пылу.

Глядзеў Гіляр на вянок вісячай на шастку цыбулі, на лапці-атопкі каля запечка, на венік-дзяркач.

Курыца грабла смецце каля прыпечка, каля лаўкі, і бачыў Гіляр, як выпучвала яна валляк, раскідала смецце вострымі кабдзюрамі ва ўсе бакі.

— Ак-кыш-ш! — сказаў Пракоп, ляпнуўшы рукою па крысе свайго кажуха.— Каб ты здохла, гэнам!

І гледзячы на сына вачыма невінаватага чалавека, дадаў Пракоп:

— З яйцом яна... дык не выпускаю на двор. На двары Анісеў Лямпар, каб яго нараду не было, гэнам,— услед з'есць — не дасць залежацца яйцу. А я пад рэшата яе...— распасціраючы шырока свае ногі, растапырваючы нязграбна свае рукі, прысядаючы, каб злавіць курыцу, казаў Пракоп.— Пад рэшата. Накрыю яе рэшатам...— Пы-ыр-села! — Ды няхай нясецца там.

За сталом, снедаючы, Пракоп жаліўся сыну. Апавядаў пра дзяльбу, пра Аніся, глядзеў у Гіляравы вочы, лавіў выраз гэтых вачэй і казаў:

— Навядзі лад! Бачыш, чаго ён, гэнам, сукін сын, натварыў. Кінуў. Нібыта я не бацька. Як гадаваў арыштанта, трэба быў яму тады. Тады патрэбен быў бацька. А выгадаваў — вось яна, гэна, падзяка бацьку. Разараваў гаспадарку. Светам пачаў муціць. Звадыяшаў пачаў слухаць, а не бацьку. Давядуць яны яго да торбы, да галечы. Растрасе бацькаўшчыну. Хутка згуляе, што нажыў бацька за свой век.

Гіляр маўчаў, калі выказваў бацька сваю крыўду.

Слухаў снедаючы і не важыўся пачаць адразу апраўдваць Яўгена. Бо добра ведаў старога: яго раптоўную злосць, ведаў яго цвёрдую волю.

А хацелася сказаць бацьку пра другое. І сказаў бы, каб не быў госцем; адразу выказаў бы сваю думку. А так...

«Скажу, але пачакаўшы,— вырашыў Гіляр.— Разгледжу, расслухаю, што, як».

Яшчэ едучы да бацькі, меркаваў Гіляр:

«Ці сёе ці тое, скажу, калі хоча ён майго гаспадарання; або без мяне, або мая каманда».

І каб ведаў Пракоп думку сына, ніколі б не сказаў ён так смела, так ахвотна «навядзі лад». Бо пра другі, зусім пра другі лад у гаспадарцы меркаваў Гіляр на выпадак свайго пераезду.

* * *

Наталя мыла бялізну, калі днём зайшоў да Аніся Гіляр. Была адна яна ў хаце, узбівала мыльную пену ў начоўках аберучкамі. Церла, адцірала — пырскала белаю шумаю на берагі пелюсцяў. А на твары ляжала ў яе задуманасць вялікай сталасці; нешта важнае ляжала, цяніла яе твар.

Аж злякнулася Наталя, убачыўшы Гіляра. Бо было гэта раптоўнасцю, неспадзяванасцю для яе: яна не чула, што прыехаў ён да Пракопа.

— Дзе ж мужчыны? — запытаўся Гіляр, аглядаючы хату, сядаючы на шырокі і тоўсты тапчан.

Наталя не адказала адразу. Стаяла яна каля начовак, абцірала мыльную шуму з берагоў, з пелюсцяў, а потым то адну, то другую руку абціскала яна ад вады, ад мыльнай пены.

Стаяла і нібы не разумела; не ведала, што адказаць свежаму чалавеку. А потым:

— Анісь у рык паехаў...— сказала і дадала: — Нашчот калектыву паехаў. А Яўген на полі: барануе недзе рассеяны авёс.

— Чаго ж ён нашчот калектыву...— не спускаючы вачэй з Наталінага твару, запытаўся Гіляр.— Як гэта нашчот калектыву?

І Наталя пачала апавядаць Гіляру, як яно робіцца, што робіцца ў іхнім Бродзе.

З вады, з начовак, ішла і падымалася аж да столі

белая пара. Гэта стыла вада, стыла бялізна. А Наталя казала:

— Было перш восем гаспадароў запісалася ў спісак. Дык адцягнулі былі на тры дні. Аніссь мой казаў, няхай раздумаюцца нашы мужчыны. Дык яшчэ дабавілася пяцёх... за гэтыя тры дні. Цімох запісаўся, Андрэй Маленькі... Ціт Халімонаў, Антось і Кандрат. Ну, гэты, што быў некалі ў Сікірыцкага за фурмана, гэты самы Кандрат.

Ціснула даланёю Наталя скруткі бялізны, што ляжалі аджатыя каля начовак. Кідала позірк на абмочанае крысо свайго паркалёвага каптана і далей:

— Паехаў, павёз спісы і заяву. Трэба ж, каб рык наклаў рэзалюцу, каб сцвярдзіў, каб мы мелі права на калектыў. За адным заходам, казаў, будзе меркаваць нашчот жняяркі. Мужчыны тут гаманілі ўжо: сяк-так крыху збярэцца грошай як бы на задатак... Астачу напавер, можа...

Убег у хату Змітрок з заплаканымі вачыма, абсыпаны пяском, і адразу да маткі — перапыніў яе і скрозь слёзы:

— Ярэмчы-ык абсыпаў... У валасы насы-паў пяску...

— А ты не дружыся, не хадзі да Ярэмчыка,— сказала Наталя.— А то — ён табе не гэтак дасца ў знакі. Казала, не ідзі: гуляй дома. Не слухаеш...

І да Гіляра:

— Гадуецца арыштанюга, а не хлапец. Цяпер ужо не дасць спуску, не пройдзеш па вуліцы. Так і аглядайся, каб каменя не запусціў або палена-патарчачыну якую. Увесь бацечка, адыхтар. Той-та, казалі, бывала, не аднаму расквасіў, размазджэрыў галаву. Так і глядзіць спадылба ваўкалакам.

— А як жа... Што Ярэма кажа на гэтую Анісеву работу? — запытаўся Гіляр.— Што Мацей кажа, Лаўрэн, Гаўрук Данільчыкаў, Карпусь што, што кажа: чаму не ўсе запісаліся?

І Наталя апавядала Гіляру пра думкі бродаўскіх гаспадароў, пра іх не то сёе не то тое меркаванне. Наталя казала, прысеўшы на рог зэдліка:

— Яны і самі не ведаюць чаму. Мацей кажа, я б запісаўся, але Юстына, жонка яго, аж вар'юецца — не хоча. Жонка, кажа ён, і гаварыцца не дае нават. Кажа, калі запішашся, ідзі ад мяне, каб і чнару твайго не ба-

чылі. А Лаўрэн, дык ён — як Гаўрук... Гаўрук, такса-ма з жонкаю ваюе. Я ўжо, сустрэўшыся, надоечы гамаліла з яго Паладзяю: — пішэцеся, кажу, жыць будзеце. І бога нават будзеце хваліць. Аднак жа, кажу, будзем жа мы жыць, ужывёмся. Дык дзе ты, і да гамонкі не дапушчаецца; рукамі махае, як махалам, і ў адзін зваг: «Чэрці вам скуру няхай абпішуць, колькі я буду пісацца. Цяпер я, кажа, пані сама сабе. Я, кажа, што хачу, тое і раблю. А не тое, каб мною камандывалі. Я і з'ем, калі захачу, што захачу. У мяне будуць цёнгле пры мне ключы ад майго кубельчыка». От што кажа баба. Аніська, Яўген і мы тут усе — меркавалі: не вельмі патрэбны нам гэтакія ахмістрыні. Яна сябе лічыць вельмі вялікаю празутаркаю. Ну, а Карпусь... Дык аб Карпусю... Ты хіба не чуў? — паглядзела Наталя на Гіляра пытальным позіркам і дадала:

— Карпусь жа унь якую гітацыю вядзе! Аўлас, Карпусь, Ярэма — гэта ж шайка-лейка. З іх жа ўвесь свет гарыць. Каб не яны, дык і Паладзя і Юстына — гэтыя самыя ўпраўныя — не тварылі б светам. Яны падшыхаюць, падбухторуюць і таго самага Лаўрэна і Мацея... Ім коле ў нутро, што могуць адняць у іх лішку зямлі... Аніська кажа, і аднімем. Права такое, кажа, ёсць. Калектыву даецца розная ўступка. А як іх надзелы не падзеленыя... Ага,— схамянулася Наталя,— ты і гэтага ж, мабыць, не чуў: Яўген спісаў быў усіх, хто згодзен на разам. Спісаў быў, ды каб ведалі, наўмысна павесіў на шуле гэты спіс. Дык — ці дасі ты веры? — за ноч нехта на дробныя цурачкі пашматаў. Зайздрасць, відаць, была. Са злосці, ліханька. Нічога не мог зрабіць большага. Аніська кажа, што гэта работа Аўласавых рук або Карпусёвых.

Наталя казала Гіляру пра жыццё Брода, але нічога не намякала пра Гіляравага бацьку, пра Яўгена. Абыходзіла іх абодвух — не хацела кратаць — не ведала, якіх думак Гіляр.

## V

Макрына прыйшла да Яўгена.

Каля грэблі, сустрэўшы зяця, Цімох казаў:

— Або сёе, браток, або тое. Зайдзі, пагамані з ёю. Яна плача, кляне, злуе. А мая гэта дурніца грызе мой карак. Паляруш няхай іх возьме — баб'ё.

І Яўген зайшоў назаўтра раніцою, на другі дзень пасля Гіляравага прыезду.

Калі ўвайшоў у Цімохаву хату, Макрына крышыла на гнушцы, на стале, парэзаныя на некалькі частак чырвоныя буракі. Кінула на Яўгена спатайка позірк, апусціла вочы, разліла па твары густую ружавіну.

Цімошыха стаяла каля печы, трымала ў руках чапялу, каб зараз вынуць ёю, каб перавярнуць на другі бок грэцкі блін.

Старая пырскала маўкліваю злосцю, але ні слова, ні паўслова — каб то канула што. Як стаяла каля печы, так і стаяла — урытаю.

Яўген не звярнуў увагі на цешчу, а як увайшоў у хату, дык адразу:

— Дакуль гэта, Макрына, будзеш ты смяшыць людзей? Ці я табе не муж? Што ты гэта вычвараеш — думаеш што!

І падышоўшы да яе, да самага стала, гледзячы на яе апушчаныя вочы, на яе слязлівы, пакамечаны твар:

— Ты мо чакаеш уклонаў ад мяне? Ідзем! Ідзем, Макрына! — Сказаў, не мігаючы зрэнкамі сваіх вачэй.— Не патрэбна мець людскіх гаворак, смеху людскога...

— Гэта ж праз цябе: ты смешыш...— згортваючы нажом з гнушкі калівы кантовых буракоў, няўпэўненым тонам сказала.

Сонца цэлым жмукам, снопам, кідала праз акно свае прутка-вострыя праменні. У хаце асядала прытворная, цэлы момант, маўклівасць.

— Ідзем, Макрына! — скрануўшыся з месца, з лёгка дрыжачаю збянтэжанасцю паўтарыў Яўген.— Кажу, ідзем!

Тады адступілася тым самым паўкрокам, падалася назад, а ў голасе наспеўшая захісталася крыўда.

— Мо біцца будзеш? — сказала, паднімаючы апушчаныя вочы.

І Яўген:

— Калі трэба, то і дам...

— Тады... я не пайду. Зусім не пайду! — сказала, мяркуючы асыпаць Яўгена іскрамі злосці.

Але ён:

— Ідзі... кажу.— Узяў яе за руку.— Не тваё гэта дзела. Галава.

За гэты час не сустракалася Макрына з Пракопам.

Неяк надоечы, калі ішла па загуменні да Лявонавай Тэклі, бачыла яго на прыгуменні, каля падстрэшка. Нешта кешкаўся там стары і не заўважыў. А яна шпаркa прайшла, і ў яе адчуванні... злосць прыкрая шчыпала нутро.

— Старызна...— зрывалася з яе вуснаў слова, а ў гэтай злосці невядомая крыўда на Яўгена, халодная, астыўшая крыўда.

У гэты момант яна не кахала Яўгена.

— Чаму?

Хто ж яго ведае чаму. Макрына не ведала гэтага.

І ўжо ідучы, ужо прамінуўшы гумно, дзе бачыла старога,— чамусьці вярзлося, пішчаніцаю лезла.

Снапы акалоту... сячкарня. Карытца гэтай сячкарні, а ў ім — каласамі падняты ўверх акалот. Сечка... Яе калівы, расплюснута паколатыя, куртатыя... Анця з Гэлькаю... І ўсё гэта такое выразнае, такое поўнае, ахвотнае ў сваёй выразнасці...

Макрына, ідучы, тады адчула імжыстую тугу, якая слала яе нутро, пашэрхла прыемнасцю.

І от з большым уздымам з таго часу... Яшчэ з большым...

Макрына не ведала, не магла гэтага ведаць, а толькі так адчувала... Хацелася пасля таго яшчэ раз прайсціся па загуменні, хацелася, каб зноў абдалося нутро таею самаю імжыстаю прыкрасцю.

Калі прыйшла Макрына да Яўгена — увайшла ў Анісеву хату — застала там Гіляра. Ён сядзеў каля стала, гаманіў з Анісем, і яна, увайшоўшы, сказала:

— Дзіндобры!

Брыдка было ад нечага, калі ўвайшла ў хату. Адразу афарбаваўся твар.

Але быў заняты, відаць, важнымі справамі Гіляр: не звярнуў увагі, акрамя — прывітаўся з Макрынаю, ды зноў аб нечым пільным гаманілі з Анісем.

Тады асвойчылася сама з сабою, падышла да ложка, да Наталі. А тая шыла нешта дзіцячае, малое.

— Раздзявайся,— прытульна-лагодным галасам сказала Наталя.— Скідай хустку.

А калі зусім абырала Макрына — прагнала з свайго твару лішнюю ружавізну,— Наталя тлумачыла Макрыне.

Набірала Наталя на іголку цэлы стус паркалёвых закладак, каб сфастрыгаваць і:

— Дык ты ж, мусіць, не чула,— сморгаючы застрагшае вушка іголкі ў густых закладках паркалю, казала Наталя.— Не чула, мусіць, што... і Гіляр з бацькам будзе з намі, у калякціву? Бацька згадзіўся — сказаў: «Як хочаш, так і рабі». Бо Гіляр,— каб не згадзіўся бацька,— думаў ехаць назад і не пераязджаць. Да чаго, відаць, шкадуе Гіляра. Нябось — Яўгена не паслухаў бы!

Макрына адразу невыразна разумела, што казала ёй Наталя. Абалдзеўшы, слухала і чула нейкі пусты гук у Наталіных словах. А глядзела ёй пільна, вельмі пільна, у яе вочы. Такі ж самы гук чула ад Гіляра, ад Анісія, што быў. І таксама не магла зразумець.

А разам з гэтым...

Расла пачуццёвая хваля ў Макрыны. Уздымалася высока-высокім валам, шыбкім, імпэтным.

І ўзняўшыся да апошняй стромкасці, яна падала — рассыпалася на дробныя пеністыя пырскі. Ад гэтага было прыемна Макрынінаму нутру.

Тая самая была прыемнасць, што і тады... як ішла па загуменні. І тыя самыя нават былі — зрываліся цяпер з яе вуснаў словы, словы прытворнай нянавісці, агіды, скрозь успаміны якіх млела глыбокая Макрыніна радасць.

* * *

І выйшла яно вельмі проста. У першы ж вечар, патушыўшы агонь, лёгшы спаць, Пракоп сказаў Гіляру:

— Я пісаў табе, каб прыехаў ты. Ты прыехаў. Дзякую табе, сынок. Добра, што прыехаў. Агледзеў і пераязджай. Будзеш жыць, і я пры табе пражыву. А гэты, недавярак, няхай круціць мазгамі, няхай, гэнам, шукае пасткі, заўшніцы.

Гіляр чуў ужо гэта. Раніцою за снеданнем чуў. Бачыў меркаванні бацькі і чакаў... каб адразу гэта сказаць.

Цяпер было цёмна ў хаце. Лепш як калі можна было сказаць. Не відаць было б гневу старога. Ды ўсё роўна ж: хоць калі, а трэба сказаць. І ён сказаў старому. Гледзячы ў цёмную столь, дагары лежачы, і раўнамерным спакойным голасам:

— Бачыш... от што бачыш, бацька. Я-то прыехаў. Агледзеў, што як і дзе як. І, канечне, мог бы... магу пе-

раехаць. Канечне, як сын, я не дазволю пакідаць цябе, свайго бацьку. Мне шкода цябе і унь як! Ты адзін — з малымі намі пакуту меў, а прыйшла старасць — зноў пакута. Хіба я не бачыў, хоцькі сабе і раніцою сягоння: хіба твая гэта работа паліць у печы, грэць ваду? Але ж не ў гэтым...

Гіляр змоўк і чуў расчуленасць старога. Чуў яго моцны, нячысты, хрыплаваты ўздых. Чуў, але не дапусціў да свайго пачуцця.

— Не ў гэтым, бацька,— не пакідаючы рэзаць начной цемры сваім позіркам, казаў Гіляр.— Я от што вырашыў, бацька: далучыцца да бродаўскага калектыву. Калі ты згодзен на гэта, я пераеду. Не згодзен аддаць мне гаспадарку на гэтую далучку — я застаюся там. Мне няма чаго... не будзе чаго рабіць на гэтых клінах. Бо трэба зразумець, бацька. Урэшце патрэбна зразумець. Пара ўжо зразумець! Людзі кажуць — трэба слухаць, меркаваць хоць. Не патрэбна таўчыся на адным месцы. Відавочная справа карысці. Большай карысці, лягчэйшай. Яўген аддзяліўся і добра зрабіў. Бо — не біцца ж з бацькам, калі не разумее той.

— Ты мне раніцою казаў, а я слухаў, я не хацеў цябе, бацька, пакрыўдзіць. Я не мог адважыцца, сказаць адразу. А цяпер кажу от...

За адзін раз хацеў выказаць Гіляр і выказаў тое, што хацеў. Захапіўся і не чуў, як стагнаў бацька ад такога ўдару, не бачыў сярод ночы застыўшага дзіва-выразу на яго твары.

А калі сціх і чакаў слоў ад старога, дык нібы бацькаў пачуўся ўсхліп. Зразумеў Гіляр, і замест жалю ахапіла яго раптоўная злосць. Але не паказаў выгляду, не паказаў злосці, а тым самым роўным, спакойным голасам:

— Дык вось, бацька, або я з табою, або ты адзін, без мяне... Да ўсяго гэтага... гэтага, ведай, бацька, што я... партыец, камуністы. А гэтага патрабуе і наша партыя.

Тады Пракоп — чуваць было — падняўшыся зморана на ўзлокатках, хрыпла і адрывіста шпурнуў у бок сына:

— Не дажджыцё... Не дождуць яны, не вытрымаюць... Я не хачу... Гілярка, Гілярка... Дзеці, дзеці... Хто гадаваў вас... Свет...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раніцою ўстаўшы, не намякнуў нават бацьку Гіляр. Гаманіў пра пабочныя справы і вельмі коратка. А потым — пачаў быў збірацца, каб паспець да дняўнога цягніка.

Бачыў гэта Пракоп, разумеў і не сцярпеў. Падышоў да Гіляра і зглянуў мякка ў яго блакітныя вочы.

І Гіляр стаяў каля стала і, зашпіляючы гузік у сваёй скураной тужурцы, глядзеў праз акно. На бэзавы куст глядзеў, што разросся — закрыў палавіну акна, на вераб'я глядзеў, што церабіў пер'е пад сваім адтапыраным крылом.

— Куды ж ты? — запытаўся Пракоп і дадаў: — Збіраешся?

— На паўстанак...— скрыўшы вастрату і дробныя кропелькі злосці, адказаў Гіляр.

Тады палажыў бацька сваю агрубелую, набрэнкшую ад працы руку на плячо сына і, не спускаючы вачэй з яго твару:

— Дык ты едзь... але пачакай: з'ездзіш па клункі, па яе — паслязаўтра ці цераз тыдзень. Упарадкуйся тут. Бо не будзе чакаць ярына: авёс жа трэба сеяць.

## VI

Араў доўга Мацей на полі, мяшаў на пшаніцу-радоўку.

Плылі думкі, як хмары, пераганялі адна другую; думаў, меркаваў пра работу бродаўскую, пра Аніся.

Палаskалася ў вясеннім сонцы маладая трава-мурава. Звінелі жаваранкі бесперастанку. Трымцела сінь блакітнага неба. А Мацей, ідучы за плугам, доўга-доўгаю баразною, пасярэдзіне, паабапал дзвюх межаў:

— Недарэмная будзе работа. Дакажа... дакажуць, далібог! Трапяткі Аніськ і ліпкі... Як смала тая. Калі прыстане, прычэпіцца да чаго — не адкараскаецца, пакуль не паставіць на сваім...

Плуг шуршэў пад скібаю, раскідаў вільготную зямлю на крыгі-кавалкі. Падскакваў часамі плуг, зачапіўшы нарогам камень. А Мацей трымаў яго за абедзве драўляныя ручкі — кіраваў ім, паварочваў — меркаваў, на роўную скібу.

Адна, другая... ляжалі ўзнятыя скібы чорнай зямлі, аж наскрозь, аж цераз усю доўгую палоску. І Мацей

ішоў каля іх, ішоў баразною, адкуль толькі што ўзнімалася трэцяя, свежая, скіба.

— Выклапача жняярку... Набудуць паволі адно, другое... Дарэмна дзяўкае Карпусь, дарэмна кпіць з іхняй работы. Відаць... Нябось відаць...

І ўвесь час трымаў Мацей, не выпускаў з сваіх думак: «Што рабіць? Юстына ж не дае гаварыцца пра ўступленне ў калектыў, а не тое што...»

Вечарам прыйшоў з поля Мацей і нічога не сказаў жонцы, Юстыне. Павячэраў і пайшоў на вёску. Мала куды пайшоў, да каго пайшоў. Юстына не ведала Мацеевых думак.

Прыйшоў з вёскі, не клалася Юстына яшчэ спаць. Была свая ў Юстыны работа.

Вясёласць ляжала на твары, калі прыйшоў Мацей. Адчуваў буйную радасць, а таму і не сцярпеў.

— У калектыў пішуцца,— сказаў з прытворнаю абыякасцю.— Сёння Агей запісаўся, Тодар, Гіляр з бацькам; зноў будзе злучана іхняя зямля. Ці чула ты — нават Дзямян і той запісаўся. І Мікалай Гугнявы... Цімох Пахомаў...

І даўшы жонцы адчуць поўнасцю ўсю важнасць выказанага ім, сплёўваючы скрозь белыя, роўныя зубы, дробна моргаючы сваімі шэрымі маленькімі вачыма, гледзячы пытлівым і працяжным позіркам, дадаў з вялікай асцярогаю:

— Дык як ты... Мо і мы запішамся — як ты мяркуеш?

Юстына церабіла цыбулю. Абчышчала яе ад чырвоных лушпай, а потым адразала яе доўгія хвосцікі і кідала па адной у цёрла з вадою.

Лепей садзіць такою цыбуляю, калі пераначуе яна ў вадзе: хутчэй возьмецца за зямлю, хутчэй пусціць сваё зялёнае пер'е.

— Ты яшчэ мо на што ўспорашся — вычварыш,— трымаючы нож, каб адрэзаць хвосцік цыбулі, моргаючы сваімі русымі павекамі, з заспакоеным выразам на твары, паглядзела Юстына на Мацея.— Саб'ецца чалавек з работы. Дык ходзіць з хаты ў хату ды пералівае з пустога ды ў парожняе. Лепей бы сеў ды з вітушак вось звіў.

Мацей бачыў, як далёка яна, яго жонка, ад тае думкі, што вырашыў ён толькі што, без яе папытання. Ведаў Мацей, што будзе лямантy ў Юстыны поўная хата.

Але вырашыў, запісваючыся ў калектыў: «Пакрычыць, як той казаў, дый сціхне. А потым абырае, здаўмеецца потым. Нават дзякаваць будзе — успамяне свой неразумны крык».

А Юстына адразала цыбуліны хвосцікі адзін за другім і зусім заспакоеным голасам:

— Якіх не вычварае штук цяперашні свет — святая матачка. Згалеюць людзі — змарнуюць гаспадарку. Ведама, будзе жыццё — абы працюцюляцца.

Мацей не сцярпеў.

— За яго «абы» — як ты кажаш — і плата такая «абы», абумная будзе. А па-другое, прыспічыць можна будзе такіх субчыкаў: трэба будзе, каб наглядаў адзін за другім.

— Маўчы ты, Мацей! — адчуўся тон жончынага голасу.— Лепей маўчы, кінь свае жарты!

І нібы-то сама сабе,— услых разважаючы:

— Няўжо ж. Пішацца другі каторы. Аніісь знаходзіць сабе дурачкоў. Будзе камандаваць, а вы — рабіце, як тыя чорныя валы.

На некаторы час утварылася рупная цягучая маўклівасць.

Чуваць было, як шамацелі Юстыніны пальцы ў цыбуліных пруткіх лушпаях.

Мацей адчуваў, што пачаў ён не адтуль, не з таго боку. Патрэбна сказаць было адразу — калі была ў Юстыны найбольшая нечаканасць. Тады б усё перагорвалася за адзін раз, вырашылася. Цяпер бы Мацей быў ужо вольным. Ён раздзеўся б, лёг бы на сваё драўлянае ложка і мог бестрывожна б заснуць.

І ён казаў — рашучым, пэўным, моцным і неадступным сваім голасам, не падвышаючы гэтага голасу:

— Я напісаў... Я таксама падаў ім заяўленне. Наконт, каб паступіць...

Юстына не адразу зразумела, што сказаў Мацей. Пaглядзела на Мацея доўга, працяжна ды:

— Што ты чаўпеш, да якога ладу? Куды паступіць?

— У калякціву...

— Запісаўся, то ідзі,— сказала Юстына.— Хто цябе трымае... Ідзі як стаіш. Нябось такіх і тамака не прымаюць. Дай нябось пай ці якую трасцу.

Мацей бачыў тую ж самую Юстыніну недаверлівасць, бачыў, што прымае жонка яго словы як за жар-

ты. А таму — з найбольшай пэўнасцю ў сваім пераконаным голасе:

— Далібог, Юстына, далібог, запісаўся!

І тады пачаў вырастаць у Юстыны драцяны і неадвостраны страх.

— Кінь кепікі строіць,— сказала Юстына.— Я табе не маленькая!

Мацей адчуваў надыходзячую навальніцу. Адчуваў, але не спыняўся.

— От цудная якая. Не даеш веры. Кажу табе!

— Мацей! — Чуў Мацей, як выплеснула жонка яго імя сярдзіта пакрытаю злосцю. І болей не чуў, бо казаў ён Юстыне сваё. Пераскакваў цераз яе словы, нібы цераз лужыны з дажджавой вадою, і адным звагам:

— Аддадзім нашу гаспадарку ў пай і будзем жыць. Будзем працаваць па сваёй сіле. Гэлька таксама будзе працаваць. Потым замуж аддадзім за Арцёма-калякцыйўшчыка. Справім вяселле калякціўнае. Дурная ты... Удумайся ты, спаймі. Аніс разумны гаспадар. Ты думаеш, старая! Я мо па цэлых начах не спаў — меркаваў і сяк і гэтак. І вымеркаваў: іначай прападлае будзе жыццё. Праўду казаў той чалавек з акругі: поле хутка не поле, а межы адны будуць. Межы... Уцям жа ты, Юстына, урэшце!

А Юстына:

— Я не хачу, не хачу...— у адзін голас.— Мацей... Ідзі ад мяне, каб мае вочы цябе не бачылі. Ідзі! А я застануся з Гэлькаю, з Лёксам... Я не дам табе гаспадаркі. Мая гаспадарка...

— Будзем працаваць, Юстына, без клопату. Не будзем клапаціцца — забіваць сабе галаву. Адзін калякціваў будзе клопат...

— Ані макулінкі не дам, ані цырубінкі не дам, ані рубчыка, ні акрайчыка не дам, не дам...

— І правы калякціўныя будуць інакшымі. Купіць хоць што, кажа Аніс, у перш-наперш. Пабываць калі дзе прыйдзецца — калякціваваму чалавеку таксама ў перш-наперш: «Проша, васпан! Заходзьце».

— Мацей! Ліха тваёй матары! Каб табе абпісалі — спісажылі чэрці табе скуру! Гад! Што ты надумаўся, што нарабіў ты... Га-а-ад!

Хто ж яго ведае, на чым скончылася б усё гэта, пачатае самім Мацеем. Невядома. Мог бы нават і пайсці

назаўтра раніцою Мацей да Аніся, мог бы забраць назад сваю заяву. Але зайшоў гэтым часам Яўген у Мацееву хату і перашкодзіў — абарваў раскудзеленую Юстыніну злосць.

* * *

Вяртаўся Яўген са сходу, з сельсавета.

Увайшоў у вёску і праходзіў каля Мацеевай хаты. Ішоў размашыстаю паходкаю, ішоў, здаволены сённяшнім днём.

Пазіраючы пад ногі і аддаўшыся думкам, Яўген мінуў быў Мацееву хату. Прайшоў Яўген некалькі крокаў, як раптам цэлы вэрхал пачуў і застанавіўся.

«Ці не б'юцца яны?» — памысліў. Разагнаў свае думкі. І прастаяў быў цэлы момант, а потым:

«Зайду усё ж...— сказаў сам сабе.— Што там у іх, чаго яны гэтак, ягоная Юстына?»

І не зайшоў бы Яўген да Мацея, каб не ліпла другое ў яго галаве. Бо з дому ж быў ад самага рання.

Але радасць была ў Яўгена. Радасць сённяшняга дня. Вялікая, першая, свежая, неабдымная маладая радасць! Дык хацелася ж, каб сказаць хутчэй аб гэтай радасці. Хоць каму сказаць: або для зайздрасці сказаць, або каб падзяліцца з ёю — усё роўна.

Бо:

— Хто мог чакаць, мог спадзявацца? Хто мог бы сказаць, што... друкаванымі літарамі будуць напісаны словы... Два словы — буйнымі літарамі, чорнымі на белай газетнай паперы: «Бродаўскі калектыў». Хто думаў, хто меркаваў!

А яны былі напісаны. І не ведаў гэтага Яўген. Бо газета тая не ішла ў Брод. Аніс другую, сваю чырвонаармейскую, выпісваў газету. А Яўген трэцюю...

Аж на сённяшнім сходзе, у сельсавеце:

— Бурцелік! Чуеш ты, Яўген? — на сённяшнім сходзе звярнуўся Патапчык да Яўгена.— Вітаю вас: цябе, Саладуху і ўвесь калектыў ваш! — сказаў старшыня.

І Яўген не разумеў.

— Што?..— глядзеў ён поўнымі вачыма ў вочы Патапчыка, на яго твар.— Завошта ж гэта ты, што за вітанне, за паздраўленне?

Тады зразумеў Патапчык, што не ведае ён, Яўген, аб газетным артыкуле, аб тым, што напісана пра іх бродаўскі калектыў.



Сымон Баранавых. 1922 г.

— 3 —

Год прыёму 1928 г.

# Пасьведчаньне № 144

Выдана „26/XII" 1928 г.

Прад'яўнік гэтага тав. Баранаў Сымон Якубаў

які нарадзіўся ў 1900 годзе „1" сапраўды з'яўляецца студэнтам Пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

*Подпіс студэнта*

Гэтае пасьведчаньне выдана на права пражыцьця ў г. Мэнску на тэрмін па 1 Кастр 1929 г. што подпісамі і прыкладам пячаткі сьведчыцца.

*Рэктар БДзУ праф.*

*Сакратар па студ. справах*

Пасведчанне студэнта Белдзяржуніверсітэта Сымона Баранавых. 1928 г.

— Во... во — чытай! — расхінуў Патапчык газету.— Вось за што, вось! І мне цераз гэта ад калектыву ад вашага гонар. Вось!

Дык дзіва што будзе пеніцца сэрца вясенняй радасцю — цвітучай, сакавітай!

Цэлыя тысячы людзей прачытаюць пра вёску Брод, пра тую вёску, што некалі была закінутай ад людскога вока.

...Стаяла, абкружаная дзікім балотам, абнесеная ілістай пажарынай, вёска Брод; стаяла з вечна заплаканымі па-асенняму вокнамі, ■ узадранымі шчытамі, вышчарбленымі комінамі — стаяла пад ветрам і пад даждждом, на ўсё прырыхтаваная.

Дык які ж быў інтарэс гаварыць пра такую вёску, які быў каму клопат?!

Яўген пераступіў парог Мацеевай хаты і, уздымаючы ад свайго сённяшняга вясёлага, радасна цвітучага дня свой чыста абліты бадзёрасцю голас, сказаў:

— Добры вечар у хату!

Калі зайшоў Яўген у Мацееву хату, сціхла — пакінула сварыцца Юстына з Мацеем. Мо таму перастала, што чужы зайшоў чалавек, а мо так сабе,— не хацела мо адрывацца ад працы: церабіла і церабіла цыбулю.

Цьмяна гарэла лямпа ў Мацеевай хаце. На столі ад яе талеркі была прыклеена вялікая, блінам, круглая цень.

Па хаце доўгімі струнамі насіліся пасмы сіняга накуранага Мацеем дыму.

Падышоў Яўген да самай лавы, пастаяў быў у нерашучасці: не то хацеў сесці, не то меркаваў пастаяць.

А Мацей пад гэта:

Стоячы каля ложка, трымаючы за пазухай сваёй кужэльнай кашулі руку:

— Сядай,— сказаў пад гэта,— садзіся, пасядзі, Яўген. Дома гасцём будзеш!

Сядаючы, не стрымліваў позірку Яўген і кідаў яго на самую Юстыну, на цёрла з вадою, што стаяла каля Юстыны, на вышчарбленую ляжайку каля печы, кідаў рассыпісты позірк і між іншым (бо не меў ён права на гэта):

— Што такое ў вас, што за крык быў тут? А я думаў, ідучы вуліцаю, крый божа, ці не б'іцёся вы?

Тады пачаў Мацей апавядаць Яўгену ўсё па парад-

13. Зак. 1010. 

ку. Падышоў да Яўгена, стаяў і, гледзячы яму ў твар, у вочы:

— Не хоча мая баба,— казаў,— я запісаўся, а яна — ані блізка, хоць ты гвалт ёй крычы! Падняла тут такія авантуры...

Яўген слухаў Мацея, важыў яго перакананыя словы, а Юстына маўчала. Уздыхала Юстына раз-пораз цяжка, глыбока і ані слова.

А Яўгену карцела сказаць, хацелася ўсё за адзін раз расказаць... Няхай бы ведалі, няхай зразумела б Юстына. Бо гэта ж такая радасць!

Слухаў Мацееву скаргу на жонку Яўген, а потым не сцярпеў,— дастаў з кішэні, з суконнай сваёй сівай жакеткі, дастаў роўна і асцярожна зложаную газету.

— Вось...— перапоўніўшыся гонарам і павагаю сам да сябе, паказаў Яўген Мацею, трымаючы нерасхінёную ў сваіх руках газету,— пра наш Бродаўскі напісана ў ёй, пра наш калектыў! — Прагучэў ганарлівасцю яго голас.

Не зразумеў быў адразу Мацей, не ўзяла Яўгенавых слоў і Юстына: як гэта магло быць, што магло быць напісана на гэтай паперы.

Але Яўген:

— Цётка Юстына! Слухайце, цётка,— пытліва зазірнуўшы ў яе насупісты твар.— Я прачытаю вам, а вы паслухайце.— І пачаў чытаць Яўген моцна і выразна, важачы кожнае слова.

Уважліва слухаў Мацей, а Юстына заварушылася, седзячы на лаве, на адным месцы,— закашляла, але нічога не сказала, была затакована сваёю работаю, але чула:

«З дваццаці чатырох уступіўшых у калектыў — большасць беднаты. Кожны дзень паступаюць заявы...»

Не паказала выгляду, што чуе, а ўсё ж:

«...заможнікі, як, да прыкладу, Лопух Карпусь, Грыб Аўлас і іншыя... нехта ноччу сарваў абвестку...»

Мацней зашамацела лушпаямі цыбулі і яшчэ лепей — больш яшчэ — слухала:

«...не будуць больш ламаць аглабель, іrваць атос... будзе вымашчана грэбля...»

Юстына ўстала з лавы і прыняла цёрла з нацярэбленаю цыбуляю. Занесла яго ў канец лавы, к шафе, і там доўга грукала нечым цвёрдым, нягулкім, а Яўген чытаў:

«...Гутаўская камуна дасць на дзён два свайго трактара заараць папар. Трактарысты свой — быўшы шофер. Бродаўскі калектыў хоча...»

Адчыніла дзверы ў шафе і перасоўвала, чуваць было, пасуду — яшчэ мацней бразгала і чула:

«...ярына па сабе, але жаць ужо будуць разам. ЭнКаЗэ адпускае на доўгатэрміновы крэдыт жняярку, зроблена таксама ўмова...»

Зачыніла дзверы шафы і падышла да калодкі, дзе стаяла вядро з вадою. Узяла з драўлянай падстаўкі медную конаўку, што зрабіў Атрахім з снараднай гільзы, і пачала піць.

Доўга піла хатнюю мяккаватую, цёплую ваду, піла і:

«...гэтым летам будзе выбрукавана. Раён хадайнічае перад Аўтадорам...»

Мацей, слухаючы з уважлівасцю ўвесь час, не сцярпеў:

— Што гэта за такое, за Тадор?

— Гэта... тое гэта,— падымаючы вочы ад газеты, адказаў Яўген,— тое, што камандуе ўсімі дарогамі.

І зусім міжвольна цяпер, забыўшыся на сваю злосць, Юстына запыталася ў Яўгена:

— А што гэта за такое за «казэ»?

— А гэта тая ўправа, якая займаецца зямельнымі справамі,— адказаў Яўген, зірнуўшы з вясёласцю на Юстыну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Макрына не спала доўга ў гэты ціхі, цёплы, вясенні, расцвітаючы вечар. Розныя думкі вярзліся ў яе галаве.

Макрына разважала:

— ...Аніcь кажа, трахтарам можна і гной вазіць, можна і разбіваць нават... Снапы можна вазіць... дровы... або бярвенне. Гэта, апрача ворыва, кажа Аніcь. Апрача скарадзьбы... Жаць можна трактарам... усё можна. Колькі чаго можна ім... Што там за такі за трактар? Паглядзець бы... Цікава. Гэта ж вельмі лёгка... Ён, мусіць, такі вельмі вялікі, вялікі, шырокі і нятоўсты... Ён, мусіць, мае пада дном усякія прылады... Адну прыладу націснуў — жаць будзе, другую — гной будзе разбіваць, чацвёртую — снапы будзе вазіць або другое што будзе рабіць... Як гэта цікава: едзь сабе і націскай толькі... бадай што гэтак... Заўтра ў Аніся за-

пытаюся... Добра, што мы далучыліся да Аніся... Каб хутчэй набыць гэту цудоўную машыну... Няхай стараюцца мужчыны, каб хутчэй. Нечага і ім лёгка будзе, і нам — жанчынам — лёгка...

А потым сон пачаў валодаць ёю, пачала драмаць Макрына і скрозь дрымоту: «...Яўген вельмі добрай натуры... працуе і працуе. Ніколі не ўпікае мяне больш... Бацька, бацька... ах! Нашто пазычаў ён долата, навошта браў... Дзе ж дзеўся Яўген, што робіць ён у гэтым сельсавеце ад самага рання... Яўгенка...»

Сон сплюшчыў павольна Макрыніны вочы, развязаў жыццёвым днём звязаныя вузлы — паслабіў яе цела, палажыў яго вольна і ўхутаў млявыю цеплынёю, спакоем, але яшчэ недзе далёка, далёка — адыходзячы, каб не перашкодзіць яе адпачываючаму чуццю: «...Васіль, Арцём... камсамольцы... Гіляр гамані... доўга. Яны рады... Анця...»

І яшчэ!

Раз, другі, трэці — цалавалі санлівыя абдымкі яе твар. Усплывала ў невыразных вобразах усё пройдзенае за дзень і адыходзіла.

І адышло ўрэшце, пакінуўшы на яе вуснах тлеюча непрымушаную радасць жыцця.

### VII

У Анісевай хаце Макрына звыклася хутка. Усё роўна як і дома, як і сама ў сябе.

Наталя кажа:

— Будзем сёння грады рабіць.

А Макрына:

— А надвячоркам пасадзім капусту. Пара садзіць — разраслася расада, пачынае старэць, гатова не папрымацца.

Ахвота падшыхала Макрыну ў працы. Хацелася даць сваю неаслабную шпаркую сілу.

Спадабалася Макрыне сумеснае жыццё ў Аніся. З Наталяю ладзіла добра. Наталя ўсё роўна як родная матка: не пабудзіць нават Макрыну, калі заспіць, бывае, яна на кароткую часіну.

Але рэдка бывае, каб заспала Макрына. Сама мае ў сабе руплівасць і ахвоту да працы. Калі працуе — дыхаюць грудзі ўсёй шырокай паўнатою. Цела робіцца пруткім, тугім. Хочацца, яшчэ хочацца, каб болей

зрабіць. А ў працы спор не спадае. Што зробіць — зроблена будзе.

Макрына і ў дзеўках як была — мела да працы задор. Перад некім тады нібы хацела паказаць сваю сілу, свой навостраны спрыт.

Вясеннія дні былі глыбокімі, доўгімі, але не маруднымі. Другі прыгажэйшым быў за першы. Пунсавелі дні маладым жыватворчым харaством.

Ужо адцвілі сады, і апаўшыя ружова-белыя іх лісточкі даўно высахлі, сцерліся, зніклі. На іх месцы расла маладая плюшава-мяккая завязь.

З кожным свежым днём вясеннім, з кожнай маленькай ярка вастраватаю расістаю ноччу — большала завязь.

І была паўната ў жыцці, была большая радасць.

З таго дня, як сказала Наталя Макрыне, што далучаецца, што пераходзіць з Гілярам да іх калектыву і бацька Пракоп — апанавала Макрыну імпэтная нястрымна жывая, разбежыста шпаркая сіла.

Не разважала ў сваіх думках Макрына — чаму так, што гэта,— а чула, як з кожным разам расце гэты пад'ёмны ўздым.

А з таго вечара, з таго часу, як прыйшоў са сходу Яўген — не было ў Пракопа сустрэчы з Макрынай вока на вока, не было нават кінутага слова.

Прыходзіў стары за якоюсь-небудзь патрэбаю да Аніся, бачыў яе за штодзённаю хатняй працаю і да яе каб то слоўца кінуў.

Не то сорам слаўся на старым пачуцці, не то не хацеў паказаць свайго выгляду, а мо так — ад злосці абыходзіў Пракоп. Бо:

Як перадаў свайму сыну, Гіляру, гаспадарку — хадзіў спахмурнелым, беспрытомным, як падстрэлены звер.

— Што ёсцека з вамі, татка? — клапацілася Прося.— Ці не баліць штосьці татку — нездаровіцца мо?

І, гледзячы доўгім на Пракопа ўстрывожаным позіркам:

— Ляглі б, татка,— казала,— адпачылі б... Ідзіце ляжце: я пасцялю.

Нічога не казаў на Просіну ласку Пракоп. А спатайка — непрыкметна для пабочнага вока — усміхаўся скрыўлена, балюча кволаю ўсмешкаю.

«Змахлююць... зтаглююць недавяркі, гэна...— цвіла дзікім цветам у Пракопавай галаве неадстанная, слотная думка.— Наробяць работы сваімі лякцівамі-макцівамі».

Сустракаўся часта Пракоп з Карпусём, з суседам Аўласам. Тыя не прыходзілі да яго, не хацелі на вочы ісці сваім злыдням. І ён, Пракоп, хадзіў да іх ціха, вясенннім надвячоркам.

Доўга сядзеў і гаманіў з сваімі суседзямі. А калі было ўсё пераказана — ішоў спаць у адрыну на сваю аржаную салому.

У той жа дзень, як перадаў сыну сваю гаспадарку, сустрэў стары Карпуся.

— Маладзец! — гледзячы атрутнымі вачыма ў Пракопавы заінеўшыя сівізнаю вочы, казаў з зацятаю злосцю Карпусь.— Маладзец: дастукаўся торбы!

Пракоп глыбока густыя зрабіў зморшчыны на сваім плоскім ілбе і маўчаў: лічыў сябе вінаватым.

А Карпусь з тою ж самаю атрутнаю кплівасцю:

— Эх, ты... бацька... Каб сын, пане мой... каб сыны табе ездзілі па тваім карку? Крый мяне божа! Каб рабіў ён каторы што хоча... Дык што ж ты за бацька, што ж ты за чалавек? Застаўся голым як бізун і пазірай! Чакай з сынавых рук.

І зноў і яшчэ, льючы той самы вар чамярыцы:

— Ну дык хто ж ты цяпер, хто? Пастух — а? Парабак — а? Старцам зрабілі цябе, вось што — мой сівы, мой папугай-голуб!

Пракоп усё роўна маўчаў. Глытаў стары пякучы боль, пякучую крыўду і — каб то слова сказаў для сваёй абароны: гэтак лягчэй.

А ён каяўся цяпер моцна, балюча:

«Не патрэбна было аддаваць Гіляру гаспадарку. Няхай бы круціўся, гэта, там — дзе і быў».

І далей у сваіх стомленых думках:

«Я здрэйфіў... жаль апанаваў, гэнам. Убачыў сына... Усё ж такі сын... Слова сказаў... Пракопава моцнае слова... Няхай ведаюць дзеці».

Сёння таксама пайшоў да Карпуся. Застаў там, калі прыйшоў, Гаўрука і Аўласа.

Гаманілі суседзі. Карпусь выпускаў з масянжовага папяросніка збэрсаныя стружкі сіва-сіняга дыму ды:

— Ну што ж чуваць, калякціўшчык; што робяць

тае правіцелі — ад'ютанты? — афарбаваў Карпусь свой сказ у жартаўлівы, абыраўшы тон.

— Тое чуваць, гэнам, што ёсць,— сядаючы на зэдлік, падаючыся ўсёй сваёй постаццю наперад, сплюнуў Пракоп.

— А што ж ёсць? — умяшаўся Аўлас.— Мы тут гамонім... Я чуў, што-о... прыедзе на гэтых днях каморнік.

Пракоп нічога не ведаў пра каморніка і таму паглядзеў на суседзяў здзіўленымі вачыма. А Карпусь, чухаючы кончыкам пальца сваю кучарава звітую бараду:

— Ён нічога не ведае; пад самым носам робіцца, і ён не ведае!

— Адкуль жа, гэна, мне ведаць?

Тады астроілася раўнавага суседскіх галасоў, суседскага права, і Карпусь, гледзячы на Аўласа:

— Гм... Прыедзе, няхай сабе і прыедзе. Дык цікава: што ж ён і ў мяне і другога-трэцяга каторага будзе вымяраць? Раз я не жалаю... мне добра на маёй сядзібе. Дык якое ён мае права?

— Мусіць жа, мае, бачыш...— уставіў Аўлас.

Але Карпусь не дачуў Аўласа, а сваё:

— Па-моему, няхай едзе, мерае таму, хто егліць гэтай калякцівы, як дзіця перніка.

— Дык ён жа будзе і мераць.

— Ну то няхай і мерае і мяне не чапае.

— А як жа нашы палосы?..

— А якое мне дзела! Гэта паласа мая, і я яе ніякаму смысю не аддам.

— Дык яны ж бо на гэта не глядзя-аць... Ім жа трэба, каб у адным кавалку...

— Ну то хай едзе на Сахалін-востраў — там будзе ў адным...

— О-г-го, дзіва! Барзджэй яны цябе выправяць... Ну што ты, Карпусь, напаскураешся?

— А тое, што не дам, не дам — сваіх палос! Здохнуць, а не дам!

— Сілаю ж возьмуць...

— Не маюць права. Няма законаў... Сплацяць няхай, калі прагне іх горла аднаго кавалка.

Аўлас кінуў спрачацца з Карпусём і, падхапіўшы трапную яго думку:

— Каб жа сплаці-ы-лі — добра было б.

І ніхто ў гэты вечар не мог парушыць ні суседскіх спрэчак, ні іх згоды. Хіба толькі дзеці Карпусёвыя перашкаджалі. Малая Галька крычала на большага Гарбуся:

— Аддай, аддай маю ляльку... аддай майго чоціка, Бусь!

* * *

Раніцою, калі Макрына перабірала сакавіта-зялёнае шчаўе, каб варыць, выкідала вырваную незнарок з шчаўем дзікую траву, у хату зайшлі: незнаёмы ў сівай накідцы чалавек (Аніс зваў яго шэфам), сам Аніс, Патапчык, Пракоп і яшчэ чалавек — у абручаста вялікіх акулярах.

Зырка гарэлі сухія ў печы дровы і абдавалі, лізалі бакі папрыстаўленых, закураных дымам гаршкоў; і Макрына адчула гэтую пякучую зыркасць на сваім твары.

А яны, зайшоўшы,— Патапчык і чалавек у акулярах — развярцелі пруткую, вялікую, на ўвесь стол, паперу і доўга глядзелі ў ёй, меркавалі.

Чула толькі Макрына словы Аніся:

— Выражам ім на Змітраўшчыне... Вось тут выражам, адрэжам гэты каля балота клін.

Патапчык, відаць, меркаваў — думаў у сваіх разважаннях, а чалавек у накідцы:

— Глядзіце. Глядзіце, каб лепей было для вас, для калектыву. Каб не было потым сваркі за шкоду ў пасевах.

І праводзячы пальцамі паміж густых сваіх, русацёмных, зачэсаных гладка назад валасоў:

— На плане, як бачыце, тут каля краю балота, мне так здаецца... у самы раз.

— Няхай ліжуцца...— з усмешкаю дадаў і гэтым бадай што скончыў створаныя меркаванні Аніс.

Пракоп сядзеў і слухаў, што гамоняць пра выразку зямлі тым, хто не ідзе ў калектыў. Слухаў седзячы, і ў навіслых вусах бегала схаваная прыкрая ўсмешка.

А яны яшчэ і яшчэ меркавалі паміж сабою, а потым — Макрына зразумела — пайшлі мераць зямлю.

— Я пайду... схаджу на поле...— разважала Макрына ўслых перад Наталяю і не ведала: ці то ісці ёй, ці не.

Наталя параіла:

— Схадзі, калі хочаш... Паглядзіш... Я б таксама схадзіла, каб не печ.

Выходзячы з вёскі, у канцы вуліцы, Макрына мінула Лявона з Арцёмам Мікалайчыкам. Мінаючы, чула:

— ...а мо ж я не захачу, ета,— ага? Трэ было б усё ж шчакаць, ета. Так борзда ўсё творыцца... Каб чаго, ета, не змыліцца...

— А дзядзьку трэба б мецъ жыць сваім розумам,— заказаў Арцём,— а не чужым. Запісаўся, дзядзька? Запісаўся. Ну дык і няма там чаго рыпацца... па дзесяць разоў, няма чакаць чаго.

Прайшла некалькі крокаў Макрына і яшчэ:

— ...я ж, ета, кажу толькі, ага. Я ж не мяняю, ета, сваю мыслю...

На полі Макрына ўбачыла амаль не ўсіх бродаўскіх. Макрына ніколі не сказала б, што ў Бродзе так шмат, так шмат людзей.

А яны ішлі ўсе роем, ішлі з ланцугом цераз палоскі, цераз межы. Ланцуг цягнуўся па зямлі блішчастаю, выпрастана нежывою вужакаю. У яго каленцы-суточкі пападаў засохлы ад восені быльнёг — і зноў і зноў.

А часамі цэлым вузлом захрасаў быльнёг у ланцужных вушках-каленцах, і тады Васіль, які цягаў гэты ланцуг, адстаўляў назад свае рукі, напружваў іх ■ найпрутчэйшай стромкасцю і смаргаў уперад за адзін моцны размашысты раз.

І зноў ішлі і ішлі. Падбіралі пад ногі доўгія межы. Цягнулі ланцуг цераз іх папярочнае цела, апавівалі дзесяціметровымі жалезнымі крокамі.

— Дзын... дзын... ндзын...

Макрына бачыла, як бродаўцы пляскалі палоскі, камячылі на межах узышоўшую з старых карэнняў траву, наносілі босымі нагамі на яе кропелькі тлустага чарназёму. Бачыла Макрына гэты натоўп і шукала ў ім...

Спатайка сваімі запаленымі вачыма шукала старога і не знаходзіла, не ведала дзе.

А ланцуг зноў:

— Дзын... дзын... ндзын...

Тады Макрына зыходзіла з месца — ішла. Аслупянеўшаю ішла хадою — глядзела паверх галоў, і ўсё роўна не было відаць, не бачыла нідзе старога Пракопа.

Ідучы, чула Макрына, як рагатаў Карпусь, стоячы з Аўласам. Бачыла іх хістаючыя постаці, а Пракопа нідзе не было.

А Карпусь, здранцвеўша махаючы рукамі, стоячы на сваёй мяжы, гледзячы па ёй уздоўж, звяртаючыся то да Аўласа, то да Гаўрука, то да канцавога Галляша, казаў:

— Браткі, глядзіце... ха-ха-ха! Глядзіце, што робяць людзі... ха-ха-ха! Мераюць людзі, мераюць... хі-хі-ха-ха-ха...

Аўлас, гледзячы на натоўп людзей, што плылі-ішлі цераз поле,— то ўперад праходзілі першыя, то заднія першых, не астаючыся ад ланцуга, наганялі — адказаў:

— Ну, дык што ж... Няхай... Няхай! — прыкрую глытаў сліну Аўлас.— Робяць няхай, вымяраюць, колькі хочацца ім...

Гэтым часам Яўген гукаў з крайняй мяжы ў той бок, дзе стаялі суседзі:

— Ідзіце сюды! Гэй! Карпусь, Аўлас! Каб потым не было якогась сумнення нашчот няправільнасцей у абмерах.

І Аўлас, махнуўшы рукою:

— Мерайце, ешце, бярыце, душыце... Рабіце што хочаце, калі маеце на гэта права!

І да суседзяў:

— Але мне думаецца — наядуцца, хопіць... хопіць, дальбог, хопіць!

А Карпусь зноў рагатаў:

— Няхай мераюць і што хочуць, а я не пайду-у— ха-ха-ха... Яны думаюць, мяне ўлагодзяць гаворкаю — ха-ха-ха... Я, Карпусь Лопух, яшчэ маю ў сабе сілу, в-во-волю — ха-ха-ха-ха-ха-а-ы... Мяне вы... маць, не возьмеце... хі-хі-ха-ха-ха-ха-ха...

— А то, і сапраўды, трэба б схадзіць? — заўважыў Галляш.— Каб не выйшла без нас якога ў іх ашуканства?

— Ідзем! — сказаў, паглядзеўшы ў вочы Аўласа, Карпуся.— Ідзем... Нам жа ад гэтага не адваляцца ногі. Не трэба ж здавацца на некага, на невашта?

Але тыя і не рушыліся з месца. А Карпусь зноў свежым узрывам шалёнага смеху абдаў Галляша.

Тады адзін пайшоў цвёрдым, раўнаважным крокам.

Ззаду чуў у сябе зноў і зноў новы ўзрыў беспрытомнага смеху і — прыбавіў свой крок. А потым пабег, спатыкаючыся, цераз межы.

## VIII

У Бродзе зарганізавалася камсамольская ячэйка.

Як толькі пераехаў Гіляр у Брод, бродаўскія хлопцы — Васіль ды Арцём — спаткаліся з новым чалавекам. А пры спатканні пры іхнім выявілася, што да гэтага часу няма ў вёсцы камсамольскай ячэйкі, што да гэтага часу ходзяць яны самі па сабе.

І тады Гіляр павёў шырэйшую работу. Наўмысна з'ездзіў Гіляр да Ульнаўскага райкома, што за дзевятнаццаць кіламетраў ад Брода.

А праз некалькі дзён прыехаў у Брод чалавек з райкома, той самы прыехаў, што рабіў некалі ўзімку сход у Бродзе нашчот калектыву. Васіль з Арцёмам аж засмяяліся — весела нейк стала адразу.

— Свой, можна сказаць, чалавек прыехаў. Знаёмы чалавек.

— З гэтакім порстка абладуеш хоць што.

І першы сход адбыўся ў Атрахімавай хаце.

Чалавек з райкома вытлумачыў пра задачы камсамольскія, пра іхнюю работу. Гаварыў доўга і ўрэшце сказаў:

— Цяпер вы арганізоўваеце калектыў, дык цяпер больш як калі патрэбна не паслабляць сваёй маладой дзейнасці. Перад вамі стаіць вялікая задача. І гэтую задачу дае наша Камуністычная партыя, і вы павінны будзеце яе выканаць. А задача гэта — змаганне з старым, заплеснеўшым бытам за новы, сацыялістычны быт...

На сход прыйшлі былі Цімох з Лявонам; зайшла Макрына да Атрахіміхі — адносіла пазычанае радавое берда ў адзінаццаць з палавінаю пасмаў. Зайшоў Захара. Былі Анця з Гэлькаю.

Калі зайшоў Захара, Гэлька вясёла шапнула яму, як праходзіў каля яе ў парозе:

— Ты ж, дзядзька Захара, стары ўжо для камсамольцаў. Чаго табе трэба тут?

І Захара на жарты жартам:

— Ты вельмі маладая... Перамаладзела. А от жа і буду, і да канца!

А чалавек гаварыў:

— ...Найбольш моцнымі і жыццёвымі ячэйкамі ў вёсцы будуць тыя ячэйкі, якія павядуць практычную працу па перабудове і ўздыму сельскай гаспадаркі.

— ...Работа кожнага камсамольца, члена партыі, той ці іншай ячэйкі ў цэлым — будзе ацэньвацца ў залежнасці ад таго, наколькі імі практычна будуць ажыццяўляцца задачы па сацыялістычнаму будаўніцтву...

Макрына сядзела на Атрахімішыным ложку, слухала і разважала:

«Мой жа Яўген гэтак і робіць. Анісь яму во да чаго ўтлумачыў. Малайчына Анісь. Я нават рада. Ахвота большая падшыхае. А яно ўсё перамалолася... перамалолася...»

Але перапыняе Макрыніну думку другая выразнасць, і яна як бачыць яе, як перад самымі вачыма сваімі...

...Калашманогі стары. Як стаіць на нагах — моцна стаіць. Упэўнена, вольна... Смела. З нейкаю сілай, што як магнес.

Тады, каб заглушыць, каб не чуць свайго нутранога голасу, яна слухае.

— ...Змагаючыся з багацеямі, ствараючы моцную змычку з серадпякамі, камсамол мае сваёй асноўнай апорай беднату...

«Дзе ён цяпер, пра што ён думае цяпер... Стары... Не... Яўгена хваляць, і Яўген ахвотна працуе... Я люблю працу... У гэтым годзе паложым кладкі каля штакетаў праз увесь Брод; не патрэбна будзе ног мачыць у клейкую гразь. А то пасля не дамыешся, як засохне яна на нагах, ліпкая, чорная, як жужалка...»

— ...Камсамол спраўляецца з задачамі перабудовы вёскі і сельскай гаспадаркі. Дык і вы, хто ўступіць з вас у гэтую маладую арганізацыю, павінны будзеце не адставаць ад вашых таварышаў.

На гэта, на першым сходзе запісаліся ў камсамольскую Бродаўскую ячэйку: Васіль Бурак, Стапан Апалонік, Арцём Мікалайчык, Анця Маханік... Хацеў запісацца Яўген, але чалавек з райкома запытаўся:

— З якога вы года... Колькі вам гадоў?

І Яўген адказаў:

— Дваццаць пяты ад узвіжання.

— Перарастак.

Чалавек вытлумачыў:

— У вас, як відаць, трэ будзе арганізаваць партыйную ячэйку, вось і паступіце... У партыю адразу. У вас вельмі і нават шмат перарosткаў. Таварыш Васіль Бурак то ж, каб яшчэ крыху, нельга б у камсамол.

Лёкса з Петраком меркавалі. Лёкса казаў:

— Хто ж яго ведае, як лепш яно?

Пятрок тлумачыў:

— Можа, яно, якая перамена будзе... дык каб дрэнна не было... Аўлас божыцца і клянецца, што ўсё роўна гэтак не будзе.

— Аднак жа...— змаўчаўшы, тлумачыў Лёкса,— увесь свет пішацца. І не баіцца ніхто.

— Дык і я ж гэтак цямлю... Нечага з усімі разам, камсамольцамі будзем...

І цераз два дні пасля сходу Лёкса з Петраком, пасля доўгай гутаркі з Гілярам, падалі заявы ў Бродаўскую камсамольскую ячэйку.

* * *

Гіляр выйшаў з дому, калі калыхаліся на траве апошне сціснутыя кроплі ранішняе расы.

Атрахім ездзіў на гэтых днях па вуголле і ўмовіўся з гутаўцамі: яны дакляравалі на сёння, для заворкі папару, свайго трактара. І Гіляр ішоў цяпер, каб узяць гутаўскай камуны трактар, каб прыехаць на ім аж у Брод.

Сонца слізготна плыло ўсё вышэй і вышэй — у глыбіню блакітна дрыжачае гушчы. Раніца пачынала згасаць; галасы птушак чуліся прытупленымі, глухімі.

Мінаў Гіляр акопчаныя загібы бродаўскага поля, на якіх стаялі белакораныя слупкі, і разважаў:

— Перш-наперш прыйдзецца абысці кругом разы два трактарам, каля ўсяго калектыўнага кавалка поля. Прыйдзецца глыбока пусціць плугі — хоць бы сабе і да жаўтапёсу. Няхай. Каб адразу відаць была шырыня і прасторнасць.

Ішоў Гіляр і бачыў, як міналіся — адна, другая, трэцяя — пяцікрокавыя палоскі, ішоў і далей у сваіх думках:

«Прывязу трактар сёння і зраблю абгон... а заўтра — за дзень, за другі — увесь будзе ляжаць бродаўскі папар дагары скібаю...»

А палоскі міналіся — плылі пад ногі, пад ногі...

«Прыйдзецца на Лявонавай паласе пачаць — узяць з месца... Вазьму і — буду кружыцца, кружыцца... аж да канца, да Карпусёвага, да Аўласавага, да... іхніх выдзеленых пасёлкаў...»

Перайшоў Гіляр Бродаўскую грэблю і яшчэ:

«У Бродзе зямля суглінiстая, клейкая... Няроўна дагледжаная. На адных палосках можа быць больш пырнiку, а на другiх менш. Таму яно, калi ўзарэцца ўпапярок — няроўна будзе выглядаць. Ад межаў таксама — калi перарэжа iх трактар — будуць вялiкiя, зросшыя пырнiкам скiбы. Але ж гэта толькi ў першае ворыва. У другое, у трэцяе... калi забарануецца i растрасецца, добра выскародзiцца пырнiк — гладкая будзе ралля.

...Рассыпiстая, квашанiстым застоем дрыжачая, узнятая на дыбы — будзе ралля.

...Адважным узмахам трактарнага плуга абложаная, смела раскiнуўшы свае чорныя грудзi, будзе ляжаць яна, вечна дыхаючая, жыватворчым сокам налiтая».

У гуце Гiляру прыйшлося чакаць, бо быў занятым трактар — канчалi гутаўцы свой прыдарожны клiн канюшыннага поля.

Толькi што прыгналi з поля, з ранiцы, камунаўскую жывёлу, пазаганялi яе ў хлеў ад заедзi, ад аваднёў.

Слаўся густым трымцячым водблiскам поўдзень у Гутаўскай камуне. Закажанелай была поўдзеньская чалавечая цень.

— Пойдзем,— сказаў Гiляру гутаўскi камунар Бладзiк.— Паглядзiм пакуль... Нашага таго то сяго.

I Гiляр хадзiў з Бладзiкам — чалавекам загарэлым i поўным у твары, маладым, невысокага, але звязлага росту,— хадзiў па хлявах, глядзеў i дзiвiўся iхняй жывёле.

Зайшлi ў вялiкi хлеў — абору i бачыў Гiляр:

Белыя свiннi, карпаносыя, тоўстыя, з рэдкiм, але пруткiм шчацiннем на хiбах, ляжалi, расцягнуўшыся на цвёрда ўбiтай, падасланай сухою саломай зямлi. Ляжалi яны i дыхалi размякша паўднёвай гарачынёю — рохкалi квола, гультайска.

У адным катуху, у другiм катуху, у трэцiм... Меншыя тут, большыя там; кормныя па два, па адным займалi катух.

У другой палавіне хлява — цяляты заводнай пароды. Усе як адно — чырвонай, прылізанай шэрсці. Як дзікія козы — палахлівыя, порсткія, з млечна пахучымі мысікамі, тугімі і крохкімі.

Каровы-мацёры на ланцугах. Кожная сама сабе гаспадыня. Стаяць і жвакаюць млечна ўзбітую пену.

А ў канюшніку... Бладзік да Гіляра:

— Вось гэта жарабец... Чыгрын, Чыгрын, абярніся! Ну-у... дай лоб! ...Чыстакроўнай ардэнскай пароды. Яго — прыязджалі да нас з саўгаса «Прамень» — хацелі купіць. Тысячу трыста давалі, і мы не аддалі.

— Што, дзёшава? — запытаўся Гіляр.

— Нядзёшава. Але мы на нашым сходзе вырашылі не прадаваць. Пакінулі для злучкі.

І выходзячы на камунарскі пляц (а ён вялікі, абгароджаны будынкамі, а пасярэдзіне адмысловая трыбуна):

— Грошы пакуль што не так-то патрэбны. Крэдыту не так шмат — гасіцца. І будзе чым другім аплаціць. Прадаваць будзем па восені кормных парсюкоў; скаціну-ялавіцу маем для продажу... збожжа... то сёе то тое... кіло трыста масла збудзем. А даўгі нашы — гэта з пачатку заснавання камуны былі значныя, а цяпер толькі частка не аплачана яшчэ, за прывезеную паравую малатарню ды за другі выпісаны, абзадачаны трактар. Дык і вырашылі не прадаваць Чыгрына.

Ішлі па пляцу і Гіляр у сваім позірку:

Пад каштанавымі дрэвамі, з густа разросшыміся на іх лісцямі, што былі абвешаны хваёвымі шышкамі белага стройнага цвету, гулялі з нянькаю дзеці камунараў. Пабраўшыся за рукі, зрабіўшы расцягнутае кола, дзеці ўзмахвалі злёгку ланцугом ручак, пераступаючы далей і далей адно за другім. А нянька, карпаносая, з кароткімі брывамі, з загарэлымі локцямі, стаяла за колам і ўторыла дзяцінаму тахту сваімі далонямі:

Макі, макі, маковачкі —
Чырвоныя мы зорачкі...

Гіляр хадзіў з Бладзікам, аглядаў гаспадарчыя прылады, што стаялі пад павеццю, схаваныя ад вільготнай пагоды.

Разглядаў Гіляр паравую малатарню, мацаў пальцамі яе цыліндрычныя колцы, глядзеў на складанасць

механізма, раўнаваў перадачу малатарні з часткамі грузавіка-аўтамабіля, пстрыкаў пальцамі па яе бубну. Глядзеў Гіляр касаркі, конных грабель, дзівіўся з каранярэзкі і жмыхадрабілкі.

Агледзеў Гіляр збольшага гаспадарку камуны, і ўрэшце зайшлі з Бладзікам да Вараксы.

Варакса даглядала курэй. Гэта была яе добраахвотная праца, бо была Варакса па-за сваімі рабочымі гадамі. Увайшлі ў куратнік, і Варакса, паказваючы на маленькіх, шэранькіх, чубатых курак:

— Гэта афрыканкі. Яны нясуць малюсенькія і вельмі ж моцныя яйкі. А гэці — галагуцкі завод.

Варакса сыпнула ім, узняўшы з каўша, жменю ячменных пузата-кароткіх зёран, а Бладзік:

— Яна сама родам з-пад Вілейкі. Бежанка. У яе пахавана там пяцёра дзяцей. Дык усё бядуе яна, каб пабываць — ці давядзецца? — на іх магілках.

Гіляр запытаўся:

— Адкуль жа вы,— з-пад Вілейкі?

— З Крутагор'я. Ай што: былі ж мо там?

— Быў, але не ў Крутагор'і. Мая жонка родам таксама з-пад Вілейкі.

— Ай з якой жа мясцовасці жонка?

— З Канапелек.

— Ведаю той Канапелькы... Ад Крутагор'я сімнаццаць-высімнаццаць вёрстаў ай ні больш.

— Жонка мо і ведае. Я бываў там наездамі. Наш полк стаяў у Слоніме.

— Суседзі. Аж вісялей бачыць-ма з свайго рыднага краю чалавека. А шмат каго хацелася бачыць-ма...

І сцярпеўшы момант у зацятай маўклівасці, гледзячы тупа на Гіляра:

— ...Тай міжа́ не пускае, паганка.

* * *

Самым вечарам, змрокам, прыехаў Гіляр на машыне ў Брод.

Вельмі ж набраўся, пераязджаючы Бродаўскую грэблю. Трактар западаў сваімі коламі ў клейкую гразь. Гіляр даваў больш і яшчэ больш трактарнай сілы. Лапатаў трактар па гразі зазубрыстымі шырокімі коламі. Пырскі ляцелі ва ўсе бакі — і яшчэ і яшчэ раз, два... затрататахкаў, ірвануўся, напружыўшы сваё

жалезнае цела, і вырваўся, аблеплены камякамі гразі, на аблог бродаўскага поля.

Уехаўшы ў вёску, Гіляр пакінуў адціснуты драбінчата-лукатны след на ліпкай застыўшай гразі лагчыністай вуліцы.

Цэлы таўбун бродаўцаў — сустрэлі Гіляра.

І Анісь — скрозь неакрэслены шум, што мяшаўся ў асядаючым змроку:

— На сваё прыгуменне... едзь. Адтуль выезд спрытнейшы на поле... Прыгуменне прасторнае.

А цераз некаторы час Макрына, адыходзячы ад натоўпу, ідучы да сваёй хаты: «Вось ён які... аж смех неяк: як гэта, што там у ём будзе цягнуць, араць без каня.

...Сіла тая: па вуліцы аж толькі пырскі ў бакі, у бакі... Заўтра разгледжу, дзе тое, што націскаць, каб жаць, каб разбіваць гной... дзе знаходзіцца... От што значыцца, калі наважылі... Аж радасць... весела...»

Ужо запалілі агонь, калі прыйшоў у хату Гіляр і сеў, выціраючы пот.

— Жыў я не буду...— сказаў сам сабе.— Пакуль сенакос — ува што бы ні было, а трэба, каб грэбля наша была грэбляю, а не нейкім патопам. Ух!

Прося паведаміла свайму чалавеку пра навіну.

Паставіла на стол міску з вячэраю, прысела — абаперлася на ўзлокаць, глядзела Гіляру ў твар ды:

— Лявон прадаў сваю Маліну. Узяў сто сорак рублёў. Млечная вельмі ж карова... Дык колькі вэрхалу было, як ты пайшоў, сваркі... Кажа, я прадаў на сваю патрэбу і мне ніхто не забароніць. Кажа, у мяне ж яшчэ засталася карова і сёе-тое — дык і хопіць для паю. Ай не ведалі б, што прадаў. Але Макрына хадзіла да Ярэміхі пазычаць чорных шпульковых нітак, дык тая: «Учора прадаў Лявон сваю Маліну, а заўтра Васіль прадасць свайго стрыгуна...» Мо ці не далякцівіцеся да ручкі, дасць бог... Цешылася, бачыш?

А Лявон Махавік з жонкаю Тэкляю вырашалі перад тым, пакуль прадаць Маліну.

— Збыць бы што, збольшага...— казала Тэкля.— Не канечне тыцкаць алякціву ўсю гаспадарку.

— Дурная ты, ета.

— А то як жа, я ў цябе цёнгле дурная.

— Не ў гэтым... Я аб тым, ета: без цябе цямлю. Хіба ты маеш розум, а я дурань? Сам ведаю, што ета...

Грошы... мала што, ета, патрэбна: цёплаходы б на зіму купілі б... Толькі што ж збыць?

— Каня...— вырашыла Тэкля.

— Адзін конь... Нельга, ета.

— Ну, дык з быдляці каторую-небудзь?

Так вырашылі Лявон з жонкаю ў той дзень, як запісаўся Лявон, як прыйшоў са сходу ад Аніся.

А ўчора, калі быў ахутаў вечар, дрыжачы памутнеўшым змрокам,— цераз Лявонава прыгуменне, на загумнішча, павёў перакупшчык Кароль — камароўскі чалавек — Лявонаву дойную Маліну.

Гіляр, праглынуўшы цяпер кусок разжованага, змочанага страваю хлеба, спытаўся ў Просі:

— Ну і што ж вырашылі з Лявонам?

— Вырашылі,— прымаючы парожнюю міску з стала, казала,— і Васіль, і Яўген, і Цімох, Атрахім... усе, сабраўшыся каля Міхалкавай хаты, сказалі: «Ай, калі прадасць хто што без папытання — выпісваць са спісу. А на гэты раз даравадь». Толькі грошы за Маліну, казалі, каб аддаў на калякцыю. Бацька таксама быў на гэтым вэрхалу.

— А што ж бацька на гэта?

— Нічога... Маўчаў. І Макрына была...— сказала Прося, накрываючы хлеб васьмінітным абрусам сваёй, Просінай, работы.

IX

Бляшнявы месяц шпурляў праз кутавое акно Анісевай хаты сваё ватовае святло, раскідаў яго па падлозе нерасскубенымі камячкамі, разліваў беллю нясвежага малака.

Макрына не спала, а ляжала на сваім шырокім ложку і бачыла, як рассякаўся месячны жмук святла аб аконную раму,— перш напалам, а потым — раз, два — упоперак, на шэсць выцягнутых гумалясткаю акенцаў, як клаўся ён прадоўжнымі пасамі на хатнюю падлогу.

З аднаго боку на другі перакідалася Макрына, адкідала ад пояса саматканую коўдру, камячыла свае доўгія распушчаныя валасы і ў не пакідаючых яе думках неакрэсленае, але выразнае: «Няўжо... Што мне набрыло ў маю галаву... Чаго я набрала на розум-м...»

Скрыгалі зубы аб зубы, гарэў жарам бярозавых вугалляў малады яе твар, а яна адным звагам віла і віла

клубок растрэсеных думак: «...Стары... бацька... Яўген...»

І ёй прыходзіў на памяць усё свежы, усё інакшы вобраз старога.

...Шырокія плечы... З жыва бойкім, завостраным позіркам. Засівераўшы дзесяцігоддзямі твар, пакарабачаны, але поўны, чырвоны — грыбам рыжком... Уяўляўся ёй вобраз Пракопа.

Зноў камячыла Макрына свае валасы, кідалася, штурхала незнарок соннага збоку Яўгена.

А Яўген моцна спаў. Ён вярнуўся з паўстанка самым надвячоркам — амаль у адну пару з Гілярам. Ездзіў Яўген у горад, азадачыў куплю жняяркі.

Усе вобразы сталі перад Макрынаю жывымі і суцэльнымі.

Тады як зайшоў ён у хату з Анісем, Патапчыкам — не ведала Макрына, чаму такая дрыжачая істома перабегла ўсё яе цела. Не ведала чаму, пайшла Макрына на поле. Пайшла, бо ішлі ж... А на полі тупым позіркам глядзела, што робяць. Блукаў яе позірк па быльнягу межнаму — рассеяна, абыякава.

Шукала... доўга, балюча шукала, а для чаго? Каб убачыць, глядзела. А далей?.. Сама не ведала што.

Ды і што ж магло быць у яе, у Макрыны, з бацькам яе чалавека?

А бачыць хацелася вельмі ж... Наўмысна праходзіла ціхай хадою, калі ішла вуліцаю каля Пракопавай хаты. І таксама: а для чаго? Хто ж яго ведае, для чаго.

Цяпер ляжала Макрына, аддаўшыся на волю свайго адчування.

...Тая самая, як і тады за вячэраю, цёмна-русага воласу самарослая барада, доўгія вусы, злітыя з гэтай барадою, чырвона абведзеныя вусны, шар здаровых, над'едзеных векам зубоў...

Зусім раскрылася Макрына, а духата ўсё роўна ціснула яе потнае цела, і зноў...

...Як ідзе — ступае цвёрдым, асмеленым крокам: ...два, тры... Пакарабачаны гадавымі маршчынамі карак... абросшы, ускалмачаны непадстрыжанымі валасамі, як ніцаю лазою.

Глядзела Макрына наскрозь адчыненымі вачыма на асядаўшы месячны пух і далей праз трымцячую бель:

...Гаворыць, не апускае вачэй. Важна гаворыць, пэўна, адразу. Голасам-басам гаворыць, вострым, а мяккім, жвавым, суцэльным.

Калі прыходзіў пазычаць долата, яна была адна ў хаце. І ён:

— А дзе ж твае, гэна, гаспадары? Ну... што ў цябе, як ты... ну... Эх ты — каза-дзераза!..

Ляжала Макрына і чула, як раптам апала на яе спелыя налітыя грудзі Яўгенава спрасонку рука. Не хацелася знімаць з грудзей соннага цяжару: хацелася, каб яшчэ больш успацелі, адмяклі сакавітыя грудзі, каб даўжэй трымалася ў целе томная сшэрхлая млявасць.

А ціхата абмывалася ноччу, і зноў...

...Песня звініць увушшу. Звініць — цэлым хорам пяе. Не, не ўтраіх яны — з Анцяю, з Гэлькаю... Перш чуць-чуць пачынаецца песня — запявае недзе нехта далёка-далёка:

Вой да ты не-ы стой, не сто-ой.

А потым усё бліжэй і бліжэй чуваць песня — ярка і выразна:

На-а га-ры-ы кру-той...

І ўжо моцным віхрастым узрывам, на тысячу рассыпаных, стройна-хорных, густых галасоў:

Во-ой да не кі-да-ай галля
Ў мо-о-ра сі-ы-ня-е...

...А ён ляжыць з расхрыстанаю грудзінаю на ложку. Штрыфлі яго кужэльнай кашулі развязаны. А з-пад кужэльнай кашулі — на грудзіне тое ж самае іністае серабро, густое, зблытанае, нерасчэсанае...

І ўсё гэта як сон, як здань.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паволі адняла Макрына Яўгенаву руку.

Месяц спускаўся над бродаўскімі стрэхамі гумён — звісаў, тапіўся ў неабдымным прасторы бляшнявай ночы. Зоры міргалі адна перад другой ціха і квола. Нібы плакалі зоры — міргалі павекамі, з навісла поўнымі, на іх рожак, кроплямі слёз.

Макрына прайшла, як начная здань, як русалка, да варот свайго гумна і ўспомніла:

«Вундзека на тым баку частакола, у адрыне, спіць стары...»

І зусім безадказна і несвядома сказала сама для сябе:

— Не ведае ён... стары, што я тут стаю...

Стаяла Макрына, глядзела ў асвечаную месяцам далячынь.

Без думак стаяла — нібы акамянелая — над варотамі прыгумення, абапёршыся аб халодны варотны стаўпец.

А зоры міргалі адна перад другой павекамі сарамлівай дзяўчыны.

Цішыня нема звінела.

Ападалі з вішнёвых лісцяў, за частаколам, на лопух буйныя кроплі расы.

А Макрына доўга стаяла ў начной вільгаці, а потым хацела ісці — павярнула ад варот, як...

«...Мне паказалася...» — сама ў сваіх няўпэўненых думках.

Але ўрытаю застанавілася Макрына і прыслухалася кволым сваім слухам.

— Бразгае нехта... во... во... І зноў — во!

І Макрына пачула выразна, сярод ціхай, апавіта захутанай ночы асцярожны бразг аб жалеза жалезам.

«Што ж гэта?..» — сказала ўстрывожанымі думкамі.

А бразг чуваць быў адтуль, ад Пракопавай адрыны.

Тады паднялася на вароты і, асвечаная млечным святлом месяца, зірнула цераз верх, цераз Пракопаў густы частакол.

— Што яны робяць?..— пазнала Макрына Пракопа, а з ім Карпуся.— Што яны...— І яшчэ трэцюю бачыла чалавечую постаць.— А-а...

Макрына пазнала... Добра пазнала і рынулася да хаты, да дзвярэй.

— Што яны робяць...— Бегла, а за ёю гналася прыкрая думка.— Бацька... Стары — што ён надумаўся... што... Што яны хочуць... Зглуміць...

Не чула, як бразнула моцна дзвярыма. А бразнула моцна.

Убегла Макрына ў хату ды:

— Яўген...— пачала будзіць тармасіць.— Яўген...— шаптала дрыжачым голасам над яго вуснамі.

А Яўген спаў соладка і моцна.

Катурхала Макрына Яўгена і ў сваім адчуванні: «Які ён нядобры... Бацька, бацька... Што яны робяць... Трэба ж заўтра араць... Людзі...»

Пякучая крыўда абдала Макрынiна сэрца за мінулае, за жыццё... старым... бацькам... у якога нячыстыя думкі...

Вялікі жаль ахапіў, сціснуў яе маленькае, жаночае, сэрца. Моцна, моцна сціснуў... аж да кропелек балючае крыўды, пякучай, атрутнай, у якой купалася яно, трапяткое.

— Трэба ж араць...— шапталі яе вусны.— Што яны робяць... Яўген! Нехта на прыгуменні... Любы... залаты... Зглумяць...

І Макрына, як ніколі, адчувала цяпер дарагую, лагодную цеплыню гэтага соннага чалавека.

Тады нахінулася грузна на Яўгена сваёй цяжкай постаццю, пачала цалаваць горача і моцна яго разаспаны і размякшы твар.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Анісь з Яўгенам агледзелі, абышлі навакал маўклiва стаячага трактара і знайшлі: дзве адкручаныя нітэркі і нечы ключ, туга ўздзеты на шрубу заваднога трактарнага механізма.

*1929*



# НОВАЯ ДАРОГА

Аповесць

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I

Дарога пылам зацярушана, а па ёй Даніла Шчупак дадому едзе. Узбіваюць Данілавы колы пыл, не даюць яму спакойна паляжаць. Злуецца пыл — сівымі дымнымі камякамі сыпле злосныя пырскі, а Данілу Шчупаку ўсё роўна: быў на кірмашы.

Кожны месяц настае маладзік перад нядзеляю,— маладзіковай празываецца тая нядзеля. У маладзіковую нядзелю Луцішча коньмі кішыць: хто мае якуюнебудзь зручнасць — і купляе, і прадае, і перапрадае.

Даніла Шчупак меў ахвоту некалі паглядзець здароўе конскіх зубоў. Некалі... І цяпер — не без таго. Калі натрапіцца вартае што-небудзь — і цяпер не праморгне. Толькі не тыя цяпер часы пайшлі. Злосныя цяпер часы, неспакойныя... наконт перапродажу.

«Было ды сплыло. І коні дробныя па кірмашах водзяць...— Данілу на ўспамінак вярзецца.— Было... на адным табе кані, а якую можна, бывала, выгнаць цыхру. Пастаяць толькі трэ было на сваім — і выганіш. Грошы кошт свой мелі. Жызня, называецца, была».

Сёння Даніла на кірмаш ехаў — не трымаў пра коні думак. Мала пра што лезлі думкі ў галаву плоймаю. Адганяў іх.

Але адно ў думках жыць хоча, а другое, спрытнейшае, займае месца. Таксама і ў Данілы Шчупака: не думаў, што каня купіць, а стрэў па свайму густу — кроў зайздросная апанавала. Ды якраз і Ёсель луцыцкі... (Даніла і даўней з Ёселем трымаў хеўру.)

— Купім,— казаў Ёсель,— напалам. Тут у мяне чалавек з Доўгага Поля — усучым.

І купілі. І так гладка таму даўгапольскаму чалавеку...

Конь той крыжасты, разложысты, а толькі адно вока цьмянае, мутою налітае. За палавіну цаны пайшоў бы, калі б з мутным вокам прадаць. Ды толькі ж навошта чалавека таго палохаць, калі мута гэта — прыгледзецца трэба добра.

Ад таго і радасць адбылася сягоння з Данілавым сэрцам.

Рэдкім госцем бывае радасць у Данілы. Занятая яна гэтымі гадамі — клопат праз гэтыя гады ў сабе носіць. Таму-та і часу не бывае радасці пахадзіць каля сэрца, пабегаць па Данілавых вуснах.

А сягоння...

«Яно крыху ніякавата,— едучы на сваёй драбніцы, варушыць Даніла думкамі, як таракан вусамі.— Не такта... ашукаць чалавека. Але...— другім ходам пускае вусастыя думкі,— хай чалавек не быў бы бабаю. Купляў — глядзець трэба б... Но-но...»

Конь Данілаў з гары трушком раскідае. Лёсткі ў драбінцы на драўляным хаду трасуцца. Ззаду адна недзе вельмі ж моцным лёскатам разлягаецца. Вушы ажно закладае руплівасцю.

Даніла сядзенне падпіхае к задку, каб заткнуць яе прыкрае лапатанне.

А смех зноў з лясістага гушчару вусоў ціснецца на Данілавы вусны.

Нават ажно пець хочацца, едучы:

Ой, зваліўся ды камар з дубу,
Ды пабіў камар свае косці.
Ой, ды чуе камар сваю згубу,
Ды шкадуе сваёй маладосці...

— Не мы прадалі, другі нехта прадаў бы. Хоць хто прадаў бы слепавокага за відавокага. Жызня, брат, усялякаму ліху навучыць. Хэ-э... Н-но!

І зноў говарам лапатлівым разлягаюцца лёсткі.

Драбінка нашчэнт разнітавалася за гэтыя гады. З'ездзілася. Лячыць трэба б, а толькі на гэта Даніла рукою махае, як камароў адганяе.

— Нельга будзе ехаць — падмайструецца. А каб майстраваць яе для чалавечага вока — не... На гібель яе майстраваць. Цяпер чалавечае вока... вока звера ліхога танней варта. Дык нашто яе ладаваць — хай глядзіць тое вока ды лепей беднасцю цябе празывае — хэ-э. А ўсё роўна ж ехаць.

Данілаў хлеў у леташнім годзе папрасіў падпораў. Не пашкадаваў іх Даніла. Нават на самым відавочным месцы ў рад, як для якога харараства, навыстаўляў іх. Хата шчытам сваім сагнулася. Нібы нехта шчыт гэты моцнаю паганякаю перабіў. З таго часу і палатан шчыт пакамечанаю кастрыцаю. На гэтых днях на страху лазіў Даніла комін праціраць. Без драбіны лез па страсе. Нагою быў упёрся ў паплеціну, а яна ўзяла ды зубы Данілу выставіла. Дык неяк нібы імгою абдалося ўсё ўсярэдзіне: узяў адламаны канец ды так і пакінуў навідавоку.

Колы Данілавых калёс даганяюць адно другое. Грукатам коцяцца, злуюцца, што дагнаць не могуць. А каню-мышаку ўсё роўна: ідзе ён, як мерае ўспыленую дарогу, як наматвае яе палатно на адзін метравы скрутак. Часамі чхае конь, галавою матае — паслабляе лейцы, каб вальней уздыхнуць.

Хацелася б гэтак Данілу ехаць аж да самага вечара... Нават і не да самага вечара, а да заўтрага... і нават не да заўтрага, а ехаць і ехаць. От так сядзець, ляжаць на ўзлокатках, а конь-мышак хай падносіць адну за другою, як напаказ, свае ногі. І сам будзе наперадзе, і Даніла будзе наперадзе.

— Но-о!

Але што ж гэта? Засаромеліся конскія ногі — у бакі пайшлі. Капытамі моцна зямлю пацалавалі. Пыл сухі аж да болю прыціснулі. Колы Данілавай драбінкі

пайшлі бокам — выплываючым жытам. Лёсткі засакаталі на ўвесь голас.

А Даніла на каня:

— Дурніца... Чаго ты... Адкуль ты гэты страх убачыў?..

І дарэмна знявагу паслаў на свайго каня. Бо з-за вастраносага, бязвусага, выплываючага жыта выйшаў чалавек.

У руках чалавека чамаданчык, а на чамаданчыку канцікі бліскучыя пад сонца.

Як толькі ўбачыў Даніла чалавека з бліскучымі канцікамі на чамадане, кемлівасці даўся:

— Захоча, каб пад'ехаць... А што мне з яго пад'ездаў...

Не любіць Даніла Шчупак падвозіць чалавека па дарозе. Добра ж, калі нетутэйшы чалавек — плату можна сказаць. А тутэйшы — што ты з яго, толькі страціш за рубель які свой гонар...

Убачыў конь, што гэта чалавек паміж жыта ўстаў, і страх свой скінуў. Зноў да конскай сцежкі з калёсамі хацеў ісці. Даніла пагнаць хацеў каня: «Хай сабе ідзе чалавек з бліскучымі канцікамі».

З усяго размаху шмаргануў каня за лейцы, прыціснутым языком сказаў: «Но-о». Але здарэнне трапілася: правая ляйчына ўзяла ды рассмаргнулася.

— Каб цябе агонь! — выкінуў, як для сябе, Даніла раззлаваныя словы.

А чалавек той каля самай драбінкі.

— Ці не падвезлі б...— І каб сумнення не было пра далечыню, дадаў: — Да Чырвонага. Я, колькі скажаце, заплачу.

— Да Чырво-о-нага...— не пытаў у чалавека Даніла, бо чуў, а так пераказаў словы.— Кажаце, да Чырвонага...

Данілавы вочы ад гэтага слова жвавасцю лупнулі. Як сядзеў з выпрастанымі нагамі,— падкурчыў, за адзін раз да сябе забраў. Усім сваім целам сціснуўся ў жменю — месца даў чалавеку.

— Сядайце... сядайце...— сказаў Даніла.— Чамаданчык ваш дайце сюды: вось так — паложым яго ў перадок. Дарога цяпер сухая, лёгкая, як кажу, і заедзем.

## II

Стары Нічыпар коні саўгасаўскія на выган выправіў з Адамам. Хамуты баранавалочныя развесіў у канюшніку на кручках, дзверы зачыніў на зашчапку, за прабой залажыў замок жарабца Баяна.

Ды сваёю думкаю скінуў: «Схаджу да Вялікага Каменя... прайдуся».

Некалькімі крокамі ўжо быў змерыў ад канюшніка, ды вырашыў нанава: «Вазьму вуду. Мо што ўдасца зlавіць каля рэчкі. Надвячорак, здаецца, без ветру. Вада карабаціцца не будзе».

Глянуў з-пад брывей на неба, на лісце раскінутых кляноў, ліп.

— Ціха. Не блытаецца вецер паміж лісця.

Калі-нікалі ходзіць Нічыпар да Вялікага Каменя, што над рэчкаю за саўгасаўскімі будынкамі. Там ён садзіцца на зялёную мураву і, ашчарэпіўшы свае калені жылістымі рукамі, глядзіць тупым, неміргаючым зіркам. Бровы яго калматыя, як ветрам расцярушаныя, насупліваюцца, а твар, маршчынамі спаласаваны, робіцца задуменным. Доўга часамі сядзіць стары, глядзіць аж за слязлівую рэчку.

А яна, калі глядзіць з гары Нічыпар, і ўпраўду слязлівая, як і яго старэчыя вочы. Ціснецца рэчка, пралазіць напралом — абгінае, як падымае на сваім шкляным целе саўгас «Чырвонае».

Стаіць саўгас на высокай, узгорыстай мясціне. За чатырнаццаць кіламетраў укругавую відаць ён.

Едзеш на Клінкі — відаць, на Пярэкуль едзеш — відаць. Далёка, далёка ад'едзеш, а ён як і тут, каля цябе, разам з табою. Нібы і не ад'ехаў ты.

Аж добра, што ты і заехаў і бачыш, адкуль ты выехаў.

Вясною, калі дрэвы абрастаюць лісцямі, не відаць з-за іх чырвонаўскіх будынкаў. Яны зелянівам, як паводкаю веснавою, затоплены. Па восені ж, калі ліст жоўтаю фарбаю састарыцца, здалёк — як апырскана Чырвонае залатым друзам. Вельмі ж перад тым, калі сонца, як шахцёр той, збіраецца пад зямлю пралезці, залаты друз тады на лісцях агнём гарыць. Тады саўгас «Чырвонае», як і насапраўды афарбаваны ў чырвоны колер.

Калі сядзіць Нічыпар над рэчкаю, думкі ў старога

чаўнаком соўгаюцца — вытыкаюць цэлае палатнянае поле.

Чаго заходзіць Нічыпар да Вялікага Каменя? Адгэтуль добра відаць, лепш як адкуль, чырвонаўская ваколіца. І Муравейнікі, і Берчукі відаць, і хутары малінаўскія.

Стары Нічыпар, бывае, цэлы вечар, калі ціхі ён, прасядзіць над рэчкаю. У ціхія такія вечары добра чуваць шум кола берчукоўскага млына.

Слухае Нічыпар і ў гэтым шуме чуе гаворку свайго Максіма-мельніка.

У мінулым годзе колам млынарскім, што чатыры камяні круціць, калі вады хапае, падхапіла Нічыпаравага сына Максіма.

Раз, два... Страсянула на хаду, падняло яго на высокае сваё месца, прапусціла праз верх і ўніз галавою апусціла...

Не спазнаў Нічыпар твару свайго сына, калі зірнуў. Толькі і спазнаў па камяках салдацкай ватоўкі, у якой прыйшоў ён з Чырвонай Арміі.

Стары гаварыў:

— І на Урангеля хадзіў, і на Шкуру, і ў Пецярбургу на лёдзе біліся... Як жа трапіў ён пад гэта млынавае кола?!

Чуткі спотайка пасля хадзілі па ваколіцы пра Максіма.

А Максім быў выбраны членам сельсавета. У Муравейніках зямлю знайшоў, што была ў кнігі сельсавецкія не прыпісана.

Чуткі на ціхіх нагах, на кончыках пальцаў хадзілі. Было ў тых чутках, што Максім стаяў перад млынавым колам разам з муравейнікаўскім завознікам, з Танцулькам.

...Потым Танцульку бачылі, як ён трапяткімі крокамі ішоў на двор. А калі млын застанавілі — з двара прыбег з вялікаю бядою, з горам пра Максімава здарэнне.

З нейкім часам пра здарэнне на берчукоўскім млыне чуткі тыя не то прытаіліся дзе, не то ўтаміліся ходзячы: не чутно было іхняга шораху. А жыццё зноў, колам тым млынавым, пайшло ўкругавую.

Цяжка забыцца Нічыпару пра свайго сына. Вельмі ж добры быў яго Максім. Дзе ні быў, пра бацьку памятаў; люльку-файку прыслаў аж са службы.

Не плакаў стары ні разу па свайму сыну. Нічыпар і ў жыцці сваім не плакаў; моцныя ў Нічыпара слёзы.

— Навошта іх разліваць,— жартуе Нічыпар.— Вылььеш — другія трэба набываць. Слёзы заўсёды павінны быць у чалавека напагатове. Мала як зацярушыш вока, а сляза і выганіць парушыну.

Доўга будзе часамі сядзець Нічыпар каля Вялікага Каменя над рэчкаю, затакаваны мінулымі днямі.

Праходзяць у старога думкі адна за другою чародамі. Ідуць і больш трапяткія, і больш жвавейшыя — адна другую абганяюць. А з імі ідзе і сам Нічыпар. Вось ён з пакамечанаю шапкаю пад пахаю ў Калечыца, у чалавека, што любіў пераганяць чужую работу на чырвоныя бліскучыя гузікі. Вось ён і ў маладога Калечыца, перад сціснутымі кулакамі: жарабец, што белымі рублямі свеціцца, вырваўся з рук у Нічыпара.

Кажа Нічыпар:

— Стары Калечыц быў лепшым за маладога.

І зноў на тое ж самае месца прыходзіць — да свайго сына Максіма.

А калі хто падсядзе да старога Нічыпара, кажа ён сваім думкам: «Пачакайце».

Рад Нічыпар чалавеку, рад пагаварыць...

...Шанцавала Нічыпару гэтым вечарам на рыбу. Добра зрабіў, што ўзяў з сабою вуду ды з гары сышоў. Абы ткнуў вуду ў ваду, і пачне хадзіць яна па вадзе, як жывая. Спраўляйся толькі падымаць з асцярогаю вудзілішча; глядзі, каб стрымала вуда, пакуль скончыць плотка свой танец.

Але змрок насупіўся вожыкам, і ад рэчкі вільгаццю дыхнула. Жабы-квактухі загаманілі ярчэй, байчэй. Слонка смелымі крылламі разрэзала надвячорак у старога над галавою. Жукі гойсалі навыперадкі адзін за другім, як нечага шукалі згубленага... Тады зматаў Нічыпар сваю вуду.

Цяжка ўзыходзіць да Вялікага Каменя ад рэчкі: крутаватая, старчма ўзнятая сцежка. Ды і старасць Нічыпарава большым старчаком узнята за самую сцежку; у абход пайшоў стары, каля ўзгорка.

І ўжо ў прысады выйшаў...

У руках нёс кацялок з плоткамі. Яны трапяталіся ў вадзе, плёхаліся, як малыя дзеці.

— Та-ат-ка!..— разляглося раптоўнае рэха па ваколіцы.

— Та-ат-ка...

Нічыпар спазнаў голас сваёй дачкі Манечкі. Гэта яна прыйшла з палявой работы.

— Я тут...— адгукнуўся стары.

А яна ведала, што ён бывае каля Каменя,— туды і пайшла клікаць.

Праз хвіліну Манечка, засопшыся, стаяла каля бацькі.

Яна была босая, у руках трымала белую хустку. Успацеўшым быў твар яе, наліты зардзеўшымі бурнэлькамі шчокі. Не магла аддыхацца, слова не магла вымавіць. Дыхала хутка-хутка, усё роўна як баялася, што не хопіць у яе часу.

— Татка,— сказала Манечка ўрэшце,— а я вас шукаю...

— Навошта?.. Я і сам ужо іду дахаты,— глядзеў Нічыпар на ўзнятую імпэтную маладосць сваёй дачкі.

— Да нас прыехаў з горада,— сказала Манечка,— Такарскі Вацік.

— Які Вацік? — запытаўся Нічыпар.

— Вацікам завуць яго, а па прозвішчу Такарскі,— адказала Манечка.

— Ну дык што... Чаго ён прыехаў?

— Ах, якія вы, татка! «Чаго прыехаў?» Жыць прыехаў у наш саўгас. Яго прыслалі, каб Ляксандру памагаў. Ён у нас будзе жыць: Ляксандра яго прызначыў у нашу тую хату.

Узяла бацьку за руку.

— Ідзем, татка, хутчэй. Чаго ж вы стаіцё?

Нічыпар гуллівы смех рассыпаў па мякіністай барадзе. Змрок яшчэ больш насупіўся калматымі брывамі і пачаў уваходзіць у сваю сілу. Манечка не прыкмеціла ў змроку бацькавай радаснай усмешкі над яе маладою наіўнасцю.

### III

Раніца расцвіла півоністаю кветкаю, вялікаю, ружоваю.

Ужо даўно каровы саўгасаўскія пайшлі збіраць канюшыну. Коні пайшлі скародзіць на полі баронамі трактарную раллю. Кляўко з сваім сынам з Мурашейнікаў прыйшлі — прыпушчалі драчкаю другое бервяно на новай сырабойні.

Меркавалася, што хараство ранішняга цвету пратрымаецца цэлым днём. Не паказвала неба, што сапсуецца дзень у сваёй пагодзе-красе.

І Ляксандра — чалавек, што трымае саўгас пад сваім вокам, рад быў і гэтай ранішняй красе, і гэтаму яркаму стуку тапароў на зрубе, і гэтаму чалавеку — Такарскаму Вацiку, што ўчора прыехаў з горада да яго ў памочнікі.

Ляксандра вёў Такарскага да новага зруба, здалёк хваліўся яго веліччу.

Яны толькі што агледзелі саўгасаўскую школку.

У гэтым годзе школа нашмат пайшла ўверх. Бадай на цэлую пядзю. А яшчэ ж усё лета ўперадзе.

Ляксандра гаварыў:

— Зімою снегу было вельмі багата. Роўна з плотам намяло. Цераз верх плота па снягу лазілі зайцы. Шмат — страх колькі — папсавалі прышчэпаў.

Ідучы, застанавіліся яны каля старадаўняй, мураванымі слупамі ў зямлю ўрослай аборы. Адгэтуль добра відаць усе чырвонаўскія будынкі.

— Той будынак пойдзе на знос,— казаў Ляксандра пра будынак, што пазіраў некалі злоснымі вокнамі на дваровых людзей.— Шашаль падтачыў падрубы. А калі ўжо завёўся шашаль, можа ўсю будыніну з'есці дашчэнту. Тут у ім праходзяць нашы вечары...

— Няма каму ладзіць вечары,— глядзеў Ляксандра на маўклівы твар Такарскага.— Маладыя нашы людзі пражываюць самапасам. Прыйдзецца табе падагнаць нашу моладзь. Стасюк не ўмее сакратарыць. Палітыкі не хапае. На ўсе чатыры нагі кульгае іхняя панятлівасць у палітыцы. Табе, брат, прыйдзецца выганяць з гэтых ног усю курч.

Каля зруба новай сырабойні Вацiк Такарскі ўбачыў: восем мужчын стукалі тапарамі — калупалі пазавую трэску. Пажаваная трэска спрытна ўцякала зверху ад тапара: каб хаця не хапіў ён яе лішні раз сваім вострым зубам.

Гледзячы ўверх на мужчын, Вацік запытаў Ляксандру:

— Адны саўгасаўскія ці наймаеце?

Той засаромеўся, нагу перамяніў, стоячы, ды:

— Наймаем. Не абыдзешся без найму.

Вацік жарт састроіў:

— Трэба сваёй нагадаваць рабсілы.

Абодва засмяяліся. Ляксандра гаварыў:

— Куды ні ткніся,— усюды трэба людзі. У нас шмат трэба людзей, а на будоўлю і падаўна: не кожны зможа быць на зрубе з тапаром. Ды наняць цяжка. Няма людзей.

Яны ўвайшлі ў сярэдзіну зруба.

Вацік Такарскі прыехаў ад самых формаў, што туга набіваюцца прасеяным пяском, ад жалезнага малака, што льецца ў тыя формы, каб застываць густа, аж да яркага звону.

Калі ўвайшоў у зруб, глянуў з канца ў канец — на ўспамінку стаў іхні цэх. Такі ж самы даўжынёю расцягнуты, шырынёю распасцёрты. Толькі іхні цэх замурзаны сажаю, а сырабойня свеціцца сценамі, як белым сырам, ды няма тут пасярэдзіне печы, што глытае жалезныя абрэзкі, што закусвае чорным хлебам-вугалем.

Застанавіліся на ападках-трэсках. Вацік глядзеў на цяслярскі спрыт у рабоце.

— Гэтыя з Муравейнікаў,— казаў Ляксандра на Вацікаву цікаўнасць.— Сын з бацькам... па прозвішчу Кляўко. А гэта Жур Лаўрэн... таксама з Муравейнікаў. А гэта нашы, саўгасаўскія... Мамчыц вунь. Сын яго, Харытон, за старшыню ў сельсавеце.

Стоячы недалёка ад Лаўрэна Жура, Ляксандра наўмысля сказаў уголас:

— Таварыш, дзядзька Лаўрэн ніколі не адмовіць. Абзавешся яму, і калі ў яго час у запасе, і пазычыць нам свайго часу дзянёк-два...

Жур счуў, што гутарку трымаюць пра яго, і тапор свой уткнуў у бервяно. Нагу перанёс з таго боку сцяны на гэты бок ды:

— Што гэта, таварыш, да іх прыехалі на пражыванне?

Ваціка цікавасць узяла, гледзячы на твар гэтага чалавека, валасамі зарошы.

— Да іх,— адказаў Вацік Лаўрэну, а потым дадаў: — І да вас.

— Так, так... Канечне,— гаварыў Лаўрэн,— у іх шмат работы. Яны наймаюць, наймаюць і рады мала. Ім бы яшчэ чалавек з дзесяць...

— А чаму ж вы тут, гуртам, вёскаю, не памагаеце свайму саўгасу? — сказаў Вацік.

Фотографічная картка



*Подпіс студэнта*

Фотаздымак Сымона Баранавых
на студэнцкім пасведчанні. 1928 г.

Лаўрэн унурыў свой валасаты твар; вытрасаў пальцам трэскі з паза, гаварыў:

— Свая работа. Кожны заняты сваім, як кажуць па-нашаму, разгарненнем. Не думайце, у нас таксама шмат работы. Але от як папросіць заведуючы Ляксандра... ну-у, раз трэба дык і трэба... Бугайчыка пусціць... тое-сёе: у іх жа свой каваль... ды чалавек ён нядрэнны бывае, жывёліна прыпрэцца да збажыны...

Не ўцяміў Вацік апошніх слоў пра бугайчыка, але запытаць не хацеў, баяўся, каб не перапыніць Лаўрэнавай думкі, а ён скідаў трэскі і гаварыў:

— ...пуд жыта, бывае, ні ўцяць ні ўзяць,— Ляксандра і адважыць...

І падняўшы вочы на Ваціка:

— Дык вы, мусіць, тут, кажуць, будзеце цэлае лета?

— Буду,— нехаця адказаў Вацік, а каб сцерці гэтую сухасць, сілаю дадаў: — Будзем знаёмымі, суседзямі.

Хацеў ісці: Ляксандра стаяў аж у канцы зруба.

Скрануўся з месца, глядзеў перад сабою, каб не спатыкнуцца аб трэскі.

А Лаўрэн:

— Мо маеце газетку?

Мацнуў Вацік рукамі па кішэні.

— Старая,— сказаў, дастаючы з кішэні.

— Ото ж і добра... Курыць, ведаеце, хочацца, а паперы — хоць запалі — не трэсне.

Вацік ішоў ад Лаўрэна і нёс у сваіх думках:

«Кажуць, прабуду цэлае лета... Як у іх скора ведаюць. Не паспеў пераначаваць, як ужо...»

Ішоў, а сэрца яго нібыта падтрымлівала аберуч цвітучая раніца. Было лёгка і радасна... Чуў спевы шпака недзе ў лісцях дуба: бачыў, як жмурыліся лісці ліпы пад залатым ранішнім сонцам.

...К вечару ўсе ваколіцы ладамі-пераладамі разлягаліся пра новага чалавека ў Чырвоным.

У Муравейніках гаварылі:

— Калякцівы прыехаў рабіць. Горад цяперака людзей такіх рассылае на калякцівы...

На Малінаўках гаварылі:

— Ён прыехаў, каб нас выведаць... Каб прачуць, якія мы тут, каб накладаць падатак...

А саўгасаўскія жанкі — Юзічыха ды Дзям'яніха:

— Відаць, панятлівы чалавек. Я зайшла да Нічыпара, дык ён еў. Сам выйшаў на кухню, сам і хлеб узяў, і адрэзаў, і лыжку ўзяў з заложніка...

Нічыпарава дачка, Манечка, учора, як размясціўся Вацік, за сцяною казала Юрчыкавай Анюце:

— Кругдаліцы, але хударлявы. Бараду голіць. Адразу як прыехаў, дык і пагаліўся. У яго свая брытва. Вельмі ж валасы... русыя і вялікія. Ён іх усё назад рукою... Усё назад рукою... захінае. Каб ты, Анютка, бачыла, якія ў яго валасы... Толькі на шчацэ ад нечага шрам. Можа, як малым быў, дык дзе-небудзь аб кант разбіўся? У нашага Максіма конь некалі гэтаксама ў малога капытом ударыў. Потым, як зраслося, дык і астаўся на шчацэ рубец.

Нічыпар Ваціка ўбачыў з свайго вока.

— Як і мой Максім: рупны.

Булгак з Трэцяй Малінаўкі гаварыў на Другой Малінаўцы Данілу Шчупаку:

— Кажуць, што яго прыслала ячэйка як чалавека спраўнага на язык. Па-мойму, калі язык ходырам ходзіць,— розум ляжыць у таго чалавека пад замком.

## IV

У Бродзе калектыў зрабілі — ужо другі год да Вацікавага прыезду. Калі дазнаў Вацік — уцеха брала хлопца. Дык чаму ж не пагаварыць сходам пра гэту работу ў самых Муравейніках?

На другі дзень, ці што, з Нічыпарам гаварыў Вацік:

— У Кацягах зробім калгас...

— У Прыстані зробім калгас...

— У Муравейніках зробім...

Сам з сабою трымаў Вацік развагу:

«...Якое вялікае будзе тады калгаснае поле! Жыта на такім полі будзе, як тое мора: сіняе, сіняе... А ў часе красы мора гэта будзе бурным: сівое і ўсё ў пырсках... Хопіць тады хлеба і для дзяржавы, і для сябе!

...Прывязем плугоў перш-наперш штук з дзесяць... Хаця дзесяць штук — малавата. Перш-наперш трэ штук з дваццаць. Каб адразу дзіву даліся, як мы. Барон дастану таксама. Наш завод, калі скажу дырэктару Стэльмаху... «Лаўрык,— скажу яму,— дай, брат,

штук сорак...» Спалохаецца і адпусціць дваццаць. Гэту норму — хлопцы нашы як возьмуцца — зверх нормы дадуць».

Вацік сустракаўся ў Чырвоным з старшынёю сельсавета Харытонам, гаварыў з ім пра новую работу ў Муравейніках.

Але Харытон Вацiку:

— Тугія ў Муравейніках людзі. Не тое гэта, што ў Бродзе. Адным словам, натурыстыя. Як урэпіцца каторы ў што, ані ты яго з месца. Канечне, трэба спрабаваць.

Вацік сам-насам гаварыў з некаторымі. І, здаецца, зусім не тое, што Харытон казаў пра Муравейнікі.

Кажуць:

— Трэ будзе.

— Паглядзім.

— Памяркуем.

— Уступім.

На полі быў з трактарам. Убачыў каля мяжы чалавека ■ Муравейнікаў, жартаваў да яго:

— Будзь, дзядзька Кузёмка, калгаснікам, пераеду цераз мяжу да цябе: ураз размахаю тваю цаліну.

Кузёмка муравейнікаўскі нічога: смех толькі пускае з-пад вусоў, як і ўсе, кажа тое самае: «Паглядзім, памяркуем».

Сход у Муравейніках збіраўся ў Банадысёвай хаце.

Харытон за сталом сядзеў, Вацік у парозе стаяў паміж мужчын.

Хата Банадысёва адчыненымі дзвярыма звала: «Заходзьце, калі ласка. Праходзьце далей. Садзіцеся».

І праходзілі ў хату. І месцы займалі, дзе хто паспеў. Жанчыны на ложку расселіся, згрудзіліся. Мужчыны на лавах. І яшчэ ішлі.

Ад хаты аж ходырам хадзілі сцены. Горача ў хаце было ціхім тым надвячоркам.

Вокны адчынены: гарачыню на двор праз форткі прапускалі. Але ўсё роўна было горача, душна ў Банадысёвай хаце.

Харытон перад сабою на стол палажыў белую паперу. «Хай збіраюцца... ужо можна пачынаць».

Не на гадзіны мераецца дзень у Муравейніках, а на сонца. Ступіць сонца столькі-та крокаў — і ведаюць пару́ Муравейнікі. Яшчэ ступіць — і другую пару́ ве-

даюць. І аж пакуль не зойдзе яно, не сядзе недзе за галлём лесу.

Няма сонца,— а без сонца безработнае поле,— тады можна ісці і на сход.

Вацік меркаваў, перастаўляў у сваіх думках: «Уступяць ці не?.. Уступяць-то, канечне, але колькі чалавек? Хто з іх першымі ўступіць?»

Глядзеў, стоячы каля вушака дзвярэй, і бачыў: то гаманілі паміж сабою, то маўклівасць у некаторых вачах трымцела.

Дзяўчаты смяяліся, пад бок адна другую штурхалі.

Падышоў да Ваціка Брус Петрык:

— Нашчот чаго гэта будзе праводзіць сход?

Вацік на яго словы аж сумеўся:

— А вы хіба не ведаеце?

— Я-то чуў,— адказаў Петрык.— Калгас, калгас...— паўтарыў двума словамі.

Пачаў круціць з самарасліка ў тоўстую паперу папяросу. Вацік дастаў тонкую папяросную кніжачку.

— Калі ласка, бярыце тонкую... Грубая, ды яшчэ газетная, вельмі ж шкодна. Тут у вас усе газетную кураць. Хіба ж не хапае тонкіх кніжачак?

— Дзякую,— адказаў Петрык.— Хапае, але мы прывычныя. Нам нават і лепей у тоўстую. Як тытун крапок удасца, дык тоўстая папера паслабляе. Ды калі яе яшчэ некалькі разоў абкруціць...

Харытон рукою шум хаты асадзіў, сказаў:

— Пачнем...

А Вацік пад Харытонава слова, каб перайсці на другую гаворку:

— Пачнем... новае жыццё ўстанаўляць.

— Канечне,— адказаў Петрык.

— Не будзеце галець-ліпець на сваіх палосках.

— Звесна, не будзем.

Вацік гаварыў:

— Калектывам больш зробіце — больш і атрымаеце.

— Атрымаем і не будзем сабе ў вус дзьмуць,— цэлымі камякамі папяросны дым выпускаючы, дадаў Петрык.

— Не тое, як цяпер, аднаасобны клопат: і за канём, і за парасём, і за кароваю...

А нехта збоку пад Вацікавы словы:

— І за гусём...

Не ведаў, хто падаў яму пабочныя словы. Шум, здаецца, асядаючы, другім наваротам узняўся, большым колам усплыў. Гэта Харытон сход абвясціў адчыненым.

Кожны ад Харытонавых слоў зварухнуўся — праверыў, ці стаіць ён на сваім месцы. Некаторыя перайшлі з свайго месца: мо лепш каля лавы ці каля Банадысёвай печы, чымся ў парозе.

Тады Вацік пайшоў да стала.

— Таварышы,— сказаў Вацік,— дазвольце гаварыць вам пра новае жыццё. Дазвольце гаварыць пра тое жыццё, якое вызваляе людзей ад беднасці...

З парога, з натоўпу, нехта зноў:

— Дазваляем...

Азірнуўся сход, але не спазнаць паміж цэлага людскога табуну, хто абазваўся. Харытон супакоіў, нібы ў кішэню забраў шорах сходу, а Вацік:

— ...Дазвольце гаварыць пра калгасы. Але пакуль пра калгасы, я скажу вам, таварышы, пра нашае жыццё на заводах, на фабрыках. Некалі мой бацька,— казаў Вацік,— працаваў чатырнаццаць — шаснаццаць гадзін, а я цяпер працую сем-восем...

Некалі мой бацька словам не мог абазвацца, калі цяжка было яму справіцца з жыццём. А я цяпер — сто слоў, тысячу магу гаварыць, даходзіць, дабівацца свайго рабочага права.

Што трэ было мець на гэтыя правы? Што трэ было мець, каб перамагчы нашых ворагаў? Адно мець трэ было — адзіную нашу змычку.

Голас абазваўся ў парозе. Але не разабраць было, пра што абазваўся. А Вацік гаварыў далей:

— Уся сіла, уся наша моц у нашай змычцы. Змычка рабочых з сялянамі — змычка вытворчасці. А яднанне нашых вытворчасцей дае непераможную сілу, дае лепшае для ўсіх нас жыццё. І рабочая вытворчасць узрастае, і сялянская вытворчасць узрастае. Адна дапамагае другой. І калі нашы вытворчасці будуць моцнымі, нас ніякі вораг не пераможа: ні вораг-голад, ні вораг-эксплуататар нашай працы. Вораг-голад — самы заядлы вораг. Яго нараджае наш эксплуататар пан-кулак, яго нараджае быльнёг мільённых межаў!

Пот выступіў буйнымі кроплямі на твары. Кудзеліліся пасмы даўгіх валасоў. Закінуў рукою назад ва-

ласы, у кулак палажыў лёгкі кашаль, далонямі назад абапёрся аб рубец стала, гаварыў:

— А што трэба зрабіць, каб ліквідаваць нашага ворага? Нашы межы? Адзіная ў нас, таварышы, работа: працаваць калектыўна, гэта значыцца — ісці ў калгас.

Калі загаварыў пра калгасы, уварваўся ў хату праз адчыненыя дзверы разбойнік-шорах. Смела пайшоў ён па хаце цэлым валам, без сораму.

Заварушылася Банадысёва хата. З аднае нагі на другую перaступіла. Некаторыя чухацца пачалі ў патыліцах, некаторыя ўсім сваім тварам пазяхнулі.

Нехта дзвярыма ў сенцах скрыпнуў на ўвесь голас. Нехта загаварыў наўмысля двума галасамі.

Тады разбойнік-шорах гушкаўся, як на гушкалцы: то мацнейшым шумам-гоманам уздымаўся, то прыціскаўся дзвярыным скрыпам.

— Не разыходзьцеся, таварышы! — устаў Харытон з-за стала.— Будзем запісваць, хто пойдзе з такога важнага сходу. Ці-ы-хх-ха!

А дзверы як і не чулі: тым самым скрыпам адзываліся на Харытонавы словы.

Вацік скончыў, а Харытон, акідаючы вокам парадзеўшую хату, ад сябе пачаў гаварыць:

— Як відаць, таварышы, туга недзе праводзілася кулацкая работа. Мы гэту работу выкарчуем з карэннем. Гэта работка перашкаджала нам у нашай рабоце. Як вядома — наша савецкая ўласць бязлітасна да кулака і прыяцель бедняку, серадняку. Мы ведаем, што кулаку няма ахвоты лішыцца сваёй гаспадаркі, яму калгасы як нож у грудзі. Ён прывык, каб чужымі рукамі заграбаць жар, і ён не можа адвыкнуць. Таварышы...

Хацеў гаварыць яшчэ, але вочы ўзняў на хату і сціх. Асталося было муравейнікаўцаў у хаце адна жменя. Бладзік не то з кепікамі, не то і ўпраўду, стоячы пасярэдзіне хаты, сказаў:

— Дык і мы пойдзем.

Харытон усім сваім тварам паглядзеў на Бладзіка Якушку.

— Будзеце адвячаць. Сход — дзяржаўная работа. Сход — гэта ўласць. Са сходу ўцякаеш — ідзеш супраць дзяржавы і супраць калгаса.

Вацік аж дзіву даўся перад сабою: «Чаму яны не дабылі да канца сходу? Чаму яны не выслухалі?»

Падышоў да стала Міхась Кляўко, ці, як празывае яго той канец хадзячым прозвішчам, Міхась Слямзак.

Вацік глядзеў на чалавека, што да стала падышоў. Бачыў, як замахнуў ён поламі сваёй суконнай выцертай жакеткі. Палажыў полы адну на другую, каб не было відаць конскага пута.

Конскім путам былі падперазаны Міхасёвы зрэбныя штаны! Сорам схаваў поламі перад чужым чалавекам.

— Нашы ў калгас не пойдуць,— свідруючы сваімі вачыма Вацікаў твар, сказаў ён.— Вы можаце ісці сабе, таварыш, дадому і класціся спаць. І нямашака чаго нам галовы, як той казаў, марочаннем затуманьваць.

І да Банадыся:

— Ты, Банадысь, тушы лямпу. Хай дарэмна не гарыць газа.

Не паспеў Вацік сказаць Міхасю слова. Павярнуўся той ад стала і пайшоў да дзвярэй. На хаду паправіў сваю шапку, што шротам быў здзіркаваны ўвесь яе верх. Гэта Дзіма, сын Булгака з Малінавак, на тым тыдні, праз заклад з Міхасём — ці пападзе ў падкінутую, ці не пападзе — усадзіў у яе ўвесь набой птушынага шроту.

Міхась Кляўко зачыніў за сабою дзверы, а Харытон з зардзелым тварам да Ваціка:

— Бачыў! Чуў! Вось ён, той, хто праводзіць кулацкую залатую работку!

## V

Маладзіковая нядзеля выдарылася пагодлівым днём. Зранку раса была буйная, і туманам раз'ядала траву. Потым вылезла з зямлі сонца; кулакамі ўцерла аж дачырвана свае вочы і смехам пырснула на малінаўскія хутары.

Тады Даніла Шчупак ушчаміў у аглоблі Мышака і выехаў у Луцішчы на кірмаш.

З таго часу, як падвозіў Даніла Шчупак Ваціка, трэцяя ішла маладзіковая нядзеля. Ніводнай не праміную Даніла. Не было чаго прадаваць, купляць, а

ехаў. Паходзіць па мястэчку, там вокам кіне, туды падыдзе — зірне, і нібы і зробіць нешта — купіць або прадасць.

У тую маладзіковую нядзелю, як Ёселя стрэў, аж скаргаю загаварыў:

— Усё, ліха іх матары, прыбралі да сваіх рук. Мясанарыхтоўкі прыдумалі. Куды ні ткніся, як насланнё. І ты думаеш што? Самі яны спекуляцу разводзяць, а на другога складаюць. І коней не хопіць для гэтых нарыхтовак. Усяго ім мала з іх горла.

Падумаў крыху быў Даніла, акінуў спотайку вачыма, голас сцішыў ды:

— А з каго свет гарыць? — запытаў у Ёселя.— З прыезных такіх, як гэты Такарскі. Прыедзе і ўстанаўляе табе і падрыхтоўкі тыя, і калгасы...

Перад самым Луцішчам нагнаў Даніла Харытона з Вацікам. Дрыжыкі халодныя прабеглі па целе, як убачыў, што ідуць. Не даязджаючы некалькі крокаў, з правай рукі на левую перадаў лейцы. А як параўняўся — шапку сваю за казырок узяў.

— Дзень добры,— з ветлівым уклонам сказаў ім.

Уязджаў у самае Луцішча: няма зачым звадь, каб пад'ехалі. Вільнуў пугаю каню пад жывот — «но-о». І яны засталіся ззаду.

Як падвозіў тады Даніла Ваціка, пахаладзела было цела. І каб сказаць, што ніколі не бачыў гарадскіх людзей, ці што — дык не: і бачыў, і гаварыў. І нават з Рыпсам, што Данілаў бацька некалі нанач заязджаў, мелі хаўрус у горадзе.

Некалькі разоў пасля таго сустракаўся Даніла з Такарскім. І з кожнаю стрэчаю, от гэтак, як і сягоння, бег дрыжасты холад па яго целе. Не тое што баіцца Даніла гэтага чалавека, а от так, само сабою: усё роўна, як ускочыць ён у халодную рэчку купацца ды адразу яго абшыбе холадам.

Потым і нічога яно. Толькі ў Данілавых думках карцела: «...Прыехаўшы ў саўгас за памочніка ці за якога трактарыста — і будзь ім. Цябе ніхто не будзе чапаць, і ты нікому не будзеш патрэбен. Будзь, як той казаў, чалавекам».

Калі ўз'ехаў Даніла на Луціцкае мястэчка — кірмаш варам варыўся. Вэрхал кірмашовы вісеў над мястэчкам, як на нітцы. Шмат наз'язджалася з ваколічных вёсак і хто з чым: хто з парасячым піскам, хто з

куранячым ціўканнем у клетках, хто са звонам касы, а хто і з адным сваім сварлівым голасам.

І от адразу, як уз'ехаў на мястэчка, чарвівая нуда ўспала.

Не то ад таго, што дробным піскам, а не тым конскім іржаннем гандлявала мястэчка, не то ад таго, што гаманілі не ў меру сюды сабраныя людзі, а мо і ад таго, што, праязджаючы паміж людзей, незнарок штурхануў у плячо нейкай кабеціне.

— Су-у-нецца... як назаўтрае трэба,— злосна сказаў Даніла.

Тады яна ўзняла на яго цэлую буру лаянкі. Усё мястэчка рынулася на збор. Каб не паспяшыўся ад'ехаць, дык усе яго ўбачылі б, што гэта ён штурхануў аглаблёю ў плячо чалавека.

Хадзіў сёння па мястэчку сонны, нераскатурханы, як паспытаўшы ўсмажанай мухаморы.

«Усё ўздаражала...— злаваўся думкамі.— Цаны за ўсё не прыставіш».

У кааператыў зайшоў — не праціснешся: як біткам людзей наштурхана. Ад духаты зварыцца можна. Наватне дайшоў да прылаўка.

Злосці толькі і набраў замест тавараў.

З кааператыва выйшаў яшчэ больш сярдзіты на цэлы свет. Ішоў да свайго воза.

Ідучы, здалёк убачыў каля Парфёнавага воза Міхася Кляўко. Тады захацелася з ім пагаварыць. Не таму, што ён Міхась Кляўко, а што муравейнікаўскі ён чалавек.

Падыходзіў і нёс у думках: «Лоўка яны надумаліся... хвацка! Дзесятаму, бадай, закажуць».

Як дачуўся быў Даніла, што Муравейнікі на сходзе, чорнага не абялілі — разышліся са сходу, аж смехам пырснуў.

— Малайцы Муравейнікі,— казаў да сваёй Насты.— Гэта не тое, што астраўскія або бродаўскія... Людзі тут усе гаспадары па сабе. Калі не лічыць гэтага канца. Але што гэты канец? Як зробіць той канец, так будзе рабіць і гэты.

Міхась не прыкмеціў Данілу, калі падышоў ён да воза. Нагу паставіў Міхась на калёсную спіцу, рукою ўспёрся на калена, трымаў у зубах саломінку. Саломінка з парожнім коласам на канцы, і ён варушыў гэтым

коласам — ціснуў саломінку пярэднімі зубамі. А вочы трымаў уперад цераз вазы неміргаючым зіркам.

Калі так вочы трымаць, чалавек без думак астаецца на гэты час. Толькі і бывае ў такі час, што чалавек ні аб чым не думае.

— Аб чым ты задумаўся? — палажыў Даніла руку на Міхасёва плячо.

— Ні аб чым...

— Здароў быў!

— Добрае здароўе!

— Што прадаеш ці купляеш?

Даніла гаворку распачаў пра дрэнны кірмаш на сённяшнім дні. Гаварыў пра духату ў кааператыве. Глянуў на мызу Парфенішынага каня: рупіла аглядзець яго зубы.

А потым:

— Я чуў, што ў вас калгас хацелі спартачыць?

— І спартачылі...— Нібы за штосьці хацеў дапячы Міхась Данілу: сказаў кароткім словам, адрывістым.

Даніла думаў, што не дачуў Міхасёвага слова, і другім наваротам:

— Добра, ах як добра вы зрабілі, што іх адпрэчылі! Яны цяпер дзесятаму закажуць. Я казаў — гаварыў ужо са сваёю Настаю...

Міхась зняў нагу п калёснай спіцы, руку прыняў з калена, саломіну скусаную выкінуў з зубоў. А Даніла гаварыў, як бобам сыпаў у асьміну:

— Я казаў ужо: увесь свет гарыць з гэтых гарадскіх. Ён, каторы, не жыўшы на зямлі, ды хоча камандаваць. Хоча прыйсці і гаспадарыць, пане мой, маім дабром. Яны папрывыкалі, як даўней, жыць сабе, як за горадам.

Міхась хацеў перапыніць Даліну, слова сваё выказанае паўтарыць. Але ён, як і не чуў, а адным звагам:

— Не, ты, ліха тваёй матары, паглядзі, як мы пражывем. Мы цябе не чапаем, і ты нас не мароч. Я хачу пражываць, як мой бацька жыў-быў і мне вялеў жыць. І не трэба мне тваіх гарадскіх штукенцыяў. Усе яны, гарадскія, збродам жывуць, дык ім абы стварыць хоць якую выдумку. Даволі ўжо таго, што савецкую ўласць зрабілі.

Міхася апанавала, агарнула найбольшая злосць за гэтыя апошнія словы.

«Што ты мне, дрэнь, чапаеш савецкую ўласць,— хацелася сказаць у самыя вочы.— Я на франтах быў за савецкую ўласць і ведаю, колькі важыць яна, чаго яна варта. Ты дома, як тая казяўка, сядзеў. Жаба ты старая». Губамі быў паварушыў. Але толькі хрыплым голасам сказаў:

— Дык што ж ты, мо белых, палякаў хочаш да сябе ў госці?

І яшчэ большая злосць падскочыла. Вочы заблішчэлі, як хто запаліў у яго вачах агні.

— Навошта мне тыя палякі? — сказаў Даніла палахлівым голасам.— Мне нікога не трэба. Я нашчот калгаса кажу...

— Дык я ж табе кажу нашчот тваіх казалаў,— казаў Міхась.— Зрабілі ў нас калгас.

Даніла атрос свае бровы: паглядзеў на Міхася.

— Як зрабілі? У вас жа быў сход, а калякціву не рабілі ж?

— Быў, і не рабілі. А ўчора наш канец увесь уступіў: самі падалі заяўленне.

Быў рады, што хоць гэтымі словамі дапёк Шчупаку. Хацелася Міхасю хваліцца муравейнікаўскім калгасам перад ім. «Хай ведае, як гаварыць на савецкую ўласць». Але на ўспамінак набегла, што ён...

А Даніла вочы зажмурыў, твар глыбокімі маршчынамі сабраў ды як угадаў Міхасёву задзірку.

— І ты ўступіў? — запытаўся ён.

— А якое тваё дзела? — сваім наваротам запытаў.— А ўласці перада мною не чапай!

Да воза падыходзіла сама Парфеніха. У руках несла паліваную міску. Пахвалілася, падыходзячы да воза:

— Тры злотых. Вот. Як звон!

Пастукала шчыкалаткамі пальцаў аб паліваны бок. Міска нутром глыбока загаманіла: адгукнулася, звялася на тонкі голас.

— Моцная,— сказала Парфеніха,— не трупціць.

## VI

Муравейнікі ўзраслі і выгадаваліся на лагчыністым дне зямлі.

Невядома чаму дзяды-прадзеды выбралі, аблюбавалі гэты лагчыністы кавалак. Можа, што зацішней-

шае месца... Калі вятры дзьмуць — усё паўзверх Муравейнікаў. Можа, што рэчка пад бокам коціцца для пажарных здарэнняў. Мо што лес кожным днём з дрывамі просіцца. А мо і так: выбраў нехта першы, аблюбаваў лужкі шырокія, палі блізкія, ды пачаў будынкі ўзводзіць. За першым — другі пайшоў... Потым паншчынаю жылі людзі: блізка на «гвалт» хадзіць да Калечыцава дзела. А потым само «аслабажджэнне» прыйшло; тут людзям самастойную зямлю далі.

Муравейнікі з аднаго боку абведзены лесам, як чалавечае вока брывёю. З другога боку — узгорысты вал цягнецца праміком. Калі глядзець з гэтага валу — Муравейнікі як запрэжаныя ў дугу. Калі б рассмаргнуць узгорак — дуга лясная распырхнулася б.

Такою выгнутаю дугой, як і лес, працякае рэчка Муравейка. Яна ціснецца па лужку — водшыбам ад лесу — ледзьве не да яго канца. Яна падкладышам служыць лесу: каб не надламаўся ён, туга нацягнуты ўзгорыстым канатам.

Даходзячы да ляснога канца, вужакаю ўдараецца Муравейка ў яго гушчар і прападае, цяністая, халодная,— нідзе яе не зловіш. Толькі раўчук — адростак ідзе вузенькім дном ад гэтай рэчкі. Ён праходзіць упоперак Муравейнікаў і падзяляе іх на два канцы: на «той» канец і на «гэты» канец.

Шмат у чым раўчук правініўся перад Муравейнікамі: падзяліў іх на два канцы і правініўся.

Як воласць была раней, і як саветы цяпер пайшлі, усюды па кнігах, па запісах можна стрэць Муравейнікі.

Пэўна невядома, з чаго паходзіць празванне вёскі. Кажуць, што некалі за рэчкаю ў лесе вялося шмат мурашчыных гнёздаў, таму і дадзена такая назва гэтай мясціне.

Той канец Муравейнікаў, што на поўнач ад раўчука, што ў бярозах стаіць, мае яшчэ і хадзячае прозвішча Смактуны. Міхась Кляўкон вымысліў гэта прозвішча.

І вымысліў ён вось з чаго (не аднаму ж яму насіць хадзячае прозвішча).

...Калі прыйшла ад цара Аляксандра папера, на якой было друкаванымі літарамі напісана «Воля народу», калі гэтаю папераю зямлю дзялілі на выкуп, тады і зрабіліся два няроўныя канцы вёскі.

Бацькам тых людзей, што жывуць у Муравейніках на той бок раўчука, што хадзілі ўсё сваё жыццё на адработак да старога Калечыца, нарэзалі паўвалочныя надзелы. Бацькам тых людзей, што жывуць каля выгану, на поўдзень ад раўчука, што не хадзілі на адработак да Калечыца, а ўвесь час жылі на панскай андынарыі парабкамі,— надзялілі па дзве дзесяціны. Таму і страцілі права яны, як былыя тыя беззямельныя, на паўвалоку надзелу Калечыцавай зямлі.

І ўсё роўна лічылася гэта жыццём чалавека. У тых на паўвалоцы, а ў гэтых на двух дзесяцінах.

Некаторыя паўвалочнікі, як Міхасёў бацька, не маглі справіцца самі з сваёю, надзеленаю «воляю», зямлёю. Цяжка было жыць, хадзіць да старога Калечыца халодным ды галодным на адработак за сваё пражыццё, сілу сваю аддаваць за выкуп. І «воля» гэтая таксама не прынесла значнай палёгкі, а толькі другім спосабам аднімала Кляўкова здароўе. Як вясна, як восень,— стараста на парог — апошнюю капейку забіраў. Ды маргі Калечыцавы гадавалі горб: трэ было жаць пану Калечыцу за пашу, сенажаць касіць на трацяк (сенажаці сваёй не хапала).

Міхасёў бацька аддаў быў тады частку сваёй зямлі Танцулькаваму бацьку ў арэнду.

— Хай... пакуль хоць збольшага не выплаціцца пазямельны выкуп,— казаў Міхасёў бацька. А сам хадзіў у двор на падзёншчыну.

Стары Танцулька ўсё жыццё абціраўся агароднікам у Калечыца — меў капейку, каб батрака наняць. Арандаваў зямлю перш на шэсць год, потым зноў на шэсць год узяў.

Калі пачаў жыць Міхась без бацькоў, ішоў яму шаснаццаты год. Якраз сышоў і тэрмін Танцулькавай арэндзе на іх зямлю. Сам Міхась пачаў за зямлю брацца, але ўся яна была спустошаная: насення назад не варочала. Сын старога Танцулькі, Ахрэм, ад свайго бацькі цяпер гаспадаром над ёю. Ведаў ён, што сходзяць гады; не даў ёй ані кроплі гною, а ўсё з яе клапаціўся, каб высмактаць.

Сваімі маладымі гадамі не ведаў Міхась, як справіцца з голаю зямлёю. А яшчэ брат яго старэйшы, Клемус, жыў пры ім — не даваў у гаспадарку ладу.

Клемус усё хадзіў з вялікім ракітавым кашалём па людзях, збіраў у гэты кашэль розныя транты. Ён

усё збіраўся хату новую будаваць за гасцінцам у лесе ды збіраўся жаніцца ў той хаце.

Шмат набраўся клопату Міхась з сваім братам. Бывала, што не зарве — цягне Клемус з дому.

— Дзе ты, Клемус, тапор падзеў? — пытае Міхась.

А ён:

— У лесе схаваў. Нашто табе тапор? Карчы дзерці ці тупіць карчамі? Затупіш — хату мне не будзе чым рубіць.

— Дзе ты касу, Клемус, дзеў?

— Я яе пасек: нараблю сцізорыкаў. Буду прадаваць, будуць на хату грошы. Унь колькі мне нагаварылі ў Світалаўцы, каб я прынёс ім ножыкаў-сцізорыкаў.

Па вёсцы пачалі хадзіць чуткі, што Міхась праганяе Клемуса з хаты, есці яму не дае. Тады Танцулька Ахрэм узяўся за Міхася.

— Ён не вінен, што яму бог розуму не даў,— казаў Ахрэм.— Усім трэба жыць, усе хочуць жыць. Няма чаго брату над братам здзекавацца.

Раз зазваў Ахрэм да сябе Клемуса, другі раз зазваў... Есці даў яму, а потым сказаў:

— Крыўдзіць цябе брат?

— Ага.

— Есці не дае?

— Ага.

— З хаты праганяе?

— Ага.

— Мы яму пакажам, як здзекавацца над бедным чалавекам. Ты толькі, як будзе суд, як будуць у цябе пытацца, ці крыўдзіць брат, і кажы ім: «крыўдзіць», і кажы ім: «ага». Я цябе да сябе вазьму, зямлю — часць тваю — забярэм ад твайго брата. Ты захочаш, у мяне будзеш жыць, захочаш, пойдзеш сабе ножыкі прадаваць. Я цябе няволіць не буду, як твой брат гэта робіць.

Адсудзіў Танцулька Ахрэм на Клемуса частку зямлі. Узяў яго пад сваю апеку за зямлю.

— Хай бярэ гэты смактун,— казаў Міхась.— Бацька яго смактаў з нашай зямлі, а цяпер ён захацеў і насаўсім прыгарнуць яе да сваіх рук.

Каб ужо вельмі хацеў не даць зямлі Міхась, і не даў бы, можа: мала што ён дурнога брата падбухторыў. Але надакучыў яму Клемус, думаў, што пазба-

віцца ад яго шальмоўства. Аж не, пасля суда са скаргаю прыходзіў да Міхася ад Ахрэма. Рад быў Міхась, што хоць суседзі ўбачылі вагу чыстай праўды.

Ото ж з таго часу і прыліпла да Ахрэма слова Міхасёва — «Смактун».

## VII

Вацік з Харытонам дзіву даліся, калі пачулі, што Муравейнікі, той канец, прынеслі спіс паступаючых у калгас.

А было гэта перад нядзеляю, у суботу.

Вацік быў у сельсавецкай канцылярыі. Харытон запрасіў яго на іхняе пленарнае пасяджэнне.

Засядаць яшчэ не пачыналі: не ўсе прыйшлі члены сельсавета.

Харытон поркаўся ў цэлым стусе папак. Расхінаў, перабіраў паўшываныя прадпісанні — пісьмы. У парозе стаялі бродаўскі Васіль з малінаўскім Булгакам — пра нешта гаварылі ўпаўголас. Вацік унурыўся ў газету — кідаў вачыма то на адзін загаловак, то на другі. Каля канцылярскай сцяны стаяў карпілаўскі член сельсавета Юзік. Ён глядзеў на вялікую паперу, прыклееную да сцяны,— адтуль глядзеў чалавек. Пальцам паказваў чалавек на Юзіка, моцна крычаў вялікімі літарамі: «Ты падпісаўся на пазыку?!»

— Дзень добры,— сказаў Банадысь, увайшоўшы ў канцылярыю.

Ніхто не адказаў. Не таму, што не хацеў хто адказаць Банадысю, а так.

Харытону надакучыць за цэлы дзень адным звагам дзяньдобрыцца. Ды не ўслухоўваецца ён, хто там зайшоў у канцылярыю. За дзень столькі людзей пераварнецца... Таго бачыць, хто па справе падыдзе да стала.

А тыя, што ў канцылярыі былі, не адказалі — спадзяваліся адзін на другога.

Кроту ніякавата стала: усё роўна як сюды непатрэбным зайшоў ён. Тады, стоячы пасярэдзіне канцылярыі, зняў з галавы шапку. З-пад яе падкладкі дастаў лісток спісанай паперы і дробнымі скорымі крокамі падышоў да канцылярскага стала.

— Вот вам...— сказаў, кладучы лісток на стол перад Харытонам.

Лісток лёг на раскрытую журнальную кніжку. Харытону трэ было схінаць кніжку. Зняў спісаны лісток і, здымаючы, убачыў слова «заява». Палажыў на голы стол без жаднай увагі: «Мала якіх толькі не напрыносяць заяў, летні дзень вялікі». Узяў у рукі з «справы» тонкую паперку — пачаў чытаць.

Злосць апанавала Банадыся, чаму ён не яго паперку ўзяў у рукі, а сваю.

— Таварыш Харытон Мамчыц...— з месца скрануўся Банадысь. Са стала ўзяў сваю заяву ды ў самыя рукі Харытону.— Узгляньце ж.... Гэта ж калгаснае заяўленне. Што ж вы, як той казаў, супраць калгаса?

Вацік падняў ад газеты вочы. Член сельсавета, карпілаўскі Юзік, паварушыўся. Ад парога падышлі Васіль з Булгакам. А Банадысь гаварыў:

— Гэты наш спіс, можа, ён і не так напісаны. Яго састаўляў Ахрэм Танцулька. Ён не такі ўжо грамацей, каб саставіць складна. Вы тут, можа, самі перапішаце, каб было складней.

Вацік падышоў да стала, запытаў:

— Як жа вы гэта надумаліся? Чаму ж вы не захацелі на сходзе, а ўсе разбегліся са сходу?

— Мы, таварыш, і на сходзе хацелі,— казаў Банадысь.— Мы і не разбегліся. Гэта гэты канец разбегся паперадзе. Дык мы ўбачылі, што няма чаго нам адным сунуць носа... А Танцулькі тады не было дома. Цяпер от захацелі...

— Без гэтага канца?

— А што нам гэты канец? Мы, як той казаў, і адны зможам. І старшыню абралі: мяне. Кажуць,— я чалавек гаспадарлівы.

Банадысь глядзеў у вочы то Вaцiку, то Харытону і словы клаў:

— Мы, як той казаў, вырашылі, што гэты канец не вельмі нам і патрэбен, каб прыйшлося. У іх, можна сказаць, і зямлі вобмаль, і самі яны, як і наш Слямзак Міхась... Чаго ў іх шмат, як кажа наш Танцулька, дык гэта дзяцей шмат.

Банадысь на смех хацеў узяць гэтымі словамі канцылярыю. І сам паперадзе смех рассыпаў. Булгак малінаўскі падтрымаў Банадыся. Харытон на Вацiка кінуў зірк. А Банадысь зноў гаварыў:

— ...Калі хочуць, гэты канец, хай сабе самі асобна робяць калякцію. Мы да іх не хочам мяшацца. Мы

ўжо нарыхтаваліся нават, як той казаў. І хамуты адразу абагулім, і калёсы звязем пад Танцулькаву павець. Потым і коні можна будзе абагуліць. Жаць жыта будзем разам. Танцулька казаў — копамі падзелім пароўну на кожнага пажатае жыта. У яго ж і жыта болей, а не шкадуе, кажа: «Разам дык і разам. Я, кажа, першым абагулю». Думаеце, каб не Танцулька, мы, можа, і наўрад ці сабраліся б. А раз ён не шкадуе — у яго гаспадарка, як вот звесна Булгаку або і Васілю... Гэта вам, гражданін, нязвесна. Ён чалавек — любіцель на гэта, каб што-небудзь новае змайстраваць.

Вацік узяў з рук Харытона муравейнікаўскую заяву. Глядзеў на яе і вачыма чытаў: «...Якушка Бладзік... Супчык Атрахім... Танцулька Ахрэм... Банадысь Крот... Міхаліна Красінская.

— Хто гэта жанчына, Міхаліна? — спытаўся ў Харытона Вацік.

Банадысь за Харытона адказаў:

— Швачка. Яна ў нас от ужо каторы год займаецца швівам. Пашые то сёе то тое і заробіць. Яна і мужчынскае ўмее шыць — штаны, сарочкі... Яна вельмі, як той казаў, ахвоча да калгаса. Кажа: «І я пайду, і мяне ўпішыце. Шыць буду калгаснікам». Яна жыве ў Танцулькі на другой палавіне.

Харытон дадаў:

— Яе ў нас завуць кароткім словам — Міхля. Як мы спісы складалі на падатак... Унь жа, тады, як сустрэліся былі на вуліцы, дык я цябе знаёміў...

Вацік як бы з усмешкай:

— Тая гарадская, што ты казаў... Курносенькая...

— Хай сабе і курносенькая,— праказаў Харытон.

Калі пайшоў Банадысь з канцылярыі, Вацік да Харытона падышоў, над сталом успёрся ды ўпаўголас:

— Чаму яны без нас надумаліся? Тут, мне здаецца, нешта не так-то... Чаму толькі тая палавіна Муравейнікаў запісалася, а з гэтай — ніводнага чалавека?

Харытон пырснуў стрыманаю злосцю:

— Ну дык што, ты гэтым хочаш таму канцу памагчы?

— Не памагчы, а я пытаю...

— Па-мойму, пытаць няма чаго. Запісаліся — і добра. Радавацца трэба, а не пытаць. Не будзеш жа ты цягнуць усю тую палавіну на ланцугу.

Вацік назад падаў сваю думку.

— Я мала знаём з тутэйшымі людзьмі,— сказаў ён.— Ты жывеш тут і бачыш, як і хто чым дыша... з якога карэння расце.

Тады Харытон устаў з-за стала. Як уставаў, чарнільніцу падняў і зноў паставіў. І аднаго гэта, што не астыла яшчэ Харытонава болька пра курносую Міхлю. Хоць чым хацелася Харытону ўпікнуць Вацiка.

— Падзякуй, таварыш Такарскі,— стоячы за сталом, голасна сказаў Харытон,— падзякуй, што адзін канец вёскі ўліўся. Самі прыйшлі, без нашай агітацыі. Так што, па-мойму, капаць карэнні — зёлкі варыць для лекаў — не варта.

Вацiк не адказаў Харытону. Плячыма толькі пацiснуў.

Пасля таго сходу Танцулька з'ездзіў у Прыстань, да свайго брата ў Луцішчы. З Міхляю гаварыў цэлым вечарам. Чуткі збіраў да сябе ў кішэню.

Шкадаваў вельмі, што не быў на тым сходзе,— у горадзе быў. Даўно ведаў, што не пройдзе калгас міма іх вёскі. Шкадаваў, што не выступіў ён уперад перад усім тым сходам, ды смелым голасам не сказаў: «Пішыце мяне першага. Я люблю калгас, я павагу яму аддаю. Я ўсю аддаю гаспадарку і хачу жыць».

А ўчора ў Бладзікавай хаце, перад Банадысём, перад Бладзікам — бяду сваю справіў. Якраз і Флёрка Старавойт натрапіўся.

— Я запісуюся ў калгас,— сказаў Танцулька.— Хто хоча, далучайцеся да мяне. Жызні інакшай не відаць. Жызня наша падышла да кліна, і далей ісці ёй няма куды. Я цяпер нічога свайго не шкадую. Усё аддаю на абагуленне.

— На,— дастаў Танцулька з кішэні чырвонец,— на, Бладзік, прынясі на пачын для савецкай уласці...

Бладзік доўга не муляў: выйшаў з хаты.

А калі вечар нажмурыў калматыя бровы, глядзеў у адчыненае акно, Бладзікава хата пела:

Вой, пад гаем, гаем,
Гаем зяляненькім,
Там арала дзяўчыначка
Волікам чарненькім...
Вой яна арала —
Не ўмела араці,
Ды наняла музыкантаў,
На скрыпачцы граці.

Безабрусны Бладзікаў стол быў здратаваны мокрымі колцамі. У гэтай макраце хлебныя крошкі размяклі на цеста. Талеркі — адна пазірала парожнім засмуголеным тлустым тварам, другая — піла апошнюю кроплю агурочнага ўзмучанага расолу, трэцяя — белым сырам цешылася. З-пад расцярушаных сырных крошак можна было прачытаць на яе рубчастым беразе славянскія літары: «Хвала богу на небеси, а хозяину на земли».

Гэтым часам вочы старога Старавойта самі па сабе слязіліся ад выпітай гарачыні. Цела старога размякла, асунулася. Сядзеў Флёрка з рога стала, і яго думкі былі расцярушаны — узняты трушанкаю. Усё было абыякавым, адным цэлым.

Па белых сырных крошках вандравалі-спацыравалі чорныя кроплі мух. Яны былі найчарнейшымі сярод белага.

Флёрка ведаў, што іх трэба прагнаць,— махнуў над талеркаю рукою.

— Каб вас нараду не было...

Танцулька гаварыў:

— Я ўсіх вас люблю. Усе вы мне мілыя і дарагія. Усе вы мне любыя суседзі, мае ўцешныя суседзі... Жызня наша такая. Ці шмат нашай жызні? Гарнец жызні. Мы павінны яе берагчы як сваё вока. А ў калгас пойдзем. Я іду паперадзе, а вы за мною, мае залатыя суседзі. Я сваёю гаспадаркаю налажу, а калгас мы зробім. Далібог, зробім! Хай знаюць... Без іх ласкі зробім і ім пад самы нос тыцнем: «Во, глядзіце... ага, мы зрабілі, а не вы нам зрабілі». Мы, братове-суседзі, не маленькія і свой розум маем. Нам не патрэбны камандзіры. Сказала наша ўласць слова — калгас трэба, значыцца, трэба, і мы яго вунь як зробім!

...Мілы мой суседзе, пане Флёрка... Дай мне тваю морду, і я цябе моцна пацалую. Залаты мой суседзе. Век жылі — ум-пц-пц-м — разам.

Вочы Танцулькавы наліліся да берагоў, пазіралі азёрнаю глыбінёю. Кроў напорыстым прыбоем падыходзіла да сэрца. Рукі да болю ціснулі Флёркавы шчокі. Танцулькава кроў гаварыла ўсімі жыламі, усімі клеткамі яго цела: «Рабіць... Нешта рабіць... Хутчэй, хутчэй... Такое рабіць, каб аж чэрці засмяяліся на ўвесь свет. Абы каб не сцялежылася жыццё».

— Вып'ем, пане суседзе,— выпускаючы з сваіх рук

Флёрку, сказаў Танцулька.— За нашу новую жызню, за нашу ўласць савецкую і за калгасы.

— Будзе,— сказаў Флёрка.— Я піў ужо за калгас.

— Вып'ем...— сказаў Бладзік.— Я за савецкую ўласць кроў праліваў.

— І я кроў ліў,— сказаў Банадысь.

Бладзік ткнуў Банадысю злосную шпільку:

— За кусты праліваў, а не за ўласць.

Той састроіў жарт са злоснай шпількі:

— Хай сабе і за кусты. Хай сабе і я быў дзезярцёрам. А чые кусты зараз — што за Яловаю? Чые, пытаю? Савецкай уласці кусты. Ага. То што ж ты мяне кустамі палохаеш? Што ты мне загараджваеш імі дарогу? Ты, брат, нос уткні, ведаеш куды?.. А не ў кусты. Яны зараз бальшавіцкія, і я цябе не здрастую.

Танцулька сваім часам мову суседзям пераняў. Да Банадыся падышоў ды гаспадарку сваю выклаў на далонь.

— Мілыя суседзі... залатыя — ша! Ціха! Маю я, як вам звесна, стрыгуна з канём — аддаю на абагуленне. Маю я чатыры каровы з падцёлкам — аддаю на абагуленне. Маю я і святочную і гнаяўскую драбінкі — аддаю. Будынак — аддаю. Сад увесь — цвету колькі было, колькі яблыкаў, ігруш будзе, усяго будзе — наша ваша. Жыта пажнем — падзелім. У мяне жыта самалёўскага заводу: колас, як біч; каліва, як боб. Мілыя, залатыя... Выпілі, закусілі... Вот вам папера — і разлінеена, і напісана. Падпісуйцеся. Я вот перш-наперш... От я ўжо і пішу... наце вам.

Успёрся над сталом грузным целам. Дыхаў моцна ўсімі грудзьмі. Лоб маршчынамі пакарбаваў — пот сабраў у буйныя кроплі.

— От я і напісаў вам: Танцулька Ахрэм.

Калі спіс быў складзены, Міхля выйшла з другой палавіны хаты. Нічога не кажучы, узяла і распісалася.

Банадысь казаў:

— Замачыць трэба спіс. Хто дае на замочку?

— Я...— дастаў Танцулька пяцірублёўку.

Банадысь да Танцулькі:

— Хавай,— сказаў.— Твае грошы ўжо размоклі. Мы зложымся.

— Залатыя суседзі, я не хачу. Што вам маіх гро-

шай шкода? Хопіць. Абы здароўе. Я на сягоння фундую. Вы ж мае суседзі любыя...

Паглядзеў Ахрэм на пацёртую бумажку, ражкі раскамячыў, выпрастаў ды:

— Гэтыя дам і больш не дам.

Скамячыў бумажку — туга сціснуў у жмені. Перавярнуў на другі бок, яшчэ сціснуў у другі раз. З сваёй жмені ў Банадысёву жменю пералажыў. Пальцамі сваімі заціснуў Банадысёвы пальцы. Аж нарабіў зубамі сваімі скрыпу.

А Старавойт стары, над сталом успёршыся, перабоістым грукатам рассыпаў храплівы свой сон. Выходзіла, нібы хтось за сцяною, на двары, ссыпаў з драбінкі ў начоўкі прывезеную з поля бульбу.

VII

Дзень невінавата плёхаўся ў промнях сонца, як малое дзіця само сабе ў начоўках. Усімі рукамі лье дзіця ваду на сябе, на пелюсці начовак, на падлогу; усім ахапкам раскідаў дзень чэрвеньскае святло на полі, па ўзбунтаваным, красою асыпаным жыце, па верхавінах хвой карою трымцячага бору. Не шкадаваў дзень сонечна-млечнай, літрамі нязмеранай белі. Усё жывое піло яе наўзахапкі.

Міхля цешылася сённяшнім днём. Ішла з ракітавым кашалём за гасцінец па лісіцы, па свінаркі. Яны ўрадзіліся гэтым годам кішма. Вясна цеплатою парыла, косы свае доўгія гадавала, ад таго і на грыбы не забылася.

Міхля ішла мяжою, як па раскручаным дзесяціметровіку з рулеткі. Вельмі ж роўная мяжа ад маліноўскіх надзелаў. Усё роўна як трымае, здаецца, разгон саўгасаўскага поля: усім целам націснула — валам лягла мяжа.

Камень, з кожным ворывам зямлі, вырастаў на межнай грудзіне. Адны аруць поле — скідаюць камень з-пад рук, другія аруць — не даюць паляжаць вышчарбленаму дзеду-каменю. Так і перакідаецца ён з боку на бок сваёй жарсцвянаю старасцю.

Міхля абыходзіла старое каменне на мяжы і думкі неакрэсленыя несла пра Ваціка.

Харытон складаў у Муравейніках пасямейныя спісы, сустрэў быў Міхлю на вуліцы ды пазнаёміў з Ва-

цікам — кінулася ёй тады на памяць як бы знаёмае прозвішча. Чула недзе гэта Вацікава прозвішча, нават бачыла гэтага чалавека недзе.

Харытон трымаў пад пахаю сельсавецкую папку, не гледзячы, поркаў ігрушаваю сукаватаю палкаю чвырысты пясок, што дажджом выпаласкаўся, ды гаварыў:

— Вы гарадскія, і вось таварыш Такарскі прыехаў да нас з горада: будзем знаёмымі, як кажуць. У нас вельмі мала гарадской сілы.

Міхля віталася, трымала цэлы момант Вацікаву цёплую руку. І ёй хацелася сказаць яму: «Мы, здаецца, былі ўжо знаёмымі. Мы ўжо недзе здароўкаліся». Толькі не магла гэтага сказаць перад Харытонам, перад пабочным чалавекам. А калі развіталася, думка не выходзіла — карцела імгліста-асенняю золкасцю.

— Дзе я яго бачыла? — пыталася ў самой сябе.— Калі я яго бачыла? Шрам на шчацэ... Я ведаю гэты шрам. Ведаю гэтую бесклапотную ўхмылку... Валасы зачэсаны назад... Гаворка... дробны смех...— дзе я ўсё гэта бачыла?

Падбірала думку, паламаную на кавалкі, клеіла і не магла падабраць, склеіць у адну рэч, недзе ўжо раз бачаную. Ад гэтага толькі злосць прахаджвалася, спацыравала каля Міхлінага сэрца. Брала на свой успамінак пройдзеныя дні. Лістала дні перагістам, адкідала — шукала людзей з даўнейшага знаёмства і ўсё роўна не магла ўспароцца на ўспамінак пра Ваціка. Тады гаварыла да сябе цвярозаю парадаю:

— Пабачуся з ім другім разам, трэцім... гэта ж не гарыць. Пабачуся — і ён мо сам намякне або я намякну, а ён і выкажа.

І некалькі разоў бачыла ўжо Ваціка, ды толькі гаворка няўдачаю праходзіла: было ўсё неяк нязручна. А ўспомніць чалавека не магла ўсё роўна.

Не то яна ведае яго з часоў, калі ішоў ён супраць лютаўскіх дзён, не то яна бачыла яго сярод тых людзей, якія змагаліся супраць Кастрычніка. Але яна ўсё ж такі ведае:

— Гэты чалавек быў нашым. Свой чалавек.

А ўчора стрэлася Міхля з Вацікам у муравейнікаўскай калгаснай канцылярыі. Прынеслі пошту, і ён гаварыў з Харытонам пра вайну, гаварыў, што рыхтуюц-

ца за граніцай да яе, як да вялікага бала. Харытон трымаў газету ў руках і да Ваціка:

— Англія хоча вайны, Амерыка хоча вайны, але адвагі ні ў каго не хапае. Каб ім даў адвагу бог, дык бы даўно налажылі галовамі. Як кажуць — і хочацца, і колецца...

Вацік скончыў Харытонаву думку:

— І нават галоў нідзе іхніх, кажаш, не знайшлі б з свечкаю.

Міхля заўважыла: сказаў Вацік, і здалося ёй — кічырванню твар абліў. На яе, на Міхлю, вочы свае кінуў, смехам штучным пырснуў.

Калі Харытон з Вацікам гаворку пра вайну ўзняў, Міхля ўспомніла пра свайго мужа і мела на развагах:

«Чалавек — такая захутаная, захаваная рэч, — думала Міхля,— божа мой. Я жыву тута каторы год, і ніхто на мяне нічога дрэннага не скажа. Шые, кажуць, і не так дарага бярэ. Бо жыць жа трэба кожнаму чалавеку, і ёй таксама трэба жыць...»

Дома Міхля перабірала ўспаміны мінулых, закінутых у паклажу дзён. Не гаварыла Танцульку, а сама з сабой гаварыла:

— Ён бываў часта ў майго мужа. Яны заходзілі да мужа ўдвух з такім нізенькім, з падсмаленымі брывамі. Муж мой любіў іх, казаў ім: «Сядайце, панове; садзіцеся, пане Такарскі. Закурвайце. От партсігар — бярыце, закурвайце...»

Міхля ўсю ноч сон свой растрасала трушанкаю. Сэрца яе моцна білася ў радаснай пене. Перакідалася ў пасцелі з аднаго боку на другі — падушку камячыла гарачым сваім целам. А перад яе вачыма стаялі — Такарскі і той нізенькі, з падсмаленымі брывамі. Ён гаварыў яе мужу: «Вашы людзі надзейныя. За вашых людзей сораму не будзе».

Потым бачыла Міхля цэлыя роты пастроеных людзей. І ўсе яны з твару падобныя на Такарскага. Яна нават сярод іх не магла распазнаць, дзе стаіць ён, знаёмы яе мужа.

— Божа мой,— сказала Міхля,— колькі, колькі Такарскіх! Як іх шмат, гэтых адных Такарскіх. Яны змогуць заваяваць усю зямлю.

...Па лесе хадзіла і радасці не выпускала з сваіх рук; хацелася хутчэй убачыць яго, гаварыць з ім, сказаць яму: «Гэта ж я, а вы мяне і не пазналі».

Хвоі баравыя злёгку ветрам путраваліся. Як бы вецер лясны фарміраваў іх сваёй сталасцю. Чуць-чуць хісталіся хвоі — бабамі перашэптваліся між сабою. Змову трымалі на гаспадара свайго — ветра.

Недзе раматусам скрыпела ў сваіх суставах высокая хвоя. Недзе дзяцел адкідаў сваю малатабойную галоўку. Галлё бразгацела зубамі дзікага звера. Папараць варушылася ў зацятай маўклівасці. І ўсё гэта было апавіта глыбокаю таемнаю маўклівасцю чэрвеньскага дня.

Міхлі шанцавала на грыбы гэтым днём. Пасля дажджу ростам пайшлі грыбы па ўзгорыстым лясным падзоле. Глядзіць, ідучы, і бачыць прыўзняты мох. Карпане мох растрэсканы, а адтуль баравік або свінарка шапку сваю трымае з паклонам. Грыбоў назбірала повен ракітавы кашэль і зноў пайшла каля саўгасаўскага поля. Толькі другім бокам — паўз самы саўгас ішла назад. Кружней было, калі ісці паўз саўгас, а пайшла — радасная, зацятая руплівасць штурхала Міхлю.

І калі саўгасаўскі ўзгорак абыходзіла, Вацік ішоў ёй насустрач.

Дзень цяпер яшчэ больш плёхаўся, церабіўся маленькімі ветранымі кіпцюрамі. Саўгасаўскі ячмень, што пад гарою, гэтым ветраным кіпцюрам паклоны адбіваў.

— Адкуль вы ўзяліся? — запытала Міхля ў Ваціка.— Нідзе не было відаць і раптам — як выраслі тым грыбам з зямлі.

— З дому,— адказаў Вацік.— Коні малінаўскія шкоды нарабілі ў нашым ячмені. Хадзіў, аглядаў ячмень. Ячмень такім добрым урадзіўся, аж на табе — спляжылі, здратавалі палавіну кавалка.

— Панятых думаеце браць, ці што?

— Я і сам не ведаю. Прыйдзецца, бадай, узяць: шмат урону.

Міхля глядзела на яго загарэлы твар. Кідала скрадзены зірк на яго расхрыстаныя грудзі, на яго босыя, у сандалі адзетыя ногі, на апушчаную кортавую сарочку. А ён гаварыў:

— Ляксандра кажа, кожным годам, калі засяецца гэты кавалак, бывае шкода. Хоць ты і не засявай. І не то гэта людзі наўмысля, не то незнарок...

— А вам вельмі шкода гэтай шкоды? — раптоўна запыталася Міхля.

Вацік не зразумеў.

— Як гэта, кажаце, шкода? Вядома, што не баліць жа ячменю, не чалавек жа гэта, збіты капытамі. Шкода, што настолькі-та зроблена ўрону.

— У вас вельмі жаласлівае сэрца,— стукаючы ножыкам па дужцы кашаля, сказала Міхля.— Па-мойму, у вас не такое было сэрца. А сэрца, мне здаецца, якім узгадавалася, такім і астанецца на ўсё жыццё.

— Я вас не разумею,— сказаў Вацік.— Адкуль вы ведаеце маё сэрца?

Міхля вырашыла была: «Скажу яму адразу, і ён няхай не хавае ад мяне свайго твару». Але тым самым момантам другое вырашыла: «А што, калі чалавек гэты другім стаў чалавекам? Што, калі ён і насапраўды шкадуе пазбіванага малінаўскімі коньмі гэтага савецкага ячменю?»

— Я жартую,— сказала Міхля і рассмяялася.— Мужчынскае сэрца таксама цяжка ведаць, як і жаночае. Кожнае сэрца, калі вы вывучалі фізіялогію чалавека, ляжыць у сардэчнай сумцы. Сумку тую акружаюць пружыністыя мускулы. А мускулы тыя добра ахватвае грудная клетка, а клетку зноў мускулы... Ха-ха-ха!.. Бачыце, як цяжка дабрацца да вашага сэрца. Адкуль жа мне ведаць ваша сэрца?

Ідучы з поля, Вацік разважаў: «Вясёлая дзяўчына — бойкая і трапяткая. Дзяўчына нашага часу».

## IX

Вялікім завозам кішэў берчукоўскі млын. Даніла Шчупак учора надвячоркам прыехаў у млын з сваіх Малінавак. Сон свой цэлую ноч марнаваў. Прылёг быў на нейкіх мяшках — зламаўся толькі, а не выспаўся. Рана ўзняўся — хадзіў на млынарскі панадворак каня глядзець. Потым на млынарскі мост пайшоў: абы каб чаргу сваю хоць чым укараціць.

Успёрся Даніла сваім целам на мосце на парэнчы ды стаяў, поглядам мераў вадзяную сілу. А яна сеялася на турбінныя таркі, чапляла, пакідала ад сябе вадзяное смецце. Млын ад яе дрыжыкамі тросся. Усё роўна як азяб млын ад яркай раніцы.

Вада ў турбіне з узнятаю ахвотаю напорыста шугацела праз жалезныя таркі. Плыла яна з-пад моста вужачым плавам. Пеністая была, сярдзітая — ішла ад-

важнаю чорнаю хмараю. І мост, і парэнчы на мосце, і зямля каля млына — усё трэслася полькаю-варшавянкаю ад размашыстага млынавага кола.

Вада пасля дажджу прыбыла ў Муравейцы на дзве пядзі. Млынавае кола захлёбвалася ў ёй — паказвала ўверх свае рамы, як тапельнік паказвае свае рукі.

«Якая рэчка нячыстая,— плялося ў Данілавых думках.— Глядзіш на ваду — здаецца, пераліваецца крышталам, а ўпрэцца вада ў што, так і пакідае ад сябе то чараціну, то лісток, то яшчэ які-небудзь след. І вось жа нішто супраць вады не можа дыхаць. Яе запіраюць, збіраюць у скрыню, а астанавіць не могуць. Яна павінна ісці як дзень, як ноч. Яна сама сабе гаспадар, а не то што...

Вада кідалася на турбінныя таркі з вялікім ашалелым напорам. І здавалася Данілу, што яна ніколі і нікім непераможная. Стаяў і глядзеў на яе, як прыкаваны, і не заўважыў: ззаду падышоў да яго муравейнікаўскі Ахрэм Танцулька.

Аж сумеўся чагосьці Даніла: даўно-даўно сустракаўся з Ахрэмам. З часу, як у Муравейніках калгас, і не бачыў Ахрэма ні разу — ніяк не траплялася сустрэча.

— Ага, вось і ты...— сказаў збянтэжана Даніла, аглядаючы Ахрэма. І невядомая радасць, уцеха агарнула, апанавала Данілава пачуццё.

Дадаў:

— Я ж тута тупаю цэлую ноч, а цябе і не бачыў.

— А я цябе бачыў...

Ахрэм вясёласцю пырснуў, жарт над Данілам састроіў:

— Бачу, стаіш ты на мосце і як бы з моста збіраешся ў рэчку кідацца. Дай, думаю сабе, падыду: хай пажыве чалавек яшчэ крыху на белым свеце. Нядрэнны, думаю, чалавек... Ну, дык здароў!

— Здароў...

Ахрэм, як і Даніла, пазакладаў рукі ў рукавы свайго кажуха. Хамуціну зрабіў з сваіх рук, ды ўсперся хамуцінаю гэтаю на парэнчу.

— Табе смех...— паглядзеў Даніла на Ахрэма.— Ты нешта вясёласцю пачаў храбрыцца, як калякціўшчыкам зрабіўся. Добра, мусіць, вельмі ў тваім калякціве? Маладзейшым, здаецца, выглядаеш. На другі век ці не збіраешся ісці?

А Ахрэм:

— Чаму ж і не ісці, калі гэты другі век трапляецца.

Ахрэмаву натуру Даніла, як сваю, ведаў. Пачуў быў пра Ахрэмавы думкі, што калектыўнасцю былі аплецены, і дзіву даўся: «Што робіць чалавек, чаго набраў на свой розум? З панталыку збіўся, з глузду з'ехаў?»

Прыкрасць содаю выпітаю асела на Данілавай чуласці. Убачыць усё хацеў Ахрэма, ды ніяк не ручылася сустрэча. У Мурaвейнікі ісці не хацеў наўмысля.

«Няхай яны галовамі там панакладаюць».

Адарваныя ад млынавага грукату, стаялі пакінутыя ўдвух на мосце Ахрэм з Данілам. І ўсё рабілася ў млынавым тым грукаце-шуме без іх, нібы і не было іх на мосце.

Ахрэм смех свой стушыў, як у лямпе агонь.

Млын ярчэй, здаецца, млынавымі каменнямі галёкаў. Вада яшчэ большай злосцю ўскіпела, рынулася шумным бегам. А каля млынавых дзвярэй завознікі здымалі мяшкі з вазоў.

Ахрэм вярнуўся да таго, што Даніла пра яго храбрую вясёласць намёк зрабіў. Глядзеў на бягучую ваду з-пад моста і як бы сам да сябе:

— Кажаш, каб я вясёласцю не храбрыўся... А што ж, па-твойму, слязьмі храбрыцца? Слязьмі, брат, храбрасці не пакажаш, а другія слёзы набудзеш. Масква, як кажуць, слязам не паверыць.

— А мо, як на тое,— возьме ды паверыць.

— Калі так кажаш, дык не па той дарозе твае казалы ідуць.

— Па-твойму, трэба па калякціўнай дарозе? — І не даўшы адказаць Ахрэму: — А ці даўно ты, як яшчэ не быў у гэтым самым калякціве, гаварыў: «Жызні рашуся, а ў калякціў не запішуся». Памятаеш — у мяне за сталом?

— Гаварыў...— унурыстым голасам сказаў Ахрэм.— Бо не ведаў, чым пахне свет.

— А цяпер уведаў?

— Уведаў. І табе магу калі-небудзь расказаць.

— Ідзем у млын, а то зябка. Раніца вельмі ж яркая.

Па мосце праехала бродаўская падвода з калгаснымі мяшкамі. Мост затросся ад цяжкага грузу няроўнаю пакатасцю. А над галовамі ў суседзяў бусел сваімі

крыллямі правагаўся. Ідучы да млына, Ахрэм сказаў, як бы дагнаў сваю думку:

— Цяпер — не даўней: трэба ўмець жыць нашаму брату на свеце.

З таго часу, як калектыў зрабілі, жыццё Ахрэмава ў глыбіню яго нутравую пайшло. З кім стрэчу мае — смехам дарыць, вясёласць дастае свайго запасу.

— Мы свой калгас праславім,— кажа,— на ўсю ваколіцу. Мы пакажам, што мы, калгаснікі, з уласцю ідзем. Мы не то што гультаяваць будзем. Толькі няхай уласць дасць нам час: калі, скажам, у першы год і дрэнна будзе — у другім годзе добра будзе. На ўсё ў жыцці свая пара.

А калі глядзіць чалавек стрэчны на Ахрэма, пазнаць не можа: той гэта Ахрэм ці не той. Бо ўсякі ведае Ахрэма: насупісты быў чалавек. Усё роўна як на некага насіў штодзённую крыўду. Слова, бывала, дасць — лёду летам лягчэй дастаць. Крыўды не зрабіў чалавек, а пры сустрэчы хацелася думаць: «Што я яму за ўрон нанёс?»

А глыбіню сваю, як золата ў падзямелле, хаваў Ахрэм. І было ў той глыбіні: «...У калгас не ісці — рукі злажыць ды пагоды па восені чакаць. Так вось і сядзець курыцаю на седале. Не, мае мілыя людцы, мае дарагія, не будзе так...»

Жонка Ахрэмава з сынам Арцёмам кожным днём упічышчы падносіла, як тую смажаніну на талерцы:

— Людзі сваю кароўку маюць, рубля маюць на патрэбу, а ты пражывеш, што нажыў, дык тады душою загавееш. Калгас не дасць табе, а з цябе ўвесь сок высмакча.

А ён:

— Падатковыя лісты прыйшлі, Настачка. Не гарачыся, Настулька. Пярэкульскаму Камару за поўны надзел — сто сорак. Маліноўскаму Булгаку за поўны надзел — дзвесце дзевяноста з чым-та. А нам за поўны надзел ды яшчэ з гэтым дурным гакам — колькі б было, Настулька? Ну, як ты свае думкі строіш? Дзве, для роўнага ліку, было б ці не было б? Эх ты — бабская твая галава!

Гаварыў сваёй Насці — думкі нятрапныя, бабскія гамаваў:

— Дык добра ж, каб я заплаціў і каб хоць павагу меў за сваю плату. Вось. А то і заплаціш, і вока на цябе

ніхто не будзе мецъ. Усякі тыцне табе: «Падатак вялікі». Ды яшчэ ні з таго ні з сяго прозвішча кулакова начэпіць. Ты, Насцюша мая, шыта лыкам, калі цяперашнім светам навідавок сябе выстаўляеш. Гэта табе не даўніна, каб па Муравейніках выстаўляцца каровамі ды жарабцом сівагрывым; памятаеш Антапа з чырвонаю жычкаю, якому ўся ваколіца зайздросціла. А калгасы нас не праміну́ць. Гэта ж табе не Слямзак Міхась сказаў, а ўласць, перад якой ты жывеш. Супроціў вады цяжка дыхаць. Слямзак не ідзе — яму даруюць, а на табе злосць спаганяць.

Арцём гаварыў бацьку:

— Чуткі ходзяць, што ўласці гэтай будуць канцы. Вайна прыйдзе. І вам, татка, не трэба б пароць гарачку.

А Ахрэм:

— З гэтымі чуткамі, сынку, язык свой замкні жалезным путам. Не будзь такім спраўным у сваёй маладосці. Я ведаю, што раблю. Я сам сабе не вораг.

І, як той Даніла, рад быў свайму жыццю Ахрэм і не рад. Не радасць Ахрэмава ў прыезджым чалавеку, Вашіку Такарскім, звілася часойчатым клубком. І так туга звілася, заціснулася, што не разаўеш гэтага клубка, канца не знойдзеш. Хоць ты бяры ды цалкам кідай яго ў бяздонне.

Каля млынарскіх дзвярэй ні з таго ні з сяго сказаў Ахрэм Данілу:

— ...Трэба, каб галава чалавечая нашымі днямі варыла патаку, а каб з патакі чысты выйшаў пчаліны мёд. Тады і цябе будуць мець за чалавека.

...Млынавае кола не пераставала падымаць сваіх цыбастых, даўжынёю раскінутых, рамістых рук. Захлёбвалася пеністаю вадою. Каменне млынавае стукацела... галодным зверам хапала сваю здабычу — зерне. Нібыта баялася каменне, што адбяруць ад яго гэту здабычу ды другому некаму аддадуць. Маўчаў зацятай заклапочанасцю цяпер млынавы мост. Падстаўляў праезджым-прахожым свае пацёртыя, абітыя калёсамі ды конскімі капытамі грудзі і маўчаў. Застаўкі толькі сквапна пазіралі з-за маставін сутулістымі плячыма. Як бы вартавалі на мосце нечую, некім падкладзеную цішыню.

Даніла Шчупак жыта насыпаў у шаснастку. Чакаць сабраўся, калі Смусь-мельнік пераражэа сваім ба-

сістым, мяккім, як аржаная мука, голасам млынавы шум. «Засыпай! — скажа.— Адгортвай!»

Сядзеў Даніла на развязаным мяшку, што жыта з яго надсыпаў у шаснастку. Перад самім ім стаяла шаснастка — трымала сабою мільён жытніх каліў. А збоку, двума крокамі ад Данілы, на падаконнік локаць паставіўшы ды бараду непаголеную прыціснуўшы далоняю, стаяў муравейнікаўскі Лаўрэн Жур.

— Прысядзь! — крыкнуў Даніла Журу сквозь млынавы стук.— Ніхто за пастой не заплаціць,— паказаў каля сябе на мяшок.

Лаўрэн каля акна паварушыўся: і ўпраўду ж, ніхто не заплаціць. Сесці хацеў, але Смусь ішоў ад крупярні — праходную дарогу даў Смусю ды тады сеў.

Смусь, мукою абсыпаны, бегаў ад адной скрыні да другой. Руку падстаўляў пад жолаб, мучную спрабаваў мякаць. А яна кідалася з жолаба цёплая, полем пахнучая. Цёр яе ў сваіх пальцах і ўсё глядзеў, каб не пракідалася яна крупяністым аджымам.

Даніла, Смусёвы плечы праводзячы доўгім зіркам, сказаў да Лаўрэна:

— Ніколі не быў бы мельнікам... Ні за якія грошы.

— Чаму? — запытаўся Лаўрэн.

— Кожным разам сваё жыццё станаві каля смерці.

А Лаўрэн:

— Навошта яго станавіць. Яно ў нас і само з ёю ходзіць.

— Ходзіць, канечне, ходзіць... але ходзіць, патом сабе, на волі. А тут мала што: пападзеш пад пас, на вал насунешся, а то, чаго добрага, і ў само кола, як той Нічыпараў Максім, трапіш. Яно і ламане цябе ўсёю ляпаю...

Лаўрэн сказаў:

— Не патрэбна блізка лезці да кола. У яго рукі кароткія: не падлезеш, яно вельмі табою і не будзе нуждацца. А пра Максіма...— Хацеў казаць Лаўрэн, ды кашаль апанаваў старога. Сухім доўгім кашлем трос старыя свае плечы. А калі адкашляўся — сляды ад кашлю слязлівыя асталіся ў Лаўрэна на вачах.— Каб яго ўзяла немач, от жа дзярэ. Днём дык гэта ж не так, а як прыйдзе ноч — не ведаеш, дзе дзецца.

— Кохлік, бадай,— уставіў Даніла і дадаў: — Ты б бабок парыў ды піў. Ад кохліка бабок вельмі памагае.

— Чорт яго ведае, што гэта за ліха. Па-мойму, гэта і не кохлік, і не шмохлік, а ці не ўдружыла яго толькі мая старасць. Дык пра Максіма...

Данілу не хацелася чамусьці слухаць пра таго Максіма. Не рад быў, што даўнейшую ўзварушыў гаворку.

— Ты ж яшчэ не так-та і стары,— хацеў надалей пра кашаль трымаць слова.

Лаўрэн як і не чуў.

— Чуткі пра Максіма на ўзві-вецер, чалавеча, хадзіць не будуць. Не млын вінаваты ў Максіме, а людзі з'елі чалавека жыўцом... Такога-та хлапца: і рослага, і здаровага. Я, каб Нічыпарам быў, узварушыў бы чуткі наверх.

— Не ўзварушыў бы,— сказаў Даніла і твар свой спелаю парэчкаю навастрыў.— Што было, тое прайшло. Максім ужо даўно спапялеў, струхлеў, і ты не збярэш яго костачак.

— Хай сабе струхлеў, а я сабраў бы... Косці злажыў бы ды на нечае жывое прамяняў бы тулава.

Даніла ўстаў з мяшка і міма сваёй волі:

— Ці не хочаш ты, Лаўрэн, быць у нежывых людзей за адваката? Хто гэта можа даказаць? Сам ён улез у пастку — вышукаў сабе безгалоўе.

Лаўрэн за Данілам устаў з свайго мяшка. Стаяў каля Данілы ды маленькімі вачыма, як дзвюма шпількамі, калоў у самыя Данілавы вочы.

«Што ты мяне, ліха тваёй матары, на старасці робіш адвакатам»,— было ў Лаўрэнавых думках.

— Даніла...— адсапнуцца даў свайму голасу Лаўрэн.— Я хоць і стары на вочы, а акуляр тваіх, каб ты мне ўстанаўляў, не прашу. Не я адвакацтва строю, а ты... за яго тую, паганую скуру.

— За чыю скуру, Лаўрэн?

— За Ахрэмаву.

Даніла сказаў:

— Ты хоць даўно і ў споведзі, Лаўрэн, быў, а пацеры гародзіш.

— Не пацеры гараджу, а кажу праўду. Падлізуешся ты да Ахрэма. Гешэфты ў цябе з Ахрэмам...

— ...Нічога я такоўскага і ні гішэфчу. Тое, можа, што надысь стаялі ўдвух на мосце — ты бачыў? Дык я, Лаўрэн, і з табою мог стаяць. Трэ было — ха-ха-ха — падысці, і мы б пастаялі, пагаманілі. Ды хіба ж, па-твойму, Ахрэм не чалавек?

— Не ў мосце, чалавеча, толькі бываюць дзіркі,— сказаў Лаўрэн.— Мост тут ні пры чым.

— А ў чым жа, Лаўрэн, дзіркі?

Не знайшоў, што Данілу адказаць. Яшчэ большая прыкрасць старога агарнула.

З таго часу, як калектыў зрабілі ў Муравейніках, нуда напала на Лаўрэна. Сонным хадзіў і не знаходзіў, на кім нуду сваю спагнаць. У хлеў у свой зойдзе, Падласку ні з сяго ні з таго асцёбне, каня напутруе. Перад дачкою Просяю нагамі натупае — за нішто сварку ўздыме.

Старая Лаўрэніха казала:

— Ты як вар'ят нейкі. Што табе сталася?

А Лаўрэн, ходзячы, бурчэў і ўсё на таго Ахрэма:

— Цэлую жызню як за горадам жыў... Паглядзі ты — і цяпер горадам загарадзіў свае плечы.

Лаўрэніха дапякала свайго старога бабскім упічышчам:

— Хто табе не дае ісці ў той калгас? Ідзі, і будзеш горад мець. Ахрэм не такім розумам, як ты, жыве. На сваім месцы ў Ахрэма галава зараблена.

— А я, можа, не хачу,— казаў Лаўрэн,— разам з гэтым гадам.

— Што ён табе зрабіў, што ты яго гадам абзываеш?

— Нічога, старая, не зрабіў, а жызня яго не такая была, як мая. Вось за што сэрца крыўда смокча. Таму і кажу.

...Лаўрэн ішоў па млынарскіх усходках на дол, а Даніла глядзеў на яго, думкі кашалём плёў: «...Галовы адзін другому пасцінаеце, ліханька. Усім вам, ад'ютантам, тое будзе, што і Максіму. Далі гэтым галетнікам патолю, дык яны, як на драждждах, пайшлі ў рызыку. Збіраецца ўздымаць з таго свету нябожчыцкія косці, а пра свае забываецца. Сваіх бы касцей глядзеў, як той Ахрэм кажа...»

Смусь Данілавы думкі перапыніў:

— Адгортвай! — крыкнуў.— Засыпай!

Падняў шаснастку Даніла перад сабой ды дагары дном паставіў над кашом. Кулаком пастукаў у дно, каб зерне не асталося за ўторамі. Жыта паплыло з каша ў латочак вадзяным плавам. Камень чакаў яго — падхопліваў прагнаю пасткаю. Яшчэ мацней сваім голасам загалёкаў.

## X

З вышак дастала Міхля белую плецёную карзіну. У хату яе прынесла, перад сабою паставіла на зэдлік. Замочак маленькі чорненькі адамкнула тоненькім ключыкам. Узняла ўверх скрыпячае карзініна вечка — дастала з яе дна цэлы пачак пісем.

Пад вечар прыйшла Міхлі на ўспамінак белая карзіна з пісьмамі. Радасць падскочыла да Міхлі. Думку ўзгадавала тая радасць: «Знайду Такарскага прозвішча сярод пісем, лягчэй будзе гаворку распачаць. Лягчэй будзе мінулае ўспомніць».

Пасля сустрэчы з Вацікам каля саўгасаўскага ячменю жыццё Міхліна перавярнулася дагары дном. От так, як нехта ўзяў за колы каляскі, штокацілася з яе жыццём, ды паставіў коламі ўверх. Не то жарт састроіў, не то і сапраўды спыніў легкавую язду яе таго жыцця.

Міхля ўсё надзею-краску гадавала для свайго часу, што прамінуў яе. Чакала, што час той паходзіць па белым свеце сынам блудным ды зноў назад вернецца. Штабнавала, бывала, на сваёй машынцы, спотайка ад сябе кідала зіркам праз акно: ці не ідзе той час, ці не грукаціць нагамі па памосце чалавечага жыцця? А яго ўсё не было відаць. Усё роўна як з дарогі збіўся, у замеценым полі блудзіць цэлымі гадамі, праклёны пасылае на дарогу-зводніцу. А з Такарскім стрэлася, адразу на прагляд паставіла сваю надзею. Рада была, што не сказала Такарскаму каля ячменю, хто ён. «Пра яго сказала б — пра сябе сказала б...»

Даведацца хацела спачатку, які цяпер ён чалавек. Усе гэтыя дні накладала думку на думку, як лісток на лісток.

«Гады з чалавека могуць што хочаш зрабіць. Год, як той Лаўрэн кажа,— чалавечы штукар. І так і гэтак чалавека возьме на муштрыкі. Дугу нават можа сагнуць з чалавека...»

За акном хаты вечар трос густымі чорнымі валасамі. У шыбы кідаўся вечар, лізаў языкамі гладкае аконнае шкло.

З хаты нічога не відаць за акном. Вечар вельмі ж густы, як адна сабраная гушча. А з-за акна, пад агонь свечкі, што тлее на стале, можна разглядзець усю Міхліну хату. Тады фіранкі на вокнах рассунула па

шпагатным шнурку: хай не падглядае стыднік-вечар на адну дзяўчыну ў хаце.

Раскідала Міхля на стале цэлы стус пісем, і не верылася ёй, што яны не цяпер пісаны. Глядзела на канвертырознай масці — чытала штэмпелі. Ды:

— А вось і без цвёрдага знака штэмпель...

На адзін момант стала шкода, што няма тут гэтага маленькага вузлаватага цвёрдага знака. Як тапаром нехта яго адсек з вялікай злосці — пакінуў незагоеную крывавую рану...

Дык вось пра што напісана было ў тых пісьмах.

«Паважаная Міхаліна Дамінікаўна!

Тое, што дакляраваў я вам учора — як вам вядома,— не мог выканаць. Я прыклаў усе мае магчымасці — дарэмна. Дысцыпліна вайсковая — гэта не фунт мармеладу. Вы жывіцё па-за ўсякімі дысцыплінамі, і я вельмі вам зайздрошчу. Тым больш: вы не можаце сабе ўявіць дысцыпліну вайсковага часу. Учора, скажу для прыкладу, салдат з маёй роты, стоячы на пасту, каля палкавога знамя, узяў ды заснуў. Развадзяшчы (чалавек, што разводзіць змену паставых) прыходзіць са зменаю, а ён, небарака, прыціснуўся да сцяны і спіць. Развадзяшчы знамя палкавое забраў — аднёс убок, а тады давай будзіць гэтага салдацішку. І што б вы думалі, Міхаліна Дамінікаўна,— гэтага санлівага чалавека, бадай што, палявы суд ці не паложыць спаць на ўвесь век! Дысцыпліна... І яна вельмі патрэбная для нашых салдат. І мы, афіцэры, павінны яе падтрымліваць. Як вядома, наш час вельмі асцярожны. Вораг з усіх закануркаў пралазіць галодным клопам. Так і глядзі, каб гэты клоп не ўкусіў цябе там, дзе ты яго не чакаеш.

А я вельмі і вельмі хацеў бы вас пабачыць. Тады, на вечары ў Кірыльскага, усё было такім няўдалым. Прыйшоўшы дадому, я і праклінаў той вечар: вельмі ж каяўся, што пайшоў. Хочацца пагаварыць з вамі: як яны ўсе зразумелі ўчынак вашага мужа? Мне здаецца, што яны прынялі яго ні больш ні менш як за п'янага чалавека. А ён жа, як вам вядома, п'яным не быў. Ён недарэмна разбіў са звонам акно Кірыльскіх.

Бачыў сёння вашага мужа, і ён вельмі ж не ў настроі. Пытаў яго пра ваша здароўе, і ён мне безуважна кінуў: «Папраўляецца». Я не думаю, што ў яго сапсуты настрой ад таго няўдачнага вечара. Думаю, што

весткі пра гэтыя штодзённыя бai больш калечаць людзей, чымся на фронце самыя кулі ды снарады...

Бывайце... Пры першай маёй магчымасці зайду.

Ваш *А.*».

«Мілая мая дачушка!

З тваёю мамаю штодзень горш. Раматус яе змучыў, а яна змучыла мяне. Яна не спіць па цэлых начах. А тут яшчэ гэтыя гудкі: яны нервуюць усе яе косці. Уночы і не бывае часамі гудкоў, а яна ўсхватваецца і крычыць, што яе разбудзіў гудок. Калі гудуць раніцою на гэтым заводзе гудкі, яна проста затыкае свае вушы. Як нехта напільнікам, кажа, пілуе па тупой пілцы: такая прыкрасць.

Я думаў перамяніць кватэру для яе ў цэнтры горада, але ў маім распараджэнні няма ні адной хвіліны часу. Горад наш увесь устрывожаны. Мы ўсе заклапочаны. Кожны дзень праклятыя рабочы натоўп не дае спакою. Цэлымі табунамі ходзяць па гораду з песнямі. З сабою носяць на палках кавалкі чырвоных ануч. На абойнай фабрыцы Кантаровіча каменем кідалі ў кабінет Кантаровіча. Выбілі ў вокнах усе шыбы, а сам Кантаровіч уцёк на аўтамабілі. У Гаеўскага, на яго шкляной гуце, пабілі ўсю выробленую пасуду. Проста і адкрыта ідуць (божа мой!) супраць нашага цара, супраць вайны. А на сваіх гаспадарах спаганяюць сваю злосць. Якія недапечаныя, грубыя людзі. Я і наша гарадская паліцыя не маем ні адной хвіліны спакою. Я не распранаюся ўжо каторыя суткі. А тут гэта праклятая хвароба тваёй мамы... Што мне, дачушка, з ёю рабіць? Наўрад ці ўдасца мне пераехаць у такую буру на другую кватэру. Мо ты возьмеш яе да сябе? А мо я адпраўлю яе ў М., да нашага Ільі? Я думаю, яна там адпачне на свежым вясковым паветры. Тамака ж у іх лес, рэчка. А самае важнае — яна не будзе чуць больш гэтых прарэзлівых працоўных гудкоў. Напішы мне. Буду чакаць.

Твой бацька *Дамінік*».

«Віктар!

Мне ўчора давялося быць на паляванні. Гэта было пацешнае паляванне. Мы злавілі жывога звера. Ты не ведаеш, што за штукарскі звер. Я думаю, ты чуў пра Мальгрэта? Гэта цікавы звер. Сапраўдны жывы бальшавік. Мне, гледзячы на яго, хацелася зрабіцца бальшавіком. Ты ведаеш, што ён сказаў на допыце самому

нашаму «прынцу»? Вы, кажа, хочаце перад вашаю вячэраю, я ведаю, выпіць шклянку цёплай маёй крыві. Даводжу, кажа, да ведама, што бальшавіцкая кроў вельмі гарачая. Глядзіце, кажа, васпан, каб вы не захлябнуліся. Мне вас, кажа, будзе шкода.

Ты можаш сабе ўявіць у тую хвіліну нашага «прынца»? Гледзячы на гэты малюнак, мы з Юлекам ледзь стрымаліся, каб не пырснуць узрывістым смехам. А Мальгрэт зноў: На мяне, кажа, надзенеце пятлю вы адзін, а на вас будзе надзяваць сто чалавек. Вам, кажа, вядома, большы гонар і павага, чым мне.

Я першы раз бачыў такога вясёлага чалавека. Я павінен сказаць, Віця, без жартаў, што ўсё ж такі гэта нейкі асобны сорт людзей. Проста, гэтыя бальшавікі не ёсцека звычайныя людзі, якія маюць, адным словам, тое, што завецца жыццём чалавечай душы. Па-мойму, людзі гэтыя — электрычныя механізмы. Іх нутро апустошана ад усёй чалавечай нутраной макраты. У іх нутры голыя правады-нервы. Па гэтых драцяных нервах і бяжыць пэўны лік атамных электронаў. У залежнасці ад патрэбнасцей для гэтых людзей, яны прыбаўляюць або ўбаўляюць сваю электрычную энергію. Тады вось і пачынаецца іхняе то слабейшае, то мацнейшае дзеянне. На такіх людзей, каб я быў вялікім вучоным, я б напэўна вышукаў нават формулу — чалавек-формула.

Ты, Віценька, я ведаю, будзеш нада мною смяяцца. Але прабачай: дай ты мне пра іх сваё разуменне. Яны, напрыклад, могуць быць не еўшы і не піўшы пяць — дзесяць дзён... Не адчуваюць ніякага болю, калі іх біць гумаю, пароць іголкаю пад пазногці.

Я памятаю аднаго такога на допыце ў пана Вінчэсцера. Пан Вінчэсцер ушчаміў адзін яго палец у дзверы. З-пад пазногця выскачыла некалькі кропелек крыві, і ён... што б, ты думаў, ён? — як у яго не было языка. Толькі яго вочы абмакрэлі, а на твары выступіў буйнымі кроплямі пот. Пан Вінчэсцер не мог тады стрываць ад злосці. Ты толькі сабе ўяві: кроў выскачыла праз скуру — сама разарвала скуру, а чалавек маўчыць! Дык хіба ж гэта чалавек з душою? Хіба ў такіх людзей ёсць душа і сумленне? Як ты, Віцюнік, мысліш?

Прабачай, што тваю ўвагу заняў я сваімі «сацыяламі». Для мяне гэта цікава. Я люблю што-небудзь

новае, сважае, і важна, каб яно было само па сабе штукатворнае. А яны, трэба сказаць, вялікія штукары.

Быў у тваёй «бабулькі», і яна скардзіцца на цябе, што ты ёй не пішаш. Напісаў бы ты пару слоў. Для цябе гэта адна хвіліна, а для яе цэлае жыццё.

Назаўтра я запрошан да Бранявіцкага на вечар. Яшчэ вынайшліся адны імяніны. Люблю я, Віця, імянінныя вечарыны. Хай бы, здаецца, наш горад спраўляў іх штодзень. Толькі каб не ў адзін вечар.

Я ведаю — ты не такі чалавек, будзеш мяне ўпікаць. Але ўяві сабе наша жыццё: нават грэшна, каб не любіць імянін. Мы, здаецца, наогул хутка выходзім з нашай «рэзервнай» засады.

Напішы мне пра тваё жыццё-быццё. Хацелася б мне вельмі з табою пабачыцца. Як твае вусікі — ці падраслі, ці падгадаваліся? Цікава, як яны ідуць табе да твару? Мо ці не прышлеш мне тваю апошнюю фатаграфічную фіксацыю? Хочацца паглядзець твайго густу. Вышлі, Віценька!

Ну дык і ўсё: дазволь ціснуць тваю лапу...

*Вальдэмарчык*».

«Дарагая мая жана!

Нашы вайсковыя абавязкі не дазваляюць мне сказаць, куды я еду. Ты не лякайся. Я табе напішу з майго месца, дзе я астанаўлюся. Безумоўна, я еду бліжэй да фронту. Пакуль што нічога не кажы нашым бацькам: не трэба ўстрывожваць іх старасць. А справы наогул нецікавыя. Больш клопату з нашай салдатнёю, чымся з самім нашым ворагам.

*В.*».

«Міхлечка!

Табе тата пэўне пісаў, што я выехала ў М.? А калі не пісаў, дык я табе пішу, што я ўжо ў нашага Ільі.

Мяне вельмі ветліва сустрэлі. Я заняла Віктараў пакойчык. Віктар не піша ўжо трэці месяц. Яны выехалі на аўстрыйскі фронт. Клаўдзя вельмі хвалюецца — хаця б з ім што не здарылася. Кажуць, што там ішлі вялікія баі. І нават наша славутая армія прымушана была адысці на некалькі вёрст узад. Божа мой... Я малю бога з кожным днём, хаця б не паслалі на фронт нашага Вальдэмарчыка. Ён жа такі малакроўны...

Міхлечка мая дарагая! Ты не ведаеш, як я ашчаслівлена, што ўрэшце не чую гэтых гадкіх гудкоў. Яны,

я думала, дастануць з мяне ўсе жылы. Яны надарвалі за апошні час маё нутро. Я цэлымі начамі не магла заснуць. А цяпер я спакойна. Мне толькі шкода нашага татку. Ты не ведаеш, якім зрабіўся цяпер Пецярбург. Я рэдка бывала на вуліцах, але часта глядзела праз акно. Мне здаецца, што ўсе людзі буйнапамешаныя. Асабліва гэтыя фабрычныя. Яны ходзяць па вуліцах як дзень, так і ноч.

Перад маім ад'ездам — Дамінік казаў — чуць не забілі двух паліцэйскіх. Аднаму з трэцяй часці — зусім маладому — каменем прабілі галаву, а другому — з пятнаццатай часці — маўзерам прастрэлілі нагу. У іх нават, у гэтых арыштантаў, ёсцека і маўзеры. Які жах! Калі я ўспамінаю цяпер, я не магу, я вельмі баюся за нашага Дамініка. Ён жа такі, што не глядзіць, а палезе ў самую гушчу. І яны яго нават могуць таксама параніць. Я казала, што мала паслана іх на фронт. Не бачылі яны ніякага гора і тут, на волі, уздымаюць свае бунты. Я не ведаю, чаго ім трэба? Чаму яны не ўзглянуць, што нашай імператарскай вялікасці грозяцца ворагі-немцы? Найсвентшая матка...

Міхлечка! А раматус у мяне праходзіць. Я лячу яго мурашчыным сокам. Тут такі прыгожы хваёвы лес. У лесе так шмат муравейнікаў. Я хаджу з маленькім Стасікам у гэты лес лавіць мурашак. Ты не ведаеш, як дабываецца сок з гэтых казявак. Гэта вельмі цікава.

Мы бярэм са Стасікам парожнія бутэлькі. Рыльцы бутэлек намазваем цукрам. Тады бутэлькі гэтыя ставім у мурашчыны гнёзды. Мурашкі ідуць на соладзь і за тую соладзь кідаюцца аж на дно ў сваю пастку. Па шкле яны назад вылезці не могуць. За суткі накідаецца іх поўная бутэлька. Тады мы ідзем са Стасікам і бярэм поўныя бутэлькі з гнёздаў. Але даставаць сок з іх, жывых, нельга. Яны варушацца і не аддадуць усяго соку. Мы ставім бутэлькі ў гарачую печ, і яны ў духу задыхаюцца (гэта вельмі цікава!). Мы бярэм і вытрасаем іх, нежывых, на чыстую кужэльную анучу. Я не маю сілы выкручваць сок, і мне памагае Стасік. Ён з усяе сілы круціць у анучы нежывыя мурашкі. З бутэлькі нежывых мурашак выцякае цэлая чарка соку. От гэтым самым сокам я і змазваю свае суставы. І яны мне перастаюць балець. А мурашчыны трупікі мы выкідаем за плот. Яны больш ні-

навошта не патрэбны. Іх дзяўбуць толькі нашы кураняты. Гэта мне нараіў наш Ілья. Ён таксама вылечыўся мурашчыным сокам.

Як атрымаеш, так і пішы. Мне вельмі сумна, калі я доўга не атрымліваю лістоў. Я ж тут, дачушка, адна ад усіх вас. Я кожны дзень малюся за ўсіх вас. Божа мой, хаця б не здарылася б чаго з нашым Дамінікам...

Твая мама *Б.*».

...Гарыць на нарах свечка. Бліндаж узрыгвае разпораз ад гарматнага гулу, як азябшы чалавек ад золкай восені.

Дождж ідзе каторы ўжо дзень, а наверсе ўсё гэтых аваднёў гул. Забываешся на дождж і думаеш, што наверсе не восень, а пякучы дзень лета. Думаецца проста, што ад вялікай гарачыні лётае з сваім гулам летняя заедзь. Часамі здаецца, што гэта лятучая гулкая заедзь ураз пракусіць наш бліндаж. Тады на адзін момант шэрхне маё цела. Я, каб не чуць сваіх думак, бяру ў рукі балалайку і напяваю:

Е-э-х-халі салда-а-ты
Са-а слу-у-жбы да-а-моў;
На плячах па-а-го-ны,
На гру-у-дзях храсты...

Пад гэты гул я на адной песні затрымацца не магу. Мне хочацца пець усё, што я ведаю, каб перабіць надакучлівае мармытанне клапатлівых гармат. Мне чамусьці ўспамінаецца адна вясельная песня. Калі мы былі ў тыле, я чуў яе, і яна ўрэзалася ў маю памяць некалькімі радкамі:

...Іванку матка радзіла,
У дарогу выпраўляла,
Месяцам абгарадзіла,
Зарою падперазала,—
Едзь, дзіця, раджонае,
На сваё суджонае...

Хоць і мужыцкая песня, а мне яна падабаецца. І голас яе падабаецца, і словы. Я хачу сыграць на балалайцы, але ніяк не могуць узяць мае струны першай ноты...

. . . . . . . . . . . . . . . .

«Паважаная Міхаліна Дамінікаўна!

Перадайце гэты ліст яго бацькам. Я знайшоў лісток, калі ад бліндажа разышоўся дым. Хай не плачуць. Так патрэбна было богу. Ён паказаў, як трэба смела паміраць. Ён не баяўся смерці, а, наадварот — пеў ёй,

бачыце, песні. Яго адвага будзе нашаю адвагаю за нашу расійскую айчыну.

Цалую вашы ручкі *К.*».

«Панна Красінская!

Я даведаўся, што вы ў штабе палкоўніка Залескага. Я ведаю вашу адважную натуру, і я не памыліўся. Цяпер толькі так трэба. Такая жанчына, як вы, у наш час мае рацыю. Мы павінны змагацца ўсе, хто можа і хто не можа трымаць у руках зброю. Бо не ў адной зброі ёсць баявыя набоі.

Наша айчына павінна быць дэмакратычнай Амерыкаю. Наша рэвалюцыя — воля ўсяго нашага народа. Мы пабудуем у нашай Расійскай імперыі новую сваю Амерыку.

А гэтыя салдацкія (я думаю, вы чулі пра ўзбунтаваны полк палкоўніка Морса?), гэтыя салдацкія бунты не што іншае, як астача рэвалюцыйнага віхру. Людзі раззлаваны, людзям удалася рэвалюцыя, і яны хочуць яшчэ нечага другога. А другога нічога быць не можа: рэвалюцыя ў свеце бывае адна.

Нам засталося толькі супакоіць цёмную гушчу. І гэта лёгка. Людскому натоўпу трэба зямля, мы яе аддамо на іх успакаенне.

Панна Красінская! Я не буду, прабачайце, вучыць вашым абавязкам. Вы іх самі ведаеце добра. Я толькі намякнуў вам, між іншым, пра астачу бальшавікоў сярод нашых салдат. Усе гэтыя бунты — работа гэтай мізэрнай астачы. Ваша жаночае чуццё вельмі добра зможа змагацца з гэтаю астачаю. Запомніце: яны трымаюць у сваіх руках толькі другі канец пераломанай палкі. Нам патрэбна выбіць з іх рук і гэты канец.

Прыяцель вашага дома *Отон*».

«Мая дарагая!

Я доўга не адпісваў табе на пісьмо: мы закопвалі забітых гэтаю дурніцаю-шасцідзюймоўкаю, і мне не было часу. А цяпер я маю час. Я ляжу ў гэтым белым доме, але мне вельмі баліць галава. Кожную раніцу мяне аглядае высокі чалавек, урач. Ён, як падыходзіць да майго ложка, дык і кажа на мяне:

— Ну, як маецца мой маленькі хлопчык?

За такія словы ў мяне на яго вялікая злосць. «Маленькія хлопчыкі» на фронце не бываюць, а гуляюць дома ў «закуту». Ты таксама не ведаеш, што такое фронт; каб растлумачыць табе, што такое фронт, трэба

пад'ессі жалезнага бобу. Гэта ж не што іншае, як тая самая наша рысявецкая бойня. Толькі ўсяго — тут не дзяруць скур з забітых людзей, гэтак як на нашай рысявецкай з кароў ды з валоў. А пах крыві той самы і нават мяснікі тыя самыя. Толькі мяснікі ўсе тут вучоныя на афіцэраў. «Агонь! Плі! У атаку! Бягом! Ура! Газы!» — гэта іх такая навука. Яны кажуць па адным слове, і ад кожнага слова вохкае зямля. Нібы яны націскаюць на кнопку, і ад гэтага адразу загараецца крывёю кавалак зямлі і перад намі, і ў нас. Перад намі гарыць зямля ад нашага «агню», а ў нас — ад «агню» ворага. І гэтак перш па чарзе, а потым і разам. Калі «агонь» бывае разам, гэта вельмі жудасна. Тады свет здаецца пеклам. Вельмі ж ужо стараецца наш афіцэр, Вячаслаў Таканскі. Ён не пасядзіць у акопе без «пекла» ні адной амаль хвіліны. Яму каб усё навокал было ў крыві. Ён, здаецца, прагне яе паху і яе запечанай клейкасці. З мяне таксама ішла кроў. Чамусьці праз горла. Высокі чалавек-урач кажа, што гэта ад газаў. Ад іх, кажа, цяжка ўсцерагчыся. Вось гэта, мая дарагая, прыблізна і называецца «фронт». А колькі гадоў патрэбна было чалавеку жыць і гадавацца, для чаго? — для гэтакага пекла. Наш бацюшка Пастарнацкі некалі мне казаў на першай маёй споведзі, каб я не грашыў богу, а то пападу на тым свеце ў пекла. Мне цяпер добра вядома: пекла не на тым свеце, а на фронце. І нашы чарцяняты — мяснікі-афіцэры. Яны намі арудуюць па камандзе вялікіх чарцей — генералаў.

Ты не бядуй па мне. Я хутка буду здаровым як вол. Самае важнае, каб толькі часамі не хадзіла ў бакі галава. Мне здаецца, яна важыць у мяне некалькі фунтаў і пяць пудоў. І, па-мойму, яна ў мяне — лішні груз. Апрача майго горла ўрач лечыць і маю галаву. Ён кажа — трэба будзе рабіць галаве складаную аперацыю. Хай робіць, абы яна толькі менш важыла. Не магу ж я насіць з сабою праз усё жыццё пяць пудоў! І я яго буду падганяць, каб хутчэй была тая аперацыя. А тады буду я здаровым і паеду на фронт, каб паскручваць чарцям і іх чарцянятам рогі. Не трэба нам двух пеклаў. Хопіць і аднаго — таго, што прырыхтаваў нам бог на небе.

Канчаю. Зараз прыйдзе высокі чалавек. Калі я пішу, ён на мяне сварыцца. Ён кажа, што ад гэтага мне

больш будзе балець галава. Вось ён ідзе, здаецца, па калідоры...»

. . . . . . . . . . . . . . .

— Павал, што з чыгуначных майстэрань, яго ліст,— сама сабе праказала Міхля.— Сястра міласэрдная тады пераслала са шпіталя маёй Фені. А я і не перадала ёй; і добра зрабіла: ён звар'яцеў, а дзеўка выплакала б свае вочы.

Міхля глядзела на агонь свечкі блукаючым зіркам. Думкі яе цяпер былі ўзварушаны з самага дна прошласці. Нібыта нехта сахаром залез у яе нутро — папоркаў, на дыбкі ўзняў заляжалую атруту.

Узяла ў рукі пісьмо, што было з штэмпелем на канверце без цвёрдага знака. Перахінула яго папалам асцярожным заломам ды палажыла ў кішэню свайго жакета.

А на стале запякалася свечка талым воскам. Наўкруг сябе начапляла васковых ледзяшоў. І чым большаю таласцю млела, большымі рубцавалася ледзяшамі.

Міхля ўбачыла.

Над свечкаю, хістаючы полымя, праляцела трапятлівая моль. Праляцела і была схавалася ў раскіданым па хаце святле, а потым зноў вярнулася назад, нібы нешта забыла. Слотаю лезла на агонь, смалою ліпла да яго гарачай гушчы. Вось-вось наткнецца на вастрыё агню і падрэжа свае крыллі. Але ўхілялася і зноў ляцела сваім трымцячым палётам навокал свечкі.

— Дурніца... Сама сабе хоча апаліць крыллі...— праказала Міхля ды адно за другім пачала падносіць да полымя свечкі прачытаныя пісьмы. Агонь ахвотна хапаўся за паперу, множыўся на тысячы велічынь, еў яе, пакідаў адзін жалобны попел.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

У гэтую восень дні калгасныя гасцьмі прыйшлі. Не збаяліся дажджоў золкіх, вятроў раскілзаных. Уся ваколіца чырвонаўская гаманіла калгаснымі днямі.

А яны свежыя прыйшлі, новыя ў Пячуркава і ў

Крынічкі, і ў самую Прыстань. Уцеху пакрыўджаным людзям прынеслі, шчасце, што вякамі блукала, у тых людзей украдзенае, знясслаўленае, што вякамі блудзіла ў поцемках, у бездарожжы.

А гэты канец Муравейнікаў на сваім трымаўся.

— Мы ў калгас не пойдзем.

Вацік з Харытонам гаварылі на гэтым канцы Муравейнікаў:

— Далучайцеся да таго канца. Гэта ж як рукою падаць. Будзеце разам працаваць. Большы калгас — лягчэйшая праца.

Лаўрэн сваё гаварыў. Цёр кулакамі слязлівыя вочы, глядзеў на дол зямлі ды:

— Я вас, таварыш Вацік, і люблю, і павагу маю да вас. Я кожны дзень гляджу і бачу, як вы клапоціцеся ў Чырвоным: і на поле ходзіце, і з поля прыйдзеце — у вас работа гарыць. Вы чалавек — не тое што абы дзень змарнаваць, вы не з такога роду. Бацька, відаць, работу любіў. Дык я ж кажу: я да вас нічога, але мяне — як вы пачынаеце пра далучэнне гаварыць — ацінае. Не магу я...

— Чаму вы, дзядзька Лаўрэн, не можаце?

Лаўрэн маўклівасць трымаў у роце. Як усе словы праглынуў і не было яму чым думку выкласці. «Не магу»,— толькі і было ў астачы з яго слоў.

А ўчора падатак здаваў Харытону ў сельсавеце. Нікога не было ў канцылярыі, і Харытон адзін на адзін, пішучы прапіснымі літарамі «тры рублі» — апошнюю Лаўрэнаву рату, сказаў:

— Прысядзьце, Лаўрэн. Садзіцеся... Раскажыце, што ў вас чутно...

Лаўрэна кашаль схапіў за грудзі — трос яго старэчыя плечы. Сеў Лаўрэн, успёрся над сталом, рукою галаву падпёр — доўга тросся ад старэчага скрыпучага кашлю. А калі адпусціў кашаль яго грудзі — вочы ўціраў прывычнымі кулакамі. Лаўрэн не трэ сваіх вачэй, а штурхае шчыкаладкамі. З таго і макрата не сходзіць ніколі з яго вачэй.

— Як там,— гаварыў Харытон,— маюцца вашы калгаснікі? Ці скончылі яны малаціць?

Сушыў прамакацельнай паперaю Лаўрэну выпісаны квіток, кідаў зірк на Лаўрэна ды ізноў: — Даўно я ўжо — тыдні з два — як быў у вашых Муравейніках...

Лаўрэн маўчаў, як бы зрабіў усё, Харытонам казанае, на адзін раз.

— Танцулька ж, здаецца, ездзіў, я чуў, у горад — коні вадзілі на продаж; якія там яны хочуць прадаваць коні?

— Я чуў,— казаў Харытон,— што яны калгасам радыё збіраюцца купляць...

Тады Лаўрэн цярплівасць сваю згубіў, каля стала паварушыўся кажухом, плячыма цёпнуўся як ад мурашак: як бы ўзбеглі яны на яго цела.

— Не ведаю нічога пра радзіву,— сказаў Лаўрэн,— а пра гусей магу сказаць.

Харытон хацеў квіток аддаваць, але не аддаў — трымаў у руцэ, пазіраў на Лаўрэна:

— Што пра гусей?

— Падохлі ўсе гусі,— адказаў Лаўрэн.— З дзве засталося, дык і тыя кавэнчацца без ног — мо ўжо і тыя дайшлі. Курч успала на гусей.

І сам як бы да сябе:

— А вы мне гаворыце...

Ад стала ўстаў, хацеў з рук браць у Харытона квіток. Харытон руку прыняў да сябе:

— Пачакайце... Дык ад чаго ж на іх успала курч? Што ім не было цёплага хлева, ці што?

— То ж то,— адказаў Лаўрэн.— Хлявоў было колькі хочаш, а гаспадара не было. Гусі гэткімі замаразкамі начавалі на дварэ. Я ж кажу: каму гэта клопат? Танцулька будзе табе пра гусей дбаць ці Атрахім?

— Дзядзька Лаўрэн,— узняўся Харытон.— Танцулька добры калгаснік: не гаварэце. Танцулька першым пайшоў у калгас. Вы заневашта вока на Танцульку не маеце — гэта ваш інтэрас. А Танцулька — чалавек калгасны, і за работу магу ручыцца. Хоць і ён багацейшым крыху быў за другіх... Ніхто потым сабе з вас не захацеў перш-наперш, вы вот, дзядзька, і да гэтага часу не ўступілі...

— І не ўступлю...— са злосцю сказаў Лаўрэн.— Пакуль Танцулька з Банадысём будуць гаспадарыць — не хачу ўступаць. Божа мяне бронь!

Харытона на злосць паднялі Лаўрэнавы словы. Трымаючы ў кішэні рукі, да парога прайшоўся па канцылярыі. Каля самага Лаўрэна затрымаўся: хацеў спакойна гаварыць і не мог.

— Пачакай, Лаўрэн,— сказаў Харытон.— Цябе ж

ніхто гвалтам не цягне на повадзе: не ўступай сабе хоць да самай смерці. Толькі нашых калгаснікаў, брат, не абгаварвай. Не-э... Ты стары, і я цябе толькі паважаю. Ты, Лаўрэн, з дрэннымі думкамі ходзіш і хочаш, каб калгас раскідаўся: гусей навідавоку выстаўляеш. Гусь і ў вас можа здохнуць, і ў кожнага гаспадара, з цёплымі нават хлявамі. Чорт яе бяры тую гусь, а калгасы ты не чапай! Вот...

— Я хачу...— сказаў сярдзітым голасам Лаўрэн, і кашаль зноў апанаваў старога.— Я хачу, каб калгас...— скрозь кашаль гаварыў,— каб жыў калгас. Мне толькі крыўдна ж вельмі... Хай сабе не ў гусях інтарэс. Мне крыўдна, што ён сваё пражыў, а я век у лапцях прахадзіў, ды і лапці тыя на яго сіўцы з касою стаптаў... Мяне агортвае жаль, калі бачу я, што яно...

Зноў кашаль падскочыў. Не дасказаў сказу. А Харытон:

— Кінь, стары, сваім жалем выстаўляцца. Партыя наша не любіць жаласлівых людзей, а мы змагаемся за кожнага калгасніка. Мы яго, стары, шануем, як наша вока, а ты вот гусьмі засланяеш калгасную дарогу. Брыдка!

У канцылярыю зайшоў берчукоўскі Антон. Счуў апошнія словы Харытона — на Харытонаў бок стаў са сваімі словамі.

— Пасаром... пасаром старога Лаўрэна, што ён калгасаў цураецца.

І да Лаўрэна:

— Трэба, таварыш стары, трэба ісці ў калгас. І няма чаго цурацца. У калгасе ўстанаўляецца новая жызня. Так што падзякуй богу, што прычакаўся ў старасці. Хоць кавалачак невялічкі захапіў жыцця гэтага. Я і сам як не ішоў — усялякае ліха вярзлося, а цяпер — вот ужо другі тыдзень — і не шманаю. Каню не трэба, па крайняй меры, досвіткам усхопліваца — даваць. Ляжы сабе, як пан, у пасцелі ды з бабаю перакочвайся — хе-хе!

— Стыднік...— сплюнуў Лаўрэн.— Табе толькі і на вуме бабы. Сарамату згубіў. Здаецца, дзяцей пагадаваў — як дубы...

Гаварыў да Харытона:

— От жа гэтакія і псуюць калгасы. Нядбайнасцю жывуць — дні лічаць. Ты за яго працуй, а ён, бачыш,—

з бабаю будзе перакочвацца. Прутам бы цябе па скабах пакачаць, чалавеча. От жа чаму яно — калі па розуме пусціш — і ацінае, на такіх аматараў гледзячы.

Харытон маўчаў. Ніякавата трымаў на сваім твары прымушана спаўзаючую ўсмешку: круціў у газетную паперу дробную самасейку — увесь свой сказ нятрапны хаваў.

— Дзеля маіх старых гадоў угавор не патрэбен... Кажуць, старыя людзі прывыклі да сваёй хаты і ты іх не адарвеш... А я скажу: хата мая мне звесная. Гумно маё, карою яловаю палапленае, таксама ўсім звеснае, і мне гэтага лому аніяк не шкода; хоць сёння ж можаце забраць яго на дровы. Толькі трэба неяк яго інакш рабіць. Ці ж я, скажам, не цямлю, што дабро для людзей робіцца? Я ж, дзякаваць богу, жыццё зжываю і маю, як той казаў, макавае каліва розуму. Але ж калі рабіць — трэба не на смех рабіць. Трэба, як той казаў, каб і сабе было на пахвалу, і людзям на пацеху. А калі мы з бабаю пачнем перакочвацца, дык не толькі ў гусіныя ногі курч упадзе, а і свае ногі згубім. А ты, Харытон, ні з сяго ні з таго злосць падносіш. Ты хоць і старшыня над намі, хоць і пра сёе-тое ведаеш, а людзей не ведаеш — не за вочы, а ў вочы скажу табе.

— Міхля пайшла... некуды,— аб шалёўку рукамі абапёршыся, пазіраючы праз акно канцылярыі, ні з таго ні з сяго ўставіў слова берчукоўскі Антон. Харытон аж прыўзняўся:

— Дзе?

— Ужо схавалася...

Харытон як і не чуў, што гаварыў яшчэ Лаўрэн. Сядзеў за сталом ды перагортваў, шамацеў папяровымі абрэзкамі. Перакідаў іх — як бы шукаў з іх гурту вельмі важнага папяровага кавалка. У яго галаве заняла цяпер месца тадышняя з Вацікам гутарка пра курносую Міхлю.

Калі Вацік пакпіў пра курносую Міхлю, не залюбіў Харытон Ваціка. Пры сустрэчы з ім і гаворыць, і, здаецца, рад чалавеку, а ў самога іголкамі тонкімі працінаецца нутро.

На гэтых днях малацілі ў Чырвоным. Замаразкі разагналі хмары. Неба было чыстае, аж да сіняга бляску. Добра малаціць у такое надвор'е: начыстую выбіваецца збожжа пад жалезным цэпам. Мароз нашатырыць яго аж да саламянага трэску.

Вацік сядзеў на трактарным крэсле, глядзеў на бягучы пас, на яго размашыстую сілу. Трактарны лопат ды гул бубністае малатарні глушылі сырабойню. У зацятай маўклівасці варушыліся людзі каля малатарні. Не хацеў кожны раскрываць рот дзеля гаворкі, каб не набраць сабе ўсярэдзіну непатрэбнага аржанастага пылу. А ён валам валіў праз паўадчыненыя дзверы, раставаў на панадворным прасторы. Тады і падышоў Харытон да трактара, да Ваціка.

— Малоціце? — замест дзяндобрання сказаў Харытон.— Позна малоціце. Зніжаеце працэнт хлебных нарыхтовак.

— А мы гэты працэнт за адзін раз пугнём,— трымаўся Вацік за трактарны руль, пільнаваў цягу трактарнай сілы.— Калі скончым малацьбу, сіла ўдзесяцярыцца — наш працэнт не захварэе на падучую тэмпературу.

Тады Харытон адразу выказаў думку, з якою падышоў.

— Быў на Малінаўках,— сказаў ён,— сустрэўся з Міхляю. Яна нешта паблажэла з твару: ці не ты фарбу яе сціраеш?

Вацік даў трактару тормаз, прарэзлівым лопатам аглушыў Харытона. Як бы заняты быў трактарным рулём — не чуў, не адказаў.

А Харытон:

— Заўсёды так бывае: «Не плюй у ваду — прыйдзецца напіцца».

Ды:

— Ну што ж,— дзяўчына як бурнэлька. Іскрыстая. Націскай, пане Вячаславе, на застаўкі. І да разгарыцца ў вас, як той казаў, агонь вялікім пажарам.

І пайшоў.

Ваціка агарнула была пякучая крыўда: «Два разы меў з чалавекам сустрэчу і нá табе — ён упікае».

Ды разганяючы настрой з дна мутою ўзняты:

«А што ты мне — калі на тое пайшло — забароніш?»

...Харытон не заўважыў, калі Лаўрэн выйшаў з канцылярыі. Развагі пра Міхлю асілілі — узялі над ім свае права. Яму хацелася пабачыць Ваціка — сказаць больш прыкрае слова.

Харытон разважаў:

«Хай не будзе ўпраўным. Носа хай не ў сваё не тыцкае. А мо яна, Міхля, нават і будзе маёю жонкаю?»

II

З круглага стала сцякала чырвонае палатно. Лямпа стаяла на папяровым лістку, каб не чадзіла палатно газным пахам. А Вацік сядзеў за сталом. Наўкруг яго — чырвонаўскія хлопцы: Кастусь Гарбуноўчык, Апанас Стручок, Крэўчык Сцяпан... а вунь дзе — Адам Бірка з саўгасаўскім кавалём Ласкевічам, Манечка з дачкою старой Дзянісіхі — Варкаю... І яшчэ скрыпалі дзверы ў клубе — прапускалі саўгасаўскую моладзь.

Другі месяц ішоў, як не збіраліся на палітгурток. Работа саўгасаўская не давала часу. Усяго яго забрала да сябе, трымала аберучкамі. А тут і сам Вацік — не стыкаўся дома — начаваў на калгасных сходах.

Разборка, як празываў Вацік, «бягучай палітыкі» пачалася з тых дзён, як прыехаў ён у Чырвонае. Ляксандра сказаў, што іхняя моладзь харчуецца самапасам, і Вацік пачаў заводзіць з моладдзю бліжэйшае знаёмства, жыццё іхняе пачаў перабіраць рукамі.

І знайшоў быў сярод іхняга жыцця тыя самапасныя кавалкі.

Кастусь Гарбуноўчык, як увайшоў у большае знаёмства з Вацікам, выклаў з захаваных слоў:

— Стасюк піў на хутары, у Данілы Шчупака...

Манечка гаварыла пра Мішу, і таксама скрадваючы словы:

— Ляксандра сварыўся на дзядзьку Мішу. Ноч малая: а ён недаспіць — гуляе на ачко... а потым возьме і губляе каровы па лесе. І жонка на яго сварыцца...

Вацік убачыў першы раз Мішу — смех сабраў на свой твар: думаў, што хлапчук Міша, аж гэта пад шэсцьдзесят гадоў чалавек. Увесь сівы, як тая старая, сівым мохам замшэлая хвоя.

Вацік на саўгасаўскай ячэйцы сарамаціў Стасюка:

— У нас наўкола ворагі, капіталісты, мы павінны глядзець за нашай савецкай гаспадаркаю, каб яна расла і сваім ростам палохала ворагаў. А таварыш Стасюк п'е — спрыяе ворагу.

І яшчэ:

— Камсамолец — новы чалавек. Камсамолец — матэрыял для новага свету. І ў яго нутро не павінна ўсяляцца старая атрута.

— У нас не чытаюць газет,— сказала Манечка.— Газеты выпісваюцца і марна, нячытанымі, ідуць на папяросы.

А Кастусь Гарбуноўчык:

— Апанас Стручок за сабою не глядзіць. Кладзецца не распранаючыся спаць, а потым чухаецца, шкрабецца. Гэта, таварыш Стручок, трэба сказаць табе ў вочы: нямашака ў вашым хлапцоўскім пакоі гігіены. І ячэйка павінна звярнуць увагу на таварыша Стручка як камсамольца, каб у яго было чыста і каб ён не чухаўся.

Вацікавы дні зжыліся з чырвонаўскімі днямі, як сваімі суседзямі. І не толькі дні, а і самыя гадзіны — суседзямі-дружакамі пачалі жыць. Там — заводскі гудок рубцаваў, завязваў вузлы — гадзіны, дзяліў на работу і на адпачынак. Тут — рэйка, прывязаная да слупа, што стаіць на саўгасаўскім дзядзінцы, вытылінгвала штодзённае гадзіннае размеркаванне. Нават тым самым дымам дні саўгасаўскія пахлі. Толькі — там з заводскай трубы ішоў дым, а тут — трактар дыміў. Нават зямля, з якой зроблены саўгасаўскі дзядзінец, як і іхні заводскі двор, пакуцана ў зеленаватую аліву.

І ўся работа здаецца Вацiку работай адных або адных да другіх падобных рук. Бо іначай жа не быў бы чуваць пах такога самага дыму... Не была б зямля там і тут пакуцана ў зеленаватую аліву. І калі б яшчэ тут — гэтак як там на заводзе — сацыялістычным ударніцтвам праходзіла праца.

Вацік любасць мае да пака́панай на зямлю з цыліндрычных кольцаў алівы. От ён ідзе з ліцейнага цэха, а пад нагамі ўсё разам змешанае — аліва і патаптанае вугольле. Фарба сіняя таксама то тут, то там пакапана: фарбавалі цёмную гартаваную сталь сячкарнага станка. А потым — стукатня і шаргаценне пасаў... Вацік любіць, калі ўсё чалавечае жыццё ўзмашынена. Здаецца тады — машына памагае стукатні яго сэрца:

...жыць... жыць... жыць...

Ад таго і не спыняецца сэрца, а жыве бойка — узрывістым трапятаннем, жыве вялікаю воляю чалавека-асілка.

Вёў Вацік гэтым разам заняткі пра англійскіх людзей, што дастаюць з-пад зямлі закамянелы вугаль. Гаварыў, як цяжка людзям, тамашнім рабочым, цэлую палавіну свайго жыцця быць пад зямлёй. І гаварыў пра другіх людзей, пра капіталістаў, якія жывуць у раскошы — жывуць працаю рабочых.

На рэштку заняткаў у клуб сабраліся ледзь не ўсе саўгаснікі. Уважліва слухалі Баціка, самі гаварылі пра дзе-кольвек выслуханае, прачытанае. Ставілі перад Вацікам свае сабраныя думкі:

— Што думаюць капіталісты, калі чуюць пра нашыя калгасы?

— Чаму мы, наша савецкая ўлада, не хочам купляць у буржуяў паркалю, корту, бацісту?.. У нас жа не хапае, а ў іх — колькі хочаш?

І Вацік клаў пэўнасць у свае адказы, нібы сам быў там, дзе кожнае запытанне расло-гадавалася.

Запытаў у Ваціка саўгасаўскі «ўдавец»,— як бабы яго празвалі,— Адам Бірка.

— Дазволь мне сказаць,— палец выставіў ён да Ваціка.

Адам Бірка любіць, каб яму слова падаць: хай бачаць маладыя ды ведаюць, што стары Адам пра нешта мае кемлівасць.

— На прошлым разе,— казаў Адам,— я не забыўся, ты гаварыў, што буржуі ляскочуць зубамі за тое, што мы робім наш сацыялізм...

Бірка разгладзіў свае доўгія цёмныя вусы — павагі да сябе назбіраў. Па нястрыжанай барадзе правёў рукою. Глядзеў не на Ваціка, а перад сабою, на падлогу. На яго ўтаропіўся Ласкевічаў хлапец — Піліп, а Бірка гаварыў:

— ...дык ты казаў, мы робім, і буржуі ведаюць пра нашу работу. Я вот не магу сабе ўцяміць. Я думаў пра гэты час — хацеў з табою на сустрэчы пагаманіць...

— Ну дык што ты хочаш сказаць? — не сцярпеў Ласкевічаў хлапец.

— Пачакай,— перапыніў Вацік.

І Бірка гаварыў:

— Я хачу сказаць пра тое, як гэта яно выходзіць. Буржуі, скажам, ведаюць пра нашу работу, буржуі ведаюць, як ты тады казаў, што наш сацыялізм — на іх жызню згіненне... Мы тады гаварылі, што рабочыя

тамашнія з кожным часам усё бяруць сабе на розум. Мы яшчэ казалі, што тамашнія людзі ведаюць, што іх збавенне будзе, калі яны выратуюцца ад сваіх паноў. Мы гаманілі на прошлым разе, што наша будоўля, не раўнуючы, як маяк, што стаіць на Вірышчы. Рабочыя заграні́чныя бачаць гэты маяк сацыялізма...

Піліп, Паскевічаў хлапец, зноў не сцярпеў:

— А дзе твая, дзядзька Адам, лера?

Хлопцы і дзяўчаты смехам ударылі па ўсім клубе, а Вацік, узняўшыся з-за стала:

— Няма нічога, таварышы, смешнага. Правільнае дзядзькі Адама пытанне. І вельмі нават каштоўнае.

— Дык вот жа...— храбрасць сваю вярнуў Адам да сябе.— А яно каторае без дай рацыі не ўслухаецца ды выскаляе зубы.

А Вацік зноў:

— Правільна... Буржуазія ведае, што мы будуем сацыялізм. Буржуазія ўсямерна рыхтуецца, каб нам перашкодзіць у нашай будоўлі. Яна яшчэ і вунь як прымае меры, каб нам перашкодзіць. Толькі ёй у гэтай перашкодзе тамашнія рабочыя перашкаджаюць. Буржуазія хоча, каб нам зрабіць перашкоду, і рабочыя — ёй робяць. Буржуазія баіцца сваіх рабочых. Яна іх усямерна заціскае: трымае ў божай веры; не дае ім гаварыць пра сваё права; пакідае больш смелых на гаворку без работы; саджае ў турмы... Усё робіць, каб яны толькі не ўзняліся ды не скінулі буржуяў гэтак, як мы скінулі іх Кастрычніцкімі днямі...

— Я і пра гэта,— абарваў Адам Вацікавы словы.— Але я і пра другое. Я не скончыў маёй думкі.

І ён гаварыў:

— Тутака вось што: ты казаў на прошлым разе, што... Я праз увесь час меркаваў у сваіх думках і ніяк не мог уцяміць... Мы гаманілі тады, што буржуі паміж сабою згушчаюцца, каб быць моцнымі, вырастаюць у вялікіх гаспадароў.

Піліп паправіў Адамаву думку:

— Ён пра тое, што мы тады гаварылі: буржуазія вырастае ў адзін кулак, што яна з кожным днём згуртоўваецца.

— Аб тым жа...

А Ласкевіч таксама, каб не марнаваць у маўклівасці сваіх слоў:

— Ну, што з гэтага?

— Дык вот жа,— на ўвесь свой голас гаварыў Адам.— Я і пытаю... мне і неспанятна: яны збіраюцца ў адзін кулак, а мы кажам, што яны на сваю гібель збіраюцца. Дык мне неспанятна, навошта мы гаворым услых і ў газетах гаворым? Хай сабе збіраюцца на здароўечка, а тады возьмуць і загінуць. Пачакай, пачакай,— убачыў, што Пілiп мяркуецца перапыніць,— бо як мы пра гэта будзем гаварыць — яны не захочуць быць кулаком і нам будзе горш.

Смех ударыўся ў клубныя сцены: вельмі моцны, узрывісты — аж здрыгануў яркую залу саўгасаўскага клуба.

Чырвонаўскі клуб ганарыцца сваім прасторам. Выкінулі канявую сцяну, дзве палавіны злучылі паміж сабою — зрабілі адну вялікую клубную залу. На адной палавіне некалі была танцавальная зала для Калечыцавых гасцей, другая — меншая за танцавальную — празывалася «блакітным пакоем». Быў тут некалі адпачынак потных людзей — пасля скокаў. Тут і вячэра з херасам ды з спатыкачом чакала тых людзей. І вось цяпер канявую сцяну прэч — і прасторна зрабілася. І палотны з белымі літарамі слоў расцягнуліся па сценках даўжэннымі чырвонымі дарогамі.

— Каб зразумець, таварышы саўгасаўцы,— казаў Вацік,— правільнасць барацьбы, каб пераконанаму быць у наш сацыялізм, трэба, канешне, ведаць капіталіста-кулака, бо вырастанне з дробных буржуяў вялікага буржуя,— гэта не што іншае, як нарыў вялікай скулы. Скула, скажам, расце, і ад яе боль нашаму целу. Дык нельга ж цярпець такі боль: скулу трэба выціснуць, а рану загаіць. Дык вось: расце і багацее таксама буржуй, а рабочыя пакутуюць ад яго росту. І гэта аж пакуль не выйдзе з іх цярплівасці, пакуль не выціснуць яны з сваёй шыі гэтага нарыва. А не расці буржуйская скула ніяк не можа. У яе росце — яе жыццё. Толькі як ёсць рост — яна і жыве і цешыцца, бо буржуйскае нутро ўсмактала прывычку ўласнасці нават у свае косці. У буржуя адзіная думка — нажыцца і толькі каб аднаму, самому сабе. Усе іншыя людзі для яго, як і не раджаліся. Ён нарадзіўся на свет адзін, і ў яго аднаго павінна быць усё сабранае чалавечае шчасце. Ён, кожны па сабе, клапоціцца перагнаць усіх сваіх прыяцеляў. Вось у гэтай пера-

гонцы і нарастае да яго нарасцю багацтва. Ён, як багатыр, бярэ пад сваю волю маленькіх буржуйчыкаў. Так што, дзядзька Адам, мы не баімся, што гаворым буржую ў вочы пра яго пагібель. Ён сваім ростам столькі выпускае рабочых жабракоў, што яны потым задушаць яго.

— Хто мае што яшчэ? — да ўсяе клубнае залы звярнуўся Вацік.

Усе маўклівасцю выстаўляліся адзін перад другім. Вацік абвёў вачыма, хацеў знайсці чалавека, што будзе яшчэ пытаць, і не было. Адам з Ласкевічам трымалі пра нешта гаворку, Кастусь гаварыў з Апанасам.

— Скончым у такім...— не дасказаў Вацік. Адчыніліся дзверы, і ўвайшоў у клуб Танцулькаў Арцём. Раўнамернымі крокамі падышоў да стала, да Вапіка. З кішэні дастаў парашком складзеную пісульку, падаў самому Вапіку. Няспехам расхінуў Вацік папяровы парашок і вачыма зараз забраў што там было.

І да саўгасаўцаў:

— Дык больш ніхто не мае аб чым пытацца?

— Няма,— выгукнуў нехта.

А Вацік, з-за стала ўстаючы:

— У такім разе — скончым.

Манечка прагным зіркам глядзела на Вацікаў твар. Бачыла, як заблішчэлі пад лямпіным святлом яго вочы. А ён не трапляў аплікам у кароткім кажусе за гафтку — напала на яго рукі спешнасць. Вочы яе лавілі па ўсіх закануpках непаголены на сёння Вацікаў твар. Хацелася ведаць, што ён там прачытаў.

От Вацік жыве ў іхнім пакоі — і неспакойна Манечцы ад гэтага і прыемна. Калі сустракае твар гэтага чалавека, з прыемнасцю трапеча яе маленькае сэрца. Доўгім позіркам блудзіць па твары, што пакарабачаны зарубцаваным шрамам. І гэта так от... не ведае, чаму хочацца бачыць, пазіраць... Толькі калі пазірае — спотайка пазірае. Вельмі ж страхам абдаецца сэрца: хаця б ён таго не ведаў.

Пакуль выходзілі з клуба, каб не заўважыў,— адвяла свой зірк на вялікі папяровы, на сцяне прыклеены, плакат. Глядзела на той плакатны лісток і бачыла ў нецвярозай думцы — на папяровым лістку вялікі круг. У тым крузе стаіць тоўсты-тоўсты, надоўга адкормлены кулак... На ім паркалёвая кашуля ў цёмныя кружочкі-бабочкі, а поверх кашулі — картовая

камізэлька. Кашуля на кулаку доўгая — з-пад камізэлькі займае аж да каленяў. А ў кулаковых руках — абрэз. Моцна-моцна сціскае кулакова рука абрэз, а другая сціскае поўную, у рыла налітую пляшку перагоннай гары. А наўкруг кулака, па тым крузе — адзін за адным ідуць цесным колам трактары. Усё вузей і вузей кулаку робіцца той круг. Ён нават ад злосці пачырванеў. Два пярэднія вялікія выставіў зубы — пагрозу пасылае трактарам...

Варка, убачыўшы Манечку:

— У што ты ўрэпілася? — аклікнула: — Ідзем! А то астанешся адна начніцаю.

З месца скранулася Манечка, пайшла за Варкаю. Ідучы, акінула вокам клубныя дзверы: Вацiка ў клубе як і не было.

### III

...У пісульцы было напісана:

«Прыходзьце да мяне па вельмі пільнай справе. М.».

Шыбкаю хадою ішоў Вацік, а не мог сваіх думак адагнаць. Спрытнейшыя чалавечыя думкі за самога чалавека. Ён на адным месцы варушыцца, а яны пабываюць і за горамі, і за морам. Нават у чалавечую маладосць сходзяць — пературасуць усе клункі запакаванага жыцця.

Стрэчны вецер церушыў Вацікавы вочы. Неба налілося глыбока-асенняй, чорна-непрагляднаю жужалкаю. Добра, што дарога перад Вацікам дзесяць раз па дзесяць ходжаная сюды і туды: ногі не заблудзяць. А зямля маладым марозам угрунтавана — стукаціць здранцвелым груддзем. Лёгка ісці нагам па такой зямлі, ды калі яшчэ за плячыма чуваць сляды грознай маладосці... калі кроў чалавечая ў разгоне...

Вaціку на ўспамінак узбрыло з самага пачатку. Ногі самі сабе ішлі, а ён, сваімі ўспамінамі,— сам сабе.

...Было гэта, як у Чырвоным неяк перад восенню ставілі спектакль. Вацік быў аматарам ладзіць спектаклі, цешыўся, што рэпетыцыя ідзе добрым ладам. І вось у самы той спектаклеўскі дзень прастудаю захварэла «Палашка». Хто мог валодаць адказнаю ролю без рэпетыцыі? Хто мог замяніць Варку-«Палаш-

ку»? — Чалавека, каб замяніць, у Чырвоным не маглі знайсці.

Вацік гаварыў:

— Трэба адкласці спектакль.

А Кастусь Гарбуноўчык:

— Адкладваць спектакля не трэба. Я ведаю чалавека, што можа без рэпетыцыі... Паклікаць муравейнікаўскую Міхлю.

Вацік ідзе цяпер — трымае на ўспамінах, як на прывязі.

...Заслона шчэ не ўздымалася. Ды яна і не ўздымаецца, а рассоўваецца шпагатным шнуром па тонкім дроце на дзве палавіны. Людзі ў клубнай зале з кароткіх слоў праміж сабою зрабілі калатушку. Гоман вісеў над людскімі галовамі густою, зблытанаю сеткаю. А потым — разрываецца сетка злітых слоў — трымціць зала ціхатою.

«Вось ты смяешся з Амерыкі,— кажа «Паўлюк» да «Палашкі»,— а там хіба гэтакае невуцтва, як у вас? Там навука!»

Рукою размахвае «Паўлюк», на носікі становіцца бліскучых сваіх камашаў, выпучваецца. Банцік ружовенькі пад самаю шыяю на яго беленькай рубашачцы. У руках — тоненькая палачка-тростачка.

«Вось, скажам, трэба вам кавы,— зноў гаворыць,— вы сабе ўстаўляеце штэпсель — такія відэльцы... у дзюрачкі — кава ўмомант гатова!»

І зноў:

«...Вось, скажам, трэба вам чаравікі пачысціць... Вы сабе ўстаўляеце штэпсель — умомант чаравікі вашы блішчаць, як люстэрка...»

«Палашка» спрачаецца з «Паўлюком», абкідае яго невуцтва маладосцю звонкага смеху.

Вацік з-за куліс чуе гэты смех: у яго шмат ахвоты слухаць. А яе смех такі самы бесклапотны, як і тады, калі гаварыла Міхля пра яго сэрца, каля ячменнага поля.

...А потым быў антракт; праводзілі драцяныя праводы — рабілі электрычны млын... Яна падпраўляла яго «Несцеравы» вусы. Калі глядзеўся Вацік у люстэрка, адклеіліся — ліпелі адным канцом — маленькія вусы. Яна моцна прыціснула двума пальцамі да яго губы свежы кавалачак чорнай расскубенай, ёжыкам натапыранай воўны. Так і трымала, пакуль не

прыхапілася воўна. А калі прыняла пальцы, асталася руплівасць на Вацікавай губе: «Хай бы яшчэ пратрымала вусы,— а можа, яны яшчэ і не прысохлі».

І яшчэ: у той апошняй п'еснай дзеі яна, «Палашка», аддала ключ «Несцеру». Уся клубная зала чакала: кінула, мусіць, назаўсёды «Палашка» свайго «Несцера» — пайшла ад яго, куды вочы глядзяць. І от раптоўна адчыняюцца дзверы. «Несцер» не чуў, калі яны адчыніліся. Ён уздзеў ключ на палец і круціць яго ў задуменні. А яна падыходзіць да яго крадзенымі крокамі. Вацік-«Несцер» — яе не бачыць... (Ах, як добра была зроблена гэта апошняя дзея!) Яна падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй. Вось, вось... Вацік чуў шорах яе крокаў. Зала чакала і не ведала, як развяжацца жыццём завязаны вузел. І потым, вельмі проста:

— Дай ключ ад хаты,— сказала «Палашка». І не сказала больш нічога.

Здавалася Ваціку тады: бярэ яна ключ ад сумеснага іхняга жыцця. Яна пойдзе з гэтым ключом і адамкне іхнюю хату. Яна прыбярэ ў Вацікавым пакоі: рубашку яго, што ляжыць абы-як на крэсле, паложыць у плецены кошык... Вытра сухім ручніком потныя шыбы... Акуркі, што ляжаць нацёртым смеццем у расчыненым карабку ад запалак, выкіне ў бляшанае вядро... Вытра нанесены за нагамі пясок з памаляванай падлогі... Прынёс Вацік учора ад новай саўгасаўскай сырабойні сухія трэскі — пакладзе іх у ляжанку... А ён прыйдзе з калгаснага сходу, і ў хаце ў яго будзе так цёпла...

Усё роўна як угадала Міхля-«Палашка» Вацікавы думкі: калі спектакль быў скончаны, сказала, хаваючы ў жарт свае словы:

— Прыйдзецца цяперака праводзіць мяне... Паклікалі на свой клопат...

Вацік стаяў каля сцэны, глядзеў на скокі пад гармонік Мішы-пастуха.

І вось такая ж самая была тады ноч: уся цёмная, хмарамі зацярушаная. Тою ноччу ішлі яны па гэтай дарозе. Толькі зямля была пад нагамі ў той раз мяккая, тлустая, а цяпер — скована яркім марозам. Лужок, што паабапал доўгай грэблі, у тую ноч кішэў няскошанаю маладою атаваю. І нават вісела густая на

атаве раса. Туманы балацяныя ўздымаліся над лужком на дыбы...

Той вечар вельмі добра трымаецца на Вацікавай памяці.

Пасля таксама ішлі дні, праходзілі густа-ўзмучаныя вечары. Але ад іх мала аставалася ў Ваціка пакінутага следу. Адна імжыстая руплівасць, што асталася ад спектакля, суцэльнаю ніткаю выцягвалася з асновы выбрызганага кноту ды тлела незгасаючым агнём. Мо таму і былі прыкметнымі подбегам праходзячыя дні.

Некалькі разоў Вацік сустракаўся з Міхляю пасля спектакля. Намёкі насіў навідавоку і шукаў і нідзе не знаходзіў згубленай сваёй адвагі.

...Калі адчыніў Вацік калітку чырвонай Танцулькавай брамы, прабег па целе гаркліва-спуджаны холад.

А ў думках:

«Што яна цяперака робіць?»

І чамусьці, як у адказ на яго думку, аднекуль з схаванай цемнаты роем асела на ўспамінках:

«...Мужчынскае сэрца таксама цяжка ведаць, як і жаночае. Кожнае сэрца, калі вы вывучалі фізіялогію чалавека...»

Ухмылку пусціў па сваім твары. Скрозь надворную цемру бачыў вялікі клін саўгасаўскага ячменю. Ад таго, можа, пылам сцёрся з Вацікавага цела надышоўшы той гаркліва-спуджаны холад.

Каля ганка Ваціка стрэў белалапісты сабака. Ускочыў на ганак, цісnuўся мызаю ў шчыліну туга зачыненых дзвярэй. Варушыў мятлістым хвастом — гаварыў: «Ты мяне прапусці ў цёплую хату, і я цябе не буду чапаць».

Пабаяўся адганяць чужога сабаку.

Хай ідзе...

А калі зайшоў Вацік у Міхлін пакой — не застаў Міхлі. На стол узлакаціўшыся, прыціснуўшы грудзьмі засланы абрус, ад чаго ў фальбону ссунуўся абрус, сядзеў Харытон.

— От... і ты тутака...— сказаў Вацік, да стала падыходзячы.

— Тутака...— не ўзняў Харытон вачэй. Сядзеў і барабаніў па абрусе пальцамі.

Вацік збянтэжаным зіркам лавіў Харытонаў твар.

«Чаго яму трэба?»

Сеў насупраць Харытона і не мог зразумець.

«Навошта яна паклікала мяне, калі ён тут?»

Харытон прымушана паварушыўся, седзячы каля стала. Узняў ад стала вочы, ды:

— Сустрэліся, кажаш, нечакана...

— Я па калгасных справах...— твар ад лямпы тулячы, сказаў Вацік.

— Я таксама па калгасных...

Вацік пырснуў схаванаю злосцю, не паказаў раскіданых злосных пырскаў, як і ні ў чым:

— Тут у іх дрэнна наладжана калгаснае размеркаванне харчоў. Я ішоў да Банадыся... дык ужо спаць, мусіць, лёг. Дай, думаю, зайду, можа, даведаюся, як у старшага брыгадзіра... што зрабіла іх калгаснае праўленне. Па-мойму, ведаеш, яны дрэнна зрабілі... Гэта ж сёння была ў нас старая Старавойціха... Прыйшла ды скардзіцца — кажа, мы ўтрох увесь час на работу хадзілі, рабілі, душы паслухаючы, а як прыйшлося — нам вызначылі, кажа, жыта па шэсць пудоў на душу, на цэлы год... Што гэта, кажа, насмешка над намі?..

Глядзеў на Харытона і рад быў, што тормаз уставіў у яго думкі.

«Хай не думае, што мне патрэбна вельмі Міхля».

— ...Казала,— гаварыў Вацік,— паеду ў горад да сына: хай сын прыедзе ды паглядзіць на калгаснае жыццё. Праз яго, кажа, мы пайшлі ў калгас. Яму, на заводзе седзячы, як яна кажа,— на хвабрыцы,— лёгка камандаваць... Як нагаварыла, брат, як насыпала... Ты ж ведаеш старую Старавойціху: баба-яга.

І ад сябе:

— Ды і напраўду: тут, Харытон, неващта трэба рабіць... бо калі па шэсць пудоў на душу, канечне, у каго сям'я вялікая, як, скажам, у таго вашага Атрахіма, дзевяць душ...

— Чаго яна ляпу сваю разявіла? — голасам, афарбаваным у сярдзітую фарбу, сказаў Харытон.— На першы пачын далі па шэсць пудоў на душу, а бульба, а ячмень на крупы... а там, счакаўшы, яшчэ будуць даваць. Знаем мы такіх Старавойціх...

Дзверы адчыніліся, і ў хату ўвайшла Міхля. Як пераступіла парог, дык адразу:

— Нечаканы госць!.. Добры вечар! Ці не ваўкі загналі вас, таварыш Такарскі?..

А Вацік:

— А што думаеце, цяперака ж восень. Ваўкі, кажуць, цяпер вельмі галодныя. Так што...

— А я на хвілінку пакінула таварыша Мамчыца, хай прабачыць мне. Зайшла ў тую хату, пакуль сёетое... Тамака ў іх начуе якраз нейкі чалавек...

— Які чалавек? — запытаўся Вацік.

— Хто яго ведае... Кажа, што ён быў недзе на дарожнай рабоце. Атрымаў грошы, а ў яго тыя грошы ўкралі... Кажа, не было за што праехаць,— хацеў да Мінска — дык вот ідзе пехатою...

Харытон галаву ўзняў на Міхлю, а потым, пружыністым зіркам гледзячы на Ваціка:

— Можа, якая-небудзь контра?

І да Міхлі:

— Які ён сам з сябе: у якой ён адзежы?

Міхля паслала Ваціку скрадзеную ўхмылку.

— Цяпер-то сядзіць ён каля стала ў картовай рубашцы, а на сцяне, відаць, вісіць — напэўна, яго — суконны фрэнч... на падабенства як у нашага Арцёма. Ну, ён у ботах... Круглатвары, невялічкія вусікі, барада не паголена... Гадоў, можа, пад трыццаць пяць...

І, перайшоўшы на другі бок стала, сядаючы на скрыпучае крэсла:

— Ну, дык як вы, таварыш Такарскі, там крэпіцеся?

— Так сабе,— звычайным словам адказаў Вацік.— От сёння былі заняткі нашых камсамольцаў...

Харытон узняўся ад стала, шапку ўзяў у рукі, цёр пакамечаны шапчын аколышак, хацеў, каб убачыла Міхля, што збіраецца ён ісці дахаты.

А яна — як і не бачыла, што Харытон устаў,— каля стала муляе — тымі самымі вясёла-гаварлівымі словамі:

— Я таксама хачу хадзіць на вашы заняткі. Я ўжо думала... толькі што далекавата крыху. У наш час жыццё так шпарка бяжыць і грэх адставаць ад жыцця. А газет, ведаеце, не дагледзіш. Праўленне наша калгаснае выпісала нейкіх дзве, дык пакуль яны прыйдуць... а як прыйдуць, пакуль збярэшся прачытаць...

Абцугамі сціснула злосць Харытонава сэрца. Крыўдаю ўспененаю загаварыла нутро: «Чаго ён прыйшоў

да яе? Што яму тут трэба?» Нешта пякучае хацеў сказаць Вацiку i не мог.

Усё роўна як усе выйшлi словы з Харытонавага запасу. Тады рашучасцi набраўся. Крокамi адмерыў ад стала падлогу.

— Таварыш Такарскi,— нецярплiвым сказаў голасам,— вы яшчэ застаяцёся?

Вацiк не паспеў адказаць; Мiхля перабiла думку, сказала:

— Застаецца.

I да яго:

— Вы таксама з намi пабаўцеся.

Нiбыта спiрытусу падлiла ў агонь апошнiмi словамi. Нi словам жадным не адазваўся больш. Скрыў толькi свае ўзнерваваныя крокi: раўнамерным ходам выйшаў за дзверы.

А Мiхля як i не заўважыла Харытонаву раптоўнасць. Тым самым задорыста-жвавым голасам:

— Я вельмi рада, што вы прыйшлi...

З крэсла ўзнялася, большаю цаною важыла словы:

— Я вас чакала — думала, што вы самi зойдзеце... Проста, ведаеце, хочацца пагаварыць. Час так марудна iдзе, калi чалавек не мае з кiм асвяжыць сваю гаворку. А сёння дзень такi няўдалы... Я вельмi не люблю гэтую восень; калi яна надыходзiць, мне хочацца заснуць i спаць, пакуль не прыйдзе, хаця б сабе, зiма. Зiма, ведаеце, i то зусiм другi надае настрой. Дык сёння якраз такi дзень... Я папрасiла Арцёма, каб ён занёс вам гэту пiсульку... Прабачайце, што я, можа, вас патурбавала.

— Не...— адказаў Вацiк.— Я таксама...— I не ведаў, якiм словам скончыць пачатую думку.

А Мiхля:

— Я на адну хвiлiнку, вы тут пабудзьце... адну хвiлiнку! Прабачайце...

I выйшла з хаты.

Не сустракаў Вацiк праз сваё жыццё такога гаварлiвага чалавека: вельмi iшла на спадобу яе жвавасць. Калi гаварыла яна, не чуў слоў, а цешыўся музыкаю жаночага голасу. Здавалася Вацiку — iграе нехта на скрыпцы. I тая скрыпка не гаворыць словамi, а гаворыць злiтым нутраным голасам. Не разбярэш слоў яе голасу, а ведаеш, што яны цану сваю маюць. Тым больш тут, на раёне, пачуць трапятлiвы голас дзяўчы-

ны... Вацікава радасць слалася мяккім пухам. Пра Харытона думкі згубіў у той радасці. Ахвотаю пазіраў, калі сабіраўся Харытон ісці з хаты. Хацелася толькі, каб хутчэй выйшаў, каб хутчэй. А яна хай гаворыць для яго, і ён будзе мець поўнае сэрца шчакатлівага голасу.

. . . . . . . . . . . . . .

— ...Я сёння ўночы вельмі жудасны, ведаеце, сон бачыла.

— Раскажыце!..

— Не, я не раскажу майго сну, калі вы не скончыце гэтай кроплі.

— Я, таварыш Міхаліна Дамінікаўна, буду вельмі п'яны. Вы, мусіць, забыліся, што я ў сваіх абавязках...

— Як вам не брыдка: а яшчэ і мужчына! Я ж больш, калі на тое, выпіла...

— Па-першае, не больш, а па-другое — вы, а гэта я. Вы зможаце заўтра адпачываць, а ў мяне...

— Ну, а пра сон паслухаць хочаце?

— З ахвотаю. Што хочаце — ад вас магу паслухаць.

— Ну, дык выпіце ж... Эх вы — мужчына...

Яна даліла вішнёваю настойкаю недапіты Вацікаў кілішак, потым наліла да самых краёў свой, квяцістай цьмянасцю афарбаваны, бакальчык ды:

— Н-ну...

Падняла бакальчык, трымала яго перад Вацікавымі вачыма.

А ён пазіраў на яе і бачыў.

Святло ад стаяка лямпы, што стаяла на Міхлінымі стале, паласкалася ў яе зрэнках. Такім самым круглым агнём гарэла яно ў глыбіні яе вачэй. Нібы запаліў нехта далёка-далёка другія такія самыя лямпы... З такімі самымі стаякамі...

А яна зноў:

— Н-ну...

Тады за адзін раз перахінуў у рот салодка-гаркляваю вадкасць.

Нечаканасць, што трапілася сёння з Вацікам, кінула яго ў топкае дно. Галава ішла ходырам скрозь маленькія, потым большыя, потым яшчэ большыя шкляныя кругі. І яны ўсе адзін за другім раставалі, як разбіваў іх нехта жалезнаю палкаю.

У думках варушыліся самастойныя развагі: «Што я зрабіў?.. Няўжо ж гэта ёсцека тое, што празываецца кахаць дзяўчыну? Які яна ветлівы чалавек... Якое добрае жыццё — любіць чалавека. Мы будзем з ёю шчаслівымі людзьмі. Жыццё наша змеранае гадамі, і яго трэба як мага ў пашане трымаць. Харытон — смешны чалавек. І вельмі нават смешны... Чаго злаваць на мяне? Хіба ж я тут вінаваты? Мы ж людзі самі па сабе маем права на каханне. Я не магу загадаць, каб яна яго кахала. Я заўтра пагавару з Харытонам, чаго ж сярдуецца на нас? Харытон чалавек нядрэнны, і ён мяне зразумее. Ах, як гэта ўсё... Шмат на свеце добрых людзей!..»

Вацік устаў ад стала, крэсла адсунуў,— каб быў яму праход. Падышоў да Міхлі. Цяпер не было ў яе зрэнках тых двух агнёў ад лямпы. Усё роўна, нібыта стушыў іх нехта наўмысна.

— Ну, дык што ж вы не гаворыце пра ваш сон?

А яна:

— Сядайце на сваё крэсла і слухайце.

— А калі я на ваша сяду...

— На маім — удваіх будзе цесна...

— Я чуць-чуць... Адзін рубчык... от адну кропельку... от так...

Рукою ахапіў абручы Міхлінага крэсла — прысеў на самым яго краёчку.

— От так: бачыце, як добра.

Яна пасунулася толькі — прастор дала на сваім крэсле. Калі сеў — дакрануўся да яе цела: густа запаленая цеплата яе рукі прабегла па яго целе. Вацік адчуў, нібы падпаліў нехта правы Вацікаў бок. Агонь пайшоў, як запаўшая іскра ў торф, у самую глыбіню, і цяпер ніхто не зможа ніякаю вадзяною сілаю дастаць тую іскру, затушыць. Ды і навошта даставаць? Хай ідзе, мяшаецца з яго цеплынёю, гарыць двайным чалавечым агнём.

А Міхля трымала між пальцаў відэльцы, стукала па абрусе відэлечнымі зубамі і да яго:

— Па-першае, ці верыце вы снам?

— Снам?..— пачын зрабіў для свайго адказу. Час вышукаў, каб падабраць можна было трапную думку.— Як да якіх сноў...— сказаў урэшце.— Бывае, можна паверыць. Бо чалавечыя сны разгадка на якія

хочаце манеры. І так здарыцца яно — можна сказаць: сон як у руку даўся; і гэтак здарыцца — сон угадаў.

— Я таксама не веру гэтым снам,— сказала, пазіраючы Ваціку ў вочы.— Толькі я не магу зразумець: чаму бываюць сны ні з таго ні з сяго? Каб, скажам, чалавек думаў, каб чуў ці каб бачыў... А то — і не думаеш, і не бачыш, а возьмеш ды сасніш.

І выпусціўшы з пальцаў відэльцы:

— Ну, дык слухайце...

Усёю сабранаю сілаю пальцаў сціснуў Вацік абручы яе крэсла. Другою рукою моцна стукнуў па сваіх каленях. Ваціку схапіць хацелася сваімі рукамі з абодвух бакоў Міхлю і, таксама, як гэтыя абручы, моцна сціснуць... Але не зрабіў гэтага — чакаў, пакуль пра сон будзе гаварыць.

І Міхля гаварыла:

— ...Горад. Я не ведаю, які горад. Але вялікі, прыгожы горад. Вуліцы выбрукаваны ўсе адным клінкерам. І от я іду па самай галоўнай вуліцы. Нідзе нікога, ні аднаго чалавека. Як вымерлі людзі, нават як змёр увесь свет. А я іду на рынак. Мама мая, нябожчыца, паслала мяне, каб я купіла пучок маладой радыскі. У руках у мяне кошык, і я сама сабе думаю: ці ёсцека на рынку радыска, калі нідзе няма на вуліцы ні аднаго чалавека? І мяне апанаваў нейкі страх. Не таму, што я не куплю радыскі, а што адна я на бязлюднай вуліцы. Іду я гэтак, іду... прамінаю адзін квартал, прамінаю другі... Паварочваю за рог вялікага дома і раптам — цэлае мора людзей! Узрадавалася я, што людзей убачыла. Пайшла была аж подбегам. Падыходжу ўжо нават да таго людскога натоўпу, і... апанаваў мяне вялікі страх: людзі тыя ўсе як адзін маўчаць. Дзе гэта відана, каб людзі ў вялікім натоўпе ды маўчалі? Аж, калі я праціснулася сярод таго натоўпу, бачу тры шыбеніцы. Тоўстыя, вялікія слупы ўкопаны ў зямлю, і на іх матляюцца вяроўкі. Я вочы зажмурыла ад страху. Бегчы хацела, а потым падумала: каго ж будуць тут вешаць? І хто будзе каго вешаць і завошта? І не паспела я гэта падумаць — расступіўся натоўп. Усё роўна як нехта раптам расчыніў патаемныя дзверы. І вот, калі я ўзглянула,— вядуць трох чалавек. А па натоўпе шопат: «Камуністы». Тады я толькі ўбачыла, што вядуць іх не чырвонаармейцы, а салдаты з пагонамі.

«Завошта ж іх?» — запыталася я ў нейкага барадатага чалавека. «За тое, што яны рабілі калгасы»,— адказаў ён мне. І я... прачнулася. Што вы на гэта скажаце, таварыш Такарскі?

— Нічога...— падняўся Вацік з Міхлінага крэсла.— Па-мойму, барадаты чалавек, бадай, вас падманіў.

Ды растросшы прымушаны смех:

— Па-мойму, гэта не што іншае, як комплекс чалавечых думак, з якіх потым ужо і складаецца сон.

— Хто яго ведае,— адказала Міхля, нібы не зразумеўшы апошніх Вацікавых слоў. І, не парушаючы тону гаворкі, яна дадала: — Мо стары барадач і зманіў мне. На тое ж гэта і сон.

## IV

Па Муравейніках пранесліся нечуваныя, ніколі няведаныя чуткі. Пайшла Скрыпуніха да Павэлкавых стаўчы куцці ў ступе. А Павэлчыха ёй і кажа:

— Родненькая, залаценькая, што я чула... Гэта ж мой быў у савеце, а тамака мужчыны берчукоўскія яму гаварылі: людзей будуць кулачыць.

— Як жа гэта? — не ведала Скрыпуніха, пра што кажа ёй кабеціна, а бяду адчула.

— Я не ведаю як, а будуць. Сёння ўранку Даніла Шчупак быў у нас: заходзіў па грошы, што мы надоечы да яго кнораза ганялі нашу Цышку... Дык і Даніла казаў: што ў калгас не ідзе — усіх пакулачаць, нікому не будзе жыцця. Даніла казаў, што перш-наперш будуць кулачыць нашага Міхася Слямзака. Божа мой, што гэта робіцца на свеце!

— Ты мне накажы,— папрасіла Павэлчыха Скрыпуніху.— Прышлі сваю Гэльку. Сходзім хоць ды паглядзім, як яны будуць... Ты ж тутака жывеш пад бокам.

— Прышлю, залаценькая,— дакляравала.— А як жа, сходзім.

А сёння на сельсавецкім прэзідыуме і ўпраўду пытанне пра Міхася Кляўко ды пра малінаўскага Булгака стала рубам.

У газетах, што лістаносец у Берчукі прыносіў, пісалася, і сам раён пісаў у сельсавецкую канцылярыю, пра знішчэнне кулацтва — апошняй буржуазнай ступені.

Сцены сельсавецкай канцылярыі гаварылі лозунгамі пра змаганне класаў. Плакаты гонарам выстаўляліся, што там у горадзе ідзе магутнае будаванне. А Харытон гаварыў прэзідыуму:

— І знішчым. Раз раён дае свае права — звядзем з свету кулацкі клас. Пажылі, так сказаць...

Вацік клінам уціскаў сваю думку:

— Што ўвесь час ідзе класавая барацьба, усім, таварышы, вядома. Тым больш гэтая барацьба набывае найбольшае значэнне ў час нашага вялікага будаўніцтва, у час калектывізацыі вёскі. Мы павінны метка знаходзіць нашага ворага, калі будзем выбіваць з яго рук апошнюю зброю. Мы павінны...

— Я ведаю, таварыш Такарскі, што мы павінны,— перапыніў Харытон Ваціка. Хацелася Харытону, што ні гаварыў бы Вацік, каб усё супярэчыць. Не мог забыцца пра сустрэчу з Вацікам у Міхлі. Той вечар ні на адну хвіліну не пакідаў Харытонавых разваг.

«Я праз увесь час жыву тут, сустракаюся, а ён перада мною ўздумаў ганарыцца, ісці мне наперакор».

Як ішоў тады ад Міхлі, разважаў: «Паглядзім, што з гэтага будзе. Я табе, мой даражэнькі, калі на тое пайшло, дамся ў знакі».

І ён загаварыў.

— ...Мы не павінны, а мы, будучы ў нашых абавязках, і калі нам прадпісваюць выкарчаваць заядлых кулакоў, зараз жа...— хацеў зрабіць замен таму слову, што Вацік сказаў, і не мог —сказаў, яго скрадваючы: — ...зараз жа павінны прыступіць да выканання нашых абавязкаў.

Карпілаўскі Юзік паказаў Харытону палец,— запытаў:

— Кажы адразу, каго будзем раскулачваць?

— Звесна ж каго,— адказаў Харытон,— малінаўскага Булгака.

— А яшчэ?

Харытон стрымаў адзін момант сваю думку. Перапрос яе, праверыў другім разам, каб не было памылкі. Міма сваёй волі глянуў на Вацікаў твар і адразу:

— Муравейнікаўскага Кляўко. Пакуль што — іх двух.

Цэлая хвіліна трымалася нацягнутаю маўклівасцю. Кожны сам сабе тасаваў сваю думку. Карпілаўскі Юзік парваў туга выцягнутую хвілінную струну:

— А за што? — запытаўся Юзік.— Якія нашчот іх у цябе пэўнасці?

— Па-першае, Булгак праз усе гэтыя гады трымаў нанятую сілу... што згодна нашай партыйнай устаноўкі,— ідзе на знішчэнне,— гэта раз. Па-другое,— зноў палажыў кулак,— яго сяголетні падатак — дзвесце дзевяноста сем рублёў і трыццаць чатыры капейкі. У яго — двое язджалых коней ды шчэ паджаробак — гэта тры. Зямлі ў яго — самага лепшага сорту — валокі — чатыры. Ну і ўсё іншае, так сказаць. Мне здаецца, табе і ўсім вядома, што ён па нашым сельсавеце адзін ■ найзлосных, найбагатых кулакоў.

— Ну, а пра муравейнікаўскага гэтага чалавека? — запытаўся Вацік.— Па-мойму, ён да кулакоў не падыходзіць?

— А па-мойму, таварыш Такарскі, падыходзіць.

Харытона апанавала найбольшая злосць:

«Што ты заступаешся і мне свае ўказы падаеш: падыходзіць ці не падыходзіць».

І ён гаварыў.

— Пра муравейнікаўскага кулака,— зіркам слізгануўся Харытон па Вацікавым твары,— таксама магу даць маё паведамленне. Хаця табе, таварыш Такарскі, звесна не менш як і мне.

Узяў Харытон з пакамечанага папяроснага пачка сплюснутую папяросу. Нервова шаргануў сярнічкаю па абцёртаму карабку — прыкурыў. Усім дымам папяросным зацягнуўся: дым ішоў растрэсенымі пасмамі праз нос, як вада праз лейку, а ён гаварыў:

— Хто не быў тады на сходзе ў Муравейніках і не чуў, як гэты самы Кляўко, ці, як яго празываюць усе муравейнікаўскія,— Слямзак (а гэта таксама пра неваўшта гаворыць), ён Слямзак,— выступаў супроціў калгаса? Таварышы! — гэта ж вачавідны кулак! Злосны кулак, які лезе праз усе шчыліны, які зрывае нашы сходы, які, каб прымеў, ураз пайшоў бы на знішчэнне нашай працоўнай савецкай улады! Такога, таварышы... увесь сённяшні прэзідыум,— даўно трэба было выкарчаваць, каб не асталося яго насення. І мы, таварышы,— тым больш нашыя партыйцы з Чырвонага і камсамольцы — да гэтага часу, нічога не зрабілі: ніхто нават і ў галаву сабе не ўзяў, што вылазка класавага ворага будзе перашкаджаць у нашай працы. Гэта ж, каб ведаў хто,— нас трэ было б

аддаць пад суд. Дзе гэта відана, дзе слыхана ў свеце: раз'юшаны кулак зрывае сход, зрывае калгаснае будаўніцтва, а ўсе пазіраюць, і ніхто не маргне нават вокам. Таварыш Такарскі (я памятаю), ідучы тады са сходу, гаварыў, што не праведзена было сярод насельніцтва растлумачэння і што праз тое сход сарваўся. А таварыш Такарскі забыўся... у той жа раз забыўся, што гэты сход сарваў злосны кулак. Ён нават не абазваўся ні адным словам на такі, на такі злосна-кулацкі здзек!..

— А што там на сходзе было такое? — Юзік перапыніў раззлаванага Харытона.— Я ж нават і не чуў пра той сход.

Жар у папяросе заліўся цвёрдым попелам: стухла Харытонава папяроса. Не чуў, што яна стухла,— некалькімі разамі цягнуў за папяросны муштук і зноў:

— То ж, што зацерлі злачынствы ярага кулака і ніхто не чуў. Яго б даўно патрэбна было выслаць, каб ён не пазорыў нашага сельсавета. Яго б нават такога мала выслаць... гэта, па-першае. А па-другое...

Вочы Харытонавы ўзгарэліся пякучым агнём. Нястрыманая кроў ад празмернай узнятасці настрою падступала да Харытонавага твару. Кідаў раз-пораз злосныя зіркі на Вацíка — лавіў яго збянтэжанасцю зацярушаны твар. Тады яшчэ больш хацелася дапячы Вацікаваму твару: «Хай ведае, што я, хоць ты і гарадскі, а больш ведаю пра партыйную ўстаноўку».

— ...А па-другое,— гаварыў Харытон,— калі мы разгледзім, з якога карэння паходзіць сам Кляўко... Хто яго бацькі? — А яго бацька чалавек, што ўсё сваё жыццё пражыў з чужой працы. Праз увесь век сваю зямлю аддаваў у арэнду. Людзі рабілі яго зямлю, а ён жыў за пана, жыў арэндаю, што плацілі яму нашы сённяшнія, тыя самыя, калгаснікі! Дык хіба, таварышу Такарскаму мала гэтых кулацкіх выкрунтасаў? Калі таварышу Такарскаму мала,— раз-пораз стукаючы кулаком па стале, гаварыў,— калі мала... дык чаму ён да сённяшняга дня, гэты самы Кляўко, не ўступіў у калгас? Скажыце, Такарскі, чаму ён, я пытаю, не ўступіў?

Вацік голас растрос — няўпэўнена адказаў:

— Яшчэ шмат хто не ўступіў. Гэта не доказ. Другі інтарэс, калі ты кажаш пра яго, што ён гаварыў на сходзе... пра яго бацьку... Я ж нетутэйшы... Калі ўсё

было, як ты кажаш — канечне, ён падыходзіць пад кулацкую стаўку.

Харытон адчуў пасля Вацікавых слоў свой верх. Аж радасцю замжэлася нутро. У думкі свае пусціў вольнасць: «Шкода, што тут няма Міхлі: хай бы паглядзела ды паслухала».

Прыкурыў стухшую папяросу, сеў на скрыпучы канцылярскі тапчан, гаварыў заспакоена апаўшым голасам:

— Не, таварыш Такарскі, калі ў калгас не ўступіў гэты канец, што ты намякаеш, дык ты думаеш, што гэта не тая самая работа Кляўко? Яго, брат, работа. Ведаем, як ён падбухторваў спотайка хоць бы сабе і таго самага старога Лаўрэна. Ёсцека ў мяне... калгаснікі нашы, брат, дагледзяць, дзе што робіцца. Ад іх вока пылінка нават не схаваецца. Я вот пра ўсё гэта і напісаў раёну, і раён даў, значыцца, права на гэтых двух.

Нехта пастукаў у зачыненыя канцылярскія дзверы. Пружынаю ўзняўся Харытон з тапчана.

— Хто там? — не даслухаў з-за дзвярэй адказу, а сказаў: — У нас прэзідыум... Нямашака чаго там ламаць дзверы. Так што адносна,— гаварыў Харытон прэзідыуму,— адносна раскулачвання гэтых двух кулакоў, я думаю, супроціў нікога. Ды калі яшчэ, таварышы, узяць на ўніманне Кляўковага жарабца...

І да Такарскага:

— Таварыш Такарскі, ты бачыў Кляўковага жарабца? Гэта ж не жарабец, а воўк! Ён жа яго на вадапой, казаў Танцулька, не водзіць. І ў хату носіць ваду. Яго хата на дзве палавіны. Другая палавіна не скончана, дык там стаяць свінні і жарабец... Ён баіцца, каб яго не ўкралі.

Юзік запытаўся ў Харытона:

— А колькі ў яго ўсіх коней?

— Жарабец,— адказаў Харытон.— Ты захацеў, каб у яго былі коні? Кулак — хітрая птушка, і не вельмі ён будзе гнацца за лікам коней. От ты да яго па такой прычыне і з падаткам не прычэпішся: адзін конь, адна падатковая цана. А які гэта конь — ого, кулацкая хітрыка! Яна выкруціцца, як ты ні круці. Але дзякаваць богу, што наша партыя зрабіла раскулачванне. Даўно трэба было...

Зноў нехта нецярплівым стукам дзверы скалануў.

Аж затрэслася ў рамах шыбнае шкло: было дрэнна закітована.

— Схадзі паглядзі,— загадаў Марціну, які сакратарыў на прэзідыуме,— якая там трасца прэцца?

А калі Марцін праз хвіліну адчыніў дзверы, увайшоў у канцылярыю муравейнікаўскі Атрахім Супчык. Твар яго быў спуджаны непрытомнасцю. Вочы блукалі — шукалі на кім застанавіць свой спалох. Глядзеў то на Ваціка, то на Харытона і не мог скеміць, да каго падысці з гаворкай.

Марцін сказаў за Атрахіма:

— Няшчасце ў іхнім муравейнікаўскім калгасе.

Тады Атрахім набраўся смеласці, як развязаў Марцін завязаны Атрахімаў язык.

— Дайце ж рады, таварышыкі, няшчасце трапілася,— гаварыў і слёзы трымаў на вачах.— У гэтую ноч прапалі дзве калгасныя каровы...

Не дасказаў Атрахім Супчык пра здарэнне, як Харытон прыўзнятым голасам ударыў:

— Кулакова работа! Таварышы...

З-за стала вылез, на плечы ўскінуў кароткі свой кажушок, шапку схапіў і да Ваціка:

— Пойдзем на следства. Кулакова работа: ай-яй-яй! А вы гаворыце — няма кулакоў, раскулачваць не патрэбна...

— Пачакай! — спыніў Вацік.— Куды пойдзем?.. Паспеем... Усё роўна кароў тых не адратуеш.

Гаварыў да Атрахіма:

— Раскажыце, як жа трапілася?

Цяпер толькі Харытон узяў на развагу; зашпіляў у кажушку гузікі ды:

— Раскажы, таварыш Супчык. Як жа яно, такое, здарылася?

З нагі на нагу Атрахім пераступаў. То аднаму, то другому глядзеў у вочы. Раз за разам носам смаргаў.

— Як вам звесна,— казаў Атрахім,— каровы ж нашы калгасныя абагулены. І ўсе яны стаяць у адным, як вам звесна (у Танцулькі вялікі хлеў), у адным хляве. Дык вот на ноч, як трэба, іх і пакармілі і напаілі... Яны і здаровыя былі ўсе. Аж калі на ранак пайшлі Банадысіха з Старавойціхай даіць (яны ж у нас лічацца даяркамі), дык як увайшлі ў хлеў — уголас адразу: «А мамачкі, а бацечкі — з каровамі нешта парабілася». Прыбегла да мяне Банадысіха ды

як нарабіла ляманту... І ўжо ж што-што — каб каго другога прапала! Каб, скажам, мая... А то, ведаеце, якраз і Старавойтавых і Танцулькавых.

— Дык тыя каровы, значыцца, ёсцека? — запытаў Харытон.— Я мысліў, як ты кажаш — «прапалі», украў хто-небудзь з кулакоў... Ты ж бы так і гаварыў: здохлі дзве каровы. От дзівачны чалавек! Ну, здохлі, і чорт іх бяры... Што ж па іх, па-твойму, галасіць?

— Канешне, не галасіць...— засаромеўся Атрахім,— я кажу пра Старавойціху...

— Знаем мы такіх Старавойціх...— адказаў Харытон.— Курыца ў яе здохне — і яна табе налямантуе на ўсё сяло.

Вацік стрымаў маўклівасць: у яго нутро чамусьці закрадалася трапятлівая неўразумелая падазронасць.

## V

Зводніца-думка скрэблася маленькімі кіпцюрамі — рупіла ўсё Вацiку. Калі ішоў ад Міхлі, гаварыла яго сэрца: «Не-э... Яна не такая, як я пра яе думаў... Яна другая».

Шукаў пасля, каб знайсці, чаму не такая Міхля. Хацеў пэўнасць надаць свайму пачуццю — сцерці ▮ яго незразумела ўстрывожаны непакой і не мог. Тады прымушанаю цвярозасцю доказы сам сабе падносіў: «Не пара, як кажуць. Яна і я — людзі мы, бадай, двух канцоў свету. Яна любіць, бачу я, салодкае, а я люблю, як той казаў, кіслае. Натурамі мы не падыходзім. І Харытон хай не спаганяе на мне сваёй злосці. Хай сабе, на здароўечка, жэніцца. Я дапамагу нават, калі яму трэба. Яна, можа, нават і добры чалавек... і прыгожасці мае шмат. Але ж... што-што, а нават гэты яе на мезеным пальцы пазногаць... Прыкрасць... Толькі, як сядзеў з ёю на крэсле, убачыў упершыню гэты доўгі, завостраны, белы як смерць, пазногаць...»

Ото ж праз некалькі дзён мітусіліся думкі густою мяцеліцаю.

Вацiку рупіла шчэ і другое: сон, што сніла ды расказала Вацiку ў той вечар.

«Для чаго яна казала? — шукаў Вацік думкамі.— Што яна хацела сказаць пра трох павешаных?»

Вацiку прыйшло на ўспамiнак: дзядзька Вацiкаў, Ясь Рымашэвiч, таксама расказваў пра павешаных. Было гэта, як Шкуро заняў на некалькi дзён сваёю бандаю Варонеж.

«Увесь горад быў апустошаны,— казаў дзядзька Ясь.— Людзi хавалiся па скляпах, па падвалах. Жанчыны вельмi цярпелi здзекi ад шкураўскiх салдатаў. А сам горад папялеў у агнi. Як дзень, як ноч — гарцавалi па горадзе шкураўскiя коннiкi. Колькi, колькi было павешана тымi катамi, замучана людзей!»

Нiяк не мог забыцца на адно, вельмi жудаснае, усё жыццё дзядзьку Яся працiнаючае здарэнне.

«Было,— казаў Ясь,— у тую самую ранiцу, калi Шкуро ўварваўся ў горад. На скорую руку, каля будынка, дзе жыў камендант горада, былi ўкапаны тры слупы — шыбенiцы. Людзi абыходзiлi палахлiвае месца другiмi кварталамi. Але ўзлаваныя бандыты, каго дзе захоплiвалi, гналi да тых шыбенiц: каб глядзелi, як будуць вешаць людзей-камунiстаў».

I ён, Рымашэвiч, быў у тым назганяным бандытамi людскiм натоўпе.

«Стаю гэтак,— казаў Вацiку,— дрыжу ад страху, гляджу, што будзе. Аж (таксама, як у Мiхлiным сне, разважаў Вацiк) народ расступiўся,— казаў Рымашэвiч,— а я i ўбачыў: вядуць нашага каменданта горада, значыцца, таварыша Лiнчыца (такi добры, такi малады быў чалавек). А за iм — вайсковага з нашыўкамi на рукаве, i трэцi, гэтакi нiзенькi, у падзёртай ватовай свiтцы. Я i забыўся паглядзець, хто там вядзе iх, як вядзе. Убачыў трох гэтых чалавек, што iшлi на вiдавочную смерць, i мяне апанаваў халодны страх. «Завошта?» — маўклiва зрывалася ў кожнага чалавека горкае запытанне. А Лiнчыц стаў на табурэтку, паглядзеў на людзей ды кажа: «Апошняя мая да вас, таварышы (гэта да нас усiх), апошняя просьба: не даруйце за нас, загiнуўшых, гэтым азвярэлым катам!» I адзiн з тых катаў надзеў на шыю пятлю. Афiцэр, што прывёў iх пад камандаю, не сцярпеў: падышоў да табурэткi i выбiў яе сваiм ботам з-пад ног таварыша Лiнчыца. Я на той момант проста быў заплюшчыў вочы. А калi зноў зiрнуў — афiцэр разгушкваў на вяроўцы нежывога Лiнчыца. Ад свежай укопкi варушыўся слуп, а вяроўка ўгары, калi гушкалася на ёй нежывое цела, скрыпела, як качэлi. Афiцэр стаяў пля-

чыма да мяне,— казаў дзядзька Ясь,— а калі адыходзіў ад разгушканага цела, павярнуўся сваім тварам. Якое гэта было жахлівае спатканне! Я спазнаў афіцэра: гэта быў сын нашага Таканскага — Вячаслаў».

Цвярозаю памяццю ведаў Вацік, як жылі яны,— здымалі кватэру ў камяніцы Таканскага. Сам Таканскі быў натарыусам — добры знаёмы быў губернатара Зомбара. Цяпер паўстаў перад Вацікам увесь той дзень, калі была поўная камяніца вэрхалу. Гэты самы Вячаслаў, ці, як звала яго матка,— Вальдэмарчык, разбіў сабе шчаку на лёдзе. Любіў вельмі ездзіць на каньках і ўпаў быў. Колькі было тады ў натарыуса Таканскага клопату над сынам! А потым была вайна... Малады Таканскі па сваёй волі пайшоў на абарону бацькаўскай камяніцы. Чуткі адны хадзілі былі па горадзе, што маладога чалавека недзе пад Кішынёвам забілі. Другія чуткі спотайка хадзілі, што чалавек папаўся дзесьці ў палон... Ясь Рымашэвіч і спыніў хадзячыя чуткі. Ды не толькі адзін Рымашэвіч, а і другія людзі, хто ведаў Вальдэмарчыка, гаварылі пра маладую адважнасць каля тых варонежскіх шыбеніц. Не маглі людзі толькі аднаго зразумець: як змог вярнуцца малады Таканскі.

Дык вось што перадаў Ясь Рымашэвіч свайму пляменніку пра знаёмага некалі чалавека, а Ваціку, пасля Міхлінага сну, узяло ды на ўспамінак узбрыло. Дык і думалася Ваціку і зразумець не мог: чаму звёрзся дзяўчыне гэты сон?

А Міхля ў тую ноч аж да раніцы не самкнула вокам.

«Якая я неасцярожная! — думала пра వаціка.— Што я нарабіла... Хаця б ён не здагадаўся чаго. Ён зусім не ведае нічога. Гэта зусім не той чалавек! Таканскі і Таканскі... Гэта падобнае прозвішча звяло мяне з толку. Я, бадай, пачынаю тут вар'яцець. Гэта — жахліва! Гэта — немагчыма! Я павінна нешта рабіць... адна. За ўсіх нашых рабіць і за сябе рабіць. І зраблю! Дачка Красінскага не дазволіць, каб нейкі вырадак ганьбіў яе бацькоў! Ніколі не дазволіць!»

Тая ноч вельмі змарыла яе. Яна ўскрыквала скрозь сон, яна кідалася на ложку, камячыла сваю пуховую падушку. І цешыла сябе толькі адною, ледзь тлеючай думкаю:

«Добра, што я гаварыла яму пра гэта, як пра сон.

Магла ж я такі сон сасніць. Канешне. А ўсё ж такі я і асцярожная...»

І ўсімі днямі пасля таго вечара насіла Міхля ў сабе роспач. Плакаць хацелася, скардзіцца на свет, на людзей ад празмернай злосці, а не было слёз.

От ужо каторым годам марнее яе чалавечнасць у гэтай вёсцы. Адарвалася ад свету, ад людзей. Яна не жыве, а нясе крыжовую пакуту.

Калі сціхлі апошнія гарматныя ўзрывы ды асталяваліся межы — Міхля асталася асколкам шкураўскіх людзей. Было іх сем чалавек. Разышліся ўсе па сваіх дарогах... Разыходзячыся, далі сабе моцную прысягу: весела сустрэцца ў доме пана Отона, што стаіць на рагу Нікіцінскага праспекта.

Развітваліся і гаварылі:

— О, які будзе бал! Пан Отон не пашкадуе нічога для нашай сустрэчы!

І вось колькі ўжо адлічана гадоў з іх жыцця... А якое жыццё неміласэрнае — літасць сваю згубіла, надзею пад ногі падтаптала. Ды як скамячыла, як апаганіла жыццё красуню-надзею! А спачатку расцвітала жыццё лапушыстаю кветкаю. І маладосць была непадатлівая ў яе руках.

З Вацікам стрэлася,— гадавала з таго часу думку: «Свайго сустрэла чалавека... Разам будзем працаваць... Я ж тут адна адным. Каторым годам чакаю гэтай змены... (Добра, што прыходзіцца Танцулька нейкім родным... бацькі мамінага дваюрадны брат.)»

Тлела ў Міхліным розуме развага: «...Спішамся з Віктарам. Грошай нам прышлюць... О-о, калі будуць у нас грошы... тады мы калгасы гэтыя «закантрактуем»... Бурбалкамі зробім іх на дажджавой вадзе. Пройдзе дождж, і — бурбалкі палопаюць... Тут можна было б знайсці людзей, ахвочых да грошай... Ды і чакаць было б карацей... Божа мой, як абрыдзела быць закутай са сваімі думкамі, з пачуццём. Жыццё ўкарачаецца ад такога жыцця. А яно ж і так кароткае нашым векам».

Радасцю праз увесь час імжэла Міхліна адчуванне: «Дзядзька Танцулька ў калгасе... і я ў калгасе. Пан Отон некалі, як мы асталіся сярод бальшавікоў у Варонежы, гаварыў: «Мы як той шнур, што падведзены да дынаміту: будзем гарэць, аж пакуль не лупне цэлы агонь».

Прыйшлі да ўспаміну Міхлі Танцулькавы словы — дачуўся Танцулька пра Булгакаву бяду — цешыў Міхлю, гаварыў: «Добра гэта, і вельмі добра... Час той бліжэй падыходзіць, калі мы выйдзем з калгаснай агарожы. А гэта калгасная агарожа хоць і заканурак, а жыць можна... На ўсё ёсцека, сястрыца, на свеце свой час: дасць цяпер бог, бунты пойдуць праз гэтыя калгасы.

Паглядзіце сабе,— казаў,— хоць бы на другі канец Мурaвейнікаў: бачаць наша жыццё, і ты іх не загоніш калом. А яшчэ ж усяго толькі тры каровы адышло. Пад весну, я мыслю, больш надзяром скур. Сена не дакасілі... ды і скошанае — прэе ў стагах. Харчоў да вясны (божа бронь!) — не хопіць. А жыта гэтых шэсць пудоў з'ядуць — трэба будзе ставіць гаворку на праўленні, каб хлебанарыхтоўкі нашы здаць больш як на сто... на сто адзін, скажам, працэнт. І нам будзе прыемна, і ўладзе ахвотна будзе глядзець на нас. Ды калі б збожжа згнаіць, змарнаваць, тады кулака свайго не ўкусіць ніхто: дзяржава, мае даражэнькія, наш хлеб забрала. Ага! На тое ж гэта і калгас. А што вы, мае даражэнькія, думалі! А дрэннае, як той здохлы тхор,— далёка чуваць сваім пахам. І гаварыць не трэба: работа сама за сябе будзе гаварыць. Вось табе тады і будзе пшык. А мы гэтым часам і прыплывем да нашага берагу.

Вы, Міхаліна Дамінікаўна, сваё ведаеце: каб спадцішка, каб па кавалачку, а мы — сваё. Прыязджаю тады з горада (едучы ўжо ведаў — трэба шукаць ратунку), аж мне Банадысь і падносіць: «Сход быў, у калгас звалі, не захацеў ніхто...» Эх ты, думаю сам сабе, галава твая замарынаваная, не захацеў ніхто, не захацеў... Давай, кажу, я першы іду... Аж вочы быў вышчарыў. І вунь як добра цяпер, што сабраў тады людзей...

Хоць і прапіў тады сёе-тое, а жыццё, кажу, абгарадзілі. Паспрабуе хай цяпер хто ўпікнуць... Той самы Слязмак — слова не скажа. Ускочыў, ліханька, як у памыйніцу, і цяпер будзе аблізвацца. А калгасы, сястрыца, хай робяць. Толькі каб такія, як наш... Па-мойму, Харытон умее рабіць, а гэты Вацік-шмацік шкодзіць толькі яму».

«І ўпраўду — шмацік,— гаварыла Міхля сваімі думкамі.— Я цяпер ведаю, што мне рабіць... Я сама з

ахвотаю выбіла б з-пад ног табурэтку... так, як выбіваў Таканскі таму гарадскому каменданту».

Сустрэла днямі Ваціка на гэтым канцы Муравейнікаў, ехаў з Журам, мусіць, у раён. Разміналася з фурманкаю, дык здалося Міхлі: наўмысна павярнуў галаву да Жура. І не бачыў, што ішла яна па вуліцы. Во як загарэлася тады нутро. Драцяным холадам застылі жылы — кроў бегла па жылах перабоістымі штуршкамі. Хацелася крыкнуць на ўсю вуліцу, каб аж задрыжэла ўсё. Але сцяла зубы, прашаптала з пякучым болем:

— Прыйдзе на цябе канец... Няхай!..

## VI

Дарога, што злучае Муравейнікі з Берчукамі, лічыцца за тры кіламетры. Ніхто яе меркаю метроваю не мераў, а вокам чалавечым яна змерана. Выйдзеш за Берчукі, а яна адразу гару забірае сабе пад ногі. Пойдзеш праз гару — лагчынаю нырцуе, а потым — зноў карабкаецца на гару старою бабаю. Так і куляецца яна цераз узгоркі, аж да самага лесу, што Муравейнікі трымае пад вартаю. Ото ж і ехалі на Антонавым палукашку гэтаю дарогаю: Харытон Мамчыц, сакратар сельсавецкі Марцін, член берчукоўскі Юзаф, Вацік ды Міхля (яна была ў берчукоўскай краме, і яны для яе падводаю трапіліся да Муравейнікаў).

Зіма ўжо асталявалася. Сёння трыццатым разам снег пабелу сваю налажыў і на платы, і на стрэхі, і на самую дарогу. Зранку вецер быў усхадзіўся — хмар панаганяў з усяго свету. А цяпер, пад вечар, хмары тыя ў цёмную гушчу сабраліся, віселі прырыхтаваныя напагатове пад самым небам. Пільнавалі хмары некага, каб ухутаць яго сваёю мультановаю посцілкаю.

— Бадай, ці не падбавіць снегу нанач,— сказаў Вацік.

— А чаму ж яму не падбавіцца,— клінам уставіў Харытон і дадаў: — Твайму снегу.

Антон счуў гаворку,— сам далучыў свой голас.

— Матушка-зіма...— сказаў Антон.— Надышла яе, так сказаць, порушка... Н-но!

Конь сыпаў аскабалкамі снегу на перадок палукашак. Выкідаў яго з-пад ног непатрэбнымі грудамі, фыркаў сустрэчнаму ветру — дружную раскідаў па

дарозе рысь. Толькі шчокатам шчокі абдаваліся ў ездакоў.

Харытону, от гэтак седзячы, пад стрэчны сіверны вецер, хацелася пець песню. Хай разносіцца голас бясплатным сіверам! Ды чаму ж і не пець, калі воля ў сваіх руках. А хто волю даў? Сам Харытон, хоць і не быў па сваёй маладосці на фронце, а палец прылажыў на здабычу дарагой волі: у абозах быў аж пад самаю Варшаваю. А хіба мала гаварыў на сходах пра здабытую волю, а хіба не сельсавецкі ён старшыня, калі выбраны другім годам? І ён будзе да канца стаяць за волю: цану яе Харытон ведае.

І яшчэ.

Хай бачыць Вацік, як ён сядзіць на задку палукашка з ёю, з Міхляю. Бок з бокам каля Харытона Міхля. Ён адчувае, як туліцца яна сваім целам — бярэ з прагнасцю цяпло яго цела... Яна так блізка ніколі каля яго не сядзела...

І гэта пасля таго вечара, калі злосны пайшоў ад Міхлі. Назаўтра сустрэў быў Міхлю, а яна такая стала ветлівая... Харытону запала ў думку: «Мусіць, не пайшоў ёй Вацік на спадобу. Убачыла нашу між ім розніцу. Такая гаварлівая са мною... Не пазнаеш, што гэта яна тая самая. Дарма сабе, што ён гарадскі... Мы таксама ўмеем абыход зрабіць па-гарадскому. І гэта заўсёды так: чым больш сябе будзеш паважаць, тым больш дастанеш і ад людзей павагі. Добра, што бразнуў тады дзвярыма і пайшоў: яна вельмі чулы чалавек.

Учора гэтаксама на Малінаўках былі: Булгака вагою падварушылі. Думаў Булгак, што да яго прыехалі на гасцібу — бараніў ад сабакі, калі ўзышлі на двор. Калі ж у хату зайшлі ды меркаванні выклалі пра прыезд, снегам пабялеў Булгакавы твар. А проціву — ані кроплі. Ходзіць па хаце ды: «Апісвайце, калі маеце права,— хе! Высяляйце, калі маеце такі закон...»

Пяць кулькоў солі молатай знайшлі на гары. Запас зрабіў, ліханька. Вайны чакаў. Думаў, што, калі вайна пачнецца, не будзе солі...

Дык дзіва што Харытону песню хочацца выпусціць на аснежаныя прасторы. І ён кажа да цэлага воза людзей:

— Спяем... Давайце што-небудзь такое марознае, як гэты сівер. Люблю я, калі едзеш і конь абкідае ця-

бе снегам. Га? Яй-богу! Тады ў цябе ўсярэдзіне ўсё варам варыцца. Да чаго добрая штука жыць на свеце і працаваць...

Міхля паварушылася каля Харытона, сказала:

— І кулакоў раскулачваць...

— І кулакоў...— пераказаў Харытон.— Калі трэба — і раскулачвай, а што ж бо...

Вацік заўвагу падаў да Харытона:

— У цябе, брат, сёння, вельмі дужы настрой.

Харытону кінулася Вацікава заўвага: «Міхляю мяне ўпікае. Дзьмецца, што побач з ім не села».

Адмысловым іголістым словам кальнуў Харытон Вадіка:

— А чаму яму, майму настрою, не быць дужаму? Што я — матку ці бацьку пахаваў? Ды як сказаць... маладосць, таварыш Такарскі, мерзнуць не хоча...

Хацеў паказаць Вадіку, што ў яго хопіць і волі і сілы, на што хочаш. Ён не будзе галавою ныць, «хоць і не гарадскі ён чалавек».

«Учора раскулачылі малінаўскага Булгака, а сёння мурaвейнікаўскага кулака — і ў мяне рука не здрыганецца. Хай бачаць і калгаснікі нашы, як мы з ворагам змагаемся...»

Калі думкі былі ў Харытона пра калгасніцкую радасць,— Міхля не зыходзіла з уяўлення. Здавалася яму — яна бачыць яго работу і ён шчаслівы чалавек, што яна бачыць. І гэта перад Вацікам. Тады яшчэ большая падшыхала ахвота. Рукі абдаваліся свербам да работы. Хацелася зрушыць з месца цэлую гару, злітую ў адзін скалісты камень.

«Во паглядзіце,— хацелася крыкнуць на ўвесь свет,— я дужы чалавек, я маю ў сабе шмат маладой сілы і кахання!»

І Харытон, наперакор Вадіку на яго ўпікі пра «настрой», запеў на ўвесь голас:

Са-а-ма садзік яй садзі-ы-ла,
Сама буду й па-а-ліваць.
Гэй — сама хло-о-пчы-ы-ка любі-ы-ла,
Са-а-ма бу-у-ду й разлюбляць...

. . . . . . . . . . . . . . .

Вецер падхапіў склады песні, растрос іх, разбіў на паасобныя кавалкі — зацёр у маленькай снежнай завірусе. А Харытон пеў:

...Ой, што ж гэ-э-та ды за садо-о-чак,
Сад зялё-о-нінькай тако-ой,
Ой, што ж гэ-э-та за малойчык
Распракра-а-снай, удалой...

Слухаў Вацік, як песня ўдаралася глухім голасам у снегавую замець, і яму ніякавата было ад гэтых песенных удараў.

«Чаго крычыць поначы, нібы ўпіўшыся? — думка вярзлася ў Вацікa.— Што толькі не ўзбрыдзе чалавеку на розум».

А конь то ўзнімаўся на ўзгорак, то збягаў у лагчыну — сані ішлі ад разгону ўхабістым бокам.

...Калі прыехалі ў Мурaвейнікі, праязджаючы каля Танцулькавай хаты, Міхля сказала:

— Суніміце, Антон, каня: я злезу.

— Паедзем,— сказаў Харытон.— Паедзем, як сведкаю ад калгаса. Нам жа ўсё роўна трэба панятыя калгаснікі.

— Каго-небудзь другога, можа...— хацела супярэчыць. Але Харытон да Антона:

— Едзь... і проста заязджай на Кляўкоў двор.

Конь ірвануў рысаваным ходам. Агні замігацелі на пераплёцістых хатніх шыбах. І здавалася Харытону...

...Едзе ён з маладою сваёй з загса. От яны зараз пад'едуць, а іх будуць сустракаць... з гармонікам, з вясельнымі песнямі... Яны пойдуць у хату, а іх вітаць будуць. Потым і ён скажа прывітанне да стрэчных...

Праміналі Петрыкаву хату — з-пад падваротні выбег ды моцным брэхам праводзіў сані Петрыкаў Францік.

Нехта стаяў на вуліцы — ламаў на кавалкі цемраю ахутаны свой зірк: спазнаваў фурманку. Цераз вуліцу праходзіла ўпоцемках неспазнаная жанчына — адхінулася, дала дарогу.

А ў Харытона не адліпала жаданне.

Хай бы яшчэ мацней бег конь па калгаснай вуліцы... Хай бы пазіралі... бо вельмі добра, што цёмна: не спазнаць, хто едзе, а моцна едзе. І ў гэтым яшчэ больш для невядомага чалавека зайздрасці.

Але суцішыўся разгон: Антон лейцы напяў — суняў каня каля самай хаты, дзе пражывае Кляўко.

— Пойдзем у хату,— сказаў Харытон.

І да Антона:

— Ты ўз'язджай на двор: прывяжы каня ды ідзі ў адрыну — падкінь каню канюшыны. Можа, і забавімся, дык хай перабірае.

Ужо на ганку, ногі атрасаючы ад снегу, Юзаф заўважыў:

— Калі дочкі ёсцека ў Кляўко, падумае, што сваты прыехалі...

Міхля ўсміхнулася сама сабе,— сказала:

— Вам жарт наўме, а чалавеку і вунь нават якая бяда...

— Загаварыла жаночае сэрца пра бяду,— адчыняючы ў сенцы дзверы, сказаў Харытон і дадаў: — Заходзьце!

...У хаце не засталі самога Міхася. Міхасіха праказала:

— Паехаў у Прыстань, да свайго брата.

— Чаго ж ён да брата? — запытаў Харытон. Міхасіха не счула, а гаварыла:

— Сядайце. Адкуль жа гэта саміх бог нясе? Мо ці не сход будзеце збіраць?

Харытон спотайку кінуў зірк на Міхлю, гаварыў да Міхасіхі:

— Не-э... Дрэннавата, што мы не засталі яго дома.

Да стала прысеў — пальцамі перабіраў па голым стале, паўголасам гаварыў да Міхлі, да Вацiка свае меркаванні:

— Прыйдзецца без яго... Ён для нас і не патрэбен... фактычна. Апішам і скажам... Яна дасць сваю распіску аб выездзе... Па-мойму, ім можна будзе жыць, дзе яны захочуць... абы не ў нашым сельсавеце.

Міхасіха, крошкі з стала сціраючы трапачкай, не ведала, пра што ўпаўголас гавораць людзі,— сорам за сваіх дзяцей паказала перад Міхляй.

— Прабачайце,— сказала,— дзеці, не раўнуючы, як тыя свінні: і глядзіш за імі, і кожнаму паасобку ўвальеш, а яны патом увесь стол запэцкаюць. Дык ужо абруса і не засцілаю. Дзе ж вы бачылі: не намыешся, рук не хопіць...

Харытон перапыніў Міхасіху, ды ўстаючы ад стала:

— Нам трэба зрабіць вопіс... вопіс вашай, так сказаць, маёмасці. Дайце нам ліхтар, і мы пойдзем гуртам, агледзім, запішам...

— Ноччу ды з агнём...— паглядзела жанчына на Харытона.— Як жа гэта?

— Вы не бойцеся,— сказаў Харытон.— Мы не закінем агню, мы ж не дзеці...

— Дык жа там у каморы і кудзеля на вышках... Яна ж, абы прыткнуўся, як порах... Чаму ж вы, мой Харытонка, завідна не прыехалі?

— Часу, цётачка, не было...

— Ужо ж у Банадысёвых ды ў Танцулькавых рабілі вопіс?

— У іх і рабіць не будзем.

— Чаму?

— Яны — калгаснікі.

— А для чаго ж гэта пішаце некалгасных?

— Як апішам, цётачка, тады і скажам.

І да Марціна:

— Бяры папку.

Потым да Юзафа, да Міхлі:

— Пойдзем...

На пяколку сядзеў Міхасёў Юзік, у адных кужэльных штанах, сарочка з такога самага кужалю, толькі манкеты прушчынаю аблямаваны... Сядзеў і не хацеў сябе паказваць перад чужымі людзьмі, каб сораму не набрацца за сваю вопратку.

А Міхасіха:

— Юзічак,.. дык ты, Юзічак, злезь ды прайдзіся, калі ўжо так трэба.

— Трэба, цётачка,— сказаў Харытон.

Яму ішла на спадобу гаворка з Міхасіхаю. Хацелася, каб яна аж да канца не ведала, чаго яны прыехалі, што хочуць рабіць тым вопісам. Але Юзік здаўмеўся пра Харытонаву работу. Забыўся на сваю вопратку — з пяколка саскочыў на падлогу босымі нагамі.

— Мамка... гэта ж яны прыехалі...

Юзік пачуў Харытонавы словы, што гаварыў ён Вацiку над сталом паўголасам.

— ...Гэта ж яны прыехалі,— сказаў Юзік,— нас раскулачваць...

Харытон не чуў, што сказаў хлапец, выйшаў ужо за дзверы. Міхля выйшла за Харытонам, вынесла з хаты паведамленне.

— Яны ўжо здагадаліся, які вопіс,— сказала Міхля.

І што сказала яна — радасцю было для Харытона. Не самыя словы радавалі, а яе голас: от ён нешта робіць, а яна каля самаго яго... так добра...

Ліхтар запаліў Харытон, вачыма лавіў, што перад ім было, дыктаваў сакратару Марціну, як настаўнік для вучня дыктоўку.

— Пішы,— казаў Харытон,— от стаяць дзве парожнія дубовачкі...

...Вацік не пайшоў у сенцы з Харытонам,— астаўся ў хаце. Сядзеў на новым, ад смалістага паху не выцерпым тапчане і не мог разблытаць сваіх думак. Блукаў тупым зіркам па водбліскаx курадымнай газоўкі — бачыў хатнія рэчы, як скрозь імгліста-золкі туман.

Міхасіха гаварыла Ваціку:

— ...Век зжылі — нікому вока не зацярушылі. Нам людзі і сёе і тое, а мой жа Міхась... Суседзі ўсе нас ведаюць. Завошта ж, людцы мае... Што ж мы — нягоднікі ці арыштанты? Ці ж мы зладзеі? Чалавек наш таксама не тое, як другія — аблае цябе ні за што, шкоду наўмысна зробіць...

Калі прыглядаўся Вацік, бачыў у суцэльнай выразнасці: бервяно над самаю бэлькаю каржаватае, відаць, было ў маладосці, не паддалося старасці, не асела. Ад таго і пайшло яно на выступ з усяе хатняй сцяны. Тады думалася Ваціку: «Падняць бы два вянкі верхніх на вагу і яго на сваё месца загнаць дубоваю «бабаю».

— ...Мы ж, як той казаў, і падатак, і штрапоўку, калі прыслалі, колькі трэба было і здалі. І ніхто гэта, каб супроціў падатку, каб супроціў штрапоўкі. Прыслалі нам у леташнім годзе падатак трыццаць сем рублёў, і ў леташнім мы заплацілі. У гэтым годзе, я ж кажу,— дваццаць шэсць рублёў і шаснаццаць капеек. Мы ж, калі трэба, і яшчэ рублёў некалькі змаглі б агараць. Колькі нам прыслалі — мы ж і заяўленняў ні сёлета, ні летась на збаўку, гэтак як, скажам, другія, не падавалі. Міхась мой кажа, калі трэба пасля вайны будавацца нашаму гасударству, дык і памагчы трэба, а як жа...

«...Бервяно гэта загнаць дубоваю «бабаю», а потым хату атынкаваць... Дык і прусакі ўраз звяліся б... А то ж іх так шмат бегае... А яны ж такія пладлівыя... Недзе напісана было, што адзін прусак дае прыплоду ў суткі больш як тысячу штук. Ах, колькі тут іх, шмат!»

— ...Вы ж, мусіць, майго Міхася ведаеце? Яны ж удвух з Юзікам у вас, у Чырвоным, рабілі гэтым летам сырабойню. Ён, ведаеце, можа і зрабіць хоць што. От што ні возьме, дык у яго руках яно гарыць. І гаршчок — от бачыце, вунь на прыпечку,— гэта ж яго ра-

бота. Як уцісне дротам, вада нават і не капне. Коўш сам зробіць. Скавараду здрылюе... у яго і дрыль свой ёсцека. І дрыль, думаеце,— сам зрабіў. Начоўкі, цабэрачак або ражачку зробіць. Бо хто ж яго ўсяго, калі б прыйшлося, накупляўся.

«...Печ таксама, каб абмазаў шчыльна, каб выбеліў — паадпадала гліна. Дзверы ў шафе патачыў шашаль... Завеса выпала з дзвярэй... Яны, як адчыняць іх,— трэба прытрымліваць, каб не ўпалі. А як закурана ад гэтай іхняй газоўкі столь... Газоўка шмат такі дае дыму».

— Скажыце, таварышок, што ж вы з намі, як зробіце апісанне, будзеце рабіць? Ці нам трэба куды-небудзь заяўленне пісаць, ці нам...

Вацік хацеў быў адказаць. Глядзеў на Міхасішын каптан, што быў крыссямі заткнуты за паясніцу. Крысо адно ў каптане было прадралася. (Міхасіха ўсё збіралася, каб даць адмысловую латку на тое крысо. Часу не магла падабраць. Дык падаткнула, каб не так кідалася яно чалавечаму воку.)

Так і не сказаў Вацік: хатнія дзверы адчыніліся, і ўвайшла ў хату камісія па вопісе.

Харытон, як правадыр,— наперадзе за ўсіх.

— От і апісалі...

І гаварыў да Марціна:

— Пішы, садзіся, акт вопісу.

Прайшоўся да стала, кінуў на Вацікa скрыўленую ўсмешку, а потым згладзіў яе тонам таварыскай заўвагі:

— Чаму ж гэта ты не пайшоў?

— Хопіць і без мяне,— адказаў Вацік.— Вас жа там і без мяне было.

— Было, а прадстаўніка ад рабочай масы і не было...

Тады ў Вацікa ўзнялася рыхтаваная праз увесь час навальнічная злосць. Хацелася тут перад усімі столькі нагаварыць яму, Харытону... Хай ведае, што не патрэбна Вацiку Міхля. Ён нават ненавідзіць яе. Яна, як тая вужака, залазіць у чалавечае нутро, каб яго дашчэнту згрызці.

Марцін пісаў, а Харытон гаварыў яму, якімі словамі пачынаць акт. Вацік глядзеў на Харытонаў чырваню зардзелы твар, на яго прыўзнятую верхнюю губу, на павуцінне, што начаплялася на шапцы, калі лазіў на

Кляўковыя вышкі. І яшчэ большая нянавісць ад гэтага ўсяго расла на Харытона. Тады было ў Вацікавых думках: «Гэтак, як ты хочаш, мой братка, не будзе. Даволі, хопіць нада мною кпінкі строіць. Не для таго прыслалі нашы рабочыя таварышы, каб мірыў я цябе з Міхляю. А я яе і знаць, і ведаць не хачу».

Дзе ні быў на сходах па ваколічных вёсках — усюды ўпікалі яму муравейнікаўскім калгасам. Заўсёды ж так: дрэннае бачаць перш-наперш, а добрае прамінаюць.

Калі гаварыў пра калгасную карысць, меў на ўвазе бродаўскі калгас. Хоць і малады калектыў бродаўскі, а паспеў паказаць сябе перад людзьмі ў дружнай рабоце.

На тым тыдні ехаў Вацік з Пячуркава цераз Броды. Конь бег дробнаю рыссю па бродаўскай вуліцы: Вацік спяшаўся, каб заспець пасяджэнне праўлення муравейнікаўскага калгаса. Вот ён ужо і на сярэдзіне бродаўскай вуліцы, вунь і Анісева хата, а вунь — Петрыкава... Вечар сунуўся з-пад стрэх, з вішанніку, з-за гумён, і Вацік не заўважыў.

— Пачакай! — пачуў ён нечы голас з Анісевага двара.

Тады лейцы напяў — каня стрымаў, а да яго падыходзіць Яўген.

Падышоў, паздароўкаўся ды:

— Як табе не сорамна, таварыш Такарскі, быць, можна сказаць, у хаце і не запытаць пра здароўе яе сям'і. Куды ты спяшаешся? Зайшоў бы хоць — паглядзеў бы нашай навіны. Мы ж збудавалі свінарнік. Пакуль што — сям'я ў ім з дзевяноста трох штук. Гэта ж цэлае было свята пасля каровінага хлява. Наша вёска і не сніла, і не марыла, каб мець такі свінарнік.

І сапраўды: ад такіх Яўгенавых слоў сорам абліў Вацікаў твар. Месяц, бадай, як быў ён у Бродах. Застаў толькі быў адзін голы зруб, ды і той без двух вянкоў. Аніськ скардзіўся Ваціку тады, што няма цвікоў, няма дрэва на гонты.

— І не ведаем, дзе дастаць,— казаў Аніськ.

Вацік параіў быў: «За дрэвам для гонтаў звярніцеся да парэцкага лясніцтва. Я пабачу лясні́чага Гарэліка — скажу, каб ён не тармазіў справы. А цвікі — трэба ехаць у горад».

Вацік казаў тады пра цвікі і ведаў: канешне, цяжкавата будзе дастаць колькі трэба цвікоў. Гэта ж не тое

што адзін на ўвесь раён будуецца ў Бродах свінарнік.

«Ды як жа так...» — было ў Вацікавых думках.

Каня завярнуўшы да плота, лейцы ўскінуўшы за стаўпец Анісевых варот, Вацік з Яўгенам ішлі цераз двор за агарод. Там наводшыбе, за старымі бродаўскімі будынкамі, быў новы, з пахам смалы, трэсак ды апілкаў пабудаваны свінарнік.

Ішлі, і Яўген гаварыў:

— Не хапіла б той елкі, што даў Гарэлік на гонты. Дык мы схітравалі: не гонты, рабілі, а драніцу дралі. І выйшлася яно, як і гонты. Наш Лявон Махавік кажа, што драніца нават не ўступіць гонтам. А цвікоў зусім мала дасталі.

— А як жа? — не сцярпеў Вацік.

— А так жа...— з усмешкаю казаў Яўген.— Калі чалавек захоча, заўсёды знойдзе выхад. Васіль такіх нарабіў цвікоў, што толькі дзяржы вуха. Дубовых. І як трымаюць,— эх!

Прыемна было тады слухаць Вацiку такую гаворку: хай паглядзяць, палюбуюцца — і муравейнікаўскі калгас, і берчукоўскі... Хай паглядзяць, які нават лад у іхнім свінарніку.

А Вацік і пра другі лад ведаў у бродаўскім калгасе.

Поле ўсё скібамі ў бродкаўскім калгасе накрылі на зіму. Аднаго карча бульбянага не пакінулі марозам на пацеху. Збожжа вымалацілі прывадною малатарняю сваім часам. Кароўнік паставілі на даўнейшай Саладухавай сядзібе. А лішнія калгасныя рукі паехалі на заработкі: дровы, шпалы падвозілі абозамі да шаснаццатага раз'езда. Дык дзіва, што не па шэсць пудоў, як у Муравейніках, прыпала на рабочага бродаўскага калгасніка. Бродаўскі Лявон Махавік гэтымі днямі быў у Чырвоным — да сваёй пляменніцы прыязджаў — гаварыў:

— Цяпер мяне парачом, ета, не выпасажыш з калгаса.

А калі вызначаную норму збожжа прадалі дзяржаве, грошы мелі на розную патрэбу ў кішэні. І зямля ж там куды горшая: каменіца ды прыбалоцце. І зямлі менш, і сілы — таксама.

Вацік Чырвонае паказваў перад сходамі. «Добра, што людзі блізкія і самі нават добра ведаюць пра Чырвонае. Не трэба і гаварыць. А людзям, калі сход праводзіш,— тады і дай, і пакажы: вазьмі адкуль хочаш, а

слоў адных не паказвай. Раззлуеш словамі, а карысці не дастанеш ні на адзін пазногаць. Дык хто ж вінаваты ў такой калгаснай рабоце? Чаму ж гэта тая самая работа, а не ў адну пару зроблена? Хіба ж там меней было дажджавых дзён? Хіба ж там, за пяць кіламетраў ад Муравейнікаў, сонца больш палажыла цяпла? А мо там другія жывуць людзі? Мусіць жа, другія, бо тыя празываюцца бродаўцамі, а гэтыя — муравейнікаўцамі».

Харытон цяпер паўголасам гаварыў з Юзафам. Міхля незразумелае тлумачыла заплаканай Міхасісе — дарыла ёй уцеху.

І от Марцін, з-за стала ўстаючы, сцішыў, блукаючы па хаце, словы.

— Зачытаем,— сказаў, пазіраючы на Харытона.

Харытон абазваўся да Міхасіхі:

— Цётка... ідзі сюды, ідзі да стала і слухай. Чытай,— сказаў Марціну.

Марцін трымаў у руках спісаную алоўкам паперу ды:

— Акт... Слухайце ж, цётка Міхасіха.

— Акт... акт тысяча дзевяцьсот... гэтага года. Мы, ніжэйпадпісаныя, а іменна старшыня Берчукоўскага сельсавета таварыш Мамчыц, сакратар партячэйкі — ён жа і прадстаўнік ад саўгаса «Чырвонае» — таварыш Такарскі, у складзе з панятым таварышам Крыгою Антонам, таварышам сакратаром сельсавета Кантончыкам Марцінам і прадстаўніком ад калгаса «Муравейнікі» Галінскаю Міхалінаю, агледзелі маёмасць грамадзяніна Кляўко Міхася, што пражывае ў вёсцы Муравейнікі, аб чым і запісалі ў гэты акт наступнае...

Міхасіха плачам пачала варушыць спакой. Марцін падняў ад паперы зірк і толькі адным момантам, зноў чытаў — пералік рабіў Кляўковай гаспадаркі.

— Цяпер: хлеў. У хлеве — дзве каровы і пярэлетак. Конь-жарабец (рублёў на трыста), у той хаце дзве авечкі, двое ягнят. Свіней — трое...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Харытон гаварыў:

— ...У дваццаць чатыры гадзіны. З нашага сельсавета вы павінны выехаць у дваццаць чатыры гадзіны. Мы пакідаем вам там, у мяшку, два пуды аржаной мукі, здор і таксама... можаце забраць таксама шынку. Упісанае ў акце калі за ноч прападзе што, вы будзеце аддадзены пад суд. Апісанае — цяпер не ваша.

Харытон сам першы палажыў подпіс на паперы, Калі ставіў апошнюю літару, развёў доўгі хвост свайго «ц». Потым кропку паставіў ды палачку лежабокую прыпісаў каля той кропкі.

— Расчыркуйся...— Як ні ў чым не бывала падаў гатовы акт Вацiку.

Сядзеў Вацік на тым самым месцы Кляўковага тапчана. Поглядам акінуў Харытона, калі клаў ён перад ім паперу. З тапчана ўстаў, перакорліва-ўзнятым голасам сказаў:

— Не, таварыш Мамчыц, падпісваць гэтага акта я не буду!

## VII

За ноч намяло гурбы снегу. Прыўдарыла, сілу сваю разамкнула сіверная зіма. Вецер шчэ не ўтаймаваўся пасля ночы.

Каля Скрыпунішынай студні — во якая была вялікая замець! З усяго поля, здаецца, вецер пазбіраў снег — злосць сваю сыпучую, вострую на некім спаганяў. Праз увесь ранак пракідала Скрыпуніха снежныя сцежкі. Цела замжэлася потам ад цяжкага шуфля (не было адмысловай снежнай лапаты — так і адкідала шуфлем).

Павэлчыха ішла вуліцаю на той канец, праз штакеты ўбачыла Скрыпуніху.

— Дзяндобры, сястрыца! — Калі, нагнуўшыся каля падваротні, адкідала снег, пачула голас Павэлчыхі.— Мужчынская гэта, сястрыца, работа,— сказала Павэлчыха.

Абаперлася Скрыпуніха на чаранок шуфля: рада была, што чалавек трапіўся — перадыхнуць можна на хвіліну.

— А-а... залаценькая: дай жа ты рады...

Ведалі абедзве, пра што трэба пачынаць гаворку, а не важылася ні адна, каб быць першаю. Тады Скрыпуніха парканула, шуфлем падправіла рассыпаны снег ды:

— Не была ж ты ўчора ў Міхася? — запыталася Скрыпуніха.

— Не-э... Я ж цябе чакала,— думала, што ты па мяне зойдзеш.

— Дай жа ты рады, залатая,— правяла пальцам ка-

ля носа. Шуфель уваткнула ў пакамечаную гурбу, да самых штакетаў ступіла старымі валёнкамі.— Падышла я, гэтак, пад акно...— гаварыла скрадзеным голасам,— думаю, разведаю, а тады ўжо зайду па цябе. Аж калі падышла я пад акно, калі зірнула... А тут мяцеліца, ліханька на яе,— свету божага не відаць — круціць, гудзе... калі глянула я ў шыбу — божухна-бацюхна — плачу поўная хата! Яна ж за галаву хапілася рукамі — галосіць... дзеці, чуваць, плачуць. А Харытон усё кулаком па стале за неашта стукае, і ўсё нешашта гаворыць, і ўсё невашта наказуе. Дык мяне аж страх апанаваў, хаду я ад акна. Ды сама сабе думаю: хаця б не прыкмецілі. Мала што, брыльянтавая: да нас яшчэ, думаю, гатовы прыкараскацца. Казала я ўжо свайму: пішыся, кажу, у калгас. А ён — ты ж ведаеш майго Кузёмку — ані блізка. От як сойдуцца з Журам, дык адно толькі і чаўпуць: «Пакуль Танцулька будзе ўпраўляць калгасам — не пойдзем». Хоць ты яму кол чашы на галаве!

— Дык што ж гэта цяпер будзе з Міхасём? — запытала Павэлчыха.

— Што яму будуць гэтым кулачаннем рабіць?

— Гэтак як і Булгака,— Скрыпуніха адказала,— будуць ссылаць у ссылку.

— Божа мой,— забедавала Павэлчыха.— От табе і савецкая ўласць. Ну, Булгака, скажам, будуць ссылаць — дык гэта ж і бог вялеў. І дзіва тут ніякага. Я каб прымела — сама першая — рука ў мяне не ўздрыганулася б. Бывала, як жаць мы да яго хадзілі — воўк воўкам. Усё роўна як злосць нейкую на цябе носіць за пазухаю. Нашто тут доўга: ён жа пры стрэчы табе дзяндобры не скажа. Чорт яго ведае, што гэта быў за чалавек. Такога, мая мілая, не шкода. Але от Міхасянебараку за што?

— Я ўжо свайму казала гэтак (ён жа за гэтыя саветы аж дзярэ горла, ты яму — ого — словам не абзавіся). Дык я, як паехалі ўчора да Міхася, і кажу яму: от якая твая ўлюбёная савецкая ўласць, ага. А ён як рассярчае на мяне, бо не было яму, бачыш, чаго гаварыць. Са злосці толькі адно кажа: «Гэтак не будзе. Міхася не будуць кулачыць». А я яму сваё: «Дурніца ты балацяная (так і кажу ў вочы), як жа не будуць, калі паехалі і ўжо кулачаць...»

Павэлчыха пратрымала хвілінную маўклівасць: глянула, на паабапалкі вуліцы — праверку зрабіла, ці

не ідзе хто, ці не чуе іхняй гамонкі. Нікога не было на вуліцы. Ведама, гурбамі вуліца ўся перахрышчана: не прайсці, не пракарабкацца. Глядзела ў Скрыпунішын твар, дабрату свайго сэрца выкладала вачыма, а Скрыпуніха гаварыла:

— Калі па праўдзе казаць, можа, нават уласць тут і ні пры чым: дзе ты ўсяго дагледзіш... Мужчыны нашы, я табе скажу, мая мілая, гэта не мужчыны, а галяндэрскія цяляты: чаго маўчаць? Ды я ж бы, бабаю будучы, і то — калі б гэта час быў, хадзіла на гэтыя сходы, як яны ходзяць... Я ж бы яго так узяла на цыгундры, гэтага самага, хоць бы сабе, Танцульку!.. З яго б толькі пацяруха закурэла! А то ходзяць, гаво-о-раць, як назаўтра трэба: баяцца Танцулькі. Хто ж не ведае яго? Бацька некалі, хоць бы сабе з гэтага Міхася, здзекі ды кпінкі строіў, а тут на́ табе — і сыну вялеў.

Павэлчыха вельмі спяшалася: тупала каля штакетаў — ісці збіралася на той канец. Скрыпуніха паднесла Павэлчысе другую навіну — каб толькі пастаяла яна даўжэй каля штакетаў:

— Не ведаю, ці праўда, а сёння я збіраюся толькі падкладаць, гэтак, агонь пад дровы,— гаварыла Скрыпуніха,— дык да мяне забегла Петрыкава Наста: солі пазычыла стопку. Забегла гэтак і кажа: «Учора на Міхасёвым кулачанні пасварыліся Вацік з Харытонам». Я ў яе не распытвала. Яна спяшалася вельмі — дзяцей адных пакінула ў хаце... Казала, нешта Вацік як бы за Міхася быў, а Харытон яго за гэта аблаяў кулаковым падпявалам. Дык казала, што сёння ў раён паехаў Вацік з-за Харытона... Дык і Міхля таксама была ўспала на Ваціка.

— І Міхаліна была на кулачанні? — далася Павэлчыха дзіву.— От жа без яе нічога нідзе не прамінецца. Кажуць жа, што Харытон бегае за ёю?

— Нічога ты, мая мілая, не ведаеш,— упікнула Скрыпуніха.— Жывеш пад самым бокам і не бачыш: за ёю і адзін і другі, як тыя кныры. Думаеш што, за яе, можа, і сварку ўзнялі. Ім не так-та Міхась, як яна.

Павэлчыха засупярэчыла.

— Не кажы, кабеціна, пра Ваціка. Гэта хлапец — няма чаго казаць: і спакойны, і спанялы... Ён табе, калі і пра калгас гаворыць, дык яго, здаецца, узяў бы і паслухаў; праўду кажа, што ніколі не бачылі на гэтых вузкіх межах за гэтым быльнягом прасветленай гадзі-

ны. Грызліся адзін з другім: ты мяне ўкусіў, а ты мне мяжу скрывіў. Вацік табе наодум не скажа, гэта табе не Харытон.

Кінула погляд знячэўку ўдоўж вуліцы ды сказала Скрыпунісе:

— Нечага Міхась з Лаўрэнам ходзяць! Пайшлі да Ёсіпа.

Глядзела, пакуль іх не схавала страха Ёсіпавага склепа, што выстаўляецца перад вуліцаю. Тады галасна сказала сама да сябе:

— Пайду ж я... Гэта ж бягу я да Банадысіхі, кароўка ніяк не ступіць на заднюю нагу. Ці не ўшчаміла толькі, баюся, у загарадкі, ці не вывіхнула нагу каля капыта? Трэба, каб Банадысіха навязала навязку. Заходзь да мяне, залатая...

Лаўрэн Жур памагаў Міхасю бяду яго разносіць па гэтым канцы. Раніцаю прыехаў Міхась з Прыстані, ад свайго брата, а жонка і сустрэла з горам-бядою: «Высылаюць нас! У кулакі запісалі. Ратунку трэба шукаць. Я, Міхаська, нікуды з сваёй роднай хаты не паеду».

Усё спрытна расказала пра ўчарашні вечар. Дзіву перш Міхась даўся. Як жа гэта, што вярзе баба? Ці не з глузду баба з'ехала? Куды хто высылае, за што?

А Лаўрэн цэлую ноч не знайшоў сну. Меркаванні тасаваў пра Харытонаву работу, думкамі варушыў: «Быць жа не можа, каб уласць наша дазволы такія давала Харытону. Хай сабе Міхась і сказаў на сходзе супроціў калгаса — дык, можа, ён слова самога не ведаў, а не то што. Трэба папытаць бы, чаму сказаў, ды параду даць, а не шурам-бурам». А калі раніца спадцішка ўзышла на Лаўрэнаў двор — на скорую руку карове кінуў трушанкі, а сам да Міхася... падзяліць бяду-гора, папалавініць.

Скрыпнуў дзвярыма і дзяндобры не ўспеў даць. Адразу словы свае пякучыя выклаў перад Міхасём:

— Трэба хутчэй спяшацца,— сказаў Лаўрэн.— Даволі нацярпеліся Харытонавай работы.

Іскрыстым агнём загарэлся Лаўрэнавы вочы. Твар наліўся спелаю крывёю; нутро загаварыла за несправядлівасць над чалавекам вялікаю крыўдаю.

— Няўжо мы такі не знойдзем свайго права? — выкідаў Лаўрэн злосцю апырсканыя словы.— Няўжо не адолеем Харытонавай патолі? Дакуль жа ён будзе іграць з Ахрэмам у адну дудку? Што ж гэта за наслан-

нё на нашу вёску? У людзей і калгасы тыя людскія, і жыццё ідзе па-людску. Я ж быў у Бродзе, і ты ж быў — бачылі бродаўскі калгас... Я ж хачу жыць, і ты хочаш жыць. А я не магу з-за гэтага недаверка! Братка Міхаська... Хоць ты і надзельны быў, а я батраком празываўся, а жызня наша сходзіцца. Бацька твой пасля Калечыцавай апекі хоць і з тым надзелам, а на ногі не здолеў стаць. Хіба ж мы, усе суседзі, не бачылі твайго жыцця? Я ж першым пасведчу тваю жызню! Якая яна гнілая была... Навошта ж гэты здзек? Я за цябе ад усіх нас, Міхась, буду пісаць заяўленне... самому Калініну, далібог... Няўжо мы правоў не знойдзем? Знойдзем і свой калякцыў зробім. З аднаго гэтага канца зробім. І цябе далучым, і Старавойта далучым... Танцулька [illegible] Банадысём строяць кпінкі з гэтага старога. Штурхаюць яго, як тое соўгала, то сюды, то туды. Дакуль жа гэтак будзе? Што ж гэта: хіба ж ты раўня Булгаку або Танцульку?

Абярнууўся быў да Міхасіхі, казаў, як у сябе дома:

— Сціхні, кабеціна, рымстаць. Тут не плачам трэба браць, а праўдаю. Ён, ліха яго матары, залез у калгас і раскашэльваецца, а на цябе раскулачанне насылае.

Радасць з горам змяшалася ў Міхасёвым сэрцы. Хацеў гаварыць і не мог: «Ёсць жа ўсё-такі людзі на свеце, што бяду тваю пільнуюць».

— Лаўрэнка,— сказала Міхасіха,— Танцулькі ж на вопісе не было, што ты на яго віну кладзеш.

Міхась цярплівасць быў абарваў перад чужым чалавекам. Аблаяў жонку прыкрым словам.

— Калі Харытон прыехаў, гэтак,— казаў да Лаўрэна,— ды я быў дома,— я б з ім пагаварыў. Я сказаў бы яму, чаго ён варт.

— Добра, што і не было дома,— упікнула Міхася жонка,— калі ты так кажаш... Рызыку выставіў, а за рызыку ўзялі б ды і забралі б... Гэта ж табе старшыня, а не хто... ды і Вацік жа...

Міхась даставаў тады з паліцы для заявы лінаваную паперу, сказаў на жончына слова:

— На Ваціка я слова не скажу. Вацік, як трэба, чалавек. І на яго я ніколі не забудуся. З першага разу я ўзлюбіў яго. Не, Лаўрэн, не з таго ўзлюбіў, што ён, кажа жонка, не даў свайго роспісу, а з таго, што разумны чалавек. Хай бы сабе нават роспіс даў, і я да яго

ўсё роўна маю любасць. Бо чалавек, як той казаў, не пражываў з намі век, мо і не ведае, хто мы. Ды яшчэ яму ўсякага на мяне нагаварылі — канешне...

...Цэлую раніцу хадзіў Лаўрэн з Міхасём па гэтым канцы.

У хаты заходзілі — заяву, што ўдвух пісалі за ўсіх, чыталі кожнаму, каб распісваліся, каб сілу большую мела тая заява.

Увесь гэты канец муравейнікаўскі заварушыўся пачапаным муравейнікам. Злосць ускладаў на сельсавецкі парадак. Мацей Брус не стрываў — пайшоў у Берчукі да Харытона. Ідучы, нёс з сабою злосную развагу: «Я яму, хіба, свае пакажу кулакі. А то ён, мусіцька, не бачыў ніколі кулакоў».

Але не застаў Харытона, сплюнуў толькі ад прыкрасці.

Павэлак Крутаножка быў у падпавесці, калі прыйшоў Лаўрэн з Міхасём, трымаў у руках сталярскі аловак — рапараваў развалкі. Стаўляючы подпіс на заяве, казаў:

— Не бойся, Міхась. Не вышле цябе ніхто. Хай толькі спробу возьме... Заяўленне трэба толькі самім везці ў самыя рукі. Я нават магу паехаць.

А заява была напісана рэдкім хімічным чарнілам. Высахла чарніла ў кантовай стаўбунаватай пляшцы — адна гушча была на дне. Міхась разводзіў гушчу — перадаў уліць вады. Але чарніла затое зрабіў шмат.

От што напісана было хімічным рэдкім чарнілам.

«Нашаму таварышу Калініну разам з бальшавіковым ЦК. ...ад грамадзян, аднаасобных таварышоў, што жывуць на гэтым канцы Муравейнікаў.

З а я ў л е н н е.

Дарагі ты наш стараста Калінін! Пішам табе гэта заяўленне, а таксама і нашаму ЦК. Просім вам дваіх, каб разабраліся вы ў нашым заяўленні адносна нашага сельсавецкага старшыні Харытона Мамчыца і адносна нашага Міхася Кляўковага.

З нашай цярплівасці на Харытона выйшла ўсялякая мерка. Мы не можам больш цярпець на яго работу. Паслухайце, дарагія Калінін і ЦК бальшавіковай партыі, што робіць гэты неразборчывы чалавек — Харытон.

Міхась Кляўко пражывае на тым канцы нашых Муравейнікаў. Жызня ўся яго перасыпана, з самага маленства, папялястаю бядою. Хоць у яго зямлі і больш было, як у нас на гэтым канцы (нашым бацькам цар некалі даў быў, як батракам, па дзве дзесяціны, а ім за паншчыну па цэламу паўвалочнаму надзелу), але бацька яго не змог пасля паншчыны ўзняцца на ногі. А Танцулькаў бацька, бацька Ахрэма, што зараз лічыцца калгаснікам, меў гэта на воку: узяў палавіну той зямлі на арэнду. І от гэтак увесь век, можна сказаць, жыў стары Кляўко на палавіне зямлі. А потым і малады, гэты самы Ахрэм, падбухторыў малавумнага Міхасёвага брата Клемуса — насаўсім адсудзіў Міхасёву палавіну. Так што каб трохі, дык Міхась, можна сказаць, быў бы нашаю раўнёю. Дык от, таварыш Калінін і ЦК, пасудзіце самі: Харытон, наш сельсавецкі старшыня, узяў цяперака і прызначыў за гэту Ахрэмаву арэнду нашага суседа Міхася на раскулачанне. Ён кажа, што Міхасёў бацька некалі браў арэнду і ад гэтага ў яго сына, Міхася, кулаковы карэнні. Нам здаецца, дарагі наш Калінін і дарагое бальшавікова ЦК, што гэта вялікая несправядлівасць. Патаму, як мы ўвесь час жывем і бачым Міхася, як ён б'ецца як тая рыба аб лёд, каб знайсці сабе прадуху. Па-нашаму, дарагія таварышы, трэба было кулачыць Ахрэма Танцульку. Нам здаецца, не трэба б глядзець нават і на тое, што ён з'яўляецца калгаснікам. Патаму што ён, як выбраны ў калгаснае ўпраўленне, не глядзіць калгаса, а п'янствуе, і ад гэтага, можа, нават каровы здыхаюць, і гусі паздыхалі, і калгаснікам мала прыходзіцца на цэлы год харчоў. І калгаснікі, як Старавойт Флёрка, хочуць ад такога калгаса выпісвацца.

Цяперака, дарагія нашы таварышы — і Калінін і ЦК — просім вас, за адным заходам, адкажыце нам, што нам рабіць. Мы і да гэтага часу пішамся аднаасобнымі, і нам нават нялоўка перад вамі казаць, што мы такія. Бо ў нас ужо вельмі шмат усюды калгаснікаў. Як, скажам, у Бродзе, у Прыстані, у Крынічках. Ды і саўгас «Чырвонае» ў нас жа пад бокам. Мы бачым усю іхнюю жызню, і нас падшыхае вялікая ахвота. І нам шмат гаварыў пра калгасы таксама рабочы, таварыш Такарскі, што жыве ў Чырвоным. І мы, увесь гэты канец, цямім, што яно хініце вы нашага брата

на добрую, на новую дарогу. А трэба сказаць проста, не жмурачы вока: наша старое жыццё вельмі ж ішло па збітай, па крывой, каляіністай дарозе.

Мы добра ведаем, якою пакутаю жылі нашы бацькі. Мы памятаем, як наш даўнейшы пан Калечыц жывадзёрам драў скуру — краў нашу жызню, і як мы біліся, каб убачыць хоць кавалак яе ўцехі. Бывала, з сухою скарынкаю касу цягалі на Калечыцавых аблогах. Ды яшчэ яму як трэба не ўнаровіш. А цяперака, прыйшлося, далі вы нам права на жыццё, дык яго ў нас узялі, можна сказаць, ды адабралі. Усё рабілася раптоўнасці. Нам, можна сказаць, не было як трэба расказана пра калгас, дык мы на першым сходзе ўзялі ды сплашылі. А потым гэты самы Ахрэм пераняў — зрабіўся калгасным аматарам, і мы цяперака не хочам прыпісвацца да таго канца, не хочам быць разам з Ахрэмам. Мы б хацелі, каб самім сабою. Або хай нас прыпішуць за пяць вёрст да бродаўскага, і мы вельмі будзем ахвочы. Мы, як паглядзім на Танцулькавы хітрыкі, дык у нас проста ацінае, па праўдзе кажучы, рукі, і вельмі шкода, што праз яго псуецца калгаснае празванне. І людзі пабочныя, хто не ведае, маюць гэта на воку. А калі шчэ ўспамянеш, ведаеце, як гэта, бывала, нашы мужчыны хадзілі да гэтага Ахрэма, як і да таго Калечыца, на сівец або гной вазамі вывозілі, аж неяк сэрца ёкае. І от цяперака гэты самы Харытон, можна сказаць, сілком прымушае ісці жыць разам з Ахрэмам. Ды яшчэ ні пра што нашага суседа кулачыць.

Так што, таварыш Калінін і таварыш ЦК, яшчэ раз просім вас, як вы з'яўляецеся нашай савецкай уласцю, дапамажыце нам парадаю. Мы прасілі б вас, каб Харытона проста-такі вы перадалі ў суд за такую неспраўядлівасць нашчот Міхася. А Танцульку, нягледзячы, што ён з'яўляецца і калгаснікам, ды калі ўлічыць, што калгаснік Старавойт Флёрка і шмат другіх калгаснікаў нездаволены ім, членам упраўлення калгаса,— зняць яго з калгаснікаў. А таксама пасадзіць у калгас другога старшыню, бо старшыня Банадысь Крот, хоць ён і не такі, як Танцулька, а ў Чырвонай Арміі не служыў, а быў праз увесь час дэзерціром, і старшынёю, па-нашаму, не павінен быць. Пры гэтым трэба сказаць, што хоць ён і старшыня, а ім найбольш камандуе Ахрэм Танцулька. Так як з'яўляецца Крот уродзе не-

дапечаны, ці, як у нас на яго кажуць,— целегаваты.

Дык от, калі вы, дарагія нашы таварышы — савецкая ўлада, усё гэта, напісанае намі, гэтым канцом аднаасобных Муравейнікаў, прымеце на ўніманне,— мы вельмі будзем вам дзякаваць. Бо цераз гэта мы зможам прылучыцца да таго канца, каб хоць перад нашаю старыковаю смерцю ўбачыць кавалачак нераскрадзенай жызні і дзецям нашым пакінуць яе, не раўнуючы, як тое завяшчанне».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Недарэмна Павэлак уздымаў гаворку, што павязе ён заяву. Не было грошай на дарожны білет, каб перадаць заяву з рук у рукі. А ў Павэлка быў канверт. Некалі пісаў з чырвонага фронту да жонкі: адзін бок спісаны на канверце. Міхась выпрастаў канвертныя ражкі, захінуў імі спісаны бок — крухмалам папрыклейваў беражкі. Саўсім новы выйшаў канверт. Тады асцярожна заяву ўлажылі ды зноў заклеілі крухмалам.

Да самага вечара чакалі берчукоўскага Косцікалістаносца. Калі здавалі Косціку заказны ліст, Павэлак аж другім разам зазначыў:

— Глядзі ж, хлапец, не згубі. Гэта табе не проста які-небудзь ліст, а заказны і абчэсцвены.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

Цэлы дзень не было сонца на муравейнікаўскім полі. Нібы гультайства ўспала на яго ці нібы баялася яно халоднага на зямлі снегу: не вылазіла з-за хмар, што растрос вецер зрэбнаю кудзеляю.

Сіратою пакінутае вісела над зямлёю калматае неба. Па чарзе пасылала на зямлю нашатыраную кастрыцу — сняжынкі. Падалі наіўныя сняжынкі — сотым разам у гэту зіму пакрывалі на зямлі чалавечы след. Хацелі, каб зямля была ўся адным непачатым кавал-

кам... каб не пачапаў хто больш імі заваскаваных земляных шчылін.

А калі прыйшоў на муравейнікаўскае поле вечар, спудзіліся сняжынкі, аселі разам з днём на земляное седала. І ціхата распусціла свае крыллі па ўсёй ваколіцы. Толькі калі б углядацца гэтым вечарам з чырвонаўскай гары, можна было ўбачыць: белы снег, а на снезе чорная кропка. Не спазнаць здалёк, што на снезе — чалавек гэта ці звер. І ўсё забірала чорная кропка далечыню — меншаю рабілася на разасланым белаўзорным снежным абрусе.

От жа і быў у чорнай кропцы Даніла, як ужо агарнуў зямлю сівы змрок вечара. Без папытання швэндаўся змрок па закануpках гаспадаркі — злосць узводзіў на здарожанага чалавека.

«Хай бы было яшчэ кавалак дня,— выпрагаючы каня, засмаргу калупаючы ў хамуціне, думаў Даніла.— Не паспееш азірнуцца, як дзень хвастом перад табою вільне».

Засмарга была зацягнулася туга. Калі вузел яе аслабляў,— задраў пазногаць за жывое. Яшчэ большая злосць апанавала старэчае сэрца. Плюнуў ад злосці на той вузел ды расцёр слінаю сырамятную супоню. Дастаў туга заціснуты канец сырамяці.

«Вот...»

Скораю рукою тады адпрог каня — хамут унёс у цёмныя сенцы. Жонка пачула прыезд — стаяла перад мужам. У спешцы зачапіў хамут паўшорамі за цвік, сказаў да жонкі:

— Паглядзі чаго-небудзь перакусіць... не стой... Пайду ў Муравейнікі.

Дзіву далася кабеціна.

— Чаго ж ты... поначы ды па снезе?

Даніла буркнуў з неахвотай:

— Потым будзеш ведаць... Ды не абавязкова ведаць пра ўсё: не твайго бабскага розуму дзела. Калі патрэба ёсць, дык і ноч, і снег, і ліха — нагамі падбярэш... Ідзі, нябожа, паглядзі чаго-небудзь мне для вострага зуба.

Скрыпам цёрся пад Данілавымі нагамі скарынкаю замерзлы снег. Палахліва кідалася на ўхабы ад Данілавай хады вартавая цішыня. Назаўсёды нехта выцер у гэты вечар сухою фанцінкаю напражанае захадам сонца неба. На чыстым яго палатне зоры былі рассы-

паны, як далёкія зярняткі з веялкі. Чарадою сабраныя зоры пазіралі на зямлю, гаварылі: «Чаго трэба швэндацца чалавеку па начных закануурках? Чаго шукае нязгубленага гэты чалавек?»

А Даніла ішоў да Ахрэма Танцулькі. Поўнае сэрца бяды, клопату нёс да свайго суседа. Быў сёння ў Луцішчы, а там сваімі вушамі чуў, што калгасы будуць убірацца ў сілу. Мужчыны былі сабраліся ў Еселевай завозніцкай, чыталі адзін перад другім надрукаванае ў газеце, гаварылі: «Хто ў калгас ідзе — карову пакідае на сям'ю... Свіней зможа гадаваць — сам сабе... Агарод засяваць — сам сабе. Ад калгаса будзе выдавацца хто які зробіць вырабатак харчамі...»

Слухаў тых мужчын, і прыкрасцю агарнулася Данілава нутро. Праз увесь час чакаў — кпінкі брытваю вастрыў над калгасам. Думаў, што не будзе жыццё такім падатлівым: адыдзе яно назад, як тая Мурaвейка.

Дык не ведае Даніла, што яму цяпер рабіць, якую ўзяць для свайго жыцця параду.

Пакідаў на зорным снезе нікому непатрэбны свой след, далей усё адыходзіў, нёс пакрыўджаную чуласць. І от, калі ішоў прамiком па снезе,— Вацік Такарскі не сыходзіў з яго думак.

Узяў тады Вацiка па дарозе да Чырвонага — усю бяду свайго жыцця падабраў. Дзе ні сустракаўся з Вацікам — торгаў Данілу дрыжачы боль. Сустрэнецца з Вацікам, а ён, здаецца, і шэпча яму: «Ідзі сюдою... Бяры ўсю сям'ю, усю гаспадарку ды ідзі па новай дарозе, а не па той пыльнай, што мы ехалі».

Тады гаварыла за Данілу разагнаная яго кроў. Яна хадзіла цвёрдымі выступамі па Данілавых жылах, бурапеніла ліхім адчаем, і думалася: «А няўжо я не здолею сказаць гэтаму гарадскому нахлебніку свайго перакорлівага слова? Няўжо аслабла воля майго кулака? Трэба ўсё ж такі невашта рабіць».

Танцулька раней за Данілу пачуў, пра што было напісана ў газетах. Ён іх у бяду ўвярцеў ды насіў за пазухаю, каля самага сэрца. І гэта яшчэ нічагусенькі, калі б не загарэўся Ахрэмаў свет з Міхася Кляўко.

Нібы ўзяў нехта моцнаю рукою Ахрэмаў свет ды так страсануў, ажно не магло нішто асталявацца на сваім месцы. Ад уструсу на сярэдзіне дарогі быў пакінуты Ахрэм. Уцяміць не мог — не ведаў, дзе больш

будзе выйгрышу, на які канец дарогі пайсці, па якой дарозе жыццё чалавечае спацыруе.

А чуткі пайшлі па муравейнікаўскіх дварах цэлым табуном, чуткі пра тое, што:

Танцулька хацеў Міхася скусіць. Подпіс быў Танцулькаў, нібы ад усяго калгаса, у раёне нашчот Міхасёвага высялення.

Ды яшчэ.

— Міхась не любіць вока жмурыць: не раз Харытона ўпікаў пра сельсавецкі парадак, дык і Харытон на Міхася ўз'еўся.

— У адну дудку іграюць Харытон з Ахрэмам.

Стары Старавойт не сцярпеў — злоснымі пырскамі асыпаў Ахрэма.

Прыйшоў Ахрэм да Старавойта для заўтрага работу вызначыць, а ён:

— Навошта табе Міхась? Што зрабіў Міхась табе, што ты пісьмы пішаш раёну? Ды яшчэ і нас падстаўляеш: мы нібыта хочам, каб Міхася саслалі. Калі ж гэта мы цябе, Ахрэм, прасілі на гэту ласку? Ты, чалавеча, не будзь задзірыстым. Не даўніна, чалавеча. Кемім, каго трэба, калі пайшло на тое, каго трэба выкулачваць.

Вытарашчыў вочы — глядзеў Ахрэм у маршчыністы Старавойтаў твар. Не мог ачабрацца ад дзіўнага: «Каб хто, а то стары казляк... З жызні трэба зводзіцца, калі гэткія пачнуць цябе вучыць».

Дадому быў прыйшоў, а жонка ні з таго ні з сяго новае панесла. (Кожным разам гэтак бывае: любіць расці чалавечая няўдача аж да самага цвету.)

— Прасіла ж я,— казала Наста Ахрэму,— не пішыся. Дык не: дзе то відана, каб Ахрэм узяў ды паслухаў сваю жонку! Людскія, нябось, слухаюць і розум свой дзеляць напалам. Паслухай вунь, што цяперака сяло гаворыць. Кажуць, што хутчэй трэба калгас ратаваць. Кажуць, што ты вунь і каровы патруціў. Банадысіха казала — напісалі на цябе аж у Маскву, у суд.

Словам не абазваўся на жончыны ўпічышчы. З хаты выйшаў, і не ведаў чаго, а вельмі было нечага шкода. Ішоў на сваё, на калгаснае прыгуменне, і на ўспамінак узбрыло, як лягло на далонь, усё яго жыццё. Момантам трымаліся на памяці адлічаныя гады жыцця. Якраз, як некалі быў хлапчуком-падросткам,— тапіўся ў Муравейцы, так і цяпер — усё жыццё за адзін

раз мільгнула бліскавіцаю. Аж холадам прабрала Ахрэмава цела — здрыгануўся быў ды: «Я ж не таплюся... Што гэта за трасца... Ці не захварэў, бронь божа, я?».

Рукі ў рукавы засунуў глыбей — пайшоў да падстрэшша. А там цэлы з'езд калгасных саней... А пад падстрэшшам абагуленыя калёсы. Не ўлезлі ўсе пад страху — Старавойтавы, Халімончыкавы ды Якушкавы — стаяць, снегам абцярушаныя, марозам умарожаныя ў зямлю. Чакаюць, пакуль не надыдзе вясна ды не возьме іх на сваю патрэбу.

Падышоў бліжэй да падстрэшша — убачыў сваю драбінку. Сам паставіў яе на сярэдзіне падстрэшша: каб мяцеліца не забівала праз адчыненыя закоты... Гэтак праз цэлых некалькі дзён: не сваім быў сам, а чужым — ныў сухою нэндзаю.

...Узышоў Даніла на Ахрэмаў двор і ад нечаканасці злякнуўся: каля падпаветкі туляўся чалавечы цень. Да Ахрэмавага вушака прытуліцца хацеў, а цень быў відаць выразна.

— Хто тут? — запытаў голас невядомага чалавека.

А Даніла спалохана-нясмелым адказам:

— Я...— І таксама ішоў насустрач.

«Ці не злодзей лазіць па чужым двары?» — кінулася Данілу думка. Але двума крокамі зямлю змераў, пазнаў незнаёмага чалавека.

— Каб ты цяміўся,— сказаў.— Чаго ж гэта ты ходзіш начніцаю? Добры вечар!

Ахрэм не адказаў. Нібы ён ведаў, чаго прыйшоў сусед. Сціснутую холадам падаў руку.

— Ну дык ідзем,— сказаў Ахрэм,— у хату.

Не парушылі дворнай ціхаты, пакуль у хату ішлі. Кожны сваю сам тасаваў развагу. Невядома, што гаварыла нутро гэтых двух чалавек. Мо думаў Даніла пра снег, што шмат яго на Ахрэмавым ганку натаптана ды не саскрэбана; мо думаў Ахрэм: што ж прынёс Даніла яму гэтым зімовым надвячоркам.

Калі ў хату ўвайшлі, кінулася Данілу: спала Ахрэмава сям'я. На ўсю хату вісячая лямпа раскідала ўскручанае святло. Пасля цёмнага надворку вочы прыжмурыў,— сказаў да Ахрэма:

— Навошта такі агонь у лямпе, калі ніхто нічога не робіць?

— Весялей...— да лавы ідучы, адказаў Ахрэм.— Газы даюць, дык няхай гарыць.

Ды зноў нібы вельмі трапны знайшоў адказ:

— Калі гарыць лямпа на ўвесь кнот, здаецца тады ў хаце свята. І нават (можа, я прывык) — неяк шмат на што забываешся, калі вялікі агонь у лямпе.

І не чуў Даніла, што гаварыў Ахрэм. Другія думкі кужэльнай ніткай з вітушак развіваліся ў галаве. Каля стала сеў, ногі падняў над падлогаю. Адну аб другую абцасамі пастукаў, каб абтросся з ботаў снег, знячэўку кінуў на Ахрэма ўкрадлівы зірк ды:

— Выпагадзілася...— сказаў Даніла.

— Але... Перабіла на мароз.

— Змена квадры...

— Ці ж змена?

— Так... Трэцяя нядзеля.

— І мароз гатоў цяпер доўга пратрымацца.

— Зіма... Нічога не зробіш...

— А летась гэтаю парою — была адліга... праз увесь месяц.

— Гады пераменьваюцца... Кажуць старыя, што марозы супадаюць праз сто гадоў...

— Але ўсё ж такі, бачыш, супадаюць...

— Н-ну — не дзень у дзень, а зіма ў зіму супадае... Ці ў цябе ў хаце толькі свае?

Ахрэм ад сябе запытаў:

— А што? — Не чакаўшы адказу: — Свае...

— Вунь дзе на ложку Наста з Еўкаю, а вунь дзе — Арцём... Міхля — у той хаце.

Тады бліжэй Даніла да стала прыліп. Узлокаткамі ўспёрся на рубец ды казаў:

— Ці памятаеш ты, як гаварыў мне, калі мы былі на берчукоўскім мосце... каля млына... як ты казаў, што раскажаш мне, чым пахне свет. Дык ты вось і да гэтага часу мне не расказаў... хе... хе...

Мацней абапёрся на рубец стала, нібы шукаў на настольным рубцы цвёрдай падпоры.

— ...Ты мне не расказаў, дык я вот уздумаў ды прыйшоў, каб расказаць табе. Ты вельмі ўжо, як пабыў калгаснікам, скрытным зрабіўся чалавекам. А са мною можна весці якія хочаш гешэфты. Я чалавек адкрыты. Калі бачу я, што мне давяраюцца, і я магу даверыцца. От выйшлася такое дзела, і я адразу да цябе.

Акінуў хату зіркам — важнасці больш падліў да прынесенай патаемнай думкі, гаварыў:

— От што, Ахрэм, цябе збіраюцца выкідаць з калгаса, а потым, канечне, і раскулачаць...

Сказаў, і цэлы момант шчакатаў струну нацягнутай маўклівасці. Пазіраў у Ахрэмавы вочы — чакаў, што будзе казаць сусед. Не мог Даніла спазнаць, што было на думках у суседа.

Ахрэм парушыў маўклівасць.

— Я ведаў...— неўзварушаным сказаў голасам.— Затое, што я зрабіў для іх калгас... Ну што ж, няхай падзякуюць...

А Даніла:

— Дык от жа, дай ты рады... Гэта ж я быў у Ёселя — вазіў у яго крупэрню, каб садраць грэцкіх круп, дык Ёсель мне ўпатайкі расказаў. (Патом, як сабе ні гавары,— Ёсель цябе паважае.) Гэта ж гэтага саўгасаўца ўся работа... Ёсель табе з-пад зямлі прачуе...

Калі гаварыў Даніла, меў у сваім пачуцці: от ён раскажа, а Ахрэм ведае, з чаго рабіць пачын. Усім часам не зводзіў з сваіх думак Даніла Ваціка. Ахвота імжэла зрабіць нешта гэтаму «наезнаму» чалавеку. Толькі не было ў Данілы адважнай смеласці на тую невядомую работу. А калі дачуўся сёння пра Танцульку — счакаць не мог, каб яго ўбачыць, расказаць. Ведаў Танцулькаву натуру, ад таго і цвіла ў Данілы надзея: «Ахрэм зробіць тое, чаго я не магу зрабіць. Толькі патрэбна ўзварушыць яго заляжалую жвавасць».

І ён узварушыў яе.

— Праз Міхлю ўся работа,— сказаў Ахрэм.— Яны ўдвух не падзялілі маёй пляменніцы, а на мне спаганяюць злосць. А яна над абодвума імі смяецца. Што толькі не робіцца на свеце!

Ды:

З кішэні дастаў рознакаляровымі кліночкамі пашыты мяшок, павольна разматаў шнурок — клаў у газетную паперу кааперацыйныя карашкі. Бачыў Даніла, як дрыжэлі з карашкамі Ахрэмавы пальцы, уцеху сваю песціў.

— Па-мойму, каб я быў, Ахрэм, на тваім месцы,— скрадзеным голасам гаварыў Даніла,— я б адчаіўся... Прыпільнаваў бы яго, калі едзе ён з Берчукоў

або з Прыстані, ды-ы... каб аж дзесятаму заказаў, як трэба з людзьмі жыць... Далібог!

Тады Ахрэм палажыў локці на стол — глыбока зацягнуўся ўсім дымам. Глядзеў перад сабою, як і не чуў, а Даніла:

— Ты ж калгаснік. На цябе ніхто ніколі і не падумае. І ён больш не будзе раскашэльвацца... Калі прыехаў, трэба было жыць, як усе людзі жывуць,— па-суседску, па-чалавечаму. Праўду я кажу... Як таго Максіма Нічыпаравага...

Кінуў Ахрэм на падлогу недакураную папяросу. Паглядзеў на Данілаў зашмальцаваны кажух ды не то са спалохам, не то з адвагаю:

— Пра Максіма не трэба рабіць успамінку... Ты, Даніла, чалавек разумны, і гэта не пасуе сталаму чалавеку. Я ведаю, як ты гаварыў з Журам у млыне. Я ўсё збіраўся табе намякнуць. Жур — падлізнік для саветаў, і табе з ім не трэба было ўсчынаць гаворку. Ты ж бачыш, што яны, каб прымелі, у лыжцы вады мяне ўтапілі б... А Максім з таго свету не ўстане. І я вельмі рад... Я на цябе, Даніла, век не забудуся. А толькі гэтага не трэба...

Абарваў сваю гаворку, а потым дадаў:

— Гэтага чалавека не трэба... Як Максіма, ці як бы там ні было. Трэба спадцішка.

Голас яго дрыжэў глыбокай нутраной глыбінёю: аж прыўзняўся Ахрэм з тапчана. Вачэй не зводзіў з суседа — усё дарыў імі не аддадзеную дабрату.

Даніла запытаў:

— Дык што ж рабіць?.. Якія, па-твойму, трэба браць меры? Яны ж усіх улагодзяць у гэты калгас. Цяпер... ты ж, мусіць, чуў, што напісала Масква́ ў газету, якія палёгкі даюцца ў калгасе.

— І няхай сабе...— зацярушаным спакоем сказаў Ахрэм.— Берчукоўцы, як дачуліся пра газету, высыпалі з калгаса, як пчолы з вулля. Так што ўвесь калгас ляснуў... Але не ў гэтым, Даніла... Лепш хай бы быў берчукоўскі калгас. Бо гэта, ведаеш, наш калгас...

Асалавелымі вачыма ў суседскія вочы пазіраў Даніла і нічога не разумеў. Не мог узяць на свой розум.

«Як жа выйшла — чаму берчукоўцы кінулі калгас, калі газета напісала столькі палёгкі. Чаму кажа Ахрэм, што лепш, калі Берчукі былі б у калгасе».

І на адзін момант паўстала перад вачыма ў Даніліы адышоўшая прошласць: «...От ужо нідзе ніводнага калгаса. Зноў людзі сабе жывуць. Жнеі жнуць — іх восем — на ягоным полі. Хлопец-пастушок вядзе з раніцы Данілавага каня. Авадні цэлым роем гудуць каля конскіх персняў...

...Маладзіковая нядзеля. Даніла кірмашуе на луцкім мястэчку; парасяты скігочуць на вазах... За прададзеную карову барыш п'юць... Даніла торг трымае ў руках: мяняе каня, што прадаў у Доўгае поле... на відавокага. Толькі [illegible] невялікаю прыдачаю. Зараз пойдуць таксама барышаваць...»

«Божа мой... Дай божа... Але чаму ж Ахрэм гэтак гаворыць пра Берчукі?»

У берчукоўскім калгасе газету прачыталі з самага ранку. Перш-наперш прыйшла пошта на сельсавет ды на калгасную канцылярыю. Антон быў у калгаснай канцылярыі, калі конна прыехала пошта. І мо ніхто так скора не ўзяў бы на ўвагу, калі б не Антон. А ён як наўмысна расхінуў газету і адразу:

— Так што калгасы будуюцца па сваёй ахвоце — во. І не трэба было Харытону сілком нас перці на ўсю выскачку: «Ідзіце, бяжыце». Хоць мне і не трэба было вадзіць каня на начлег, але я не хачу аставацца ў калгасе. Навошта Харытон мяне і пятага падбухторваў і нават пагрозы пасылаў: «Калі не пойдзеце — сілаю пазаганяем». От мяне за яго «сілу» і разбірае цяперака злосць.

А надвячоркам на берчукоўскай вуліцы ўбачыў Яўхім Антона з кароваю. Не пытаўся тады ні ў каго Яўхім, з жонкаю нават не параіўся. Прыйшоў да кароўніка Мікалая ды: «Давай маю, Мікалай, Падласку».

Харытон быў якраз на насялёным крыжаўскім пункце. Калі прыехаў змрокам у Берчукі, як і не было ніколі калгаса.

Учуў Ахрэм, што распаўся калгас у Берчуках, нацягнуў на сябе непагодлівую хмару. Усё, што было на яго з Міхляю меркаванні, пайшло пад ногі.

Міхля насіла з сабою спелую ўцеху.

— Добра, што вы, дзядзя, здаўмеліся,— гаварыла Ахрэму,— зрабіліся калгасным чалавекам. Каб толькі нам больш такіх людзей. Такія людзі нам вельмі патрэбны. Хай бы сабе было чым больш калгасаў з та-

кімі людзьмі. Праўду вы гаварылі: гаспадарку, што змарнавалася, вы вернеце за адзін год.

І Даніла не мог цяпер узяць на свой розум Ахрэмавага меркавання.

— Як жа гэта?

Высмактаў агонь з лямпы ўсю газу. Па кутках Ахрэмавай хаты спацыравалі доўгія цені. Ахрэм дастаў з-пад лавы глячок з газаю, каб наліць у лямпу, а Даніла казаў:

— Ото ж і добра. Я нават і вунь як рад: праз які тыдзень усе калгасы — фу-фу, як той дым. Вельмі добра... файна.

— Добра і дрэнна...— машынку ў лямпе круцячы, казаў Ахрэм.— Добра гэта, калі глядзець здалёк, стоячы збоку. А тут трэба ўдумацца. Мне вельмі шкода берчукоўскага калгаса. Нябось бродаўскі калгас не раскідаўся. Каб гэтак бродаўскі — я б дзень і ноч маліўся богу.

Лямпу ўставіў у дрот і на ўвесь кнот пусціў агонь. Сеў на тым самым месцы, а Даніла пад гэта:

— Іх ты і не раскідаеш. Яны ж ужо забудаваліся па калгаснаму плану. Не будуць жа яны дзяліць такога-та вунь хлява, што змяшчае, можа, трыста штук кароў, або таго свінарніка, што на дзвесце, бадай, катухоў!

Ахрэм маўчаў.

У яго думках цяпер праплывала нешта нявыказанае, неўразумелае. Ён, здаецца, і не чуў, і не слухаў Данілу, а той гаварыў.

— Ды чаго ім, скажы, цяпер не хапае? І хлеб ёсць, і да хлеба. Яны так ніколі не жылі. Бывала, не было тае вясны, каб не прыйшоў да мяне каторы: «Пазыч ды пазыч, Данілка, пудзік-два». То на адработак, то на аддачу. Яны мне, калі хочаш, абрыдзелі з сваім гэтым пазычаннем. А от ужо другі год — нагі ні адзін не ткне цераз мой парог. Хоць яно цяпер, канешне, і боязна пазычаць... Сёння пазычыш, а назаўтра ўжо ўвесь сельсавет будзе ведаць...

Ахрэм калупаў пазногцем у ямцы ад сучка, што была ў рагу стала, момант глядзеў тупым зіркам у столь ды, перавёўшы позірк на Данілу:

— Прабачай, але я табе, Даніла, скажу адносна бродаўскага калгаса,— ты, як тая баба!

Данілу зрабілася ніякавата,— пачырванеў ад такіх суседскіх слоў, а Танцулька гаварыў:

— Ты яшчэ пайдзі да Жура, да Слямзака, ды збяры сход, ды раскажы ім пра Броды. Бо яны ж, можа, хоць і ведаюць, але шчэ не ўпэўнены. Ты іх і ўпэўні — скажы: «Бачыце, як жывуць у бродаўскім калгасе! Бачыце, што яны маюць! А вы — марнееце, галееце!» Эх, ты... галава твая, выбачай, садовая! Хто ў цябе пытае?!

Даніла праказаў вінаватым голасам:

— Я ж нікому не кажу... Табе кажу.

Ахрэм засмяяўся злосным смехам, праказаў:

— Не хапала яшчэ... Толькі гэтага і не хапала, каб ты каму казаў! А калі цябе не пасарамаціць — ты можаш і сказаць. Трэба ведаць, што казаць. Пакуль казалы казаць — трэба ўзважыць іх, рукамі абмацаць, да чалавека прымерыць і тады ўжо казаць.

Абодва маўчалі. Даніла адчуваў сябе збянтэжаным, і Ахрэм бачыў гэта. Яму нават крышачку было шкода свайго суседа: «Усё ж такі зняважыў». Але і другое: «Я ж яму, як і сабе, жадаю дабра». І яшчэ: «Ты яму гавары адно, а ён табе — другое».

Ахрэму вельмі не хацелася чуць ад Данілы такія словы. Ён не рад быў, што зачапіў гаворкаю бродаўскі калгас. Гэты калгас для Ахрэма — скула ў баку. Колькі вось разоў праязджаў ён цераз Броды, дык заўсёды спяшаўся, каб як мага хутчэй праехаць. Ён не мог глядзець ужо здалёк на гэтыя нова-белыя даўгія будынкі, на маладыя прысады кругом калгаса — «будзе некалі, сапраўды, як у вяночку»; ён не мог глядзець на васьмігектарны малады сад... Дык хаця ж каб зямля была там добрая, як у Муравейніках, скажам, або каб людзі жылі там век у раскошы,— дык не! Можна сказаць, зроблена ўсё гэта калгасам з нічога. Кожны ж ведае бродаўскую камяніцу ды прыбалоцце... І вуліцу бродаўскую ведае. Бывала, і ўвосень, і ўвесну цэлы быў патоп на вуліцы. А цяпер нават выбрукавана вуліца і нават гэты самы турнік перад школаю-сямігодкаю...

Заўсёды, калі бачыў Ахрэм турнік, цешыў сябе толькі адною злоснаю думкаю: «Добра будзе на ім вешаць усіх іх па парадку: перш бродаўскае начальства, а потым калгасных брыгадзіраў».

Дык і не дзіва, што раззлаваўся Ахрэм на такія

Данілавы словы: «Немаведама што гаворыць!» Пра тое гаворыць, пра што трэба, сцяўшы зубы, маўчаць. Бо гэты ж муравейнікаўскі канец таксама бачыць і ведае Броды. І не раз чуў Ахрэм упічышчы тым самым бродаўскім калгасам, хоць бы і ад Жура. І Журу нічога не абыходзіць: адных галапупцаў сямёра ды яны ўдвух. Хіба ж ён зможа пракарміць тым шнурам зямлі, на якім дзярэ барана з аднаго боку яго, Ахрэмаву, мяжу, а з другога — Банадысёву?

І пасля хвіліннай маўклівасці ён загаварыў роўным, заспакоеным, павучальным голасам:

— Мне вельмі шкода, што раскідаўся берчукоўскі калгас. Я ж кажу! Гэта быў наш калгас. Каб не раскідалі берчукоўцы свайго калгаса, можна было б устроіць што-небудзь такое... спотайку. А там ёсць людзі надзейныя і добрыя людзі. Як, скажам, Дзяніс Крэўскі: служыў у Калчака. Ён добра ведае, як камандаваць войскам. Або хоць бы і Антон... Дарма, што ён нягеглым выглядае, а чалавек ён з натурай. Я памятаю яго, калі быў ён валасным пісарам. Гэта цяпер на яго ўсе пальцам тычуць, а ён мае сабе на розуме. А ў старога Аўласа... тры сыны, як дубы. Па-мойму, усе Берчукі — нашы Берчукі. І калі б не раскідаўся іхні калгас... Яны будуць каяцца, а будзе позна. Выпісацца — лёгка было, а ўступіць — будзе цяжка. Бо цяпер па адным будуць прымаць. А па адным уступаць цяжка, чалавеча. Усе тваe косці які-небудзь Вацік перамацае, бацькоў тваіх, дзядоў-прадзедаў ні пра што ўздыме з таго свету. Ты ўвесь будзеш як на далоні — якой ты масці.

Даніла ўставіў сваё слова:

— Гэта-то праўда...

Ён цяпер адчуваў у сабе больш смеласці, радаваўся суседскаму розуму, хацеў, каб да канца выказаў сусед, каб навучыў яго, як трымаць сябе з цяперашнім светам. Ён запытаў:

— А як жа яно,— ты не крыўдуй, а я не разумею,— дакуль жа ты будзеш у калгасе?

Тым самым роўным, выразным, але цішэйшым голасам Ахрэм сказаў:

— Датуль трэба быць, пакуль не падыдзе момант... Каб табе было зразумела — пакуль прыйдзе вайна. Вось! Прыйдзе вайна, і калгасы гэтыя пылам змяце...

Пачуўшы такія словы, Даніла апырскаў свой твар радасцю. Ахрэмавы словы былі для яго цяпер законам, нечым змоўным. Ён не зводзіў вачэй з свайго суседа, як з немінучага збавіцеля, які ўсё ведае і ведае, што трэба рабіць.

І ад празмернай гэтай сваёй радасці, каб і на самае жахлівае, што магло здарыцца, быў адказ, Даніла запытаў:

— А калі вайна возьме ды не прыйдзе, а цябе выкулачаць? Бо я ж табе не вораг. Гарадскі гэты, я ж кажу, вельмі заўзята стараецца.

— Тады тое будзе! — устрывожанаю злосцю сказаў Ахрэм.— А вайна трэба, каб прыйшла.

— І ты не злуеш на гарадскога?

— Злую... Але мая крыўда ляжыць пад замком. Не зверху трэба паказваць крыўду, а знізу, з сярэдзіны. І вось калі добра пакажаш — не выслізгнецца з рук ніякае ліха.

Слухаў Даніла свайго суседа, а пра крыўду не мог зразумець: «Як гэта паказаць яе з сярэдзіны?»

А Ахрэм:

— Я цябе, Даніла, паважаю і люблю. Я табе ўжо казаў... Бачу я, што ты мне не жадаеш дрэннага, хоць мы і сварыліся некалі з табою, але скажу я: абодва мы былі вінаватымі. Ведама, розум былі прапілі. А тут гэты Слямзак цябе падштурхнуў!.. От што, суседзе... Я табе скажу ўсё, што ў мяне ёсць...

Нехта прайшоў каля Ахрэмавага акна.

Хата Ахрэмава каля самай вуліцы. Хто толькі ідзе — чуваць пад нагамі скрып. Ахрэм міжвольна паглядзеў у акно. Потым стол пасунуў ад лавы — залез за сярэдзіну стала. Мяркуючы сказаць усё, што было на сэрцы, гэтымі словамі Ахрэм бараніў сябе ад вечнага страху. Даніла сваёю наіўнаю ўцехаю папаў у самую Ахрэмаву штодзённую больку. Ахрэм не ведаў, калі прыйдзе вайна, а як і прыйдзе — што з гэтага будзе. Ён не хацеў чуць і ні свайго, і ні чужога голасу, што, можа, ён і не дачакаецца той вайны. І ў гэтым нехаценні ўжо быў трапятлівы страх за сябе; ён вісеў над самаю яго галавою, як тая гіра на тонкай нітцы. Кожную хвіліну магла абарвацца гэта гіра...

Успёршыся над сталом, пальцы за пальцы заклаўшы ды скраўшы голас, Ахрэм гаварыў:

— От што... Пакуль што я магу жыць леташнім

хлебам. А ўсякія Старавойты хай крыху папухнуць — хай пасмакуюць калгаснага хлеба. Я вельмі радуюся, што мы вывезлі больш як трэба збожжа на станцыю. Хай ведаюць! Збожжа цяпер у нас ёсць, але мы нікому не даем. Мы кажам: пакідаем на запас — мала што можа здарыцца ў гаспадарцы! Але я другое маю на воку: хай яно тухне, хай буцвее! Дык нябось — голад загамоніць на ўвесь голас. Голад пакажа сілу. От як, Даніла, трэба рабіць, паказваць крыўду, як я кажу, з сярэдзіны, а не зверху. Вось чаму мне і шкода берчукоўскага калгаса...

— Гэта ты, Ахрэм, вельмі разумна кажаш,— гонарам вусы разгладжваў Даніла перад Ахрэмам.— Я казаў не раз сваёй бабе: Ахрэм, кажу, ведае, што рабіць. А яна ўсё абзывала — прызнаюся табе — дурнем, што ты пайшоў у калгас... Дык гэта ж, як той казаў, і козы сытыя, і сена цэлае.

З такой Данілавай радасці Ахрэм не сцярпеў, гаварыў:

— Дык от жа... Я, Даніла, таксама спачатку думаў: не трэба ісці ў калгас. Процівам трэба жыць. Але добра зрабіў. І праз Міхлю, скажу табе, шмат чаго зрабіў. Яна — чалавек, хоць і жанчына, а ведае, як трэба жыць на свеце. А на Харытона я не злую. Ён рабіў калгасы і вельмі добра. Ён штырыў людзей без разбору. І калі б не пастанова Масквы, ды каб не прынесла нядобрая гэтага Такарскага з яго «карэннем», што выкопваў ён з душы кожнага чалавека,— жыццё наша асталявалася б.

Нецярплівасцю імжэла Данілава нутро, у самую глыбіню яго розуму западала суседава гаворка.

— Далібог,— як ужо дадому ішоў, развагаю варушыў Даніла ў думках,— гэта ж каб далі Харытону волю, увесь свет ён закалгасаваў бы. Тады сядзі сабе ў калгасе, як кажа Ахрэм, ды гэтак ціхенька, пакрысе — шчык, шчык... цярабі, аж пакуль ад яго не астанецца ні адной пярынкі.

II

Не пайшоў у гэты дзень Харытон у сельсавет на службу. Быў на сваёй кватэры, што здымаў у старога берчукоўскага Яўхіма.

У густым тумане за Харытонавым акном плаваў зі-

мовы дзень. Чорнымі камякамі віселі на аголеным галлі клёна, ліпы, дуба гракі — вестуны вясны. А яна недзе далёка за гарою, у лагчыне, прабівалася з-пад снегу зялёным грукатам.

Праз цэлы от ужо месяц не меў Харытон для сябе выходнага. Усе яго дні былі закілзаны раённымі прадпісаннямі. А іх так шмат было ў гэтую восень. Здавалася Харытону часам, што галава не стрымае, колькі прыносіць Косцік раённых паперак. Тады ахвотная іскра загаралася павагаю да самога сябе: «Люблю працаваць, і раён мне дае даверлівасць на маю працу».

Толькі от апошнія дні бураю ўскалыхнулі Харытонаў настрой. З таго вечара, як прыехаў Харытон з Крыжоў, успала на яго кіслата-гарклявасць. Ці то была ў яго на сэрцы прыкрасць, што раскідаўся барчукоўскі калгас, ці што атрымаў ён з раёна паперку, каб не раскулачваць Міхася Кляўко. І, бадай што, раённая паперка псавала Харытонаву чуласць. «Ён — старшыня сельсавецкі і не мае свайго сталага меркавання». І яшчэ: «Прадпісуе хоць бы той самы раён, а потым слова свайго не трымае, а ты выношвай перад людзьмі неаплачаную цярплівасць». Тады хацелася Харытону, каб паказаць перад некім хоць сілу свайго старшынёвага слова.

«І пакажу»,— сталымі думкамі гаварыў Харытон.

Ведаў добра, што праз Ваціка выйшла справа Міхасёвай затрымкі. Бо той ліст, што пісаў гэты канец да Калініна, у Харытонавай кішэні. Не ведаў бы, каб тым самым днём не зайшоў Косцік, у яго канцылярыю. Ад аўсянага апою прапаў у муравейнікаўскім калгасе якраз конь. Аддаваў Косцік акт пра каня і не сцярпеў. («Хай ведае сельсавецкі старшыня, якія бываюць у Косціка лісты!»)

— Ліст нясу аж да самага Калініна,— сказаў Харытону.

А той:

— Пакажы... Заўтра паеду я ў раён — адвязу тваю пошту.

Больш як на каго, на Ваціка з таго дня зубы вастрыў, меркаваў: «Праз Ваціка і ліст напісаны гэтым муравейнікаўскім канцом. Канешне. Не даў Вацік свайго подпісу, і ў іх вырасла тая смеласць».

Апошнім часам не сустракаўся Харытон з Ваціка́м. От ужо каля двух тыдняў, як паехаў Вацік з Манечкаю

ў горад. Прыйшла паперка была ад ліцейшчыкаў, каб Вацік прыехаў на завод на некалькі дзён на фабрычна-заводскую нараду.

А надоечы стары Нічыпар другі ліст атрымаў ад Ваціка, дык было ў тым лісце: «Хутка прыедзем, дзядзька Нічыпар, з гарадскімі навінамі».

Харытону вельмі карцела, каб хутчэй прыехаў Вацік у Чырвонае. Праз усе гэтыя дні быў з неспакойнымі думкамі. І ўсё дзеля яе, дзеля Міхлі. Калі прыслаў раён на Міхася прадпісанне, моцнаю крыўдаю ўскіпела Харытонава нутро. Сам сабе гаварыў уголас:

— Я, сельсавецкі старшыня, ведаю, што раблю. Міхась — кулацкая шышка.

Успамінаў наконт Міхася Танцулькавы словы: «Міхась — урэдная птушка. Ад яго і падпалу можна чакаць і ўсякага для калгаса злачынства».

Тады прыходзілі да Харытона з першага сходу Міхасёвы словы: «Нашы ў калгас не пойдуць... Нямашака чаго нам галовы марочаннем затуманьваць...»

— Дык што ж больш трэба для раённых галоў,— з Марцінам гаварыў перад Міхляю.

А яна не сходзіла ні на адну хвіліну з яго чуласці. І яшчэ большым светачам гарэла Харытонава нутро — не зводзіў з сваіх думак: «Вацік даносы рабіў раёну дзеля Міхлінага сэрца. Зайздрасць апанавала чалавека, дык і не ведаў, што ён робіць ад зайздрасці. Хай бы прыехаў ды няхай бы паразрываўся ад злосці — паглядзеў, як паважае мяне гэта дзяўчына». Больш як калі жыў Харытон Міхляю ў гэты ад работы адсунуты дзень. Дагары пластом ляжаў на сваім жалезным вузенькім ложку. Ногі паклаў аж на верхнюю білу, руку падлажыў пад галаву, другою трымаў учарашнюю газету. Маленькімі вачыма церабіў дарогу па газетных радках. Хацеў зразумець, што гаварыла газета цесна ўсланымі радкамі-літарамі. Але не слухалі Харытона радкі: лукаткамі разбягаліся, слізгаліся перад яго вачыма. А чорненькія літары-кропачкі дружным роем гаварылі: «Вёска ахоплена агнём класавых боек. Вораг залазіць у самыя шчыліны, каб нападаць на сацыялістычнае будаўніцтва... Змагаюцца паміж сабою два канцы свету».

А Харытон у сваёй чуласці:

— Я гатоў біцца. Які ён нецікавы чалавек... Яна не хоча нават мець з ім гаворкі. Яна яго ненавідзіць,

і ён смалою шавецкаю ліпне да яе, ды на мне спаганяе ў раёне сваю злосць...»

«...Кулацтва шчыра служыць контррэвалюцыі. Кулацтва гарыць агнём нянавісці да нашых рабоча-сялянскіх і чырвонаармейскіх Саветаў. Саветы змагаюцца за пабудову сацыялізма. Калгасная вёска — вострая зброя барацьбы з контррэвалюцыянерам-кулаком і правільная дарога да вялікай камуністычнай будучыні...»

— ...Мы будзем жыць. Мы будзем любіць адзін другога моцна, шчыра. Яна будзе шыць на машынцы, а я працаваць буду... старшынёю або ў калгасе... Я працу люблю, як сам сябе. Мы знішчым, звядзем са свету ўсіх кулакоў. А наша жыццё такое малое... Шмат чаго трэба чалавеку на гэтым свеце...

«...Трэба добра пільнаваць калгаснага ворага. Ён выбіт сацыялістычным будаўніцтвам з каляіны свайго жыцця, ён больш як калі-небудзь раззлаваны. Ён нападае цяпер на нас спотайка ліхім раздражненым зверам. Ён не здаецца жывым у апошняй сваёй бойцы. Бедната сялянская...»

— ...Хай бы ты цяпер да мяне прыйшла. А мо я схаджу ў Муравейнікі. У мяне ж сёння ад штодзённай работы святочны дзень, добрая мая Міхля.

«...Кулак ідзе на апошнюю стаўку. Ён часам не шкадуе сваёй маёмасці, свайго жыцця, абы толькі каб узарваць нутраную энергію працоўнага энтузіязму. Бо ведае ён добра, што не ўжывецца з людзьмі, якія былі яго парабкамі. Жыццё перайначыла свет працавітага чалавека: яно дало яму волю быць уладаром над сваім векавечным эксплуататарам. Новае жыццё...»

Харытон перавёў позірк вачэй на другое месца газеты:

«...Яны, гэтыя поспехі, нярэдка ап'яняюць людзей, пачынае кружыцца галава ад поспехаў, губляецца пачуццё меры, губляецца здольнасць разумення, сапраўднасці, з'яўляецца імкненне пераацаніць свае сілы і ворага, з'яўляюцца авантурныя імкненні «ў два пічоты» вырашыць усе пытанні сацыялістычнага будаўніцтва...»

На самы ніз газетных радкоў кінуў позірк:

«...Адной з найвялікшых якасцей палітычнай стратэгіі нашай партыі з'яўляецца тое, што яна ўмее выбіраць у кожны даны момант галоўнае звяно руху...»

— ...Не, а я ўсё ж такі схаджу ў Муравейнікі.

Наводліў рукою на акно палажыў недачытаную газету. Адным звыклым узмахам зняў з біла ложка свае ногі. Узняцца хацеў з ложка, каб ісці — несці, хоць сабе за дзесяць вёрст, узбуджаны, пякучым агнём запалены настрой. Але адчыніліся дзверы з Яўхімавай кухні, і да Харытона зайшла старая Яўхіміха.

Не адна Яўхіміха, а ўся ваколіца ведала, гаварыла, што валэндаецца Харытон з Міхляй. Не адзін раз жарт строіла перад Харытонам Яўхімава жонка. Неўзнячэўку ўсё падносіла да яго тым жартам абцярушаную просьбу: «Глядзіце, не забудзьцеся мяне, Харытонка, узяць за сваццю. У-у які белы, ды які вялікі піrог спяку... А колькі песень вам наспяваю... каб вы шчаслівыя ды багатыя былі і каб ніколі праміж сабою не мелі задзірак, ні сварак».

Харытон радасць гатаваў ад гаворак Яўхіміхі. Ахвотна слухаў, калі пра Міхлю гаворка ішла. Тады хацелася Харытону, каб Яўхіміха доўга гаварыла з ім пра яе, а ён бы слухаў ды смяяўся дробна-шчакатлівым смехам.

Калі зайшла Яўхіміха ў Харытонаў пакой,— пружынаю ўзняўся з ложка. Нібы чуласць гаварыла яго розуму: «Нешта скажа старая нядрэннае для яго».

А Яўхіміха падышла аж да самага ложка.

— Ідзе... Міхля.— Вока слязлівае прыжмурыла, сказала прыцiснутым голасам, нібы баялася, каб не абудзіць каго ў Харытонавым пакоі ці каб не пачула Міхля.

Што рабілася наўкруг муравейнікаўскага калгаса — моцным непакоем устрывожыла Міхлю. Яна ўжо от каторы час дні і ночы губляла ў блуклівых неастаяляваных думках. Ведала добра цяпер, што жыццё яе ўзмучана аж з самага дна. Усімі гадамі ляжала яно запакаванае — чакала нейкага часу. Але не прыйшоў, не звярнуўся той час, калі б магло яно красою ўзняцца — расцвісці для яе белым цветам.

Крыўду, што трывогаю напакавала Міхліна сэрца, узводзіла на Харытона. Калі раскулачвалі Міхася, думала — будзе работа на карысць для гэтага канца, для ўсіх ваколічных вёсак. Мела на сваіх думках замкнутую радасць: «Ото ж добра, што такога раскулачваюць: будзе злосць расці на савецкую ўладу ў людзей.

А чым больш злосці, тым хутчэй прыйдзе наша дарагое, наша доўгачаканае жыццё».

А калі дазналася пра ліст з гэтага канца,— ахапіла Міхлю пякучая прыкрасць на ўвесь свет. Другія думкі спелі ў яе галаве.

Лепш не чапаў бы Харытон галадранай басаты. Раздражніў, от як тую асу ў гняздзе, а не выкурыў яе дашчэнту. Надоечы яшчэ скардзіліся калгаснаму праўленню Петрык з старым Старавойтам, што няма хлеба, што не будзе зараз з чаго зварыць нішчымную страву. Не жмурачы вока, выкрылі сваю крыўду на калгаснага старшыню Банадыся. Казалі, чаму не даюць збожжа, калі ёсць яно ў засеках. Гусей, кароў паставілі на відавокае перад ім. Якраз быў прыйшоў з Чырвонага на праўленне з Міхасёвым Юзікам Кастусь Гарбуноўчык. Слухалі хлопцы, як Банадысь апраўдваўся — віну ўскладаў на старэйшага брыгадзіра.

Тады Кастусь Гарбуноўчык гаварыў:

— Трэба скласці камсамольскую брыгаду, і яна хай прагледзіць, што хто робіць у вашым калгасе. Бо ўсюды калгасы, як той казаў, як і калгасы, а ў вас людзі ходзяць з скаргамі, дык, можа, і знойдзе брыгада якоганебудзь чалавечка для пракуроравай работы.

І Міхаліны дні ўзварушаны былі жыццём ды разгушканы на ўвесь мах.

Гаварыла да Ахрэма:

— Позна будзе... Калі Такарскі ўспадзе на нас, ды яшчэ з гэтым муравейнікаўскім канцом на прыпражку... Могуць і напраўду выселіць з калгаса. Пашлюць, як таго малінаўскага Булгака, служыць малебны Салавецкаму манастыру. Так што — рабіць трэба нешта.

...Калі ўвайшла Міхля ў хату, не ведаў Харытон, якою радасцю яе сустракаць. Крэсла паставіў перад ёю. Нібы ён з марозу ў хату зайшоў, раз-пораз цёр рукі.

А яна гаварыла:

— У вас так цёпла...

— Два разы паліць гаспадыня печ: раніцою і ўвечары. Баіцца, каб я не прастудзіўся. Мая гаспадыня вельмі, ведаеце, добры чалавек...

— А ў нас холадна... І мы таксама два разы палім, а холадна...

— Ваша, мусіць, старая печ,— казаў, сядаючы насупраць Міхлі,— старая печ, канешне, не дае такога цяпла. Дык от і прыходзьце да мяне ды грэйцеся...

Міхля рассмяялася прымушаным смехам. Квапным вокам акінула Харытонаў пакойчык. Бачыла на сцяне расфарбаваныя плакаты: вунь дзе — за карысць ашчаднай касы, а вунь дзе — за карысць дзяржаўнай пазыкі... Бачыла на акне вышчарбленае люстэрка, а каля люстэрка круглую пячатку.

— Прыходзьце,— гаварыў Харытон,— я вельмі буду рад. Вы ж, бадай, у мяне другі толькі раз у хаце.

— Трэці,— сморгаючы паміж пальцаў знятую з рукі пальчатку, адказала Міхля. Ды працяжна, не то жартам, не то і сур'ёзна, дадала: — І апошні.

Харытон быў не зразумеў, што яна сказала, а яна як наўмысна:

— ...І апошні,— пераказала другім разам.

— Што гэта вы кажаце? — згубіў з твару рассыпаную ўсмешку радасці.— Як гэта апошні?

Тады ўзняла вочы перад Харытонам — гаварыла вострым, як брытва, тонам-голасам:

— Я, ведаеце, еду ў горад... Паеду на швейную фабрыку... назаўсёды. Я прыйшла, каб далі вы мне сельсавецкае пасведчанне. І каб у пасведчанні напісалі, што я «ёсць сапраўды чалавек-жанчына» і так далей, і таму падобнае.

Яна расмяялася дробна-макавым смехам, а Харытон з устрывожаным пачуццём:

— Вы жартуеце... Вы не паедзеце, Міхаліна Дамінікаўна... Нікуды вы не паедзеце...

— Чаму?

— Я не пушчу вас.

— Не дасцё мне паперкі, што я з'яўляюся жанчынай?..

— Я дам вам сто, дзвесце паперак, але не пушчу вас.

Ён гаварыў, і было ў яго адчуванні: от нешта каштоўнае выслізгваецца з яго рук. Працінаў вострым зіркам яе твар — бачыў, як усміхалася яна густым разлітым смехам, але не смяяўся разам з ёю. Думка раптоўна свідравала яго ўзбуджаны розум: «Цяпер лепш, як калі, сказаць ёй нікому негаворанае слова».

Але яна перапыніла яго думку:

— Паеду...— сказала, гуляючы з пальчаткаю.— Буду з горада пісаць вам лісты... Вы прыедзеце ў горад, зойдзеце да мяне... Пойдзем у тэатр... Потым ажэніцеся, а я прыязджаць буду да вас у госці...

І яе гулліва-абыякавыя словы ўсхвалявалі нецярплівую Харытонаву натуру. Перапоўненаю выразнасцю паўстаў Вацік, калі застаў яго Вацік у яе пакоі. Лягла на ўспамінак прыціснутаю нянавісцю Вацікава постаць. На момант былі перад Харытонавымі вачыма гарадскія вуліцы, а па тратуары ідуць — яна з Вацікам: «Ён жа цяпер там, у горадзе».

— Ты-ы... не паедзеце...— праказаў сам сабе нутраным голасам.

Падышоў да яе крэсла, з рук узяў мяккую чорную пальчатку. Калі браў, яна лёгка яе пусціла, а ён, адчуваючы пакінутае цяпло на пальчатцы:

— Ніколі нікуды не паедзеце... ад мяне. І я прашу вашага слова... Вы не паедзеце. Зараз гаспадыня паставіць самавар, і мы будзем піць — у мяне ёсць вішнёвае варэнне — будзем піць з вішнёвым варэннем чай.

Міхля ўзбуджана чакала Харытонавай раптоўнасці. Яна даўно чакала, што ён скажа ёй слова, запаленае гарачымі іскрамі. І што сказаў ён — вельмі было ёй даспадобы. Бо што было на яе меркаванні — расло ядраным ростам, церабіла закіданую перад яе жыццём дарогу. От ужо колькі год, а не была ў такой утульнай вясёласці. Толькі ад узнятага пылу-радасці на момант веру была згубіла ў самую сябе: «Няўжо і ўпраўду так шмат яшчэ сілы і волі, каб на ўсю смеласць кпіць над жыццём гэтага чалавека».

А Харытон:

— Можа, яшчэ наліць шклянку чаю?

— А-а... Мне хацелася, паколькі я трэцім разам у вашай кватэры...— стрыжаныя валасы зачэсваючы грэбенем, гаварыла Міхля,— мне хацелася не шклянку, па праўдзе кажучы, а чарку... чарку чаю.

Харытон збянтэжыўся. Узяў быў у руку ад Міхлі сподак з парожняю шклянкаю, а калі сказала, па стале сподкам шараваў то сюды, то туды. І не ведаў: ці яна жарт строіць над ім, ці ўпраўду сказала такое ярка-зялёнае слова.

Міхля адным зіркам злавіла яго разгубленасць ды:

— Калі няма, таварыш Мамчыц, і не трэба. Я гэта для вас... Ну і дзеля вас — мо не чарку чаю, а паўчаркі...

— У мяне... канешне, няма.— І адразу ж дадаў: — У гаспадыні... Я зараз, праз хвіліну. У яе — ёсць. Калі мне трэба, я і бяру ў яе.

Выйшаў праз кухонныя дзверы, а яна ўстала з крэсла, падышла да акна — глядзела ў выліняўшы кавалак ламанага люстэрка. Убачыла Міхля свой твар і дзіву далася перад люстэркам: быў твар вельмі зблажнелы.

«Ад таго, што недасыпаю»,— прабегла ў яе галаве думка. А калі яшчэ ўглядалася: «Я не пазнаю проста сама сябе. Якое агіднае чалавечае жыццё. Навошта жыве чалавек, калі жыццё вядзе яго да гэтых... От яна — адна, другая — маршчына...» — Зайздросна пружыніла шчокі, неўпрыкметку расцірала пальцамі дробна-пакарбаванае цела.

«Калі б цяпер убачыў мяне Віктар,— гаварыла думкаю,— не спазнаў бы. Маё гэта малое Віктаранётка... Яно і не ведае тамака, што маршчынкі пaляглі на тых шчочках, да якіх прыліпалі мяккія, цёпленькія губкі. Скора ты будзеш разгладжваць іх сваімі рыжанькімі шчакатлівымі вусікамі».

Ставіла люстэрка, знячэўку кінула позірк на падаконнік: тую самую ўбачыла круглую пячатку. Тады ўзяла ў рукі ды пазірала на дно пячаткі, на яе літарнае поле.

— Як мудра зроблена: сюды сабран увесь савет...— Круціла ў тонкіх пальцах сельсавецкую пячатку, чытала: «Берчукоўскі сельсавет...»

Адчыніліся кухонныя дзверы, і Міхля міжвольна, з маленькім сполахам, палажыла пячатку на падаконнік.

— Чаму вы не маеце добрага люстэрка? — ступіла некалькі крокаў Харытону насустрач.— А яшчэ называецеся кавалерам...

Харытон паставіў на стол да палавіны налітую пляшку, гаварыў Міхлі:

— Як ажанюся, тады будзе цэлае люстэрка. Садзіцеся, калі ласка... Вып'ем па чарцы, як вы кажаце, чаю. Зараз будзе ў нас гарачае сала.

### III

Састарыўся дзень. Сонца ўпала на зямлю, разбілася на друз, апырскала апушчаную фіранку неба. А Міхась Кляўко ішоў з Пячоркава і не бачыў, не браў на свой зрок сонечнага разліву. Сплеценым роем варушыліся

яго думкі. Вельмі ж ужо ўстрывожыў іх, узняў на дыбы, пячуркаўскі стрэчны брат Янук.

Міхась хадзіў да Янука, каб дапамог ён вытралявадь сухастой з Вярцінскага дачы. Купіў Міхась гэты сухастой, каб паднавіць зношаны хлеў, а сілы і не хапае. Янук дакляраваў на чацвер далучыць сваю сілу. Ды толькі не пра сухастой, а другою гамонкаю абудзіў Янук Міхасёва пачуццё.

Дзед-вечар надыходзіў важнаю хадою. Адразу займаў сваім грузным калматым целам усё ваколічнае. І, здавалася, снег квола скрыпеў пад нагамі не Міхася Кляўко, а дзеда-вечара. Міхась усё роўна не чуў снежнага скрыпу — мераў без меркі белае снегавае палатно, адкідаў яго сабе пад ногі скруткамі цэлых гоняў.

Міхась Кляўко і ўвесь гэты муравейнікаўскі канец чакалі, калі ўжо напіша Калінін адказ на іх заяву.

Думкі і гаворкі між сабою ва ўсіх сыходзіліся на адным:

«Напіша Міхаіл Іванавіч, каб зараз жа выбраць новага калгаснага старшыню... ды каб Харытона перагледзець...»

Дні ішлі цягуча доўга. Зранку бывала ярчэй, цішэй у паветры. Уначы вецер круціў снег. Ночы непралазнаю гушчаю хуталі ўсё вакольнае. І гэтак — дзень за днём... Здавалася, без змены праходзілі дні... (Тыя самыя крыллі ветранога млына варочаліся назад.)

Не ведалі, ды і не было нават падазронага намёку, што іхнюю заяву Харытонава злосць кінула ў Яўхімішыну ляжанку. Агонь быў неахвотна пачаў жаваць пакамечаную паперу. Харытон тады папоркаў яе жалезнаю качаргою — гаварыў:

— Гары... гары, чаго не гарыш... От дзе хаваюцца падкалодныя вужакі... Для іх дабра хочаш, а яны табе...

Праз увесь час ад той заявы хадзіў Міхась з радасцю: усё чакаў... Але доўгая яго радасць пачала растрасацца, губляцца, як тыя медзякі праз падраную кішэню. Часамі сум агортваў, і роспач надыходзіла на засівераўшае жыццём нутро. Цэлыя гады пераварочваў думкамі. Сціскаў кулакамі жыццёвыя горы ды кідаў іх, як той важкі камень, у прадонне.

Лаўрэн заходзіў да Міхася, сустракаўся ў часе работы — гаварыў:

— Масква далёка... Далёка, Міхась, Масква... Па-

куль дойдзе туды ды назад... Ды гасударства ў Калініна вялікае.

І от, калі прыйшоў сягоння Міхась да стрэчнага брата,— падліў яму той у агонь масла. Тое, што нагарам сабралася на Міхасёвым сэрцы, раскалупаў,— большы ўчыніў Міхасю боль.

— Ты, брат, і жвавы чалавек,— казаў Янук,— а забыўся.

Міхась не то не разумеў, не то і сам не ведаў.

— Чаму ты так кажаш? — запытаў.

— Не так... Ты цацкаешся тамака і ні сёе ні тое. Гэтак, канешне, і вінаватым могуць зрабіць. І што ты кулак, і што ўраг для савецкай уласці. Дарма сабе, што бараніў ты (і я бараніў) савецкую ўласць, а могуць зрабіць. Каб ты, хіба, не думаў уступаць у калгас... А так — толькі праз гэтага Ахрэма — дрэнь.

Янук гаварыў выпрабаваным голасам:

— Тады табе будзе куды лягчэй даказаць сваё права над Ахрэмам, над Харытонам. Ты будзеш чалавек з голасам. І заяўленняў не трэба будзе пісаць Калініну.

Міхась уціснуў апраўданне:

— Я і цяпер маю права на голас.

— Але голас твой ураздроб,— казаў Янук,— нямоцны. Цяпер трэба дзесяць слоў, а тады — адно слова. Бо яно будзе ад цэлага калякціва, а цяпер — ад цябе аднаго.

Янук не зводзіў з Міхася сваіх вачэй, гаварыў:

— Трэба, Міхась, страсануцца. Ты ж ведаеш нашага Мацея. Ад яго, бывала, цяжка дачакацца якога-небудзь слова. Пакуль ён яго выцісне... А от паглядзі, што ён піша мне.

Тады дастаў Янук з-пад бэлькі Мацееў ліст. Абтрос з яго рукой пыл, паглядзеў на канверт ды:

— Ы-ы, каб іх нараду не было: мухі... Учора атрымаў, а паглядзі, як запаганілі канверт.

І гэты ліст найбольш раскалупаў упластаваную скарынку Міхасёвай чуласці.

Мацей пісаў да брата Янука: «Дзяндобры, браток Янук.

От ужо цэлае лета праходзіць, як я цябе пакінуў і нічога не пісаў табе. Я-то чуў пра цябе — прыязджалі нейк спярша ў горад Арцёма вы, дык я быў стрэў іх — распытаўся, як ты пажываеш, і збіраўся, ведаеш, напісаць, ды ўсё часу гэтага вобмаль. То пакуль з ква-

тэраю ўгаманіўся, то з завода прыйдзеш,— як табе вядома, аднаму сюд-туд, а час і праходзіць. Так што ты не злуй на мяне.

А на заводзе, Янук, я ўжо звыкся. У нас цяперака — мы работу робім брыгадамі. Па восем, па дзесяць чалавек.

Брыгада наша з васьмі чалавек, і ўсе мы — хлопцамі нежанатымі. Хто адкуль: пяцёра ў нашай брыгадзе тутэйшыя, гарадскія, а мы — толькі трое — з вёскі. Адзін з Бродаў, адзін аж з Прыстані, ну і я.

Як папаў я, ведаеш, у горад, да чаго была напала на мяне нуда. Не пераяжыву, думаў. Вядома, усе незнаёмыя,— і пагаварыць нават няма з кім. Ідзеш па вуліцы, і людзей гэтулькі шмат... Прыглядаешся, і здаецца — от нашай вёскі чалавек ідзе. І іх гэтулькі, а ўсё роўна няма нікога з нашага краю. Толькі яшчэ больш жаль успадае.

Але таварыш Махвіц, тутэйшы гаспадарскі хлопец, што разам у адной брыгадзе,— скеміў маю нуду.

— Што ты, браце, кажа, невясёлы гэтакі ходзіш? Давай сходзім куды-небудзь: у кіно або ў ціяцер.

— Не,— кажу я яму,— не пайду.

А самаго ад гэтага яшчэ больш жаль агортвае.

Што ты, думаю, мяне сваім кіно ўлагодзіць хочаш. Што я, маленькі ці нічога не ведаю? А жаль яшчэ больш. Як успомню пра цябе і пра ўсіх вас, як прысак уссыпаецца на твар. Думаю сам сабе: у нас там вечарынкі, у нас там кожны святок Міша на двухрадцы перабірае...

Але от нейк зноў другім наватарам прычапіўся быў да мяне Махвіц: «Хадзем ды хадзем...» Як смала тая шавецкая. Хоць куды, кажа, хадзем. Абы ісці. А тут яшчэ якраз трох гарадскіх хлапцоў, што ў нашай брыгадзе, навярзлося. І таксама:

— Хадзем, кажуць. Што ты, кажуць, за чалавек!

Неяк мне нялоўка зрабілася. Сапраўды, што я за чалавек! Людзі ж мне злога ў думках не трымаюць — з адной брыгады.

— Пойдзем, калі так,— кажу ім.

І пайшлі. І паглядзелі кіно.

Мне не так тое кіно, як я іх паважаў цэлы той вечар. У мяне проста-такі і вельмі ж была да гэтых рабочых хлапцоў павага, што яны маю адзіноту заўважылі. Што ў іх хіба хеўры не хапае, ці што? У іх повен го-

рад хеўры. А яны ўсё адно, глядзі ты, як згаварыліся.

Назаўтра — у-у — як мы працавалі.

У нас, братка Янук, на працэнты працуюць. Дык мы ўсе свае працэнты, як завінуліся, выгналі. Нас нават у насценнай газеце за гэта напісалі.

Браток Янук. Я от часамі ляжу пасля работы і думаю сам сабе: каб ведаў наш бацька, як мы прайшлі жыццё. Ён жа вельмі бедаваў, як быў хворы, перад смерцю, як гэта мы будзем жыць з табою. Мне вельмі б хацелася, каб жыў наш бацька ды паглядзеў на нас цяпер. Часамі от як удумаешся, дык аж сэрца ацінае, што пражылося жыццё нашых бацькоў так марна. Усамдзеле.

Хоць я і малы быў, але памятаю. Бацькі нашы, як табе вядома, бывала, прасветлае гадзіны не бачылі. Бывала, адны Калечыцавы маргі заядалі нашых бацькоў. Ды і ты ж сам баранаваць хадзіў Калечыцу за пашу. А што мелі за гэта? Ліпелі на трох дзесяцінах, бясхлебіцаю марнавалі сваё жыццё. Рабілі, як тыя чорныя валы, а ці знасілі, ці з'елі, як тыя людзі. Матка босая цэлы свой век прахадзіла, бацька свае шлюбныя боты на вялікдзень, на каляды толькі і надзяваў. З лапцей ніколі ўся сям'я не вылазіла. Хлеба свайго да каляд мелі. Цэлы год на адработкі пазычалі хлеб.

А ці шмат мы з табою, Янук, сала, малака бачылі? Карова адна была, дык малака — забяліць крупнік толькі. Мне вельмі ўспамінаецца, Янук, як мы цэлае лета яблыкамі, ігрушамі, бручкаю пражывалі. Добра, што пакаёўкаю была ў Калечыца муравейнікаўская Хіма. Як пойдзеш на падзёншчыну, папросіш яблыкаўападкаў, яна і прынясе цэлы фартух. Так і елі без хлеба.

Ведаеш, Янук, я сустрэўся тутака з Селівонавым Цупрыянам. Ён атрымаў ліст ад свайго меншага брата і расказваў мне (Цупрыян працуе на шавецкай фабрыцы за старшага рабочага). Дык ён казаў, што Вінцэсь піша ў лісце пра іхні калгас. Піша, што яны вельмі мала атрымлівалі: пяць пудоў ячменю, пяць пудоў пшаніцы, пяць пудоў аўса... Вельмі ж скардзіцца на іхні калгас. Кажа, што ён з Сцяпанам нічога нават не атрымалі, так як не працавалі.

І я от не магу сабе ўцяміць, чаму не памятае Вінцэсь, колькі яны атрымлівалі ад нашага Калечыца. Хаця, канешне, Вінцэсь быў малы і не памятае, як бацька

яго разам з намі еў з голаду Хімчыны ападкі. Мне здаецца, калі чалавеку дасі выгоддзе, дык ён забываецца на гора. І, па-мойму, яшчэ: калі б Вінцэсь ды Сцёпка працавалі, бадай што, і не па пяць пудоў было б, а па сем ці, можа, і больш. Два чалавекі вельмі шмат значыць, калі надыдзе сяўба, жніво або касьба. У такую пару — як, бывала, казаў наш бацька — адзін чалавек заменіць дваццаць чалавак на зімовай рабоце. Яны, як той казаў, думалі аб палучцы, а не аб рабоце. Як жа ты,— хоць бы сабе і ў нас на заводзе,— як ты атрымаеш, калі не заробіш? Дык от што піша...

Братка Янук. Я вельмі ўжо распісаўся нашмат і ледзь не забыўся на самае галоўнае: перашлі ты мне кім-небудзь мае кніжкі. Ты ж ведаеш, што яны для мяне вельмі дарагія. І яшчэ перашлі мне маю рубашку, што ў сінія палоскі. (Белая хай будзе табе.) Ну дык і ўсё, здаецца. Уклоны вот перадай: братавай, цётцы Паладзі ды ўсім нашым калгасным суседзям, ды пішы. Знайдзі калі-небудзь часіну ды напішы. Я ж вельмі буду рады твайму лісту.

Ну, дык і ўсё. Бывай здароў і ўсяго табе ад мяне лепшага.

Твой брат *Мацей Брус*».

...Міхась падышоў аж да Муравейнікаў, а з яго галавы не выходзілі Хімчыны ападкі-яблыкі.

Яны вельмі ж былі для Міхася кісла-горкія, як і само тое змарнаванае жыццё.

Таксама скрыпеў снегам вечар, а Міхась не чуў гэтага скрыпу. Ён паўтараў прынітаваныя воламам думкі:

«Пайду... далібог, пайду... Давяду і без Калінінавай рэзалюцыі. Бо і ўправду, як той Лаўрэн кажа: далёка Масква, ды і работа вялікая і самім трэба прыкладаць да ўсяго і розум, і нашы рукі.

## IV

Дні Вацікавы ў горадзе жылі разагрэтаю маладосцю. Калі зайшоў на завод да сваіх таварышаў — не спазнаў завода. Дзве новыя печы пусцілі ў ліцейным. З таго цэхавага канца выкінулі перагародкі — павялічылі фармовачна-цэхавае поле. У такарскім цэху паставілі тры нітэрныя станкі... У кавальскім — электрычная сіла ўздымае новы малаток-гамар.

А на фабрычна-заводскай нарадзе гаварылі:

«...Вёска цяпер на перабудове. Вёсцы патрэбна як мага больш машын. Вёска паўстала супраць сваіх межаў, якія ціснулі яе ў калючых абдымках быльнягу. Яна руйнуе свае векавечныя межы жыцця...»

І сапраўды. Навошта яны, якія сціскалі так вузка, як труна, чалавечае жыццё?.. Хіба ж яны над чалавекам маюць большае права, як над імі сам чалавек? І хто даў ім волю і права?!

...Якая несправядлівасць у чалавечым жыцці...

На фабрычна-заводскай нарадзе гаварылі:

«...Бедната сялянская змагаецца з сваім калгасным ворагам — кулаком. Машына — вострая зброя ў змаганні. Чым больш гаспадарчых машын — хутчэйшая перамога над ворагам, хутчэйшая пабудова новага жыцця...

...Вёска спрадвеку была адзета ў мазалі, узгадаваныя ў сваім поце. Насіла на сабе адзетую ў транты за тыя мазалі галодную смерць. І ўсё роўна прызывалася гэта чалавечым жыццём. Дык хто ж меў права так несправядліва размяраць каўшом жыццё чалавека?

На фабрычна-заводскай нарадзе:

«...Спаборніцтвам працы заводы і фабрыкі дадуць вёсцы машыны, дадуць гатовы тавар. Рабочыя брыгады ўдарнікаў першымі пададуць руку братам у барацьбе за сацыялістычнае змаганне.

...Барацьба вялікая. Трэба толькі, каб даведаліся векам пакрыўджаныя, што змарнавалася шмат дзён з іх жыцця. Як шмат растоптана чалавечых дзён чорнаю прошласцю!»

Толькі от праз усе гарадскія дні непакоіўся Вацік — карцела яго натура: «Што цяпер у Чырвоным? Ці развезлі гной з хлявоў па саўгасаўскім полі?»

І яшчэ больш, як надворнае святло праз шчыліны, лезла Вацікава думка:

«Што зрабіў раён з Міхасём Кляўко?»

Пасля, як рабіўся ў Міхася вопіс, паехаў Вацік да раённага старшыні Белазёрава (а адтуль паехаў у горад).

Гаварыў Вацік таварышу Белазёраву, што няправільна прадпісана раёнам, каб Міхася Кляўко выслаць з сельсавета. Пра Харытонаву работу гаварыў... што на Берчукоўскім сельсавеце жыве яна прыкрым перасолам. Слухаў Вашка Белазёраў, і маленькая ўсмешка церабіла яго вусны.

А калі Вацік палажыў перад райвыканкомам на стол заяву — адмысловы дакумент на ўсю работу — той сцёр усмешку з сваіх вуснаў.

— Каму больш мы павінны верыць,— шаруючы тупым канцом алоўка па зялёна-настольнай паперы, пытаў Белазёраў,— каму больш: ці нашаму калгасніку, ці аднаасобніку?

Па Вацікавым нутры пачынала спацыраваць халодна-драцяная злосць. Запакаваў яе ў тугую маўклівасць, а Белазёраў гаварыў:

— Вот...— [illegible] жоўтай папкі дастаў доўга спісаную заяву.— Ад калгаснага актыву Муравейнікаў... Вот... Чытай...

Не даваў у рукі Вацікy заявы, а сам чытаў падкрэсленыя радкі калмата-сіняй лініяй:

«...ад Кляўко можна чакаць і падпалу калгаса, і ўсялякага забойства. Гэта самы яры кулацка-класавы вораг».

«...на нашым муравейнікаўскім сходзе ён выступіў нават супроціў калгаса».

Ды:

— Што ты на гэта скажаш? — дробна моргаючы чорнымі павекамі, глядзеў Белазёраў Вацікy ў вочы.— І сельсавет піша пра тое самае.

Тады крыўда крапівою пякучаю агортвала Вацікаву чуласць. От ён цэлае лета пражыў і ведае гэтага чалавека.

На адзін момант была перад Вацікам Міхасёва постаць. Нібы ён стаяў з ім побач.

...Падыходзіць Міхась да стала, а яго саматканыя штаны падперазаны конскім путам. Старымі поламі суконнай жакеткі закрывае Міхась свае штаны: каб не набрацца перад чужым чалавекам невінаватага сораму.

...Сярэдняга росту чалавек... Здзіркаваная на галаве шротам шапка... Маленькія шэрыя вочы... Маршчыны ляжаць густым зборам па кутках Кляўковых вачэй. Барада праз цэлы тыдзень няголеная...

Вацік так і не бачыў Міхася з паголенай барадою. Нібы і не расла яна большаю, і голенаю ніколі не была. Бачыць Вацік гэтага чалавека, як перад сабою на далоні: такім простым быў яго твар... няхітрым, не скрадзеным... Можа, нават быў падобны на дзіцяча-невінаваты твар.

— А што будзе, таварыш Белазёраў,— перад ста-

лом стоячы, казаў Вацік,— што будзе, калі, можа, накінуліся на чалавека з-за сваіх задзірак? Мо муравейнікаўскі калгас напакаван, як чую я, поблізу жывучы, мо нават і некалгаснымі людзьмі?

І зноў была страпянулася па старшынёвых вуснах штучна рассыпаная ўсмешка. Белазёраў гаварыў роўным, як струна, голасам:

— Можа, і ёсцека задзірка. Я табе даю веры... канешне. Толькі, можа, яно і другое ёсцека... так званая другая задзірка — свая выгада?

— Як ты гэта гаворыш? — невінаватае паставіў Вацік пытанне.

А Белазёраў:

— Я нічога... Я кажу, што бываюць людзі, якія ратуюць людзей для сваёй карысці. Гэта, канешне, нядрэнна: і для чалавека дабро будзе, і для сябе — выгоддзе... Ты ж не даў свайго подпісу на складзеным акце па раскулачванню Кляўко?

— І не дам...

Вочы жмурачы, тонкім голасам перапыніў Белазёраў Ваціка:

— Ніхто табе прымусу не робіць... не ў гэтым. Можа, Кляўко і не падыходзіць да кулакоў, калі ты кажаш... Адным словам, мы выедзем на месца і даследуем.

Вацік зразумеў Белазёрава: намёк робіць на яго. Нібы не даў роспісу Вацік, каб дапячы Харытону за Міхлю.

«Няўжо Харытон адважыўся язык павярнуць — вярзці раёну ўсялякае глупства?»

Крыўда прайшлася мяккімі слядамі каля сэрца. Хацеў сказаць Белазёраву, што надарэмна трымае ў сваёй галаве «бабскае» пляткарства. Але як і не скеміў — не паказаў здагадлівасці на сваім твары. Тады яшчэ большая падшыхнула крыўда на гэтага сельсавецкага чалавека: «Што Харытону з ёю ад мяне трэба?»

Белазёраў пераняў Вацікаву разгубленасць.

— Мамчыц мне піша,— казаў,— што Муравейнікі самы найлепшы калгас па сельсавеце. Хоць там і быў падзеж некаторай жывёлы... Гэта не адыгрывае, канешне, ролі. На тое ж гаспадарка... Як кажуць: «Каля вады ходзячы, намочышся». Так што-о... мы, канешне, выедзем і праверым. Чаму, скажам, не хоча далучацца

гэты канец? І там адны батракі. Па-мойму, дрэнную вы праводзіце сярод іх падрыхтоўку.

— А па-мойму, таварыш Белазёраў,— раптоўна падняў Вацік голас,— па-мойму, у муравейнікаўскім калгасе ёсць шкоднікі. І не ў падрыхтоўцы патрэбна шукаць прычыны гэтага канца. Ты кажаш, прапажа жывёлы — патрэбная, неабходная штука ў гаспадарцы, а я кажу — можна абысціся калгасу без гэтай патрэбы.

Вацік гаварыў, і было на яго адчуванні: гаворыць ён — нібы невядомы цяжар, пакладзены на плечы, здымаецца вялікімі кавалкамі. Бачыў ён, як у нервовай трасяніне пальцаў круціў Белазёраў — з аднаго канта на другі — чырвона-сіні аловак. А потым:

— Не ўспорвай, таварыш, сваёй гарачкі,— сказаў зноў роўна захаваным голасам.— Бо хто, калі не муравейнікаўскі калгас, па ўсім сельсавеце і нават па ўсім, калі хочаш, раёне адлічыўся прадажаю для дзяржавы збожжа? Ніхто! Ні з аднаасобных, ні з калгасных сектараў ніхто не здаў дзяржаве больш ста працэнтаў. Мы ведаем, як агітуе кулак супраць хлебанарыхтовак. Як мага клапоціцца ён, дарагі таварыш, каб найменей атрымала дзяржава. Каб дзяржава пайшла на голад. От яго самы галоўны лозунг. І гэты факт, адзін гэты факт кажа нам за калгасную сумленнасць. А гэта ж яшчэ першы год...

Тады спыніў Такарскі наведзеную з Белазёравым гаворку. Адыходзячы з райвыканкомаўскай канцылярыі, толькі быў сказаў:

— Кляўко не падыходзіць яшчэ, кажу, пад кулакоў. Я за яго буду несці адказ. Дай сельсавету прадпісанне, каб і не важыўся нават выкідаць парожніх яго кадоўбчыкаў і бочачак.

І от праз усе гарадскія дні насіў у сваіх думках Вацік муравейнікаўскую хлебную прадажу. Адчуваў незразумелую няпраўду, а не мог узяць яе цвёрдаю рукою. Што сказаў Белазёраву пра гэты канец — радавала Васіка.

«Добра, што сказаў... Хай ведае... У раёне седзячы, ён забыўся на людзей. Далёка не адышоў ён ад Харытона».

У Яся Рымашэвіча на кватэры, дзе спыніўся Вацік з Манечкаю, гаварыў да Манечкі:

— Прыедзем у Чырвонае... Збярэм з камсамольцамі ў гэтым муравейнікаўскім канцы сход. Хай выказваюць

пра ўсё, што ведаюць, нібы гэты муравейнікаўскі канец трымае на сабе нейкую баязлівасць. Цішком вядуць гаворку, а на сходзе — колькі разоў — маўчаць. І гэтым сабе толькі робяць шкоду.

Манечка гаварыла:

— У гэтым канцы вельмі дабрадушныя людзі. Яны і маўчаць. От каб гэткія былі, як гарадскія на заводзе...

А Манечка пабывала з Вацікам гэтымі днямі на заводзе, хадзіла па гарадскіх вуліцах...

Першы раз была ў горадзе. Пад'язджалі цягнікам да горада — думалася дзяўчынцы — прыедуць яны ў вялікае сяло. Хаты будуць усе, як у Луцішчы, пакрыты гонтамі. Аканіцы будуць пафарбаваны ў рознакаляровую фарбу. Самі вуліцы вялікага сяла, што прызываецца горадам, будуць ісці побач, адна каля другой. Зірнеш з канца і ўбачыш наскрозь увесь горад з людзьмі.

Калі сыходзіла з цягніка — вялікая станцыённая будыніна загарадзіла была перад вачыма ўвесь горад. Пытала ў Ваціка, хто жыве ў такой вялікай будыніне. Не то за невашта шкода Ваціку было гэтай дзяўчынкі, не то спела радасць, што ўзяў яе з сабою ў горад.

І от пакажа ёй новы невядомы свет, новых для яе людзей...

Ішлі горадам, Манечка дзіву давалася: шмат вельмі стаяла такіх і яшчэ большых нават будынін. Вуліцы ўсе адзеты ў каменне...

«Дзе людзі маглі набраць гэтулькі камення? — трымала ў сваіх думках.— Нідзе няма месца, каб не было камення. А колькі людзей!»

Саромелася пытаць у Ваціка, а ў думках: «Якое сягоння свята, што так шмат людзей ходзіць разадзетых па вуліцы?»

На заводзе спаткалі Ваціка знаёмыя заводскія рабочыя. Убачыў яго з Манечкаю стары ліцейшчык Уронскі, жартам сустрэў:

— Ці не з маладою жонкаю, таварыш Вячаславе?

А Дзясніцкі Стэфан — малады токар:

— Калі ласка... пажалуйста: пазнаём, Вячаславе, з сваёй знаёмай. От паглядзіце, як сыплюцца з-пад свердла стружкі.

Ударнік з ліцейнай брыгады, камсамолец Шура, праходзіў каля Манечкі — хацеў, каб убачыла на зашмальцаванай жакетцы асаавіяхімаўскі значок: выпучваў шырокія грудзі, незнарокам атрасаў заводскі пыл.

Здавалася Манечцы, што ўсе для яе даўно знаёмыя. Не ведала толькі паасобку кожнага з іх. Нібы была даўно знаёмая з людзьмі, ды забылася, дзе мела з імі сустрэчу.

Хадзіла з Вацікам па заводскіх цэхах, бачыла вялікую сям'ю людзей на дружнай рабоце. Хацелася тады, каб такія цэхі былі ў іх, у Чырвоным, у Муравейніках.

От каля разагрэтай, доўга-круглай печы той самы стары жартаўнік... Увесь твар праняты перамешаным потам з сажаю. Бачыла, як прабіваў ён у печы задратаваную аддушыну. Мільёны іскрыстых агнёў сыпаліся з печы. А скрозь лыпаючыя агні лілося растопленае смятаністае жалеза.

Двое рабочых трымалі жалезнае вядро, каб налівалася жалезная смятана аж да самых краёў. Тады неслі тыя ўдвух і вылівалі ў насыпаны туга загладжаны пясок. Вацік гаварыў Манечцы, што адлівалася ў тым пяску стальное для сячкарні кальцо.

Сціплым зіркам пільнавалі рабочыя ў такарскім цэху станкі. Калі ішла з Вацікам, бачыла каля станка невялікага росту рабочага. Вокам не маргануў, як праходзілі — пільнаваў наканечнік свідравальнага гэбля. Тоненькім цурочкам цякла па свярдзёлку вада, а Манечка да Ваціка:

— Чаму вада бесперастанку льецца?

Вацік казаў:

— Каб не разагрэлася жалеза ад цеправмернай гарачыні.

Вялікая граміла-машына то ўперад, то назад шоргала па кавалку жалеза: стругала жалезны брус.

Тады ў дзяўчынкі ўзнікла думка: «Як шмат трэба... На такі маленькі брус ды такая вялікая машына».

Над галавою было прашумела па дроце жывое страшыдла. Прабегла яно пад шкляною страхою аж у канец доўгага цэха.

— Ваганетка,— казаў Вацік.— Яна падвозіць вугаль, падае матэрыял...

Разбегам рассыпаўся зірк па людзях, па машынах. Падшыхала іскрыстая ахвота на гэту, дружным пераплётам сатканую, работу.

...Кожны бачыць адзін другога навідавоку... Робіць кожны для другога, пакуль аж не зробяць гуртам цэлую новую машыну. Нараджае машына для чалавека машыну... каб лягчэй было пражываць на свеце.

Манечка шукала ў думках: «Вось якія яны, рабочыя: яны вырабляюць плугі, малатарні, арфы... Яны падобны ўсе на Ваціка». І гэтак праз усе дні...

А ўчора, перад тэатральнаю залаю з дэлегатамі занавесам зачынілася фабрычна-заводская нарада.

Потым глядзела Манечка з Ваціком, як зноў быў адчыніўся занавес,— пачаўся спектакль.

Вацік быў успёрся на парэнчу тэатральнага балкона. Раскудзеленаю пасмаю звіслі над брывом валасы. Тлумачэнне даваў Манечцы пра старшыню-здрадніка для савецкай улады, што быў у спектаклі.

А Манечка...

Пасма Ваціковых валасоў дакранулася да яе шчакі. Макавым цветам зардзеўся ўвесь яе твар. Вельмі ж была на твары шчакатлівая прыемнасць: «Хай бы гэтак праз увесь час...» Хацела незнарок прытуліцца бліжэй да Ваціка, але мяшала перагародка тэатральнага крэсла. У думцы гаварыла як праз сон: «Навошта нарабіў тэатр гэтых перагародак...»

Потым ішла з Ваціком на кватэру да Яся Рымашэвіча і не зводзіла з думак: «Якая кулачыха нягодніца... Дачку замуж аддала, а дзіця служанчына задушыла. Добра толькі, што мала яны пакрасаваліся. Маладзец служанка: не паглядзела, што ён і старшыня, а арыштавала. Трэба было беднай дзяўчыны не падманьваць».

Ды:

— ...ён, гэты Вацік... Колькі ў яго шмат дабраты...

...Вацік прыйшоў з горада на кватэру Яся Рымашэвіча. Быў у сваіх таварышаў, у заводскіх рабочых. Хадзіў наўмысля, каб развітацца перад ад'ездам.

Ліцейны цэх гаварыў на развітанне:

— Прыедзем да цябе цэлаю брыгадаю.

— Пішы, Ваця!

А стары Уронскі:

— Трымай у руках нашу лінію...

Трамбоўшчык Рыбскі, камсамольскі цэхавы сакратар, перапыніў:

— І во як трымай...— Паказаў туга заціснутыя два кулакі.— Каб не было, брат, ні «правага», ні «левага»... Мы тут, а вы там. І каб яно было адным.

— А калі падшукаеш сабе бабу,— казаў Уронскі,— пішы: купім табе падарункі.

Лёгкім узмахам мазалямі пакрэмзанай далоні стукаў па Ваціковым плечуку, гаварыў:

— Пара, браток, пара... Я ў тваіх гадах як быў — адно на калені лезе, другое паваліласся — гуз на лбе. Цэлы вэрхал у хаце. І неяк нядрэнна; здаецца, каб не было вэрхалу, было б вельмі сумна.

Калі зайшоў цяпер у пакойчык дзядзькі Яся, не застаў нікога з яго сям'і. Скідаў з плеч ватовую світку, вешаў яе на адмысловую вешалку, а ў адчуваннях:

Дні гэтыя зялёнаю свежасцю пакрапілі Вацікава нутро. І сіла была дубальтовая. Хацелася во як разамнуць на ўсе бакі вірліва ўзбуджаную сілу!

Горад, гэта як вар у гаршку. Вечна ён гатуецца буйнымі бурбалкамі. Жыццё ўзнята на дыбы... Нямашака тут сном апавітага спакою. На тое ж яно і мае права прызывацца жыццём.

— Праўду кажа стары Уронскі...— Чамаданчык даставаў Вацік з-пад Ясевага ложка; зборы рабіў да вячэрняга выезду з паштовым цягнікам.— Трэба... і нават пара... Жыццё чалавека не пачакае.

У поўнай выразнасці паўстаў перад Вацікам учарашні вечар, як ішлі яны з тэатра. Тады хацелася, каб да канца не даводзіць свайго адчування. Пакаваў чамаданчык — пачуў за Ясевым акном фабрычны гудок. Сам сабе памысліў упаўголаса:

— Гудок пасля полудню... Цяпер на фабрыцы зноў пачалася работа...

Бачыў, як на кіназдымку (і ўсё, каб заглушыць той учарашні вечар): звучаным рухам прыхінуў Ясь Рымашэвіч лапкі медзянога рубільніка. Перш ціхім шоргатам, а потым моцным тахтам развёў гутарку сырамятны шырокі пас з махавым колам: рраз-два...

Чамусьці праказаў думкаю:

«Манечка таксама недзе сярод гудкоў...»

Зараз павінна была прыйсці яна з цёткаю Палінаю. Зранку — на першую змену да друкарскай машыны — пайшла Ясева жонка. Манечка цікавасцю замлела: «Як гэта там друкуе машына такія маленькія літары!»

Скрозь фабрычна-пасавы говар цяпер гаварыла Вацікава сэрца: «Можа, і лепш, што яшчэ не прыйшла... Хай...»

Хацелася Вaціку, каб даўжэйшым было чаканне, каб задаволілася нечым пачуццё.

Калі заняткі былі пра англійскіх рабочых, вострай зайздрасцю шчымела нутро Манечкі. Прынёс Ахрэмаў Арцём парашком складзеную пісульку ад Міхлі, нібы



Сымон Баранавых (справа)
і Васіль Каваль. 1929 г.



Сымон Баранавых і Васіль Сташэўскі
сярод калгаснікаў. 1930 г.

прынёс для яе парашок атрутнага зелля. Вельмі ж карцела: «Нашто пайшоў Вацік тады да Міхлі?»

I ідучы ўчора з тэатра, абмінаючы электрычны ліхтар, што раскідае святло на ўвесь тэатральны квартал, Манечка ні з сяго ні з таго:

— Што вам тады пісала Міхля?..

Не чакаў ад гэтай дзяўчынкі адвагаю пераплеценага пытання.

Увесь час быў у Чырвоным — кожны дзень была Манечка навідавоку. Часамі варушылася думка ў Вацїка: «Яна такая вяртлявая, спрытная... I штодзень ходзіць яна з радасцю. У яе ніколі не бывае гэткай кіслай нуды, як у Міхлі...»

Не цяміў і сам, чаму побач з ёю ставіў Міхлю. Ці то перакору шукаў над мільгануўшым каханнем да Міхлі, ці мо і напраўду — дабрата Манечкі без спросу лезла ў глыбіню яго маладосці? На запытанне Манечкі, як ішлі ўчора, казаў цеплатою ласкі:

— Яна пісала, каб я прыйшоў па пільнай справе...

— Чаго ж гэта? — запыталася Манечка.

Не ведаў, што адказаць, а толькі зразумеў: «Яна, мусіць, не ведае гаворак, якія хадзілі ходырам па ваколіцы... што нібыта жаніцца збіраюся з Міхляю. Добра, што не ведае».

Гаварыў да Манечкі:

— Пайшоў, а выйшла, што яна так сабе пісала. Шкадаваў, што і пайшоў.

— I вы цяпер, я ведаю, не ходзіце. Яна — ваўкаватая.

Вельмі ж трапнае сказала слова — «ваўкаватая». Вацік даўно шукаў гэтага слова.

Нібы ён хацеў, каб сябе перад некім апраўдаць.

Тады прамінулі электрычны ліхтар з растрэсеным святлом, і Вацїку лепш было, што схавала яго твар насупістая ноч. Так і ішлі аж да Ясевай кватэры — не гаварылі больш пра Міхлю.

«Ці цеперся гэта было, а якая яна ўражлівая,— праз цэлы дзень не зводзіў Вацік сёння з сваіх думак,— яна вельмі добры чалавек... Чуласці ў яе шмат».

Той самы чамаданчык быў перад Вацікавымі рукамі з бліскучымі канцікамі. Канцікі не блішчэлі, як тады пад сонца, калі Вацік ехаў з Данілам. Бо не было сонца гэтым днём у Ясевай хаце. Разаспаны быў дзень — хмарнымі брывямі насуплены.

Тупым шоргатам напільніка рупіла цяпер Ваціку, каб Манечка хутчэй прыйшла з горада. Хацелася гаварыць... Шмат гаварыць, хоць пра што. На ўспамінак вярзліся заняткі па бягучай палітыцы. Шукаў яе сярод чырвонаўскіх камсамольцаў сваім уяўленнем.

«Якою яна была, калі беглым зіркам чытаў Міхліну тую пісульку?» Неакрэсленую віну адчуваў — не то перад ёю, не то перад самім сабою. Гаварыў схованым голасам: «Ах, як добра, што я і знаць і ведаць не хачу пра Міхлю... Так што Харытону — уся вольная дарога».

І от калі ўспёршыся быў над чамаданчыкам, пачуў у сенцах вольныя крокі.

«Яны...— Быстрая міжвольнасць узняла Ваціка на ногі.— Маня і цёткаю Палінаю...»

Але адчыніліся дзверы, і ў хату зайшоў лістаносец.

Апала напружанае чаканне. Глядзеў, як тасаваў лістаносец стус невядомых канвертаў, а потым:

— Ліст...

Узяў ліст і бачыў на канверце нязграбныя літары. Радасцю замжэла нутро ад знаёмага почырку.

«Добры, дзядулька...» — чамусьці праказаў, разрываючы канверт з жоўтай паперы.

От што прачытаў у лісце:

«Мой сынок!

Прыязджайце. Тутака на вас найшла цэлая напасць. Кажуць, што вы калгасы рабілі і хітрыкамі. І гэты канец Муравейнікаў проста аж не верыць, што вы былі такім чалавекам. Усё гэта, як быў у пятніцу сход у Муравейніках, на сходзе і ўскрылася. І я адразу і пішу. Вас нават, казаў раён (раён праводзіў сход), будуць арыштоўваць. Мне аж скура шэрхне; я не веру, каб вы былі такім чалавекам. І вот пішу вам, каб вы барзджэй прыязджалі.

Напісаў — *Нічыпар*».

Вацік праціраў кулакамі вочы: а можа, ён як не так прачытаў? І зноў чытаў ліст аж да канца. Правільна прачытаў. Хоць і разбэрсан Нічыпараў почырк, а разборчыва напісана было ў лісце.

## V

Меўся ехаць Вацік паштовым цягнікам, а выехаў на чатыры гадзіны раней — транзітам. Ліст старога Нічыпара непакоем запаў у Ваціка нутро. Сядзеў каля ва-

гоннага акна з Манечкаю ды: «Што магло здарыцца? — Шукаў адказу і не мог знайсці.— Завошта ж арыштоўваць?» Думкамі лазіў па закануррках сваёй работы.

Манечцы пра ліст не сказаў. I сам не вадаў, чаму не сказаў ёй. Ці то не хацеў трывогу наносіць маладому сэрцу, ці то хацелася, каб усё было вядома муравейнікаўскае здарэнне.

«Хай будзе ведаць усё за адзін раз аж да канца».

Вагонныя калёсы выбівалі тахт разагнаным сваім махам. Сунуліся адзін за другім тэлеграфна-вартавыя слупы. Глядзеў праз акно Вацік зачараваным зіркам, а нічога не бачыў і не чуў цягніковага ходу.

Цэлым стусам блыталіся думкі ў галаве — шукаў сярод іх сваёй невядомай віны. Былі найшлі на ўспамінак гады Вацікавага дзяцінства — пэратрасаў іх, як старое рыззё.

Бывала, малым як быў, насіў бацьку палудзень. Гудок загудзе, а маці загадзя прырыхтуе ў збаночак варанага з агуркамі квасу. Укіне, бывае, мяса кавалачак у квас, зверху на збанок паложыць дзве лусты хлеба... абвяжа белаю фанцінкаю і дасць Ваціку:

— Нясі... Асцярожна ж... Глядзі не спатыкніся, не разлі...

Вельмі ж смачны быў хлеб каля бацькавага станка. Бацька возьме адзін раз, Вацік возьме адзін раз...

Пасля палудня любіў пахадзіць Вацік паміж станкамі. Цэлымі шарамі стаялі адзін каля другога, як на варце, стальныя станкі. А каля іх — папрырастаныя людзі: усё рабілі нешта для некага. Пасы, як тыя гадзюкі, з шоргатам шугалі ўгору, угору... Думалася Ваціку: «Адкуль бяруцца пасы? Яны такія ж доўгія?»

Часамі падыходзіў да яго чалавек з доўгімі, аж за калена, халявамі. Тоўсты чалавек, а на верхняй брыве — барадаўка. Вельмі ж нянавісць была ў дзіцяці да чалавека з барадаўкаю. Але ўбачыўВаціка, гаварыў чалавек тлуста-праплямленым голасам:

— А ці падмёў ты сёння маю каморку-дзяжурку, хлапчо? Га-а?

Гарчыцаю пякло Ваціка самае «хлапчо» і яго гэта «га-а». Прыціснута-нутраным голасам выплёўваў:

— Гадкі...

А бацька казаў да сына:

— Гэта наш цэхавы майстар, сынок!

У сваім дзяцінстве дазнаўся Вацік і пра зямлю, што не ўся яна пад горадам. Як не быў за горадам, думаў: увесь свет — цэлы горад. Колькі ні ідзі, а ўсё будзе горад.

Неяк не ручыўся год у Кірылавым жыцці. Маці Вацікава дзецьмі абнядужала, а да бацькі прыкараскалася слотная трасца. Колькі ні піў дакторскіх парашкоў, не адлягла хвароба. Раілі з'есці на дзёгці спечанае яйцо — еў, і яно не памагло. Сама неяк пад восень нацешылася хвароба — пакінула Кірылу ў спакоі.

Дык у той год аддаў быў Кірыла Ваціка да пана Стэцкага гусей пасвіць. З таго часу і ўзяў на свой розум хлапец, што не ўся зямля занята пад горад.

Ваціку прамінула тады сем год. Малаваты, але гусі ўсё ж баяліся яго. Спярша былі на яго гогалі. І нават стары гусак шчыпаўся за лыткі. Вацік бараніўся, праклёны пасылаў, каб папухлі ў Стэцкага гусей усе дзюбы. Старая Стэцкага свінарка Хрыста параіла Ваціку:

— Ты іх дубцом... Не трэба толькі біць па галаве. У іх вельмі кволая галава. Па плячах сцёбай. Ды глядзі, нябож,— казала Хрыста,— сцёбай, каб не бачыў панскі аконам.

І добра было...

Толькі неяк паспелі былі Стэцкага слівы. Як цяпер на памяць Ваціку прыйшоў той выпадак: ён збіраў слівы-ападкі. А панскі аконам падкраўся. «Не ты садзіў гэтыя слівы»,— казаў аконам, сморгаючы Ваціка за вушы.

І не такі ўжо боль быў, як запала, аж усярэдзіну, крыўда. Слёзы былі на вачах. Не ад болю, а ад крыўды былі слёзы. Не ведаў тады, чаму так востра зашчымела яго дзіцячае нутро.

Потым была вайна. Бараніў Полацк... Адарвалася была стальная шчэпка ад белапольскай бомбы. Яна не праляцела міма Ваціка: яе ўспамінак на яго шчацэ. Цяпер і нічога. Дрэнна толькі, калі цырульнік голіць: брытва часам хапае лязом за зарубцаваную скуру. Ды зубы вельмі баяцца або гарачай, або халоднай стравы.

За акном вагона шырокімі крыллямі садзіўся на зямлю вечар. Не ўціхаючы, гаварылі калёсы з халоднаю сталлю рэек. Спуджаны холад прабягаў па Вацікавым целе — ліпла слотная думка: «За што арыштоўваць? Няўжо няпільна трымаў я ў руках партыйную ўстаноўку? Няўжо за Міхася Кляўко?»

А пачалося ўсё з Міхлі на муравейнікаўскім сходзе. І бадай што з Старавойціхі на муравейнікаўскай вуліцы.

Белазёраў прыехаў у Берчукі з пададзенай заяваю трэцім пасля Ваціка днём. Хадзіў з Харытонам у Муравейнікі — аглядалі з калгасным праўленнем калгасныя парадкі. І ўсё было пад мякка разасланым спакоем... Апрача скотнай прапажы. Ды яшчэ скаргу падносіў член праўлення Ахрэм, што сена буцвела ў стагах.

— Якраз пад дождж складалася ў стагі,— гаварыў Ахрэм,— так што недахват будзе харчы.

А Харытон:

— Ды нехта на тым тыдні,— казаў Харытон (мы склалі акт),— падпаліў іхнія на балоце два стагі... Кулакова работа, канешне.

Ахрэм падсведчыў Харытонаву думку:

— Дык вот жа...

Тады Белазёраў праводзіў успамінкам Ваціkаву з ім у канцылярыі спрэчку: «Не будуць жа самі калгаснікі паліць сваё сена. Ён не ведае, як шкадуе селянін кожнае каліва. Трэба ведаць сялянскае нутро...»

— Саўгас «Чырвонае»... Я дам распараджэнне,— гаварыў Харытону, Ахрэму,— дам распараджэнне, і яны адгрузяць сена, саломы. Харчы будуць.

Гаварыў, і хацелася Белазёраву, каб Вацік чуў яго словы. Успамінаў, што Вацік хутка прыедзе — будзе ведаць пра водпуск саўгасаўскіх харчоў, ды:

«Добра, што будзе ведаць...»

І ўжо ішлі з таго канца, каб праводзіць сход на гэтым канцы Муравейнікаў. Раіліся ідучы, як трэба рабіць падыход да людзей, каб на шармак не прайшоў сход.

— Каб два-тры чалавекі далучыліся да таго калгаснага канца,— казаў Харытон,— і ўсе ўвайшлі б... Вельмі ж тут людзі — хоць ты ім кол на галаве чашы! Добра, ах, як добра, што вы, таварыш Белазёраў, прыехалі да нас! Вас, можа, лепш паслухаюць.

І вот насустрач ішла вуліцаю старая Старавойціха, У руках несла ладны такі хлебны акраец. Харытон хацеў паказаць перад раёнам, што ўсе ведаюць яго, што ён жыве з усім за панібрата.

— Дзень добры, цётка,— сказаў да яе за некалькі крокаў.

А яна:

— Можа, і не зусім добры?

— Чаму ж гэта, цётка?

— Калі хлеб ад гэтай пары пачнеш пазычаць, не будзе добрага дня.

— Хіба ж вам калгас не даваў хлеба?

— Ці ж хіба ты не ведаеш?

Да Харытона рынулася колкая злосць: «Навошта яна перад раёнам завяла гэтакую гаворку?»

Але стрымаў нутраны злосны разгон ды:

— Жартаўніца, цётка...

Гаварыў да Белазёрава:

— Молатага няма, дык па яе — зусім няма.

Старавойціха ўчула Харытонаву гаворку, сказала з раптоўнаю для Харытона нечаканасцю:

— Каб і цябе не было... самога...

І пайшла.

Харытон згладжваў выпадак перад Белазёравым:

— Вар'ятка... Не ўсе ў яе дома...

...Пакуль збіраліся на сход у Петрыкаву хату, ведалі ўсе Муравейнікі пра Старавойцішыну сустрэчу з Харытонам. Гаварылі некаторыя паміж сабою: «Добра зрабіла Старавойціха, што аблаяла ў вочы». Другія казалі — дрэнна: «Навошта было задзірацца ўсё ж такі?..»

Ніколі не было, каб на сход прыйшлі ўсе муравейнікаўцы, а то як выгнаў іх нехта жывасілам. Аж Белазёраў адчуваў на сабе ад гэтага сходу патаемнае хваляванне.

Харытон адчыняў сход. Прытаіўся сход — слухаў, з чаго будзе пачын. А як узяў Белазёраў дазвол на слова, калі загаварыў пра далучэнне гэтага канца да таго — гулам узарваліся галасы.

— Не хочам!..

— Мы маем права на свой калгас!..

— Ціха!..— крычаў Харытон.— Дык і гэта ж будзе ваш калгас!

— Гэта крывасмокава, смактунова калгас, а не наш!..

— Жывадзёрава, а не наш!..

Лаўрэн Жур да стала праціснуўся.

— Дайце мне,— звярнуўся да Харытона,— я хачу сказаць...

Нехта пасылаў некаму моцную лаянку.

Нехта каля парогá з некім развёў праклённую сварку.

Нехта крычаў цераз галовы сходу — прасіў слова.

Харытон асіліў узняты гармідар, перакрыў крыкам растрэсены гоман. І да Лаўрэна:

— Кажы!..

— Я от што...— праціраючы шчыкалаткамі вочы, гаварыў Лаўрэн,— я хачу, каб ведаў наш раён, што ў нас ёсцека вялікая несправядлівасць...

Сход зноў прытаіўся.

Белазёраў пазіраў з вострым дакорам на Харытона. Стаяў за сталом з няскончана прырыхтаваным словам, чакаў, што скажа гэты стары.

А Лаўрэн:

— Мы пісалі самому Калініну пра сельсавецкую несправядлівасць. Мы ўвесь час чакалі, што хто-небудзь ды ўбачыць, што на нас няма ніякага ўнімання.

— А чаму вы раёну не напісалі? — перапыніў Белазёраў.— У чым вы знаходзіце гэту сельсавецкую несправядлівасць?

— А ты не ўнось у Лаўрэнава слова перашкоды,— падаў нехта голас з натоўпу.

Лаўрэн нібы і не чуў Белазёрава.

— І мы не губляем спадзёўку, што патом Калінін разбярэ і скажа ў рэзалюцыі: ці мае права быць гаспадаром наш Ахрэм, ці не мае.

— Пры чым жа тут Ахрэм? — Харытон згубіў нецярплівасць.— Самі вы, калі на тое пайшло, вінаваты.

Петрык стаў на дыбкі, галаву ўзняў над сходам, крыкнуў да Харытона:

— Трэба было табе больш любові тачыць з Міхляю!

Слова Петрыкава аж устрасянула Харытона. Твар яго на момант пакарабаціўся цёмнымі плямамі. Белазёраў кінуў Харытону смехам апырсканы зірк.

— Ці-ых-ха!..— прарэзліва-хрыплівым голасам сказаў Харытон.— Хто табе даваў слова?

Сход стрымаўся ад разагнанага ўздыму, і бачылі муравейнікаўцы: праціскаючыся скрозь натоўп, да стала падышла Міхля. Твар яе быў зморany, але вочы яе гарэлі запалена-электрычнымі дроцікамі. Па выразу яе твару не было відаць ні адной усхваляванай кроплі. Здавалася, была гэта дзяўчына ні пры чым, а толькі хацела сказаць сходу нейкую шчырую праўду.

— Таварышы калгаснікі і аднаасобнікі,— заспа-

коена мяккім голасам звярнулася Міхля да ўсяго сходу.— Дарагія таварышы!.. Партыя і наш урад савецкі жадаюць нам дабра.

Ніколі ніхто з муравейнікаўцаў не чуў Міхліных слоў на сходзе. Калі выступіла яна, напружыў увесь сход сваю ўвагу.

— Усім вядома нам, якая вялікая карысць ад калгасаў,— гаварыла тым самым голасам.— Вы ўсе ведаеце гэта, і я не буду вам даказваць. Я от хачу самае галоўнае гэта спыніцца на тых людзях, якія праводзяць у жыццё пастановы нашай савецкай улады і нашай партыі...

Белазёраў пазіраў на гэту жанчыну, і радасць падымалася зялёным узростам, што ў Муравейніках ёсць такія разважна кемлівыя жанчыны.

А яна гаварыла:

— ...Мне здаецца, віна тут не Харытонава і не наша калгасная, як зараз гаварылі. Мяне нават бярэ здзіўленне, чаму маўчаць Муравейнікі пра работу гарадскога, так званага рабочага Такарскага?

Харытон аж прыўзняўся з-за стала. Вачыма праразаў Міхлін стан з тахтам яе слова, лавіў вольна важныя рухі рук.

А яна:

— ...Горад прыслаў на саўгасаўскую ды калгасную работу не таго, каго трэба. Таварыш Мамчыц не можа ўсюды адзін даглядзець, а так званы таварыш Такарскі...— Яна на момант спынілася, праглынула сухую гарачыню ў роце ды: —...грамадзянін Такарскі — гэта быўшы афіцэр. Так што-о, хай ведае,— звярнулася да Белазёрава,— хай ведае таварыш райвыканком, якая магла праводзіцца гэтым чалавекам калгасная работа. Чаму гэты канец Муравейнікаў не хоча ісці ў калгас?

І калі б ведаў муравейнікаўскі сход, што здарыцца праз дзень — рухнула б ад шуму-гоману тады Петрыкава хата. Узламаў бы чалавечы гоман столь ды разліўся б па ўсёй ваколіцы стрывожаным крыкам: «Дарагія таварышы — на варту! Моца схапіліся праміж сабою і не на жыццё змагаюцца два канцы чалавечага свету! Апошняя зброя пушчана ў ход старым светам. Чым бліжэй бачыць ён сваю пагібель — тым большая, у апошняй схватцы асцервянелая адвага. На варту, дарагія таварышы!»

Але:

як дынамітным узрывам аглушаны — маўчаў сход. Толькі прарваўся з натоўпу суха-дрыжачы нечы голас:

— Як жа гэта?..

Ніхто не пачуў устрывожанага голасу. Вочы ўсяго сходу былі на твары гэтай дзяўчыны.

А Міхля:

павольнымі рухамі дастала з паліто пацёрта-сівы канверт. Палахлівымі пальцамі выняла з канверта спісаны ліст.— Вот...— Палажыла на стол перад вачыма Белазёрава.— Прачытайце.

Харытон падхапіў ліст са стала і перад усім сходам:

— «...Толькі мяснікі ўсе тут вучоныя на афіцэра».

— Не,— перапыніла Міхля.— Не гэта...

Падышла да Харытона, пальцам паказала падкрэсленыя радкі:

— Вось...

— І Харытон зноў:

— «...Вельмі ж ужо стараецца наш афіцэр Вячаслаў Такарскі. Ён не пасядзіць у акопе без «пекла» ні адной амаль хвіліны. Яму каб усё наўкол было ў крыві. Ён, здаецца, прагне яе паху, яе запечанай клейкасці...»

— А вось яго і фотакартка.— У рукі падала райвыканкому.— Ён падарыў гэту картку маёй знаёмай... А я папрасіла, і яна мне гэтымі днямі прыслала.

Белазёраў разглядаў картку, а Харытон:

— Та-ак... Да яго твару вельмі падыходзіць гэты афіцэрскі фрэнч.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Вацік з Манечкаю выйшлі на шаснаццатым раз'ездзе.

Праз усю чыгуначную дарогу бачыла Манечка неспакойную муту на Вацікавым твары. Аж нядобра было ёй, што едзе з горада ён гэткім сумным.

«Шкадуе вельмі горада»,— меркавала ў сваіх думках. А запытаць — не находзіла адвагі.

На раз'ездзе драмала з дзесяць санных фурманак. Сустракаюць кожны прыход цягніка тутэйшыя вяскоўцы ды местачкоўцы. І не так дарага бяруць за праезд: у іх ёсцека свая выйгранка. Трапляюцца спадарожныя людзі — пяцярых рассадзіць фурман на адным палукашку. І — у, як «на ўсіх капылах» адымчыць!

— Садзіцеся! — І не заўважыў Вацік, адкуль вырас перад імі луціцкі Гіршык.— Як кажу — будзеце ў самым Чырвоным.

Вацiку спадабалася, што ведае гэты чалавек, адкуль яны. І ён:

— А дзе ж — каторыя вашы санi?

— Вось...— адказаў Гiршык.

Калi селi на санi ды выехалi з паўстаначнага дзядзiнца, за лейцы каня смоpгаючы, кiдаючы на Вацiка позiрк, Гiршык запытаў:

— Дзе ж гэта вас бог насiў? Цi не лавiлi вы ўцекача?

Вацiк чамусьцi аж здрыгануўся.

— Якога ўцекача?

— Муравейнiкаўскага Ахрэма...

Манечка за жарт узяла Гiршыкавы словы.

— А навошта яго лавiць: хiба ён птушка?

— Горш як тая жар-птушка.

Ды:

— А хiба вы не чулi?

Бачыў на Вацiкавым твары скрэмзанае здзiўленне — сам даваў адказ на сваё пытанне:

— У пятнiцу ў Муравейнiках быў сход пра далучэнне гэтага канца да таго, а на другую ранiцу, якраз праз цэлыя суткi... У-у-у... Дык вы нiчога не ведаеце?.. Тут гэтулькi нарабiлася...

— Н-но-о,— каня пагнаў з узгорка ды расказаў Вацiку з Манечкай, што:

на другi дзень прыехалi ў Муравейнiкi два партыйныя рабочыя i адзiн студэнт з Камвуза. Іх паслалi як брыгаду па калектывiзацыi. І от калi яны прыехалi — Ахрэм, казалi, вельмi быў як не свой. Яны пачалi ўсё даходзiць, дазнаваць... Сабралi ўсю муравейнiкаўскую беднату i цэлы дзень пра неваштa гаварылi. Ляксандра саўгасаўскi, казала Старавойцiха, вельмi ж раззлаваўся на Ахрэмаў калгас, калi прыехалi ў саўгас пазычаць салому. Не даў саломы, а пайшоў да гэтай брыгады, i яны разам меркавалi. А Лаўрэн Жур аднекуль пэўную даведку ўзяў, што Ахрэм забiў Нiчыпаравага Максiма. Дык i Нiчыпар прыйшоў на той бядняцкi сход. Ахрэм хацеў як калгаснiк быць на сходзе — дык яму не дазволiла прыезная брыгада, аж пакуль усё не высветлiцца.

— Аж да позняй ночы быў бядняцкi сход,— казаў Гiршык.— А назаўтра...

І зноў пагнаў Гiршык свайго пiсагастага каня-бегуна ды:

— А назаўтра пасля сходу пайшлі да Ахрэма, дык там ані душы! Нікога не засталі ў Ахрэмавай хаце. І немаведама, куды дзелася ўся, разам з Ахрэмам, з яго швачкаю — Ахрэмава сям'я.

Гіршык гаварыў Вацiку, што саўгасаўскі чалавек бачыў, як яны ехалі пад поўнач цераз чырвонаўскую гару. (Ён пазнаў іх па конях. Ахрэм ехаў на сваім жарабцы, што здаў быў у калгас, а за ім ехаў чалавек з Малінавак — Шчупак.)

Гіршык паказаў рукою:

— Дык яны так і паехалі, казаў чырвонаўскі чалавек, у той бок. Ён перш думаў, што гэта едзе два вазы цыганоў... Цяперака от ужо рад гэты муравейнікаўскі канец...

Манечка ўстрывожаным голасам запытала:

— І Шчупак уцёк?

— Не-е...— адказаў Гіршык.— Шчупака заарыштавалі. Але ён кажа, што нікуды не ездзіў у тую ноч. Невядома, што будзе. Н-но!

Вацік трымаў зубамі зацятую маўклівасць. Не мог гаварыць, пытаць... Яму здавалася — увесь свет перавярнуўся дагары нагамі. Адным момантам ён узважыў сваю работу, самога сябе і — злосным нутраным голасам — накінуўся на самога сябе:

«Хто ж я? Які ж я!.. Жы-ы... глухі і сляпы. Я — партыец, а не бачыў, што робіцца перад маім носам. Беднata шукала выйсця. Яна неарганізаванымі галасамі церабіла сабе дарогу. Яна стукалася ў партыйныя дзверы, а я — не партыйнымі дзвярыма быў, а глухою сцяною! Я не падпісаў акта — хе! Як гэта прыкра, як агідна! Мне, партыйцу, трэ было проста не дазволіць пераступіць гэтаму, так званаму, старшыні сельсавета, не дазволіць пераступіць Міхасёў парог. А я — пазіраў. Я чакаў, выходзіць, гарадской брыгады, каб яна разбірала маю пакасць. Канешне... Я перад усім сходам скажу. Я прыеду і збяру сход і скажу, што зрабіў я сваёю глухатою, слепатою пакасць. Я перад самым носам не бачыў заядлага ворага, я патураў ворагу... Я ж не партыец, а я...»

З Вацікавых грудзей вырвалася самая балючая крыўда на самога сябе. Яму хацелася як мага больш наздзекавацца над сабою. Ён затрымаўся на апошнім слове і шукаў найвастрэйшага слова, каб зрабіць найглыбейшыя надрэзы на сваім сэрцы: «Хай баляць ра-

ны, так каб аж дрыжэла ўсё нутро ад пякучага болю».

— Ага!.. Няхай!..— шаптала яго нутро вострым болем.— Я млявае стварэнне. Я — малады чалавек у капелюшы! Вось, вось!.. Малады чалавек...

— Та-ак...— вырваўся глухі крык з яго грудзей і — аж да белых плям на твары зубамі скрыгануў, крыкнуў на фурмана: — Паганяй! Н-н-но! Паганяй!

Сані падскаквалі на выбоях, далёка ішлі на ўхабы. Снег ляпаў з-пад капытоў туга скамечанымі камякамі.

— Паганяй... бра-атка...— прастагнаў Вацік.

Нібы хацеў ён дагнаць той дзень, які забраў з сабою ў прошласць кавалак чалавечага жыцця.

Сонца цяпер збіралася на адну ноч пакінуць снегам зараўнаваную зямлю. Апошні яго прамяністы бляск растрэскаўся, рассыпаўся на дробнаружовую пацяруху, іскрыўся на снезе яркім уздымам. Гледзячы паабапал дарогі на вялікі аблог асветленай зямлі, здавалася:

нехта запаліў зямлю... Гарыць зямля тысячамі, мільёнамі зорак. Новую надзела зямля сарочку. Маладою стала — сабралася ступіць на каберац. Снегавыя зоркі нястрыманаю пацехаю моргаюць... за яе кужэльнае неабдымнае палатно, за яе нанова ўзгадаванае шчасце.

*1931—1932*



# КАЛІ ЎЗЫХОДЗІЛА СОНЦА

**Раман**

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Раздзел першы

Камандзір трыццатага палка шаснаццатай арміі, таварыш Вінаградаў, паміраў перад усходам сонца. Куля прабіла левы бок. Апошні раз глядзеў таварыш Вінаградаў у цёмна-сіняе неба. Яно святлела ўсходам дня. Было далёкае, ціхае, бяздоннае. Зоры выгаралі дастатку. Яны згасалі, як непатрэбныя. Раса на траве, дзе паміраў Вінаградаў, была вельмі ўрадлівая, буйнагустая. Заграбаў расу беспрытомна-сутаргавай жменяй, мачыў апошні раз сухія, агністыя вусны.

— Сынок...— шаптала параненае нутро камандзіра,— мой сынок.

Вінаградаву ўяўлялася, што перад ім стаіць яго ардынарац Уладзік Макаль. Ён жа заўсёды зваў Уладзіка сынам. Можа, Вінаградаў хацеў крыкнуць цяпер перад Уладзікам на ўсю аколіцу голасам Тараса Буль-

бы: «Бывайце, таварышы. Успамінайце мяне будучай вясной, абавязкова прыбывайце сюды ізноў...»

Таварыш Вінаградаў не крыкнуў. Недзе ў тумане глыбока плавала цьмяная думка:

«...зоймуць горад...»

Ён памёр перад усходам сонца, а белапалякі занялі гарадок з поўдня.

Бронецягнік пакінуў станцыю апошнім. Снарады белапольскай артылерыі разрываліся радзей. Нібы не верылі яшчэ, што Чырвоная Армія пакінула гарадок.

Дзень забруджан снарадным пылам-дымам. Ад пылу-дыму ўсё сонца мурзатае, затуманенае.

Суткі не сціхалі гарматы. Суткі стагнала зямля ад гармат. Вунь перакідны мост. Яго сярэдзіна ссунулася з вышыні. Здалёк такі выгляд: нехта перабіў сярэдзіну моста, пераламаў яго моцным ударам. Збіта шапка з вадакачкі... Узнята на дыбкі рэйка... А на пероне — кавалкі паперы, кансервавыя бляшанкі, скрынкі ад патронаў, кардонныя абоймы... Уся станцыя забруджана.

І ніводнага чалавека. Вымер свет. Ну хто мог адважыцца быць зараз на станцыі? Але, каб назіраць з-за будынкаў, можна было ўбачыць: да ўсходцаў перакіднога моста падбег чалавек. На левым плячы ў чалавека — скатка шыняля, на правым — вінтоўка, у руцэ трымае алюмініевую біклажку. Яна не закаркавана, і вада пакрысе выліваецца на пясок. Падаюць кроплі і не разбіваюцца, а збягаюцца, як жывое срэбра, у мутныя галушачкі — дранкулькі.

Чалавек у чырвонаармейскім — хваляваўся. Можа, ён хацеў перайсці цераз мост? Можа, ён хацеў паспець на бронецягнік? Вось-вось белапалякі зоймуць станцыю. Момант стаяў каля моста ў адчаі. Можна было пачуць, як уголас нешта сам сабе мармытаў. Нібы лаяў сябе, нібы некага, а потым з усяго размаху шпурнуў біклажку на рэйкі. Яна прыперлася да рэйкі, і вада не вылівалася. Гэта, відаць, раззлавала чалавека. Тады падбег і ўдарыў біклажку наском чаравіка. Яна падскочыла і лягла бокам на шпалу. З рыльца булькала вада і збягала з мазутнай шпалы. А ён бягом пабег назад. Бег па чыстым бруку вузкай вуліцы. Ужо схаваўся станцыйны будынак, а ён бег. Потым ішоў быстрымі крокамі. Вуліца — як сярод позняй ночы. Вокны зачынены аканіцамі, каліткі пазачыняны. Ні аднаго чалавека не было.

Быстра ішоў па драўляным тратуары. Ішоў і толькі стрымліваў грукат чаравікаў. Баяўся, каб не разбудзіць сон гарадка.

Да каго спяшаўся? А ён і сам пэўна не ведаў. Можа, ішоў і шукаў жывога чалавека? Каб упэўніцца, што не вымер гарадок. (Ад гарматнага грукату жыццё гарадка схавалася ў сутарэнне.)

Чалавек у чырвонаармейскім раптам спыніўся. Рукавом гімнасцёркі абцёр з ілба пот. Паправіў на плечуку рэмень вінтоўкі.

«Дзе схавацца...— гаварыла яго разгубленасць.— На якім тут двары засталіся свае людзі?»

Гэта — адзін момант. Акінуў позіркам перад сабою зялёную калітку, падышоў да яе. Узяўся за слясак дзвярэй, а яны — на засоўцы. Злёгку пастукаў кулаком у дзверы. Нехта прайшоў па двары.

— Адчыніце! — загадаў няўпэўненым голасам. Усё было ізноў ціха. Толькі з боку станцыі цоканне конскіх падкоў.

— Адчыніце! — пастукаў больш рашуча. Ніхто не абазваўся. І тых самых крокаў не чуваць. Тады пайшоў ад каліткі. Мінуў некалькі драўляных дамоў і выйшаў на другую вуліцу. Вельмі трывожыў дашчаны тратуар. Увесь на дзірках і без падвалін. Ступаў на дошку — яна падымалася перад ім. Нібы дзівілася, адкуль ён узяўся. Быў на сярэдзіне — дошка бразгала аж да звону ў вушах. Пераскочыў з тратуара цераз канаўку. Хацеў перайсці на другі бок. А наперадзе, праз дом,— разламаная брама. Адной форткі зусім няма, другая коса вісіць на верхнім іржавым круку. Вярнуўся з сярэдзіны вуліцы да разломанай брамы. І ўжо зайшоў на двор, а яму насустрач — дзяўчынка. Загарэлая, хударлявая ў белым сарафанчыку. Ёй гадоў, можа, сем.

— Дзе ж ты жывеш? — запытаў ласкава, каб не спалохалася, не ўцякла.

— З мамаю,— смела адказала дзяўчынка. Не зводзіла вачэй з яго вінтоўкі і дадала: — Вы, мусіць, будзеце страляць на палякаў. Дзядзя Пётра таксама пайшоў страляць...

Чалавек усміхнуўся. У вачах загарэлася іскра радасці:

«Натрапіў на свайго...»

— Дзе ж дзядзя Пётра жыве? — запытаў чалавек.

— Ён цяпер не жыве. Ён быў у цёці Марысі...

Яна падумала і адказала:

— Ён жа пайшоў праганяць палякаў дык і жыць будзе там.

— А дзе ж цёця Марыся?

— Яна ў хаце. Я пазаву...

— Не трэба, дзевачка,— спыніў яе, калі хацела бегчы.— Мы з табою разам зойдзем да цёці Марысі. Як жа цябе завуць?

— Натка,— адказала дзяўчынка.

* * *

За зялёнаю брамай — Ялавіцкага дом. Стукаў чалавек у чырвонаармейскім — Ялавіцкі чуў і бачыў. Ён усё зразумеў і надзяваў зараз чыстую манішку.

— Люсік...— звярнуўся да жонкі,— дай тваёй парфумы!

Жонка ўсміхнулася. Падала флакон з парфумаю «Лілія», праказала:

— Пульверызатар неяк разламаўся.

— Не трэба пульвазатара.

Прыхінаў рыльцам флакон к далоні,— мазаў па вусах. Тыцкаў рыльцам да штрыфляў сіняга бастона.

— Збіраешся, як да нарачонай,— сказала жонка.

— А як жа!..

Ён спяшаўся да гаспадара горада. Гэта куды важней.

Вінцэнт Ялавіцкі — чалавек не простага роду. Па яго жылах пераліваецца шляхетная кроў. Ён зусім чыста-белай косці. Другі інтарэс, калі пасля немцаў прыйшлі бальшавікі. Кроў тады пацякла каламутным вірам. І ўся косць, можна сказаць, пацямнела.

Былі ночы — нават не самкнуў вокам. Кідаўся на пасцелі ў знямозе. Яму сніліся жахлівыя сны. От, нібы па яго ішоў сам бальшавіцкі камісар. Каля веранды ўжо чуваць крокі. Яны на падковах, як у каня.

Тады ўсхопліваўся і запальваў свечку. Клікаў сваю жонку, гаварыў:

— Нехта ходзіць?.. Чуеш? Ці не зладзеі?

Не хацеў услых сказаць жонцы сваю думку. Ад гэтай думкі дрыжаў і жахаўся. Слова «зладзеі» заспакойвала.

«Хай бы сабе хадзілі зладзеі...»

І нешта гэтак з месяц. Потым пасмялеў. Яго ніхто не турбаваў у начны час. Толькі аднойчы, зусім днём,

прыехалі з рэўкома. Адразу пазнаў Рыгора Татура. А з ім — двух незнаёмых. Рыгор некалі быў пастушком гады два над яго свіннямі. Вельмі даўно было, а пазнаў адразу. Вунь як узрадаваўся свайму чалавеку!

— Рыгорка!.. Як жа ты гадуешся?

Звярнуўся да тых незнаёмых, гаварыў:

— Можна сказаць — свае людзі. Люсік! — паклікаў жонку.— Прынясі з склепа яблыкаў... Скажы Паладзі, каб выбрала лепшых антонаў...

Гаспадар падаў крэсла, а Рыгор і не прысеў,— адставіў убок.

— Дзякую...— сказаў і падаў паперку.— Маеце, грамадзянін Ялавіцкі, адносна нацыяналізацыі. Вы, канешне, разумееце, у чым справа?

— Так, так проша... разумею! — узрадаваўся Ялавіцкі і растлумачыў: — Гэта вы хочаце, каб я, што магу, ахвяраваў для салдат, што на фронце? Я ніколі не адмаўляўся. Салдаты, яны ж невінаваты. Яны ваююць, і ім трэба есці.

Татур не вытрымаў гэткай гаворкі: не то відавочная насмешка, не то тупасць гэтага фальваркоўца. Можа, і тупасць. Жыве адзін. Кругом сямівалочнага прастору зямлі — балота ды лес.

— Мы, грамадзянін Ялавіцкі, не па гэтай справе. Нацыяналізацыя — закон Савецкай уласці. Гэты закон забірае вашу зямлю. На падставе такога закона рэўком пастанавіў: ад сённяшняга дня фальварак Ляды пераходзіць пад камуну.

Колькі жыць будзе — не забудзецца таго дня, калі пакінуў свае Ляды. З жонкаю Люсяю ды дачкою Ганяю пераехаў у горад. З таго часу кожны дзень маліўся матцы боскай. Учула-такі яго малітву «Остробрамска».

— Яны ідуць!.. Можа, прыйшлі ўжо! — увесь гэты дзень ускрыкваў, як звар'яцелы. Спрабаваў нават выходзіць на вуліцу, каб зірнуць, як яны ідуць. Толькі гарматныя выбухі прымушалі хавацца за зялёнай брамай. Стаяў на двары і цешыўся гарматным грукатам.

«Нашы!.. Нашы!..— шапталі яго вусны.— Юзэфе свенты!»

Тады і пастукаў чалавек у чырвонаармейскім. Убачыў Ялавіцкі — задрыжаў асінавым лістам... Не ведаў, што адзін. Каб ведаў — шпурнуў бы з-за брамы каменем.

Чалавек пайшоў, і Ялавіцкі вунь як пашкадаваў! Нават раззлаваўся на сябе. Няхай бы адчыніў калітку і ўзяў сваімі рукамі ў палон. Якая была б урачыстасць! Шляхціч Ялавіцкі сваімі ўласнымі рукамі абараняў шляхецкі род! А што сказаў бы генерал войска польскага? — «Віват!» — Абняў бы, цалаваў! Ялавіцкі быў бы вядомым чалавекам. Ды яшчэ, можа, і не чырвонаармеец, а камісар! Напэўна ж камісар. Радавы не застанецца.

Ялавіцкі захапіўся марамі. Не прыкмеціў, калі спыніўся за брамаю. Чалавек звярнуў за вугал вуліцы, а Ялавіцкі ціха скрадзенымі крокамі цікаваў. Асцярожна высунуў з-за вугла галаву і толькі тады падумаў.

«Можа — дэзерцір? Дэзерцір — гэта добра. Наш чалавек. Карысны чалавек. У яго могуць быць нават важныя дакументы».

Ялавіцкі ўсё роўна дагледзеў, на які двор пайшоў чалавек. Нават падбег да разломанай брамы і бачыў, як пайшоў у левую кватэру з дзяўчынкай.

Вярнуўся з вуліцы ў пакой, раіўся з жонкай:

— Дэзерцір не будзе хавацца. Я гляджу і бачу: ён і сам не ведае, дзе дзецца. Кінуўся, ліханька, на той бок вуліцы, а потым назад (каб трошкі,— мог убачыць мяне). Па-мойму — бальшавіцкі камісар. Ён застаўся наўмысна. А як ты думала? Яны застаюцца. Такому чалавеку плацяць чыстым золатам, і ён ахвяроўвае сваё жыццё. Яму, можа, даручана ўзарваць бомбаю польскі штаб?

Пры такой думцы Ялавіцкі здрыгануўся. Не мог марудзіць ні адной хвіліны. Хіба можна, каб не паведаміць штабу войска польскага! Толькі дзе асталяваўся штаб? А можа, сказаць стрэчнаму афіцэру? Не! Штаб, напэўна, у былым рэўкоме. Пойдзе туды і скажа самому старшаму (можа, генералу). Генерал абвесціць усяму войску: «Шляхціц Ялавіцкі злапаў бальшавіцкага камісара». Кожны афіцэр, калі сказаць, захоча ўкрасці такі гонар для сябе.

Ішоў і спатыкаў польскіх салдат. Была вялікая, нявыказаная радасць. Яна свяцілася на яго твары, як сонца. Выйшаў з дому і ўбачыў першага польскага салдата — хацелася кінуцца да яго ў абдымкі, як на «вельканоц». І, бадай, зрабіў бы гэтак, каб ведаў, што радавы салдат зразумее яго патрыятызм. Але толькі

гаварыў, як ішоў, і першаму і другому: «Нех бэндзе похвалёны Езус Хрыстус».

Падышоў да будынка, дзе быў рэўком, і ўбачыў польскі сцяг.

«Які прыгожы...» — прашаптаў вусамі. Хацелася стаць на адно калена і маліцца, як перад маткай боскай. Нават спыніўся на момант перад ганкам. Каля дзвярэй стаяў жаўнер.

— Пшэпустка? — звярнуўся ён да Ялавіцкага.

— Я да пана начальніка,— засупярэчыў Ялавіцкі,— з сакрэтам. У мяне вельмі важныя сакрэты.

Жаўнер растлумачыў Ялавіцкаму, што ўсё роўна патрэбна «пшэпустка». Ён паказаў на драўляны домік па левай руцэ.

— Там выдадуць...

Такая асцярожнасць заспакоіла Ялавіцкага: не вельмі лёгка кінеш бомбу ў штаб войска польскага.

* * *

Убачыла Натка, што на іх двор ідзе чалавек у чырвонаармейскім адзенні і падумала:

«Цёцін дзядзя».

На тым тыдні праязджала цераз станцыю часць, у якой служыць Пятрок. Пакуль стаяў эшалон, Пятрок забег да сваёй сястры Марысі. Пятрок казаў тады Натцы:

— Мы пойдзем, а вас забяруць белыя палякі. Але ты, Натка, не бойся. Мы іх прагонім. Мы вас ад тых белых палякаў адбярэм.

Натка слухала дзядзю Пётру, і ёй рабілася страшна. Гэта ж і яе, і цёцю Марысю, і маму — усіх забяруць белапалякі. Яна не забылася. Яны ўжо адзін раз забіралі. Яны прыйшлі і нават забралі Натчыну казу Чучку. Прыйшлі да мамы ўпяцёх і нечага нагаварылі, нагаварылі і забралі. Натка плакала. І ў мамы былі мокрыя вочы ад слёз. У Наткі засталася толькі маленькая козачка Белачка. Калі ж яна вырасце ды будзе даваць тое малако!

Дзіця агортваў яшчэ большы страх. Баялася, што ў яе цяпер забяруць Белачку. Прачыналася сярод ночы, пытала:

— Мама! Ці нас яшчэ не забіралі палякі?

— Спі! — сварылася матка. Дачка надакучала ёй

сваімі роспытамі. Тады, раніцою, пабегла да Марысі (матка з Наткаю жывуць у першай кватэры, а Марыся — у другой. Пад адной страхою).

— Цёця Марыся,— спытала Натка,— а чаму дзядзя Пётра не забярэ палякаў?

А ў гэты дзень бегала як утрапёная. Бачыла, што ўсе спалоханыя, і бегла з хаты ў хату раз-поразу. Матка насварылася і не пусціла больш на двор. Тады трохі сцішылася. Матка пакавала клункі, некуды насіла, хавала ад палякаў — ізноў шмыгнула да Марысі. І была, пакуль зусім не пакінулі «недзе там» грукаць. Не стала грукату — выбегла на двор і вось...

— Я знайшла дзядзю чырвонаармейца! — закрычала, убегшы ў пакой.

Марыся аж сумелася. Адразу з'явілася думка: «Ці не таварыш Петрыка? Можа, з пісьмом! Што ж тады?..»

Чалавек у чырвонаармейскім бачыў яе разгубленасць.

— Не бойцеся...— усхвалявана гаварыў да Марысі.— Вы мне дапаможаце? Ці няма ў вас чаго мужчынскага, каб пераапрануцца?

— Я не ведаю...— зусім разгубілася Марыся,— хіба што-небудзь братняе...

— Абы-што... я, ведаеце, не паспеў на эшалон. У мяне было заданне... Будзем знаёмы,— спешна падаў Марысі руку,— камандзір трыццатага палка Леанід... Белапалякі з таго боку ўжо занялі горад. Я смела зайшоў да вас. Натка сказала, што «цёцін дзядзя Пётра праганяе палякаў».

Марыся як і не чула. Дастала з шафы картовыя штаны і сінюю ласцікавую рубашку. З вешалкі каля парога зняла падношаны, але яшчэ цэлы пінжак.

— Нічога лепшага няма...— сказала Марыся.— Братняя штодзённая вопратка. Вось і шапка яго.

— Вельмі дзякую... вельмі...

— Можна за шафу...— паказала Марыся рукою.— Ідзіце і пераапранайцеся. Можа, вас хто бачыў? — запытала з хваляваннем у голасе.

А Натка пад Марысіны словы:

— Я ўбачыла і падумала: ці не цёцін гэта дзядзя...

— Здаецца, ніхто не бачыў,— адказаў камандзір Леанід,— на вуліцах ні аднаго чалавека. Вы не бойцеся... Я пераапрануся і пайду...

— Куды ж вы пойдзеце?

— Мне каб толькі выйсці з горада. У мяне ёсць куды ісці... у лес.

— Вас могуць западозрыць.

— Інакш нельга. Я не ўпэўнены — ці мяне бачыў хто, ці не бачыў. Вы мне і так зрабілі вялікую ласку.

Марыся была рада, што ён пойдзе. «Дапраўды, небяспечна. Няхай ідзе. Днём лягчэй прайсці, чым уночы».

Поркалася ў ніжняй шуфлядзе — шукала Петрыкавага паяска. Натка зайшла за шафу, гаварыла камандзіру:

— Вы, дзядзя, вялікі?

— Вялікі...— усміхнуўся Леанід.— І ты будзеш вялікая.

— А чаму вы адзелі сарочку дзядзі Петрыка?

Такога пытання не чакаў. Не ведаў, што адказаць дзіцяці. Марыся дапамагла яму. Падышла да Наткі і злосна ўзяла яе за руку.

— Не дзіця, а нейкая слата! Ідзі дадому! Чаго ты дурыш галаву?

Марысі не падабалася, што Натка расказала, хоць і камандзіру, а незнаёмаму чалавеку, бадай усю яе біяграфію.

Зірнула на Леаніда ды з прымушанай усмешкаю.

— Проста дзіва бярэ! Дзяўчынка маёй гаспадыні... не ведаю, што з яе будзе, калі вырасце!

— Разумная будзе дзяўчынка,— адказаў.

Марыся нібы і не чула. Адчыніла дзверы, сказала:

— Ідзі, ідзі. Адурыла галаву. Ідзі да маткі, ідзі. Потым прыйдзеш.

Натка пайшла з неахвотаю, насупіўшыся.

Усё адбылося вельмі раптоўна. Марыся хвалявалася.

«Хаця каб хутчэй адзеўся... Каб цяпер быў Косцік... Я не ведаю, што мне рабіць...»

Косцік заходзіў да Марысі раніцою, гаварыў:

— Ты, мая Марысечка, не бойся. Палякі зоймуць горад. Нічога не парадзіш. Я цяпер развітаўся з нашымі хлопцамі. Можа, ніколі не пабачымся. Вельмі шкода Лазаравай маткі. От плакала... Мы з Максімам моцна, моцна пацалаваліся... Ведаеш, Марысечка, калі кранууся поезд — мне хацелася ўскочыць на хаду... Калі б не ты і каб не камсамольская дысцыпліна, паехаў бы з хлопцамі на фронт!

Косцік расказаў Марысі пад вялікім сакрэтам, што яго пакінулі для працы ў падполлі.

— Калі гэтымі днямі Чырвоная Армія не прагоніць антэкаў,— гаварыў Косцік,— і цябе прымем. Падполле — вялікі сакрэт. Трэба выбіраць адважных людзей. Пойдзеш, скажам, клеіць пракламацыі, а цябе зловяць. Што тады скажаш? Ты не ведаеш, як было пры немцах? На гэтую работу трэба асцярожныя людзі. Трэба, каб ніхто не ведаў. Ды пакольк ўсяго нейкі месяц, як ты ўступіла ў нашу ячэйку... Не тое каб табе не давяралі... я ж за цябе магу ручацца... Самым старшым над нашаю тройкаю — Фіма. Ён мае сувязь і з падпольным камітэтам партыі. Гэта вялікі, Марысечка, сакрэт! Глядзі, каб не дачуўся Фіма, што я табе расказаў...

Марыся дрэнна разумела, што такое падполле. Не ведала, для чаго «клеіць пракламацыі». Само падполле ўяўляла вялікім падзямельным будынкам — склепам. Збяруцца ўсе, каго шукаюць белапалякі, у гэты будынак і будуць жыць, каб ніхто не знайшоў. Будуць праводзіць сходы, будзе маленькая савецкая ўлада. Адкуль, што яна магла ведаць? Жыла ў свяржанскай глушы на Гродзеншчыне. Вайна выгнала бацькоў з Свяржан. Ехалі куды глядзяць вочы. Па дарозе бацькі загадалі дзецям доўга жыць. Засталіся ўдваіх з Петрыкам. Вайна далей не пайшла. Атабарыліся ў фальваркоўца Канатовіча, а тут і рэвалюцыя. Ішоў Марысі чатырнаццаты год, а Петрыку — дзевятнаццаты. Петрыка прызвалі бараніць рэвалюцыю, а ён і сказаў сястры:

— Паедзем у горад. Пакуль я служыць буду, ты будзеш вучыцца.

З гэтага і пачалося гарадское жыццё. Вучыцца не пачынала, а пакуль што няньчыла ў сваёй гаспадыні малую Натку.

Пра падполле хацела запытацца ў Косціка, ды пасаромелася. Косцік кажа — «вялікі сакрэт», і няхай! Прымуць яе — даведаецца. Вельмі хацелася, каб адразу прынялі...

«Ён цяпер пойдзе, мабыць, у падполле,— разважала Марыся пра камандзіра.— Толькі як ён ведае, дзе яно? Няўжо яно ў лесе, што ён кажа «пайду ў лес»?

Яна цешылася такою выпадковасцю. Можа, яшчэ ніхто з падпольшчыкаў не зрабіў ніякай работы. Яна не падпольшчык і ўжо дапамагла камандзіру.

А Леанід выйшаў з-за шафы, і цяпер яго не пазнаць. Звычайны рабочы чалавек. Петрыкаў пінжак і ўліўся. З-пад яго відаць сарочка — верхні гузік не зашпілены.

— Каўнер, мусіць, не сходзіцца...— сказала Марыся.

— Якраз...— памацаў Леанід пальцамі,— гэта ж я спяшаўся...— Зашпільваў гузік, гаварыў:

— Цяпер я не баюся... Зусім другі выгляд.

— Вось...— трымала Марыся ў руцэ братні паясок,— падперажыцеся па сарочцы.

— У мяне папруга... дзякую.

І надзеючы шапку-кепку.

— Я папрашу, каб вы схавалі маю вінтоўку. Яна мне спатрэбіцца. Я зайду па яе.

Ізноў апанаваў Марысю страх. Не ведала, што адказаць. Разважала, калі апранаўся: «Пойдзе, і ўсё яго пойдзе з ім». Забылася пра вінтоўку, што яе нельга з сабою забраць.

— Я вельмі баюся...— сказала няўпэўненым голасам.— Дзе ж я дзену яе?

— Дзе-небудзь...— шукаў вачыма па пакойчыку. Знянацку зірнуў на шафу:— Можна пакласці пад шафу. Яна падлезе.

Укленчыў перад шафаю і засунуў аж да сцяны. Вінтоўка кавалерыйская, уся і схавалася

Не то згаджалася з такою схоўкаю, не то — і сама не ведае. Зрабілася вельмі страшна. І не таму, што могуць знайсці ў яе, а што ў пакоі — зброя. Яна баіцца самой вінтоўкі.

— Я скажу Косціку — няхай забярэ,— голасам просьбы, каб дазволіў Леанід перахаваць, сказала Марыся.— Гэта мой добры таварыш. Ён жыве тут, недалёка, на Крывой вуліцы... Ён схавае, а вы прыйдзеце — ён аддасць.

Леанід здрыгануўся.

— Вы нікому не кажыце пра мяне! Што-о вы! Калі дойдзецца — вельмі дрэнна будзе. Перш-наперш вам. Вы ж нідзе не схаваецеся.

— Не бойцеся,— заспакоіла Марыся,— Косцік — камсамолец. Ад яго ніхто не даведаецца. Ён схавае яе ў сваім падполлі...

Зачыняючы за ім дзверы, яшчэ дадала:

— Будзьце ў надзеі. Там ужо ніхто не знойдзе.

«Каб жа ведана, што чалавек думае...»

Так разважаў Міхалка Каржакевіч. Ён — гарманіст. Усе гарманісты — весельчакі.

На яго вачах прыйшлі белапалякі. Убачыў праз акно польскую конную разведку, гаварыў да жонкі (яна мыла галаву):

— Добра ім прыходзіць. Але! На Чырвоную Армію напалі з усяго свету, як тая саранча. Чырвоная Армія, канешне, змарылася.

Раніцою Міхалка даведаўся: Чырвоная Армія адступіла ад гарадка, можа, за семдзесят вёрст.

«Яны як гаспадар на новай кватэры...— сам сабе гаварыў.— Прыйшлі, занялі і парадкуюцца без спросу».

Нікому не мог сказаць такіх слоў. Нават жонцы. А самому сабе можна. Бо што рабілася ў гарадку — ніколі не сніў. От гэтак занялі гарадок, а назаўтра гэтаю парою расстралялі:

Намесніка начальніка пошты і тэлеграфа Жыздру: «Чаму засталі сапсуты тэлеграф?»

Тэхнічнага сакратара па зямельных справах Ламаку: «Чаму не ведае, дзе схавалася начальства?»

Расстралялі зубатэхніка Райцэса: «Чаго перабягаў вуліцу і азіраўся?»

Яны шукалі камуністаў. Чалавек ад смагі гэтак шукае вады. Было вядома, што ўсе камуністы эвакуіраваліся. А хіба ўсе? От жа не паспеў выехаць старшыня гарадскога выканкома Касіцкі. Злавілі і не расстралялі. Відавочных камуністаў яны толькі вешаюць.

І павесілі.

А колькі расстраляна ды павешана невядомых імён?!

А колькі арыштавана падазроных асоб?! Міхалка толькі здагадваўся.

Камендант Векерт гаварыў:

— Не можа быць, каб паўцякалі да аднаго ўсе бальшавікі? Трэба шукаць!

І яны шукалі. Жандары — сабе, паліцыя — сабе, а шпікі — сабе. Нібы ў горадзе воўчыя гнёзды — такую рабілі аблаву. Толькі аблава на ваўкоў бывае ўдзень, а яны рабілі аблаву на людзей найбольш сярод ночы.

У гэтую ноч і прыйшлі да Міхалкі Каржакевіча. Міхалка ніяк пра гэты вобыск не можа зразумець.

«Каб жа ведана, што чалавек думае... Няўжо бываюць такія людзі?»

Было пасля поўначы, калі да Міхалкі пастукалі. Усхапіўся з ложка, так і пабег да дзвярэй у адных споднiках.

— Хто?

— Свае...

— Хто «свае»?

— Проша одэмкнуць...

— Не «одэмку». Я не ведаю хто.

— Урадоўцы...

З першага слова Міхалка ведаў, што да яго прыйшлі, як называў ён белапалякаў, «госці». Хацелася памуштраваць «сваякоў». А цяпер «зразумеў», хто стукае. З крыўдаю ў голасе праказаў:

— Адразу, пане, і гаварылі б...

Так і не надзеў портак. Увесь час, пакуль рабілі вобыск, быў у адных споднiках. Нібы гэта было яго ратункам. Надзець порткі, апранацца ў дарогу, загадзя гаварыць: «я ўжо гатоў».

А яны аблазілі куткі пакоя, перавярнулі шуфляды ў камодзе, раскідалі па падлозе бялізну... Высокі, стройны ўзяў з камода Міхалкаў гармонік, адшчапіў кручкі, адняў планку з галасамі і пасвяціў кішэнным ліхтарыкам. Яшчэ не даваў веры вачам — абмацаў мяхі пальцамі. Нічога нідзе такога не было. Тады самы старшы (да яго высокі звяртаўся: «пане плютановы»[1]) сказаў:

— Пшэпрашам, пане, што патурбавалі.

Міхалку стала лягчэй на сэрцы. А плютановы змоўчаў момант, запытаў:

— Дзе пан працуе?

— Нідзе. Я — слесар. Працаваў у дэпо. Мяне панскі начальнік не прыняў на работу.

— За што ён васпана не прыняў?

— Не ведаю... пан начальнік сказаў: больш рабочых не трэба.

— Ідзі! — кіўнуў галавою на высокага.— Чакай мяне на дварэ.

Ён выйшаў, і Міхалка адчуў: яго, мабыць, не забяруць. Толькі ніяк не мог зразумець: чаго застаўся гэ-

[1] Плютон — узвод; плютановы — камандзір узвода.

ты плютановы? І нават сеў на крэсла. Не зводзіў дапытлівых вачэй з Міхалкі. Гіпнатызаваў сваімі вачыма. Бліщчасты прарэзлівы позірк шпількамі пранізваў наскрозь. Ловячы Міхалкавы вочы, плютановы праказаў:

— Пан без работы...

— Ну, але...

— І хочаш працаваць?

— Дзіва што! Каб жыць — трэба нешта есці. Сам як сам, [illegible] жонка з малымі — вельмі не самавіта.

Плютановы ўзняўся з крэсла. Паправіў на папрузе рэвальвер ды:

— Васпане разумее польскую мову?

— Не вельмі. Матка мая была каталічка — крышку ведаю.

Плютановы крануўся з месца і падышоў да Міхалкі. Паклаў сваю руку на яго плячо. Міхалка адчуў, як пабег ток ад рукі па ўсім целе.

— І чытаць і пісаць можа васпан?

— Чытаць — нічога сабе, а пісаць — не так-то. Нідзе не вучыўся. Матка вучыла па кантычцы.

Тады дастаў з кішэні блакнот і напісаў два радкі па-польску. Унізе, на трэцім радку, падпісаў: «Twój Siaducz» [1].

Паперку склаў і наверсе надпісаў: «Panu Rolnickiemu» [2].

— Маеш, васпан, работу,— сказаў, даючы паперку.— Пойдзеш ютро на станцыю і запытаеш, дзе ўбачыць пана Ральніцкага. Ён мой сябар. Ён дасць васпану работу.

Узяў пад казырок і выйшаў. Міхалка не паспеў падзякаваць. Стаяў аслупянелы і не пайшоў нават за плютановым, каб зачыніць дзверы.

* * *

Размоклы на дажджах, зношаны вятрамі дом № 5 на Катлавінскай вуліцы асеў старым грыбам. Падрубы ўеліся ў зямлю. І не падрубы — адно гніллё. Толькі і гаварыла шыльда з надпісам «Сталярная майстэрня», што дом жыве. Шыльда — пад самым закотам. Левы бок запэцкан птушыным следам. За ёю — вераб'інае

---

[1] Твой Сядуч.
[2] Пану Ральніцкаму.

гняздо. Цяпер вераб'ёў не відаць: вывеліся і разляцеліся па агародах.

Сцёпка спыніўся і разглядаў шыльду, нібы першы раз яе бачыў. А можа, брала дзіва, як борзда гадуюцца птушкі? Ці даўно тое было — заходзіў да Фімы — маладыя шчабяталі за шыльдаю, а старыя лёталі ўтрапёнымі.

Момант прастаяў і схамянуўся: «Чаго затрымаўся перад шыльдаю?» Яму ж непатрэбны тыя вераб'і. Цікавіла Сцёпу сама шыльда. Ніхто не ведае яе сакрэту, а ён ведае. Дык чаго ж стаяць перад ёю — цешыцца навідавоку? Каму трэба, можа дапільнаваць яго ўцеху, пераняць яе нацянькі...

Каб апраўдацца самому перад сабою, наўмысна праказаў уголас:

— Вывеліся... Паляцелі, ліханька...

Усміхнуўся сарамлівым смехам: «я, як малы» і пастукаў у дзверы майстэрні.

І ўпраўду — не вельмі ўжо і дарослы. Вясною неяк (ён і сам не ведае, якога чысла) будзе семнаццаць гадоў. Ён выцыбаўся і выглядае дзецюком гадоў пад дваццаць.

Фімава жонка, Рыта, калі пастукаў Сцёпка, не папытала «хто», адразу і адчыніла.

— Праходзь...— сказала.— Фіма там, у майстэрні. У яго — Барыс і Косцік.

Па целе прабегла лагодная дрыготка. Для Сцёпы гэта першае патаемнае пасяджэнне набывала вялікую цікавасць. (Заўсёды цікава тое, што забаронена. Потым даведаўся: было яно не простай цікавасцю.)

Усё як у той казцы. Камсамольцаў — лічаныя смельчакі (Сцёпа не ведаў, колькі яшчэ ў горадзе смельчакоў). Яны — наперакор белапалякам! Яны — памочнікі Чырвонай Арміі.

«Наш старшы камандзір,— казаў Фіма,— Дзядзька».

Ці мала на свеце дзядзькоў? Усе старэйшыя за Сцёпу — дзядзькі. Сцёпа, пэўна, не ведае, хто ён.

«Пажылы чалавек усё ж, калі з такою клічкаю,— разважаў Сцёпа. Але і другое меў на сваім меркаванні: — Можа, наўмысна. Дачуюцца нягоднікі, што камандуе падполлем Дзядзька,— будуць шукаць пажылога. А ён без барады, без вусоў».

Магло быць — Сцёпа некалькі разоў бачыў Дзядзь-

ку і нават гаварыў. Хто ведае, калі ўсё пад строгім сакрэтам, як пад вялікім замком. Старшы над чацвёркаю, у якой Сцёпка, Фіма. І ён ведае з камуністаў Дзядзьку. Інакш нельга. Каб заўжды былі проведы, што рабіць. І старшых з другіх чацвёрак Фіма ведае.

Сцёпка нават здагадаўся: у Фімы «сталярная майстэрня» для камсамольскіх збораў, а на Парэцкім пляцу «фруктовы магазін», можа, для партыйцаў. Купляў гэтымі днямі яблыкі-наліўнікі ў тым магазіне і ўсміхнуўся. Гэтак, як і цяпер перад шыльдаю. «Я ведаю...» — гаварыў тою ўсмешкаю. А мужчына адважыў тады яблыкі і паглядзеў на яго з нейкім дзівам. Нібы выказаў у сваім здзіўленні: «Чаго ты, не раўнуючы, як дурны». Каб зглазіць нязручную ўсмешку, Сцёпа адразу пачаў есці яблык.

«Дапраўды, як у той казцы...»

Сцёпка пераступіў парог майстэрні і аж заблытаўся ў стружках. Па ўсёй падлозе — абрэзкі, стружкі, пілавінне... На варштаце, заклаўшы нагу на нагу,— Фіма. Косцік — каля варштата. То сюды, то туды, няма чаго рабіць — пакручвае «шрубу». Барыс — наводшыбе ад варштата, на згарнутай кучы стружак. Фіма нешта даводзіў, а Барыс з Косцікам слухалі. Ніхто на Сцёпку нават не звярнуў увагі. Каб не пераймаць мовы, Сцёпка і не здароўкаўся. Прыпёрся бокам да падаконніка ды заспеў Фіму на такой гутарцы:

— ...Гэта вам не ў гарадкі гуляць. Родныя бацька-матка не павінны ведаць. Найсардэчны друг не павінен ведаць! Колькі расстраляна вунь нявінных людзей... Чаму ты прыпазніўся? — перавёў толькі цяпер сваю ўвагу на Сцёпку.

Не чакаў ад Сцёпы адказу, гаварыў:

— Я кажу, каб сярод нас была абсалютная канспірацыя. Папаўся каторы — сам за сябе адказвай. Сам за сябе адказваеш — за ўсіх адказваеш.

Памаўчаў момант. Твар яго быў худы, змораны. Ад гэтай зморанасці твар выглядаў яшчэ больш доўгім, завостраным. Сцёпа ўзіраўся на Фіму, і яму было яго за невашта шкада.

«Каб узялі белапалякі ды дазналіся пра Фіму, што ён гэтакі...— ні з сяго падумаў Сцёпа і пачырванеў. Ён нават раззлаваўся на сябе за такую думку.— Глупства вярзу!» — сплюнуў гэту прыкрасць скрозь зубы на габлюшкі.

Фіма ўзняўся з варштата. Узяў у рукі перад сабой рубанак ды, калупаючы трэскаю стружку з-пад жалезка, гаварыў да Сцёпкі:

— Яны ведаюць...— за адзін раз кіўнуў галавою на Бору, на Косціка.— Бора табе скажа, дзе, калі, што рабіць. Больш нічога не ведаеш і не знаеш. Бора перакажае табе, а ты — Косціку. Або Косцік — табе, а ты — Бору. Ваша тройка.

— Па-мойму, няхай за гэтым Каржакевічам і Сцёпа наглядае? — узняўся Бора з габлюшак. Атрасаў далоняю прыліплыя да пінжака стружкі, гаварыў: — Паколькі мы жывем адзін каля аднаго, можа, я не ўбачу, ён дагледзіць.

— Няхай...— згадзіўся Фіма. Ізноў перавёў позірк на Сцёпку, запытаў:

— Каржакевіча-гарманіста ведаеш?

— Ну...

— Яго белапалякі спярша не прынялі на работу. Гэтымі днямі ў яго вобыск быў, а раніцаю яны яму далі работу. На чыгунцы — слесарам.

— Гэта факт! — загарачыўся Барыс.— Я і кажу: Каржакевіч падаўся ў шпікі. Раз быў вобыск — была падазронасць. Хай што нават дробязнае, і яны не дадуць работы. А то — цэлы вобыск!

Фіма асадзіў Боркаву гарачнасць:

— Ціха! Не трэба адразу ўскладаць на чалавека віну. Гаварыць — трэба ведаць. Я раіўся з Дзядзькам, і ён мне сказаў: «можна паназіраць». Дзядзька мяркуе, што гэтага Каржакевіча ён ведае. У яго быў знаёмы Каржакевіч, таксама гарманіст, на валасці.

Сказаў «на валасці» і аж сумеўся. «Ледзь не выдаў Дзядзьку». Каб зацерці сваю неасцярожнасць, спешна гаварыў:

— Паназірайце, хто да яго будзе хадзіць і куды ён будзе ўчашчаць. Дзядзька сказаў — ён яго праверыць. Калі яго знаёмы, гэта свой чалавек... Дык ты, Косцік, ідзі...

Косцік крануўся ад варштата, а Фіма яшчэ падышоў да яго і адступіўся з ім убок. Нешта пачаў шаптацца з Косцікам, і Сцёпу агарнула невыразная крыўда (Барыс стаяў, унурыўшы галаву, ды заклапочана накручваў на палец вітую стружку).

«Чаго шаптацца? — брала Сцёпу думка.— Нібы не роўныя камсамольцы. Падумаеш!..»

І крыўда і злосць змяшаліся ў адно. Тады крута адвярнуўся да акна, каб глядзець так сабе на вуліцу.

«Хай нагаворацца».

І толькі зірнуў праз шыбу, як раптам адхіснуўся.

— Палякі!..— праказаў сціснутым, адразу ахрыплым голасам.— Ідзе жандар!..

Фіма, нібы чакаў, не разгубіўся. Кінуў праз акно позірк і ўбачыў: «jedna gwiazdka» [1].

А на парозе майстэрні ўжо стаяла Рыта.

— Адчыняй! — сказаў Фіма да жонкі.

Пакуль Рыта адчыняла дзверы, Фіма ўзмахнуў кулаком:

— Па месцах! — крыкнуў заціснутым голасам.

Сцёпа нічога не разумеў. Ён бачыў: уздоўж, па шнуры, Косцік пілаваў дошку. Нават сарочка — усе гузікі расшпілены.

«Калі паспеў расшпіліць?!»

Барыс габляваў доўгі кантовы брусок. Гэблік усё падскокваў, не браў. Так моцна на яго націскаў.

«А можа, не ўмее габляваць?»

Фіма трымаў жалезка рубанка над бруском, гаварыў да Сцёпкі:

— Скажаш: «Калі ж будзе гатова мая табурэтка? Калі мне зайсці?» І ідзі.

— Дзень добры! — сказаў падпаручнік, пераступіўшы парог майстэрні.

Усе, апрача Сцёпы, адказалі. І адразу затрымалі ў руках работу (Сцёпа вельмі разгубіўся).

А падпаручнік, так сабе, павёў вачыма. Косцік абцёр падалом сарочкі пот, пачаў накручваць на пілцыаднаручцы аборку, нібы пілка расслабла і ходзіць па дрэве не так прутка. Барыс вельмі ж часта кідаў на падпаручніка свой позірк і ўсё выкалупваў пальцамі стружку з гэбліка, нібы гаварыў да падпаручніка: «Ах, як добра, што пан зайшоў да нас! Прыйшоў пан, і мы адпачываем!»

— Хто тут ест гаспадар? — варушачы бліщчастым ботам габлюшкі, спыніў падпаручнік на Сцёпу свае вочы.

— Я, пане...— крануўся Фіма з месца. І не спешна, але выразна папярэдзіў: — А гэта мае вучні.

Вочы падпаручніка свідравалі Фімаў позірк. Фіма

---

[1] Падпаручнік. На яго пагонах адна зорачка.

не здрыгануўся. Патрэбен быў усяго адзін момант. І гэты момант Фіма вытрымаў.

— Мне для ксёнжак трэба паліца...— праказаў падпаручнік.— Я хацеў заказаць...

— Калі ласка! — адказаў Фіма.— Чаму ж... Мы зробім.

Узяў з акна складаны жоўты аршын, раскінуў яго ды:

— Якую, пан, хоча... на колькі ўвышкі і ўшыркі?

Так і не сказаў Сцёпа пра табурэтку. І нават забыўся пайсці. Стаяў каля варштата і часта моргаў вачыма. Гэтым морганнем ён, здаецца, пытаў:

«А навошта пану афіцэру тая паліца?»

* * *

На трэці дзень Косцік забраў ад Марысі вінтоўку. Разабраў яе ды рассарціраваў пад сваёю вопраткаю, каб непрыметна вынесці.

Расказала Марыся, як трапіў камандзір да яе. Косцік збялеў як палатно.

— Што было б, каб яго злавілі ў тваёй кватэры! І цябе і яго расстралялі б! Які жах!

— А што я магла рабіць, калі чалавек просіць ратунку? — апраўдвалася Марыся.— Тады не было калі думаць.

Косцік і сам не ведае. Можа, яна праўду кажа. Думаць у такую хвіліну няма калі. Ён не ведае, як бы зрабіў на Марысіным месцы. Пэўна ж памог бы. Гэта цяпер так гаворыцца...

Ішоў тады да Фімы з удалаю навіною, сэрца песцілася радасцю.

«Якая адважная Марысечка!»

Нават бліскалі думкі: няхай бы, можа, трапілася гэтак з ім. Можа, вунь які важны быў чалавек! Канешне, камандзір не сказаў Марысі і дзесятай долі. Кажа, «не паспеў на эшалон». Хто гэтаму дасць веры!

Фіма выслухаў Косціка і пацiснуў плячамі.

— Хто яго ведае. Усё можа быць. Глядзі, толькі нічога не кажы Марысі. Мала што... Каб яна нічога не ведала.

— Я ж не маленькі...— пачырванеў Косцік.

Разумеў, чаму Фіма баіцца Марысі. Яна не магла ўтрымаць сакрэту. Прымалі ў камсамол на зачыненым сходзе, назаўтра ўсё ведала яе гаспадыня. Аб чым пы-

талі Марысю, што гаварылі на ячэйцы — Варвара Міхайлаўна расказала Абрамовічысе. Сын Абрамовічыхі Грыша (ён пайшоў на фронт) чуў і расказаў Фіму. І не паглядзела, што яе аб гэтым папярэдзілі.

— А радасці...— абараняў Косцік Марысю.— Хацелася каму-небудзь выказаць радасць: «Я — камсамолка!»

Таксама ад радасці расказаў ёй, што ён будзе ў падполлі. У першы ж дзень расказаў, як палякі займалі горад!

Косціку рупіла ўвесь час, чаму зманіў Фіму. Марысі не гаварыў Фімавай думкі — магла зазлаваць.

«І правільна! — разважаў Косцік.— Яна апраўдала сябе... Яна дапамагла камандзіру...»

А ўсё ж хацеў яшчэ раз прыказаць, каб глыбока хавала яго сакрэты.

«Пайду і скажу,— вырашыў цяпер адразу.— Гэта табе не жартачкі! Што тады скажуць нашы хлопцы? Мяне выключаць, як нявартага...»

Выйшаў на двор і стаў перад каліткай. Нізкія штыкеты — уся вуліца навідавоку.

Надвор'е цёплае. Зранку было хмарнае неба: начны туман пайшоў уверх. Каб асеў на зямлю, быў бы адразу ясны дзень.

Косцік затакаваўся на адным месцы. Глядзеў на вуліцу і бачыў: па Крывой праязджалі дзве фурманкі. Вазы напакаваны мяшкамі. Каля пярэдняй — селянін у зімовай салдацкай шапцы, у суконнай жакетцы, нізенькі. Ён трымаў лейцы, як павады ад аброці. Ішоў роўна з конскімі пярэднімі нагамі. Другі — у адной картовай сарочцы. Шапка з вялікім аколышкам. Босы. Ішоў воддаль, па левым тратуары і ўсё пасцёбваў пугаю паветра. А на яго возе, на мяшках — паліцыянт. Ногі вісяць цераз біла, на каленях — вінтоўка. Ён дрэмле. Ужо як мінула задняя фурманка, гледзячы ёй услед, Косцік убачыў: кола шаравала і шаравала крысо паліцыянтавага шыняля.

«Разявака!» — падумаў Косцік і памкнуўся адчыніць калітку. І толькі гэтак узяўся за слясак, а з-за сцяны дома (не глядзеў на тратуар перад сабой) — Сцёпа.

— Куды ты? — запытаў Сцёпа і, не чакаючы адказу: — Фіма казаў, каб зараз прыйшоў да яго. Ты яму вельмі патрэбен.

Раззлаваўся на сябе, што прастаяў перад каліткай. Каб адразу пайшоў, не спаткаў бы Сцёпу. Вельмі хацелася зайсці да Марысі. Пазаўчора як быў і не быў. Яна ж чакае недзе, вунь як! Будзе злавацца. Яна цяпер зусім адна. Колькі ў іх заўсёды гаворкі!

— Чаго яму закарцела! — буркнуў Косцік.— Раптам...

— Я не ведаю...— такім тонам: «я сказаў, а ты як сабе хочаш»,— праказаў Сцёпа.

Пакуль ішоў да Фімы, не пакідала думка пра Марысю. Засеў у яго нутры той момант, калі даведаўся, якая над ёю вісела пагроза. Летась пазнаёміўся з ёю. Перараблялі з бацькам у яе гаспадыні печ. Яна падавала яму гліну і ваду. Памятае як цяпер: рукі яе ў клейкай гліне і ніяк не магла адкінуць пасму светлаільняных валасоў. Валасы выбіліся з-пад белай клінаватай касынкі і лезуць на вочы. Яна ўзмахвае галавою, усёю рукою папраўляе валасы (кофта была закасана), а яны — ізноў.

— Дайце, Марыся, я папраўлю...— смяяўся тады над яе порсткасцю.

— Вашы рукі таксама ў гліне,— адказала наіўнаю ўсмешкаю. Яна і сапраўды верыла, што ён можа паправіць з такімі пальцамі. Гэта ж было так шчыра! Усяе гэтай шчырасці Косцік нават не адчуваў. А потым пачаў бываць у яе. Яны як дзеці: Марыся гаварыла, як яны ад'язджалі ў бежанства.

«Кругом нашай вёскі грукаюць гарматы, а мы пакуемся выязджаць. Мне так весела. Хацця каб хутчэй ехаць. Бацька зрабіў вялікую буду. Мама абшыла яе палатном. Як цыганы. Вельмі хацелася ехаць у будзе. Мая падруга Клава, калі мы ад'язджалі, падбегла да мяне і кажа: «Давай папрашчаемся. Можа, не ўбачымся, Марыська». А я кажу: «Няма калі. Бывай здарова». Яна плача, а мне смешна. Ну, чаго, думаю, дурная ты, плачаш?»

І яшчэ расказвала, як засталася з падругаю Таняю ад бежанскага эшалона.

«Пайшлі на станцыю купляць гарачыя, на алеі смажаныя, аладкі. Пакуль купілі ды ідучы елі — эшалон пайшоў. Мы селі ў другі, каб дагнаць нашых, а другі не едзе. Гадзіну, можа, чакалі, а потым вырашылі даганяць нашых пехатою. Нас угаварвалі ў вагоне, каб мы мелі цярплівасць — зараз, можа, паедзем, дык дзе

гэта відана! Злезлі ды пайшлі па шпалах. Толькі адышлі ад станцыі, а тыя жанчыны, што ўгаварвалі нас, едуць. І гэтак хустачкаю адна махае. Адразу і пазналі іх. Мы сышлі з пуці, а яны і паехалі. Мы бягом за імі, а яны і схаваліся ўжо. Колькі тады мы наплакаліся! Пакуль прыйшлі на станцыю, ногі пазбівалі, есці вельмі захацелі. Прыйшлі і бегаем па станцыі, шукаем нашых або хоць бы той чужы эшалон — і нідзе нікога. Ізноў колькі было слёз! Нейкае шчасце, што мяне знайшоў брат Петрык. Два дні ехалі з чужымі бежанцамі трэцім ужо эшалонам. І самі не ведалі куды. Пытаюць у нас, а мы кажам: «даганяем сваіх». Нас кармілі, як сваіх. І вось на адной вялікай станцыі (о, колькі там было паяздоў!) мы хацелі перасесці ў другі эшалон. Я гэтак карабкаюся, каб узабрацца, Таня ўжо ўлезла ў вагон, а мяне нехта ззаду — назад. «Ты куды ж гэта?» Якая была радасць, калі ўбачыла брата Петрыка! Ён ужо ўвесь час пільнаваў эшалоны. Ні аднаго не прапускаў, не агледзеўшы. Так мы і знайшліся!..»

Яшчэ больш шкадаваў Касцік Марысю. Яна згубіла сваіх бацькоў. У яе — адзін брат. Ён добраахвотна пайшоў на фронт. Яна цяпер адна, сірата. «Я заўсёды буду з ёю... пакуль не прыйдзе яе брат».

Гэта былі толькі думкі. Ён нават выказваў іх галасна, каб заглушыць сваё пачуццё.

Касцік любіў Марысю. Не як сірату любіў, а як дарагога яму чалавека. Толькі не хацеў у гэтым сам сабе прызнацца. А можа, ён і не ведаў, што гэта такое? Чаму не можа доўга (два дні — сама больш), каб не пабачыцца з Марысяй?

Ну і адкуль ён мог ведаць? Нікога яшчэ так моцна не кахаў.

Калі Касцік прыйшоў да Фімы, на варштаце ў «сталярнай майстэрні» сядзеў незнаёмы чалавек. Барада ў чалавека рыжая, каротка астрыжаная. Святлейшыя ад барады — густыя вусы. Сам — у ботах. Фрэнч на ім унакідку. Сядзіць касяком на варштаце: адна нага дастае да габлюшак, другая падцягнута ўверх і выглядае карацейшай. У пальцах — акурак папяросы. Чалавек зірнуў на Касціка, і ў гэтым позірку лагодная ўсмешка.

— Пазнаёмся...— праказаў Фіма,— наш Дзядзька.

Ад нечаканасці па Косцікавым целе прабегла дрыготка. Вельмі ж было прыемна.

«Вось ён які...» — падумаў Косцік. А Дзядзька, падаючы руку:

— Здароў, здароў, пляменнік...

І скрозь сінія вочы з-пад густа калматых броваў сочыцца яшчэ больш цёпла мяккая ўсмешка.

Косцік зусім разгубіўся. Пацісну́ў руку і адчуў на далоні прыемнае цяпло. Кідаў позірк то на Фіму, то на Дзядзьку. Усміхнуўся, што Дзядзька назваў яго сваім пляменнікам.

— Што табе расказала твая дзяўчына пра камандзіра Леаніда? — запытаў Дзядзька.— Як ён сказаў: калі ён да яе зойдзе?

— Яна не ведае, калі зойдзе,— быстра заморгаў вачыма,— казала, зойдзе па вінтоўку. Нічога ёй такога не гаварыў. Марыся сказала, што вельмі спяшаўся, каб выйсці з хаты. Прасіў, каб ніхто не ведаў пра яго...

Дзядзька маўчаў — аб нечым думаў. А Фіма кінуў да Дзядзькі слова парады:

— Ён, канешне...

— Я таксама думаю...— адказаў Дзядзька.— Але, знаеш, брат, асцярожнасць не пашкодзіць. Усё можа такім часам быць.

Гладзіў пальцамі па сваёй барадзе, гаварыў:

— Леанід... камандзір трыццатага палка... Лёнька. Прозвішча, бачыш, не сказаў! Ды і не ў прозвішчы інтарэс! Ён усё адно правільна не сказаў бы...

І да Косціка:

— Тут, знаеш, брат, згублена сувязь з фронтам. З фронту ў нас пытаюцца, ці ў нас такі-та камандзір, а мы яго і ў вочы не бачылі. Дык мы і мяркуем, што гэты самы. А ён нікога з нас не ведае. І мы яго не ведаем. Той таварыш, да якога ён ішоў, арыштаваны. Самая важная бяда...

Для Косціка кожнае Дзядзькава слова было вялікаю навіною. Брала ўцеха над размахам такой работы партыйнага камітэта. «Камітэт нават мае сувязь з фронтам!»

Дзядзька гаварыў:

— Табе даецца заданне. Можа, ён зойдзе да Марысі...

— Ён прыйдзе, я ж казаў, па вінтоўку,— сказаў Косцік.

— Наўрад...— з развагаю праказаў Дзядзька.— Па вінтоўку ён не зойдзе. Можа зайсці — другі інтарэс.— нібыта па вінтоўку. Ён зойдзе, каб натрапіць на каго з падпольшчыкаў. Ён жа ведае, што Марыся расказала табе пра яго?

— Яна ж яму адразу сказала,— узрадаваўся Косцік сваёю дапамогаю,— «баюся, сказала, каб у пакоі была зброя». Канешне, ён ведае... Толькі не ведае, які я ■ твару...

Фіма і Дзядзька ўсміхнуліся. Яны бачылі Косцікаву ахвоту, якая гарэла шчырасцю.

Тады Дзядзька сказаў, каб Марыся наказала Косціку, як толькі да яе прыйдзе камандзір.

— Ты прывядзеш яго да Фімы...— сказаў Дзядзька і адразу вырашыў іначай: — А знаеш, брат, ты яго не вядзі. Ты нічога нібыта не ведаеш, і тваё дзела — старана. Скажы яму Фімаў адрас і скажы — з ім хоча пабачыцца яго знаёмы. Няхай ідзе адзін. Не так будзе кідацца ў вочы. Праўда? — звярнуўся Дзядзька да Фімы.

Косцік ішоў ад Фімы з высока ўзнятым радасным настроем. Яму дадзена такое заданне. І хто даў гэта заданне — сам Дзядзька! Ён пазнаёміўся з гэтым адважным чалавекам, які ведае, дзе што робіцца.

«Пачакай! — раптам спыніў Косцік сам сябе на рагу Рысорнай вуліцы.— Які гэта натоўп?»

Стаяў на адным месцы і бачыў:

Пераходзілі скрыжаванні вуліц чалавек трыццаць. І ўсё сяляне. Некаторыя босыя, некаторыя ў лапцях. З торбамі на плячах, з лясёнкамі [1]. А паабапал іх — густым ланцугом жандары. Яны, здаецца, ганарыліся перад горадам магутнасцю кроку і стройнасцю стана. У руках кожнага жандара — рэвальвер. Кожны трымае локаць каля боку і рука з рэвальверам тарчыць наперад. Нібы і не рэвальверы ў іх руках, а электрычныя ліхтарыкі. Вось яны вядуць гэтых людзей і асвятляюць ім дулам дарогу да «Белага Дома»...

— За што іх арыштавалі? — запытаў Косцік сам у сябе.— Гэтулькі многа...

Ніхто не мог яму адказаць.

---

[1] Пажыткі, увязаныя ў пасцілку.

Дом на Безулаўскай вуліцы, дзе жыве Сцёпка, лічыцца двухпавярховым. Ніжні паверх — сутарэнне, а над ім другі паверх. У сутарэнні Сцёпа з сваімі бацькамі, на другім паверсе начальнік паліцыі, паручнік Рытвінскі. Уваход да Сцёпкі з двара, налева. Ісці — трэба спускацца па ступеньках уніз. Каму спатрэбіцца дворнік, Сцёпаў бацька, хай прыгнецца крышку над акном ды пастукае ў шыбу. Сцёпаў бацька чутка спіць,— адразу і адчыніць.

Да Рытвінскага можна ісці з вуліцы — з параднага, з двара — чорным ходам. З вуліцы — па цэментавых усходах, з двара — па драўляных. Да Рытвінскага трэба пропуск. У парадных дзвярах дзень і ноч стаіць паліцыянт. Вельмі строга!

А насупраць, цераз вуліцу,— цырульня Борынага бацькі. Рытвінскі хацеў зачыніць цырульню. Кідаецца ў яго вокны. «Я ж буду брыць пана кожную раніцу,— прасіўся Борын бацька.— Дазвольце...» Рытвінскі нешта памеркаваў, падумаў і сказаў: «Дазваляю». З таго дня дзверы цырульні адчынены. Ужо здалёк на левай фортцы дзвярэй можна прачытаць: «Цырульня С. Х. Бранта». Словы напісаны вялікімі літарамі, на ўсю фортку, зверху ўніз. А на правай фортцы — партрэт незнаёмага чалавека з востраю бародкаю. Мабыць, сам Брант ахінуў барадатага чалавека прастынёю і стрыжэ пад чуб. Унізе пад малюнкам напісана: «Стрыжка дам и завьивка волосьёв по последней моде».

Сцёпку вельмі блізка да Боры. Не было белапалякаў — ці трэба, ці не трэба, зазірне ў цырульню. Мала пра што хочацца пагаварыць! Цяпер вельмі неспакойна! Вунь паліцыянт і можа падумаць што хочаш.

Сцёпа стаіць зараз на двары, і яму карціць пагаварыць з Борам. Можа, ён даведаўся пра Каржакевіча, можа, другія якія навіны...

А з пакояў Рытвінскага праз адчыненае акно на двор панна Мальвіна неяк раптам:

«О, жыцце мое!
О, бялы ружы...»

Яна з'явілася пасля Рытвінскага праз тыдзень. Сцёпка мяркуе: «яна начальнікава жонка». Толькі не можа зразумець, чаму цэлымі начамі, абы адлучыўся

Рытвінскі з дому,— вечарынкі. І спевы і скокі — колькі шуму над іх кватэраю!

«Ёй, напэўна, з ім сумна,— падумаў Сцёпка,— яна і спявае. Ведама, яму гадоў сорак, і такі сухарлявы... А ёй гадоў дваццаць пяць».

Заспявае яна, і Сцёпка ўжо ведае: яго няма дома. Дома ён — ніколі не пачуеш весялосці.

Прыехала яна, і праз некалькі дзён аднекуль прывезлі раяль. Чалавек дзесяць з «Белага Дома» ўносілі раяль у пакоі. Каля іх паліцыянты, а яны абляпілі раяль, як мухі, ды:

— Раз-два — узялі! Раз-два — уперад!

Ведама, вузкія ўсходы.

Сцёпка адышоў ад штыкетаў. Стаіць насупраць акна і хоча ўслухацца ў словы песні. Першы раз чуе гэтакі спеў.

А вартавы паліцыянт з-за брамы (Сцёпка і забыўся на яго):

— Чэго, галган, патшыш? [1]

Хацеў ісці ад акна, ды панна Мальвіна як на тое (можа, яна пачула голас паліцыянта):

— Хлопец! — паказала галаву пра акно.— Проша зайсці да мяне!

І сам не ведаў... Чаго ёй? Што хоча загадаць?

Не пайшоў бы, каб не гэты злосны паліцыянт. Хай ведае, як праганяць ад ганка сваёй кватэры! Хіба з'еў бы дом, гледзячы на акно?

Наперакор паліцыянту падняўся па драўляных прыступках з чорнага хода... Ішоў і вельмі баяўся, каб не застаць дома паручніка. Сустракаўся з ім — сэрца ёкала. Позірк гэтага чалавека пранізваў Сцёпкава нутро наскрозь. Нібы ён і ведае, што Сцёпка камсамолец. І ўсе Сцёпкавы думкі ведае. Напэўна, да нейкага часу не кліча да сябе ў кабінет. Можа, выбірае зручны час. Потым загадае паліцыянтам прывесці да сябе ды запытае: «Хто яшчэ, прызнавайся, камсамольцы? Што вы мяркуеце нам рабіць?»

«Я павінен трымаць сябе вельмі смела! — вырашае Сцёпка.— Ён ніколі не будзе ведаць маіх думак. Не дажджэ!»

Увайшоў у першы пакой і не ведаў, куды яшчэ ісці. Нікога не было. Стаяў у нерашучасці. Тут раней жыў бухгалтар Цыплін. От стаяў стол, а за перагародкаю —

[1] Чаго, разявака, глядзіш?

ложачак малой Інкі. Гэты пакой цяпер лічыцца пярэдняю. Сцёпка здаўмеўся і пастукаў у дзверы.

— Проша...— спаткала Сцёпку сама Мальвіна. (служанкі Арыны нідзе не было відаць).— Павесь шапку...— сказала і пайшла паперадзе. На сярэдзіне пакоя спынілася, сказала «зачэкай» і выйшла ў бакавыя дзверы.

«Нейкая ўтрапёная...— падумаў Сцёпка.— Куды яна пайшла?»

Адзін адным стаяў сярод пакоя і адчуваў нязручнасць. Незнарок кінуў позірк перад сабою — на чым ён стаіць — і адразу:

— Гэта ж царкоўны дыван!

Такі самы дыван ляжаў перад «царскімі дзвярамі». Добра памятае. Як вучыўся, настаўнік Карповіч кожную нядзелю вадзіў у царкву. Усе пеўчыя вучні станавіліся на кліросе каля «царскіх дзвярэй». Пры такіх спевах, як «Отчэ наш» і «Достойно есць», пеўчыя маглі спяваць стоячы. Пры такім спеве, як «Іжэ херувімы», і пеўчыя станавіліся на калені. Тады Сцёпка ўсё стараўся, каб хоць крышачку трапіла пад калені гэтага дывана. Вельмі мулялася ў калені, пакуль спявалася гэта малітва. Яна і нядоўгая, ды адно слова дзесяць разоў спяваецца. Расцягваецца на цэлую вярсту.

«Няўжо бацюшка аддаў такі-та дыван? — падумаў Сцёпка.— Дзіва!..»

Акінуў пакой — можа, яшчэ што ад бацюшкі Патапскага? Усё незнаёмае. Каля сцяны — доўгая плюшавая канапа. На канапе — Нэрусь (Сцёпка бачыў Нэруся ў першы дзень, калі прыехала Мальвіна. Арына адразу пачала вадзіць яго на двор, каб пагуляў). Нэрусь ляжыць клубочкам. Адно вока заплюшчана, другое — акрайцам маладзіка пазірае на Сцёпку.

— Пцц... на, Нэрусь! — нясмела пазваў. Сабачка адплюшчыў і другое вока, а галавы не падняў.

Каля сцяны, злева,— адчынены раяль. Пасярэдзіне — круглы стол. На белым фабрычным дасеневым абрусе — шкляная ваза з яблыкамі. Наўкол стала — мяккія крэслы. У кутку, каля раяля — невялічкі столік з люстэркам.

«Мабыць, яе пакой. Мужчынскіх рэчаў тут і не відаць. От каб дзе-небудзь ляжаў рэвальвер... забраў бы!»

Вельмі хацелася мець рэвальвер. Тады адчуў бы сябе зусім самастойным, дужым. Нікога не баяўся б.

«Ён жа, напэўна, дзе-небудзь ёсць у гэтым доме...— падумаў Сцёпка.— Адразу не знойдзеш... У Рытвінскага не адзін рэвальвер... Ды каб такі, маленькі».

Быстра бегаў вачыма па пакоі. Ізноў перавёў позірк на дыван.

Каля ножкі мяккага крэсла — гузік. Нагнуўся і падняў. З польскага фрэнча, з арлом. Пакруціў у пальцах і хацеў пакласці на стол. А Мальвіна ўваходзіць з бакавога пакоя:

— Чаго ж ты стаіш? Сядай і еш яблыкі!

Падышла да крэсла і цяжка села. Твар быў пакамечаны, зблажнелы. Нібыта не спала яна некалькі начэй.

Сцёпка стаяў на месцы. Круціў у пальцах гузік і не адважыўся перад ёю пакласці.

— Выбачайце, пані...— нясмела паварушыўся,— што вы хацелі мне загадаць?

— Загадаць? — рассмяялася, паказваючы белы часнок зубоў. Узяла з вазы яблык, адкусіла і, жуючы: — Я хацела загадаць табе, мой хлопчык, каб ты еў яблыкі. Еш! — другі ўзяла яблык і працягнула да Сцёпы сваёю кароткаю, голаю да пляча, рукою.

— Дзякую...— нясмела ўзяў.

Браў яблык і бачыў: на сярэднім і безымянным пальцах пярсцёнкі з вялікімі вочкамі. На адным — зялёнае вочка, на другім — цёмна-вішнёвае. Яны мяняліся сяміцветамі, гарэлі крышталём на сонцы.

«Нашто яна пазвала? — не разумеў Сцёпка.— Дзіўная...»

А яна паклала на абрус надкусаны яблык і таксама цяжка ўзнялася з крэсла.

— Я заўважыла... Ты, здаецца, любіш музыку... Я пазвала, каб ты паслухаў. Мяне ніхто не хоча слухаць... Я табе спяю і сыграю.

Яе твар афарбаваўся глыбокім смуткам.

«Мяне ніхто не хоча слухаць...» Што з ёю?

Няроўнаю хадою пайшла да раяля. Сцёпка правёў позіркам і зразумеў: яна ж п'яная.

— Я пайду...—ступіў крок ад стала.—Выбачайце...

Яна азірнулася. Стоячы на адным месцы, акінула Сцёпу пранізлівым бліскучым позіркам. Не ведаў, які гэта позірк, а не мог ад яго зрушыцца.

— Праслухай! — строга загадала яна.— Ідзі сюды...

Сцёпа падышоў да століка з люстэркам. Яна супа-

коілася. Села каля раяля, пусціла пальцы па клавішах і ціхім голасам:

Ой, на тым жэ ганку
Вшыстке панны ў вянку,
А я нешчэнсліва —
Калыхала сына...

Паравёў позірк і бачыў: на століку марскія ракавіны і цэлая сям'я з слановай косці гусей. Каля гусей — распяты «пан Езус». Каля «Езуса» — ліст. На канверце напісана: «Сакрэтна. Начальніку паліцыі».

«Чаму я не паглядзеў адразу! — прабегла горкая думка.— Які я разявака! Можа, у лісце вунь што...»

І нельга было забраць ліст са століка. Мальвіна раптам спыніла і песню і музыку, праказала:

— Ты баішся майго Вацлава? Не бойся! Ён выехаў лавіць камуністаў. Ты не камуніст, мое дзецка?

Паглядзела на Сцёпу томным змораным поглядам. Сцёпа не сцярпеў і адвёў свае вочы, а яна:

— Я ніколі не бачыла камуніста. Вацлаў абяцаў мне злавіць. Гэта вельмі цікава! А ты бачыў камуніста?

— Бачыў!..— адказаў, да болю ўшчыкнуўшы зубамі сваю ніжнюю губу. Яго апанавала кіпучая крыўда.

Яна стала перад ім і, узяўшыся ў бокі:

— Я часта разважала, гледзячы праз акно, які ты добры хлопец...

Змоўкла і нечакана, паклаўшы руку на Сцёпаў плячук:

— Ты яшчэ зусім невялікі... Праўда? Так гаварыць не трэба! — Адняла руку і пасварылася на яго пальчыкам:

— Не трэба... Глядзі ж ты-ы ў мяне-э...

Было агідна, і Сцёпка рашуча ступіў ад яе. Ужо каля дзвярэй ён пачуў:

— Прыходзь, як змеркнецца. Ты баішся, калі ў пакоі відна. Праўда?

Браў у пярэдняй шапку, а яна цераз парог:

— Калі не прыйдзеш — я раскажу Вацлаву... раскажу, што ты камуніст...

Не памятае, як выбег на ўсходы, як сышоў на зямлю. Каля дзвярэй сваёй кватэры адсопся, абцёр халодны пот. Цяпер толькі заўважыў ён, што ўсё трымае ў жмені гузік з арлом. З вялікай сілай, нібы кідаў фун-

товы камень, так шпурнуў гэты гузік. Было чуваць, як пакаціўся ён па брукаваным двары, туды, аж да памыйнай ямы.

* * *

Усю ноч Сцёпа не мог заснуць. Чуў, калі бацька ўставаў піць ваду. Недзе пад падлогаю шасталі мышы... Усё не сыходзіла з думак п'яная Мальвіна.

«Няўжо і напраўду раскажа свайму гэтаму Вацлаву? Навошта ён хадзіў?»

Не верыў ёй. Можа нагаварыць ад злосці. Сказала, каб прыйшоў, калі змеркнецца, а не пайшоў... А той Вацлаў — нагаворыць яна — хіба ён будзе разбірацца? Загадае зрабіць вобыск, арыштуе і будзе здзекавацца.

Вельмі трывожылі Сцёпку такія думкі. Раз-пораз пераварочваўся з боку на бок. Лавіў шорах яе пакояў. «А можа, яна ўжо сказала, і яны ідуць?..» Супакойвала толькі адна думка: яна гаварыла п'яным языком. Яна ўжо забылася — ці ён быў у яе, ці не.

У галаву не прыйшло падумаць, з кім яна піла. Меркаваў, што сама выпіла чарку віна ў бакавым пакоі, каб смялей з ім гаварыць. «Чаго яна нагаварыла!»

Сцёпа нічога не ведаў. У тым бакавым пакоі — Мальвініна спальня, у спальні — маленькі столік. Калі б зазірнуў, як выходзіў з другога бакавога пакоя, мог бы ўбачыць: на століку недапітыя чаркі, а каля століка ў глыбокім цыратовым крэсле сядзеў і спаў сяржант Ліпніцкі. Мальвіну разабрала злосць, што ён соня. Яна пазвала Сцёпку — хацела за вочы пасмяяцца з сяржанта. А гузік ляжаў ад учарашняга. Яго згубіў падпаручнік Закрэўскі.

Ноч — зблытаны маток электрычнага проваду. Нехта разрэзаў маток напалам, і сотня канцоў сыпала электрычныя іскры,— праціналі нутро Сцёпкі. Кідаўся, як у гарачцы, ахоплены электрычным пыскам. У галаву лезлі акраўкі думак... раяль з паабіваным лакам (уносілі арыштаваныя — паабдзіралі)... Мальвіна сварыцца пальцам: «Не трэба... Глядзі ж ты-ы ў мяне-э...» А найбольш не сходзіў з памяці Каржакевіч. Дадзена Сцёпу заданне, і ён не паспее дазнацца — яго могуць арыштаваць.

«Дарэмна буду ў «Белым Доме».

Ці праўда, ці не — Бора казаў, бачыў, калі да Каржакевіча заходзіў польскі салдат. І хутка выйшаў ад

яго. Сцёпку рупіла: «Чаму не ён убачыў, а Борка?» Тады, нікому нічога не кажучы, вырашыў: «Зайду ў розведы, нібыта пазычыць чаго».

І зайшоў. Каржакевічы якраз вячэралі. Жонка наварыла бульбы ў мундзірах, і яны абіралі яе гарачую, мачалі ў лёк і елі. Сцёпка і прыдумаў: у іх выйшла газа, ці нельга пазычыць з бутэльку. І бутэльку ўзяў з сабою. Каржакевічыха сказала, каб пачакаў, павячэраюць — не мыць жа лішні раз рукі.

Сядзеў на скрыпучым крэсле каля камоды і маўчаў. Бачыў, як перакідае Каржакевіч рукі ў руку гарачую бульбу, фукае на яе, студзіць, абірае. Карцела тады запытаць Каржакевіча: «Ну, як вы, дзядзька Міхалка, з работаю... Я от ніяк не магу ўстроіцца. Можа, вы параіце?» Абы пачаць, і Сцёпка ведаў бы, як гаварыць.

І не мог пачаць. Такія словы — відавочны намёк. Адразу здагадаецца... І, думаючы адно, сказаў зусім другое:

— Вельмі гарачая...

— Што...— узняў Каржакевіч вочы на Сцёпку,— бульба?

— Ага...— збянтэжыўся Сцёпка і дадаў: — Пад лушпаямі гарачыня, і яна як агонь.

Ведаў — сказаў ізноў нейкае глупства. А Каржакевіч:

— Гарачая, брат... пячэ, як панскія розгі.

Не чакаў такога параўнання. Пад Сцёпкам аж заскрыпела крэсла.

— А хіба яны вельмі гарачыя? — запытаў, не паказваючы ўсмешкі.

— Паспрабуй! — кладучы бульбіну ў рот, прамовіў Міхалка.— Больш не захочаш.

І расказаў, кідаючы позірк больш на жонку, чым на Сцёпку, што да Антося Гучка прыйшоў з вёскі брат.

— Прыйшоў у хату і стаіць,— расказваў Каржакевіч,— а Гучок і кажа яму: «Сядай, браце. Вось табурэтка...» — «Дзякую, адказвае брат, не магу. Сорамна казаць, а не магу...» Абапёрся аб стол, так і прастаяў. Аказваецца, белапалякі схвасталі розгамі, што не можа сесці. «Прыйшоў, кажа, да цябе, браце, каб якой мазі дастаць змазаць... Пухліна лопаецца, на раны пабіла...» І за што ты думаеш? — расказваў далей.— За вінтоўку. Нехта нагаварыў, што ў яго ёсць вінтоўка.

Белапалякі за такую гаворку, як за ветачку. «Аддавай!» Ну, а дзе возьмеш, раз няма. Тады ў яго ў хаце, перад дзецьмі, перад жонкай, загадалі скінуць порткі і легчы на тапчан... Сам Гучок гаварыў. Не будзе табе маніць.

Каржакевічыха праказала:

— Што робіцца! Гэта ж толькі розгамі білі, кажуць, калі паншчына была...

Міхалка абіраў, можа, пятую бульбіну. Клаў каля сябе, каб есці гатовую адну за другой. На жончыны словы праказаў коратка:

— Няма чаго дзівіцца. Паншчына ад слова паны. Ну, а цяпер хто ў нас?..

Жонка маўчала, а ён абціраў аб ручнік клейкія ад бульбы пальцы. Сцёпка не мог зразумець: ці Міхалка гаворыць шчыра, ці бярэ яго на вудачку. Вунь як хацелася ўстаць з крэсла і дадаць да Міхалкавых слоў, каб жонка яго сабе добра ўцяміла, што:

«Белапалякі занялі наш край. Яны хочуць пасадзіць на спіну рабочага і працоўнага селяніна свайго пана, фабрыканта і кулака (Міхалка вельмі невыразна вытлумачыў жонцы). Кастрычніцкая рэвалюцыя адабрала ад гэтых зладзеяў фабрыкі і заводы. Працоўныя палякі таксама гэта ведаюць. Але яны пакуль што не ў сілах. Сусветная буржуазія і капіталісты дапамагаюць панам-палякам. Яны ўсе вострацъ на савецкую зямлю свае зубы. Але — пазбіваюць, ліханька, пакрышаць».

Нават узняўся з крэсла і — нічога. Не зводзіў з Міхалкавага твару вачэй і бачыў: да яго чорных густых вусоў прыліпла белая крошачка бульбіны. Жаваў у роце, і крошачка падымалася разам з вусамі. То ўверх, то ўніз. Міхалка тады быў і смешным і добрым.

Назаўтра пра ўсё расказаў Фіму. Той толькі нечага ўсміхнуўся, а потым праказаў: «Добра, добра...»

Не ведаў Сцёпа, што Фіма хавае і ад яго і ад Боры Міхалку Каржакевіча. Данеслі яны Фіму: «У Міхалкі быў вобыск, і яго прынялі на работу», што мог сказаць ім? Каб не выдаць партыйнага падпольнага работніка, ён сказаў: «Наглядайце, наглядайце... Гэта нешта не так». І нават прыдумаў — перадаў Дзядзькаву думку. Нібы і Дзядзька сказаў «наглядаць». А тут была думка — ды і для Дзядзькі двайная выгада: не будуць ведаць, хто такі Міхалка, ды іх саміх можа

праверыць, ці ўмеюць хаваць сакрэт. Пакуль паспеў перадаць Сцёпа Фіму пра гаворку з Каржакевічам, Каржакевіч раней перадаў.

— Твае хлопцы працуюць нядрэнна,— казаў Каржакевіч Фіму.— Прыйшоў пазычыць газы і не ведае, з чаго пачаць. Я яму дапамог.

І яшчэ не ведалі камсамольцы, хто такі паляк, што рабіў вобыск у Каржакевіча. Каржакевіч і сам не ведаў яго ў тую дрыжачую ноч. Назаўтра пайшоў наймацца на работу, а Дзядзька падыходзіць да яго ды ўсміхаецца:

— Дзе твая запіска?

Вочы зрабіліся вялікімі. «Адкуль ён ведае пра запіску плютановага?»

Потым, як Дзядзька расказаў, рассмяяўся.

Плютановы — польскі камуніст. Дзядзька дагаварыўся загадзя даць Каржакевічу работу. Ён вельмі патрэбны сярод рабочых чалавек. У яго рабілі вобыск наўмысна, каб не было падазронасці. Нібыта палякі пасля вобыску паслалі не на работу, а на шпіянаж. Сцёпка [illegible] Борам так і разумелі. І не толькі яны — уся вуліца шаптала пра Міхалку. І кожны баяўся адзін другому гаварыць. А жандар, што быў разам з Сядучам,— Броніcь Савіцкі — таксама свой чалавек. Ужо некалькі разоў Міхалка сустракаўся з Сядучам. Міхалка гаварыў:

— А што, каб я запытаў тады права на вобыск? Дзе б ты ўзяў ордэр?

— Фармальнасць! — усміхнуўся Сядуч.— Заядлы жандар наўмысна не пакажа табе ордэра. Ордэр выпісваецца, і яны бяруць яго з неахвотаю. Лічаць за знявагу паказваць ордэр. Хто ўжо вельмі настойліва патрабуе, пакажуць. Затое — яму мала не будзе. Я мог быць перад табою на такім прынцыпе.

Усё гэта цяпер Сцёпка мог толькі сніць. Але і не сніў. Ноч была для яго трывожная, як ніколі. Устаў змучаны, з чырвонымі вачыма. Невыразная трывога вельмі непакоіла. Хацелася хутчэй выйсці на двор ды зірнуць на Мальвініна акно. «Ці ўсё ціха, ці зачынена?» Рупіла даведацца, ці вярнуўся з ад'езду за гэту ноч начальнік Рытвінскі. А як даведацца? Сцёпа вырашыў: ён будзе на дварэ, Мальвініна служанка Арына прывядзе на двор на прагулку Нэруся. У Арыны і даведаецца.

Мыўся над тазам, і аж ёкнула ўсярэдзіне: да яго, на кухню, прыйшоў Бора.

«Чаго ён так рана...» — прабегла думка. А Бора азірнуўся. На кухні нікога не было. Тады праказаў дрыжачым голасам:

— Марысю арыштавалі... У сённяшнюю ноч... Фіма хоча ўбачыць Косціка. У дзве гадзіны будзе чакаць яго на скверы. Зараз ідзі, каб застаць дома, перадай...

Сцёпка стаяў з вытрашчанымі вачыма. Забыўся, што з мокрым тварам, з мокрымі рукамі. На ямачцы яго барады сабралася — вісела, як сляза, кропля мутнай вады.

## Раздзел чацвёрты

Яны прыйшлі ўтрох. Адзін — на пагонах тры белыя лычкі, а ў тых двух — сівыя пагоны, як і іх фрэнчы. З трыма белымі лычкамі, паўнатвары і чорныя вусікі, а гэтыя двое — адзін нізкага росту, ногі яго нібы паўтыканыя; другі — высокі, шыракаплечы, з плямістым тварам воспы. Зайшлі яны, і здавалася — было ў пакоі не трое, а ў тры разы больш.

Марыся стаяла каля фікуса як лішняя. Нават не магла крануцца з месца... Так сціскалі яе з усіх бакоў іх постаці. І нават не ведае, як усё гэта пачалося. Нібы скрозь туман бачыла: высокі, з тварам у воспе, адчыніў яе шафу, шпурляў на стол яе сукенкі, бялізну... Той, што нібы з паўтыканымі нагамі, раскідаў на яе ложку пасцель... А з чорнымі вусікамі сядзеў на крэсле каля стала. У яго, здаецца, не было ніякага клопату. От зайшоў нібы да сваёй знаёмай і не зводзіў з яе сваіх прыжмураных вачэй. І крышачку, ледзь прыкметна, усміхаўся, гаварыў вачыма: «У цябе так утульна... цёпла. Ну, як ты жывеш? Даўно мы бачыліся...»

Ён рабіў вобыск яе душы, яе пачуццяў.

Хацелася заплакаць, і яна адвяла свой цьмяны позірк. Яна бачыла, як яе батыставая белая кофтачка трапіла не на стол, а на падлогу. Баялася, каб не наступіў высокі з тварам у воспе, і кранулася з месца. А з чорнымі вусікамі як сядзеў, дык адразу — але толькі ўсяго — падняў руку далоняй да Марысі. І нічога не сказаў. Марыся ізноў закамянела на сваім месцы. Было вельмі крыўдна, што ўсе яны маўчаць.

Нават гэты не мог сказаць, каб не краталася, а далоняй спыніў яе намер.

«Шукаюць нечага і маўчаць, як ваўкі...»

А можа, гэта была іх штодзённая работа? Каб добра зрабіць работу, трэба думаць аб ёй і маўчаць... Але высокі, з васпаватым тварам, усё ж наступіў ботам на белы батыст кофты.

Яны, здаецца, больш за Марысю ведалі, дзе што ляжыць у яе пакоі. І сама не ведала, дзе дзелася яе брошка. Мабыць, недзе закінула Натачка. Цяпер бачыла: той, з паўтыканымі нагамі круціў яе ў пальцах, потым зірнуў на Марысю ды паклаў у верхнюю кішэньку свайго фрэнча.

Хацелася крыкнуць як стрываў бы голас: «Бандыт!» — і не магла. Не было голасу, абарваўся, захрас у горле. Памкнулася толькі была з месца, ды ўспомніла далоню гэтага, з чорнымі вусікамі.

Высокі, з тварам у воспе, нібыта гаспадар дома. Ён запаліў ліхтар. Толькі не газоўку і не свечку, як паліць гаспадар, а электрычны. І выйшаў у сенцы. Калі выходзіў, Марыся праводзіла доўгім позіркам. Дзівілася, пыталася сама ў сябе: «куды ён, чаго пайшоў?» І зноў — каб хто слова! Маўклівасць, напоўненая гэтымі людзьмі! Марыся пачынала баяцца такой маўклівасці. Каб заглушыць балючую цішыню, нават кранулася з месца, праказала:

— Таварышы... (прывыкла гаварыць гэта слова).

Яшчэ хацела нешта сказаць і — зрабілася маленькаю. Слова «таварышы» хвасянула нібы бізуном цераз плечы гэтага, з чорнымі вусікамі. Пружынаю ўзняўся з крэсла, і яна спанатрыла, што памылілася.

— Пане...— сарамліва праказала, апускаючы галаву. І не сказала таго, што хацела сказаць. Адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў васпаваты. З выпрамкаю падышоў ён да гэтага, што з чорнымі вусікамі, і Марыся ледзь стрымалася на нагах. Наапашку ў яго быў шынель камандзіра. (Яна паклала шынель у карзіну і паставіла карзіну ў сенцах над кладовай.)

З чорнымі вусікамі зноў сеў на крэсла. Пякучаю іскраю бліснула ў вачах Марысіна смеласць. Можа, нават ад таго, што перад ёю чырвонаармейскі шынель? А недзе там цэлы фронт чырвонаармейцаў...

Зірнула поўнаю смеласцю ў яго вочы. Тыя слізка ўсміхнуліся і прымусілі, каб сцерла сваю смеласць.

— Хто жыве за сцяною? — паварушыўся на крэсле [redacted] той самай пякучай усмешкай.

— Гаспадыня з дзяўчынкай...

— Пазваць!

Марыся кранулася з месца. І ўжо ступіла два-тры крокі, [redacted] той:

— Не турбуйцеся...

Васпаваты пайшоў па Варвару Міхайлаўну. Тады звярнуўся да Марысі (цяпер заўважыла, што ў яго залатыя зубы. На іх, як гаварыў, адсвечвала электрычнае святло):

— Чый шынель? — не зводзіў з яе твару прарэзлівага позірку.

Адказала не адразу. Забылася і адшчыкнула кончык лістка з маладога фікуса. Церла лісток у пальцах, гаварыла:

— Шынель... шынель майго брата... Яны адступалі — брат заходзіў да мяне і пакінуў...

— Камуніст?

Нібы не ўцяміла пытання, маўчала, а ён зноў:

— Твой брат, пытам, бальшавік?

— Чырвонаармеец...— узняла вочы, і ў іх быў ледзь прыкметны гонар.

— У якім годзе нарадзіўся?

—Яму — дваццаты год...

Змоўчаў і заклаў нагу на нагу. Момант маўчаў, а потым з выразна гуллівай усмешкай на твары і ў самім тоне:

— Як жа, проша паненка, пайшоў твой брат без шыняля з намі ваяваць?

— У яго быў другі...— адказала з паспешнасцю.— А гэты запасны...

Правяла грэбенем па сваёй стрыжцы і заткнула яго ледзь не на самым версе валасоў. Пажоўклы лісток фікуса кінула набок і паглядзела, дзе ён. Кінула лісток і гэтым гаварыла: «Я сказала ўсё».

Ён хацеў запытаць яшчэ нешта, ды толькі перашкодзіла Варвара Міхайлаўна. Зайшла ў пакой, а за ёю — васпаваты. Разгубілася, калі ўбачыла яшчэ двух. Не ведала — нібы на хаўтурах — ці казаць «добры вечар», ці не?

З чорнымі вусікамі дапамог. Адразу ўзняўся з крэсла, спаткаў яе раптоўнаю гаворкаю:

— Ваша кватарантка кажа... Яна пераапранула чырвонага камісара.

— Я нічога не кажу! — ускрыкнула Марыся.

— Мільч! — пранізаў Марысю атрутным позіркам. Гаварыў да Варвары Міхайлаўны:

— Кажа — пераапранула, а дзе ён жыве — не хоча сказаць. Можа, пані гаспадыня ведае яго кватэру?

Гаспадыня зірнула на Марысю, адазвалася спалоханым голасам:

— Не ведаю... пане. Яна жыве адна. Я нікога не бачыла. Можа, хіба ўночы, калі я спала...

Тады кіўнуў галавою да тых двух, і яны зразумелі.

— Пойдзем! — сказаў Марысі высокі з тварам у воспе.

— Я нікуды не пайду! — Маленькая, бяссільная, адступалася ад яго.— Я ніку-уды-ды... Я не хачу-у!..— гаварыла скрозь усхліпы.

Хацела абысці васпаватага, а ён сваёю постаццю ўсё загароджваў дарогу. Незнарок дакранулася рукою да яго грудзей і адчула сіверны, чужы пах фрэнча. На пальцах рукі застаўся рупліва-прыкры сверб. Аж здрыганулася. Адскочыла да самага парога. А ён нагнаў яе і з непатрэбнаю сілаю штурхнуў за дзверы. Спатыкнулася на парозе,— усім сваім целам рынулася на падлогу. Васпаваты пасвяціў ліхтаром.

За сцяною, мусіць, ад грукату, прачнулася Натка. Плач дзіцяці быў нібы з падзямелля.

* * *

Прыйшоў Сцёпка з навіною да Косціка — ён снедаў. Перадаў Боравы словы — Косцік адрокся свайго снедання. Па целе прабегла дрыготка, выступіў халодны пот. Як утрапёны пабег да Марысінай гаспадыні.

Варвара Міхайлаўна гаварыла:

— І шынель забралі з сабою. Каб ты бачыў, што там было! Яна, бедная, вельмі крэпка ўдарылася бокам аб кант дзвярэй. Яна ж не магла ісці. Ёй заняло дух, і яны — адзін з аднаго, а другі з другога боку — пацягнулі пад пахі. І так, як стаяла. У адных сандалях. Я дагнала і дала рабое паліто і туфлі. Нізенькі ўзяў і сказаў — яна там адзене. Што-о робіцца!

Косцік маўчаў. Пазіраў у нейкі адзін пункт, і невядома, ці бачыў што.

«Што будзе? — не мог прылажыць розуму.—

Яны ж яе замучаць! Яна не вытрымае — усё чысценька выдасць».

Варвара Міхайлаўна расказвала, як і аб чым пыталі ў яе,— Косцік нібы не чуў. Заходзілася ад болю сэрца. Арыштавалі гэту маленькую асірацелую дзяўчынку. Хіба яна вінавата? Дзяўчынка, якую ён так любіць! Яна ж не паспела зразумець камсамольскай арганізацыі. Пачнуць здзекавацца з яе — усё, што ведае, выкажа!

«Нашто я расказаў пра падполле! Нават расказаў, што Фіма наш арганізатар! Чаго я нарабіў! Фіму цяпер таксама арыштуюць! Фіма не ведае. Гэта ж быў вялікі сакрэт!...»

Ад злосці, крыўды на самога сябе хацелася плакаць. Варвара Міхайлаўна гаварыла:

— Навошта патрэбен быў той камісар? Гэткі час! Свет дрыжыць. Чалавек чалавека баіцца, а яна, як малая. Мая Натка, як сказала мне, што дзядзя чырвонаармеец адзеў дзядзі Петрыка сінюю сарочку,— я ажно рукамі ўспляснула! На што, кажу, ён ёй? Прыйшоў да яе, а яна хай бы і сказала: «Ідзі, братка, я баюся». І тут ніякай крыўды і нічога. Ведама, эт! — маладосць тая ў галаве. Не бачыла людзей, не ведае, што такое белапалякі. Каб гэтак на мяне — я заплюшчыла б вочы, каб не бачыць, не ведаць, які ён з твару.

Косцік схамянуўся. Такія словы нібы яго разбудзілі. Вывеў сябе з прыкрых думак ды ўзнятым голасам:

— Вы гаворыце, Варвара Міхайлаўна, выбачайце, немаведама што. Гэта ж не трэба мець сэрца! Так могуць гаварыць, калі хочаце, контры савецкай уласці!

Забыўся на ўсю перасцярогу. У яго ніякага знаёмства з Варварай Міхайлаўнай. Перакладалі з бацькам печ — тое знаёмства ўсяго і засталося. А яму хацелася цяпер давесці перад гэтай жанчынай яе неправату. Не разумеў, што сам сябе выдае перад ёю, гаварыў:

— «Белы Дом» не змяшчае арыштаваных. Белапалякі рабуюць горад і вёску. Бяруць што ні прыйдзецца — вязуць у Польшчу. Ідзіце на станцыю — убачыце. І куры, і гусі, і свінні, і збожжа. Поўнымі вагонамі! Паны чуюць сваю пагібель. Век векаваць не будуць! Чырвоная Армія патурыць іх так, што ажно пыл закурыць! А Марыся — рэвалюцыянерка!

Апамятаўся і ў тоне і ў словах збавіў свой пафас:

— Калі праўда, што яна дапамагала ўцячы чырвонаму камісару,— канешне, рэвалюцыянерка. Яна ратавала чалавека і не баялася гэтых злыдняў.

— Што праўда, то праўда...— сказала Варвара Міхайлаўна.— Яна дапамагла яму ўцячы. Каб не яна — яго злавілі б, што гаварыць...

Запытала нечакана:

— Няўжо ж Марыся вам нічога не казала?

Адвёў позірк ад яе вачэй. Аднекуль з'явілася жахлівая страшная думка.

«А можа, яна выдала палякам Марысю?»

— Нічога не казала,— адказаў Косцік і надзеў шапку, каб ісці,— не ўсё можна казаць. Я, праўда, быў у яе... Я не крыўдую, што не сказала. Яшчэ больш за гэта паважаю. Гэтага няможна казаць роднаму бацьку. Мала што можа быць...

Зноў была не выказана палахлівая думка: «Чаго я ішоў да гэтай жанчыны? Усё адно Марыся арыштавана. Праз каго-небудзь мог дачуцца, як арыштавалі... Цяпер яна будзе ведаць, чым я дыхаю. Тут, можа, ходзяць шпікі?»

Выйшаў ад Варвары Міхайлаўны як сам не свой. Яна правяла на ганак, спынілася, сказала:

— Вы, божа барані, не падумайце чаго на мяне! Я вельмі любіла і люблю Марыську. Яна і ні мне і нікому вока не запарушыла. Мы жылі з ёю як большая сястра з меншаю. Яна і Натку маю любіла. А колькі ёй Натка надакучала!..

— Што вы! — адказаў Косцік.— Я нічога на вас не думаю...

Прыйшоў дадому і не мог угамавацца. Узлез на гару, яшчэ раз праверыў, ці добра схавана яго камсамольская літаратура.

На гары насыпана пяску. Каля коміна пад пяском на самай столі — яго схованка. Хавае тут таксама і свой дзённік. У дзённіку — усе найлепшыя думкі пра савецкую ўладу і найгоршыя — пра белапалякаў.

«Каб знайшлі — больш нічога і не трэба! — усміхнуўся прымушана скрыўленай усмешкай.— Было б... Тут не знойдуць,— пацешыў сябе.— Век-вечны не здагадаюцца!»

Злез з гары — матка запытала:

— Чаго ты, Косцік, лазіш, тупаеш... чаго ты шукаеш? Нейкі неўгамонны...

— Так сабе...— адказаў.

Ні бацька, ні матка не ведалі свайго сына. Спакойны ён у іх — гэта ведалі. Калі б дазнаўся бацька, што Косцік у камсамоле,— быў бы ў хаце бунт. Бацька больш верыць у бога, чым матка.

Бацька сказаў бы:

— Нехрысць! вырадак! Што ты сабе думаеш?

А матка сказала б:

— Хто яго разбярэ цяперашнім светам. Не крычы ты ўжо на хлапца. Мы старыя... Пражываем свой век. Яны — маладыя — як хочуць, хай робяць.

Косцік добра разумеў сваіх, як называў ён, «старых». Запісваўся ў камсамол, прасіў хлопцаў, каб не данеслі ў хату. А хлопцы таксама шмат хто хаваў ад бацькоў камсамольскае званне. Гэтак па ўсёй акраіне гарадка.

І яшчэ знаў сваіх «старых». Яны клянуць белапалякаў. Гэтымі днямі прыйшоў бацька з горада, гаварыў да маткі:

— От жа здзекуюцца з людзей! Іду я, па Шырокай едзе селянін. Відаць, на рынку быў ці, можа, так чаго прыязджаў... Едзе ўжо дадому. Я і не згледзеў, адкуль узяўся з жоўтымі нашыўкамі на штрыфлях ды гукае: «Стой! Пачакай!» Той спыніўся, а ён падыходзіць і заварочвае каня. «Куды, пане?» — пытае селянін. «Тут недалёка...— кажа,— падвязеш з кватэры на кватэру куфэрак».— «Мне ж далёка дадому...» — пачынае прасіцца. «Нічога,— кажа,— заедзеш». Узяў з рук лейцы і кіруе канём. Я глядзеў, глядзеў... Здаецца, каб падышоў, каб дзьмухнуў...

— Гэта быў бы з твайго боку тэрарыстычны акт,— слухаючы бацьку, уставіў Косцік.

— Ты многа ведаеш! — зірнуў бацька на сына.— Я ўжо даўно заўважаю на табе гэтыя «акты». Глядзі, хлапец, каб у маёй хаце ніякай палітыкі не было!

А што, калі б да Іллі Цімафеевіча Бранявіцкага дайшло: яго сын не толькі камсамолец, а яшчэ і член падпольнай арганізацыі? Над гэтым пытаннем Косцік ніколі не думаў.

* * *

Парэцкая вуліца паабапал у ліпавых прысадах. Асенняе сонца кранулася з поўдня і асыпала ліпавы ліст залатым друзам. Лісце паспела ўжо. Ціхі дзень,

цёплы, а яны ападаюць па адным, як сочна-спелыя антоны. Толькі ападаюць павольна, каб не пабіцца, не пакамячыць свайго сочнага наліву.

Косцік не заўважае асенне-бесклапотнага хараства. Лісце трапляе пад яго ногі — топча яго. З яго думак не сыходзіць Марыся.

Ніколі як цяпер — самая найбольшая да Марысі любасць! Яна такая добрая «малая»... Яна вельмі даверлівая. Кажа чалавек, і гэта праўда.

У яе заўсёды добрыя, наіўныя вочы. І яго, Косціка, вунь як любіць! Зойдзе да яе, а яна не ведае, з чаго пачынаць гаворку.

«Дзе ты... недзе, вось апырскаў у гліну сваю целагрэйку... Пачакай!» Яна саскрабае пазногцямі кроплі гліны, што застылі на ватоўцы. Яна ж ведае, дзе ён апырскаў. Рабіў з бацькам у Макоўскага новую грубку.

«Гаспадыня кажа — яна любіць Марыську. Каб яна тое з'ела! Нябось яе не зачапілі. Віхляла перада мною... Які неасцярожны я! Колькі разоў Фіма наказваў нам! Знайшоў я каму гаварыць пра Чырвоную Армію!»

Косцік ішоў у гарадскі сквер. Зараз без дзесяці хвілін дзве гадзіны. Можа, Фіма ўжо чакае яго. Аб чым Фіма будзе з ім гаварыць?

Косцік нёс у сваім нутры вялікую буру. Не ведае, як ён спаткаецца з Фімам? Як ён гляне яму ў вочы? Ён расказаў Марысі падпольныя сакрэты. Марыся арыштавана, і, можа, гэтыя сакрэты ўжо ведае дэфензіва? Фіма нічога не ведае!

— Каб ніхто не знаў! — наказваў Фіма.— Ніхто, ані!

І наўмысна папярэдзіў Косціка:

— Не гавары сваёй дзяўчыне. Глядзі! Яна можа быць добрай камсамолкай, а цяпер дзіця. Зноў данясе, ты не крыўдуй,— «ад радасці» сваёй гаспадыні. Нельга, каб яна была ў падполлі.

Косціку хацелася, каб на такой вялікай рабоце была разам з ім. Не мог пярэчыць Фіму, а толькі — крыўдна...

Фімавай думкі Марысі не сказаў: магла зазлаваць. А ўсё — расказаў.

«Як такой добрай не скажаш? Яна даражэйшая за родную сястру. Мала што здарылася: канешне, ад ра-

дасці пахвалілася гаспадыні. Фіма нечага чапляецца...»

А цяпер — зразумеў Фімаву правату.

Мінуў Парэцкую і выйшаў на пляц. Кожную нядзелю на гэтым пляцы кірмаш. З усіх аколічных вёсак і нават за сорак вёрст едуць прадаваць-купляць. Хто што. Сёння нядзеля, а на пляцы дзесяць — пятнаццаць фурманак.

«Баяцца ехаць...» — заглушаў свае бурлівыя думкі. Неяк праз месяц, як прыйшлі белапалякі, сабраўся кірмаш. З'ехаліся вельмі нясмела. Нібы чулі бяду. А бяда — ні таго ні сяго. Белапалякам якраз падаспела падвозіць са складаў да станцыі збожжа. Яны доўга і не думалі. Хто прыехаў і не паспеў уцячы — забралі на падвозку. Колькі тады было праклёнаў! Чалавек, можа, прыехаў у лепшай святочнай вопратцы, а тут — ná табе! — кладзі мяшкі на падводу, вязі, скідай.

— Завязіце па адным разу,— гаварыў паляк з адной зорачкай на пагонах,— і можаце сабе ехаць да мяшкання. Гуртам — прэндка.

Гэты выпадак пайшоў па вёсках вельмі далёка.

«Яны вельмі разумныя! — гаварыў Забічанскі Гаўрук.— Я і то на такую штуку не здаўмеўся б...»

А Кузёмка Данільчык, што жыве ў Ветраках, казаў: «можна браць фурманкі з кірмаша, добра кажаш, толькі на пажар!»

Дараўскі Яўхім Камлюк, які быў у той дзень на кірмашы і не паспеў уцячы, проста сказаў:

«Яшчэ мала ім маёй стойкі!»

І ламавікі і рамізнікі з горада і ўсе аколічныя вёскі кожны дзень давалі каменданту Векерту для жандарскай патрэбы фурманкі. Апрача гмінных войтаў. Тыя самі сабе бралі. Ужо загадзя начальства вызначае нарад. Назаўтра — дваццаць... Паслязаўтра — трыццаць, а можа, і сорак. Каб не парушаны быў нарад — ці выехалі,— на вёсцы правярае солтыс, у горадзе — паліцыянт. Пакуль не прыедзе змена — цэлыя суткі трэба стаяць з канём: на вёсцы — каля гміны, у горадзе — каля паліцыі. Трэба ехаць куды-небудзь паліцыянту, жандару — бяруць гатовую фурманку. Выгада!

І не дзіва Косціку, што не было кірмашу. Кожны баяўся. Колькі таго торгу, калі прывязе хто яблыкі ці дзічкі-гнілкі, а клопату можна натаргаваць повен воз.

А прыедзе хто пасля такога выпадку — ненадоўга. Паставіць каня і не выпрагае. Глядзіць па баках з-пад брыля, ці не ідзе «канарык» — можа, зноў падвозка. Спяшаецца хутчэй ехаць дадому.

Косцік прыйшоў у сад і так сабе прагульваўся па бакавой алеі. Нагінаўся часамі, падымаў жоўта-залацісты лісток, разглядаў тонкія яго жылы.

Лісты, таксама як і на Парэцкай вуліцы, ападалі. Яны сыпаліся, усцілалі алеі шамрыстым дыванам. Лісты чыстыя. Апрача ветру, дажджу — ніхто не кра нуў пальцам. Хацелася некалькі падабраць. Дзеці збіралі, гулялі, зноў гублялі...

Гарадскі сквер — хоць і нядзеля і цёплы дзень — нешматлюдны. У садзе толькі многа дзяцей. З імі найбольш маладыя нянькі — вясковыя дзяўчаты. Дзе-ні-дзе на лавачках дзве-тры асобы. Сустракаюцца радавыя палякі. Часамі разводзяць з дзяўчатамі гаворку. Некаторыя палохаюцца — клічуць да сябе дзяцей; некаторыя сядзяць побач — гавораць, нібыта даўно ведаюць адно другога.

А вунь — уся лаўка занята. Смех і гоман. Хлопец з рыжым чубам трымкае на мандаліне. Каля яго — дзве дзяўчыны. Перад імі — яшчэ два хлапцы. Вышэйшы ростам абапёрся на плячук ніжэйшага. Яны нечага смяюцца...

«Можа, камсамольская група,— думае Косцік.— Можа, яны праводзяць тут свой сход? Не такую робяць работу, якой нарабіў я... Нікому, можа, не гавораць сакрэтаў... што я скажу Фіму?»

Хацелася апраўдаць сябе, і ў думках зусім другое:

«Наўрад! Камсамольцы не пойдуць на сквер праводзіць сход. Дудкі! Гэта — бесклапотныя людзі. Марнуюць сваю маладосць. Ёсць жа мяшчанская маладосць... з мандалінаю!»

Косцік ішоў вольна. От цешыцца гэтым цёплым днём і гэтым восенню ўпрыгожаным садам. Яго апярэдзіў стары, чыста паголены вусаты чалавек. Праз некалькі крокаў апярэдзіў малады чалавек у жоўтых гетрах. Насустрач ішлі дзве дзяўчынкі — падлеткі. Аб нечым вельмі спрачаліся. За імі ішла пажылая жанчына. Несла ў руках дзіцячы абруч, а за ёю — можа, чатырохгадовы хлопчык. Ён нагнуўся і падымаў з зямлі апаўшы каштан. Грэбаўся пальчыкамі, каштан, як жывы, хаваўся ў лісці.

Жанчына азірнулася, сказала:

— Што ты, Валя, згубіў? Ідзі сюды! Пойдзем дадому.

«Усё ж для сустрэчы нязручнае месца,— хацелася ўпікнуць Фіму.— Мала ў скверы людзей. Можна ж было выбраць месца. Чаму Фіму прыйшло ў галаву, каб толькі тут?»

Звярнуў на кляновую алею. Прайшоў некалькі крокаў і сеў на лаўку. Адгэтуль відаць увесь сад. Будзе ісці Фіма з галоўнага ўвахода — таксама відаць.

Фіма павінен бы дагэтуль прыйсці. Падыходзіў да сквера, у вітрыне стронгінаўскай майстэрні — дзве гадзіны. Не спазніўся ні на адну хвіліну. Фіма пазніўся.

Зрабілася лягчэй на сэрцы. Хацелася, каб Фіма яшчэ не прыйшоў. От, каб яшчэ пабыць аднаму, падумаць...

«Марыську прадала палякам яе гаспадыня. Канешне. Хто ж мог данесці? Яе арыштавалі б у той дзень... А яшчэ кажа: «Не падумайце, божа барані, на мяне». Хітрая! Бачыць, што я ўсё разумею. Я, можа, наўмысна нагаварыў перад ёю на палякаў. Хай даносіць... Што яна тады скажа, калі прыйдзе Чырвоная Армія? Я гаварыў перад ёю праўду...»

Фіма яшчэ не прыходзіў. Цені ліп, клёнаў пачыналі быстра расці. Аднекуль узялося больш людзей. Недзе зноў смяюцца. Чуваць плач дзіцяці. Вунь прайшлі пажылыя мужчына з жанчынай. Мужчына ў капелюшы. Можа, які прафесар? Па вуліцы, каля саду, прайшлі строем чалавек дваццаць жандараў. Вельмі чыста апрануты. Яны ў адных мундзірах. Пад жоўты бляск сонца серабрыстыя «сыхі» на каўнярах мундзіраў адсвечваюць пераліваам. Ідуць як адзін. Без музыкі і не блытаюць рытму — «гах! гах! гах!».

«Я не скажу Фіму, што Марыся ведае пра нашу работу,— рашуча думае Косцік.— Нізашто! Тады і мяне, як Марысю, за мой язык не дапусцяць да падпольнай работы. Я ніколі нікому не буду гаварыць больш... Хай мне Фіма даруе за гэты раз... Можа, Марыська выцерпіць дэфензіву... Калі што — яна вельмі цярплівая. Добра — і яна добра, дрэнна — яна вельмі цярплівая. Дзе ж усё-такі дагэтуль Фіма?»

Кінуў назад, цераз плячо, коса скрадзены позірк. «Можа, будзе ісці з-пад гарадской вадакачкі?» Нікога не было. Толькі зусім бесклапотна, наводшыбе, ся-

дзеў малады чалавек у жоўтых гетрах. Той самы, што абмінуў Косціка на бакавой алеі. Выпускаў густы папяросны дым і не глядзеў у Косцікаў бок. У адным гарнітуры... (Дарма сабе, што цёплы дзень — Косцік у сваёй целагрэйцы.)

«Калі ён сеў? — падумаў Косцік.— Можа, гэта шпіён?»

Ніколі не бачыў шпіёна і не ведае, якія яны. Фіма гаварыў Косціку, што трэба асцерагацца «павукоў». Казаў, ён будзе ісці за табою, і ты яго не заўважыш. Ідзе чалавек, мала куды ідзе. А трэба ведаць: такі чалавек заўсёды ідзе з табою «ў адну дарогу». Ты па адным баку тратуара — ён, можа, па другім. Ты звярнуў, скажам, на Базарную вуліцу, і яму «па дарозе». Або «яму няма куды спяшацца», або «вельмі спяшаецца». Бывае, і абгоніць цябе, і зверне на другую вуліцу,— ты пройдзеш, забудзешся на яго — потым глядзіш: «той самы чалавек» на тым баку тратуара. Як з-пад зямлі вырас!

— Яны вельмі «далікатныя»,— казаў Фіма.— Не пакіне цябе, калі ты яму «даспадобы».

Косціка апанаваў цяпер невыказны страх. Яшчэ раз зірнуў на яго — не глядзіць у яго бок. Скурыў папяросу і есць яблык. Адразае ножыкам і як не сваім ротам нехаця чамкае: «яму няма куды спяшацца».

«Фіма ўжо не прыйдзе,— адразу падумаў Косцік.— Ужо будзе тры, калі не больш, гадзіны...»

Падманваў сваё адчуванне. Паказаў смеласць перад гэтым чалавекам. Не з-за гэтай асобы ўжо ён пойдзе, а што Фіма дагэтуль бы прыйшоў...

«Фіма, канешне, не прыйдзе... Трэба ісці...»

Узняўся з лаўкі і не спяшаўся. Прайшоў да канца алеі. І не азіраўся. Вельмі хацелася ведаць, ці ідзе гэты чалавек за ім?

«Азірнуся, і калі ён ідзе — здагадаецца: падазроны».

Тады лавіў слухам яго крокі — «хто ж іх разбярэ?».

«Я проста напалоханы! — падумаў Косцік.— Мала які чалавек? Убілася нейкае ліха ў галаву... Чаму ж усё-такі не прыйшоў Фіма?»

Выйшаў з сквера і перайшоў на другі бок Падгорнай. Мінуў двухпавярховы мураваны будынак. На вуліцы — мала людзей. Яны ўсе некуды за нечым спяшаюцца. Адны ідуць насустрач, другія — абмінаюць

Косціка. У кожнага чалавека свой клопат. У Косціка таксама клопат... Гэта жанчына, што ідзе, не ведае яго клопату. Яна — у мужчынскіх чаравіках (напэўна, яе мужа), касынкаю завязаная на галаве паркалёвая хустка... у мультановай сукенцы. Клопат у Косціка, можа, аб ёй, а яна нічога не ведае. Жанчына размінулася з Косцікам, і ён міжвольна азірнуўся. Можа, каб засталася гэта жанчына ў памяці.

І не ведае, як абарваў свой позірк. На твары ў яго выступіў халодны пот... За некалькі крокаў — чалавек у жоўтых гетрах. Стаіць і «чытае» на штыкетах афішу кінатэатра. «Як нічога не было».

«Вось які ён...» — падумаў Косцік, нібы першы раз убачыўшы ваўка. І звярнуў з Падгорнай вуліцы на Базарную.

## Раздзел пяты

Дзверы ў Дзядзькаў пакой — з калідора. Калі дома ён — не замыкаюцца. Пастукаў і адразу адчыняй. От ён нікога не баіцца, і ніякіх сакрэтаў у яго хаце няма. Нашто замыкаць? З'явяцца «канарчыкі» — ці замкнута, ці не — зойдуць у пакой. Замок — толькі большая ахвота: «А што ж там за замком?»

Фіма застаў Дзядзьку дома. Ён толькі што вярнуўся з работы.

— Прысядзь,— стоячы за квяцістай зношанай шырмай, пераапранаўся Дзядзька,— толькі, знаеш, цяпер устаю... Я зараз...

Тое, што Дзядзька жартуе з уставаннем,— Фіма ведаў. Ён жа ходзіць на станцыю грузіць вагоны. Жандары знаюць Дзядзьку па дакументах як грузчыка — Сідара Лабанка. У першы дзень сваёй работы пяціпудовыя кулькі насіў пад пахай — туга напханымі сеннікамі. Прыганяты пагрузачнай, пан Тадэвуш, нават пахваліў Сідара Лабанка.

— Сіла ў цябе ёсць... ты дужы мужык!

На другі дзень «Лабанок» не паказаў сваёй сілы. Даволі запамяталі, што ён «дужы». Будуць прымаць на работу. Дзядзьку трэба быць на вачах. І найлепш — на чорнай рабоце.

Выйшаў з-за шырмы босы. Зашпіляў апошні гузік у каўняры мультановай сарочкі, гаварыў да Фімы:

— На станцыі, знаеш, эшалон польскай пяхоты. Раніцай прыехалі. Уночы едуць на фронт...

Дастаў з кішэні сваёй жакеткі самадзельны партабак, гаварыў з мяккаю ўсмешкаю:

— Вельмі хацелася, каб хаця на вагон адну пракламацыю! Ехалі б сабе на фронт і чыталі...

У яго загарэліся вочы. На твары ляжала глыбокая задуменнасць. От каб цяпер Фіма сказаў яму: «Ёсць пракламацыі! Пракламацыі ў эшалоне!» Напэўна, пацалаваў бы ад радасці Фіму. «Ты, знаеш, маладзец!» — сказаў бы.

Ён сеў насупроць Фімы каля стала і моўчкі круціў папяросу.

З дня на дзень Дзядзька чакае пракламацыі. Фіма не ведае, як і адкуль яны будуць. Напэўна, з падпольнага цэнтра. Дзе знаходзіцца цэнтр, таксама не ведае. Дзядзька трымае ў вялікім сакрэце. Не таму, што не давярае Фіму. Фіма гэта разумее. Мала што можа быць... Нельга самому сабе верыць. Хто ведае, ці зможаш вытрымаць здзекі дэфензівы, калі давядзецца туды трапіць? Па горадзе ходзяць чуткі, што ніхто не вытрымлівае...

Дзядзька смачна зацягнуўся дымам папяросы. Пытаў прыжмуранымі вачыма: «Чаго прыйшоў?» Фіма разумее: прыйшоў і гавары адразу.

— За Касцікам Бранявіцкім зноў хадзіў «павук»...

— Н-ну...

— Вёў з Рысорнай вуліцы да самай хаты... І ўжо не той, што ішоў за ім са сквера, а нейкі нізенькі, у скураной тужурцы...

— Та-ак...

— Я мяркую, што ўсё гэта цераз Марысю Суравец? Ён жа яшчэ нічога палякам не нашкодзіў, каб у іх быць на воку?

— А хіба Марыся ведае, што ён у падполлі?

— Не, яна не ведае. Дэфензіва магла дазнацца, што Касцік яе кавалер. Яны ж вельмі адно другога любяць... Дык я і мяркую; дэфензіва ўпэўнена, што ён таксама ведае камандзіра і, напэўна, сустракаецца з ім. Яны і паставілі шпікаў, каб высачыць — ім больш, канешне, важна — камандзіра.

— Та-ак...

Момант маўчалі. Нібыта Дзядзька шукаў адказу, а Касцік чакаў. Ці ведае Марыся аб падполлі, ці не —

Косцік Фіму ўсё ж нічога не сказаў. Вельмі баяўся, каб Фіма не выключыў за яго доўгі язык.

А Фіма нібы адчуваў. Хацеў гаварыць з Косцікам у скверы, каб цераз Марысіну гаспадыню насіць ёй падачу. І яшчэ раз запытаць, ці ведае Марыся што, ці не?

Чамусьці рупіла. Не верылася. «У іх такая вялікая дружба!»

Фіма ў нядзелю не быў у скверы. Перадаў спаткацца з Косцікам і тады вырашыў: «Небяспечна. Чаму мне прыйшоў у галаву гэты сквер? Гэта ж не лета! Летам поўны сквер людзей. Там цяпер дзесяць чалавек. І тыя, можа, паліцыянты ці жандары. Няхай: пачакае ды пойдзе. Заўтра ўбачуся. Хоць дзе».

І ўбачыліся. Назаўтра Косцік прыйшоў да Фімы сам. Пачуў Фіма, як ішлі за Косцікам «жоўтыя гетры»,— быў рад, што не пайшоў у сквер.

— Табе не трэба да мяне хадзіць,— гаварыў Косціку,— можа, і сёння наглядаюць, дзе ты, куды ідзеш? Трэба асцерагацца. Будзем, калі трэба, сустракацца на могілках.

Фіма не памыліўся. Учора зноў Косцік заўважыў за сабою шпіка. Ідзе гэтак па Крашчэнскай, а яму насустрач — чалавек у скураной тужурцы. Косцік звярнуў на Трубную,— глядзіць — гэты самы на другім баку тратуара! Звярнуў на Рысорную — і чалавек «па дарозе». Дайшоў да сваёй Крывой — таксама ідзе.

— Вельмі смелы! — казаў Косцік.— І такі замухрышка! Мне яго на адзін палец!

Дзядзька на Фімавы заўвагі даў цяпер гэткі адказ:

— Распусціць... перафарміраваць тройку!

Ён устаў з крэсла, тыцнуў жарам акурка ў намаляваны букет кветак на дне вышчарбленай попельніцы, ступіў два-тры крокі... Кінуў на попельніцу позірк — акурак не патух. Тонкаю стружкаю ўзвіўся з попельніцы муслінавы дым. Гэта раздражніла Дзядзьку. Падышоў да стала і прыцісну́ў тлеючы жар пупышкам пальца.

— Хто ў тройцы з Косцікам Бранявіцкім? — запытаў нервовым тонам.

— Сцёпка Макейчык і Бора Брант,— адказаў Фіма.

— Ты будзеш адзін мець з Бранявіцкім сувязь. Ні Макейчык, ні Брант не павінны з Бранявіцкім сустракацца. І яшчэ я павінен цябе папярэдзіць...

Нехта пастукаў у дзверы і пераняў на слове. Фіма

сціснуў у руках шапку, а Дзядзька заспакоена, грубаватым тонам:

— Дазваляю... можна зайсці!

Абодва глядзелі на дзверы. Чалавек за дзвярыма, мабыць, недачуў Дзядзькавага дазволу — марудзіў. Дзядзька праказаў зноў:

— Калі ласка...

Дзверы адчыніліся нясмела. Цераз парог пераступіла незнаёмая Фіму дзяўчына.

— Выбачайце...— вінавата стаяла ў парозе,— дзе тут, у каторым пакоі сяржант Зомбер?

На Дзядзькавых вуснах заварушылася ўсмешка. Адказаў дзяўчыне:

— З параднага хода, налева...

Дзяўчына зноў сказала «выбачайце» і хацела ісці. Тады Дзядзька адкрыта ўсміхнуўся, перапыніў:

— Клава, што ты хацела сказаць?

І Дзядзька і дзяўчына засмяяліся. Яна вярнулася ад дзвярэй да стала.

— Наш Фіма,— сказаў Дзядзька,— знаёмцеся.

Фіма толькі цяпер зразумеў гэту ўмоўнасць. Калі кажа Дзядзька — пан Зомбер жыве «з параднага хода, налева» — у яго пакоі чужы чалавек. Дзядзька пажартаваў над Клаваю.

А сяржант Зомбер і ўпраўду жыве пад адною страхою з Дзядзькам. Шмат было клопату, пакуль Дзядзька перайшоў пад адну страху. Пакойчык быў заняты. Таварыш, які тут жыў, выехаў на вёску. Наўмысна выехаў. Абы не кідалася на Дзядзьку падазронасць. Шпіёны цяпер не даходзяць сюды. «Хіба можа камуніст ужыцца з афіцэрам?»

Клава прысела на край крэсла і гэтым нібы гаварыла: «Я на хвіліну. Вельмі спяшаюся...»

Фіма не зводзіў з Клаўдзі сваіх вачэй і бачыў: на яе твары — смуга-загар. Бровы — два распасцёртых на ляту крылы ластаўкі. Дзе-нідзе, скрозь загар, ледзь прыкметныя кроплі рабаціння. З-пад круглай малінавай шапачкі незнарок звіслі над бровамі два-тры пярсцёнкі чорных як смоль валасоў. Вочы — маленькія, шэрыя. Яны перапоўнены стрыманаю дабратою.

Клава дастала з-за абшлага асенняга паліто парашком складзеную паперку. Падала Дзядзьку, праказала:

— Пісулька... Тэрміновая.

Дзядзька расхінуў лісток лінаванай паперы, выра-

ны некім сшытка для чыстапісання. Фіма сачыў за зменаю яго твару. Пачаў чытаць і штораз больш — яго твар рабіўся насупістым. На лбе з'явіліся густыя, дробныя маршчыны, бровы нашатырыліся.

— Я цяпер добра сцяміў тваю тройку! — з сярдзітай усмешкай звярнуўся Дзядзька да Фімы. Трымаў пісульку перад сабою, гаварыў: — З такой работай, знаеш, захраснеш у дэфензіве, як кажу! Трэба, знаеш, узяцца за галаву! Што яны ў цябе робяць?! Вялікае шчасце... Калі б пісулька трапіла ў дэфензіву — я не ведаю!..

— Я атрымала яе, ішла да цябе і ўся дрыжала,— дадала Клава да Дзядзькавых слоў.— Я не ведаю, што ў ёй напісана,— звярнулася да Фімы,— толькі ніяк нельга перасылаць пісульку цераз рукі. Канешне.

— То-та ж...— зірнуў Дзядзька на Клаўдзю. Перавёў позірк на Фіму, праказаў: — На, браце, прачытай! Чытай услых!

Фіма таксама разумеў: усім падпольным забаронена перадаваць цераз пісулькі хоць якія-небудзь сакрэты. Не мог паверыць, каб хто з яго тройкі адважыўся пісаць самому Дзядзьку. Маглі, калі што, яму напісаць. Гэта было б палавіна бяды. «Напэўна, напісаў Бора,— падумаў Фіма.— Ён адзін ведае, цераз каго перадаць, каб дайшло да Дзядзькі».

І памыліўся. Пісаў Дзядзьку Сцёпка. Вось што прачытаў Фіма ў пісульцы:

«Вы мяне не ведаеце, дарагі таварыш Дзядзька, і я вас таксама не ведаю ў твар. Але я ведаю, што вы, як партыйны, над намі, камсамольцамі, самы старшы. Я і пішу адразу вам. Я — Сцёпка Макейчык. Можа, Фіма Вігдорчык вам гаварыў. Я жыву на Безулаўскай вуліцы, у адным доме з начальнікам ахранкі, гэтым самым Рытвінскім.

Спярша я хацеў пісаць Фіму, а потым сам сабе падумаў: усё адно ж Фіма будзе раіцца з вамі. Пакуль Фіма пойдзе да вас,— я падумаў сам сабе,— вы ўжо будзеце знаць.

Дык вось аб чым я хачу напісаць. Перш-наперш — я вельмі ўсхваляваны. І вось ад чаго: я паведамляю вам, дзе цяпер знаходзіцца камандзір, якога вы шукаеце. Я ж ведаю, што вы дагаварыліся з Косцікам Бранявіцкім, каб ён наказаў вам, як толькі прыйдзе камандзір да Марысі Суравец па вінтоўку. Дык ён і прый-

шоў. А Марысіна гаспадыня і сказала яму, што Марыся арыштавана. Тады ён папрасіў, паколькі незнаёмы, каб Марысіна гаспадыня завяла да Косціка. Ён не ведаў Косцікавага прозвішча, але гаспадыня адразу здагадалася. Косціка яна ведае, паколькі ён ухажваў за Марысяю.

Дык вось што: гаспадыня ўзяла і прывяла яго да Бранявіцкіх. А Косціка якраз няма дома. Ён з бацькам у некага робіць печ. Гаспадыня і расказала Косцікавай матцы пад вялікім сакрэтам, хто ён. Косцікава матка тады адразу да мяне. Яна ж ведае, што мы з ім дружакі. Прыбегла, і ўся аж калоціцца. «Я, кажа, баюся. Скажы, мае дзеткі, што рабіць? Ён прыйшоў і кажа — буду чакаць вашага сына. Кажа — я вельмі змораны, ці не дазволіце адпачыць? Лёг на канапе, у тым пакоі і цяпер спіць. Чакае да вечара, пакуль прыйдзе Косцік». Яна вельмі баіцца, каб не агледзеліся палякі. «Што будзе за гэта Косціку, кажа, калі бацька дазнаецца, з якімі людзьмі хаўрусуе?» Самае страшнае для яе — каб не ведаў бацька. Тады ў хаце будзе цэлы бунт. Бацька ж яшчэ не ведае, што Косцік у камсамоле. І матка не ведае. Яны думаюць — усё гэта так сабе. Я, канешне, падвесяліў яе. Сказаў, вам няма чаго баяцца. Прыйдзе Косцік — усё зробіць як трэба. І параіў, каб не казала бацьку, хто ён. І каб нікому суседзям не казала. «Косцікаў таварыш» — хай кажа.

Дык вось, таварыш Дзядзька якая навіна. Я адразу ўсё ўцяміў. Але ж я не ведаў, цераз каго вам перадаць, каб хутка вы даведаліся. Я тады запытаўся ў Боры Бранта. Аказваецца, ён ведае цераз каго перадаць. Дык я пішу і буду прасіць Бору, каб, пакуль той Косцік — вы ўжо ўсё ведалі. Вы ўжо будзеце ведаць, што рабіць. Можа, вы прыйдзеце да Косціка Бранявіцкага самі. Ён жыве на Крывой вуліцы, д. № 5.

Бывайце здаровы. З камсамольскім баявым —

*Сцёпка Макейчык».*

— Што ты на гэта скажаш? — запытаў Дзядзька, калі Фіма ўзняў ад пісулькі вочы.— Га? І яшчэ — «з камсамольскім баявым»! Хіба не машэннік? За такі «баявізм» тваёй тройкі я буду гаварыць камітэту.

Было і смешна і боязна. Але і яшчэ: Фіма разумеў Дзядзьку. Заўсёды гэтак. Тое, што добра — будзе ўсё яшчэ не здаволены. Што дрэнна — не будзе чалавека палохаць. Толькі скажа: «не трэба, знаеш, губляць ду-

ху». Таксама і зараз: Сцёпка піша аб чалавеку, якога ўвесь час шукае партыйны камітэт. Згублена сувязь, і ніхто не ведае, дзе ён. Усе вырашылі — ён арыштаваны. А тут — ні з таго ні з сяго — прыйшоў да Касціка. Фіма згодзен з Дзядзькам, нельга было, каб Сцёпка пісаў такую пісульку. Хоць бы і пісаў — не такім зместам. А ён нават дае адрасы, дзе хто жыве. Куды ж гэта варта такая камсамольская канспірацыя! За такую работу нямала будзе Сцёпку ад Фімы!

— Ты ўжо не гарачыся! — усміхнуўся Фіма дзеля Клавы. Яму вельмі было перад ёю нязручна.— Я не заціраю перад табою сваёй віны. Ніколі не думаў,— звярнуўся да Клаўдзі,— каб такая была ў гэтага Макейчыка наіўнасць. Праўда, ён вельмі малады, нідзе не быў у апале, але ўсё ж такі... Я тлумачу гэта вось чым: ён даведаўся і з вялікага імпэту забыўся на ўсё. Хаця каб хутчэй удружыць свайму Дзядзьку.

На вуснах у Дзядзькі слізганула ўсмешка. Фіма злавіў яе, гаварыў з большаю смеласцю:

Ён не ведае, як яны яго любяць! Не бачылі ніколі, а любяць. Адчуваюць — ён нібыта іх бацька. Дзядзька ў іх ведае, што робіць!

— Ты не загаварвай мне, знаеш, зубоў,— з сур'ёзным тварам, але мяккім тонам сказаў Дзядзька.— Лепш ідзі і скажы Сядучу... Неяк жа трэба вывесці гэтага адшчапенца з кватэры Бранявіцкага. Каля яе можа быць цэлая ганкя шпікаў.

Кінуў на Клаву позірк, гаварыў старэчым жартам:

— Гэты самы хлопец, Бранявіцкі таксама нарабіў работы. Учашчаў да гэтай дзяўчыны, а цяпер учашчае за ім дэфэнзіва. От што робіць каханне! Мне было гэтулькі гадоў, злаваў, калі хто дражніўся: «вунь ідзе, вунь пайшла твая паненка». Я саромеўся. А цяпер сорам — у каторага няма паненкі. Абы абцёр матчына малако — ужо кавалер!

Фіма быў задаволены, што Дзядзька разгаварыўся. А толькі ён перапыніў гаворку аб каханні, сказаў да Фімы:

— Чаму ж ты не ідзеш? Скажы — я буду яго чакаць... Ён ведае дзе...

Фіму хацелася ісці разам з Клаўдзяю. Хацелася пагаварыць, ідучы, хто з ёю, дзея на жыве... Ён забыўся, што нельга выходзіць ад Дзядзькі цэлым гармідарам.

* * *

Добра змерклася, тады Косцік прыйшоў дадому. Ішоў цераз кухню — там бязладдзе. Матка яго яшчэ не ўправілася з бялізнаю. Цэлы дзень мыла — наверадзіла рукі. Ішоў — адразу хацеў прайсці ў той пакой. Матка спыніла Косціка дрыжачым шэптам. Не зразумеў адразу — аб чым яна. Прымус якраз шуміць на кухні. Злуецца прымус на вялікі чыгун, што насеў, ціснe яго крывыя ножкі. У бакавым пакоі скверыцца малая Радка. Лягла спаць пад вечар, цяпер прачнулася. Няма калі паглядзець, чаго яна, Юзэфа Харытонаўна, спяшаецца прыбраць збольшага з-пад ног.

— Кастусёк,— гаварыла маці,— вядзі яго з хаты. Здаецца, ён прачнуўся ўжо. Спаў як забіты. Вядзі, каб мае вочы не бачылі... Што ж гэта будзе? Дзе ж, Кастусёк, бацька?

— А ты не кажы бацьку, хто ён,— тое самае сказаў Косцік, што і Сцёпка.— Скажы, ён толькі зайшоў да мяне. Мой таварыш. Бацька на двары. Гаворыць нешта з Крукоўскім.

— Добра, сынок, добра! Толькі ты ідзі і скажы — няхай ідзе куды хоча. Калі што якое — мы тады не ацярэбімся... Чуе маё сэрца...

Косцік асцярожна адчыніў дзверы ў той пакой. І сапраўды незнаёмы чалавек ужо не спаў. Сядзеў на цыраватай канапцы, курыў махорку. Зайшоў Косцік, ён адразу ўзняўся з канапкі, загаварыў:

— Гэта цяпер толькі з работы?..

— Ага...

— Выбачайце... Гэта вы і будзеце Косцік?

— Я...— скідаў Косцік сваю ватоўку,— канчалі там у аднаго чалавека грубку. Не хацелася пакідаць назаўтра.

— А я, ведаеце, прачакаўся вас... Ваша такая добрая матка... яна мяне накарміла, дык я лёг — цяпер толькі прачнуўся.

У пакоі было цёмна. Праз адчыненыя дзверы з кухні жмуткам падала святло. Косцік выйшаў на кухню і прынёс лямпу.

— Другі дзень не гарыць электрычнасць,— убачыў сярэдняга росту чалавека. Вочы ў чалавека прыжмураны, нібы падпухшыя. Ён — не ў тым касцюме, што дала Марыся (Косцік ведае той касцюм). Ен — у ботах,

штаны — цёмнае сукно, сівая сарочка, касаваротка; звычайны чорны пінжак... валасы — нізкастрыжаныя.

— Не то нешта сапсавалася на слупе,— гаварыў Косцік,— не то станцыя... Уся Крывая без электрычнасці...

— Прычыніце дзверы,— сказаў чалавек,— я маю справу да вас...

Косцік прычыніў дзверы і сеў на крэсла каля стала.

«Ён нічога не ведае, што яго шукае Дзядзька,— падумаў Косцік.— Я і не буду нічога казаць. Зараз пройдзем з ім да Фімы. Колькі будзе радасці ва ўсіх! І Фіма і Дзядзька нічога не ведаюць... Прывяду госця, «малайчына»,— скажа Дзядзька».

Матка забылася ад страху сказаць Косціку, што хадзіла раіцца са Сцёпкам. А можа, пабаялася сказаць, каб Косцік на яе не сварыўся,— «нашто хадзіла?».

— Марыся казала — вас зваць Леанід? — запытаў Косцік больш для таго, каб адразу ўспомніць і аб ім і аб Марысі.

— Леанід Карзюк...— адказаў чалавек.— Вам, напэўна, расказала пра мяне Марыся? Я не буду пераказваць. Цераз мяне якое няшчасце з Марысяю! Мяне выратавала, а сама...

— І не кажыце... Я не ведаю, што гэта будзе?

Косцік заўважыў: Карзюкоў твар у вялікім смутку. Каменем на яго сэрцы ляжала, напэўна, Марысіна гора. Адказаў Косціку змоўчаўшы:

— Вы толькі не палохайцеся... Самае важнае... Я павінен сказаць, чаго я прыйшоў.

— Я і не палохаюся...— пашэрхла ў Косціка ўсё цела. Ён падумаў:

«Нешта, мусіць, здарылася... Што ж такое?»

— Марысю могуць расстраляць...— сказаў Карзюк і дадаў: — Яе трэба выратаваць. Дапамагчы ёй уцячы...

— Што вы гаворыце!..— шаптаў Косцік збялелымі вуснамі.— Што вы кажаце!.

— Я вінаваты перад Марысяю. Яна за мяне. Я не магу. Я не збаяўся і прыйшоў да вас... Вы павінны мне дапамагчы...

— Як жа я дапамагу?! — вялікая просьба ратунку была ў Косцікавым голасе. Няхай ён скажа, як дапамагчы,— Косцік на ўсё чысценька згодзен. Няхай лепш забяруць яго — абы яна жыла.

— Што ж мне рабіць?

— У мяне ёсць сярод жандараў камуніст,— гаварыў Карзюк.— Ён паможа нам. Толькі трэба, каб яшчэ хто-небудзь... Мы ўтрох можам не справіцца...

Косцік усё зразумеў. Дзіва што яшчэ «хто-небудзь» дапаможа. Ён усхапіўся з крэсла — нібы Марыся ўжо была вырвана з жандарскіх кабдзюроў,— праказаў ад радасці:

— Усе дапаможам... І Дзядзька, і Фіма... Што вы! Дзіва што...

— Косцік! — пазвала Юзэфа Харытонаўна сына.— Ідзі сюды.

Косцік аж раззлаваўся. Не дала скончыць пачатай гаворкі. Выйшаў на кухню, а ў бакавым пакойчыку бацька. Выходзіць з пакойчыка і адразу:

— Гэта што ж ты сабе, сынок, думаеш? На шыбеніцу захацеў? Бацькоў захацеў згубіць са свету?

— Аб чым ты...— хацеў пярэчыць бацьку. А ён:

— Маўчы ты, шэльма! Я ўсё ведаю! Хочаш, сукін сын, каб я згінуў за цябе ў астрозе?! Не дачакаешся, сынок! Адзін гній, а я не буду...

— Ціха ты, бацька...— прасіла Юзэфа Харытонаўна.— Косцік тут невінаваты...

Яна падліла ў агонь масла. Бацька ўцямнеў ад злосці, затросся, прашыпеў:

— Ты будзеш яшчэ даваць яму патолю!.. Ён у цябе нявіннае дзіцянятка?.. Няхай ідзе вон з хаты! Вон, каб і нагі яго не было! У гэту мінуту... разам з ім... Я не буду трэсціся...Я не хачу, каб мяне цягалі, здзекаваліся...

— Чаго ты...— не сцярпеў Косцік.— І пайду... разам з ім. Не буду турбаваць... Думаеш, без цябе прападу?..

Адступіўся ад бацькі на крок. Усё запяклося ўсярэдзіне. Агарнула балючая крыўда. Блыталіся думкі: «Не бацька, а звер. Не трэба мне такога бацькі...»

І яшчэ злосць на матку. «Чаму не сцярпела?.. Нашто сказала шалёнаму чалавеку? Хіба не ведае яго?»

Косцік памыліўся: матка нічога не казала. Пераняў на двары і ўсё расказаў гаспадар дома — Крукоўскі.

— Я збіраўся данесці паліцыі...— гаварыў Крукоўскі.— Узяў уніманне толькі на цябе, Ілля Цімафеевіч... Сказала мне Варвара Міхайлаўна, што ў маім доме камуніст,— я ўзяўся за галаву! Вы, Ілля Цімафеевіч, разумееце, што можа быць ад палякаў і мне і вам за камуніста? Вы чулі, што гаварыў камендант на Парэц-

кім пляцы? «Хто хавае камуністаў, адказвае нараўне з імі. Суд польскі прысуджае да расстрэлу. І гэты прысуд можа замяняцца часам толькі шыбеніцай!» І выходзіць яно: яго расстраляюць, а мяне з вамі павесяць! Ідзіце, Ілля Цімафеевіч, праганяйце яго з майго дому!

Тады Ілля Цімафеевіч бомбаю ўварваўся на кухню. Адразу напаў, трос кулакамі перад Юзэфай Харытонаўнай. Тая спрабавала гаварыць «Косцікаў таварыш» — толькі больш раздражніла.

Ілля Цімафеевіч змарыўся — сядзеў на ложку каля Радкі, моцна дыхаў, абціраў рукавом пот з твару. Косцік больш не сказаў нічога. Крыўдны кінуў на матку позірк. Зайшоў у той пакой і да Карзюка:

— Пойдзем да Фімы... Там абмяркуем усё. Тут — нельга. Бацька праганяе з хаты... Мой бацька баіцца камуністаў. Нічога не парадзіш...

Хацелася нагаварыць абразлівых слоў на бацьку. Такая была вялікая крыўда! У сваіх думках вырашыў: «Нізашто не вярнуся да бацькі! Параюся з Фімам, пайду з таварышам Карзюком... у партызаны».

— А куды гэта ісці? — запытаў Карзюк.— Хто гэты Фіма?

Косцік апрануў сваю целагрэйку, надзеў шапку.

— Недалёка...— адказаў ужо на хаду.— Выйдзем з гэтай хаты, я ўсё раскажу.— Сцішыў голас і пакуль што: — Фіма — наш падпольны арганізатар... Пойдзем!

На кухні Юзэфа Харытонаўна спыніла Косціка:

— Куды ж ты? — глядзела на сына чулым матчыным сэрцам.— Не ідзі далёка... Будзем зараз вячэраць...

Бацька нічога не сказаў пры чужым чалавеку. Сядзеў каля Радкі, у пацёмках пакойчыка.

— Запірайце дзверы...— трымаўся Косцік за клямку. Кінуў доўгі распалены позірк на матку і быстра адарваў вочы.

Юзэфа Харытонаўна не зразумела сына. Стаяла каля печы і ў сябе пытала: «Чаму ён сказаў запіраць дзверы?»

А яны выйшлі на ганак, і ноч асляпіла вочы. Усё неба зацягнута хмарамі. Яно злілося, зніталавалася з зямлёю. У агародчыку, сярод лісцяў півоні, шамечацца вецер, можа, гуляе з лісцямі, можа, шукае нечага. Яны змерзлі ад першых замаразкаў і цяпер сухія.

— Пачакайце...— паўголасам спыніў Карзюка Косцік.— Я вазьму... у мяне тут схован рэвальвер...

— А дзе мая вінтоўка? — запытаў Карзюк.

— Вінтоўка там... у Фімы...

Адчыніў варотцы ў агародчык і схаваўся сярод густога змроку. Карзюк чуў: пад нагамі ў Косціка шамацела тое самае сухое лісце.

Тады прайшоўся па двары да самай калітк. Пагля-дзеў на вуліцу цераз верх штыкетаў: цёмна, хоць пальцам у вока. Хацеў падысці да агародчыка, можа, каб хутчэй ішоў Косцік. І не ведае, адкуль што (нібы з-пад зямлі):

— Рэнкі до гуры! [1] — выраслі перад ім два чалавекі ў жандарскім адзенні.— Ні з месца!

Адзін стаіць перад ім і трымае рэвальвер. Другі палез без спросу ў яго кішэню. Дастаў з кішэні яго рэвальвер і тады:

— За мною!

Карзюк не спрачаўся. Толькі раз, а потым другі азірнуўся на агародчык. Напэўна, баяўся, каб не заўважылі Косціка. Яго не было відаць. Ад гэтага, здаецца, быстрэй ішоў. Праз дваццаць, можа, крокаў на рагу вуліцы Карзюк раптам спыніўся.

— Стойце! — прахрыпеў Карзюк.— Хто вас паслаў на гэты двор? Ідыёты! Я ж агент!..

Два чалавекі ў жандарскім адзенні разгубіліся. Высокі, стройны нават адступіўся на адзін крок.

Сярэдняраслы, яшчэ не даючы веры:

— Мільч! [2] Высветліцца ў пана каменданта. Ідзь!

— Дурніца! — трос перад ім сваімі кулакамі.— Во, во! — тыцкаў у густую смугу ночы штрыфляю пінжака.

— Пасвяці! — загадаў сярэдняраслы высокаму, стройнаму.

Той пстрыкнуў электрычным ліхтарчыкам. «Р.Р.Р.» [3] — прачыталі польскія літары абодва разам. Патух ліхтарык, і скрозь цемру абодва ўзялі Карзюку пад казырок.

— Выбачайце, проша пана...— сказаў сярэднярослы.— Выйшла маленькае непаразуменне. Вазьміце ваш рэвальвер...

---

[1] Рукі ўгору!

[2] Маўчы!

[3] Польская дзяржаўная паліцыя.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Раздзел першы

Нечакана наступіла восень. Нехта яе раззлаваў. Прабірае сіверам наскрозь. Мусіць, з балота ўсхадзіўся-такі сіберны сівер!

Хмарамі зацягнула ўвесь свет. Неба — алавянае. Гледзячы на яго, кідае ў дрыжыкі.

«Каб яго на раду не было! — хукае ў рукі Селівон Ляўшак.— Учора было сонца, а сёння... От жа прабірае!..»

Селівон не маніць: «учора было сонца»... Потым пад вечар уздыбілася з захаду хмара... На раніцу Селівон убачыў: за Ялавіцкага садам зломана старая дуплістая ліпа. Яна лягла верхавінаю на дарогу, што ідзе на Стаўбуны.

«Які вялікі быў вецер! — падумаў Селівон.— Увосень гэткі бывае рэдка!..»

Цяпер вецер невялікі,— толькі ўсяго золкі. Селівон цярэбіць старую ліпу, хукае ў рукі. Кляне золкі дзень, напэўна, сам сабе думае:

«Няхай бы ішоў з тапаром ды пасклеў сам ягомасць... От ліханька ўстроен гэты свет: адзін сядзіць у хаце, а другі за яго дубянее! Чаму мне не пасядзець у хаце, а, канешне, Ялавіцкаму? Мы ж з ім адхоладам у хаце, а, канешне, Ялавіцкаму? Мы ж з ім аднагодкі... Прынесла нячыстая сіла! Нідзе не скруціў бо галавы!»

Селівон ведае, што Ялавіцкаму пашанцавала. Прыйшлі белапалякі — адразу вярнулі фальварак Ляды. Але Селівон і другое ведае. «Ці надоўга...»

Пераязджаў з горада — польскае начальства дало пяцёх паліцыянтаў, «каб не было чаго на дарозе...». Нічога не было.

— Хапіла б аднаго паліцэйскага,— гаварыў Ялавіцкі,— давялося толькі карміць...

Прыехаў у Ляды, а там як ведалі: немаведама дзе хто. Застаўся толькі Селівон, як і раней, са сваёю сям'ёю на кухні, ды Ёсіп Матрунчык, таксама з сям'ёю, у кавалёвай хаце.

— Няма куды збягаць,— гаварыў Селівон,— куды не кінься — паны вярнуліся з выраю. Што будзе, тое будзе.

Нічога і не было. Не такі Ялавіцкі чалавек, каб пра-

ганяць старых парабкоў. Не без таго — Кандрата Саўку не пакінуў бы пры сабе. Вельмі вялікі буян. Не раз кідаўся да Ялавіцкага з кулакамі. Ведаў цяпер сваю віну — недзе ўцёк. Яму ўсё малая была пенсія-андынарыя. Ялавіцкі рад, што ўцёк Кандрат: не будзе каму падбухторваць...

Ялавіцкі прыехаў і адразу паклікаў да сябе Селівона і Есіпам.

— Будзем жыць па-новаму! — сказаў да мужчын.— Пабачыў я, браткі, гора. Сваёй хаты лішыўся. Бежанцам быў. Мне больш нікога і не трэба. Ты, Селівон, са сваім сынам Сілантам, а ты, Есіп, са сваімі дочкамі... Што засеем на зіму — засеем. Рэшту — аддадзім, пакуль слабая сіла, на часць. Людзі знойдуцца! Абы здароўе — будзем жыць!

Гаварыў парабком не для іх — для сябе. Хацелася знайсці такія словы, каб патушыць буру сваіх сумненняў. Не зводзіў з парабкоў вачэй, а слова ад іх не чакаў. Было страшна, каб чаго такога не нагаварылі. Яны ж цяпер ведаюць, што не прырос Ялавіцкі да фальварка Ляды, а Ляды — да яго. Ляды могуць жыць і без Ялавіцкага. Зямля будзе заўсёды на сваім месцы. Дык пры чым жа тут адзін Ялавіцкі над такім вялікім кавалкам зямлі?

Яму не верылася, што ён зноў выйдзе на дзядзінец і крыкне на Ёсіпа:

— Гэ! ідзі, браце, сюды! Чаму, браце, так рана выпраг коні? Авадні, кажаш, не даюць? А як мысліш наконт андынарыі? Я табе буду выдаваць ці гэтыя паганцы — авадні? То-та ж! Запрагай, браце, коні ды язджай на поле! На начлезе, кажаш, быў? Нічога не магу парадзіць! Гарачая, браце, пара. Потым, як выпражаш, паспіш...

Селівон абцерабіў ліпу да вяршка. Засталося пацерабіць сукі. Старыя сукі — на дровы, маладыя — асобна. «Прынясу дадому, распару ў печы, і будзе лыка. З гэтых сукоў выйдзе пар дзесяць лапцей... На ўсю зіму хопіць на сям'ю!»

Убіў сякеру ў расшчэплены камель, дастаў капшук з «бесарабскім», узняў перад сабою вочы і ўбачыў: з-за саду ідзе сам Ялавіцкі. З палачкаю і ледзь накульгвае.

«Чаго яго нядобрае...» — падумаў Селівон і, як даўней, хацеў узяць сякеру ў рукі: «няхай бачыць, што не гуляю...» Памкнуўся, а потым — нічога. Нейкая не-

вядомая апанавала смеласць. Нават наўмысна: «хай што-небудзь скажа...» І не крануўся да сякеры. Толькі так сабе патупаў. Можа, у Селівона памерзлі ногі?

А Ялавіцкі падышоў і як добры дружака:

— Э-э... Чаму ж агню не развядзеш? Тут як на выспе — такі сівер. От жа чалавек! І я пагрэўся б.

— Няма нічога сухога...— сказаў Селівон, круцячы папяросу.— Сырая ліпа не гарыць...

— Узяў бы з дрывотні два-тры палены на распалку,— гаварыў Ялавіцкі,— от жа чалавек!

Селівон і сам не ведаў, што з панам Ялавіцкім? Дзе чутна-бачана, каб у яго быў такі клопат? Саcклей сабе нашчэнт — слова не скажа, а тут...

Можа, гэта даўнейшае «далікатства»? Селівон хацеў узяць сякеру церабіць сукі, а ён, сядаючы на ліпавы камель:

— Пакуры! Паспееш! Яшчэ ранавата...

— Яно ж пэўна...— адказаў Селівон.— Не сёння, дык заўтра можна паспець. Дарога толькі завалена. Хочацца ачысціць... Едуць аб'ездам — поле ўездзяць.

Ялавіцкі ўсміхаецца — рад за Селівонаў клопат аб яго полі.

— Ты якім быў, такім і застаўся,— кажа Ялавіцкі,— добры ты гаспадар! Я, бывала, накрычу на цябе... Было, можа, і дарэмна. Але я думаю — ты ніколі не злаваў? Ты ўжо ведаеш: у мяне гэткая натура... Як быў я ў ад'ездзе... Прысядзь, браце! Чаго ж ты стаіш?

Селівон зацягнуўся папяросным дымам, выпусціў яго на вецер цэлаю пасмаю. Вецер падхапіў дым адным мігам, сцёр яго з мутна-асенняга дня.

На самым беражку ліпавага кругляка, воддаль гэтак ад Ялавіцкага, прысеў Селівон.

— ...Быў я ў ад'ездзе,— гаварыў Ялавіцкі,— часта аб табе думаў... Мала такіх людзей, думаў і жонцы казаў. Селівон не палезе, дзе не трэба,— ведае сваё месца!

Спахапіўся, што празмерна хваліць Селівона,— зрабілася сорамна перад сабою. Можа, не паверыць у яго шчырасць. Тады выказаў выразнай думкаю:

— Я гавару, як хто глядзеў на бальшавікоў... Ты не падумай, што ўсе крычалі «ўра!», «ура!». Не ўсе, а тыя, хто згубіў веру ў бога і сам сабе верыць адзін раз у год. Ты ж Татура памятаеш?

— Чаму ж не...

— Ён думаў — прыйшла рэвалюцыя — можна ісці

ў маю хату ды лаяць, як кажуць, майго тату. Рэвалюцыя, браце, рэвалюцыяй, а закон законам. Ты і трымайся гэтага закону. Думаеш, я не ведаю, хто разабраў маё дабро? Ты нябось нічога не ўзяў.

— Нашто мне...— сплюнуў Селівон скрозь зубы і кінуў акурак.— У мяне ёсць мае рукі, у мяне ёсць мая сіла... Што мне больш трэба?

— А чаму я ўзняў пра цябе гаворку? То-та ж! Калі б усе так меркавалі, і рэвалюцыя не страшна. Канешне, браце, між намі кажучы, наш цар быў не праў. Ніхто гэтага не адмаўляе. То дайце ж пажыць пасля цара! Што гэта, адкуль, дзе была гэта савецкая ўласць? Хто аб ёй ведае? Без цара жывуць і амерыканцы, і французы, і шмат хто! А з савецкай уласцю нідзе не жывуць.

Аднекуль да Селівона падскочыла храбрасць. Боязна гаварыць — пярэчыць, але Ялавіцкі сёння вельмі гаваркі.

— От я цёмны, дурны чалавек,— парушыў Селівон сваю маўклівасць,— я не ведаю, як лепш... Я хацеў у пана Ялавіцкага толькі ўсяго запытаць — паколькі я неразвітны,— чаго напала на нас гэта груганнё?

— Якое, браце, груганнё?

— Ну, якое ж... белыя палякі!

Ялавіцкі прымушана ўсміхнуўся, і Селівон бачыў: пачырванеў кончык носа ў Ялавіцкага.

— А гэта ўжо, браце, ты пра палітыку! Э-э... Мы гаварылі з табою так сабе, а гэта ўжо... Добра, што я цябе разумею... Ты не шкодны чалавек. Табе я магу і растлумачыць...

Змоўчаў, паглядзеў на Селівона, хацеў гаварыць, а Селівон:

— Я ж кажу: паколькі я неразвітны... Можа, я пасвойму ўцяміў.

— Вядома, ты, Селівон, што гаварыць, чалавек цёмны.— Сядзеў роўна і ўсёю постаццю павярнуўся да Селівона.— Палякі прыйшлі, браце, не сваім адумам. Мы ім не патрэбны. Палякі маюць сваю зямлю, свайго прэзідэнта. Мы папрасілі, каб яны прыйшлі — памаглі прагнаць бальшавікоў. От яны прыйшлі і памагаюць зрабіць нам беларускую дзяржаву. Такую самую, як у Польшчы. У нас таксама будзе прэзідэнт, яны нам дапамогуць і прэзідэнта выбраць... Усё наладзіцца, і пой-

дуць у сваю Польшчу. Яны робяць нам дабрату, як сваім суседзям.

Ад гэтакіх слоў Селівон не мог стрымацца. Забыўся на момант, што мае гаворку з панам Ялавіцкім. Аж узняўся з ліпы, праказаў:

— То скажыце, пане Ялавіцкі, чаму яны «з сваіх суседзяў» дастаюць апошні дух? На Ветракі налажылі (стаяў перад Ялавіцкім, адзін за другім прыгінаў к далоні пальцы левай рукі, лічыў пальцамі правай) пяцьсот пудоў аднаго збожжа... сем кароў... шаснаццаць авец, пяцёра свіней... дваццаць коп яек і паўтара пуда масла... Таксама льну, палатна, воўны, семя... Пальцаў не хапае... На адны Ветракі! На дваццаць якіх гаспадарак! Вы, пане Ялавіцкі, ведаеце ветракоўскую зямлю: падлесіна. Самы багатыр — пяць дзесяцін падлесіны. Адкуль людзі возьмуць? Дык і не дзіва, што выходзяць з лесу ды камандуюць палякам «рукі ўгору!».

Ялавіцкі таксама ўзняўся з ліпавага кругляка. Цяпер быў чырвоны ўвесь яго нос. Хацеў перапыніць Селівона, а ён каб усё за адзін раз выказаць... «Усё адно далёка зайшоў. Нешта ж будзе...»

— Нашто нам гэткае суседства? Не знаць яго! Пакуль зробяць таго празэнта — людзі пакончацца з нядзі. Ды нашто тое, што: і бальшавікі, пане Ялавіцкі, умеюць рабіць васударства! І за работу нічога не бяруць... Можа, я, пакольki неразвітны...

Селівон заўважыў: Ялавіцкі дрыжыць асінавым лістам. Спалохаўся Селівон, перапыніў сам сябе на слове, праказаў:

— Змерзлі, пане... Тут самы буй...

— Я табе, Селівоне, даў нагаварыцца,— тупаючы на адным месцы, праказаў Ялавіцкі,— нагаварыцца... Я думаў, ты не сапсуты...

Паглядзеў Селівону ў вочы і нібы чаруючы яго:

— Ты, браце, многа знаеш, гэта праўда. А скажы мне, ці знаеш ты, што за тваю такую гаворку магло быць?

— Ад каго? — запытаў Селівон.

— Вядома, ад каго... каб, скажам, дазнаўся камендант? Ён будзе заўтра ў мяне ў гасцях...

— Я не ведаю,— гаварыў Селівон,— мне, здаецца, нічога не было б. Я тое самае мог сказаць і пану камендaнту... Мне так думаецца, я і кажу... Я такі, пане, чалавек.

На Ялавіцкага вуснах слізганула ўсмешка. Можа, ён верыў Селівону, а можа, не хацеў задзірацца з ім. Падступіўся да самага Селівона і прыцішаным голасам:

— За гэткія думкі — шыбеніца! Ці ты ведаеш гэта, ці не? Падзякуй за маю да цябе павагу. І нікому ніколі не кажы дрэннага на палякаў. Я, вядома, не буду гаварыць каменданту... Толькі і ты будзь чалавекам...

Азірнуўся па баках — нідзе нікога не відаць,— гаварыў яшчэ цішэй:

— Я цябе за маю ласку што папрашу: можа, ці не прачуеш ты, хто быў — хоць аднаго — у той бандзе, якая напала на жандараў у Воўчым лагу? Даведайся, з якой вёскі і хто? І скажы мне. Я табе за гэта нават заплачу. Добра? Не па службе, як кажуць, а па старой дружбе. І такіх слоў больш нікому не гавары. Цябе сапсавала, бачу я, камуна. Першы раз я табе дарую. Ты не вінаваты. Бальшавікі перавыхавалі на свой лад і не такіх, як ты. Добра?

І пайшоў. Селівон стаяў разгублены і глядзеў яму ў плечы. Хацеў схапіць сякеру і шпурнуць наўздагон. Рукі абмяклі, ногі наліліся волавам.

«От чаму быў такі добры...— усё за адзін раз зразумеў.— А я, стары дурань, не мог адразу здагадацца. Можна было больш нагаварыць... Цьфу!»

* * *

Ялавіцкі Селівону не зманіў: сёння «дзяды», і да Ялавіцкага сабраліся госці. Толькі не камендант у гасцях, а начальнік ахранкі пан Рытвінскі. Камендант Векерт не змог прыехаць. Рытвінскі перадаў: «У пана каменданта дрэннае самаадчуванне. Вялеў кланяцца пану гаспадару».

Бацька Ялавіцкага, дзед і прадзед не праміналі «дзядоў» і сыну свайму не вялелі. Ніхто і не забараняў сыну. Толькі свята ў тыя гады было як і ўсе святы, у гэтым годзе — асабліва дарагое, урачыстае. Ялавіцкі святкуе «дзяды» ў сваіх пакоях! «Татур не пакрасаваўся камунаю». Ялавіцкаму вярнулі яго зямлю... ліпавыя прысады (адну ліпу зламаў вецер)... Старую бярозу з буславым гняздом — не застаў буслоў: яны ўжо зляцелі з гнязда. Ён сын сваёй уласнай зямлі, уладар яе сцежак, таго, што за выганам. Прыйдзе вясна, і салаўіная песня зальле яго пакоі, дзядзінец... Скажа тады

Селівону Ляўшаку: «Гэ, паслухай, стары, калі што разумееш, як спявае салавей!» Прапусціў дзве вясны. Дзве вясны змарнавала Ялавіцкаму рэвалюцыя: не чуў свайго салаўя. «От ужо ў гэту вясну наслухаюся...»

Цэлы дзень Селівонава жонка Паладзя рыхтавала «дзедаўскія» прысмакі. Трэба не менш як дзесяць страў. На «дзяды» менш не можа быць, а больш — можна. Селівон шкадаваў сваю жонку.

— Даліся табе ў знакі сёння гэтыя «дзяды»,— гаварыў жонцы на кухні,— бачыш, колькі панасмажвала!

А яно і праўда: усё на нагах, на нагах, як утрапёная. Ялавіцкая толькі камандуе Паладзі:

— Кракеты павінны быць як шліфаваныя! Добра з жаўткамі перамяшай цеста! Рабі галушкі як яйцо! Потым апыліш цёртаю булкаю. Я сама буду смажыць іх на скаварадзе. Пакладзі больш масла... Ты думаеш? — усё патрабуе дагляду. Да кракетаў трэба ўдачны соус...

Паладзя ведае гэту работу. Была ў пана Студніцкага кухаркаю і не такія вырабляла прысмакі! Нават пякла французскія торты, смажыла з цяляціны фрыкасе. Да Студніцкага стала падавала біфштэксы з крэссалатаю. Ялавіцкая хоча выставіцца перад Паладзяю: «Ты, мілая, хоць і кухаркаю была — не ведаеш больш за мяне». І ўсё дурыць Паладзіну галаву гэтымі кракетамі.

— Такія кракеты можна падаваць з падсмажанай пятрушкай, але я зраблю соус... Вазьмі, Паладзя, дзве шклянкі белага віна... Вучыся, як рабіць. Пакладзі два шарлоты. Толькі пасячы дробненька. Пакладзі пятрушкі і масла. Згатуй разам з віном. Соль і перац я сама пакладу. Як уварыцца, тады здымі тлустасць і працадзі. Воцату я дабаўлю сама. Здаецца, у нас ёсць лімонны сок? Тады дробненька скрышы гэтыя агурчыкі, пакладзі ў соус і яшчэ згатуй.

І гэтак ад самага рання і да вечара. Дзесяць страў, і кожная мае сваю моду. Хоць бы пакаштавала сваёй работы! Добра, калі чаго не даядуць. Будзе прымаць са стала — можа, і пакаштуе.

Паладзя паставіла на стол надзяваную дзікую гусь. Колькі памучылася над яе цестам! А колькі клопату над крылламі. Трэба, каб гусь была на талерцы як жывая. Падкурчаны ногі, распасцёрты крыллі —

яна кідаецца ў палёт. Паладзя думала: «Ялавіцкая хоча ўпрыгожыць стол. А цяпер прынесла яна гусь».

У сталовай вельмі шумна. Пляменнік Ялавіцкага, капрал Антэк, чокаўся з Мальвінаю. Ялавіцкі заліваўся рогатам. Яму расказала пані Тарпатынская ціхенька на вуха нейкі непрыстойны анекдот. Сам Тарпатынскі дзелавым тонам гаварыў з пападдзёю — жонкаю бацюшкі Дземіяна. Ганя падкладае Рытвінскаму на талерку заліўное парасё. Паклала і не магла адразу зняць ■ відэльцаў. Трымалася за тронкі відэльцаў двума пальцамі, брала нож, каб прытрымаць кавалак парасяціны. У гэты час Ялавіцкая і сказала:

— Пане Рытвінскі! Жычу пану імкнення! Наперад і наперад! Няхай будзе імкненне пана гэтым птахам! Гэты птах ляціць далёка і высока!

Бацюшка Дземіян зусім п'яны. Усё цераз стол да паненкі Гані кідаў блудныя жарты. Пачуў гаспадынін тост і каб хоць што дадаць:

— Пан Рытвінскі не хоча быць такім птахам. Гэты птах, праўда, ляціць высока, але можа нізка сесці... на талерку!

Пападдзя скоса зірнула на мужа. Прымусіла сябе ўсміхнуцца. Пасараманіла ўслых за яго недалікатнасць:

— Дземіян Хрыстафоравіч!.. А яшчэ «святы айцец»!

Тады Рытвінскі, каб сцерці за ўсім сталом няёмкасць:

— Жычу пані гаспадыні за яе разумны тост здароўя! Я перад сабою бачу нацыянальны стол. Гэта стол нашай еднасці. Калі хочаце, панове,— увесь стол убраны з палітычным намёкам... Вып'ем, панове, за нашу гаспадыню, за яе дзівосны густ! Віват!

Пакоі наліліся шумам. Усе крычалі «віват!». Чокаліся па чарзе з Ялавіцкай. Шкло бразгала аб шкло. Ялавіцкі хацеў з Рытвінскім пацалавацца. Жонка пацягнула за крысо пінжака. Толькі моцна пацінуў яго руку.

— У мяне ёсць тост! — узняўся з крэсла Тарпатынскі.

Тарпатынскі — сусед Ялавіцкага з Сухой грады. Ён вельмі тоўсты і кароткі. Твар яго быў цяпер як іскра. Узнімаўся — пападдзя адсунулася са сваім крэслам.

— Нашы дарагія суседзі прыйшлі да нас,— пачаў Тарпатынскі,— і дапамаглі нам вызваліцца ад камуны (яго фальварак таксама быў пад камунаю). Наша Рада сама нічога не магла зрабіць. Яна яшчэ маладая, нядужая. Я ўздымаю тост за нашых залатых суседзяў, якія прыйшлі да нас і адрадзілі нас на свет! Я ўздымаю таксама тост за наша беларускае войска, якое збірае наш бацька Булак... Наша войска з нашымі суседзямі гэтыя камуны разаб'юць нашчэнт! Еднасць — наша сіла! Мы ніколі не забудземся на нашых вызваліцеляў, мы аддзякуем ім хлебам-соллю і нашай пашанай! Віват!

Ізноў былі выкрыкі і п'яны абалдзелы гоман. Тарпатынскага прамова вельмі расчуліла Ялавіцкую. Падышла з кілішкам да Тарпатынскага, яму аднаму сказала:

— Яшчэ трэба было пану сказаць: і мы і вы былі бежанцамі, а цяпер ізноў дома. Вы ўмееце гаварыць! Я хачу з вамі выпіць.

І не паспелі чокнуцца. Узнімаецца з крэсла айцец Дземіян і таксама хоча гаварыць тост. Пападдзя моргае на яго, а потым і кажа: «Пасядзі лепш, паслухай». Нічога не памагае. І ўсё пачалося з гэтай гусі. Пападдзя нават кінула на гусь косы позірк. Каб не гусь — не было б, можа, гэтай палітыкі. Пападдзя баіцца за свайго Дземіяна Хрыстафоравіча. Ізноў гатоў ляпнуць недарэчнасць сваім п'яным языком. А ён:

— Ва імя атца, сына і святога духа... Бог бачыць праўду. Вы кажаце, пане Тарпатынскі — ыкі... мы ўжо вызваліліся ад камунізму? Няпраўда, панове! Камунізм — гаворыць прарок Іоан — будзе сорак два месяцы... Ён быў дваццаць чатыры месяцы, і яшчэ засталося васемнаццаць — ыкі... Я давяду вам, панове-брацце, каб не быць пустазвонам. От што адчыняе бог прароку Іоану: «І пакланёмся, зверу гаворачы: хто падобны на звера сего? І хто можа зразіцца з ім? І дадзены былі яму ўста, якія глаголелі горда і багахульна, і дадзена яму ўласць дзейнічаць сорак два месяцы» — ыкі...

— Дземіян Хрыстафоравіч,— працягнула пападдзя да мужа шклянку з содавай вадою,— вазьмі глытні тры разы...

І сцішаным голасам да суседа Тарпатынскага:

— Каб не ікалася...

Яна патрымала шклянку ў руках ды паставіла на стол перад мужам. Дземіян Хрыстафоравіч не чуў і не бачыў, гаварыў:

— Звер, аб якім гаворыць бог Іоану,— камунізм. Ён прыйшоў на зямлю і прабудзе на ёй сорак два месяцы. Хто зневажае імя божа? Хто зневажае жылішча яго? Хто зневажае святых, якія жывуць на небе? Ён! Усё ён, камунізм! І ведайце, панове-браціе, ён пераможа ў вайне з святымі. Яму дадзена ўласць ад бога на сорак два месяцы. «Хто мае вуха да слышыць, хто вядзе ў палон, той сам пойдзе ў палон; хто мечам забівае, той сам ад яго загіне. Тут яна вера святых». І гэты час прыйшоў. Яшчэ засталося прабыць зверу на зямлі васемнаццаць месяцаў. Амін.

Дземіян Хрыстафоравіч і не заўважыў, што перад ім шклянка з содавай вадою. Скончыў прамову, узяў шклянку не гледзячы і да цэлай кампаніі:

— Вып'ем, панове-браціе!

Пападдзя была рада, што чокаецца содавай вадою. Толькі радасць яе была ненадоўга. Паднёс да губ шклянку і паглядзеў на пападдзю. Хто ж мог строіць больш над ім такія кепікі? Тады на злосць жонцы наліў гэтулькі «поцешыцелькі».

— Але ж, айцец Дземіян, звера ўжо ў нас няма...— раптам заўважыў Ялавіцкі з усмешкай. Ён больш сказаў не для смеху, а для самога сябе. Хацеў пераканаць самога сябе ўслых. Нібы яшчэ не верылася яму, што ён у сваім фальварку.

Дземіян Хрыстафоравіч не зразумеў Ялавіцкага жарту. Прыняў гаспадарскую заўвагу за няўдзячнасць да прамовы госця. Аж узгарэўся, адказаў:

— Звера ў нас няма, пане Ялавіцкі, гэта праўда. Але ён яшчэ жыве.

І каб давесці больш сваю праўату, дапячы Ялавіцкаму, дадаў:

— І нават, можа, вернуцца да нас, каб дабыць гэтых васемнаццаць месяцаў!

Ялавіцкі быў не рад. Навошта зачапіў п'янага Дземіяна Хрыстафоравіча? Яму, як на тое, памагла сама пападдзя. От і не чула іх спрэчкі, звярнулася да Рытвінскага, праказала:

— Цяпер мы ўсе просім пана Рытвінскага... няхай скажа што-небудзь наш паважаны пан паручнік!

Адразу ўзняўся другі шум-гоман. Усе пачалі пра-

сіць Рытвінскага. Ялавіцкая падышла, папрасіла сама ад сябе:

— Вы, пан паручнік, так добра ўмееце гаварыць... Я вас прашу... Скажыце што-небудзь. Ваша апошняе слова.

Не меў настрою гаварыць, а не мог адмовіцца.

— Панове! — звярнууўся да прысутных.— Я адчуваю сёння сябе нібы сярод маіх даўніх, дарагіх сяброў. З усімі вамі, здаецца мне, я ўжо даўно знаёмы. Усе вы сябры майго дзяцінства... Гляджу я на ўсіх і перада мною ўваскрасае той час, калі мы, дзеці, хацелі быць дарослымі. А падрасталі — выраталі — хацелі быць такімі, як мы цяпер. Цяпер мы, запэўняю, панове, хочам быць ізноў маленькімі дзецьмі. Гэта ўжо — закон прыроды. Закон законаў. Чалавек падпарадкуецца гэтаму закону заўсёды. З якою асалодаю, панове, кожны з нас успамінае сваё дзяцінства! Кожны з нас усё аддаў бы, каб ізноў былі ў яго мяккія, як лён, валасы, празрыстыя, нявінныя сінія вочы... Каб ізноў бегаў ён па садзе, хаваўся ад сваёй няні, лавіў рознакаляровых матылькоў, жучкоў...

Жонка Ялавіцкага глыбока ўздыхнула, а ён гаварыў:

— Так. Гэта — лірыка. Усё наша жыццё — лірыка. Я адчуваю жыццё вельмі глыбока. Я, часамі здаецца мне, адчуваю голас прыгожых кветак, голас вясны, голас глыбокай зорнай ночы! Нябожчык мой бацька некалі казаў мне: «Ты сапраўды сын нашай нацыі!» Ён казаў, што толькі польскі народ можа адчуваць жыццё ў яго хараstве. Разумеецца, гэта быў так званы бацькаўскі патрыятызм да свайго сына. Кожны бацька ўсё лепшае бачыць толькі ў сваіх дзецях. Але я адносна бацькі раблю ўсё ж агаворку: ён быў строгім чалавекам. Ён не любіў хваліць і нават сваіх дзяцей, калі яны былі б гэтага не варты. Я і кажу: мы хочам пачынаць сваё жыццё спачатку. Нам хочацца заўсёды быць юнакамі, гарэць маладым каханнем. А ці можам быць маладымі? Не толькі можам, а мы — ужо сёння маладыя, шчаслівыя! Мы сёння — юнакі! Мы пачалі жыць спачатку. Польшча адрадзіла сваю бацькаўшчыну і вярнула народу залатое дзяцінства. Бацькаўшчына ўваскрэсла з мёртвых! Наша зямля замаладзела, зацвіла... А калі молада краіна — молады і яе сыны!

Момант памаўчаў, адпіў трошкі содавай вады.

— Панове! Калі гавару я гэтыя словы — мяне агортвае глыбока-ціхі смутак. Смутак не за сябе і не за мой народ, а за народ беларускі. Мы, як дужэйшыя суседзі, прыйшлі да вашага народа, каб дапамагчы вам...

— Вярніце, прашу дапамагчы, дараўскую царкву,— п'яным голасам абарваў прамову Дземіян Хрыстафоравіч,— дараўцы ніяк не могуць прынаравіцца да касцёла. Нашто было яе перарабляць, калі...

Пападдзя не дала скончыць. Яна так востра паглядзела на Дземіяна Хрыстафоравіча, што той адразу сцішыўся. Усе пераглянуліся між сабою, але як і нічога. Гэта ж быў адзін момант. Нібы і не перапыняў ніхто Рытвінскага. От ён зрабіў сам для сябе маленькую паўзу. Ён бачыў: усе госці не зводзяць вачэй, чакаюць яго слоў. Усе забыліся,— мала што сказаў п'яны поп. Рытвінскі гаварыў з тым самым пафасам:

— Пан Тарпатынскі выступіў і дзякаваў нашаму народу за дапамогу. Народ польскі прымае падзяку. Але скажыце, панове, чаму вы самі не дапамагаеце нам змагацца з камунізмам? Адною падзякаю, кажуць, не пражывеш. Я павінен сказаць вам: у акрузе бадай кожны дзень сутычкі гэтых нягоднікаў з войскам польскім. Вы кожны павінны выведваць іх норы! Трэба ж дапамагаць польскаму штабу. Вы ж самі сабе гаспадары. Вы — дома, а мы ў вас у гасцях. Лепш, як хто, павінны ведаць вы — дзе такі недавярак хаваецца. Кожны намёк супроць нас трэба паведамляць нам. Кожны намёк дапаможа разблытаць вялікі клубок. Трэба дагаварыцца суседу з суседам. У вас у кожнага ёсць свае прыяцелі. Змагацца трэба ўсім разам!

— То няхай жа наш вечар будзе вашаю клятваю перад польскім народам! Няхай узмацніцца наша еднасць, наша дружба! Я не пакідаю надзеі, што пры нашай еднасці мы пераможам камунізм і там, за ракою Бярозаю!

— Няхай жыве наш дарагі правадыр, богам благаслаўлёны, пан Пілсудскі!

На такія словы Тарпатынскі ўстаў з крэсла. За ім узняліся ўсе як адзін. Цяпер сцены пакояў калаціліся ад ап'янелых выкрыкаў. Ялавіцкі такі не ўстрымаўся і палез цалавацца цераз стол да Рытвінскага. Неяк незнарок абярнуў Рытвінскага кілішак. Віно ўсмакталася-

ся ў белы абрус шырокаю плямаю. Пляма на абрусе нагадвала густа распырсканую кроў.

— Вам нейкі хлапец прынёс пісьмо...— звярнулася Ялавіцкая да Рытвінскага, як толькі Ялавіцкі выпусціў яго з сваіх абдымкаў.— Калі ласка,— падала Рытвінскаму белы самадзельны канверт.

Усе адразу сціхлі. Нібы адчувалі, што ў канверце заклеена трывога. «Пэўна ж трывога, калі турбуюць урачыстасць пана паручніка».

Рытвінскі і не паглядзеў на адрас на канверце. Перадала Ялавіцкая — сказала «вам» — адразу разарваў, кінуўся чытаць. З першых радкоў узняў вочы, зірнуў на Ялавіцкую, запытаў:

— Дзе той хлопец, што прынёс гэта пісьмо?

— Пайшоў, мусіць,— адказала Ялавіцкая.— Ён перадаў пісьмо маёй служанцы.

— Паклічце сюды вашу служанку! — узняўся з крэсла, выйшаў з-за стала.

І не чакаў служанкі Паладзі. Усхвалявана хапіўся рукою за кішэню, дзе быў рэвальвер. Без шапкі, як утрапёны, з пісьмом у руках выбег на двор.

Гэтым часам капрал Антэк у бакавым пакоі не ў меру цалаваў пальчыкі панне Мальвіне.

## Раздзел другі

Косцік не ведаў, што яму рабіць. Перш хацеў кінуцца з агародчыка з рэвальверам на тых двух і таксама крыкнуць: «рукі ўверх». Але хто ведае, як яно лепш?

«Мы ўдвух маглі з імі справіцца...» — потым ужо разважаў Косцік. Толькі ж рабілася ўсё ў адзін момант. Ён аслупянеў ад такой нечаканасці.

«Што ж цяпер будзе...— шапталі дрыжачыя вусны.— Арыштавалі камандзіра... што мне на гэта скажуць!..»

Чуў, як павялі Карзюка па дашчаным тратуары. Бразгалі высушаныя сіверам дошкі тратуара. Чуваць былі блытаныя крокі. У Косціка моцна білася сэрца. Яго стукат зліваўся з адыходзячымі крокамі.

Тады пераскочыў цераз плот і знік у цемры Кантаровічавага саду.

Ніякай падазронасці не меў на Карзюка. Вельмі

добра сыграў ролю камандзіра перад Косцікам агент дэфензівы!

Толькі Карзюку вельмі не пашанцавала. Начальнік ахранкі, пан Рытвінскі, навучыў, як скарыстаць пераапрананне. Усё ішло так добра.

«Фіма наш падпольны арганізатар» — паспеў даведацца ад Косціка. Матка паклікала Косціка на кухню. О, якая была ў Карзюка злосць на гэту «старую ведзьму»! І гэта нічога. Косцік дакляраваў расказаць пра ўсё, ідучы да Фімы.

Якое шчасце было ў Карзюковых руках! Ён жа напэўна быў бы членам падпольнай арганізацыі. Косцік любіў Марысю. Ён прыйшоў, каб разам ратаваць яе. Марысю арыштавалі праз яго. Дык хто ж не паверыць яму, што ён свой чалавек?

А калі б яшчэ даведаўся, што падпольная арганізацыя шукае камандзіра трыццатага палка? Ён жа ведае гэты полк! А хіба ведаюць у палку, дзе ён дзеўся? Яго лічаць, разумеецца, забітым пры адступленні. Ды няхай сабе. Карзюк не меркаваў доўга быць «членам падполля». За які тыдзень усё падполле было б на шыбеніцы.

Што тады на гэта сказаў бы яму пан Рытвінскі!

І Косцік нічога не знаў, не ведаў. Не ведаў і таго: як выходзіў з Карзюком з хаты — Сядуч з Бронісем былі каля ганка. Дзядзька паслаў «арыштаваць» камандзіра, каб правесці ад шпікаў. Яны ішлі ў хату, пачулі скрып дзвярэй — стуліліся за сцяною каля хлеўчука. І добра чулі, як пайшоў Косцік у агародчык, а Карзюк пытаў, дзе яго вінтоўка. Сядуч быў вельмі задаволены: яны выйшлі з хаты, ён ведае нават, katoры камандзір. А яшчэ лепш — Косцік пайшоў у агародчык. Самы раз сказаць камандзіру: «рэнкі до гуры!» Нечага і Косцік не будзе ведаць, што яны таксама ў падполлі.

Косцік выбег праз сад на Базарную вуліцу. Пайшоў павольна, каб сабрацца з думкаю, авалодаць самім сабою.

«Што ж цяпер будзе...» — не пакідаў шаптаць сухімі вуснамі. Ішоў і на кожным кроку, здавалася, прытаіліся жандары. Цень кожнага кутка палохала Косціка.

«Мяне таксама могуць арыштаваць...— разважаў.— Які я неасцярожны! Я ж ведаў, што за мною сочаць.

Трэба наказаць было Фіму цераз хлопцаў... Што я скажу Дзядзьку? Як выканаў я сваё заданне!..»

Косцік ішоў да Фімы. Пойдзе і раскажа ўсё. Ён невінаваты. Можа, ён і наказаў бы, каб не такі яго бацька. Не мог больш заставацца ў хаце з Карзюком.

«Бацька выгнаў з хаты...— так і скажу.— Няхай ведае, які мой бацька. І больш не вярнуся да такога бацькі. Нізашто! Няхай пасылае, скажу Фіму, кудынебудзь да партызан. Усё адно за мною ходзяць шпікі».

Падыходзіў да Рысорнай вуліцы. Крокаў дваццаць прайсці па Рысорнай і звярнуць на Катлавінскую.

Людзі на вуліцы сустракаюцца рэдка. Цьмяна блішчыць электрычны ліхтар. Палавіна ліхтароў у горадзе зусім не гарыць. У цьмяным святле ліхтароў вуліца нагадвае сутарэнне. Яна вузкая і бадай уся — драўляныя домікі. Рэдка сустракаецца зношаная, найбольш двухпавярховая камяніца.

На рагу Рысорнай і Катлавінскай яго раптам спыніў жандар.

— Зачэкай...— сказаў жандар. Косцік не спыніўся. Нібы звяртаўся не да яго.

Тады жандар падняў тон голасу, дадаў:

— Хлопец!

— Што, пане, хочаце сказаць? — ізноў моцна стукала Косцікава сэрца. Баяўся, каб не пачуў гэтага стуку жандар.

— Куды ідзеш?

— Дадому...

— А дзе твой дом?

— От жа...— паказаў рукою ўдоўж па Катлавінскай вуліцы,— дом нумар пяць...

Сам не ведае, чаму назваў кватэру Фімы сваім домам. Можа, добра зрабіў. У яго тоне была ўпэўненасць. Жандар паверыў яму, сказаў:

— Ідзі!

Косцік пайшоў і цяпер было ў думках:

«Я вельмі спяшаўся... У яго пала падазронасць. Што б я сказаў, каб запытаў, адкуль іду? Нешта б таксама прыдумаў...»

За пяць крокаў быў ад Фімавай кватэры і ледзь не спыніўся. Ногі зрабіліся цяжкімі. Абдало холадам, а на твары пот.

«Жандары... пайшлі к Фіму...»

Здубянелымі нагамі ступаў, каб хутчэй прамінуць Фімаву кватэру. Ногі — па пуду. Спяшаецца пераступаць — яны на адным месцы. Так павольна ідзе...

— Што ж гэта робіцца!..

І не памятае, як абышоў цэлы квартал. Ізноў выйшаў на Рысорную.

«Куды ісці!..»

Не спыніўся, а ішоў. Не, ён не пойдзе дадому. У Косціка цвёрдае слова. Няма куды ісці, а не пойдзе. А хто ведае, што цяпер у яго дома? Арыштавалі Карзюка на двары. Суседзі скажуць, у каго ён быў. Дагэтуль жандары пэўна прыйшлі па Косціка? «Куды ісці?..»

Не ведае, дзе жыве Дзядзька. Трэба пра ўсё было паведаміць...

«А што мне скажа на маю работу Дзядзька? Арыштавалі камандзіра... Чаму я не папярэдзіў камандзіра, што за мною ходзяць шпікі? Што цяпер будзе з Фімам?..»

Ізноў на кожным кроку палохалі Косціка цені жандараў. Выраставі перад ім вялікімі страшыдламі. Яны і наперадзе і ззаду. Баіцца азірнуцца назад...

Куды ні глянь — стаяць. Здаецца, засланяюць усю вуліцу. Зараз некаторы кінецца да яго з пад'езда. Без слоў зграбе ў адну жменю... Праўда, у Косціка ў кішэні рэвальвер. Не выпускае яго з рукі. Сталь ад пальцаў такая гарачая, як і яго цела. З рэвальверам Косцік смела праходзіць каля пад'ездаў. Нават бачыць на рагу вуліцы вартавога паліцыянта — не вялікі страх. Крышачку толькі, калі абмінае, шэрхне цела.

І не заўважае, як прыбаўляецца яго крок. Вось ён і на сваёй вуліцы. Ідзе па тым баку тратуара. Вунь відаць агонь у акне, дзе спіць маці з Радкай. Яшчэ не ляглі спаць. Матка недзе чакае... «зараз прыйдзе, і будзем вячэраць».

«Вельмі шкада маткі!..» Яна любіць Косціка больш як хто. Яна толькі яго разумее. Каб расказаў ёй пра ўсё... А можа, і не зразумела б? Магла сказаць: «Я табе даўно казала!.. не трэба лезці не ў сваё!» Чаму не ў сваё? Чыё ж яно тады?

У роце перасохла, а піць не хочацца. Нутро гарыць нявыказаным болем. Успомніў матку — хацелася ўбачыць яе на адну хвіліну. Няхай бы цяпер была на вуліцы. А пад гэта — словы бацькі (яны вельмі глы-

бока астралі ў Косцікавым нутры): «Няхай ідзе вон з хаты! Вон, каб і нагі яго не было!»

Даўно мінуў сваіх бацькоў. Цяпер яшчэ быстрэйшы быў крок. Каб хутэй выйсці з горада. Уцячы ад гэтых страшных жандарскіх ценяў. Вось ён ужо і Прысадны тракт...

* * *

Раніцою ўся Крывая вуліца ведала: уночы жандары арыштавалі Бранявіцкага з жонкаю і з малою Радкаю. І ўсе ведалі, што сям'ю арыштавалі за сына. Косцік, гаварылі, уцёк з самых жандарскіх рук. За што хацелі арыштаваць Косціка — ніхто не ведаў. Жанчыны Крывой вуліцы дзівіліся:

— Ён жа быў такі спакойны. Нікому ніколі вока не запарушыў. Што ж бы такое?

А Фіма перадаў Дзядзьку аб арышце сям'і Бранявіцкага пад вечар.

— Косціка, напэўна, арыштаваў гэты самы шпік,— гаварыў Фіма.— Іначай — дзе ж мог дзецца?

Дзядзька маўчаў.

Яны сустрэліся ў маленькім пакойчыку Клаўдзі. Фіма цяпер добра знаёмы з Клаўдзяю. Яна прыехала з цэнтра... У Клавы адказная работа: ведае, дзе дастаць і як перавозіць пракламацыі.

Сядзелі за маленькім столікам — пілі чай. Была вельмі цяжкая хвіліна маўклівасці. Клаўдзя мяшала чай лыжачкай, наўмысна бразгала аб шкло шклянкі. Каб хоць чым заглушыць гэту прыкрую, нязручную маўклівасць.

— Сядуч вінават...— ізноў праказаў Фіма і пагля дзеў на Дзядзьку.— Трэба было неяк папярэдзіць Косціка. А то выпусціў шпіка з рук, той вярнуўся недзе — арыштаваў. Я не ведаю, што цяпер мне рабіць? Ты павінен паслаць мяне ў другое месца. Я павінен выехаць з горада...

Дзядзька маўчаў. Ён думаў аб другім.

Ніхто не знаў, як усё адбылося. Убачыў Косцік каля Фімавай кватэры Сядуча з Бронісем — хіба мог ведаць, хто яны? «Жандары... пайшлі к Фіму»... спяшаўся прамінуць Фімаву «майстэрню». А яны ішлі папярэдзіць Фіму — сказаць, які трапіў «камандзір» у іхнія рукі. Косціку тады ўяўлялася: на яго два-

ры — жандары! На Фімавым двары — жандары! Косціка спыніў жандар на вуліцы... Жандары напалі, уяўлялася, на ўвесь горад. Ведаюць думку кожнага чалавека. Вялікая аблава на людзей...

— Ніхто невінаваты,— парушыў урэшце Дзядзька сваю маўклівасць.— Я адзін сам вінават. А ты пакуль што застанешся ў горадзе...— сказаў Фіму.

— Я гавару аб факце, а ты вінавуціш сам сябе,— нібы Фіма і не чуў, што гаворыць, каб заставаўся ў горадзе. От, можа, яшчэ перадумае — згодзіцца, каб Фіма выехаў.— Ніхто не мог таго знаць,— казаў,— што ён ахраннік. Можа, нават, калі хочаш, ён той самы, каго мы шукалі? Ёсцека ж правакатары.

Гаварыў пра Дзядзькаву «віну»,— хацеў апраўдаць яго перад сабою, перад Клаўдзяю.

— Глупства вярзеш! — раззлавана ўзняўся Дзядзька з крэсла. Прайшоў да акна, абярнуўся: — Калі б ён правакатар — даўно пралез бы ў падполле. Ён меў бы не адзін адрас. Арыштаван адзін пароль — меў бы запасны. Ото ж мяне і збіла з тропу яго асцярожнасць. Не ён шукаў нас, а мы шукалі яго. І самае важнае — я згубіў празорлівасць, калі дэфензіва арыштавала дзяўчыну — Марысю Суравец. Было відавочна: яна трапіла ў дэфензіву толькі праз яго. Давялося гэтай сволачы верыць. Нават каб і не чакаў я камандзіра — мог паверыць...

Клаўдзя сказала:

— Яны арыштавалі Марысю, пэйна ж, наўмысна. Але чаго ты? Мы цяпер ведаем, хто ён.

— «Ведаем, хто ён»!..— пераказаў Дзядзька.— Віґдорчыку ад гэтага не лягчэй.— Зірнуў на Фіму.

— Я ж кажу...— баязліва праказаў Фіма.— Я павінен выехаць з горада.

— Нікуды не паедзеш! — рашуча сказаў Дзядзька.— У нас пачынаецца самая гарачая пара... Сёння пераначуеш... У цябе, Клаўдзя, я думаю, можна пераначаваць?

— Калі ласка! — адказала Клаўдзя.— Вось канапка... Яна ж вольная...

Гэту ноч Фіма дома таксама не начаваў. Сядуч расказаў, што Касцік вёў гэтага шпіка да Фімы. Кожную хвіліну трэба чакаць было жандараў.

— Прыйдуць, будуць пытаць,— развітаўся Фіма з жонкаю,— скажы — паехаў у горад Н. да свайго брата.

У кватэры нічога падазронага не засталося. Ды яно нічога і не было, а ўсё ж праверыў. Раніцою Фіма даведаўся: да яго ніхто не прыходзіў. Не мог зразумець: дэфензіва, напэўна, хоча забраць яго з яўным доказам. Яна ж не дурная. Ведае, што нічога ў яго не знойдзе. А можа, хочуць жандары прасачыць за ім, каб яшчэ натрапіць на чый-небудзь падпольны след? I адно і другое — выгаднае для ахранкі. Ніяк нельга заставацца ў горадзе.

Дзядзька меркаваў па-свойму. Сёння Сядуч памочнікам дзяжурнага па ахранцы. Заўтра Дзядзька скажа Фіму, што рабіць. Сядуч праведае хаця б сабе і тое: ці запісан Фіма ў кнізе «падазроных».

А тым часам сярод жандараў вось што:

Карзюк вярнуўся да Бранявіцкага кватэры — ірваў на галаве валасы.

— Косцік! Косцік! — зваў Косціка, бегаючы па двары як звар'яцелы. Ніхто не абзываўся. Тады вырашыў — Косцік, можа, пайшоў у хату. I ўжо ўзяўся за ручку дзвярэй — зайсці запытаць, а нехта адчыніў дзверы.

— Каго вам трэба? — запытаў незнаёмы.

— Косціка...— праказаў Карзюк,— дзе ён дзеўся?

— Тут няма ніякага Косціка,— сярдзіта праказаў чалавек.— Ідзіце і не дурыце галавы. Я ведаю, хто вы...

Цяпер толькі Карзюк зразумеў: ён трапіў з гарачкі не ў тыя дзверы.

«Гэта ж другі ганак... тут жыве гаспадар... Да чаго абалдзеў!»

Падышоў да ганка Бранявіцкага і паўглядаўся ў кухоннае акно. Нічога не відаць: акно завешана цёмнай фіранкай.

«Нельга траціць ні адной хвіліны...— шаптаў на бягу па вуліцы ў дэфензіву.— Нават і лепей, што я трапіў не ў тыя дзверы... Ён мне не паверыў бы, што я ўцёк з-пад арышту... Адкуль мяне ведае гаспадар?»

У дэфензіве здзівіліся: ніхто нікога не пасылаў на Крывую вуліцу. Адразу пазванілі Рытвінскаму. Той вылаяў па тэлефоне дзяжурнага. Загадаў праверыць нарады арыштаў. Праз паўгадзіны ўжо было вядома:

сярод ахранкі ёсць «здраднікі сваёй айчызне». Тэлефоны разбудзілі каменданта Векерта. Было загадана начальнікам аддзелаў праверыць сваіх людзей. Апрача паліцэйскай варты, на вуліцах горада з'явіўся ваенны патруль. Нікога не прапускалі без праверкі дакументаў. Больш падазроных забіралі ў паліцэйскую «да высвятлення».

Рытвінскі выклікаў Карзюка да сябе на кватэру.

— У якой яны былі форме?

— У жандарскай. Адзін, здаецца, радавы, другі — калі не памыляюся — з нашыўкаю сяржанта.

— Ці зможаш пазнаць у твар?

— Не ведаю. Я быў вельмі ўсхваляваны. Пастараюся, пан паручнік.

— Як яго, кажаш, імя?

— Косцік, пан паручнік.

— Я не аб гэтым!.. Як імя падпольнага арганізатара?

— Фіма, пан паручнік.

— Ну і чаму ж ты не запытаў адразу, як яго прозвішча?

— Я ж кажу: гэта старая ведзьма паклікала сына на кухню.

— Дзе б ён мог дзецца?

— Не ведаю, пан паручнік. Яму цяпер адна дарога, а нам дзесяць...

— Знайсці, што б там ні было!.. за ўзнагароду. Узнагарода — тысяча марак!

— Выбачайце... так сказаць... пан паручнік... вы забыліся: я ж служу не за грошы...

Рытвінскі адразу змякчыў тон:

— Я не забыўся... А тысяча марак нідзе не валяюцца!

...Назаўтра Сядуч паведаміў аб жандарскім настроі, і Фіма вярнуўся дадому. І ў гэту ноч да яго ніхто не прыходзіў.

— Дзядзька меў рацыю...— разважаў Фіма.— Пачынаецца гарачая пара... Дзе ж усё-такі мог дзецца Косцік?

А Броніська ледзь не папаўся. Карзюк распазнаваў, хто яго «арыштаваў» на Бранявіцкага двары і спыніўся на Бронісю.

— Такі самы... высокі...— звярнуўся да падпаручніка Закрэўскага.

— Высокія — два крокі ўперад! — скамандаваў Закрэўскі.

Падпаручнік меркаваў:

«Здраднік айчызне палічыць сябе невысокім — не выйдзе ўперад».

Чалавек дваццаць ступілі разам з Бронісем «два крокі».

— Ён? — запытаў падпаручнік.

— Не...— прамармытаў Карзюк.— Той больш стройны...

Карзюкова падазронасць пала на другога «высокага». Прызнаваў, няўпэўнена гаварыў:

— Гэта ж ты свяціў мне ў вочы ліхтарыкам? Э-э... ты, ты... Чаго ж маўчыш?

— Я не ведаю пана...— праказаў жандар.— Я ўчора быў у каравуле «Белага Дома».

— Ён! — сказаў Карзюк падпаручніку.— Па галасе пазнаю.

Яго ўзялі на допыт.

«Усё можа быць...— разважаў Карзюк.— А што думаеш: здраднік мог пайсці ў каравул нават наўмысна! Каб не падала падазронасць!»

Таго другога — з сяржанцкімі нашыўкамі — не распазнаў. Напэўна, было меркаванне: займацца з падафіцэрамі — небяспечна.

## Раздзел трэці

Пелі пеўні, калі Косцік прыйшоў у Стаўбуны да сваёй цёткі Настасі. Быў у цёткі летась улетку — ад таго не быў. Прыходзіў з маткаю ў госці. І Настася, бываючы ў горадзе, не мінае хаты свайго старшага брата Іллі.

Косцік добра ведае засценак Стаўбуны. Тут усяго пяць хат. Стаўбуноўцы жывуць між лесу, балот, як на востраве. Адзін выхад з іх «вострава» — цераз Доўгую грэблю. Яна і дапраўды доўгая і гразкая. Кожны год мосцяць лапкамі, возяць пясок, а прыйдзе вясна — ізноў размые стаўбуноўскую працу. «Калі б на добры лад,— трэба мост, а не гэтыя лапкі...» — і думаюць і гавораць стаўбуноўцы. А дзе ж возьмеш тае сілы? Затое выгоддзе сухім летам: можаш хадзіць, ездзіць па ілістым торфе, як па тым плюшы.

Цётка Наста дзіву далася, што прыйшоў пляменнік раннім досвіткам. Не пытала — толькі падумала: «Напэўна, нешта не так? Ад горада да Стаўбуноў бадай дваццаць вёрст. Калі ў госці, дык чаго ж ісці ўночы?»

А Косціку вельмі балела сэрца. Пакінуў горад... Недзе ўсе шукаюць... Што думаюць аб ім, дзе дзеўся? Ніхто нічога не ведае, што там адбылося...

Самая балючая была думка аб Марысі. Карзюк сказаў — «яе могуць расстраляць» — нібы ўсадзіў нож Косціку ў нутро.

«Што ж будзе? — без адхлання лезла ў галаву праз усю дарогу пытанне.— Хто цяпер выратуе Марысю? Карзюка арыштавалі... Фіму, напэўна, таксама... Чаму ніхто з нашага падполля не мае знаёмых камуністаў сярод палякаў? Бедная мая Марысечка... Малая мая...»

Яго трывожны, узбаламучаны настрой цётка Настася заўважыла адразу. Баялася толькі пытаць у пляменніка. Прыйшоў — сам раскажа чаго. Косцік і не мог ад яе хавацца. Ён жа не ведае, колькі прабудзе ў цёткі. Ды яму цяпер было ўсё адно. Коратка і ясна сказаў:

— Мяне, цёця, шукаюць палякі...

У гэтых словах не хацеў мець да цёткі просьбы. Толькі як сказаў — адчуў гэты намёк. Тады ў сваіх думках:

«А можа, яна што парадзіць?»

— Што ж ты ім зрабіў? — запыталася цётка.

Не быў прыгатаваны да адказу. Не ведаў, за якую «работу» шукаюць. І яшчэ не ведаў, што, як пелі пеўні, дэфензіва забрала яго бацькоў.

— Нічога не зрабіў,— адказаў Косцік,— але яны ведаюць — не цяпер, дык заўтра — нешта зраблю. Я ж камсамолец...

Цётка вытрашчыла вочы. Глядзела на пляменніка, як на якое дзіва. Яна і дапраўды не верыла сваім вачам. Хвіліну, бадай, маўчала:

«Як жа гэта: бацька неяк быў — нічога не гаварыў?»

Потым вырашыла:

«Гарадскія — адзін ад аднаго... не чакаць дабра — выракліся бога!»

Сказала Косціку суха, пакрыўджаным тонам:

— У нас табе, нябож, нельга жыць. Кожны дзень

яны гойсаюць як апантаныя. Усё накладаюць гэту рэквізіцу. Выганяюць фурманкі вазіць сена на станцыю. У адной Дараўцы шмат тысяч накладзена. Пакуль вывезуць — кожны дзень будуць круціцца. А потым, глядзі, ізноў нешта прызначаць. З нашых Стаўбуноў прызначылі тры каровы. На тым тыдні насілі ў Дараўку яйкі, масла і воўну... Яны ж усё бяруць. Я не ведаю, калі яны ўгамуюцца... Табе, нябож, нельга ў нас... Мне хаты не шкода, а цябе. Што будзе, калі цябе зловяць...

Косцік згубіў сваю надзею. Меркаваў пабыць у цёткі Настасі, пакуль апамятаецца ён, што рабіць. Думаў пасладь цётку ў горад, з пісулькаю да Боры (цырульня не падазронае месца: усе заходзяць). Калі няма Фімы, Бора знойдзе каго-небудзь (можа, самога Дзядзьку). Запытаецца, перакажа...

На гэткія цётчыны словы запяклося ўсё ўсярэдзіне. Была і крыўда і боль. Дзе ж дзецца?

— Бывайце здаровы! — надзеў шапку і хацеў ісці.

— Куды ж ты, Косця? — схамянулася цётка ад яго нечаканасці.— Адпачні! Паснедаеш. Пабудзь сабе дзянькі два... Можа, не навярзуцца. Будзем назіраць: схаваешся на гару, калі што.

— Не... Я пайду...— яшчэ большая была крыўда.

— Хай хоць развіднеецца...

— Я зайду к Дарахвею,— сказаў Косцік.

Настася супуцілася, перапытала:

— К якому Дарахвею?

— К Рыпінчыку...

— Яго ж няма! — узрадавалася, што Косцік нічога не ведае. А ў думках: «Хай ведае, што ў нас нельга жыць».— Дарахвеевага бацьку пагналі ў горад,— сказала Настася.— Нехта, пэўна, падказаў палякам. Дык ты нічога і не ведаеш?.. Колькі тут было калатні!

І расказала, што на тым тыдні ў Воўчым лагу разброілі трох жандараў. Яны везлі на вазах кабаноў. Да іх выйшлі з лесу, ссадзілі, забралі зброю, фурманкі завярнулі назад...

— За гэта і арыштавалі Дарахвеевага бацьку,— казала Настася,— нібыта данесена палякам — гэта ж Дарахвей выходзіў з лесу з сваімі партызанамі. Кажуць — будуць трымаць бацьку, пакуль не прыйдзе сын. Дзе ж ён табе, нябож, прыйдзе! Каб яны яго ўвабралі — яму ж не жыць!

Косцік і не слухаў больш цётку. Сказала — Дарахвей у партызанах — загарэлася нутро. Дарахвей — яго дружака! Бываў у цёткі — пазнаёміўся з ім. Дарахвей прыязджаў у горад — заходзіў да Косціка. Ён дастаў Дарахвею для грубкі старую кафлю...

«Абы толькі знайсці Дарахвея! Можа, і Карзюк быў разам з імі?..»

— Ведаеце, што я вам маю сказаць...— загаварыў Косцік з жвавасцю,— я пайду ў лес. Мне трэба што б ні было знайсці Дарахвея!

— Яны, кажуць, у нас, у Воўчым лагу,— узрадавалася цётка.— Пройдзеш грэблю і адразу налева, скрозь паўз балота дарожка. Ад нас, лічаць, ды яно так і будзе — дзве вярсты. Гэты Воўчы лог — несхадзімы лес! Там ім вельмі добра! Каля лесу густы амшарнік. Там ёсцека градкі. Яны, пэўна, на гэтых градках недзе зрабілі сабе цёплую будку.

— Вы мне толькі дайце што-небудзь з сабою,— забыўся Косцік на крыўду.— Дайце бульбы... і, калі ёсць, які непатрэбны нож.

— Мой ты сынок! — расчулілася цётка.— Я табе дам на дарогу скварачку. Што з тае бульбы...

— Можа, я сяды-тады зайду да вас,— гаварыў Косцік,— вы не закрыўдуйце. Можа, дрэнна будзе з харчамі. Я вам потым заплачу...

— Мой галубок! — рада была, што не будзе дрыжаць ад страху яе сэрца.— Хто тыя грошы будзе браць! Абы яны цябе не злавілі!

Так і не давялося пляменніку быць госцем у сваёй цёткі. Пайшоў у лес, і тры дні не было. Хадзіў па лесе і нідзе не напаткаў партызан. Нібы той падарожнік ці начлежнік — клаў у ночы пры балоце агонь. Каб гэтак быў не трывожны час — вунь які апанаваў бы страх. Не параначаваў бы нават адной ночы. А так — нічога.

Косціка супакойвала думка, што ў лесе ён не адзін. Мала, што ён ніяк не спаткаецца з чалавекам. Разумеў, што партызаны, можа, і бачылі яго, ды не будуць сябе паказваць. Смялей адчуваў таксама, калі абмацваў у кішэні, нагрэтую сваім целам, сталь рэвальвера. Спаткаецца з воўкам — ёсць чым адказаць. Чалавека стрэне — таксама зможа гаварыць. Праўда, у яго ўсяго сем патронаў...

На трэцюю ноч Косцік ізноў прыйшоў да цёткі Насасі. Яна спаткала Косціка ціхім шэптам:

— У Такельчыкавых начуюць два палякі...

Гаварыла і дрыжала ад страху. Разумеў Косцік, што баіцца яна, хоча, каб хутчэй пайшоў.

Нават і шапкі не здымаў і агню не дазволіў паліць. Папрасіў у яе, ці няма чыстай паперы. Знайшла ўпоцемку на паліцы.

— Гэльчын сшытак,— сказала,— бяры. Гэлька ўсё адно ў вучылішча не ходзіць. Прыехала была ў Дараўку настаўніца, хацела вучыць — дараўскі войт не дазволіў. Сказаў, прышлюць польскую вучыцельку.

Ізноў дала Косціку з сабою. Апрача хлеба, бульбы, дала кавалачак абвараанай бараніны.

— Зарэзалі ўчора авечку,— сказала.— Котная была, вельмі шкода... Мой сказаў, усё адно забяруць палякі. Дык хоць самі паспрабуем — паскаромімся.

— А дзе ж дзядзька? — цяпер толькі ўспомніў Косцік Настасінага мужа Лявона. Быў першы раз — гэтулькі было думак, і ў галаву не прыйшло.

— У Зыкаўцы,— адказала Настася.— Там жа згарэў мост. Кажуць, што зыкаўцы спалілі наўмысна, каб не было кудою праехаць польскаму абозу. Гэта ж яшчэ было, калі нашы адступалі.

Настася расказала, што ў Зыкаўку палякі сагналі, можа, тысячу чалавек. І з коньмі, і хто з чым. І мост робяць, і наскрозь каля рэчкі гародзяць калючым дротам.

— У гміне ведалі, што мае ў руках талент,— гаварыла, калі Косцік ужо трымаўся за клямку,— дык майго і пазвалі. От, ад маладзіковай нядзелі — пяты тыдзень. Прыйдзе, гэтак, не распранаецца, возьме ў торбачку і начуе там. Кажуць — яны заплацяць. Не хацела б я іх платы. Самі няхай бы плакалі. Цяпер бяруцца маразы, і прастудзіцца можна.

Ад такіх слоў у Косціка яшчэ больш сціскалася сэрца. Што толькі робіцца! Людзі паразганяны па лясах. Людзьмі напоўнены турмы. Людзей абіраюць да ніткі. Плакаць не даюць людзям! Што будзе?

Ішоў да цёткі і ўжо ведаў, нашто яму папера. Не мог нідзе паказацца, каб купіць. Аловак быў у кішэні, яму толькі трэба была папера. Ён спіша ўсю паперу. Ён расклеіць па дарогах свае слова. Няхай гэта будзе бяссільна, а ён выкажа свой гнеў. Калі былі б пракламацыі! Ён не ведае яшчэ, як пішуцца пракламацыі, толькі адчувае, што пэўна ж у іх вялікая нянавісць да

ворага. І ён будзе цяпер пісаць. Будзе крычаць усім сваім голасам на ўвесь свет.

«Ратуйцеся! — будзе крычаць.— Паўстаньце ўсе, хто можа трымаць у руках касу, вілы... Ідзіце і ганіце катаў, крывасмокаў. Ганіце, каб не стагнала зямля ад панскага бота. Чаго ім трэба ад гаротнага вякамі народа? Народ толькі скінуў ланцуг няволі. Яны ізноў надзелі гэты ланцуг і закавалі народ. Дакуль жа цярпець?!»

А яго бедная Марыся... Што цяпер з ёю? Яна ж не паспела зірнуць на свет поўнымі вачыма. Што робяць яны з гэтай сінявокай, як васілёк, дзяўчынаю? Што цяпер з Карзюком? Дзе зараз Фіма?

* * *

Ідучы каля Ліповай грады, Косцік наткнуўся на выталачанае логава. Вялікае вогнішча, а каля яго: цэбар з перагоннаю брагаю, заднёная з абодвух канцоў бочка з дзірачкаю ў верхнім дне. Дзірка не ад шпунта, а пракручана наўмысна. На вогнішчы — раз'едзеныя агнём жарсцвяныя каменні. На каменні — цынкавы бітон з-пад малака. Яшчэ не стух агонь. Можа, хто ўбачыў Косціка ды ўцёк.

Адразу не здаўмеўся, што гэта нехта гнаў самагонку. І не таму, што не здаўмеўся, а не хацелася даць веры. Нібы зрабілася сорамна перад самім сабою за некага, нібы з'явілася за нечую такую работу крыўда. От, нехта зняважыў яго, аблаяў непрыстойным словам. Ён шукае партызан, а тут — на́ табе.

«Таксама нехта хаваецца ад палякаў...» — падумаў Косцік. Хвіліну стаяў, глядзеў на цынкавы бітон. Потым з крыўднаю ўсмешкаю штурхнуў яго злёгку нагою. Бітон ссунуўся з жарсцвянага камення, перакуліўся на бок — глуха бумкнуў. У ім была гарачая вада. Праз такую самую круглую дзірачку, як і ў бочцы, вялікімі глыткамі булькала — вылівалася прызапашаная жоўтая вада.

І ад крыўды і ад сораму за некага Косцік пайшоў ад гэтага логава. Ішоў з невыказна-блытанымі думкамі і не заўважыў, як выйшаў з лесу на бальшак. Вунь ужо было відаць Дараўскае поле. Дарога ціха выходзіла з лесу правым бокам. Яна кралася, тулілася ў лясным цені — абгінала лес шырокаю дугою. Косцік

не пайшоў па бальшаку, а перайшоў цераз яго, ішоў лесам. Вунь за лясным каленам, пры дарозе стаіць карчма. У ёй цяпер ніхто не жыве. Некалі, едучы з дараўскага кірмашу, у гэтай карчме рабілі перадышку. Пілі і біліся да паўсмерці. Не раз карчмару Довыды выбівалі вокны. Бывала, пасля бойкі сабака мог нават хлябтаць чалавечую кроў. А неяк аднойчы ўночы перарэзалі ўсю сям'ю Довыда-карчмара. Напэўна, шукалі грошай. Невядома, ці былі грошы ў Довыда, а яго больш не стала. Пахавалі сям'ю вунь на той кудзерцы за бальшаком. З таго часу ніхто больш не жыў у карчме. Палохалі, напэўна, цені выразанай сям'і. Стаіць з таго часу карчма голым будынкам, як помнік мінулага. Чалавек праязджае каля яе — паганяе каня. Яна нагадвае заклятае месца. Вецер свішча па яе завуголлі, і ходзяць гаворкі, што ў карчме жыве нячыстая сіла. Тут, казала маці Косціку, забілі некалі Зуброўскага, каваля. Вынеслі з карчмы з распоратым жыватом. Пакуль клалі на драбіну — ён і сканаў. Гэта карчма, уявілася Косціку, цяпер ажыла. І стаіць яна не як помнік, а як сапраўднасць гэтага часу. І нават весялей выглядае сваім выветраным будынкам. Нібы чакае гасцей. От зараз з'едуцца сюды з усіх дарог людзі, і яна ізноў напоўніцца кірмашным шумам і лямантам. Бо жыла карчма ў такі час, які ізноў прыйшоў да яе.

Косцік адыходзіў на лес, далей ад бальшака. Ішоў і глядзеў, каб знайсці гладкі пень.

«Сяду, напішу і наклею на сцяне карчмы,— разважаў Косцік.— Самае зручнае месца».

І не заўважыў, як ні адсюль, ні адтуль нехта да яго загаварыў.

— Чалавеча...— пачуў Косцік голас.— Дапамажы, браце...

Узняў вочы і за дзесяць крокаў убачыў: запрэжаны конь, і на возе — дровы. Пайшоў да чалавека, як нічога і не было. Ішоў і думаў: «Адкуль ён узяўся... Які вялікі воз натурыў...»

Чалавек падпяразаны па кароткім латаным на плечуках кажусе папругаю. На паясніцы, за папругаю, сякера. Шапка на галаве — з заячай скуркі, сваёй работы. Твар — абсівераны. Доўгія рыжаватыя вусы, барада, можа, учора паголена.

— Кола заскочыла за корань... конь не можа

ўзяць з месца,— гаварыў пажылы чалавек, калі Косцік падышоў да воза.— Не хочацца скідаць дроў. Падсабі, браце, пад зад, конь, можа, і выхапіць.

Косцік моўчкі ўзяўся з чалавекам за задняе кола. Паднялі воз, а конь кідаўся ў бакі, тупаў на адным месцы.

— Но! Но! Каб цябе...— ахрыплым, надломаным голасам крычаў чалавек на каня.— Воўчае мяса!.. Каб ты здох!..

— Не возьме...— апускаючы воз, сказаў Косцік.— Трэба падважыць калом.

— Я яго вазьму!..— злаваўся чалавек і смаргануў каня за лейцы.— Ваўкарэзіна!

— Конь тут не вінават...— паглядзеў Косцік на чалавека. Чалавек моцна засопся і таксама стаяў з апушчанымі рукамі. Яму, пэўна, не хацелася высякаць кала. А можа, злосць была на каня, што кола ад пад'ёму ледзь не пераходзіць цераз корань, а конь не бярэ.

— Давай, браце, яшчэ паспрабуем,— сказаў чалавек.— Но! Но!

Конь цяпер напяў паўшоры, выгнуў гужы і рвануў з усёй сілы. Кола пераскочыла цераз корань, і воз ад'ехаў ад пня.

— Нашто ж было класці такі воз! — заўважыў Косцік.— Гэта ж можна надарваць каня.

— Нічога не папішаш, браце,— ссунуў чалавек на патыліцу заячую шапку і абцёр з ілба пот.— Малы воз прывязеш — паедзеш па другі.

— А вы хіба не сабе? — цікавіўся Косцік.

— Каб жа сабе...

Чалавек глядзеў некуды ўдалячынь. Можа, ён каго бачыў, а можа, і так. Вочы ў яго, здаецца, слязіліся. Можа, гэта ад старасці, а можа, трапілі кроплі поту. Чалавек не абціраў мокрых вачэй, а толькі міжвольна павёў рукою — то сюды, то туды — па рыжаватых вусах. Змоўчаў і ўрэшце сказаў:

— Стойка. І скажэце,— звярнуўся да Косціка,— стойка дык стойка. Выдумалі яе палякі, і няхай была б для іх. Дык вы думаеце, для каго я вязу гэтыя дровы? — для Ялавіцкага. От што горш за ўсё крыўдна. Трэба адбываць стойку для Ялавіцкага.

— Хіба ў яго няма сваіх коней? — нібыта нічога не ведаючы, запытаў Косцік.

— Коні-то былі... пазабіралі яго коні. Адыходзілі бальшавікі і забралі, паколькі была камуна. Забралі ў абоз. Але ў Ялавіцкага засталася, можа, цэлая каламажка золата. Мог купіць і мецъ коней. А хто ж вы будзеце? — раптам перавёў чалавек гаворку.

— Я...— запнуўся Косцік і паправіў свой тон. Ён гаварыў цяпер нібы здзіўленым голасам. У яго тоне было: «Што, ты не бачыш, хто я?»

— Я хадзіў у Зыкаўку. Там робяць мост. Хацеў, каб на работу. Не прымаюць,— гаварыў, каб чым больш было слоў, каб захаваць у словах сваю збянтэжанасць,— кажуць, ужо набрана арцель. Іду дадому. Я жыву ў горадзе. Можа, вы параіце работу? Я нядрэнны муляр. Бацька мой таксама муляр...

— Цяпер цяжка...— адказаў селянін.— Кожны хацеў бы зарабіць, а няма дзе. Дарам — колькі хочаш работы, а за грошы — ні гу-гу. Ды чорт яго ведае з гэтымі, хоць бы сабе і зарабіў, грашыма? Якая цана гэтым маркам?

Косцік усміхнуўся і бачыў: селянін, здаецца, мала дае яму веры. Ён, мабыць, цяпер думае: «А якой ты работы шукаў у гэтым лесе?» Такая думка мала абходзіла Косціка. Хай сабе думае. От яны зараз разыдуцца і, можа, ніколі больш не спаткаюцца. Ёсць аб чым разважаць.

І селянін ужо крануўся з месца да свайго воза. Косціку хацелася яшчэ пагаварыць з гэтым чалавекам. Вунь як рад, што напаткаў за гэтыя дні жывога чалавека. І Косцік добра разумеў яго настрой: гэты селянін ненавідзіць белапалякаў. У яго, бадай, не ад старасці і не пот быў на вачах, а жывыя слёзы. А мо ён ведае, дзе тут партызаны?

Косцік ступіў да воза, ды зусім не тое, што хацеў запытаць:

— Вам, можа, Ялавіцкі заплаціць?

Селянін зірнуў на Косціка, і ён убачыў: на твары селяніна была скрыўленая ўсмешка. Папраўляў пасак на падсядзёлку і, не гледзячы на Косціка, гаварыў (такім запытаннем Косцік, бадай, пакрыўдзіў яго):

— Заплаціць на тым свеце вугольчыкамі.

Было нязручна, і Косцік узяў свой праўдзівы тон, каб паправіць сябе:

— А я, ведаеце, не павёз бы... Ялавіцкі не мае пра-

ва браць стойкавую фурманку. Стойка, як вы кажаце, для палякаў... Пакольні яны сёння гаспадары. Не хапала яшчэ нейкіх Ялавіцкіх.

— Ідзіце і скажыце войту,— таксама раздражнёна адказаў селянін. У яго голасе ўсё ж Косцік адчуў маленькае задавальненне. Селянін больш ахвотна дасказаў: — у іх жа адна шайка-лейка. Яны ездзяць адны да адных і госцяць адны ў адных. Сёння вунь Ялавіцкі спраўляе «дзяды», дык нават прыедуць на матамабілі аж з горада. Ляўшак — Ялавіцкага парабак — казаў.

Селянін на кані спагнаў сваю крыўду да апошніх слоў. Смаргануў за лейцы, і сухія дробныя галінкі затрашчалі пад коламі. Косцік так і стаяў разгублена на тым самым месцы. Бачыў, як ён праехаў проста, а потым выехаў на лясную дарожку. Гэта дарожка павярнула на бальшак.

«Цяпер кола не западзе...» — падумаў Косцік, праводзячы селяніна сваім позіркам.

Калі ад'ехаў воз і схаваўся за густымі лапкамі ельніку, тады Косцік падышоў да высокага свежага пня. Стаў каля яго на калені, дастаў сшытак і напісаў цэлую старонку.

Вось што напісаў Косцік:

«Балюеце, паны, і п'іцё чырвонае віно. Ведайце, што не віно п'іцё, а нашу кроў! Дык дакуль жа вы будзеце смактаць яе з нас, як тыя п'яўкі! Дакуль будзе пакутаваць краіна? Вы, душагубы, чаго прыйшлі? Хто вас зваў? Вы хочаце затапіць у нашай крыві рэвалюцыю? Гэты нумар дарма вам не пройдзе. Нашы пакуты дарма для вас не абыдуцца. Нашаю крывёю апырсканы вашы англійскія мундзіры і нават абрус вашага прыхвасня, полупанка Ялавіцкага. Паглядзі зараз, пане Ялавіцкі, на свой абрус. На ім напэўна ёсць чырвоныя плямы. Гэта ж не віно, а наша кроў. Вы захліпнецеся ёю! Ці заўтра, ці паслязаўтра віно адрыгнецца вам.

Мы хацелі сёння ж, у такі ўрачысты час, аддаць твой двор чырвонаму пеўню. Няхай пакляваў бы! Цікава бачыць было б, як памагалі б табе тушыць жандарскія чыноўнікі. Але мы пашкадавалі. Не, не цябе. З табою мы яшчэ будзем гаварыць. Мы пашкадавалі сцен гэтых будынкаў. Гэтыя сцены — наша святыня. Сярод іх была наша першая камуна. І яна ізноў вер-

нецца сюды. Будынкі для нас тады як знойдуцца. Ды гэта ж нашы мазалі!

Напамінаем вам, паны-ягомасці: выбірайцеся ад нас за пагодаю. Каб вы тут і не смярдзелі і каб вашага духу не было! Ведайце, што нас мільёны! І рэвалюцыі вы ад нас не адбярэце ніколі!.. Вон з нашай зямлі, на якой дрыжыць раса з нашага поту і слёз! Вон са сваімі полупанкамі і прыхваснямі!

Падпісалі мы — партызаны!»

Склеіў печанаю бульбаю канверт і паклаў напісанае. Заклеіў і на канверце напісаў: «Асабіста. Пану начальніку».

...Сярод вечара Косцік стаяў каля Ялавіцкага дома з чорнага хода. Пастукаў, і яму адчыніла жанчына. Перадаў свой пакецік і сказаў:

— Пану начальніку.

Жанчына зачыніла дзверы, і ён хацеў ісці. Ужо ступіў ад ганка некалькі крокаў і закамянеў: аднекуль, нібы з-пад зямлі, вырас паліцыянт.

Усё было для Косціка так нечакана. Адзін момант, і ўсё скончана.

— Хто ходзіць? — запытаў паліцыянт.

— Я...— раптоўна з невыказнаю смеласцю адказаў Косцік. І недзе глыбока ў сваім нутры дадаў: «папаўся...»

Паліцыянт моўчкі падыходзіў да Косціка. Уцякаць не было калі.

Момант быў як іскра. Вылецела іскра з коміна і стухла. Косцік схапіўся за сваю міжвольную смеласць, як тапелец за саломінку. Кожная хвіліна вырашала яго лёс.

Зараз прачытае польскі начальнік яго ліст і рынецца на пошукі. Нёс ліст для перадачы і разважаў: «Пакуль перададуць ліст начальніку, пакуль будзе чытаць — я ўжо буду ў лесе. Тут жа недалёка». І раптам яго планы парушаны. Чамусьці, як на кіналенце, мільганулі скрозь змрок Марыся, Фіма, матка... Марыся была зусім выразнай.

— Хто гэта «я»? — стаяў перад Косцікам паліцыянт і ўглядаўся ў твар. Нібыта пазнаваў свайго даўнейшага знаёмага.

— Ліст...— адказаў Косцік.— Я прыносіў з Дараўкі пану начальніку ліст. Мяне прыслаў дараўскі войт...

І зусім авалодаўшы сабою:

— Ці няма ў пана закурыць...

— Ідзі, ідзі! — адказаў паліцыянт.— Тут стаяць не дазваляецца.

— Я ж нічога... Я думаў — пан курыць... Бывай, пане, здароў!

Косцік паспеў ступіць, можа, пяць крокаў, як ізноў пачуў той самы голас.

— Стой! — крыкнуў паліцыянт.— Ідзі сюды!

Не ведаў, што яму рабіць. Кінуцца бегчы, можа, і не дагоніць. Але ў паліцыянта вінтоўка, яму і даганяць не трэба. Ад першага стрэлу на такой адлегласці ён пападзе ў сваю цэль. Вечар цёмны, а ўсё ж такі голае поле. Каб ішоў хаця Косцік к саду, к будынкам... Была рашучая хвіліна. Косцік абмацаў у кішэні рэвальвер. Выстраліць і забіць? Можа, поўная хата гасцей-палякаў, і ён не ўцячэ. Напэўна ж, многа, калі стаіць варта. Можа, кінуцца і задушыць голымі рукамі? Спыніўся і сам не ведае, як здарылася — вярнуўся назад. Вось зараз начальнік выскачыць з хаты, і ўвесь Ялавіцкага фальварак напоўніцца гоманам.

— Пачакай,— сказаў паліцыянт,— пэўна пан паручнік будзе даваць войту адказ.

— Войт сказаў, што ніякага адказу не трэба,— ледзянымі вуснамі гаварыў Косцік.— Я магу... Вы запытайцеся, пане... Бо мне вельмі холадна чакаць.

Паліцыянту, мабыць, даўно хацелася зайсці ў пакой. Прывёз паручніка на машыне ды яшчэ стаіць цэлы вечар на дварэ — пільнуе, склее. Можа, ад войта добры які ліст. Цяпер усе падпіўшы. Гаспадар убачыць яго — зразумее. Колькі ж ён, як прыехалі, там на кухні выпіў? — нейкую кроплю.

— Чакай тут і глядзі, каб ніхто не хадзіў,— сказаў паліцыянт,— а я запытаю.

Ён ступіў на ганак — уваход цераз кухню — і схаваўся за дзвярмі.

## Раздзел чацвёрты

Пачатак папярос «фроў-фроў», або дваццаць пяць арыштаваных — гэта ўсё роўна. Пан Векерт так і кажа. Бразгае пальцамі па пачку папярос — тра-т-та-та — і быццам нічога тут асаблівага.

Няма месца... Гм... Сфарміраваць наступны «пачак». Зрабіце адбор, пане Рытвінскі. Шліце ў тыл.

«Белы Дом» не змяшчае арыштаваных. Кожны, бадай, тыдзень трэба высылаць з гарадка не менш як адзін «пачак». Пасылаюць найбольш у Лодзь, у Гродна, нават да Варшавы. Там яны замяняюць мабілізаваных на фронт рабочых, іх разбіраюць пад сваю адказнасць абшарнікі маёнткаў. Гэта ўсіх, хто супроць рэквізіцыі, і некаторых палітычных, што дасканала недазнаны. От ёсцека падазронасць, што ён, каторы моршчыць твар, пазіраючы на польскую ўладу, і нават, напэўна, другому нешта шэпча, але не ўзяў такога пан Векерт за руку і не абзывае яго злодзеем. Добра вызнаных бальшавікоў так далёка не пасылаюць. Па дарозе такі чалавек можа праламаць у таварным вагоне краты ды скокнуць праз акно на поўным хаду цягніка. Небяспечна. Зусім дазнаным і непапраўным бальшавікам пан Векерт дае раду на месцы... Тых, на якіх тлее, як кнот, надзея, пасылае ў цэнтральны горад Беларусі. Будзе, урэшце, тое, што нельга папраміць гэтых людзей — там дадуць рады таксама.

А Марысі пашанцавала. Яе нікуды не вывезлі, а толькі перавозілі. З «Белага Дома» на Памеранцавую вуліцу.

Здарэнне з Карзюком паскорыла Марысін допыт. Да гэтага часу не было патрэбы пытаць у Марысі: у Карзюковых руках быў Косцік. Цяпер Косцік, як той вюн, выслізнуў з яго рук. Засталася адна надзея на Марысю. Карзюк трымаў у руках нітку, толькі каб не парвалася яна, каб разматаць увесь клубок да канца. Трэба ж знайсці падпольнага арганізатара — Фіму. Абы толькі сказала Фімава прозвішча, ды дзе ён жыве. Не тады ж шукаць гэтага Фіму, як ён, можа, узбунтуе супроць польскай улады ўвесь гарадок.

У каморы разам з Марысяй было семнаццаць жанчын. Найбольш усё з вёскі. Бадай усе жанчыны не такія, як Марыся — ціхія, а з голасам. Была вельмі адважная Ліза. Першы раз у жыцці Марыся пачула словы, ад якіх вянуць вушы. Прынясуць суп (у ім дзве крупіны і лісток чарвівай капусты), а яна як пусціць яго рукою наводліў, ды як скажа, як скажа... І такая стройная, гарадская. Дзве доўгія чорныя касы. Абкруціць касою шыю і ўсё хоча задушыцца. Да

яе прыходзіў на кватэру польскі афіцэр. Потым гэты афіцэр сказаў, што яна ўкрала яго кашалёк. За такія словы яна збіла афіцэра кулакамі і выгнала з пакоя. А праз дзень яе забралі і запісалі па кнігах «прастытутка». Яна задумаецца, бывае, а потым як заплача! Праз хвіліну ізноў смяецца і нават мармыча пад нос заўсёды тое самае:

«...Наши сердца, как перчатки, изношены.
Нам нужно долго и много страдать...
Чьей-то жестокой рукою мы брошены
В эту большую кровать...»

Тадора Рысь прачнецца ўночы і, нібы звар'яцела, стукае кулакамі ў дзверы і крычыць: — Арыштуйце майго Даніка! Дайце мне сюды Даніка! Я не вытрымаю!

Данік — яе трохгадовы сын. Бацька зрабіў яму з лубу на двух колцах каляску. Ён возіць у ёй жоўты пясок і кошку-рыску. Не хоча, бывае, кошка ездзіць — выскаквае з каляскі на поўным хаду. Тады ў Даніка на кошку вялікая злосць.

— Дурная,— кажа Данік,— каб мяне хто вазіў, я б цэлы дзень ездзіў.

Дык хто такога будзе забіраць. Ён дома з сваёю сямідзесяцігадоваю бабкаю Тэкляю.

Тадору гэтымі днямі пазвалі, і больш яна ў камеру не прыйшла. На нарах заняла яе месца Агапа Карнейчык. Хацела заняць месца Марыся, дык Агапа кінула толькі адзін позірк. Нібы тры грошы дала позіркам, гаварыла Марысі: «Ты яшчэ, дзеўка, маладая. Паспееш наляжацца на нарах»: Марыся, бадай, і згадзілася. Агапа намнога старэйшая. Магла быць Марысінай маткаю.

Агапа Карнейчык сядзіць не за сябе, а за свайго Максіма. Яе муж проста здурнеў. Прыехаў паліцыянт браць авечку, а ён узяў ні з сяго ні з таго штурхнуў паліцыянта ў грудзі. Хацеў не даць авечкі.

— Няхай бы лепш яна здохла! — кляла Агапа авечку.— Няхай бы браў... можа, не праглынуў бы, задавіўся б... Дзе ж гэта відана, мае людцы, каб перакорам быць...

Тады суседзі параілі Максіму хавацца. Гэта ж было відавочнае праціўленне ўрадоўцу ў час выканання службовых абавязкаў. І ён схаваўся недзе ў лесе, а жонка была дома...

У камеры вельмі цесна. Усе «новенькія» спяць покатам адна каля другой на падлозе. Уночы бегаюць па нагах і зусім не баяцца пацукі. Яны як каты. І нават такія свойскія. Першыя ночы Марыся дрыжала і ўскрыквала. Марыся з самага маленства баіцца пацукоў. Потым звыклася. «Яны толькі бегаюць, а не кусаюцца».

Павялі Марысю на допыт зусім нечакана. Яна ўжо ўхуталася сваім рабым паліто, што тады падала ёй Варвара Міхайлаўна.

Марыся драмала. Думак нават не было ў галаве, а нейкая пустэча. Аб чым думаць? Усё адно яе не выпусцяць. Казала, што шынель брата, за брата могуць не выпусціць. Сядзяць жа гэтыя жанчыны найбольш за сваіх мужоў. Перш-наперш на ўспамінак прыходзіў Косцік. Што ён цяперака робіць? Ці думае аб ёй? Марыся ўжо ведае: нікога, каб пабачыцца, не пускаюць. Нават свайго роднага бацьку. Можна перадаваць падачу, гэта праўда. Але і падачу атрымаеш на другі дзень. Не паспяваюць прагледзець: ведама, гэтулькі людзей! Косцік мог бы перадаць хаця хлеба. Напэўна, яму няма як, што не прыходзіць.

Яна гэтым вечарам засынала ў блытаных марах, калі забразгалі перад іх дзвярмі замком, потым заваламю. Кожную ноч, бадай, адчыняюцца дзверы — мала што. Бывае, і ў такую пару выклікаюць назірачыя чыё-небудзь прозвішча, але найрадзей. Каго выклікалі ў такі час — назад не прыходзіў. Назаўтра пыталі ў назірачага, дзе Тадора або Манька, і ён гаварыў — «вызвалена». І калі цяпер адчыніліся дзверы камеры ды назірачы з жандарам паклікаў Марысю, у яе нават бліснула радасць. Нібы прамень сонца выйшаў з-за хмары, такая была радасць.

«Можа, мяне вызваляюць?..»

А назірачы ёй сказаў:

— Бяры свае лахманы.

Яе павялі па ўсходах — знізу ўверх. Назірачы ішоў паперадзе, а жандар ззаду. Ішла, і ў яе калацілася сэрца.

«Няўжо выпусцяць... Няўжо буду ісці па вуліцы адна... Якая цяпер вуліца? Мусіць, апалі на дрэвах усе лісты? Што робіцца ў маім пакойчыку... Напэўна — холадна. Папрашу ў Варвары Міхайлаўны на раз прапаліць. Пэўна ж усё зацвіло сырасцю. Вазо-

ны гэтулькі часу не паліваліся... Малады фікус... флянс. Пасадзіла, і прыняўся. Напэўна, прапаў ён? А можа, палівала Варвара Міхайлаўна. Наўрад. Адна сярод вуліцы...»

Ад радасці Марыся забылася. Ішла за назірачым і ўбачыла, што яго папруга з аднаго боку пад хлясцікам шыняля, а з другога — наверсе. Папруга не закладзена за хлясцік як трэба, і ён тарчыць закамечана, адтапырана.

— Папраўце папругу...— сказала Марыся і прыбавіла крок цераз адну ступеньку.— Пачакайце, я вам папраўлю...

Назірачы адразу агляну ўся. Закамянеў на адным месцы і, кідаючы на Марысю прарэзлівы позірк:

— Ты што?! — змераў яе маленькую постаць кіпучым позіркам.— Хамка!.. Смяяцца будзеш з мяне?!

Яна апусціла працягнутую руку, якою хацела паправіць яго хлясцік. А ён размахам сваёй рукі штурхнуў усю яе, маленькую, наперад. Яна не ўпала, а толькі спатыкнулася. Яна дакранулася каленам да вострага канта ступенькі і пайшла, кульгаючы, абапіраючыся аб халодную сцяну камяніцы.

— Холера!..— праказаў назірачы, ступаючы за ёю на другую ступеньку. Марыся забылася на боль. Самая страшная апанавала цяпер думка: яе не выпусцяць! Нашто гаварыла пра яго хлясцік!

Марысю прывялі ў пакой і пакінулі. Увайшла і сама не ведала, што рабіць. Нікога ў пакоі няма. Адна сярод цішыні. Вунь каля сцяны плюшавая канапа. Проста ад дзвярэй чорны, на точаных ножках, стол. Пад ім — дробнаквяцісты вішнёвых фарбаў дыван. Збоку каля стала — два венскія крэслы, а за сталом — крэсла з высокаю вузкаю плеценай спінкай. На стале пад белым абажурам — лямпа. Яна не гарыць. Пакой асветлены вялікай электрычнай лямпачкай з-пад самай столі.

Марыся ўбачыла: над плеценым крэслам, на сцяне, партрэт вусатага пажылога мужчыны. Мужчына з пагонамі, а на грудзях шмат медаляў.

— Нейкі паляк жыве...— падумала Марыся.— І люстэрка ёсць...

Яна ўбачыла ў люстэрку ўсю сябе. Яно між двух доўгіх акон, ледзь не ад столі і да самай падлогі (на вокнах няма кратаў).

— Добры вечар! — раптам пачула голас і абярнулася. З бакавых дзвярэй (і не заўважыла гэтых дзвярэй) увайшоў рослы, сухарлявы чалавек. Ён не ў польскім адзенні. На ім чорны гарнітур, гальштук, штаны навыпуск і вельмі белыя доўгія манжэты. Марыся збянтэжылася ад гэткай раптоўнасці і не адказала на яго здароўканне. Чакала чалавека ў польскай вопратцы — паляка, а гэты як свой. Толькі што вельмі ж чыста апрануты. Яе нават апанавала невыказная смеласць. А чалавек усміхаецца і да яе:

— Сядайце, калі ласка...

Сам сядае на крэсла з высокай плеценай спінкай і адразу:

— А я думаў, вы не такая... Думаў — гадоў вам трыццаць...

— Мне толькі дзесятага снежня будзе шаснаццаць,— з ахвотаю адказала Марыся.— Я і сама не ведаю, чаму яны мяне трымаюць. Усе кажуць, што яны не маюць права.

— Хто ж гэта кажа?

— У нашай камеры. Кажуць, што яны не маюць права, каб над малалетнімі здзекавацца.

— Хто ж над вамі здзекаваўся?

Нібы не разумела і паглядзела яму ў вочы. Скрозь непрыкметную схаваную ўсмешку (Марыся не заўважыла яе) было кароткае вострае здзіўленне. Паверыла ў чыстату яго шчырасці, адказала:

— Хто здзекуецца?.. Палякі, гэтыя кравапіўцы.

Так уеліся ў яе нутро за гэты час польскія фрэнчы, кантовыя шапкі, што ўбачыла чалавека ў вольнай вопратцы і ўявілася — яна на волі. Але сказала «кравапіўцы» і свядомасць адразу пранізала наскрозь. Яна ж за дзвярмі пакінула двух жандараў. Да каго яны прывялі яе? Хто ён гэты чалавек у вольнай вопратцы? Зірнула на яго поўнымі вачыма, і яе ахапіў нявыказаны жах. Хто ён? Чаго ён усміхаецца? Чаго ён узнімаецца з крэсла?

Як сядзела, таксама ўзнялася. Трымала дрыжачыя, нібы здубянелыя пальцы каля вуснаў, нібы хукала на іх. Потым тою самаю рукою пагладзіла збялелую шчаку. Не зводзіла з яго твару поўных, налітых слязьмі вачэй. А ён — рукі за спінаю, з тою самаю ўсмешкай, з маленькім скрыпам у адным чара-

віку — падышоў да яе, спыніўся, лёгка хістаючы ў бакі сваю хударлявую постаць:

— Кажаш, табе няма шаснаццаці... а смелая, баявая... камсамолка?

— Камсамолка...— нібы пад гіпнозам адказала Марыся.

— І даўно?

Яна не адказала.

— Ну які, скажам, у цябе камсамольскі стаж?

Пераход на «ты», гэта яго хістанне перад ёю, ледзь чутны скрып чаравіка — абудзілі Марысю. Адразу зрабілася свежаю, дужаю. Разумела цяпер: перад ёю такі самы жандар, як і тыя, што вялі яе. І, напэўна, яшчэ горшы. Тыя адразу відаць, а гэты схаваны ад людзей. Гэты — як падкалодная гадзюка. Нават увесь у чорным. Цяпер хацелася яшчэ раз праказаць, крыкнуць яму на ўвесь голас: «Камсамолка!» Пяць разоў праказаць, дзесяць... Гэта ж яе зброя супроць яго. Гаварыць «камсамолка» — страляць наскрозь яго, навылёт. Колькі разоў сказаць — гэтулькі разоў выстраліць. А чым яна магла бараніцца ад гэтага чорнага чалавека з белымі манжэтамі?

А ён хацеў узяць касцянымі халоднымі пальцамі за яе падбародак. Яна адступілася крок назад, і рука яго засталася як просьба падачы.

— Маладзец...— усміхнуўся атрутнай усмешкай.— Люблю камсамолак.

Ізноў заклаў руку назад, запытаў:

— А многа вас у горадзе?

— Я не ведаю,— адказала,— я адна...

Тады абышоў чорны лакіраваны стол і сеў на сваё крэсла. Ішоў — ізноў чула скрып чаравіка. Ён пралазіў у сярэдзіну яе нутра. Ад яго кідала ў золкі холад.

— Адна?..— барабаніў пальцамі па стале. Пальцы адсвечваліся ў чорным лаку стала і нагадвалі пальцы шкілета. Марыся адхінула свой позірк.

— Адна?..— пераказаў другі раз і запытаў: — А Фіма хіба цяпер не камсамолец?

Яна здрыганулася і маўчала. Не зводзіў з яе таго самага прарэзлівага позірку, пытаў:

— Ну чаго ж ты маўчыш?

— Я ніякага Фімы не ведаю...— адказала, узнімаючы на яго свае вялікія вочы.

Марыся бачыла:

На яго вуснах ізноў атрутная ўхмылка. Выпучыўся на крэсле, і яго расшпілены пінжак разышоўся поламі. Была відаць з-пад пінжака камізэлька з масіўным сярэбраным ланцужком цераз усе грудзі. Ланцужок звісаў буйнымі кроплямі і адсвечваўся алавяным бляскам. Ён нагадваў ланцуг арыштанта. А з рукавоў пінжака высунуліся белыя шырокія манжэты з перламутравымі запінкамі. Яны як сталь з заклёпкамі арыштанцкіх наручнікаў. Уяўлялася, што ён прынёс сюды ўсё гэта наўмысна. От ён зараз і надзене наручнікі на Марысіны рукі, закуе навечна гэтым алавяным бляскам ланцуга.

— А Косціка Бранявіцкага ты ведаеш? — запытаў і паварушыўся, каб зручней сядзець на крэсле.

Яна тузянулася з месца і, нібы баронячы дарагога ёй Косціка, Фіму, запытала голасам просьбы:

— Яны тут, у вас... Дзе ж яны?

Запытала і зразумела: «А можа, яны не арыштаваны... што я зрабіла...» Не магла стрымацца, і слёзы пырснулі з яе вачэй. Гэта былі слёзы ад вялікай злосці на сябе...

— Чаго вы ад мяне хочаце! — крыкнула скрозь слёзы поўным голасам.— Пусціце мяне... не здзекавайцеся...

Цяпер была нядужая, слабая. Абяссіленая, як пасля доўгай хваробы, павольна села на крэсла. Усхліпвала і не чула, калі ўстаў з крэсла і падышоў да яе. А ён падышоў ды, гладзячы рукою па яе галаве:

— Не трэба плакаць...

І яшчэ нешта гаварыў. Яна не чула. Дакрануўся рукою — наскрозь праняў ледзяны холад. Хацела адштурхнуць гэту шкілетную руку, і не было сілы. Нібы ён прыкаваў да крэсла. На адзін момант адчула — от яго пальцы абхапілі яе горла, і яна зараз не будзе жыць. Штораз мацней і мацней сціскаюць горла драцяным холадам, і ёй ужо цяжка дыхаць. Тады сабрала ўсю астатнюю сілу і рванулася з крэсла апошнім парывам.

— А-а-а!..— крыкнула і моцна засаплася, стоячы каля стала.

— Што такі за шум? — пачула Марыся другі голас. Узняла вочы і ўбачыла каля канапы тоўстага сярэднярослага паляка. Ён — у сіва-зеленаватым фрэнчы, у галіфэ і ў блішчастых ботах. На плячах,

пад цьмяным бляскам святла, зіхацяць яго пагоны. Ён — курыў. Ішоў ад дзвярэй, густа зацягнуўся дымам ды кінуў наводліў, на васкавую падлогу, недакураную папяросу. А падышоў да стала — у бакі разгладзіў заінеўшыя сівізною доўгія вусы (ён быў падобны на партрэт, што вісеў на сцяне) і да чорнага чалавека:

— Рамансуеце, пане Рытвінскі?.. Прыгожанькая дзяўчынка... Дзе вы яе ўзялі?

Ступіў крок да Марысі, і яна адчула пах віннага рошчыну. Рытвінскі сядзеў, не сціраў сваёй усмешкі. А ён, як і Рытвінскі, працягваючы да яе руку (мабыць, таксама хацеў узяць за падбародак):

— Праўда, прыгожанькая... хэ...

Марыся не памятае, як усё адбылося. Як стаяла — з усёй сілы ўдарыла сваім маленькім кулачком па працягнутай руцэ. Гэта была не абарона — апошні патрон у яе зброі. Яна адступілася, можа, на тры крокі і чакала: зараз яе будуць біць, а потым павядуць некуды і расстраляюць. Яна ж ведае, як шукаюць Максіма Карнейчука, што толькі штурхануў паліцыянта. Але яна пазірала і не верыла сваім вачам. Гэты тоўсты, з сівымі вусамі сядзеў на крэсле і аж заходзіўся надрыўным рогатам. Ён спыняўся на момант, ледзь выгаварваў: «рамантычна!.. як рамантычна!» — ды зноў рагатаў, аж качаўся ў бакі. Рытвінскі таксама смяяўся. Потым апамятаўся, націснуў кнопку электрычнага званка, і ў пакой увайшоў жандар.

— Забярыце...— загадаў і кіўнуў галавою на Марысю.

Тоўсты з пагонамі раптам змоўк. Момант аб нечым меркаваў і потым адразу строгім начальніцкім тонам:

— Вядзі ў той пакой,— паказаў жандару рукою на дзверы,— і чакай мяне, я яшчэ буду з ёю гаварыць...

Марыся ледзь кранулася з месца. Несла наапашкі сваё рабое паліто. Крысо цягнулася па чыстай наваскаванай падлозе. Яно захапіла акурак папяросы, кінутай пры ўваходзе таўстуном. Яна так і выгарнула акурак крысом аж за дзверы.

— Вы мяне прабачце, пане паручнік,— сказаў камендант Векерт, калі за Марысяй зачыніліся дзверы.— Дурны, ведаеце, смех. Добра, што вы гэты смех здагадаліся спыніць. Я мог так разрагатацца, што вы

мне не далі б рады. Я ўжо гэта адчуваў. Каб яшчэ крышачку. І ведаеце, калі я прастудзіўся гэтым смехам?

І ён расказаў Рытвінскаму, як аднойчы, пасля лютаўскага перавароту, рагатаў у сваім маёнтку.

— Было гэта на свентэго Яна, у дзень маіх імянін,— закурваючы, гаварыў Векерт.— Лёкай даклаў мне, што прыйшоў з Бабавозаўшчыны мой былы пастух Піліп. Прыйшоў і хоча дамовіцца, пане, наконт Бабінага лужка. Лёкай сказаў, што Піліп хоча ў гэтым годзе касіць Бабін лужок не на трацяк, паколькі прыйшла рэвалюцыя, а напалавіну. Ну, у мяне і бліснула думка пацешыць маіх гасцей. Я тады загадаў лёкаю: скажы Піліпу, што сёння мае імяніны і, паколькі рэвалюцыя прынесла нам «братэрства і роўнасць»,— запрашаю Піліпа на імяніны. А ўжо на маім балю мы і дамовімся. Толькі сказаў я лёкаю, каб ён Піліпа пераадзеў. Можа, ён не захоча, сказаў я, дык каб угаварыў, што інакш — паколькі ў пана госці — нельга. А калі вельмі будзе ўпірацца, дык каб сказаў, што гэты касцюм застанецца яму назаўсёды. То, што вы, пане Рытвінскі, можаце сабе ўявіць больш пацешнае, калі гэты мужык — засівераны, абросшы валасамі, з грубымі рукамі, з мядзведжымі паваротамі — ды надзеў... Што б вы думалі?

Вытрымаў маўклівасць, не зводзіў з Рытвінскага сваіх вачэй і адказаў:

— ...Надзеў фрак!

— Вы, пане палкоўнік, адзелі яго ў фрак? — з прымушанай усмешкаю запытаў Рытвінскі.

— Ну, зразумела!

Каб не пакрыўдзіць палкоўніка, Рытвінскі рассмяяўся і дадаў:

— Гэта пацешна! Вельмі пацешна! — ха ха-ха...

І больш не смяяўся. Баяўся, каб яго смех ізноў не перадаўся пану каменданту. У яго вушах звінеў гэты, толькі што непрытомны смех.

А камендант Векерт не смяяўся, а гаварыў:

— Калі зайшоў Піліп у фраку, я пабег у другі пакой. Я паваліўся на канапу і рагатаў, рагатаў, а потым і не мог ужо спыніцца. А цяпер, вось...

Ён змоўк і паглядзеў на дзверы. Узняўся з крэсла і, працягваючы руку паручніку Рытвінскаму:

— Я паехаў. Вы, я мыслю, нічога мець супроць не

будзеце? Яна яшчэ, здаецца, ведаеце... хэ... Вам што! У вас свой самавар. А я — «халасцяк», так сказаць.

Рытвінскі нешта хацеў сказаць, але запнуўся і зусім другое:

— Пане палкоўнік,— сказаў,— яна яшчэ не дапытана.

— Заўтра, мой каханы, дапытаеце,— адказаў палкоўнік.— Заўтра яна ўся ваша, з пальчыкамі.

— Я разумею, палкоўнік... Але гэта ж можа ўскладніць допыт. Мы яшчэ не ведаем, як прозвішча і дзе жыве гэты Фіма...

— Я дапамагу вам,— задам адступаўся ад стала да дзвярэй палкоўнік Векерт.— Запэўняю вас, паручнік, што я зраблю за ноч усю вашу работу. Вы мне нават паставіце барыш.

Яны спрачаліся за гэту маленькую, нікім не абароненую, дзяўчынку. Яна была ў тым пакоі і нічога не ведала. Потым яе пасадзілі на машыну, і яна сядзела разам з гэтым вусатым. Не ведала, куды яе вязуць. Усё адсоўвалася ад вусатага, а ён дыхаў на яе пахам віннага рошчыну.

* * *

Святло дня ледзь прабівалася праз вузкае доўгае акно адзіночнай камеры. Акно каля самай столі, не дастанеш рукамі. Марыся кідала на краты раз-пораз позірк, а яны — як павуцінне. Нейкі вялікі павук заснаваў акно. Ён схаваўся цяпер у густавытканым гняздзе ды чакае, пакуль заляціць у сіло маленькая мушка. Марыся і сапраўды ўбачыла на сцяне маленькую муху. У камеры холадна. Муха, напэўна, змерзла і не магла ляцець. Марыся падставіла далоню і асцярожна згарнула муху балючай рукой. Сашчаміла пальцы, муха была ў жмені.

Гэта ж адзінае, што з ёю жывое ў камеры! Пачала хукаць у кулак, і муха (адчула Марыся) задрапала на далоні слабымі ножкамі.

«Аджывае...— усміхнулася Марыся скрыўленай усмешкай.— Бедненькая...»

І раптам закруцілася па камеры, закрычала ахрыпла-сіпатым голасам:

— Аджывае... Чуеш, Косцік... Ах, няма Косціка!.. Яна аджывае, мая гэта муха... Косцік!

Гэта была першая яе непрытомнасць.

Марысю прывезлі сюды пад раніцу, а як добра развіднела, павялі да паручніка Рытвінскага. На допыце яна не сказала ні аднаго слова. Паручнік Рытвінскі перш казаў, што калі скажа — яе выпусцяць. Потым падышоў да яе і ўдарыў пальчаткаю па твары. Быстра хадзіў па пакоі, а потым выклікаў жандара. Яе павялі ў другі пакой і там драўлянай шрубай заціснулі два пальцы. Пальцы перш былі сінія, а перад ёю стаяў паручнік Рытвінскі і пытаў:

— Прозвішча?..

Кусала свае вусны, і пальцы былі чырвоныя.

— Прозвішча?..

Стагнала з прарэзлівым енкам, і драўляная шруба афарбавалася маладою кроўю.

— Прозвішча?..

Яна асунулася на падлогу і прачнулася ўся мокрая. Яе аблілі халоднаю вадою. Да яе было толькі адно пытанне: як прозвішча Фімы. Яна не сказала.

Праўду сказаў паручнік палкоўніку ўчора: «Гэта ж можа ўскладніць допыт». Паручнік Рытвінскі не памыліўся. Палкоўнік Векерт без жаднага падыходу (а можа, ад празмернага парыву?). Ён проста запытаў у сваім пакоі: «Скажы мне прозвішча Фімы і дзе ён жыве?» Такім запытаннем сама жыла. Ведала цяпер, што Фіма на волі. Яны трапілі на нейкі след, а не ведаюць, куды ён вядзе. Толькі адно непакоіла: «Чаму не пытаюцца пра Косціка?» Вырашыла, што Косцік, напэўна, арыштаваны, таму і няма чаго пытаць. І зусім забылася, чаму не пытаюць пра камандзіра. За яго яе арыштавалі, за яго — пакутуе. Збіралася на допыт, увесь час думала: «Будуць пытаць, дзе ён, хто ён, буду адказваць — не ведаю» (і дапраўды, не ведала). А шынель, будзе казаць,— брата Петрыка. Пазвалі ўрэшце і збілі з панталыку. Запыталі, чаго не чакала.

Косцік...— можа, дваццаты раз клікала Марыся цяпер сярод адзіночнай ціхаты.

З яе галавы ні на хвіліну не выходзіў Косцік. Уявіла, што ён за сцяною камеры. Стукала кулакамі ў сцяну. Прыкладала гарачыя вусны да вільготнага муру, шаптала:

— Ты тут?.. Чаго ты маўчыш?.. Я — тут... Гэта ж я, Марыся...

Прытрымлівала забінтаваную руку і згубіла муху. Яна і забылася на яе.

— Косцік...

І раптам адхінулася ад сцяны, кінула на краты блукліва-цьмяны позірк. Паглядзела і заплюшчыла вочы. Ёй здалося, што праз акно, праз краты пазірае камендант Векерт. Пад яго вусамі нават тая самая ўхмылка. Ён зараз скажа ёй...

— А-а-а-ай! — крыкнула на ўсю камеру і зрабілася маленькай. От яна схопіць яго за валасы. Вырве цэлую пасму. Яна будзе кусацца. Не, ён цяпер не дасць ёй рады!

— О-а-а-й!..— глуха аддалося рэха яе голасу.

Камера адчынілася зусім ціха. Марыся не чула бразгу жалезнай завалы. (Каб заўсёды гэтак ціха адчынялася камера! Каб ніколі не чуць яе ржавага скрыпу!)

— Што гэта са мною?.. Дзе я?..— на момант апаматалася, зірнула наўкол сябе. Перад ёю стаяў назіраючы і пераказваў ужо другі раз.

— З вамі хоча пабачыцца... тут, адзін вязень.

— Косцік! — вырваўся з яе грудзей нястрыманы голас.— Дзе ж ён?!

Назірачы махнуў рукою на дзверы. Два жандары ўвялі ў камеру Карзюка. Марыся супуцілася. Аслупянела, не верыла вачам. Быстра моргала павекамі і не чула, калі выйшлі з камеры жандары з назірачым. Працверазела, калі пачула бразг завалы. Азірнулася — камер зачынена, а яны ўдваіх.

Ён загаварыў, і словы былі глухія, кароткія. От гаворыць нехта за сцяною, а яна слухае, адказвае, пытае. Яна чула так яго голас, як чуе чалавек з высокай тэмпературай.

— ...Яны шукаюць Фіму...— гаварыў Карзюк.— Фіма для іх — ключ падпольнай арганізацыі. Але Фіма не такі хлопец. Калі б і трапіў у іх рукі — наўрад ці даведаліся б што-небудзь. Я добра ведаю Фіму. Мы спаткаліся з ім у Косціка. Я адразу зразумеў: гэты чалавек — каменная натура.

— Дык дзе ж усё-ткі Косцік, пытаюся я? Чаму мне не кажаце?

— Я ж вам кажу: Косцік у небяспецы. Я не хачу вас палохаць... Косціку патрэбен ратунак.

— Што з Косцікам?

— Трэба наказаць Фіму. З Косцікам будзе ўсё добра. Яго можна выратаваць.

— Кажыце: Косцік арыштаваны?

— Арыштаваны... Вы толькі не хвалюйцеся. Нас арыштавалі разам. Я прыйшоў з вёскі і адразу зайшоў да яго. За мною, мабыць, сачылі...

— Дзе ж Косцік! — не слухала, што гаворыць далей.— Дзе ж ён тут!..

— Ціха... Вы не гаварыце моцна. Нашу гутарку могуць падслухаць...

— Вы... гадкі! — ускрыкнула Марыся.— Каб вас ніколі не было — мы ўсе былі б на волі! Чаго вы прыйшлі да мяне? Хто вас прасіў? Вы — нягоднік! Ідзіце, каб я вас і не бачыла! Ідзіце ж...

Карзюк спалохаўся: няўжо згублена яго надзея. Гэта ж апошні сродак дэфензівы!

Рытвінскі паслаў Карзюка да яе ў камеру. Нібыта ён вязень, хоча з ёю пабачыцца. Рытвінскі меркаваў: яна вельмі даверлівая — раскажа Карзюку пра ўсё. Учарашні допыт гаварыў аб гэтым.

«Каб не прынесла нядобрае п'янага палкоўніка,— разважаў Рытвінскі,— я ўчора ўсё б ведаў. Яна была са мною зусім адкрытай. Адразу сказала — «камсамолка».

Вялікая злосць была на каменданта. І, бадай, найбольшая, што «гэты стары псель забраў яе на кватэру». Не думаў Рытвінскі ўголас, сам сабе, а недзе глыбока ўнутры тлела такая крыўда. Пасля экзекуцыі ён выклікаў Карзюка і катэгарычна сказаў:

— Яна не баіцца болі. Яе можна паставіць пад расстрэл, і нічога не скажа. Але яна наіўная. Розум яе дзіцячы. На цябе, пане Карзюк, уся надзея.

І Карзюк цяпер разумеў: ісці ад яе з пустымі рукамі нельга. Што скажа на гэта пан паручнік? У Карзюка была злосць на ўсіх: «яны не ўмелі адразу пачаць з ёю гаворку».

— Я не сказаў вам самага галоўнага,— ступіў Карзюк крок назад, калі яна находзіла на яго.— Справа ідзе аб Косцікавым жыцці...

— Ён праз вас... і я праз вас арыштаваны,— гаварыла і не слухала.— Ідзіце ад мяне, ідзіце... Мы ўсё адно арыштаваныя!

— Заўтра Косціка будуць расстрэльваць...— сказаў раптам з вялікаю трывогаю ў голасе.— Яго павязуць

на Малінавую граду, за горад... Трэба нешта рабіць...

Яна змоўкла. Стаяла на адным месцы як укопаная. Блукала па яго твары сваімі цьмянымі вачыма. Карзюк гаварыў:

— У Косціка быў рэвальвер. Ён хацеў, калі забіралі нас, выстраліць у жандара. Я прыйшоў, каб яго выратаваць. У мяне тут — наш чалавек, камуніст. Толькі з яго дазволу я мог з вамі спаткацца. Хіба ж мяне, вязня, пусцілі б к вам? Начальства нічога не ведае. Вы цішэй са мною гаварыце...

Азірнуўся на дзверы і зусім шэптам:

— Мне трэба ведаць, дзе жыве Фіма. Жандар-камуніст паведаміць Фіму. А Фіма ўжо будзе ведаць, што рабіць... збярэ атрад камсамольцаў, і адбяруць Косціка, калі павязуць яго на расстрэл...

Бачыў, што Марыся ўсміхнулася. Вочы загарэліся дзвюма яркімі іскрамі. Ад радасці, што зараз усё скажа, запытаў:

— Між іншым, Фіма... Я з ім добра знаёмы, а прозвішча не ведаю. Каб наш чалавек не натрапіў на другога Фіму... Як яго прозвішча?

Марыся зарагатала. Сказаў слова «прозвішча», і да яе вярнулася непрытомнасць.

— Вунь!..— раптам абарвала свой дзікі рогат.— Ён ізноў глядзіць праз акно... А-а, баюся!.. Косцік!..

Кінулася да жалезнага ложка і схапіла сваё рабое паліто. З усяго размаху шпурнула паліто ў акно. Яно зачапілася рукавом за краты акна, завісла...

— Ён схапіў маё паліто! — падскочыла да сцяны і шмарганула за крысо. Абярнулася да Карзюка, пракрычала ахрыплым голасам:

— Чаго вы пазіраеце, як дурань!.. Ты ж бачыш: ён хоча ўлезці сюды, каб задушыць мяне!.. Памажы мне!

— Хто? — запытаў Карзюк.

Яна не чула. Біла кулакамі ў сцяну, крычала:

— Не лезь!.. Не лезь!.. Я не пушчу цябе!.. А-а-а...

І, змораная, абсунулася каля сцяны на цэментаваную падлогу.

— Звар'яцела...— прамармытаў Карзюк і пастукаў у дзверы.— «Самі вінаваты...» — падумаў ужо за дзвярмі.

На другі дзень Марысю завезлі на Памеранцавую вуліцу ў вар'яцкі дом.

На самым версе тэлеграфнага слупа вывешан чырвоны сцяг. Ціхая раніца. Толькі ўверсе, дзе сцяг,— маленькі ветрык. Нібы ён там наўмысна. От для таго, каб увесь час трымаць на ўсю шырыню, а часам і хваляваць сцяг пералівамі.

Адзін сцяг над усім гарадком! Вецер наглядае, каб ён не завяў. Яго вывесілі, каб сказаў гарадку: «Я жыву і жыць буду! Сёння дзень майго ўваскрэсення! Мне два гады!»

Сцяг невялікі. Але ж ён адзін над усім гарадком. Ён вельмі вялікі.

Зранку быў туман, і гарадок не прыкмеціў сцяга. Цяпер туман падняўся ўгору, і гарадок убачыў сцяг. Першы чалавек, які ўбачыў, не спыніўся. Не паверыў сваім вачам. Бягом кінуўся ў завулак. Чалавек забег на першы двор і з усёй сілы застукаў кулакамі ў дзверы. З кватэры выйшаў рослы пажылы мужчына. Ён у адной картовай сарочцы і без шапкі.

— Што такое, Абрам? — запытаў рослы мужчына.— Ці не пажар дзе, што так барабаніш у дзверы?!

— Маўчы, Андрэй...— схапіў Абрам Андрэя за руку.— Ты ўгадаў! Ён такі чырвоны, як пажар. Ідзем хутчэй, паглядзіш!

— Хто? — не разумеў Андрэй.

— Чырвоны сцяг... на слупе, аж на самым версе.

Андрэй як стаяў, так і пайшоў: без шапкі і ў адной сарочцы. Выйшлі за рог дома, убачылі: ужо сабралася і глядзела на сцяг чалавек дзесяць. А праз хвілін пяць быў цэлы натоўп. Андрэй у натоўпе згубіў Абрама. З натоўпу чулася:

— На самым версе...

— Без кабдзюроў не ўзлез...

— Канешне.

— Адважны чалавек!

— Каб злавілі...

— Каб жа злавілі!

— Я самы першы яго ўбачыў!..— пачуўся над натоўпам голас.— Іду, зірнуў гэтак...

— Не ты ўбачыў, а я! — праціскаўся да першага голасу чалавек.

Андрэй пазнаў голас Абрама. Ён даводзіў у натоўпе, што ўбачыў сцяг і пабег сказаць Андрэю.

— Андрэй!

Абрам хацеў, каб Андрэй пасведчыў. А ў гэты момант голас жанчыны:

— Жандары!

Натоўп азірнуўся — два жандары.

— Пойдзем...— няўпэўнена праказаў нехта.

— Пачакаем...— раўнадушна праказаў другі.

Жандары падыходзілі да натоўпу. Адзін паперадзе, другі за два крокі. Што наперадзе, мабыць, старшы, а гэты — яго памочнік. Старшы ў замшавых пальчатках. На момант натоўп застыў. Усе маўчалі, як маўчаць салдаты па камандзе.

— Што за збор?! — крыкнуў той, што ў замшавых пальчатках.— Дэманстрацыя!

— Дэманстрацыя...— не то насмешкай, не то праўдай адказаў малады голас.

І не памыліўся. Натоўп быў падобен на дэманстрацыю. Нехта гаварыў прамову, а тысяча чалавек слухалі. Нехта высока над народам трымаў сцяг. Гэта ж увесь народ трымаў. Адзін чалавек не мог бы ўтрымаць...

— Ніякай дэманстрацыі...— адлучыўся ад натоўпу нізенькі чалавек з востраю бародкай.— Сцяг, пане, убачылі...— сказаў ён, задзіраючы ўгору галаву.— Вунь...

Жандар узяў двума пальцамі за казырок (нібы ўзяў пад казырок перад сцягам), задраў галаву. Пазіраў на сцяг — шыя была доўгая. Не ў меру выпучан гарляк — яго «адамаў яблык». Не зводзячы вачэй з жандара, сярод натоўпу хіхікнулі (другі, як убачыў сцяг, і не заўважылі, дзе дзеўся).

— Зняць! — чырванеючы гневам, крыкнуў жандар. Натоўп заварушыўся на адным месцы. Цяпер ён вырас у тры і чатыры разы. Нібы сабраўся на Парэцкі пляц увесь гарадок.

— Дастаць,— крычаў жандар, размахваючы рэвальверам.— Лезь на слуп! — загадаў маладому хлапцу ў рабой кепцы.

Хлапец нешта буркнуў сам сабе пад нос і падаўся задам у гушчу натоўпу.

— Лезь! Ты лезь! — звяртаўся да шыракаплечага рабочага ў салдацкай ватоўцы.

— Без кабдзюроў, пане, не ўзлезеш,— адказаў рабочы з невінаватай усмешкай і дадаў: — Ды, па праў-

дзе кажучы, пане, нам ён не перашкаджае. Няхай лезе той, каму ён рупіць.

І невядома, на чым канец быў бы такой гаворкі, як раптам нібы разарвалася бомба. Разарвалася яна, і над галовамі людзей ляцяць яе белыя асколкі. Натоўп падняў рукі, не баіцца, што асколкі могуць параніць — ловіць іх. А нечая рука — над усімі. Направа і налева шчодра рассыпае белыя лісткі. Жандар — як звар'яцелы. Моцна сціскае ў адной руцэ, можа, дзесяць (налавіў) лістовак, а ў другой — трасе рэвальверам. Жандар хоча пралезці да той рукі, што вышэй за ўсіх. Але натоўп — жалезная сцяна. Жандар — футбольны мяч каля сцяны.

Сталася ўсё ў адну хвіліну. І нават не хвіліна была — момант. Як ведалі ўсе, для чаго сабраліся, што рабіць. Ужо не было відаць рукі над галовамі. Больш напатрэбна, каб натоўп стаяў сцяною. Ён раздаўся, расхінуўся ва ўсе бакі. Разыходзіўся так, як нічога і не адбылося. Жандар быў цяпер не адзін. Аднекуль узялося чалавек дваццаць. Жандары абступілі невялічкую купку, што не паспела разысціся. Выбіралі на вока, каго пусціць з круга. З купкі выйшла жанчына з парожнім вядром (відаць, ішла да вадакачкі, што на рагу Базарнай вуліцы). З дзіцем на руках выйшла другая жанчына. Больш нікога не пускалі. Рослы чалавек з рыжымі вусамі, у зімовай салдацкай шапцы, у кароткай куртцы, размахваў рукамі, даводзіў:

— Я думаў — гэтулькі народу — каго-небудзь забілі. Пусціце мяне, спазнюся на работу! Я падышоў паглядзець...

— У мяне лякарства...— казаў барадаты з загарэлым тварам.— У маёй жонкі крываўка... Я — муляр...

— Разбярэмся ў пана камендантa! — адказаў барадачу жандар з густым рабаціннем на твары.— Не трэба было падыходзіць.

— Усе падыходзілі,— пярэчыў малады хлапец, які быў разам з барадачом,— дык і мы...

Яго штурхнуў у бок дулам рэвальвера паліцыянт у акулярах.

Іх падвялі ўжо да павароткі на Базарную вуліцу. Здалёк была відаць сярод арыштаваных галава Андрэя без шапкі. З шырокай вуліцы жандары вывелі яшчэ трох. Напэўна, злавілі, калі разыходзіўся натоўп.

Жандарскі ланцуг, які вёў купку арыштаваных,— разамкнуўся, усмактаў у сваё нутро і гэтых трох.

А тым часам у кабінеце каменданта Векерта:

— Дзе ваш Фіма?! Дзе, я пытаюся, гэты жыд? Дакуль вы будзеце вадзіць мяне за нос? Я ў вас пытаюся: ён арыштаваны ці не?

— Я, пане палкоўнік, не ведаю...— струною стаяў Карзюк перад Векертам.— Арыштавана семнаццаць чалавек. Магчыма, сярод арыштаваных...

— Вы не кажыце «магчыма»! Я пытаюся, каб вы сказалі пэўна! Ну, хто, хто нараскідаў гэтай бальшавіцкай атруты?! — тыцкаў пальцамі ад злосці ў жмут лістовак, якія ляжалі на стале.— Дзе ён цяпер, гэты недавярак?!

— У гэтым натоўпе я не быў,— з адной нагі на другую пераступаў Карзюк.— Я не мог бачыць, пане палкоўнік, хто раскідаў лістоўкі. Там павінен быць пан Стусевіч. Гэта ж яго квартал. Маё дзяжурства было ў гэту ноч за домам Каліты. Як вам вядома, учора выпусцілі яго сына... І па-другое...— Ён змоўчаў, набраўся смеласці, дагаварыў: — за нішто, пан палкоўнік, сварыцеся на мяне... Я ўсё ж такі, як прадстаўнік майго народа, гэтага не заслужыў.

Камендант сядзеў на мяккім плюшавым крэсле. Моцна соп. На яго лбе ўздрыгвала маленькая сіняя жылка. На твары выступілі чырвоныя плямы.

— Дарэмна так, мой каханы, думаеце,— не чакаў камендант ад Карзюка такога тону.— Я не збіраюся на вас сварыцца. Я паклікаў, каб гаварыць з вамі як з чалавекам. Вы мяне проста не зразумелі. Мой узняты голас — мае нервы. Ну, зразумейце: гэта ж цэлае паўстанне! Як не будзеш хвалявацца? Ну, дзе была, скажыце, у гэту ноч ахрана горада? Чаму не застрэлілі нягодніка, калі быў ён на слупе?

Ляпнуў далонямі па каленях. Падпёр сутулістую постаць абедзвюма рукамі, утаропіўся вачыма ў Карзюка, пытаў:

— Дзе былі вартавыя? — пытаюся. Яны былі ў кабачках! Яны думаюць, калі фронт за сто вёрст — усё дазволена! Яны не бачаць, што кругом бальшавікі. На кожным кроку! Чакаюць, каб трапіўся толькі зручны момант. Нават голымі рукамі могуць пераціснуць наша горла.

Выцер хустачкаю спацелы твар. Мабыць, прыгадаў

тую ноч, калі прыводзіў да сябе арыштаваную Марысю. Загаварыў заспакоеным голасам:

— Можна пагуляць — ніхто не кажа... Толькі на ўсё трэба мера. Не трэба забывацца на справу, на абавязкі. А вы, кажу, дарэмна так думаеце. Не разумееце мяне, і ўсё тут. І не толькі вы, шмат хто не разумее мяне. Яны думаюць — я звер, вар'ят ці яшчэ хто-небудзь. Я падымаю голас на свайго чалавека, бо хачу яму дабра. З чалавекам, якога я не паважаю,— зусім не буду гаварыць! У мяне з вамі адна мэта. Я вам плачу? — плачу. Толькі — і вы і я — мы знаем: грошы грашыма застаюцца. Яны патрэбны чалавеку як сон, як яда. Гэта — будзённая справа. Я цаню не грошы, а ідэйнага чалавека. І такія людзі, як вы,— каштоўныя людзі!

Ён сказаў Карзюковы словы. Рытвінскі перадаў, што гэты «культурнік» не хоча браць за Фіму тысячу марак. Яму даражэй яго ідэя. Каменданту такі чалавек даспадобы. Каб чым найбольш такіх ідэйных!

— Вас ведае генерал,— узняўся Векерт з крэсла. Ступіў да Карзюка, гаварыў: — Я пісаў яму. Не падумайце толькі, што я гавару, каб заахвоціць вас да работы. Я проста пісаў пра вас, як пра лепшага чалавека, адданага свайму народу. Не буду хваліць у вочы. Гэта нікому не патрэбна. Важна, што пра вас самая чыстая ў нас думка. Генерал вельмі ўдзячны за вашу работу. А на мяне, мой каханы, не трэба злаваць. Наша праца, памятайце, патрабуе кантакту.

* * *

У яго на сэрцы незразумелая крыўда. Сабралася ўсё разам. Хацелася выказаць некаму сваю крыўду, а яе не выкажаш. І крыўда яна і не крыўда.

Хіба толькі ён адзін павінен усюды даглядаць? Хіба ён вінаваты, што бальшавікі ўхітрыліся вывесіць чырвоны сцяг? А камендант на ім спаганяе злосць. Заве да сябе не жандараў, а яго. І ледзь не кідаецца з кулакамі! Урэшце, ён не мог сцярпець камендацкай гарачнасці і намякнуў яму, хто ён.

«Так і трэба. Няхай не забываецца...»

Генеральская ўдзячнасць! Карзюку яна не патрэбна. Ён сын свайго народа, і народ яму будзе ўдзячны. Кантакт, праўда, павінен быць. Трэба, каб адзін адна-

му дапамагаў. Дагаворана з першых дзён, і камендант не забыўся...

«Ён проста хворы чалавек,— вырашыў Карзюк, як выйшаў ад каменданта, і гэтым астудзіў сваю крыўду.— Яму абавязкова трэба лячыцца на цёплых водах. На яго, можа, няма чаго і крыўдаваць. Нервы... Я таксама нервовы...»

У Карзюка — свая ідэя. Камендант Векерт ведае аб ёй. От на гэту ідэю ў Карзюка з Векертам кантакт.

Служыў Карзюк у Чырвонай Арміі, і ўсім гэта вядома. Толькі ў яго была свая служба. З нецярплівасцю чакаў, калі палякі зоймуць яго бацькаўскі фальварак Выраўку. Зоймуць яны, а гэта і будзе яго пашпарт на правы чалавека. Яму не патрэбен гэты фальварак. Няхай жыве, колькі хоча, яго бацька. Ён нават мае каморніцкі дыплом, а толькі не будзе мець справы з зямлёю. Навошта яму! Ён «незалежнік» — радавец ад Першага ўсебеларускага з'езда. У яго зусім свежая памяць. Не забыўся, як на з'ездзе яны спрачаліся з абласнікамі-федаралістамі. Кожныя даводзілі сваю праўду. А Савет камісараў ад народа ды ад фронту ўсёй вобласці хацеў растлумачыць, што тут праўда пачынае губляцца. Мяняюць праўду на буржуазную ману (так яно і было). Толькі яны не хацелі слухаць Савет, хацелі, каб выйшла па-іхняму. Самавызначыцца ды жыць сабе незалежнікамі — панам дзела. І ўжо была надзея. Нават прагаласавалі самы важнецкі пункт. І ўсе пункты зацвердзілі б, каб не здарылася здарэнне (нарабіў работы Савет камісараў ад народа. Напэўна, што не паслухаліся яго.) Уваходзіць начальнік гарнізона і не дае скончыць галасаванне. Кажа: «З'езд лічу распушчаным».

Карзюк не забыўся, як пасля такога здарэння пайшлі гаворкі:

*Левыя сацыял-рэвалюцыянеры:* — Добра зрабіў таварыш начальнік гарнізона. Чаго там цацкацца! Яны, можа, захацелі б, каб вярнуць назад не толькі буржуазны лад, а і самога Мікалашку! Мала чаго яны захочуць!

*Правыя сацыял-рэвалюцыянеры:* — Можа, і не трэба было так рабіць?.. усё ж такі гэта цэлы з'езд!

*Сацыял-дэмакраты меншавікоў:* — Недарэчнасць! Гісторыя не бачыла такіх парадкаў! Ніякай павагі да народа! Ніколі гэтага не даруе гісторыя!

*Сацыял-дэмакраты бальшавікоў:* — Мы згодны на гэтым месцы з левымі сацыял-рэвалюцыянерамі. Савет камісараў не памыліўся. У наш час не трэба ліберальнасці.

*Сацыялістычная Грамада:* — Адна гадзіна часу, і было б самавызначэнне! Каб ведама — трэба было пастанову галасаваць цалкам. Быў бы дакумент. За нас тады ўступіліся б замежныя браты. Мы ўсё адно не даруем!

*Карзюк:* — За несправядлівасць адпомсціць гісторыя!

*Хрысціянскія дэмакраты:* — Бог убачыць праўду!

Хто ж гаварыў праўду? З кім яна засталася. А цяпер Карзюк ведае, што праўда засталася з Радаю. Вось яна зараз перад ім. Бальшавікоў прагналі, і гэта праўда. Ніхто не гаворыць — з'езд Карзюка нікуды не выбіраў. Рада выбрала і Карзюка і сама сябе. Цяпер яе няма дома. Яна ў Эстоніі, у Літве, у Нямеччыне, тут... Усе па сабе, а з'яднаны адной мэтай. Дзе б хто ні быў, заўсёды памятае: ён вызначаны самой гісторыяй. Ён за саюз вольных з вольнымі. І зробіць гэты саюз — зараз дапамагаюць дужыя суседзі. Яны прыйшлі, як яснае сонейка. Каб цяпер спаткаў Карзюк каторага з дэлегатаў, сказаў бы: «Ага, на нашым выйшла! Наша праўда!» Ніхто не кажа,— яму, напэўна, знаёмы заўважыў бы: «Гэта выйшла, браце, адно «дышла». І мог бы дадаць: «То не Рада, а здрада». Канешне, нагаварыў бы па злосці.

А цяпер Карзюк не згубіць свайго фальварка. Не, ён не збіраецца там жыць. Будзе жыць у горадзе і кіраваць народам. Яму толькі хочацца адчуваць паўнату гэтага жыцця. От ён будзе ведаць, што недзе пад Азярцамі ёсцека яго ўласная Выраўка. Дык хіба гэта не паўната жыцця, калі пасля працоўнага дня ён выйдзе на веранду, забудзецца на штодзённы клопат аб сваім народзе і аддасць сябе ў абдымкі марам. Не марам, а сапраўднасці.

...Тут бурліць гарадское жыццё, а там — за сорак вёрст, пад Азярцамі — шэпчуцца між сабою лапушыстыя кляны. Яны насаджаны яго прадзедам паабапал вулкі да дзядзінца. Цяпер кляны ў самай сіле. Колькі лётае сярод іх лісцяў, колькі гучыць голасам басэтлі майскіх жукоў! А бярозавы гай за выганам... З яго капае свежы сырадой. Сенажаць з пахучым мурожні-

кам... Веснавой раніцай мурожная трава абсыпана крышталам расы. Аўсянае поле на Маргох... з яго капае жывы цэд. Калі зацвітуць наўкол дзядзінца ліпы — паветра зліпаецца беласнежным мёдам. Ён жа зможа паехаць туды на ўсё лета, на дачу! Самавызначэнне яго народу ніколі не адбярэ гэтых правоў!

І калі немцы занялі Выраўку — вельмі ўзрадаваўся. Што б ні было, а пакуль немцы — ніхто не патопча цвету яго зямлі. Дадому таксама не ішоў. Хацелася ўявіць, што ён заснуў і спіць. Будзе спаць, і потым прачнецца, і ўсё ўжо зроблена... Выйшлі немцы — ёкнула сэрца: што ж будзе? Ізноў занялі бальшавікі апошнюю надзею. Ужо хацеў уцякаць куды глядзяць вочы, а тут здарылася тое, што гаварыла Рада аб дужых суседзях. Правёў бальшавікоў за межы сваёй зямлі і памахаў рукою. Кінуў на пероне біклажку, і чамусьці з'явілася прыкрая думка:

«А што, калі яны вернуцца?»

Тады падкінуў біклажку нагою і цвёрда вырашыў:

«Буду змагацца тут, каб не вярнуліся».

Цяпер у Карзюка зусім смелы настрой. Быстра ідзе па Базарнай вуліцы і ў сваіх думках:

«Не для цябе стараюся, пане, а для сябе! Усіх пералаўлю. З-пад зямлі дастану гэтага жыдоўскага Фіму! Не дажджэ ад мяне схавацца! А ты, пане Векерт, нервовы...»

Вельмі ж яго пакрыўдзіў камендантскі тон. Ён жа ўсё-такі не просты мужык, каб з ім так гаварылі. Не дасць сябе пакрыўдзіць. Ужо выступае на бальшавікоў з сваім войскам бацька Булак. Карзюк абыдзецца без Векертавай каманды. Знойдзе, канешне, усё падпольнае гняздо бальшавікоў і тады пойдзе ў сваю народную армію. Ён умее ваяваць і з вінтоўкаю.

І не забыўся свайго абяцання перад Радаю.

Не заўважыў, калі выйшаў на Парэцкі пляц. Ішоў да Марысі на Памеранцавую вуліцу.

«А можа, скажа ў непрытомнасці, дзе той Фіма».

Ішоў напрамкі цераз плац. Ступіў некалькі крокаў, узняў вочы і ўбачыў трох узброеных жандараў каля тэлеграфнага слупа. Чацвёрты — на слупе. Ён зрывае чырвоны сцяг.

— Дагэтуль не маглі зняць...— падскочыла на жандараў злосць.

Жандар круціць кароценькае дрэўца і не можа выкруціць з тэлеграфнага дроту. Жандару нязручна трымацца на слупе.

А сцяг як урос. Ён як жывы. Нібыта не паддаецца для таго, каб яго ўбачыў Карзюк. От хоча пырснуць Карзюку ў твар апошнім гневам.

«Сцеражыцеся! — нібы напісана на сцягу.— Вунь ён ідзе! Ён нюхае ваш крывавы след. Ён прагне крыві, каб хлябтаць яе гарачую, свежую, як сабака. Яго спусцілі з ланцуга, і не заўважыце, як ён укусіць. Сцеражыцеся такога, які не бегае, а ціха ходзіць!»

Карзюк адарваў позірк. Не пайшоў напрамкі, а падаўся правей. Прамінуў ужо тэлеграфны слуп і хацеў азірнуцца. Так — проста цікава, ці ўжо злез жандар з чырвоным сцягам. І не ведае, чаму не азірнуўся. Крокі самі прыбавіліся. А чырвоны сцяг усё роўна перад яго вачыма. І вялікімі літарамі напісана:

«Гандляр чалавечай кроўю, куды спяшаешся? Гандляр рэвалюцыяй, пачакай! Хто будзе наступным на тваіх шляхах?»

— Я знайду... Дзе б ён ні быў, я знайду...— прашаптаў, каб заглушыць быстрыя крокі.— Ад мяне ніхто не схаваецца. Дарэмна!

І раптам у яго галаве бліснула думка. Калі пошукі нічога не дадуць, ён прапануе арыштаваць усіх Фімаў у горадзе. Ён ужо даведаўся, колькі іх і дзе яны жывуць. Нават зменшыў крок, разважаў:

— Нічога тут страшнага. І гэты сцяг і пракламацыі, канешне, Фімава работа. За такую работу можна арыштаваць. Тым больш — усе яны жыды. Яй-права! Можна будзе арыштаваным зрабіць адбор. Старыя Фімы не будуць займацца бальшавізмам. Можна смела сказаць, што ўся гэта работа маладых і так да гадоў пяцідзесяці.

Захапіўся такімі марамі і добра не прыкмеціў: нібы вунь, на штыкетах, з'явіўся і знік (пэўна, пачуў яго крокі) чырвоны сцяжок.

— Што робіцца...— схапіўся за рэвальвер. Вярнуўся назад (прамінуў быў калітку) і ўзбег увесь спацелы на нечы доўгі, вузкі двор. Адразу не заўважыў, што гэта не ўвесь двор. Двор ідзе каля сцяны дома і ледзь не ўпіраецца ў плот агарода. На рагу дома двор загінаецца і ўжо шырока ўпіраецца ў штыкеты вуліцы.

— Што ты робіш? — убачыў Карзюк каля штыке-

таў, можа, шасцігадовага хлопчыка.— Што гэта ў цябе?

— Сцяг...— адказаў хлопчык. І не то спалохана, што перад ім стаіць чужы чалавек, не то ад радасці, што ў яго руках папяровы чырвоны сцяжок, дадаў:

— Сёння былі там...— Ён паказаў пальчыкам на штыкеты, нібы гаварыў: «ты ж ведаеш, хто там быў». Карзюк устрапянуўся — чакаў, каго хлопчык назаве, што там былі. Хлопчык урэшце ўспомніў:

— Там была вайна... І я быў. Шмат было людзей, а на слупе — высока-высока гэткі сцяг.

— Хто табе даў гэты сцяг? — злосна запытаў Карзюк.

— Я сам зрабіў! — хвалілася дзіця.— У маёй мамы ёсць шмат паперы. Мая мама робіць кветкі. Яна будзе прадаваць кветкі на каляды. Я ў мамы папрасіў кавалачак...

— Жаба! — крыкнуў Карзюк на дзіця і вырваў чырвоны сцяжок. Раз, два! — пераламаў тоненькі пруцік. А папяровы сцяжок упаў на зямлю. Дзіця кінулася падымаць. Тады наступіў на тонкую чырвань і растаптаў чаравікам. Дзіця сядзела на зямлі, плакала. Невядома, чаго плакаў і хлопчык. Магчыма, Карзюк наступіў сваім чаравікам на яго пальцы. Не то да дзіцячых пальцаў прыліпла чырвань сцяжка, не то [redacted] яго пальцаў ішла кроў.

Карзюк выйшаў з двара і не азірнуўся. Чуў, як наўздагон, мабыць, матка гэтага хлопчыка пасылала яму праклёны.

## Раздзел шосты

Усё як сон. Успамінае — робіцца страшна.

Толькі зачыніліся за паліцыянтам дзверы — кінуўся бягом за будынкі. Поле засталося з правага боку. Па выгане абагнуў поле вялікім кругам, каб зблытаць след. Спыніўся аж каля лесу, каб адсапціся, і пачуў на Ялавіцкага двары гоман. Адразу забрахаў сабака.

Усё як сон. Што, калі б яго злавілі! Толькі зараз зразумеў сваю смеласць, ацаніў сваю небяспеку.

Касціку тады пашанцавала. Паліцыянт пайшоў цераз кухню, а паручнік Рытвінскі выскачыў цераз парадны ход. Кінуўся шукаць паліцыянта, а яго няма. Пакуль бегаў па дзядзінцы — гэта выратавала Касціка.

Цяпер Косцік вельмі асцярожны. Ужо даўно выпаў снег, і хадзіць колькі хочаш, нельга. Могуць напаткаць нават яго сляды. Ён зрабіў нару ў стозе сена на Белай градзе і там начуе. Ідзе да стога, ступае ў адзін след, ідзе ад стога — другі след. І да стога і ад стога — заўсёды па аднаму следу.

Дакуль жа гэтак жыць! Дзе знайсці партызанаў?!

Неяк спаткаў у Воўчым лагу чалавека падобнага да партызана (без нічога ў руках). Узрадаваўся і смела падышоў. Чалавек — у сярэдніх гадах. На ім кароткі кажушок, на шыі — шарсцяны, сваёй работы, шалік. У лыкавых, падшытых скуратом, лапцях, у сівых портках, на галаве стаўбунаватая шапка. Косцік запытаў з асцярогаю:

— Ці не бачылі тут, можа, дзе рабога кныра? Выпусцілі з хлява, а вароты былі не зачынены... Хаця б дзе не напароўся на воўка...

— Бачыў...— не то праўдаю, не то хітрынкамі адказаў чалавек.— Там бачыў, каля балота,— паказаў рукою.— Увесь снег парыў...

— Дзякую вам...— нехаця сказаў Косцік. І трэба яму адразу ісці, «каб не ўцёк кныр», а ён стаіць, муляе, ды пытае:

— Мабыць, наглядаеце сухастоіну?

— Не...— паглядзеў чалавек на Косціка. Крануўся з месца і на другім кроку дадаў: — Я таксама шукаю... Толькі не рабога кныра, а белую свінню...

Адразу была на чалавека крыўда. Чаму над ім насмяяўся? Мог і дапраўды шукаць кныра. Свінні бегаюць па лесе (ведама, недалёка ад лесу Дараўка). Яны шукаюць пад дубамі каля балота жалудоў. Ужо ў стозе здагадаўся, што чалавек сказаў праўду. «Шукаю белую свінню», і ён — партызан. Ён шукае гэтых белых, заводных, панскіх свіней — жандараў. Якая апанавала на сябе злосць! Чаму проста не запытаў, дзе партызаны? І расказаў бы пра сябе, хто ён. Дзе цяпер спаткаць гэтага чалавека?

Цэлымі днямі хадзіў як сам не свой. Не ведаў, што рабіць. Кожны дзень бываў на тым месцы, дзе спаткаўся з чалавекам. І нідзе нікога. Праедзе толькі часам з дрывамі дараўская стойка. Бывае, бачыць у лесе падросткаў або жанчын. Яны збіраюць у мяшкі сухія сучкі ды смалякі.

«Пайду ў горад...— часта думаў. Але і другое: боязна...»

Цётка Настася была ў горадзе. Наўмысна пасылаў, каб што прачула. Напісаў Сцёпку пісульку. Баяўся пісаць адкрыта. Нават не адважыўся запытаць пра Фіму. Мала як можа трапіць пісулька ў жандарскія рукі! Пісаў нібы ад вясковага хлопца. І падпісаўся — «Косцік».

«Здагадаецца, пра што мне трэба ведаць»,— вырашыў.

Цётка прыйшла з горада перапалоханая.

— За цябе арыштавалі і бацьку і матку. Матку пусцілі, а бацька яшчэ сядзіць.— І пісульку прынесла назад. Сказала, што матка хадзіла да гэтага Сцёпкі, дык не застала дома.

Косцік не здагадаўся, што ніхто да Сцёпкі не хадзіў. Матка з цёткаю абмеркавалі: «Не трэба гэтых пісулек. Ізноў не ацярэбішся». Матка ўзрадавалася, што сын у надзейным месцы. «Няхай там будзе, пакуль што будзе». Паплакала па сваім Іллі, а сына вельмі шкада. Пераслала пару бялізны і яшчэ сёе-тое.

Дачуўся, што бацька арыштаваны,— крыўда агарнула і злосць. «Няхай бы сядзеў сам за сябе, а не за мяне. Ён жа прагнаў мяне, каб не было ў хаце ніякай палітыкі! Думаў, палякі дадуць веры яго шчырасці. Можа, цяпер не будзе такім наіўным. Як пасядзіць — будзе другім».

А ўсё ж такі бацька... Ну, а што ён можа зрабіць?

Меркаваў перайсці цераз фронт. Так надакучыла гэта хаванне ад людзей, ад самога сябе! А перайсці фронт не так лёгка. І другое: толькі труслівы можа так зрабіць. Яго пакінулі працаваць тут. Хіба тут не фронт? Што цяпер з Марысяю?

Думка аб фронце зладавала яго. Не сёння, дык заўтра ён усё ж спаткаецца з партызанамі. Не паверадь? Ён раскажа ўсё па парадку. Магчыма, там будзе Дарахвей — адразу прымуць.

У гэты вечар ён ізноў пастукаў у цётчыны дзверы. Было як ніколі — нязручна! Прыйдзе, а цётка дрыжыць ад страху, пакуль пойдзе. Не адводзіць ад акна сваіх вачэй.

Чакаў, пакуль адчыніліся дзверы.

«Скажу ёй — я больш не прыйду...»

Не ведаў, як вырашыць — чаму не прыйдзе. Толькі

трэба сказаць. Можа, для таго, каб цётка больш пашкадавала.

А дзверы адчыніліся, і цётка Настася дрыжачым голасам:

— Дарахвей Рыцінчык начуе дома. Я даведалася... Ужо чацвёртую ноч. Схадзі да яго і запытай, дзе гэтыя партызаны. Ён жа, напэўна, ведае.

Косцік не заходзіў у хату. Стаяў у сенцах, а яна гаварыла:

— Досвіткам ідзе ў лес, а позним вечарам прыходзіць у хату. Выпусцілі яго бацьку, дык ён пасмялеў. Потым прыйдзеш і пастукаеш мне ў шыбу.

Дзіва што! Ён сходзіць і скажа, каб не начаваў дома. Ведае пра яго начлег цётка Настася — ведае, напэўна, увесь засценак. Хіба можна начаваць, каб хто ведаў!

Ішоў к Дарахвею поплавам, з агародаў. Вунь ужо відаць на агародзе Рыцінчыкава лазня.

«Дарахвей і не думае і не сніць...— разважаў, падыходзячы да плота.— Вельмі ўзрадуецца, што буду з ім... А я вылаю яго за такую работу: няхай вельмі не асмельваецца начаваць...»

А на сэрцы вялікая радасць. Урэшце знайшоў Дарахвея... Будзе партызанам... Будзе з усімі разам вызваляць Марыську, бацьку, усіх арыштаваных, цэлую краіну...

І не памятае, як усё здарылася (гэтак, як і на яго двары). Цёмная ноч дрыжала зацятай маўклівасцю, а нехта адразу разарваў, разбіў яе цёмна-беласнежнае шкло. Раз-два! — наскрозь прасвідравалі ноч два вінтовачныя стрэлы. Косцік аслупянеў.

«Што гэта...» — паспеў праказаць і ўбачыў: нехта выбег на агарод і адразу — за лазню. Момант не было відаць. І раптам адлучыўся ад чорнай сцяны будынка. Бег проста на Косціка. За пяць крокаў ад плота заўважыў Косціка. Хіснуўся ўбок усёю постаццю. Не пералазіў цераз плот, а пабег па ўзмежку агародаў.

— Дарахвей!.. Дарахвей!..— шаптаў Косцік, бегучы за ім па той бок плота.— Пачакай... Гэта ж я... Косцік... Пачакай!.. Косця Бранявіцкі...

Яны беглі аж да канца агародаў. Дарахвей — за пяць крокаў наперадзе. Снег пападаўся да калень. Вось-вось упадзе і адзін і другі. Хапалі снег рукамі. Апошняя сіла за жыццё. Косцік не хоча адстаць ад Дарах-

вея. Уцячэ ён, і тады ізноў не знойдзеш... Дарахвей уцякае ад жандараў і ад Косціка (ён жа не ведае, хто за ім бяжыць. Напэўна, той, хто навёў на яго жандараў).

У канцы плота Дарахвей раптам спыніўся. Ледзь праказаў, цяжка сапучы:

— Ба... баюся стрэлу... прадажная душа... Застрэлю!..

Ён узмахнуў рэвальверам перад Косцікам. Займала дух, і Косцік не мог прагаварыць. Адчуваў — не застоіцца, не змогуць трымаць ногі. Перад вачыма плылі зялёныя кругі і белы снег. Дарахвей быў ужо ад яго за дзесяць крокаў. Яго апошняя надзея... Паспрабаваў зварухнуцца, а ногі зрасліся з снегам, з зямлёю.

— Дарахвей...— шапталі вусны.— Дарахвей...— яшчэ цішэй шаптаў нутраны голас.— Я ж...

Асунуўся на снег, і яму было ўсё роўна. Зараз будуць па Дарахвеевых слядах жандары і знойдуць яго. Буйнымі кроплямі ападалі слёзы на мяккі снег. Яны ледзянілі снег сваёю соллю.

* * *

Іх было трое. Двое стаялі пад акном, а трэці стукаў у дзверы. На комінку гарэла газнічка. Доўгімі крыллямі па хаце махалі цені. Скрозь крыласты змрок праз акно, пад бель снегу, была відаць чорная прытуленая постаць. Постаць, як дваровы сабака. Яна хацела накінуцца спатайка, з-за вугла. Яшчэ трэці не стукаў, а Дарахвей заўважыў. «Самае галоўнае, колькі іх?» Стаяў каля сцяны ў блытаным водблеску змроку, трымаў у руках медную ступку з соллю і памыліўся: «нібыта, двое». Тады прашаптаў да сястры Зэні:

— Ідзі адчыні... не зачыняй дзвярэй...

Зэня пайшла. Праз адчыненыя дзверы патыхнула ветрыкам (і тут пашанцавала), стухла газнічка. З усёй сілы шпурнуў у кутавое акно ступку з соллю. Яно зазвінела на ўвесь двор. Жандары рынуліся да разбітага акна. Некаторы два разы выстралілў. Хвіліну былі разгублены і ад стрэлаў, і ад разбітага шкла (можа, быў стрэл з хаты).

А Дарахвей праз адчыненыя дзверы ўскочыў на вышкі. Закот сянец застаўлен кулямі (бацька збіраўся прырабляць камору). Цераз закот па вуглу саскочыў у вішняк...

— Дарахвея выратаваў вішняк...— шапталі назаўтра ў Стаўбунах.

— Яны з перапалоху згубілі яго след.

І дапраўды — згубілі след. Цэлую гадзіну шукалі ў хаце, у сенцах, як тую іголку. Не маглі даць веры, каб знік чалавек на іх вачах. Ударыўся ў акно, але ж не выскачыў.

Дарахвеева маці трымала на каленях, можа, пяцігадовага сына Дзёмку, гаварыла:

— Яго, мае людцы, не было. Вецер праз дзверы студшыў газоўку. Дзіця спалохалася — было за сталом — і разбіла ступкаю акно.

Дарахвей быў у адной рубашцы. Згубіў Косцік Дарахвея каля лазні, а гэта ж ён схапіў з лазні кажух. Пачалі яго лавіць — ні разу не начаваў у хаце. Прыйдзе дадому — спыняецца ў лазні. Пакіне кажух і ў адной жакетцы ідзе ў хату. Нібы ён заўсёды дамашні чалавек. Гэта ж былі вясковыя плёткі, што Дарахвей начуе чацвёртую ноч. Расказала цётка Настася Косціку,— магло сёння і не трапіцца. Каб якая хвіліна — сам патрапіў бы ў жандарскія рукі.

Цяпер усё роўна. Косцік абмеркаваў:

Без арганізацыі не знайсці партызанскага атрада. Хоць і знаёмыя будуць, могуць не прыняць. Свой чалавек не верыць свайму. Адкуль можа ведаць такім часам Дарахвей яго нутро. От жа і не паверыў. Падумаў, што Косцік навёў жандараў, а сам стаяў каля плота.

Косцік абуў лапці. Апрануў сівую жакетку Настасінага мужа. Падперазаўся шырокаю папругаю (на справжцы — мікалаеўскі арол). Надзеў калматую белую шапку (Настасін муж пашыў летась з ягнячай скуркі)... Развітаўся з цёткаю Настасяю.

Ішоў па гарадскім бальшаку з выглядам вясковага хлапчука, дамаседа, які нідзе ніколі не быў.

Косцік ішоў у горад.

Снег на дарозе сыпучы. Лапці намерзлі. Ступіш раз, і ногі адыходзяць назад.

А раніца гуляе па снезе сярэбранымі пералівамі. Сонца ўзнімаецца выразна абведзеным кругам. Нібыта сонцу холадна ад снегу, таму такое сціснутае, акутае драцяным вобадам. Снег не баіцца сонца. Моргае мільярдамі вачэй... Падміргвае сонцу. Смяецца іскрыстазорным смехам.

Аб чым мог думаць Косцік? Ён прыйдзе ў горад і

знойдзе Дзядзьку... Ён не можа заставацца адшчапенцам. Дзядзька скажа, што рабіць. Дзядзька ўсё ведае...

Што з Марысяю? Карзюк казаў — могуць расстраляць... Гэта не можа быць!.. Ніколі, ніколі...

«А што з Карзюком? Яго, напэўна, расстралялі... дарагі камандзір. Няўжо арыштавалі Фіму?..»

Абрыўкі нявыказаных слоў. Колькі гора і крыўды!.. Каб знайсці праўду... Дзе ж яна?!

Горача ад цяжкай хады па сыпучым снезе... Ногі адыходзяцца назад. Да гарадка яшчэ вёрст дзесяць. Хопіць хады на гадзіны тры. Яго абагнала, можа, пятая фурманка. Сяляне едуць на гарадскі рынак. На вазах, праўда, не відаць, каб везлі што на продаж...

«Спацеў...» — абцірае з ілба пот. Не сазнаецца перад сабою, што цяжка ісці. Не падае думкі, каб папрасіцца ў каго пад'ехаць. Ён жа малады! Прайшоў палавіну дарогі. Ён і зойдзе.

Раптам ззаду нечая моцная рысь. Азірнуўся — польскі коннік. Цела на момант пашэрхла. Прабегла астуджаная дрыготка. Адчуў на сабе не пот, а нібы хто апырскаў халоднаю вадою. Ступіў яшчэ два-тры крокі (коннік быў далекавата) і саступіў з дарогі. Стаяў і чакаў...

І ён праехаў. Зірнуў абыякава на яго сівую жакетку. Націснуў каня шпорамі. Конь тузануўся з вялікім парывам. Завохкаў селязень. З-пад конскіх капытоў разляталіся няроўныя акраўкі адціснутага снегу. Нібы выкалупваў акраўкі з жывой зямлі.

«Як нічога і не было...» — усміхнуўся прымушана холадна.

Ужо дайшоў да паваротKі на Ветракі. Бальшак ідзе проста, а паваротка налева. З паваротKі таксама ехалі ў горад дзве фурманкі. Паперадзе чалавек на гнядым кані, у вазку, а ззаду — на белым кані, у санях. Чалавек на вазку — у чорнай бурцы. Твару з-за высокага капюшона не відаць. Рукавіцы на руках з зялёнымі пасачкамі. Кіруе каня сырамятнымі лейцамі. Убачыў Косціка (можа, наўмысна, можа, не наўмысна) — тузануў за лейцы. Конь пабег буйной рыссю. А чалавек на санях спыніў каня...

— Сядай, калі хочаш... Падвязу!

— Дзякую...

Косцік падышоў да саней.

— Сядай сюды...— падсоўваў чалавек гарахвіны.—

Добра сядай! Падкурч ногі... Яны гэтак будуць мерзнуць.

Ніколі не было такога здарэння. Бывала, хадзіў у Стаўбуны, колькі едзе фурманак — усе абмінаюць. Бываюць жа на свеце людзі! А можа, было другое? — загаварыла адзінота чалавечага пачуцця. Прыйшлі белапалякі, і ўсе людзі змоўклі, а хочацца гаварыць. Убачыць чалавеку чалавека! Хочацца радавацца, сварыцца, злавань, смяяцца... Жыць хочацца!!

Сані ад вазка за двое гоней. Пакуль усядаліся, пакуль разышоўся ды пабег конь — яны засталіся. Чалавеку, мабыць, усё роўна. Злёгку сморгае за вераўчаныя лейцы, нокае, і конь бяжыць сабе трушком.

— Адкуль жа ты? — запытаў чалавек, калі выехалі з разбіта-ўхабістай паваротки на бальшак.

— З Стаўбуноў...— адказаў Косцік.— У горадзе жыве мая цётка...

— Но-о!..— пагнаў чалавек каня.— Дык ты ідзеш да цёткі ў госці?..

— Якія там госці...

Хацелася што-небудзь дадаць і нічога. Чалавек за Косціка дадаў:

— Добра кажаш... Цяпер могуць так пачаставаць, што дзесятаму закажаш!

Некалькі часу маўчалі. Ехалі трушком. Чалавек клапаціўся, ці добра Косціку сядзець, ці цёпла ў ногі. Косцік бачыў твар чалавека збоку. Пажылы селянін. Бараду, відаць, стрыжэ. Пасля стрыжкі яна на шмат адрасла. Па ёй дзе-нідзе раскіданы сівы іней. У вуху, на вытыркшым храстку, як на бародаўцы,— пучок светла-дзіцячых валаскоў.

— Але і нашы, дарма сабе, частуюць іхняга брата! — раптам праказаў селянін. Косцік зразумеў: селянін увесь час думаў пра белапалякаў і цяпер вярнуўся да той самай гаворкі. Селяніну, відаць, вельмі рупіла. Можа, і не Косціку і не сам сабе выказаў гэта ўслых. Голас нейкай маленькай радасці сваёю воляй вырваўся з яго грудзей.

Косцік запытаў:

— Чым, кажаце, частуюць?

— Рэкламацыямі... Чым жа...

— Дзе гэта так было?

— У горадзе. У тую суботу і на сценах панаклеілі,

і так параскідалі. Хіба ты не чуў? Паложым, добра кажаш, яно пакуль дойдзе да нашых Стаўбуноў...

Шмаргануў лейцамі каня і весела, чуллівым голасам:

— Эх ты... Варушыся, малы!..

Конь церабіў дарогу, а ён зручней сеў, гаварыў:

— Бачу я — ты, пэўна, нічога не ведаеш і аб рэвалюцыі. У горадзе была рэвалюцыя. Нехта вывесіў чырвоную фанцінку. У-у-у што было! Гарадскія хлопцы ў шапку не дрэмлюць!..

— Што вы кажаце?!

— Што, нябож, чуеш... Вывесілі чырвоную фанцінку, а горад сабраўся і не хоча разыходзіцца. Тады нехта як пачаў сыпаць рэкламацыі, як пачаў... Палякі ад злосці аж уцямнелі. Арыштавалі шмат каго, а потым выпусцілі. Не ўзяў за руку — не кажы: злодзей. Ого, што рабілася. Нават у нашых Ветраках peравярнулі ўсё дагары нагамі.

Не мог Косцік ад радасці ўседзець. Узняўся — стаяў каленкамі на гарахвінах, пытаў:

— Што там было напісана, можа, ведаеце?

— Чаму ж не ведаю...— усміхнуўся селянін. Быў рад, што хлапец захапляецца яго радасцю.

— Там, нябож, было напісана, што неўзабаве прыйдзе Чырвоная Армія разам з бальшавікамі. Было напісана, што палякам надыдзе капут. І яшчэ напісана, каб палякам нічога не давалі... Хто можа — каб ішлі ў партызаны... У нашых Ветраках, між намі кажучы, ёсць адна рэкламацыя...

Задаволена ўсміхнуўся і падміргнуў вокам. Не хацеў сціраць цвітучай усмешкі хмурым рукавом бравэркі.

У Косціка сапсуўся настрой. Сказаў селянін пра такую работу... а дзе быў ён? Да такой важнай работы не прыклаў пальца!

«А што я вінават...»

Цяпер была думка, каб хутчэй прыехаць у горад. Калі няма Фімы, няхай Дзядзька дае самае цяжкае заданне. Што хоча! Ён усё зробіць!

Селянін раптам абярнуўся да Косціка ўсім тварам:

— Што, нябож, на гэта скажаш?

— Скажу — шкада, што мяне там не было.

— А што б ты рабіў?..

— Я заспяваў бы... Інтэрнацыянал... Ведаеце?

— Чуў...

Акінуў Косціка выразна насмешлівым позіркам і дадаў:

— І таксама ведаю, колькі месяцаў за гэтую песню, нябож, не сеў быў, не лёг бы! Ты добра кажаш, як відаць, смяльчак! Але яны і на смельчаках умеюць драць скуру палосамі. У нас чалавек быў, успрацівіўся рэквізіцы... гэтаксама. Дык як усыпалі «двадзесце пенць»... Толькі гаворыцца «двадзесце пенць», а там было, можа, і «пянцьдзесёнт». Чалавек ужо два месяцы не можа сесці. Я б табе параіў, калі такі прыткі, ісці ў партызаны.

— Парайце! — схамянуўся Косцік. У яго вачах загарэўся агонь.

— Магу параіць... А што ты думаеш...

— Я ж кажу! Парайце, і я хоць сёння!

— А калі ты заспяваеш сваю песню на ўвесь лес?

— Дакляру́ю, што не буду спяваць на ўвесь лес. Ціханька буду спяваць, сам сабе... Без жартаў, парайце!

Узрадаваўся, як дзіця. Пакуль пад'язджалі да гарадка, [redacted] шчырасці расказаў пра сябе. І тое, што ён камсамолец, і яго шукаюць жандары, і не жыве ён у Стаўбунах, а хаваецца там у сваёй цёткі. Хацелася, каб селянін даў яму веры, каб не абдумаўся — не адмовіўся далучыць яго да партызан. Селянін слухаў яго ды толькі патакваў.

Перад самым горадам яны згаварыліся: Косцік сходзіць да свайго таварыша, прачуе аб бацьках і будзе чакаць пры выездзе з горада. «Каб не кідалася ў вочы».

Косцік меркаваў:

«Зайду да Боры. Нібы стрыгчыся. Ды ў мяне і валасы не малыя. Няхай пастрыжэ. Прачую, што цяпер робіцца. Да Дзядзькі і не пайду».

Была вялікая радасць. Ён паедзе з гэтым селянінам да партызан. Усе будуць думаць — ён прапаў, яго арыштавалі, а ён (як будзе наступаць Чырвоная Армія) з'явіцца з партызанамі ў гарадок! Можа, перш-наперш (пакуль падаспее Чырвоная Армія) яны і прагоняць акупантаў. Якая радасць!

«Мне ўсё адно ў горадзе цяпер нельга жыць... А Бору ўжо скажу: жыву ў партызанах. Няхай зайздросціць...»

І сапраўды — Косціку пашанцавала. Не памыліў-

ся, каму расказаў пра сябе. Ветракоўскі селянін ведае партызан і мае з імі сустрэчы. Ветракоўскі селянін — той самы Кузёмка Данільчык, якога неяк захапілі палякі на гарадскім рынку з канём, каб падвозіў мяшкі. Тады Кузёмка казаў: «Можна браць фурманку з кірмаша, добра кажаш, толькі на пажар».

А расказаў Косцік пра сябе — Кузёмка падумаў:

«Гэты хлапец не так сабе. Або вельмі разумны, або вельмі малады. Малады — няхай пасталее. Ніхто ні знай ні ведай не павядзе чалавека да партызан. Разумны — няхай не думае, што я дурачок. Я выеду з горада другою дарогаю».

Яны разышліся на Шырокай вуліцы. Каб прайсці на Безулаўскую, трэба прайсці канец Крывой. А можна прайсці да палавіны Крывой і звярнуць на Безыменны завулак: некалькі крокаў кружней. Таксама выйдзеш на Безулаўскую. Косцік так і пайшоў. Хацелася прайсці каля сваёй кватэры.

«Можа, выпусцілі бацьку...— абнадзейваў сябе думкай.— Можа, убачу каго на двары... Заходзіць не буду нізашто!»

Вось ужо дом Гарбацэўскага... Белыя аканіцы. Нехта на двары... Сам Гарбацэўскі...

«Мяне не пазнаюць... Я цяпер зусім вясковы... Я не буду глядзець у вочы».

За Гарбацэўскага домам — яго кватэра. Два крайнія акны з таго боку. Вунь яны, яго вокны... Часта пазіраў праз акно з фортачкай на вуліцу. Не на вуліцу — туды, некуды далёка... аж за пажарную вышку! Глядзеў на неба і думаў: «Якое будзе заўтра надвор'е?»

Мінуў Гарбацэўскага дом, і з-за вугла, перад вачыма, увесь двор.

— Няўжо яна!..— вырваўся ціхі голас услых.

Ад дравянога хляўчука да ганка ішла яго матка. У руках — памыйнае вядро. Сама — прыгнутая постаць, задуменная... Пачула крокі на тратуары — узняла вочы. І сам не ведае, як выйшла, а ён узмахнуў на яе позірк рукою. На момант супуцілася, паставіла вядро. Яшчэ лепш паглядзела... Тады кранулася з месца і пайшла да веснічак. Косцік быстра падышоў да брамы. Яна чамусьці нагадала мураваную сцяну. Не верылася, што расчыніцца гэта сцяна і ён убачыць матку. Дрыжачымі пальцамі націскаў на слясак...

— Кастусёк...— вырваўся голас з глыбіні матчыных грудзей,— сыночак...

— Ціха... мама...— праказаў.— Пачакай...— не мог стрымаць дрыжачых слоў.— Я не пайду ў хату...

Лёгка адвёў матчыны рукі. І калі дакрануўся рук — адчуў халодны боль у сэрцы. Яны сухія, шурпатыя. Заглушаў свой боль, сутаргава цісную матчыны рукі, гаварыў:

— Каб не ўбачылі суседзі...

— Яны шукаюць цябе...— не чула яго слоў.— Пойдзем, Кастусёк... ты ж хочаш есці...

— Я не пайду ў хату! — гаварыў спешна.— Добра, што ўбачыў цябе... Мяне чакае чалавек... Я цяпер у партызанах... Хутка прагонім злыдняў, тады пагаворым. Добра, што ты была на двары... Можа, што чула пра Марысю?

— Не чула, сынок... Як арыштавалі тады. Бацьку таксама не пускаюць...

— Я, мама, пайду... Бывай здарова!..

З яе вачэй хлынулі слёзы.

— Кастусёк...

— Ціха... Не трэба плакаць. Якая ты нецярплівая!

Не адчуваў, як па яго шчацэ скацілася і ўпала на штрыфлю жакеткі буйная сляза.

— Бывай... мамка! Калі хто бачыў нас, скажы: нейкі чалавек... Ты сама здаўмеешся, як сказаць, чаго пытаў у цябе нейкі чалавек.

Вызваліў свае рукі з яе рук. Павольна, але парывіста зачыніў веснічкі.

«Матка ведае, дзе я цяпер буду...— ішоў і думаў.— Зайду да Боры і адразу за горад... Паеду ў лес... Мы будзем лавіць гэтых гадаў па дарогах...»

Звярнуў з Безыменнага на Безулаўскую, а перад ім — два жандары. Кураць, аб нечым гавораць, не зважаюць на яго. Скоса кінуў вокам і прайшоў паўз іх. За ім ішла жанчына. Насупроць — два хлапчукі. Адзін трымае наапашку здубянелымі рукамі канькі. Уперадзе — ізноў жандар. Ідзе яму насустрач.

«Вельмі мала на вуліцы людзей...»

З левага боку цераз Базарную — Парэцкі пляц. Кідаў у той бок схаваны позірк і было ў думках:

«Цікава, на якім слупе быў чырвоны сцяг? На сярэднім ці на вуглавым?»

А вунь і цырульня Бранта. Моцна застукала сэрца. Як спаткаецца з Борам? Хаця б хто не заўважыў!

— Зачынена!..— прашаптаў вуснамі.— Што такое?

Сцішыў крокі і не ведаў, як вырашыць. Ісці ў хату кругом ці не ісці. Ісці — можа быць падазронасць. Вунь каля Сцёпкавага дома вартавы паліцыянт. Ён нават пазірае на Косціка... Зайсці да Сцёпкі — яшчэ большая падазронасць. Захадзіў нейкі вясковы! Могуць папытацца ў Сцёпы...

«Чаму зачынена цырульня?»

Спыніўся на момант перад дзвярмі. Сам не ведаў, як лепш. Вельмі ж хацелася даведацца аб усіх... І што з Марысяю?..

«Калі што дрэнна — буду толькі перажываць».

Момант — і ён вырашыў: ні да кога не будзе заходзіць. Можа, нават і лепш. Каб не было якой непрыемнасці. Даведаецца ў свой час. Усё адно нічога не дапаможа Марысі. А яму нельга быць у горадзе нават лішняй хвіліны.

«Пайду за горад...— вырашыў.— Гэты чалавек, пакуль зайду, і пад'едзе. Лепш я пачакаю яго, а не ён мяне».

І пайшоў. Заклаў рукі: левую за пазуху, а правую ў кішэню жакеткі (хоць і ў рукавіцах, а рукі пакрэплі). Мінуў Мяшчанскую і выйшаў на Шырокую.

«Можа, у ветракоўскіх партызан і Дарахвея напаткаю,— разважаў.— Пасмяюся над ім, што не пазнаў мяне. Дзівак! Гэта ж трэба мецъ галаву: крычу Дарахвей, Дарахвей! — а ён так перапалохаўся! Цікава, ці многа там партызан? Каб чалавек сто — можна напасці на горад. Знянацку і не адумаліся б палякі, як бы іх распатрашылі! Далучыліся б рабочыя, і пылу ад іх не засталося б...»

Вунь ужо і поле прыгараднае відаць...

«Самае важнае, каб усе партызаны мелі зброю. І каб патронаў было колькі хочаш. У мяне малавата патронаў...»

Апошнія будынкі гарадка...

«Не відаць майго «партызана...» Яшчэ не паспеў накірмашыцца... Зайду за гэты дом і пачакаю... А можа, лепш ісці па дарозе да прысадаў? Адтуль убачу яго белага каня — памахаю рукой...»

І яшчэ ішоў, як раптам ні адсюль, ні адтуль:

— Пачакай!

Голас як ветрыкаўскага чалавек (а чый жа больш?). Абярнуўся, а перад ім чалавек у скураной тужурцы.

— Карзюк! — вырваўся [illegible] Косцікавых вуснаў ледзь чутны голас радасці, а больш — голас спалоху.

Карзюк адразу адсек (ён пагарачыўся);

— Руку — з кішэні! Рукі — угору!

Усё стала ясным як дзень, а ў вачах — цёмна. Не вымаў рукі — момант хапаўся за рэвальвер. І гэтага моманту было даволі. У яго грудзі ўперлася дула Карзюковага браўнінга. Выпусціў абмацаны ў кішэні рэвальвер і падняў голыя рукі. З спакойнай павольнасцю і ледзь прыкметнай усмешкай Карзюк дастаў з Косцікавай кішэні яго апошнюю надзею.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## Раздзел першы

Па горадзе хадзілі чуткі, нібы камендант Векерт абамляваў. Даведаўся, што ізноў з'явіліся пракламацыі, і адразу абсунуўся. Некалькі разоў выклікалі доктара. А пакуль тыя дактары — жандары пырскалі палкоўніку на твар халодную ваду і давалі нюхаць нашатырны спірт. Магчыма, нехта жартаваў, а магчыма, і праўда. (У каменданта, як вядома, парок сэрца.) Так ці інакш — гарадок зараз быў пчаліным вуллём, сярод якога многа трутняў. Рабочыя пчолы гулі — не хацелі карміць сваім сокам нахлебнікаў. А іх — як цёмная хмара! На скрыжаваннях вуліц двайная варта паліцыі. На кожным кроку можна спаткацца з жандарам. І не пройдзе, каб не паглядзець чалавеку ў вочы. А кожную ноч, не там дык тут, з якой-небудзь кватэры нібы некага высяляюць. Крык і плач. Шукаюць бальшавікоў. Шукаюць у дзіцячых калысках, у камінах, у печы, сярод кухоннай пасуды, у карзінах з бялізнаю... Жандары не вераць роднаму бацьку. З'явіліся пракламацыі — нібы ў кожным закануркy прытаіўся бальшавік. Цень кутка абмацваюць рукамі.

Фіма рад сваёй удачы.

Перад гадавінай Кастрычніка Дзядзька сказаў яму:

— Можа, не пашанцуе вывесіць чырвоны сцяг — раніцою ўбачыш — і нават вывесім, а жандары не дадуць сабрацца народу, тады збярэм людзей каля сквера. На ўсё трэба быць гатовым.

Было дамоўлена збіраць народ пад вечар, калі найбольшы рух людзей. Вызначылі для збору Каржакевіча і другога рабочага з гуты (Фіма яго не ведае). Каржакевіч павінен «намазаць» бензінам фанерную рэкламу кінатэатра (нібы наклейваць афішу), а другі рабочы неўзабаве будзе прыкурваць і кіне запалку. Рэклама насупроць сквера — пажару не будзе, а на «пажар» збяруцца ўмомант. Тады Фіма павінен быў рассыпаць пракламацыі. Яго акружалі б усе свае (так і было на Парэцкім пляцы).

Дзядзьку хацелася рассыпаць дарагія словы перад чырвоным сцягам. І гэта Фіма зрабіў. Пакуль падаспелі жандары ды паліцыянты — Фіма быў далёка ад пляца. Ён пайшоў адразу, як пачалі разыходзіцца. Былі арыштаваны зусім выпадковыя людзі. Жандары нічога не дазналіся.

А Сцёпу ледзь не злавілі. І ўсё з-за маладой дурасці.

На тым тыдні партыйны камітэт ізноў атрымаў пракламацыі. Тысячу штук. Дзядзька давёў тыраж гектографам да пятнаццаці тысяч.

На свой калектыў Фіма атрымаў тры тысячы. Разносілі па горадзе ў адну ноч. Каб на раніцу мог прачытаць увесь горад адразу. На разноску былі вызначаны і Бора са Сцёпам. У іх — дзве вуліцы: Крашчэнская і Падгорная. Вуліцы на ўскраіне горада. Жывуць найбольш рабочыя. Адзін каторы (Сцёпа ці Бора) будзе ісці паперадзе, а другі — воддаль. Другі будзе назіраць за пярэднім, каб не ішоў шпік. Пярэдні павінен, як той лістаносец, апускаць пракламацыі ў дамашнія скрынкі для лістоў або падкладаць пад дзверы. Калі небяспека — задні папярэдзіць моцным кашлем.

Такая разноска самая лягчэйшая. Менш падазронасці. Затое і карысці менш. Будзе чытаць пракламацыю адна кватэра. Ды і невядома — якая? Можа, спекулянта ці панскага прыхвасня. Дарэмная трата пракламацый. Другі інтарэс — расклейваць на штыкетах, на дамах. Пакуль агледзяцца — прачытаюць сто чалавек.

Сцёпа з Борам так і вырашылі.

— Я зраблю клей,— сказаў Бора.— Звару з картафлянага крухмалу. Прырыхтую дзве кансервавыя

бляшанкі. Табе адну і сабе. Для непрыкметнасці — бляшанкі возьмем у кішэню...

— Нашто клей! — параіў Сцёпа.— Толькі замажаш усю кішэню. У мяне ёсць кнопкі. Табе сто штук і мне сто. Ты пойдзеш па Падгорнай, а я па Крашчэнскай. Папрышпільваем, як кажу.

Нават пашкадаваў, чаму не параіў Фіму. «Няхай бы гэтак па ўсім горадзе».

Яны разышліся, і Фіма нічога не ведаў. Сцёпа прыціскаў да мёрзлых штыкетаў кнопкамі белыя лісточкі і ўсё азіраўся. Толькі цяпер адчуў сваю памылку. Не было ззаду Боры. А кнопкі ўсё загіналіся. Трэба ісці далей. Нельга стаяць на адным месцы цэлую хвіліну.

«Яны нават не маюць людскіх кнопак! — злаваўся Сцёпа на акупантаў.— Бляха, а не кнопкі!»

І гэтак азірнуўся, а праз вуліцу быстрымі крокамі ідзе да яго чалавек. Тады шмыгнуў у калітку на нечы, з нізенькімі хляўчукамі, двор. Перабег і ўпёрся ў штыкеты. Не ведае, як пераскочыў, як апынуўся на другім двары. Там доўгі драўляны будынак. Стуліўся за сцяною і бачыў: за ім пералез чалавек у кароткім кажушку. Спыніўся на адзін момант і пабег цераз увесь двор на другую вуліцу.

У Сцёпы ледзь не выскачыла сэрца. Прашаптаў, каб адчуваць самога сябе.

— Кусі, кусі... пародзісты ганчак!

Каб зусім авалодаць сабою, прыціснуў да сцяны белы лісточак чатырма кнопкамі.

— Тваё шчасце,— сварыўся Фіма на Сцёпу.— Нейкі дурны шпік. Разумны не пабег бы на вуліцу. Ты ад яго, калі цябе ўбачыў, не ўцёк бы.

— Я мог з ім справіцца! — хваліўся Сцёпа.— Ён быў шчуплы.

— Яшчэ хоць раз парушыш дысцыпліну,— наказаў Фіма,— і ніякага задання не атрымаеш.

Гэта было б самае цяжкае пакаранне. Сцёпа разумее сваю віну. Ціхенька цешыцца, што Фіма гаворыць «яшчэ хоць раз...». Ніколі больш гэтага не будзе. Абы толькі дазвол на заданне.

А што з Марысяй — не маглі даведацца (і Косцік невядома дзе).

І Фіму і партыйнаму камітэту вядома: імя Фіма для палякаў нешта жудаснае. Яны лічаць яго бальшавіцкім атаманам. Яны шукаюць як дзень, як ноч. Ся-

дуч нават выведаў, што за Фіму вызначана ўзнагарода. І немалая.

— Можаш ганарыцца,— смяяўся Сядуч з Фімы.

І сапраўды смешна. Але гэта добра. Глыбока захаваны партыйны след.

А на Карсюкову параду, каб арыштаваць усіх Фімаў, Рытвінскі махнуў рукою:

— Безнадзейна! Фіма — несапраўднае імя. Фіма — атаманская клічка. Трэба лавіць на падпольным сходзе.

Паручнік не памыліўся. Зловіш Фіму без доказу — што з яго? Адкуль возьмеш канцы? Такія людзі не выдаюць сябе на допытах. Яны каменныя. Трэба мець відавочны матэрыял.

— Што з Марысяю? Дзе ж яна? — клапаціўся Дзядзька.

І ніхто не ведаў, дзе яны дзелі Марысю. Арыштавалі — як у ваду канула. Пра Касціка была думка — недзе хаваецца. Інакш не трымалі б заложнікам яго бацьку.

«Хаця — вельмі цяжка сказаць...»

— Марысі ў турме няма! — рашуча сказаў Сядуч. Праглядзеў усе спісы, пытаў уназірачых. З кожным назірачым па калідоры меў асцярожную гутарку.

— Дзе такая — у нас тут была — нізенькая, русавалосая, з сінімі вочкамі... Марыськай, здаецца, звалі?

— Закахаўся, пане Сядуч, у сінія вочкі!..— жартавалі назірачыя.

Потым дадавалі тонам павагі:

— Не ведаем. Усё можа быць... Магчыма, «сінія вочкі» камандыраваны да мястэчка Магільнага...

Назірачыя і не маглі ведаць. Хіба магчыма памятаць тысячы людзей, якія праходзяць праз «Белы Дом»? Кожную ноч прыводзяць, вывозяць. Часта выязджае з турэмнага двара, як называюць назірачыя, зачыненая машына — «фура». Тады назірачыя жартуюць між сабою:

— Юзэф! заспявай модлітву «Вечны одпочынэк»!

Юзэф складае рукі далоняй к далоні, уздымае іх да «пана бога» і пачынае:

«Weczny adpoczynek racz im dać, panie, a światłość weikuista naichaj śweici, niech odpoczywają w pokoju wiecznym. Amen» [1].

[1] «Вечны адпачынак загадай ім даць, божа, а светласць вячыстая няхай свеціць, няхай адпачывае ў спакоі вечным. Аман».

«Фура» вельмі рэдка бярэ трох чалавек. Найбольш выпадкаў — аднаго, двух. Не таму, што не можа змясціць. У ёй змесціцца і дзесяць чалавек. Але такі загад каменданта.

«Каб не было па дарозе крыку».

«Фура» едзе за тры вярсты ад горада. Там паабапал дарогі лес — «хвойнікі». Там людзі самі сабе капаюць магілу. Таму і празвалі назірачыя гэта месца «магільным».

Дзядзька не дае веры, каб Марысю маглі расстраляць. Дэфензіва ведае праз шпіка, хто яна. Будуць дамагацца, каб давала арганізатараў (Марыся не знаёма з Дзядзькам).

— Яны замучаць, а расстрэльваць не будуць,— гаварыў Дзядзька Фіму,— для іх вельмі важна, знаеш, твая галава. А дзяўчына маладзец! Відаць — наша дзяўчына! Не выдала цябе. Спаткаемся — моцна пацісну руку!

Вельмі шкадаваў Марысю Сцёпа. Арыштавалі — шкадаваў, як сястру.

— Добрая,— гаварыў калісьці Косціку,— адразу ўсё разумее.

Косцік перасылаў цераз Сцёпу першыя пісулькі. Чытала перад Сцёпам, гаварыла тады:

— Піша — «дарагая»! Дзіўна! А яшчэ называецца камсамольцам!

— Прасіў, каб адпісала,— казаў Сцёпа.— Будзе чакаць.

— Не буду адпісваць!

Сцёпа адыходзіў, а яна дагнала на парозе:

— Скажы, няхай прыйдзе... У сем гадзін. Пачакай! Я напішу яму пісульку.

— Дзе ж усё-такі Марыся? Дзе Косцік? — з кожным днём ва ўсіх больш і больш нарастала трывожнае пытанне.

* * *

Зусім нечакана Рытвінскі выехаў у штаб акруговага этапа. Невядома, па якой справе. Хадзілі чуткі, што супроць акупантаў паўстае ўся акруга... Лясы загаманілі ляскатам зброі. Напэўна ж, расла нейкая трывога.

А панна Мальвіна засталася адна. Ад'язджаў — цалаваў ручкі, гаварыў:

— Каб толькі не было, пакуль я прыеду, гасцей.

Будзеш слухацца, мая цурка, я табе нешта прывязу. Нешта такое, такое... Прывязу табе, мая цурка, сюрпрыз.

Мальвіна не любіць суму. Прывыкла да вясёлага звону кавярні «Под мондрым окем». Выступала там з спевамі — весяліла п'яных. З Рытвінскім пазнаёмілася за столікам. Угаварыў ехаць з ім. У яго жонка і дзеці. Не бачыла жонкі, і ёй — усё роўна. Захоча — заўтра паедзе назад. Гаспадар кавярні, пан Захарка, прыме яе. Ізноў заспявае ўлюбёную песню кавярні:

Под мондрым окем
Слыхаць мэлёд'ён фортэп'яну.
Под мондрым окем
З тобой малюткон укоханон
Бендземы таньчыць танго.

Рытвінскі выехаў учора, а яна запрасіла гасцей на сёння. Павінны прыйсці: сяржант Зомбер — першы кавалер Мальвіны, сяржант Ліпніцкі — кавалер Ванды, Антэк Тарпатынскі — Франіна «вока». Таксама прыйдуць: Болісь, Янэк і падпаручнік Закрэўскі. Прыйдуць, разумеецца, Франя і Ванда. Яе найблізкія сяброўкі (пазнаёмілася з імі цераз Закрэўскага). Яны чакалі не менш за Мальвіну, каб хаця хутчэй адлучыўся з дому паручнік Рытвінскі. Што ён. Яму ўсё няма за допытамі часу. Мальвіна найбольш адна. І не дазваляе, каб хто без яго зайшоў.

Мальвіна не любіць жанчын. Франю і Ванду пазвала, каб ніхто нічога не падумаў. Ды і мужчыны маглі пакрыўдзіцца. Адзін будзе з ёю, а што другія?

Панна Мальвіна любіць, каб многа мужчын і каб усе доўга былі. Возьме поўны, улюбёны квяцісты келіх — скажа: «За здрове, за каханне!» І вып'е да дна. Тады вочы яе заіскрацца. Страсяне пярсцёнкамі чорных валасоў. Яшчэ ніжэй спадзе на шыю падабраным жмутам кукла. Возьмецца адною рукою ў бок (мезены палец крышачку адставіць), а другою рукою ўзмахне перад сабою, скажа:

— Обэрэк! [1]

Сяржант Зомбер зловіць яе тонкую ручку. Пацалуе кончыкі пальцаў. І закруцяцца пад такт рассыпаных гукаў грамафона...

---

[1] Обэрэк — народны польскі танец.

Потым яшчэ будуць піць. Мальвіна будзе акампанаваць на раялі пад імянны спеў кавярні.

Невядома, калі разыдуцца. Мальвіна будзе жартаваць. Не пусціць рана дадому. Потым застанецца сяржант Зомбер. Пакладзе яго спаць у сталовай на канапе ды скажа:

— Сцеражыце мой сон! Глядзіце, каб ніхто не патрывожыў!

...Вечарынка назначана а восьмай, а зараз — адзінаццаць. У пакоі Мальвіны Франя і Ванда.

Ніхто не прыйшоў.

Мальвіна нервова націскае на педаль раяля, і гукі вырываюцца спалоханым строем.

Ванда і Франя пяюць:

Твэ чарнэ очы
Дотонд не даён мі покою,
Твэ чарнэ очы
І уста твэ дзісь бэндон мое,—
Нас дзісь злончы танго.
Пуйдзь до мне бліжэй,—
Чы чуеш сэрца мэго біце?
Пуйдзь до мне бліжэй,—
Пруч цебе ніц юж не мам в жыцю,
Пруч цебе і пруч танго!

На стале стыне закуска. Стаяць надпітыя чаркі, бутэлькі. Па абрусе растрэсены крошкі французскага торта.

— Вып'ем! — раптам адрывае Мальвіна пальцы ад раяля і блытае гукі. Спаганяе крыўду на афіцэрах. «Чаму ніхто не прыйшоў?» Не ведае, што афіцэры вельмі хацелі прыйсці. Ну, што яны?

— Мы не вінаваты,— скажуць заўтра цэлым роем.— Бальшавікі вінаваты!

І дапраўды, не іх віна. Мальвіна не ведае, што яе вечарынку сапсаваў нейкі Дзядзька.

А Дзядзька таксама не вінаваты. Даведаўся, што ў пятніцу выйшаў з Баранавіч таварны поезд. Эшалон вельмі каштоўны: французская зброя і англійскае абмундзіраванне. Эшалон ідзе на фронт цераз станцыю гарадка. Каму ахвота прапусціць зручны момант?

І не прапусцілі. На семдзесят трэцяй вярсце эшалон пайшоў не па рэйках, а па адкосу. Ні панна Мальвіна, ні Франя з Вандаю не чулі, як здрыганулася зямля. Пачалося крушэнне — у вагонах узарваліся француз-

скія бомбы. Англійскае абмундзіраванне змяшалася з зямлёю.

— Знайсці!.. Злавіць!..— хрыплым голасам крычаў па прамым провадзе палкоўнік акруговага этапа.

Камендант Векерт задыхаўся:

— Гарнізон на нагах...— шапталі вусны ў тэлефонную трубку.— Гарнізон шукае... Знайду...

Камендант Векерт паклаў трубку на стол. Сабраў апошнюю сілу голасу:

— Арыштаваць! — крыкнуў падпаручніку Закрэўскаму.— Расстраляць!

Закрэўскі і сам разумеў: некага трэба арыштаваць, некага — расстраляць. Абы-каго. Каб толькі спагнаць злосць.

Дык вось чаму і не прыйшлі. Уся ноч прайшла ў гарачай рабоце.

— Паненачкі! — стаўляючы выпіты келіх, звярнулася панна Мальвіна да Ванды з Франяй.— Я зараз зраблю спектакль... О, як будзе весела!

— Арына! — пазвала цераз усе пакоі сваю служанку.— Ходзь тутай!

Вочы яе гарэлі яркімі вуглямі. Чорны шоўк сукенкі прыліп да цела. Грудзі высока ўздымаліся. Яны хацелі вырвацца з ліпкага шоўку. У пакоі — душна...

— Пакліч дворнікавага сына,— загадала Арыне, калі зайшла тая ў пакой.— Без яго не прыходзь. Скажы — я хачу паслаць... Я скажу куды. Ідзі!

Пакой загаманіў весялосцю. Ванда з Франяю цалавалі панну Мальвіну. Грамафонная труба выкідала абрыўкі шаляпінскага голасу.

Сцёпа не быў у Мальвіны, як уцёк з арластым гузікам ды шпурнуў яго ў памыйную яму. Першы тыдзень усё баяўся. «Можа, і дапраўды нагаворыць, што я — бальшавік». Нікому не гаварыў, каб не страшыць самога сябе яшчэ больш. Ды маглі б з яго смяяцца. Ніхто не дасць веры. Скажуць — сам пайшоў. Могуць выдумаць усякае глупства. А час ішоў. Сустракаўся здалёк, і нічога. Нібы не ведае, хто ён... Яна была тады п'яная.

Сцёпа ўжо спаў. Арына разбудзіла — вельмі спалохаўся.

— Хоча, каб схадзіў,— гаварыла Арына,— можа, на кватэру да якога начальніка. Мелася быць шмат начальства, і ніхто не прыйшоў.

Апрануўся, а матка лежачы на ложку:

— Поўнач!.. Божухна-бацюхна... Няма ні дня, ні ночы! Як тыя непрыкаяныя. Мала што самі чэмерам уеліся, дык яшчэ прыслужвай палюбоўніцам...

— Маўчы ўжо...— буркнуў Сцёпа на матку і выйшаў ■ Арынаю.

Вельмі непакоіўся. Нікуды не хацелася ісці. От каб заплюшчыць вочы і доўга ляжаць дома. Маленькая радасць сабралася наўкол сэрца, дык навошта яе растрасаць?

Фіма сказаў, каб усе былі дома. Сёння дрыжыць увесь горад. Сёння маленькае свята перамогі. Пад адкосам у сутаргах ляжыць эшалон!

Не ведае Сцёпа, хто выканаў такое заданне. Каб гэткае даручылі яму! Яму не даручаць...

«Я не ўмею нават разносіць пракламацый,— упікаў сам сябе (ад гэтага было лягчэй).— Я — малакасос!»

Непакоіўся, каб хаця не злавілі таго, хто спусціў з рэек эшалон.

«Можа, сам Дзядзька? Фіма дакляраваў пазнаёміць...»

Узнімаліся на другі паверх — Сцёпа здрыгануўся.

«Куды хоча паслаць? Каб хаця не здагадалася чаго-небудзь?.. Добра, што няма дома яе «канарыка»... Можа, ізноў ляжыць на століку сакрэтнае пісьмо?..»

Арына пайшла на кухню, «каб не пабег самавар», а ён адчыніў знаёмыя дзверы.

Абдало густым пахам парфумы. Сціснутая гарачыня абцягнула гумаю яго твар. Спыніўся каля парога і ўбачыў:

Стол на тым самым месцы. На стале некалькі бутэлек. Усе яны чорныя. Некаторыя рыльцы аблеплены серабрыстай паперай — нібы абмерзлыя.

— Праходзь...— сказала Мальвіна.— Чаго спалохаўся? Знаёмся...

Зірнула на Ванду і Франю з відавочнай насмешкай з яго (тыя стаялі каля стала. Ванда ахапіла рукою плечы Франі, а Франя плечы Ванды. У адной і ў другой на твары гуляла празрыстая ўсмешка).

— Мой кавалер! — адрэкамендавала Мальвіна.— Толькі вельмі баіцца майго Вацлава. Праўда? Але ж гэта нічога. Вацлава баіцца ўвесь горад. У «Белым

Доме» ён так напалохаў нейкую камсамолку, што яна нават звар'яцела. Завезлі ў вар'яцкі дом.

Ступіла да Сцёпы, узяла яго пад руку, гаварыла:

— Са мною нікога не бойся. Проша да стола, муй каханы!

Сцёпа не чуў, што яна гаварыла. Ішоў «да стала» і не памятае, як сеў на крэсла. Над сталом у яго ваччу то ўзвіваліся, то ападалі зялёныя кругі. Нібы стукнуў нехта па галаве і аглушыў. Як скрозь сон чуў рогат жанчын. Рогату было многа, многа!

«... У вар'яцкі дом...— шаптала яго нутро,— завезлі ў вар'яцкі дом... Марысю ў вар'яцкі дом!..»

— Вып'ем, мой хлопчык! — сказала Мальвіна, падаючы кілішак са светла-чырвоным пітвом.

«Я не п'ю...— хацеў сказаць і ўзяў кілішак з яе рукі.— Можа, яшчэ скажа,— мільганула думка,— я вып'ю і дапытаюся...»

Выпіў за адзін раз. А Мальвіна абхапіла доўгімі пальцамі яго левую руку ніжэй локця. Прыхінулася да яго ўсёю постаццю. Ізноў наліла поўны кілішак.

— Я больш не хачу...— праказаў Сцёпа. Хацеў узняцца, а яна як абцугамі сціснула яго руку.

Да яго крэсла падышла Ванда. Скрозь пах парфумы выразна чуваць пах нафталіну. Нібы гэта жанчына доўга была схавана ў шафе з вопраткай, а цяпер нехта яе дастаў.

— Жанчыны не любяць кавалера, які не п'е,— сказала Ванда.

Каля самых яго вуснаў Мальвіна трымала поўны кілішак. Рука яе дрыжала. Пітво хісталася ў кілішку з тахтам дрыготкі. Насупроць сядзела Франя і заходзілася дробным рогатам.

Зрабілася страшна. Не прыйшлі, як гаворыць Арына, начальнікі. Паклікалі яго для пасмешышча. Сын дворніка і яны. Пыл вуліцы і шоўк... Хто шоўк, а хто пыл?!

Ім сумна. Абрыдла аднастайнае жыццё. У яго целе маладая, незабруджаная кроў. Ім патрэбна гэта маладосць...

— Пусціце мяне...— тузануўся Сцёпа. Узнімаўся з крэсла — незнарок штурхнуў Мальвініну руку. Кілішак выпаў з пальцаў. Са звонам разбіўся аб талерку. Віно пырснула Мальвіне ў твар і заліло абрус.

— Арына! — крыкнула Мальвіна і адышла ад Сцёпы. Ён адсунуў крэсла і надзеў шапку.

— Не пойдзеш!..— кранулася з месца, стала перад ім.— Я пазваню ў паліцыю...

Сцёпа не зразумеў. «Яна пазвоніць, што я разбіў кілішак?»

— Выбачайце,— сказаў Сцёпа,— я разбіў незнарок.

Яна зарагатала штучным смехам. І раптам абарвала рогат. Твар зрабіўся золкі, як восень. Сцёпа стаяў разгублены. Ступіла да яго скрадзеным крокам:

— Застанешся — не буду званіць. Пойдзеш — пазваню.

Адступілася ад яго і ўзялася ў бокі.

— Выбірай! — сказала выразна зачэпным тонам.

Быў момант выбару. Перад Сцёпам прамільгнуў скінуты эшалон. Выразна чуў лязгаценне зброі. У тумане праплыў «Белы Дом». Марыся і Косцік... Шэры трохпавярховы дом на Памеранцавай вуліцы... І зусім выразнае ў яго свядомасці:

«Яна нічога не ведае... Калі не пайду, тады будзе ведаць».

Стрымаў усхваляваны тон голасу, пракязаў невінавата, наіўна:

— На двары вунь ідзе снег. Пакуль развіднее, трэба пазмятаць яго з тратуараў і звезці. Я больш, выбачайце, не магу заставацца!

Зачыняў дзверы і чуў: яны ўтраіх аж заходзіліся з рогату.

## Раздзел другі

Да Марысі вярнулася прытомнасць, і вось як. Прыйшоў Карзюк у проведы, а яна ў крык:

— Зачыняйце дзверы! Не пускайце палякаў! Яны забяруць мяне!..

Яна не пазнала Карзюка. Вытрашчыла шкляныя вочы, стаяла як слуп. Сілілася нешта ўспомніць і не магла. Адно толькі разумела: гэты чалавек не паляк. Ён у вольным адзенні. Карзюк пытаў, ці пазнала — круціла галавой. Потым закрычала:

— Ай!.. Баюся!..

Схапіла табурэтку і закрыла ёю свой твар. Карзюк стаяў у парозе як не свой.

Бальнічная сястра, Тася Хлябніцкая, сказала:

— Вы ж не верылі... Бачыце, што робіцца!.. Выйдзіце, калі ласка! Ёй вельмі дрэнна...

Карзюка апанавала злосць: колькі нарабіў камендант клопату! Ды і сам — калі на тое пайшло — вінаваты. Параіўся з начальнікам, каб арыштаваў Марысю. Меркаваў — хутчэй пралезе ў падполле (ведама, арыштавалі дзяўчыну за яго — камандзіра Чырвонай Арміі). А яе не трэба забіраць было з дому. Нідзе не дзелася б. Мог заходзіць да яе — выведваць паволі. Можна сказаць, спароў гарачку. Хацеў, каб усё адразу...

На калідоры бальніцы — не то сам у сябе, не то ў сястры — запытаў узнятым тонам:

— Калі ж, урэшце, можна будзе з ёю пагаварыць?!

— Не ведаю...— адказала Тася. І нават не зірнула на Карзюка.

Трэці раз прыходзіць і ўсё хоча гаварыць аб нечым. Адрэкамендаваўся Марысіным блізкім, родным. Што за «родны», які не пытае аб яе папраўцы і чым яна жыве? Няхай прынёс бы хаця кавалак чорнага хлеба, бутэльку малака... Яна можа памерці з неядзі. І яшчэ: да арыштаваных хворых нікога не пускаюць. Прымаюць падачу, і больш нічога. А ён ідзе з дазволам самога начальніка!

Тася правяла Карзюка здзіўленым позіркам аж у канец калідора. Выйшаў з бальніцы, бразнуўшы дзвярмі. Тася сама сабе падумала:

«Таксама, як нейкі вар'ят...»

А з Марысяй, як ні разу, зрабілася дрэнна. Кідалася па пакоі ад сцяны да сцяны. Хутала галаву ў бальнічны халат. Перад яе вачыма ў акне стаялі жандары. Іх повен двор. Абкружылі ўвесь дом. Выстаўляюць праз акно доўгія рукі. Хочуць дастаць яе, дакрануцца... на іх тварах крывыя ўсмешкі. Твары доўгія, шырокія, рыжыя...

— А-а-а...

Марыся дрыжала асінаю.

Увесь час Тася суцяшала яе. З першых дзён узлюбіла гэту дзяўчынку. Маладая, прыгожая, і такое няшчасце! Найбольш шкадавала, калі даведалася, праз каго страціла розум. Не адзін жа раз чула яе крык, што праз акно, праз дзверы, праз шчыліны — адусюль лезуць да яе белапалякі? Яна білася ў знямозе, драла

на сабе вопратку. Тася дзялілася з санітарам Грышкам:

— Няшчасная дзяўчынка,— казала,— да чаго давялі...

— Яны давядуць...— бурчаў Грышка сам сабе ў густыя чорныя вусы.

За сем гадоў службы сваёй Тася нагледзелася. Адна ходзіць па пакоі і лічыць крокі. Другая збіраецца ляцець у нядзелю на неба. Тая просіцца ў зямлю. Кажа, ёй там будзе весела жыць. Ёсць «царская дачка». Яна была манашкай. Кожны дзень яна крычыць на ўвесь пакой: «Госпадзь бласлаўляе мяне ў царыцы. Я — святая царыца Марыя! Гэй, вы! кланяйцеся мне да самых ног маіх!»

Тася ўжо ведае, як гаварыць з такімі хворымі. З кожным — па яго гусце. Толькі з гэтым «густам» трэба закідаць і здаровае слова. Няхай падумае хворая. Можа, да чаго і дадумаецца.

З калідора Тася вярнулася да Марысі. Яна сядзела ў кутку і плакала.

— Палякаў прагоняць,— сказала Тася (некалькі разоў гаварыла, што прагоняць),— не плач!.. Ну, супакойся ж...

Пагладзіла па галаве цёмна-мяккаю рукою.

— Не плач, Марыська... Прагоняць, кажу табе...

— Хто ж прагоніць? — раптам сцішылася, як да нечага прыслухалася.— Іх повен вунь двор! Каб Косцік быў — ён прагнаў бы. Я гэта ведаю... А Косціка няма. Ён у сцяне. Яны замуравалі Косціка ў сцяну. Я чую, як ён енчыць і не можа вылезці...

— Палякаў прагоніць Чырвоная Армія,— сказала Тася.— Косцік і ўсе рабочыя памогуць Чырвонай Арміі. Яны разам і прагоняць. Я ж табе ўжо казала: на Парэцкім пляцы быў вывешаны чырвоны сцяг. Каб ты бачыла, як палякі спалохаліся? А калі пасыпаліся сярод натоўпу пракламацыі — палякі не ведалі, што рабіць! Яны аж дрыжаць, баяцца нашых рабочых і Чырвонай Арміі. Яны ўжо чуюць сваю пагібель...

Тася заўважыла: сказала пра чырвоны сцяг, намякнула аб пракламацыях — ярка загарэліся Марысіны вочы. Як сядзела на падлозе — заварушылася, ўстала.

— Пракламацыі...— праказала.— Пачакайце, пачакайце... Я цяпер ведаю, хто клеіў пракламацыі! Я ве-

даю! Косцік клеіў пракламацыі! — крыкнула, хапаючыся за Тасіны плечукі.— Ён мне казаў, што я не ўмею, а ён умее. Дык яны ў сцяну яго не замуравалі?!

— Вядома, што не замуравалі,— сказала Тася.— Яны не злавілі яго.

Марыся змоўкла. Тася гаварыла ёй — не чула. Была адна сама з сабою. Ухапілася за нітку ўспамінаў, калі некалі гаварыў Косцік аб пракламацыях. Трымалася аберуч за гэта слова, і ў ім быў яе ратунак. Выпусціць, згубіць слова, і нітка свядомасці абарвецца назаўсёды. Не хацела ні аб чым думаць. Раз за разам перкаказвала «пракламацыі», каб не забыцца. Бо дзе гэта слова, там і Косцік.

Асцярожна зачыняючы дзверы, Тася выйшла з пакоя. Марыся і не чула. Села на ложку, падкурчыла ногі, то наперад, то назад вагалася і ўсё шаптала: «пракламацыі... пракламацыі...»

Яна верыла ў слова, у яго сілу. Гэта ж Косцікава слова! Ніхто яго не ведае, апрача Косціка! Там былі пракламацыі — там быў і Косцік. Яны не замуравалі Косціка ў сцяну... Ён казаў ёй праўду, што будзе расклейваць пракламацыі...

І, можа, дзве гадзіны сядзела ціхенька. Усё думала, думала...

А сонца было высока над бальніцай. Коса ўрываліся промні праз акно вузкага пакоя. Яны адбівалі на падлозе квадрат акна, пераплецены прэнтамі. Марысін позірк раптам спыніўся на гэтым узоры. От яна першы раз убачыла на падлозе белыя кветкі. Адна, другая, некалькі... Усе чатырохкантовыя. Яна ўскочыла з ложка і падышла да намаляваных плям. Спынілася, баялася ступіць нагою. Ёй уявілася: на падлозе не сонца, а нехта папраразаў наскрозь зямлі глыбокія дзіркі. Яны, як студні.

Хвіліну не адрывала вачэй. Прысела на кукішкі на краю сонечнага ўзора, асцярожна памацала рукой. Не дзіркі, а тая самая падлога! Яшчэ раз правяла рукою — упэўнілася. Узнялася і паспрабавала наступіць на белыя клеткі нагою. Яе цень засланіў палавіну малюнка...

— Гэта ж сонца...— мільганула ў яе розуме іскра свядомасці.— Гэта ж сонца! — праказала другі раз.

І ўсміхнулася наіўным, чыстым дзіцячым смехам. Нават засаромелася перад сабою. Тады нагнулася —

хацела злавіць сонца. «Няхай не дражніцца...» А яно — на яе руках. Льецца з яе пальцаў, лашчыць, цалуе, грэе ўсмешкай сваёй белі.

— Чаму я адна?.. Чый гэта пакой?..

Густа заморгала вачыма, туга прыцiснула павекі. Нібы ад доўгага сну кулакамі праціралa вочы.

Да яе з'явілася памяць. Як скрозь сон успомніла:

Яна — арыштаваная... У яе пыталіся, дзе жыве Фіма... Ці яна сказала дзе, ці не сказала?.. Не, не! яна не магла сказаць! Яе арыштавалі за шынель... Чый шынель? Натка... шынель камандзіра... Яна цяпер усё ўспомніла...

«А дзе ж Косцік?..»

Старалася прыгадаць, дзе дзеўся Косцік. Ці яе адну арыштавалі, ці з Косцікам? Не! Яна цяпер усё чысценька памятае: яе адну.

«Дзе ж Косцік? Хто ў гэтым доме? Гэта ж «Белы Дом»...»

Ёй так хочацца есці... Дзе тутэйшыя людзі? Яна пастукае ў дзверы, каб далі хоць кавалачак хлеба...

Падышла да дзвярэй і злёгку пастукала. Адразу пачула крокі. Спалохалася і адскочыла ад дзвярэй.

«Нашто я стукала?»

Яна ўспомніла жандараў. Перад яе вачыма паўстала выразная постаць каменданта. Яго маленькія падпухлыя вочы. Калматыя бровы і такія самыя вусы. Яны ашчаціненыя, прыклееныя. Камендант з расшпіленым фрэнчам на ўсе гузікі. Пад фрэнчам шаўковая цельная сарочка. Ліпкая, нібы скура гадзюкі... Дакранулася пальцамі да гэтай скуры — паапякала пупышкі пальцаў...

Замок у дзвярах дзынкнуў, і дзверы адчыніліся. Марыся не паверыла вачам: перад ёю пажылая жанчына ў белым халаце. Першы раз бачыць яе! А жанчына, як даўно з ёю знаёмая:

— Ты, Марыська, мяне звала? Ты спала, мусіць, што ў цябе было ціха? Маладзец... Ты пойдзеш зараз пад душ... Добра?

— Хто ж вы? — запытала Марыся. Не зразумела, адкуль узялася гэта добрая жанчына. Яна гаворыць з ёю, як родная матка са сваім малым дзіцем.

Жанчына супуцілася. Не чакала такога пытання.

— Я... хіба ж ты мяне не пазнала? — запытала

жанчына.— Я твая нянька Тася. Мы з табою даўнія знаёмыя...

— Я вас не ведаю...— цвяроза праказала Марыся.— У мяне ніколі не было нянькі... Скажыце, цётачка, у каго гэта я?

Тася радасна ўсміхнулася. Ведала, што бываюць хвіліны — хворы гаворыць як і трэба. Некаторыя так разумна гавораць — ніхто не дасць веры яго хваробе. Памятае, быў адзін буйнахворы (яшчэ да вайны). У адзін дзень да яго раптам вярнуўся розум.

— Я ачуняў,— сказаў ён доктару.— Выпішце мяне. Я ведаю, што вам усе хворыя кажуць «я не хворы». Вы мне не даеце веры, але я прашу — паверце мне!

Доктар выпісаў яго толькі праз месяц — правяраў. Ён і сам разумеў:

— Праверце, калі ласка, я не прашуся, каб ужо сёння і выпісалі. Я ведаю: такім людзям на слова не вераць.

І як трэба — расказваў аб сваім жыцці, аб сям'і, ад чаго захварэў. Яго выпісалі пад вечар, а ўночы прывезлі назад. Ён ізноў быў буйнахворым. Доктар сказаў, што ад вялікай радасці. Пасля гэтай хваробы чалавек нібы нараджаецца на свет другі раз. Ён памятае першае нараджэнне, і гэта вельмі цяжка.

Тася вунь як узрадавалася, што да Марысі вярнулася прытомнасць! Толькі ці надоўга? Але як ні было б — гэта вельмі дорага. Тася хацела, каб хутчэй сказаць доктару. Нават кранулася, тупала на месцы. На Марысіна запытанне — у каго яна — не адказала. Схавала ад Марысі яе хваробу. Сказала, што яе прывезлі ў бальніцу з высокай тэмпературай.

— Ты, пэўна, недзе прастудзілася,— як нічога не было сказала Тася.

Марыся не змаўчала:

— Вы мне, цётачка, маніце,— сказала,— гэта ж не бальніца, а турма. Я ж ведаю, што я арыштаваная... Вунь жа і краты на акне.

— За што ж цябе арыштавалі? — зацікавілася Тася. Ёй увесь час рупіла, за што маглі арыштаваць гэту дзяўчынку. Што яна магла белапалякам зрабіць? Ды яшчэ пад якім наглядам яе трымаюць! За яе адказвае перад жандарамі назірачы бальніцы. Глядзіць як свайго вока (ён сляпы на адно вока. Таму здаровае вока, калі сонца ці ярка гарыць электрычнасць, заўсёды за-

сланяе далоняю). У бальніцы, праўда, не яна адна. Як прыйшлі белапалякі, у бальніцу прывезлі, бадай, чалавек пятнаццаць. Сярод іх розныя: і ціхія, і буйныя. І ўсе яны арыштаваныя. Але з жанчын яна адна. Кожны дзень «аднавокі» сам правярае арыштаваных. А пры дзвярах з двара дзень і ноч стаіць вартавы паліцыянт. Ні сюды, ні туды не пускае без пропуска.

— У мяне адзін брат,— даведалася Тася ад Марысі,— ён у Чырвонай Арміі. Мяне арыштавалі — чаму брат служыць чырвоным.

Не сказала сястры Тасі, што арыштавана за камандзіра. Памятала, гэта ж вялікі сакрэт! Уся яе пакута за яго!

Яна забылася, як прыходзіў ён у «Белы Дом». Страціла тады прытомнасць, і ёй уявілася, што сніла яго. А пра Фіму расказала.

Калі Тася пачула, што жандары даходзілі таксама прозвішча яе знаёмага, ціснулі пальцы,— яна ўздрыганулася. Гэта быў ледзь прыкметны штуршок, каб прыгадаць тое, чаго не магла прыгадаць дагэтуль. Перад Тасінымі вачыма чамусьці паўстаў чалавек, які прыходзіў праведаць Марысю. З першага разу, як прыходзіў, падумала: «Я недзе яго бачыла?..» Потым асвойталася, забылася. Магла ж спаткаць чалавека адзін раз, другі на вуліцы і памятаць твар, як знаёмага. А пачула ад Марысі пра такі жудасны здзек, прыйшло на ўспамін.

Гэта ж ён паламаў ды патаптаў нагамі чырвоны сцяжок яе сына Лёшкі! Таксама прыціснуў тады дзіцяці пальчык... Дзіця ледзь не зайшлося ад плачу... Убачыла праз акно і выбегла на двор. Гэта ж яго хударлява-завостраны твар і скураная тужурка...

Карзюку ў той дзень не давялося пабачыць Марысю. Не было пропуска. Ішоў сваім адумам, вартавы паліцыянт не прапусціў. Ён астыў ад празмернага парыву і прыйшоў праз тыдзень. Трапіў якраз на Тасіна дзяжурства.

Надзіва от што: чаму ён, як «радня», нічога не прыносіць гэтай дзяўчынцы? А гэта яго злоснае запытанне: «Калі ж, урэшце, можна будзе з ёю гаварыць?» Хіба «радня» прыходзіць да хворай з такім клопатам? Ды ізноў жа: нікога, апрача яго, да арыштаваных не пускаюць.

— Што ён за чалавек?..

Тася ўздыхнула поўнымі грудзьмі: «Не разбярэш, што робіцца...»

— Мая ж ты галубка,— сказала,— якая ты гаротная!

Марыся не разумела, што не адно шкадаванне добрай, ласкавай жанчыны ў гэтых словах. Тасю ахапіла другая трывога. Што будзе?! Хутка прыйдзе доктар і запіша: «мінуўся прыпадак». А Тасі скажа: «Дзяўчыне патрэбен абсалютны спакой. Няхай спіць». Потым будзе праверка. «Аднавокі» будзе з Марысяю гаварыць. Гэта ж яго служба! А тады ў паліцыю: «Яна загаварыла». Ды і доктар Вярбіцкі скажа: «Ёсць надзея». Яму трэба сказаць для сваёй славы: ён вылечыў! Ізноў будзе катаванне да беспрытомнасці...

— Ты, Марыська, ні з кім не гавары,— раптам параіла Тася.— Прыйдзе доктар, будзе пытаць, ты — як нямая. Бо цябе ізноў забяруць у «Белы Дом». Яны чакаюць, каб ты толькі ачуняла. Кожны дзень прыходзяць у проведы.

Марыся разумела Тасіну параду няясна. «Чаму не гаварыць? Як жа гэта?» Тася бачыла яе здзіўленне — з асцярогаю растлумачыла:

— Яны самі дурныя. Яны думаюць, што ты здурнела. Прыслалі цябе ў гэту бальніцу, каб вылечыць. А ты, як і трэба,— разумная. Дык ты прытварайся перад імі, а яны хай дурнямі застануцца. Абы цябе не забралі. Хутка нашы пратураць іх аж за дзесятую гару, і ты пасмяешся над гэтымі «разумнымі». Вось што!

Сказала і баялася, каб Марыся не спалохалася. Ізноў гатова адкінуць хваробу назад.

Гаварыла і не верыла ў сваю выдумку. А што магла больш прыдумаць, каб вырваць з драпежных кабдзюроў гэта маладое жыццё? Яна ж і сама пад іх воляю.

* * *

Сцёпа не чакаў заўтрашняга дня. Не выйшаў, а выбег з Мальвінінай вечарынкі. І адразу да Фімы. Ішоў і разважаў: «Што натварылі... ай-ай! Якая яна цяпер? Ці пазнала б мяне? Кажуць, такія не пазнаюць нават сваіх бацькоў. Каб гэта ведаў Касцік... Дзе ён? Што сказаў бы ёй, каб запытала пра Касціка? А яна адразу запытала б. Мне крышачку страшна... Што яна сама сабе гаворыць? Чаго нарабілі гэтыя звяры...»

Калі пастукаў да Фімы — той клаўся спаць.

— Марыська ў вар'яцкім доме! — сказаў на парозе кватэры.

Фіма злякнуўся.

— Адкуль ты ведаеш?

Сцёпа расказаў, як было.

— Я пэўна не скажу,— гаварыў,— толькі гэта — факт! Мальвіна так і сказала: «камсамолка сышла з розуму». Хто ж другі? Ты ж усіх ведаеш...

Фіму дзівіла слова «камсамолка». Адкуль ведае Рытвінскі, што камсамолка? Няўжо сазналася на допытах? Тады і пра другіх магла сказаць? Але Фіма ўспомніў: напэўна, сказаў шпіён.

— Трэба схадзіць у бальніцу,— сказаў Сцёпа.— От яна ўзрадуецца...

— Дзівак! — з горкаю ўсмешкаю пераняў Фіма.— Як жа яна табе «ўзрадуецца», калі ёй цяпер усё роўна. Яна ж не пазнае цябе...

— А я мяркую, што пазнае...— апраўдаў Сцёпа свой сорам перад Фімам.— Я сказаў бы ёй: гэта ж, Марыська, я, я!.. Як жа не пазнае свайго блізкага!

— Гледзячы, канешне, якая беспрытомнасць,— згадзіўся Фіма.— Але такія найбольш не пазнаюць... І ў бальніцу да яе цяпер няма чагоісці...— задуменна скончыў Фіма.— Ёй цяпер, кажу, усё роўна...

Ад такіх слоў Сцёпу было цяжка. Чаму няма чаго ісці? Фіма сам дзівак. Да такога, да такога хворага чалавека! «Няма чаго ісці...» А Сцёпа, можа, ціхенька сходзіць. Тут нічога такога: прыйшоў праведаць сваю знаёмую...

— Яна цяпер, паколькі такая хворая, не арыштаваная?..— запытаў Сцёпа.

І нават не запытаў, бо ён сам ведае. Толькі няхай што яму скажа Фіма?

— То-та ж бо, што арыштаваная! — сказаў Фіма.

Для Сцёпы было гора. Ісці сваім адумам нельга. Будзе тое самае, як з тымі пракламацыямі.

Сцёпа пайшоў дадому, а Фіма яшчэ доўга не мог заснуць.

І сапраўды трэба было праведаць... Можа, яшчэ не яна? А калі яна — якое тады ў яго чалавечае сумленне? Фіма добра разумее, што ісці небяспечна. Трэба браць у камендатуры дазвол. Сярод жандараў можна выклікаць падазронасць. І ёй не дапаможаш, і сабе на-

шкодзіш. От каб быў Дзядзька... Некалькі дзён, як Дзядзька выехаў у цэнтр — няма з кім параіцца.

«Прыедзе,— вырашыў Фіма,— тады паглядзім... можа, што і прыдумаем».

А назаўтра спаткаўся з Клаваю. Яна выслухала навіну, сказала:

— Я схаджу сама... Як жанчына да жанчыны, і нічога. Магу сказаць: я яе сяброўка або дваюрадная сястра. Занясу, разумеецца, падачу... Хіба толькі не дадуць дазволу? Але нават цікава і тое, што скажа камендатура? Могуць сказаць — яе там няма. Могуць запытаць, адкуль я даведалася...

Ні Клава, ні Фіма не ведалі, як цяжка атрымаць дазвол, каб пабачыцца з арыштаваным! Пакуль дазволяць — перабяруць усе твае костачкі: хто ты, які ты, чаму ты, а не другі? І вачыма пранізваюць цябе наскрозь.

Клава пайшла ў камендатуру на другі дзень. Нават не ведаючы жандарскіх парадкаў, здзівілася: ёй выпісалі пропуск і не запыталі нават дакументаў. Толькі той, што выпісваў, як даваў у рукі паперку, сказаў:

— Пшэпустка важна ест до годзіны чвартэй.

І ўсё. Клава адразу і пайшла. Дадому не заходзіла. Па дарозе купіла французскую булку, фунт галандскага сыру і фунт цукерак «малютка». Выйшла на Памеранцавую вуліцу — нібы нешта адарвалася ўсярэдзіне: наперадзе, на другім баку тратуара ішоў чалавек. Ён вельмі спяшаўся, а потым быў ізноў недалёка ад яе.

«Мала які чалавек...— апраўдвала свой спалох.— Я ж маю дазвол...»

Рассеяла сваю думку зусім нечаканым спатканнем у бальніцы. Паліцыянт прапусціў Клаву і правёў яе доўгім позіркам.

«Пенкная...» — падумаў.

Ішла доўгім калідорам, разглядала паабапал.

«Дзе каго ўбачыць... у каторым пакоі?..»

У канцы калідора спаткалася з Тасяй. Яна выйшла з пакоя № 6. Зачыніла за сабою дзверы, і не відаць, хто там.

Клава не пазнала Тасі. Спынілася, праказала:

— Я да хворай... Дзе тут, калі ласка, Марыся Суравец?

Тася замыкала дзверы, адказала, стоячы плячмі да Клавы:

— Суравец... Да яе нікога не пускаем. Яна зусім хворая...

Замкнула дзверы, адвярнулася, узняла вочы.

— Клаўдзя!..— ускрыкнула, стрымаўшы момант разгубленасці.— Адкуль вы, мая сястрыца, узяліся...

Клаўдзя супуцілася. І толькі, бадай, праз хвіліну прыгадала: гэта ж Тася Хлябніцкая! Яе даўняя знаёмая. Зямлячка. Вёска Курганы побач з вёскаю Макавейка. Тася з Макавейкі, а яна з Курганоў. Тася выйшла замуж за чыгуначніка. З таго часу не бачыліся. Клава была тады ў Макавейцы настаўніцай.

— Дзе спатакаліся...— усміхнулася Клава.— Нечаканасць. Ніколі не падумала, што тут працуеце. Як жа вы...

Ад радасці Тася пацалавалася.

— Колькі гадоў як не бачыліся! Гадоў, бадай, дзесяць...

— Будзе, калі не больш... Трэба ж... Дык вы да Суравец... да Марыські? Як жа вас прапусцілі? — адкрыта запытала Тася.— Тут вельмі строга... Да такіх хворых нікога не пускаюць.

— Маўчыце...— сцішыла Клава голас.— Мне гэта дорага каштуе...

Яна не сказала, што за ёю, мабыць, ішоў шпіён, а запытала:

— Скажэце, што з таварышам Суравец?

Тася павяла Клаву ў свой дзяжурны пакойчык. Нікога не было ў пакойчыку. Шэптам, кароткімі словамі перадала, што з Марыськай:

— Я ёй цвёрда, цвёрда прыказала: маўчы! Хто б ні пытаў — маўчы! Яна і слухаецца. Доктар заходзіць, пытае — маўчыць. Сядзіць насупістая на ложку, як ваўчок. Доктар кажа: «Яна ідзе на папраўку. Пачынае цверазець». Я не ведаю, што рабіць? Божа барані, пачнуць біць — загаворыць...

У Клавы пашэрхла скура. Разгубілася — не ведала, што сказаць. А трэба нейкі ратунак! Каб уцякла? Як уцячы? Кругом бальніцы высокі мураваны паркан. На паркане — вострa калючыя прэнцікі. З дзвярэй без пропуска не выйдзеш. Заўсёды тыя самыя паліцыянты. Кожнага ведаюць у твар. І ўсё адно паказвай пропуск. Уцячы вельмі цяжка.

— Да яе ўжо тры разы таксама прыходзіў чалавек,— сказала Тася.— Ён кажа — яе радня. Я ёй нічо-

га не казала. Баюся, каб не расчулілася. Ёй няможна хваляваццa.

— Які чалавек? — запытала Клава.

— Не ведаю... Ён усё злуецца, чаму не прыходзіць яна да розуму. Мне так думаецца — ён ніякая не радня. Каб радня — хоць што прынёс бы. Прыходзіць заўсёды з голымі рукамі.

— А што яна, калі прыходзіць ён?

— Яна толькі ў той дзень, як быў апошні раз ды пайшоў, прыйшла да сябе. Яна і не памятае: ці хто прыходзіў, ці не. А я гэтага чалавека цяпер пазнала. У той дзень, як вывесілі на слупе чырвоны сцяг — памятаеце?..— І Тася расказала, якое было здарэнне з яе сынам.

— Я цяпер усё разумею,— сказала Клава.— Гэты чалавек — дэфензіўшчык, шпік. Я ведаю яго. Ён скалечыў жыццё гэтай дзяўчыны. Яна пакутуе праз яго. І яна гэтага не ведае! Ён прыходзіў, каб выведаць падпольную арганізацыю — тых людзей, хто вывесіў сцяг. Самае страшнае — яна нічога не ведае! Нешта трэба рабіць...

Яна змоўкла. На сцяне цікаў гадзіннік. На шыбе бумкала зімняя муха. Муха напаміналa аб вясне... у суседнім пакоі нехта раптам пастукаў у дзверы...

— Вас, мусіць...

— Не... Гэта ў мужчынскім пакоі.

— Трэба асцярожна толькі сказаць ёй,— вярнулася Клава да абарванай гаворкі.— Асцярожна... Вы ведаеце як. Я не пайду да яе. Яна мяне ўсё адно не ведае. Што трэба было — вы мне сказалі. А вы скажыце ёй: той камандзір, якога яна пераапранула,— шпіён. Прыйдзе ён, няхай таксама маўчыць. Вы добра прыдумалі. Я пагавару з кім-небудзь. Можа, што зробім... Вы дайце мне свой адрас. Я зайду да вас.

На развітанні Клава папрасіла:

— Нікому не кажыце, што мы з вамі знаёмыя. Я вас не ведаю, а вы мяне. Не паказвайце нават выгляду.

Клава выйшла з бальніцы і падумала: «Я не памылілася». Яе «праваднік» стаяў на рагу вуліцы. Ён быў вельмі нахабны: нават не хаваў сябе, каб не заўважыла.

Яна пайшла проста Памеранцавай вуліцай, і ён — як нічога не было — крануўся за ёю па другім баку тратуара.

Косцік пераступіў парог таго самага пакоя, дзе быў першы допыт Марысі. Два канвойных жандары засталіся за дзвярмі. У пакой зайшоў разам з Косцікам капрал Сікірыцкі. Ён зайшоў, скінуў шынель, павесіў на вешалцы каля дзвярэй. Дастаў з кішэнькі фрэнча чорны грабеньчык, прычасаўся перад люстэркам і да Косціка:

— Будзьце як дома... Распранайцеся... Нам зараз пададуць полудзень...

Косцік нічога не разумеў. Стаяў каля парога, лыпаў вачыма і сам сабе думаў:

«Які полудзень?.. Што ён кажа?..»

А Сікірыцкі схіліў галаву ў бок ад люстэрка — глядзеў цераз акно. На памяць папраўляў грабеньчыкам расчэсаны радок на галаве, гаварыў не то сам сабе, не то сабе і Косціку.

— Сягоння нядрэннае надвор'е... Веснавы дзень... Вясна — чалавечая маладосць... Вясною чалавечая кроў, сказаў нейкі паэт, як разліў паводкі. І гэта праўда. Паводка бушуе, і кроў бушуе... Нават у старога чалавека — прыйдзе вясна — цячэ маладая кроў... Чаго ж вы...— азірнуўся раптам на Косціка. І затыкаючы грабеньчык у кішэньку фрэнча: — распяразвайцеся...

Косцік і сам не ведаў, што яму рабіць. Распеаразаўся, трымаў папругу ў руках... А Сікірыцкі, падыходзячы да яго:

— О-о, якая папруга! Мікалаеўская... Цікава! Пакажэце...— узяў з Косцікавых рук.— Моцная спраж-ка. З мосенжу. Колькі вы заплацілі?

Не чакаў адказу, колькі каштуе папруга. Аддаючы ў рукі, праказаў:

— Такіх цяпер не робяць... Няма Мікалая...— і пайшоў да стала.

У Косціка падскочыла на самога сябе злосць. Нашто ён расперазваўся, нашто даваў у рукі папругу! Жандар відавочна строіць з яго кпінкі! Яны ж яго прывялі на допыт. Нашто яму жандарскія «спевы» аб вясне?!

Каб хоць чым патушыць сваю злосць, дапячы жандару за насмешкі, ён да яго наўздагон:

— Чаму, кажаце, няма Мікалая? Ёсць Мікалай!

— Што вы! — сядаючы за сталом на крэсла, усміхнуўся Сікірыцкі.— Яго ж расстралялі бальшавікі...

— Дык сыны яго засталіся... а гэта ўсё роўна!

— У яго быў адзін сын,— не хацеў разумець капрал,— хіба вы не ведаеце? І сына бальшавікі расстралялі. Яны як дарвуцца — не прамахнуцца!

— Гэта то праўда, што не прамахнуцца! — чмыхнуў Косцік у нос, задаволены сваім адказам.— А сыны Мікалаевы — усе жандары!

Сікірыцкі прымушана ўсміхнуўся і не ўзвышаючы тону:

— Давайце пагаворым... Сядайце! Чаго ж вы стаіце? Некалі, як быў я ў гімназіі... Дык што ж мы на сухую... Пачакайце,— узняўся з крэсла.— Я закажу полудзень...

Гаварыў Сікірыцкі «што ж мы на сухую» — меркаваў весці за абедам з Косцікам такую бяседу:

«Мы ўдвух. Нас ніхто не бачыць, не чуе. Давай будзем гаварыць як старыя дружакі. Выбачай, што я на «ты». Скажы, мой пане, нашто табе гэта пакута? Га? Скажы, дзе той арганізатар, дзе падпольны штаб — і ўсё будзе шыта-крыта. Хто дазнаецца, ці ты сказаў, ці не ты? Арыштаваных у нас колькі хочаш! Мала хто сказаў. Урэшце, мы аднымі казаламі не жывем. Мы і самі што-кольвек ведаем. А цябе адразу выпусцім. Не захочаш, каб на цябе падала падазронасць — дазваляем застацца ў нас. Табе будзе ў нас, як на цёплых водах! З тваёй галавы не спадзе нават волас. Ты хлапец малады. Табе хочацца добра жыць, апрануцца як трэба, і сёе-тое. Нябось дзяўчыну маеш. Каханне, што ні кажы, патрабуе хараства. Ды, урэшце, мне таксама не патрэбны бальшавікі. Я, можа, сам бальшавік. А калі ты папаўся — раскажы, што ведаеш. Усё адно нідзе не дзенешся. Скажаш — табе карысць, а начальству прыемнасць. Начальства любіць праўду. Я табе проста жадаю дабра».

Але капралу не давялося гаварыць свайго задуманага маналогу. Сказаў капрал «я закажу полудзень», Косцік аж узгарэўся, ускрыкнуў:

— Не трэба! Я не буду... я не хачу есці!..

Так ускрыкнуў, нібы яму на абед падавалі атруту. Ён урэшце зразумеў: допыт пачаўся, як пераступіў ён парог гэтага пакоя. Дык навошта над ім скрытны здзек?

Капрал спыніўся каля стала, а Косцік зусім спакойна (каб мацнейшымі былі яго словы):

— Скажыце, афіцэр,— перaступаючы з адной нагі на другую, загаварыў Косцік,— скажыце, нашто гэта камедыянства? Вы вельмі смешны! Вас каб у цырку паставіць, скажам... Вы смешны і мізэрны. Я сказаў бы — халуй! Не мой халуй — мне яны не патрэбны, а халуй вашага панства. Гаварыце, чаго вам ад мяне трэба? — раздражнёным тонам скончыў Косцік.

Косцік яшчэ не быў у жандарскай апале. Не ведаў дэфензіўскай натуры. Злавіў яго Карзюк на вуліцы, як тую птушку, пасадзілі ў «Белы Дом», як у залатую клетку, чакаў сабе допыту і думаў:

«Я нагавару, аж горка будзе ім! Я не буду прасіцца ў іх, кленчыць перад імі. Няхай сабе расстраляюць нават...»

Не адчуваў да канца самога слова «расстрэл». Яно было штодзённае, такое, як і ўсе. Яго маладое жыццё проста не верыла, не знала і знаць не хацела гэтага слова.

А капрала, відаць, вельмі пакрыўдзіла слова «халуй». Каб не яно — яшчэ забаўляўся б Косцікам, як кацянё мышанём. Зачапіў яго падафіцэрскі гонар, не стрываў, грукнуў кулаком па стале.

— Мільч!.. бальшавіцка морда!..— пераходзячы на польскую мову, учарнеў ад злосці.— Я з табою яшчэ пагавару...— быстра пайшоў ад стала і моцна бразнуў дзвярыма.

Так і не папалуднаваў Косцік з капралам. Давялося падпеpазацца і ісці на «другую кватэру». Перад выхадам у Косціка яшчэ запытаў падпаручнік Закрэўскі:

— Ці ты скажаш, ці не? Вырашай! Нашто цяганіна? Мы пусцім цябе на ўсе чатыры бакі. Дадзім дакументы — цябе ніхто не кране пальцам. Дзе жыве Фіма, гэты жыд? Як яго прозвішча?

Каб дапячы падпаручніку, Косцік адказаў, бадай, як і капралу. Толькі больш далікатна.

— Фіма...— падумаў Косцік.— А хто яго ведае, у горадзе Фімаў многа.

— Бальшавіцкі арганізатар, падпольшчык! — ускрыкнуў Закрэўскі.— Не трэба дурня строіць!

— Падпольшчык...— укурнуўшы галаву, пераказаў Косцік,— калі ён падпольшчык, то жыве ў пад-

поллі. Я кожны дзень думаю пра падпольшчыкаў. Яны добрыя лю...

Косцік не скончыў. З усяго размаху Закрэўскі ўдарыў кулаком у пярэднія Косцікавы зубы. У роце адразу сабралася многа сліны. І яна густая, салёная. Выплюнуў і не бачыў, якая сліна. Яго ўзялі, павялі — не бачыў, куды ідзе. З носа і з рота ішла кроў.

А слёз на твары не было. І боль не такі ўжо вялікі. Што значыць сказаць добрае слова! Яно, слова, мацнейшы боль! А кулак афіцэра...

«Мусіць, выбіў зуб...— падумаў Косцік, ідучы некуды зверху ўніз.— Язык вольна пралазіць у нейкую шчыліну...»

Як ні дзіўна, Косціка вялі на допыты па старшынству начальства: ад капрала Сікірыцкага да паручніка Рытвінскага. Можа, меркавалі, што з малодшым начальствам будзе смялейшы, а можа, вывучалі яго натуру?

Калі сышоў уніз, перад ім быў халодна-ледзяны пакой. На крэсле сядзеў чалавек у паліто з лісавым каўняром. Косцік зірнуў на чалавека, на пакой, і яму прыйшло на ўспамін: не так даўно ён чытаў кніжку пра канцлера царыцы Аанны Іоанаўны — Вірона. У кніжцы апісан такі самы пакой. І чалавек гэты ў паліто падобны на галоўнага ў кніжцы героя Бірона. Хто не прызнаваўся, што ён ведае — Бірон браў такога чалавека «на дыбу». Чалавека падвешвалі за рукі, як мясную тушу, і машына павольна выкручвала яго косці. Прызнаваўся чалавек — машына адпускала надломленае цела. Не ведаў нічога або маўчаў — паміраў з выкручанымі касцямі, з адарванымі рукамі.

Косцік нават пашукаў вачыма, дзе стаіць такая машына, а потым успомніў: у «Тайнай канцылярыі Бірона» чалавека садзілі на крэсла, недзе на нешта націскалі, і чалавек з крэслам апускаўся ў падзямелле. А сюды яго прывялі... (Можа, яны не паспелі яшчэ абсталяваць пакой, які быў у часы Бірона?)

Косцік уздрыгануўся. Чалавек у паліто (Рытвінскі) паварушыўся на крэсле, лепш усеўся. Два жандары сталі паабапал Косціка. Трэці, з бародаўкаю на шчацэ, крышачку наперадзе. Хвіліну аглядаў Рытвінскі Косціка спадылба. Трымаў на жываце пераплёт пальцаў, то сюды, то туды адзін наўкол другога круціў вялікімі пальцамі ды:

— Ну-у... Скажаш?

Косцік маўчаў. Тады Рытвінскі злёгку кіўнуў галавою да жандараў.

І не паспеў Косцік апамятацца, як і адкуль дзве дубовыя «шчакі» шчыльна ахапілі два яго пальцы, сціснулі іх...

— А-а-а...— вырваўся крык і заглух у муры падзямелля.

— Скажаш? — пачуў Косцік глухі голас. А на пупышках пальцаў кроў, як пот.

— Скажу...— прахрыпеў Косцік (калі б ведаў, што Марысіны пальцы былі ў гэтым варштаце!..).

І адразу недзе глыбока ўнутры разлілася млявасць. Яна такая ціхая, гарачая... У роце ад гарачыні ўсё высахла.

— Піць...— ледзь праказаў, абапіраючыся на руку жандара, што з бародаўкаю на шчацэ. А другая рука звісла да зямлі. З балючых пальцаў на халодны цэмент капала маленькімі кроплямі бардовая кроў. Яна запякалася пад разарванай скурай пупышкаў, капала штораз меншымі кроплямі.

— Завярніце пальцы,— праглынуўшы глыток вады, пачуў Косцік голас чалавека з лісавым каўняром.— Мне цябе шкода,— гаварыў Рытвінскі,— думаеш, мне не баліць? Сказаў бы адразу, і не было б непрыемнасці. Дайце яму шклянку віна! — загадаў Рытвінскі жандарам.— Пальцы — яны загояцца. Ды гэта ж левая рука, а не правая. Я не такі чалавек, як ты мысліш... Выпі віно!

Ад гэтых слоў тая самая пакута. І яшчэ большая. Не мог сцярпець. Каб заглушыць боль і паверыць у сваю цярплівасць, ён крыкнуў надарваным крыкам на ўвесь халодна-ледзяны пакой:

— Не скажу!.. Я не скажу-у!.. Забіце!..

Рытвінскі затросся асінавым лістам. Вочы яго наліліся драпежнаю лютасцю. Ён узняўся з крэсла і падышоў да Косціка.

— Не скажаш!..— прашыпеў падкалоднай вужакай. І ўсім размахам хударлявай рукі ўдарыў па твары.

Косцік пахіснуўся. Ледзь не рынуўся на цэментаваную падлогу. Але жандар з маленькімі шэрымі вачыма падтрымаў яго, падхапіў пад пахі. Паставіў, як збітую мішэнь, на сваё месца. Тады другі жандар ударыў з правага боку. Косцік не застоеўся. Ён грымнуўся на

халодны цэмент пад Рытвінскага ногі. Кідаўся, незнарок хапіўся пальцамі за халяву афіцэрскага бота. Гэта, відаць, раздражніла Рытвінскага. З новым асцервянелым парывам Рытвінскі размахнуўся, ударыў наском бота Косціку ў жывот. Вырваўся глухі стогн, і Косцік змоўк. (Рытвінскі лучыў ботам па ўздыхавіне — занядо духі.)

— Паглядзіце, каб не здох...— выціраючы рукі белаю баціставаю хустачкаю, праказаў Рытвінскі.

Жандар з барадаўкаю на твары нахінуўся над Косцікам, алоўкам расчапіў яго зубы. А той, што збіў з ног (рослы, з тоўстымі валасатымі пальцамі), уліў у рот паўшклянкі віна (пад рукамі не было вады).

Косцік лыпнуў вачыма. З грудзей вырваўся хрыплы ўздых. Жандары паднялі з зямлі яго вялае цела. Паставілі на ногі, і віно, змешанае з кроўю, вылівалася з рота. Яно пацякло па світцы Насцінага мужа. Некалькі кропель трапіла аж на мікалаеўскую спражку — на кабдзюры арла...

* * *

У камеры разам з Косцікам сядзеў жандар. Камера прасторная, але без акон. Яна і не камера, а сутарэнне. Тут, можа, быў некалі турэмны склад. Замест акон ледзь свяціліся надземныя аддушыны. У сутарэнне праз аддушыны сачылася крышачку святло і паветра. Падлога — такая самая цэментавая. Дзе-нідзе цэмент павышчэрбліваўся, і зямля з-пад яго зусім жывая, вільготная. Вельмі глыбока нехта выкапаў сутарэнне, што зямля роўна са столлю. Веснавою паводкаю праз цэментавыя шчыліны можа прасачыцца вада...

— Ізноў спіш?..— звярнуўся жандар да Косціка.— Чуеш?

Косцік чуў і не мог расплюшчыць вачэй. Яны зліпаліся самі, без яго волі. Так хацелася спаць... Каб яго ніхто не чапаў, колькі мог бы спаць? — цэлы тыдзень!

Ужо чацвёртыя суткі, як адзін за другім змяняюцца жандары. Яны вартуюць Косціка, каб не спаў. У першыя суткі, калі заплюшчваў вочы, жандары трэслі яго за плечы, падымалі з цэментавай падлогі. І гэта — нічога. Ён мог бы спаць на жандарскіх руках. Яму ўсё роўна. Але Косціка пачалі абліваць халоднай вадой. Ускрыкваў, расплюшчваў вочы, абціраў далонямі мокры твар.

— Прозвішча?! — пытаў жандар, абы Косцік самгнуў вокам.

Рытвінскі загадаў выведаць, не даючы спаць. Нават будзе лаяцца — не біць вельмі. Рытвінскі баяўся, каб не забіць Косціка без пары. Што ж сабе ні было, трэба даведацца, хто раскідае «бальшавіцкую атруту», хто пусціў пад адкос цэлы эшалон? Гэтымі днямі ізноў разброілі двух жандараў. І зусім каля гарадка! На тым тыдні падпалілі маёнтак пані Сіцінскай. Не збаяліся нават, што каля пані была варта. Ды ў самім гарадку, на станцыі, у мяшках з жытам жандары знайшлі пракламацыі... Нехта ўночы наклеіў пракламацыі на дзвярах каменданта Векерта! З'явіліся пракламацыі сярод польскіх салдат. Некаторыя салдаты пачынаюць хаваць пракламацыі ад афіцэраў. Яны вераць у тое, што там напісана. Дэфензіва арыштавала семярых падазроных. Не прызнаюцца. Кажуць, нехта па злосці падкінуў. Яны не ведалі, не зналі, што ў кішэнях атрутныя паперкі.

Рытвінскі скрыгаў зубамі. У каменданта Векерта балела сэрца. А палкоўнік акруговага этапа званіў і пісаў:

«Знайсці бальшавіцкіх главароў! Расстраляць перад усім горадам! Павялічыць штат Р.Р.Р.!»

Штат шпікаў быў павялічан, ды толькі «главары» не знойдзены. От перад Рытвінскім Бранявіцкі. Можна расстраляць на вачах горада. Але Рытвінскі хоча, каб ён сказаў, дзе «главары». У яго нутры ляжыць ключ ад бальшавіцкага падполля. Трэба дастаць гэты ключ што б там ні было! І жандары вось ужо чацвёртыя суткі...

— Ізноў спіш?..

Такія словы для Косціка — кроплі вады, якімі мучылі Сценьку Разіна. Скажа жандар — і слова працінае наскрозь усё нутро. Яно, як нож, як агонь! Цела ад яго ўздрыгвае, драцянее.

— Прозвішча?!

Косцік збірае апошнюю сілу, лыпае вачыма. Вытрэшчвае перад жандарам зрэнкі: няхай бачыць ён незаплюшчаныя Косцікавы вочы.

— Не сплю...— мармыча сухімі вуснамі, дрыжыць, каб хаця не заплюшчыліся.

Сёння пад раніцу, калі жандар лінуў яму ў твар халоднай вады, ён не адплюшчыў вачэй.

«Няхай лье...— недзе глыбока плавала млявая думка.— Няхай сабе лье...»

Косціку было ўсё роўна. Але праз хвіліну ён ускрыкнуў і працёр кулакамі мокры твар. Недзе ў ноздрах і аж да горла (здаецца, праз усю галаву) пякло пякучым агнём. З вачэй жмуткамі сыпаліся іскры. Пачаў чхаць, і ў роце — салёная вада. Жандар наліў Косціку ў нос спрынцоўкай салёнага рошчыну. Да поўдня не мог апамятацца ад пякучага болю. Соль раз'ядала мяккі храсток ноздраў, шчакатала горла. Вось чаму так палохаўся жандарскага голасу.

— Не сплю...— раз-поразу шаптаў цяпер гарачымі вуснамі. Жандар быў узняўся з табурэткі ды ізноў сеў. Цьмянымі сваімі вачыма Косцік заўважыў: другі жандар. Напэўна, толькі што прыйшла змена.

— Не сплю...

Ах, каб мог гаварыць Косцік гэта слова сплючы! Жандар думаў бы, што не спіць, а ён выспаўся б!.. Або няхай бы спалі людзі з незаплюшчанымі вачыма...

І не ведае, што ж гэта такое? Яму не хочацца спаць ні кропелькі... Нідзе няма ні аднаго жандара... Адзін на ўсю камеру! А перад ім... Няўжо яна? Перад ім стаіць Марыся! Адкуль яна ўзялася?.. Можа, не яна? Працірае вочы, глядзіць на яе.

— Як ты сюды трапіла? У якой ты камеры?

— Ціха...— шэпча Марыся,— ідзем! Хутчэй ідзем! Мы ўцячэм... Чаго ж ты стаіш?

Марыся бярэ яго за руку, а ён не можа ісці. Ногі на адным месцы. Яны прыкаваны да падлогі.

— Пачакай!..— вырываецца немы крык з Косцікавых грудзей.— Па-ча-а-а!..

Камера напоўнілася дзіка-прарэзлівым стогнам. Косцік тузануўся ўсёю сілаю і расплюшчыў вочы. Несцярпімы боль пранізаў яго сэрца. Ухапіўся рукою, дзе стукае сэрца, а з-пад ногця тарчыць іголка. Жандар укалоў і не вырваў. Водгуллем аддаўся немы крык па сутарэнні. Схапіў іголку забінтаванымі пальцамі, дастаў назад. На пальцы выступіла маленькая кропелька крыві.

— Звер!..— не сцярпеў Косцік, крыкнуў ад болю.— Звер ты!.. а-а-х... біронавец, вось што!

— Не трэба спаць...— з халоднай усмешкай праказаў жандар.

Косцік хацеў кінуцца на жандара з іголкай. Уявіў

на момант, што ў яго ў руках штых. Так моцна балела сэрца.

А жандар азірнуўся на дзверы, і Косцік убачыў: у камеру ўвайшоў Карзюк.

— Пакінь нас удвух...— сказаў Карзюк да жандара. Косцік паглядзеў на Карзюка, потым перавёў позірк на свой палец. Кропля крыві не скацілася з пальца. Яна вісела на пупышку, як кропля расы на лістку.

— Дакуль ты, пане Бранявіцкі, будзеш пакутаваць? — запытаў Карзюк, калі жандар зачыніў дзверы камеры.— Каму сагрозіш, калі не сабе? Што начаўплі ў галаву табе гэтыя бальшавікі? Ты як тое ўпартае дзіцянё.

— Я хачу спаць!..— крыкнуў Косцік і сеў на світку каля сцяны.

— Ведаю...— сядаючы на табурэтку, на жандарскае месца, сказаў Карзюк.— Я і кажу: нашто табе сябе мучыць? Ты вёў мяне да арганізатара Фімы — скажы, дзе ён? Пачакай, пачакай,— падняў руку, калі Косцік хацеў нешта сказаць.— Я ведаю, што ты скажаш. Ты проста дзівак! І сам сядзіш у гэтым сутарэнні, і дзяўчына сядзіць...

Успомніў Карзюк Марысю — Косцік закрыў рукамі свае вочы. Балючы палец выставіў крышачку наперад, каб не дакраналіся здаровыя пальцы. Кропля крыві размазалася па пальцы, запяклася (калі сядаў, кратнуў марляю).

Карзюк гаварыў:

— Няўжо табе не шкада Марысю? Скажы прозвішча — і яе і цябе выпусцяць. Няўжо ты не хочаш бачыць яе, быць з ёю разам? Яна не такая, як ты ўпарты. Што ведала, усё сказала. Трэба толькі, каб ты пацвердзіў тое прозвішча, якое яна сказала. Тады будзе ясна, што ён — той самы Фіма. Я прыйшоў з апошнім пытаннем. Дакляраваў начальніку, што ты мяне паслухаеш, я пагавару з табой па шчырасці... Я ведаю — ты мяне ненавідзіш. Але ты памыляешся. Я табе не вораг. Я змагаюся за цябе, за ўсіх, за Беларусь! Я не шкадую свайго жыцця! Ты, браце, не разумееш палітыкі. Ты палітычна неадукаваны, выбачай, хлапец. Канешне, не твая віна. Твой бацька жыў у беднасці, не змог адукаваць. І не ты адзін, тысячы такіх. Хто ж вінаваты? Цар быў вінаваты. А цяпер гэтак не будзе. У нас будзе свая Рада, свае парадкі. Мы будзем жыць без бальшавікоў, як роўны з

роўным. Бальшавікі ўсё роўна не вернуцца назад. Гэты жыд абдурыў цябе, угаварыў, і ты яму верыш. Ты толькі падумай. Вазьміся за розум. Сягоння я яшчэ магу цябе выратаваць, а заўтра будзе позна. Хоць ты многа нагаварыў абразлівых, непрыстойных слоў, але табе даруюць. Улічацца твае маладыя гады, твая палітычная непісьменнасць. Палякі ведаюць, што ты невінаваты. Я гаварыў з начальнікам...

Карзюкову гаворку Косцік раптам перапыніў: ён моцна на ўсё сутарэнне захроп (Карзюк і не заўважыў таго, што, як толькі Косцік сеў, адразу заснуў. А ён гаварыў колькі часу глухім сценам).

Косцік хроп — нібы клекатала ўсё яго нутро. Праз нос вырываўся прарэзлівы свіст. Свіст нагадваў нечы далёкі енк сярод асенняй ночы на глухой дарозе.

Карзюку зрабілася вусцішна. Ён устаў з табурэткі і пастукаў, каб яму адчынілі дзверы.

* * *

Прайшло бадай каля трох тыдняў. У Косціка на пальцах зажывалі раны. Толькі палец, праколаты іголкай, усё гнаіўся. Жандар, напэўна, укалоў іржавай іголкай. Палец нарываў з-пад ногця. І галава шумела баравым шумам. Галава цяжкая, як налітая волавам. У левым баку ныў тонкі боль. Не мог ляжаць на гэтым баку. Клаўся — боль калоў наскрозь цела.

За гэты час выводзілі на допыт разоў пяць. Там два разы быў Карзюк. Косцік адводзіў свой позірк убок, маўчаў зацятай маўклівасцю. Не мог на яго глядзець. Лягчэй глядзець на жандара з валасатымі пальцамі, які б'е Косціка на допытах, чым на Карзюка.

Допыты былі вельмі кароткія. Яго вялі зноў у камеру, і жандарскі афіцэр заўсёды гаварыў яму на дарогу:

— Падумай, хлопак... Ты яшчэ малады...

Косцік думаў. Ён жыў радасцю, што яны не могуць злавіць Фімы. І гэта радасць — яго зброя. Ён помсціць ім сваёю радасцю: няхай чарнеюць ад злосці, як ён ад іх катавання. А чым ён можа бараніцца, калі не сваёю цярплівасцю. Яны не могуць вырваць з яго нутра толькі аднаго слова. Аднаго слова «Вігдорчык». Слова ўжо было на яго вуснах, калі адчуў першы боль здзекаў. Напэўна, вінават сам Рытвінскі: пытаў, ці скажа ён. «Скажу...» — вырваўся адказ, а дарагое слова праглы-

нуў з кроўю. А можа, разбілася яно ў кроплях крыві на халодным цэменце?

Яго напэўна ж расстраляюць... Думаў і аб сваім жыцці. Страшна... Расстраляюць. Не ўбачыць больш Марысі... Дарагой Марысі, мілай яго Марыські. І нікога не ўбачыць. І сонца не ўбачыць. А ці жыве Марыся? Яны маўчаць аб ёй. Можа, даўно расстралялі, а можа, замучылі? Няхай бы разам расстралялі, каб зірнуць адно аднаму ў вочы. От гэтак узяцца за рукі і стаяць перад смерцю... Адчуваць апошнюю цеплыню цела. Марыся, напэўна, сказала б: «Дзе ты... недзе вось, апырскаў у гліну сваю целагрэйку... Пачакай».

Часамі Косціку не верылася, што яго будуць расстрэльваць. Такая тлеючая іскра была ў ім вельмі глыбока. Раздзьмухваў яе з усёю сілай. Падаграваў сваю надзею, хвіліну глядзеў у вочы свайму жыццю. Гэта была найшчаслівая хвіліна. Яго вочы тады загараліся яркім агнём. Моцна білася сэрца. Не чуў болю сваіх ран. Нават усмешка прабягала па вуснах. Яна прабягала, як цень, калі сонца выходзіць з-за хмар. Ён уваскрасаў, жыў... Ён чакаў свайго ратунку ў кожным дні жыцця. Чым больш дзён пражыве — бліжэй да ратунку. Ён верыў у сваё вызваленне. Ведаў, што падполле турбуе жандараў не на жарт. Бо чаму ім дорага каштуе Фімава прозвішча? А Чырвоная Армія...— яна, можа, пачала наступленне?! На двары першыя ўжо дні вясны. Фіма гаварыў: «Палякі могуць пратрымацца да вясны. Зімой нам цяжка ваяваць. Чырвоная Армія босая, не апранутая...»

«Жандары палітычна не падкаваныя,— была ў Косціка думка, якой з кожным разам верыў усё больш.— Ну, хай сабе арыштуюць Фіму, як мяне, а бальшавіцкай ідэі не арыштуюць. Бальшавіцкая ідэя разышлася па ўсім свеце, і яны яе не расстраляюць!»

Косцік не можа сабе даравацъ за слова «скажу». Што, каб ён сказаў? Ён купіў бы, можа, сваё жыццё за жыццё дарагога таварыша. Ён быў бы Карзюком-дэфензіўшчыкам. Хадзіў бы заўсёды з выкупанымі рукамі ў Фімавай крыві. Ён расстрэльваў бы сам сябе праз усё жыццё.

Ён не даруе за сваё слова. Няхай здзекуюцца жандары, ён сцерпіць, каб апраўдаць сваю легкадумнасць.

А жыць вельмі ж хочацца. Каму не хочацца жыць? Калекі-абрубкі вайны і тыя паўзуць па вуліцах, хочуць

жыць. Косцік зусім мала пражыў. У яго яшчэ такая маладая кроў...

А калі афіцэр гаварыў Косціку «падумай... ты яшчэ малады»,— у яго загаралася іскра надзеі. Ён будзе жыць яшчэ да заўтра, а можа, да паслязаўтра... Цэлыя суткі або двое. Колькі чаго можа быць за цэлыя суткі. Косцік жахаўся, што яго могуць расстраляць за дзень, нават за гадзіну перад ратункам. Самы найбольшы страх ад гэткай думкі.

Вельмі крыўдаваў на сябе, што ніхто не ведае, дзе ён. Каб дазналіся, можа, ратавалі б загадзя. А як?

Косцік ляжаў, падаслаўшы світку, і не ведаў, што сёння вырашаецца яго лёс. Ні Векерт, ні Рытвінскі не маглі больш трываць. Учора перад усходам сонца падпольшчыкі знялі патруля і ўзарвалі чыгуначны мост. Эшалоны, якія ішлі на фронт з салдатамі, са зброяю, спыніліся. І невядома, на які час? Такой работы белапалякі не чакалі. Мост над рэчкаю на тры сажні вышынёю і на дваццаць сажняў даўжынёю. Яго канцы ссунуліся ў ваду ад узрыву з абодвух бакоў. А тут яшчэ весткі з фронту: за восемдзесят вёрст ад горадка Чырвоная Армія прарвала левы фланг. Часці Чырвонай Арміі перайшлі цераз дрыгвяністае Бярозавае балота і ўдарылі белапалякаў з тылу. Белапалякі не чакалі, не думалі, што чырвоныя могуць прайсці па такой дарозе дзесяць вёрст! Гэта была першая белапольская разгубленасць, з якой пачалося з кожным разам глыбейшае адступленне.

Сабралася, як кажуць, усё разам. Камендант Векерт піў у гэты дзень шмат валяр'янкі. Яго нервы, яго сэрца не маглі стрываць такой узрушанасці. Палкоўнік акруговага этапа прыслаў загад, каб усякімі мерамі не дапускаць да гарадка франтавых чутак. І гэта перад узрывам моста за некалькі гадзін.

— Я вам даўно раіў... арыштаваць усіх жыдоўскіх Фімаў!..— дрыжаў камендант Векерт, не мог гаварыць з Рытвінскім роўным словам.— Вы, пане паручнік, мяне не слухалі!.. Вы былі заняты шалудзівым хлапчуком!.. Я вам даўно раіў расстраляць бальшавіцкага шчанюка!..

Рытвінскі не крыўдаваў на каменданта. Добра вывучыў натуру начальніка. Заўсёды вінаваціць другога, калі сам вінаваты. Ён жа ні разу не гаварыў яму. У самога Рытвінскага была такая думка. Яшчэ з таго часу,

як намякнуў Карзюк. Тады ён вырашыў з камендантам: «Можа, «Фіма» клічка бальшавіцкага арганізатара. Трэба пачакаць».

Цяпер чакаць не было чаго. Рытвінскі хваляваўся не меней за Векерта. У гэту ноч па ўсім гарадку ён сабраў трыццаць два Фімы. І заперлі ўсіх у адну камеру «Белага Дома». У кожнага арыштаванага жандары пыталі, хто ён, дзе працуе. А калі не працуе — чаму? І самае важнае, якую працу меў, калі прыходзілі бальшавікі.

Найбольш з арыштаваных Фімаў былі: шаўцы, краўцы, таксама сталяры і муляры. Чалавек пяць гандляроў, тры цырульнікі, два гімназісты і адзін сын рабіна. Гімназістаў запісалі асобна, але трымалі разам з усімі. Аднаго рабінава сына выпусцілі ў той жа дзень.

Аб такой дэфензіўскай рабоце Косцік нават і не сніў. Толькі не ў сваім розуме чалавек мог арыштаваць людзей з адным імем. Але Рытвінскі меркаваў на нешта большае, чым арышт людзей за тое, што бацька некалі даў дзіцяці такое імя.

Косцік драмаў, лежачы ў кутку камеры, калі заскрыпелі, адчыніліся дзверы. Іржавы скрып прабраў холадам яго цела. Лыпнуў вачыма, скурчыўся. У камеру зайшлі тры жандары: Закрэўскі з Рытвінскім, Косцік знае іх, і трэці высокі — першы раз бачыць яго. Трэці стаяў у парозе з папкаю пад пахаю, а Закрэўскі з Рытвінскім падышлі да Косціка. Закрэўскі спыніўся каля самых Косцікавых ног. Вытрымаў маўклівасць ды злосна, начальніцкім тонам:

— Устаць трэба... хам!

Павольна абапіраўся Косцік аб сцяну правай рукою. Баяўся, каб не ўразіць балючых сваіх пальцаў. Стаў перш на калені, потым узняўся з каленяў на ногі.

— Сягоння быў твой суд...— суха праказаў Рытвінскі.— Я прыйшоў прачытаць табе прыгавор...

Ён кіўнуў галавою назад. Незнаёмы для Косціка высокі жандар, з папкаю ў руках, крануўся з месца. Жандар падышоў да Рытвінскага размерным крокам, чотка адбіваючы рытм на цэментавай падлозе. Ён дастаў з папкі даўгавузкі лісток паперы, асцярожна падаў яго Рытвінскаму. Калі падаваў, ні Косцік, ні Закрэўскі з Рытвінскім не заўважылі, як дрыжала яго рука, а твар зрабіўся белы як палатно. Ён спешна адступіўся ад

Рытвінскага, па-ваеннаму зрабіў два крокі назад і прыставіў нагу.

У камеры зрабілася ціха. Толькі вельмі моцна стукала Косцікава сэрца. Яно адно парушала нежывую ціхату сутарэння. Але вось Рытвінскі зашамацеў лістком паперы, збэрсаў ціхату сухім басам:

«Прыгавор. Цывільны, Канстанты сын Гальяша Бранявіцкі,— чытаў Рытвінскі,— пастанаўленнем палявога суда камандзіра акружнога этапа Мінска-Літоўскага, нумар тысяча сто дзевяноста сем, дня дзевятага кветня, дваццатага года, за змову супраць войска польскага прыгаворан да кары смерці цераз расстрэл. За палкоўніка і камандзіра акружнога этапа Векерт».

Узняў ад прыгавору вочы і паглядзеў на Косціка. Ён стаяў, не кратаючыся з месца, увесь закамянелы. Ён не чакаў такога раптоўнага прысуду. Хацелася запытаць дэфензіўшчыка: «Чаму ж судзілі мяне без мяне» — не мог. Язык не варушыўся, не слухаўся. І ўсё цела — не яго. Яно пруткае, дубяное. Нават не мог паварушыць пальцамі рук. Не чуў, ці баляць раны, ці не. Толькі адно сэрца спяшалася стукаць. Яно хацела зрабіць чым найбольш удараў, пакуль яго спыняць. Яно ж яшчэ такое маладое...

— Прыгавор будзе выканан праз дзве гадзіны,— тупым слухам пачуў Косцік словы Рытвінскага.— Зараз я прышлю... Якой васпан веры? — запытаўся Рытвінскі.

Косцік зразумеў, што хоча прыслаць папа, каб паспавядаўся. Як стаяў — усёю сілаю тузануў сам сябе з месца. Праказаў, ускрыкнуў зусім нечакана для сябе:

— Камсамольскай!..

(Хацеў сказаць «мне нікога не трэба», а яно само так выказалася.)

— Угу...— скрыўлена ўсміхнуўся Рытвінскі, разумеючы Косціка...— не трэба, тым лепш!..

Закрэўскі ўжо выйшаў за дзверы, а Рытвінскі яшчэ быў у камеры каля дзвярэй. Ён раптам спыніўся, азірнуўся назад і да Косціка:

(Высокі жандар з папкаю стаяў каля Рытвінскага — чакаў, каб зачыніць дзверы.)

— Можа, хочаш перад смерцю развітацца з Фімам? Ён у суседняй камеры. Я магу, калі хочаш, зрабіць табе гэту ласку...

Косцік анямеў і не ведаў, што сказаць. Гэта так

раптоўна... Рытвінскі стаяў каля парога — от зараз пойдзе — чакаў яго адказу.

— Маніце! — крыкнуў Косцік.— Няма ў вас Фімы, няма!

А Рытвінскі зусім спакойна:

— Не хочаш, як хочаш...

І ступіў на калідор.

— Пачакайце! — падбег Косцік да дзвярэй.— Дзе ж ён? Хачу... развітацца...

І як выходзіў за дзверы, высокі з папкаю ў руках ішоў за ім. Непрыкметна для Рытвінскага высокі паціснуў ззаду Косціка за локаць. Косцік зразумеў: яго штурхае жандар, каб хутчэй ішоў. Нават і не азірнуўся на высокага. Прыбавіў крок, і цяпер у яго думках...

Дык вось чаму жандары падпісалі яму прыгавор. Больш не патрэбен ім. Фіма ў іх кабдзюрах. Жандар дазваляе развітацца... Хоча здзекавацца да канца. Ой, якой пацехай будзе для Рытвінскага спатканне-развітанне Косціка з Фімам! Няхай цешыцца — Косціку ўсё роўна! Ён, канешне, хоча развітацца з Фімам... з дарагім Фімам! Так даўно бачыліся... Колькі дасць хвілін гэты хударлявы чалавек на развітанне? Так шмат ёсць аб чым пагаварыць... Хто лазіў на слуп — вывешваў чырвоны сцяг... Колькі разоў разносілі пракламацыі... Хто разносіў... Дзе цяпер, за колькі вёрст Чырвоная Армія... Можа, пачала наступаць — ужо ж пачалася вясна... Можа, чуў аб Марысі... Дзе цяпер Дзядзька... Ці былі сходы... Каго яшчэ арыштавалі разам з ім... Як арыштавалі Фіму... Можа, быў правакатар, а можа, Карзюк хадзіў па яго пятах.

А колькі можа расказаць ён Фіму. Не, ён не будзе нічога гаварыць. Ён хацеў бы расказаць таму, хто на волі. Каб той чалавек мог расказаць сваім дзецям... А Фіму таксама будуць расстрэльваць. Няхай бы разам...

Яны дайшлі да канца калідора. Рытвінскі спыніўся каля дзвярэй, загадаў калідорнаму жандару:

— Адамкніце...

І да Косціка:

— Твой Фіма ў агульнай камеры. Праз дзве гадзіны яго перавядзем у тваю камеру.

Жандар адчыніў дзверы, і як было шумна — усё сціхла. Косцік пераступіў парог. Камера такой велічыні, як і тая, дзе ён. Толькі ў ёй вельмі цесна. Адны ся-

дзяць на падлозе... Найбольш ляжаць на сваіх лахманах, клунках, некаторыя паклалі галовы на ногі сваім таварышам. Некаторыя стаяць, прыпёршыся да сцяны. Усе брудныя, расшпіленыя... Тут найбольш у сярэдніх гадах і зусім старыя, барадатыя...

Косцік спыніўся на сярэдзіне камеры, шукаў вачыма, дзе ж Фіма? І не бачыў, як Рытвінскі сачыў прарэзлівым позіркам за яго тварам, як Закрэўскі разглядаў твары арыштаваных. Была рашучая хвіліна. От зараз убачыць свайго таварыша — ускрыкне, кінецца да яго ў абдымкі. Тады Рытвінскі падміргне сваёй хітрасці, усміхнецца і да Косціка:

«Вось і добра... Маладзец! Ты ўрэшце сказаў мне. Даўно трэба было... А цяпер ідзі. Няхай цябе там, я загадаў, расстраляюць. Прыгавор ты чуў? — чуў. Вазьміце яго, а я пагавару з новенькім».

Але Косцік агледзеў усіх арыштаваных і Фімы не знайшоў. Ён зірнуў на Рытвінскага з разгубленым непаразуменнем:

— Дзе ж ён?

З самага кутка камеры, з падлогі, узняўся пажылы чалавек. Ён у рабай камізэльцы з чорнай рэдкай барodкаю. Узрадаваным голасам, што ўбачыў свайго знаёмага, чалавек запытаў:

— Бранявіцкі! І ты тут?..

Рытвінскі крануўся міжвольна з месца. Нават зрабіў крок. Але зразумеў, што гэты абшарпаны стары так сабе Косцікаў знаёмы,— спыніўся, звярнуўся да Косціка:

— Адкуль ён цябе ведае?

Цяпер толькі Косцік уцяміў: Фімы і сапраўды няма тут. Жандары прывялі наўмысна... хацелі выведаць... і ў яго вачах загарэўся агонь радасці. От прывялі яго да гэтых людзей, уцешылі яго перад смерцю. А ён вельмі наіўны. Паверыў жандарскаму слову. Быў бы Фіма — кінуўся б да яго з апошнім развітаннем...

«Няма Фімы! — хацелася крыкнуць.— На волі Фіма! Ён вам, каты, яшчэ адпомсціць!..»

І другое: толькі не будзе ведаць, дзе ж ён дзеўся... Не! Ён павінен ведаць!

Косцік не адказаў на Рытвінскага запытанне. Як стаяў перад арыштаванымі на сярэдзіне камеры, дык на ўвесь голас:

— Таварышы дарагія!.. Мяне вядуць на расстрэл!..

Я не сказаў, дзе наш Фіма... Мяне прывялі, да вас, хацелі...

Ён не скончыў свайго апошняга слова. Закрэўскі ўдарыў кулаком па губах, і з рота пацякла кроў. Два жандары падбеглі з калідора, схапілі Косціка за рукі. Яны цягнулі за дзверы, ён упіраўся, вырываў рукі. Пырскаючы крывёю з рота, гаварыў:

— Скажыце Фіму... Не даруйце... За ўсіх не даруйце!..

Арыштаваныя заварушыліся, як разварушаны вулей пчол. Бадай усе ўзняліся на ногі. Косцік яшчэ бачыў іх перад сабою і чуў: нехта паслаў жандарам праклянцце, нехта крыкнуў «не даруем», а нехта шпурнуў бляшаны кацялок каля дзвярэй у сцяну... Косціка выцягнулі ў калідор, і дзверы зачыніліся — прышчамілі ўзняты гоман камеры.

Рытвінскі то бялеў, то чарнеў ад злосці. На хаду сказаў сяржанту Закрэўскаму «замкнуць», а сам пайшоў наверх у пакой «бадане» [1].

Ён хацеў пабыць адзін сам з сабою, каб супакоіць раздражнёныя нервы. Нават замкнуў пакой «бадане» на ключ, нібы хто мог зайсці без яго дазволу. Рытвінскага вельмі злавала думка, што нейкі хлапчук колькі часу вадзіў яго за нос. Не адзін зрабіў допыт, не ў такіх даставаў наверх усю «душу», а гэты...

Рытвінскі наліў з графіна шклянку халоднай вады, выпіў зара́з. Абцёр хустачкаю губы і за адным заходам выцер на лбе пот (не хацеў сазнавацца перад сабою, што «нейкія» камсамольцы могуць давесці да поту).

— Зараз расстраляю...— мармытаў, ходзячы па пакоі то ўзад, то ўперад,— расстраляю...

Яго злавала думка, што нельга прыдумаць Косціку большай кары, як адзін расстрэл, адна смерць. От няхай бы так, каб можна расстрэльваць бальшавікоў разоў пяць, дзесяць... Колькі захоча Рытвінскі, пакуль не здаволіцца яго душа. Тады напэўна сказаў бы ўсё чысценька кожны бальшавік. Рытвінскі нават спыніўся на момант, падумаў, і яму прыйшоў у галаву новы спосаб допыту. Ой, не! Ад Рытвінскага не выходзілі на расстрэл з такімі нутранымі дакументамі, як Бранявіцкі. Расстраляць Бранявіцкага — зарваць знойдзе-

[1] «Бадане» — допыт.

ную нітку падпольнага клубка. Заблытаць увесь клубок, згубіць адзіны канец. Не! Рытвінскі вось што зробіць: загадае завезці Бранявіцкага сёння, зараз, за горад і воддаль, каб відаць быў з дарогі,— павесіць. На трупе будзе такі надпіс: «Прысуджаны да кары смерці на шыбеніцы за змову супроць войска польскага. Без дазволу трупа не здымаць. Хто пасягне зняць вісельніка, будзе павешаны на гэтым жа месцы». Ён выставіць воддаль патаемны дазор. Бальшавікі захочуць, канешне, зняць труп. Яны ўбачыць яго, прыйдуць уночы...

— Яны здагадаюцца! — злосна прыказаў сам сабе Рытвінскі.— Яны не прыйдуць! І няхай не ідуць!..— ледзь не выкрыкнуў.

Ён павесіць Бранявіцкага, хоць сабе і не прыйдуць. Ён нагоніць страху на ўсіх падпольных. Яны змоўкнуць у адзін дзень... разбягуцца, як убачаць Бранявіцкага труп.

А ці ж змоўкнуць, а ці ж разбягуцца — Рытвінскі аб гэтым не падумаў.

## Раздзел чацвёрты

Недзе на ўскраіне гарадка звонка пяюць пеўні. Рэха не глухне ў вясновым муслінавым тумане, а ідзе далёкім водгуллем. У лесе пахне распаранай елкай. Пад сонцам елка дыміцца. Нібы атрасае апошнія заледзянела-хрупкія кускі наздраватага снегу. У гушчарах яшчэ часам можна ўбачыць раз'едзены ветрам ды сонцам збуцвелы снег. І там, дзе няма снегу, цвітуць пралескі.

Адны з першых кветак вясны. Яны, як неба, як сінія вочы дзяўчын. Лес прыбіраецца пралескамі, харашыцца. Сонца таксама прыбралася — надзела залатую карону вясны. Яно чыстае, чыстае...

А над полем, над лесам, над усёй зямлёю — жаўранкі. Іх не відаць. Гэта звініць тонкім голасам само неба. А можа, на небе тысяча званочкаў? Нехта нанізаў іх на бяздонны блакіт, кранае гуллівай рукою, і яны звіняць, звіняць...

І неба і зямля зліваюцца ў адзін стройны хор музыкі.

Спявае вясна...

Пралескі ў гэту вясну вельмі ўрадзілі. Расцвілі гус-

та, буйна. Сцёпа нарваў пралесак, навязаў іх у пучкі. Яны яшчэ не завялі. Сцёпа трымае пралескі на глыбокай талерцы з вадою. Яны так хутка і не завянуць.

Стаіць Сцёпа на рагу Базарнай вуліцы ды прадае пралескі. За пучок кветак — дваццаць капеек. Вельмі танна.

Ён не адзін прадае. Цераз квартал кветкі прадае Бора. Яшчэ далей — трэба ісці ўбок — трэці чалавек. Сцёпа не ведае хто. Яму нічога не кажуць. Крыўдна, ды вельмі ж цікава. Усё робіцца скрытна, таму і цікава.

Фіма ўсяго толькі і сказаў:

— Будзеш прадаваць пралескі. Хто запытае «пачым, гаспадар, вясна?» — свой чалавек. «Вясна», памятай,— пароль. Людзі будуць ісці з такім пропускам на сход. Ніхто з дэлегатаў схода не ведае, дзе будзе збор. Такому чалавеку кажы: «Налева, да канца квартала». Бора там да трэцяга пашле, а трэці — да чацвёртага... Глядзі, не ўляпайся!..

У Сцёпы моцна стукае сэрца. Якая цікавая патаемная работа! Як у той казцы. Ідзе чалавек і не ведае куды. Яго вядуць незнаёмыя людзі. А ці ж незнаёмыя? У іх адна думка. Усе хочуць пазбавіцца ад злыдняў. Выратаваць краіну. Дык ці ж незнаёмыя яны, калі з адною думкай!

Вунь на рагу стаіць паліцыянт. Пазірае з-пад брыля на Сцёпу. Няхай глядзіць. Сцёпа прадае кветкі...

Два жандары... Яны развіталіся вунь каля шэрага дома. Адзін пайшоў на двор, а другі — проста па вуліцы.

Паўз Сцёпу праходзіць малады чалавек у новым гарнітуры. Чыста выглянсаваны чаравікі. На галаве шапка-варшавянка.

«Ці не купіць кветак?» Не. Пайшоў бесклапотнай паходкай.

«Шляхцюк...» — вырашыў Сцёпа.

Падыходзіць чалавек у акулярах. Порстка спыняецца, азіраецца паабапал: нідзе нікога.

— Пачым, гаспадар, вясна?

— Налева, да канца квартала...

Падыходзіць жанчына ў вясеннім светлым паліто. Шыю жанчыны абдымае драпежны ліс. Вочы ліса шкляныя, гараць пад сонцам. Ліс пазірае на Сцёпу.

— Пачым пралескі?

— На мікалаеўскія — дваццаць капеек, на польскія — пяцьдзесят грошаў.

Жанчына плаціць тоўстымі мікалаеўскімі пятакамі. Выбірае гусцейшы пучок. Прыколвае пучок пад пысаю ліса. Здаецца, націнецца ліс на кветкі, хопіць крохкія пялёсткі разяўленай ляпай.

Каля Сцёпы прайшло чалавек дзесяць, якія звярталіся да яго са словам «вясна». Ён і не ведае: можа, усе прайшлі, а можа, яшчэ будуць праходзіць. Яму трэба стаяць да шасці гадзін. Ён стаіць і разважае:

«От каб мяне пусцілі на сход!.. Вельмі цікава. Аб чым будуць гаварыць?.. Там, пэўна, і Дзядзька будзе... Дзіва што. Калі б я быў, выказаўся б. Даўно выступаў на сходах. Выступаў на ячэйцы да прыходу палякаў, гаварыў, што гальштук — мяшчанства. З таго часу не выступаў. Фіма кажа, будуць па аднаму чалавеку ад арганізацыі... Сам першым будзе... Каб [redacted] захацеў, мог бы пайсці...»

Яму вельмі карціць. Таксама не ведае, дзе сход. Але мог бы трапіць, разважае, па сваім паролі. Не, ён не пойдзе сваім адумам.

Вельмі сумна стаяць. Звоніць касцёльны звон. Нядзеля. Набажэнства. Можа, нават цэлы фэст. Цяпер звоняць вельмі часта. Бадай ледзь не кожны дзень.

«На сваю галаву...» — думае Сцёпа і бачыць: па вуліцы ідзе з жанчынай жандарскі афіцэр. Вядзе жанчыну пад руку. Яна нешта яму гаворыць. На твары вясёлая ўсмешка.

Сцёпа зусім смела: «яны ніколі не здагадаюцца».

— Купіце, паненка, «вясну».

— Юзэф! — звяртаецца жанчына да афіцэра.— Зачэкай. Які пенкны квяты? Пачым?

— Танна...— кажа Сцёпа.— Колькі вам пучкоў? Тры, пяць, дзесяць?..

— Ого! — усміхаецца жанчына.— Дай мне... вось гэты.

Афіцэр дае Сцёпу за кветкі цэлую марку.

— У мяне не будзе здачы...

— Не трэба,— кажа афіцэр.

І пайшлі.

«Няхай бы рубель даў...— думае Сцёпа.— Нябось пашкадаваў».

А цераз вуліцу пераходзіць чалавек у сярэдніх гадах. Паднашаная ватоўка. На барадзе рэдкія, непабры-

тыя рыжыя валасы. Хударлявы. Твар доўга завострaны. На галаве кепка.

Сцёпа не ведае хто, а толькі падобны на рабочага гуты. Чалавек падыходзіць і адразу:

— Пачым, гаспадар?..

Сцёпа і не заўважыў, што не дагаварыў слова. Зусім міжвольна праказаў:

— Налева...

Нават кіўнуў галавою. Толькі ўсё ж не скончыў, што трэба сказаць. Супуціўся і як нічога не было:

— Каторыя: з левага боку ці з правага?

— А хіба ім не адна цана?

— Не... левыя — сённяшнія, правыя — учарашнія. Калі ласка... Свежанькія... каторыя — выбірайце. Ка-аму пралескі!..

І не зводзіў з чалавека вачэй. Ён перабірае кветкі, усё нешта муляе. Сцёпа і сам не ведае: можа, чалавек забыўся, які пароль? Але Фіма цвёрда сказў: «без пароля ніякай гаворкі».

Хударлявы чалавек не купіў кветак. Адышоўся за тры крокі ды стаіць. Узіраецца на той бок вуліцы. Нібы ўбачыў даўняга свайго знаёмага. От зараз гукне на яго, скажа: «Пачакай. Адкуль цябе бог прынёс?»

«Нешта не так,— думае Сцёпа,— каго ты там убачыў? Чаго ты выцягнуў шыю, як той гусак?»

І не заўважыў, як падышоў другі чалавек у доўгім драпавым паліто:

— Пачым, гаспадар, вясна? — аж спалохаў Сцёпу. На твары нават выступіў пот. Што сказаць, калі той стаіць і, напэўна, слухае.

— Дваццаць капеек...— холадна адказаў Сцёпа.

— Дорага...— паклаў чалавек у паліто пучок кветак назад на талерку.

— Дорага — не бярыце. Можа, вам на тым канцы квартала прададуць танней...

Чалавек з непрыкметнай усмешкаю:

— А я там і куплю...

І пайшоў. Ён зразумеў Сцёпу. Як Сцёпа ўздараваны сваёй смякалцы! Каб думаў — не прыдумаў бы. Не спадзяваўся сам на такі адказ. «На тым канцы квартала прададуць танней».

Зрабілася весела. Паўз Сцёпу не пройзе чужы чалавек. Ніколі. Ён кантралёр безбілетных людзей.

«А дзе ж чалавек у ватоўцы?!.»

Кінуў уздоўж вуліцы позірк і ўбачы: ён за дваццаць, можа, крокаў. Ідзе воддаль за чалавекам у драпавым паліто. Няўжо спанатрыў Сцёпавы хітрыкі?

«Што ж ён... Ён гэтак можа зайсці аж на самы сход».

Сцёпа крануўся з месца і забыўся на продаж кветак. Ідзе быстра, трымаючы ў руцэ талерку. Вада расплёхалася, а кветкі зблыталіся, намоклі. Чалавека ўжо і не відаць. Яны абодва звярнулі за двухпавярховую камяніцу. Бягом пабег бы, каб не ішоў яму насустрач жандар. Убачыў — сцішыў крокі. Размінаўся з жандарам, ён нібы падазрона акінуў Сцёпу позіркам.

«Пралескі ў талерцы, як каша... Хаця б не згубіць з вачэй,— свідравала думка.— Дзе ж яны?»

А вунь і Бора з пралескамі... Чалавек толькі што адышоўся...

Подбегам падышоў да Боры ды спалоханым голасам:

— Шпіён!..

— Хто шпіён?

— Вунь... Гэты хударлявы ў ватоўцы.

Бора зірнуў чалавеку наўздагон. Ён хаваўся ў завулку, і Бора паглядзеў на Сцёпу.

— Які табе шпіён! Ён сказаў мне пароль. Яны ішлі ўдвух, адзін за другім. І абодва ведалі пароль...

— А мне не сказаў. Далібожачка, шпіён! Ён пачуў пароль ад чалавека ў доўгім паліто.

Бора разгубіўся. Момант пазіралі адзін аднаму ў вочы. Бора першым парушыў маўклівасць.

— Зайдзі на рог Пад'езднай. Ідзі Памеранцавай. Пастарайся абагнаць. Папярэдзь... Там будзе дзяўчына з пралескамі. Хай скажа чалавеку ў доўгім паліто. Быстра!

Пакінуў талерку з кветкамі ў Боры. Не ведае, як выскачыў на Памеранцавую. Гэта ж цэлы квартал кругу. Толькі каб не заўважылі...

Ішоў і ў думках:

«Якія гэтыя шпіёны-лапіёны хітранькія. Як чэрці. Яны думаюць, што мы дурачкі. От жа недзе палякі знаходзяць такіх цацаў. А можа, і сам пераапрануты афіцэр? І гэта можа быць. Ах, каб вы галовамі панакладалі! Вось і Пад'ездная... Дзе ж тая дзяўчына?»

Зусім ашаламіўся. З гарачнасці прамінуў дзяўчы-

ну. Вунь жа яна стаіць. На тым баку тратуара... То сюды, то туды праходзяць людзі, і яе не заўважыў.

Сцёпа раптам супуціўся: чалавек у паліто адышоў ад дзяўчыны (праходзіла пажылая жанчына з хлопчыкам — засланіла чалавека).

«Няўжо я спазніўся?!»

Чалавек пайшоў быстрымі крокамі. На хаду даваў стрэчным дарогу: хінуўся бокам, закладаў назад левую руку.

А вунь шпіён... Размінуўся з нейкім мужчынам, каля дзяўчыны з пралескамі не спыніўся. Баіцца, каб не згубіць з вачэй чалавека ў паліто. Ён, відавочна, ідзе па яго пятах...

«Што цяпер будзе?..»

Сцёпа наперадзе ад чалавека ў паліто, можа, за пятнаццаць крокаў. Толькі ўсяго на другім баку тратуара. Кідае скрадзены позірк, ці ідуць. Нязручна разпораз азірацца. Задні можа заўважыць Сцёпу.

Перайшоў наўскасяк цераз вуліцу. Як пераходзіў, яшчэ раз зірнуў: ідуць. Сцішыў крокі ды ў думках:

«Хай наганяе чалавек у паліто... Як нічога, так сабе».

Не азіраецца, а чуе: нехта хоча яго абмінаць.

«Мусіць, чалавек...»

Сцёпу абмінула жанчына з карзінаю ў руках. Тады азірнуўся. Паглядзеў уздоўж перад сабой поўнымі вачыма. Чалавека ў паліто не відаць. І шпіка не відаць...

«Дзе ж яны?!»

Рукавом змахнуў з ілба халодны пот. Ішоў назад, а іх не было. Ішоў да той дзяўчыны, каб запытаць, куды ісці. Быстра ішоў і па левай руцэ — завулак. Празлівым позіркам ахапіў завулак і на заломе ўбачыў: шпік хаваўся за чырвоны дом.

Сцёпа звярнуў у завулак.

Яны ідуць на край горада... Тут зараз будзе лазня, а там — рэчка і мост. Гэта ж Вераб'ёўка...

Яшчэ прыбавіў крок. Не ўзнімаючы вачэй, абмінуў шпіка.

«Хай сабе падазрае».

Насустрач — ламавая фурманка. Конь бяжыць рыссю, і колы аж глушаць вуліцу. Грукат прывёў Сцёпу да сябе. Узрадаваўся грукату. Нібы хаваў грукат і яго і чалавека ў паліто ад гэтага шпіка.

Што думае шпік? Напэўна, заўважыў Сцёпу? Ба-

чыць яго, як спяшаецца. Можа, зараз дастане рэвальвер ды закамандуе: «Стой!» Тады шпіку малая будзе карысць. Гэтак не захоча ён зрабіць.

Сцёпа ад чалавека ў паліто за два крокі. Чалавек пачуў ужо яго спешку. Бокам гэтак кінуў коса позірк. Сцёпа не ведае, ці пазнаў яго, ці не...

— За вамі ідзе шпік...— прашаптаў Сцёпа, ідучы побач.— Ён у ватовай куртцы...

Чалавек у паліто нібы спатыкнуўся. Але толькі і ўсяго. Ізноў узяў той самы роўны крок. Зусім не глядзеў на Сцёпу — ён яго не знае,— праказаў паўгаласам:

— Ідзі... Абмінай... Мы — не знаёмы.

Сцёпа супуціўся.

«Як жа...— ледзь не вырваўся голас трывогі.— Што ён кажа...»

І не то ад сораму, не то ад крыўды міжвольна абмінуў чалавека. Быў ужо наперадзе на крок. Не ведаў, што рабіць.

«Няўжо не той?..»

І не скончыў думкі. Яго дагнаў ціхі шэпт:

— У лазню... Будзем мыцца...

Лазня, вось жа яна. Каб спазніўся Сцёпа папярэдзіць — невядома, куды ісці. Назад вярнуцца — у жандарскія рукі. Ісці наперад — вунь жа канец гарадка: мост цераз рэчку.

* * *

Карзюк разгубіўся. Пайшоў у лазню чалавек і нібы выліў на яго галаву даёнку мыльнай вады (на Верабʼёўцы няма тазоў. Бяруць ваду мыцца адмысловай даёнкай).

Карзюк горка плюнуў. От праглынуў лісток палыну. Яны заўважылі яго і будуць мыцца, адкуль ён ведае колькі? Можа, пакуль не зачыніцца лазня? А ён ведае цяпер пароль напэўна нейкага збору. Цэлую гадзіну наглядаў за гэтым хлапцом. Таргавалі кветкі, і хлапец некаторым ківаў галавою ў той бок: «Ідзі туды». Падышоў і пачуў: «Пачым, гаспадар, вясна...» Праверыў, і другі хлапец сказаў: «На рог Каменнай і Падʼезднай». Больш ні ў кога не пытаў. Ішоў, не губляючы з вока гэтага бальшавіка.

Дык хіба можна стаяць каля лазні, калі там недзе,

мабыць, усё падполле! І арганізатар Фіма, канешне, там. Дзіва што!..

Зрабілася вельмі горача. Відавочная ўдача, і нельга яе ўзяць. Як той гарачы камень або ўюн.

«Што рабіць? Пазваніць у паліцыю? Нідзе ні аднаго — як чорт пахапаў іх на форму — ні аднаго паліцыянта. Калі не трэба — колькі хочаш іх. І нават перашкаджаюць...»

І гэтак з хвіліну патупаў перад лазняю. Нават яго апанаваў сорам: стаіць, як той сабака. І крыўда... якая крыўда!

— Пайду да дзяўчыны! — вырашыў адразу.— Я не таргаваў яе кветак. Яна скажа, куды ісці. Гэта пэўна апошні іх пункт.

Быстра ішоў па Вераб'ёўскім завулку. От ужо і Пад'ездная вуліца...

«Я зайду з таго боку. Нібыта я іду з горада. Буду пытаць «па дарозе». Бальшавіцкі збор у гэтым квартале».

Ішоў, не зважаючы ні на кога. Размінуўся з жанчынаю, незнарок штурхнуў локцем. Жанчына паглядзела, як на вар'ята. А яму большая злосць:

«Не можа сысці на бок...»

«Дзе ж яна? — углядаўся яшчэ здалёк на рог вуліцы.— Можа, трохі адышлася...»

Падышоў да самай брамы. Дзяўчына стаяла тут.

— Дзе ж яна дзелася? — праказаў голасна. Спыніўся і не верыў сваім вачам.— Яна тут стаяла! Тут, вось...

Круціўся на адным месцы, нібы шукаў іголку. Дзяўчына правалілася як скрозь зямлю. Скрыгатаў ад злосці зубамі. Яшчэ тупаў, кідаўся ў бакі. Забег за браму на двор: «Можа, яна...» Зірнуў на зямлю і анямеў: за брамаю на зямлі раскіданыя пучкі пралесак.

— Ага! — ахнуў поўным голасам.— Яна здаўмелася. Яна ўцякла...

Яна такі ўцякла. Бора спрытней дайшоў. Праўда, вельмі на мала. Можа, каб тры хвіліны — застаў бы Карзюк.

Даведаўся Бора ад Сцёпы: «Ён пачуў пароль» — пайшоў ледзь не следам за Сцёпам. Разумеў — трэба як найхутчэй папярэдзіць «прадаўцоў». І ён папярэдзіў у свой час.

Карзюку хацелася ад злосці плакаць. Найбольшая

злосць была на паліцыянтаў, на жандараў: дзе яны дзеліся?

Выбег з двара ды подбегам: тут на рагу аптэка. Ён пазвоніць у камендатуру, а сам пабяжыць да лазні. «Яны не ўцякуць...» — ішоў, стрымліваючы свой узняты парыў. «О, я сам буду гаварыць з імі... Яны знойдуць і дзяўчыну і ўсіх чысценька... Я з імі пагавару-у...»

Ізноў не мог стрымацца, падбягаў. Тратуар бразгаў аж да звону ў вушах. Людзі азіраліся на непрытомнага чалавека.

Тратуар бразгаў таксама, як і тады, калі ішоў першы раз ад станцыі.

* * *

Чалавек у драпавым паліто браў у касе білеты, а Сцёпа назіраў праз мурзатае акно лазні. Сцёпа ўбачыў шпіка. Холадам прабрала ўсё яго цела. Шпік, здаецца, хацеў ісці ў лазню. Сцёпа не разумеў, што яны тады будуць рабіць? Ён не пакіне іх. Напэўна, іх арыштуе. Шпіку цяпер усё роўна: Сцёпа з чалавекам далей не пойдуць.

Але шпік пакруціўся перад лазняй — ды назад. І так быстра пайшоў...

— Дзядзька,— падышоў Сцёпа да чалавека ў паліто,— ён некуды пайшоў. Вельмі ж хутка. Напэўна, будзе заяўляць паліцыі.

Чалавек у паліто трымаў у руцэ білеты. Сказаў Сцёпа — тыцнуў білеты ў кішэню.

— Пайшлі...— сказаў да Сцёпы.— Пакуль ён — калі там — паспеем.

— А можа, ён чакае нас у завулку? — папярэдзіў Сцёпа.

— Няхай чакае...— выходзячы з дзвярэй, адказаў чалавек.

Выйшлі з лазні і звярнулі да моста. Сцёпа нічога не разумеў.

«Куды ён ідзе, калі там поле...»

Узышлі на мост, а каля парэнчы — незнаёмы з зялёным шалікам на шыі. Абапёрся на парэнчу ды назірае на разліў веснавой паводкі. У пальцах трымае адну пралеску. То сюды, то туды гэтак пакручвае ёю.

— Скажыце, калі ласка...— спыніўся чалавек у паліто каля незнаёмага,— як тут ісці на Ветракі?

— На Ветракі...— паглядзеў незнаёмы на Сцёпу.
— Ні ён, ні я не ведаем,— сказаў чалавек у паліто.
Тады незнаёмы зусім ахвотна:
— Проста аж да самага лесу. А там — запытаеце...
Сцёпа слухаў такую гаворку і раптам:
— Дзядзька! Тут, на Вераб'ёўцы, ніякай дарогі на Ветракі няма. Ветракі з таго боку горада. Трэба ісці па Шырокай вуліцы...
Незнаёмы збянтэжыўся. Чалавек у драпавым паліто ступіў крок да незнаёмага ды паўголасам:
— Ён — прадавец кветак. Не бойцеся. Ідзіце як найхутчэй у горад. Зніміце ўсіх «прадаўцоў». Гэты пароль падслухаў шпік.
Незнаёмы і не пытаў нічога. Пачуў такую навіну — быстра пайшоў.
А яны сышлі з моста ды ўзняліся на ўзгорак. Чалавек у драпавым паліто маўчаў. Вельмі спяшаўся, каб хутчэй, мабыць, перайсці ўзгорак. З-пад лазні відаць усё як на далоні. Што, калі вернецца шпік ды акіне вокам? Адразу ўбачыць, пазнае сваіх «знаёмых». Але вось узгорак спускаецца ўніз. Яшчэ некалькі крокаў, і не відаць лазні. Нават гарадок з яго найвысокай будынінай — пажарнай вежай — увесь схаваўся.
Чалавек у драпавым паліто лягчэй уздыхнуў, загаварыў:
— Падполле, браце,— не прыгодніцкая казка. Трэба быць вёрткім, смякалістым. Маргнуў не так вокам і прапаў. Смелым трэба быць. Ты маладзец! Здагадка, хлопча, у цябе ёсць. Хто заўважыў гэтага шпіка?
— Я! — ускрыкнуў Сцёпа.— Вы спыніліся каля мяне, таргавалі пралескі, а ён стаяў за тры крокі. Я адразу здаўмеўся, што ён нешта шпікуе. Мне не было як вам сказаць, дык я і сказаў: «можа, на тым канцы квартала прададуць танней». А вы і здагадаліся.
— Маладзец! — ізноў пахваліў чалавек.— Дрэнны, браце, пароль «вясна». Вельмі яркі. Можна было штонебудзь другое прыдумаць... нават і без слоў.
— Гэта Фіма прыдумаў,— сказаў Сцёпа.
Чалавек як і не чуў, гаварыў:
— От ужо на месцы, нічога сабе. Кожны, хто выходзіць з горада, павінен ведаць, у якім баку яго дарога. Ты, браце, не здаўмеўся. І сапраўды падумаў — мы ідзем у Ветракі. Гэты пароль нішто сабе.
Ён цяжка ўздыхнуў. Сцёпа паглядзеў на яго, і неяк

зрабілася яго шкада. Чалавеку гадоў пад пяцьдзесят. У яго, бадай, зусім сівыя валасы. Толькі валасы яго русыя, не відаць сівога інею. Вусы рыжаватыя, стрыжаныя. Барада чыста паголеная. У яго вачах свеціцца тлеючая цеплата і ласка. Чалавек, відаць, многа бачыў гора. Яго паліто — хоць і драп — вельмі вынашана сваім часам. Можа, адно гэта паліто праз усе гады яго. На нагах у чалавека — пад картовыя штаны навыпуск — чорныя бацінкі. На левай назе парваны шнурок: ён звязаны, і яго вузел тарчыць паміж пістонаў вялікаю барадаўкаю.

Прайшлі да палавіны палявой дарогі, і Сцёпа хацеў разуцца.

— Муляе мазоль,— сказаў Сцёпа, калі падыходзілі да старой бярозы, што над крыжавымі дарогамі.

(Дарога, што ідзе к лесу, вядзе на Дараўку, а дарога ўпоперак цераз поле — на Байдукі.)

— Яшчэ сырая зямля,— параіў чалавек.— Няварта разувацца. Ужо недалёка...

Сцёпа і паслухаўся чалавека. Ды мазоль яму не вельмі муляў. Хацелася Сцёпу разуцца, першы раз прайсціся пасля зімы босымі па зямлі нагамі. Ступіш на зямлю — адчуваеш яе, жывую, прасторную. Ступні босых ног шчыпле прыемны халадок вільготнай зямлі...

Пакуль дайшлі да лесу, Сцёпа расказаў пра сябе, хто ён і што ён. Як разносіў пракламацыі і ледзь яго не злавілі, як выведаў у Мальвіны, дзе цяпер Марыся. Урэшце запытаў у чалавека, ці знаёмы з Дзядзькам. Можа, ён ідзе на сход па Дзядзькаваму загаду.

Чалавек слухаў Сцёпу, а потым не сцярпеў.

— Ты мяне першы раз бачыш, праўда? Адкуль ты ведаеш, хто я, з якімі я думкамі?

— Я не кажу, што ведаю,— не адразу зразумеў Сцёпа.— Канешне, што першы раз бачу.

— То чаму ты расказваеш мне падпольныя сакрэты?

— Вы — свой...— збянтэжыўся Сцёпа.— Вы ідзіцё на сход...

Чалавек растлумачыў, што ўсё роўна няможна гаварыць.

— Добра гэта, як ты кажаш, што трапіў на свайго,— тлумачыў чалавек.— А магло быць — з табою ішоў бы той самы шпік, ад якога мы выкручваліся. Дэфензіва не дурная. Нікому, браце, не вер.

Чалавек верыў у Сцёпаву шчырасць, толькі яна вельмі гарачая. Пра сябе сказаў Сцёпу вельмі мала. Ён — настаўнік. Цяпер ён без працы. Вось і ўсё.

Сцёпу агарнула крыўда: і сапраўды, ён лёгкі на язык. Колькі разоў яму гаварыў Фіма, і ўсё роўна.

Каля лесу яны ўбачылі селяніна з сякераю за папругаю. Нібы выглядаў селянін смалістую сухастоіну: круціўся каля дарогі і ўсё задзіраў галаву на лес.

Тут ізноў быў пароль: «як прайсці да Зубраў» (Зубры таксама на тым баку гарадка). Сцёпа цяпер зразумеў: дарэмная была ў яго думка трапіць на сход. Дайшоў бы да моста, і ўсё. Не ведаў бы, што сказаць і каму. Чалавек у драпавым паліто меў не адзін пароль. І шукаў ён перш-наперш не сходу, а чалавека з прыкметаю.

«Колькі асцярожнасці,— думаў Сцёпа ідучы, калі селянін правёў абодвух у лес за дваццаць крокаў ды здаў другому сярэдніх гадоў чалавеку, падобнаму на паляўнічага (ён у ботах з высокімі халявамі, у кароткай світцы, у кепцы, а на аборцы цераз плячо — вінтоўка).— Той шпік,— разважаў Сцёпа,— ніколі б не дайшоў, нават каб і не папярэдзіў я настаўніка...»

У Сцёпы так многа радасці! Ён будзе зараз на сходзе... Ды на якім! Фіма, канешне, зазлуе: «Як адважыўся пакінуць свой пост!» А Сцёпа яму скажа: «Папытайся ў настаўніка». Увесь сход будзе ведаць, як Сцёпа папярэдзіў ад шпіка, як яны абодва абдурылі дэфензіўшчыка. Усе вунь як будуць рады за Сцёпу. Колькі будзе гаворкі!.. Сцёпа выступіць на сходзе, раскажа ўсё па парадку.

— Магіла расстралянага...— раптам сказаў чалавек з вінтоўкаю, ідучы наперадзе.

Сцёпа здрыгануўся. І сапраўды, жоўты, абы-як згорнуты курганок. Цяпер толькі Сцёпа ўспомніў: яны — у «Хвойніках». Увесь горад ведае, што белапалякі возяць сюды людзей на расстрэл.

Ступілі некалькі крокаў — і другі курганок... вунь трэці...

Чалавек з вінтоўкаю больш нічога не гаварыў. Сцёпу захацелася запытацца: «хто расстраляны». Прайшлі некалькі крокаў, і не мог адважыцца. Ну, як ты запытаеш хто?..

А чалавек з вінтоўкаю спыніўся ды, паказваючы вачыма:

— Вось і нашы... Ідзіце, а я вярнуся.

Калі падышлі да людзей, Сцёпа даўся дзіву: на сходзе чалавек пяцьдзесят. І ніхто не паглядзеў нават, што яны прыйшлі. Усе сядзелі, ляжалі на зямлі, слухалі чалавека ў бобрыкавым паліто. Ён стаяў пасярэдзіне круга, размахваў рукамі, гаварыў:

— ...Кожны партызан павінен расказаць сваім блізка знаёмым, што белапалякам засталіся лічаныя дні «гасцявання». Кожны з вас павінен зваць сваіх знаёмых, надзейных таварышаў у партызаны...

Сцёпа акінуў вокам увесь сход — разглядаў.

Некаторыя сядзяць, абхапіўшы калені рукамі. Некаторыя ляжаць на ўзлокатках. Шмат хто трымае пры сабе вінтоўку...

«Дзе ж Фіма?»

Вунь сядзіць на пні нізенькі чалавек у заячай шапцы.

Увесь аброс цёмна-рыжаю барадою. Падпяразаны ён кулямётнаю лентаю. Русы, шыракаплечы чалавек ляжыць на баку: ён падпёр галаву рукою пад вуха. Яго суконная світка, падпяразаная папругаю, расхрыстана, не зашпілена. З-пад яе відаць палатняная белая рубашка. Грудзіна ў рубашцы расшпілілася, і з-пад яе свеціцца голае цела. У русавалосага на папрузе, збоку, як маленькая даўбешачка, бомба.

Сцёпу зрабілася вельмі весела.

«Сюды белапалякі не паткнуцца!»

А чалавек у бобрыкавым паліто:

— ...Мы, таварышы, на могілках расстраляных нашых дарагіх, родных. Мы не ведаем, у якой магіле таварыш Шэйман... Не знаем, каторы курганок таварыша Сталярова. Таксама закатаваны і засыпаны тут Аносаў. Наша адважная камсамолка Гэля Дунайчык — яе магіла пры дарозе. Магіла таварыша Вінаградава... Камандзір Вінаградаў ішоў да нас у падполле. Мы чакалі яго, не знаючы, што ён загінуў. Дэфензіва ледзь не скарыстала нашай разгубленасці. Калі б здарылася гэта — некаторыя з нас ляжалі б тут, пад гэтым жоўтым пяском. Тут таксама курганы і невядомых нам. Але мы ведаем іх. Яны нашы браты, сёстры, бацькі... Яны загінулі, баронячы рэвалюцыю! Я прапаную ўшанаваць памяць загінуўшых — і гэта будзе нашай прысягай адпомсціць за нашых родных — я прапаную ўстаць...

Як уставалі з зямлі, Сцёпа не паверыў сваім вачам: недалёка ад яго, збоку,— польскі салдат. Ён таксама ўстаў з зямлі. Трымаў у руках сваю кантовую шапку з арлом, а на твары: нібы хацеў перад усімі нешта сказаць альбо папрасіць прабачэння...

«Падпольны...— здаўмеўся Сцёпа.— Малайчына!»

Стаялі хвіліну і маўчалі. Сцёпа назіраў у ціхаце за тварамі людзей. Усе яны суровыя, грозныя, добрыя... Людзі нібы прыслухаліся на момант — хацелі пачуць узрастаючы там на ўсходзе грукат гармат. Нават твары некаторых пазіралі ў той бок... А можа, і другое: магчыма, слухалі яны, каб пачуць, аб чым гаворыць жоўтыя магілы загінуўшых.

Прайшла хвіліна, і ўсе зноў селі на лясны рыжы мох. Тады выступіў каржакаваты чалавек з белымі бровамі. Чалавек у лапцях, у сівай жакетцы, у шапцы з сінім шырокім аколышкам. Паставіў каля лапця сваю кавалерыйскую вінтоўку, трымаўся рукою за ствол і, хістаючы яе то сюды, то туды, гаварыў:

— Мы сабраліся, канешне, не паніхіду спраўляць. Мы пакляліся перад магіламі і яшчэ раз клянемся... прагонім паноў! Далоў буржуйскі клас! Наша рэвалюцыя пойдзе на край свету! Наконт магіл правільна сказаў таварыш Татур. Гэта проста-такі... правільна. Як прагонім каршуноў, мы ўсе гэтыя магілы абложым дзёрнам. Таксама паставім помнікі, агароджу і насадзім кветак. Гэтыя магілы, дзе закапаны нашы таварышы,— дарагія магілы! Іх трэба шанаваць... Вось і ўсё.

Ён адышоўся ўбок і сеў, задаволены сваёю прамовай. На сярэдзіну выйшаў чалавек, падпяразаны кулямётнаю лентаю. Чалавек толькі сказаў «таварышы дарагія», а з таго боку, адкуль ішоў Сцёпа, бяжыць Фіма.

«Дзе ён быў?..» — паспеў падумаць Сцёпа.

Фіма падбег засопшыся. Сціснутым голасам, ледзь выгаворваючы, праказаў:

— «Фура»... на полі, каля бярозы... Многа жандараў... Адзін усё лезе на бярозу... Некага, мусіць, вешаюць...

Усе як адзін усхапіліся. Некаторыя з вінтоўкамі кінуліся ў той бок, адкуль бег Фіма. Але Татур спыніў усіх адным узмахам рукі.

— Стойце! — сказаў ён сярдзіта.— Куды вы? Паказаць сябе? Чалавека ўсё роўна не выратуеце. Стра-

ляць з лесу за вярсту... Толькі выклікаць з горада больш жандараў...

У Сцёпы ёкнула сэрца. Няўжо нельга падысці да дарогі, паглядзець з лесу? От ён будзе ісці гэтак здалёк, назіркам...

## Раздзел пяты

Тое, што адбылося, трымалася на воласе. Вагалася на аптэкарскіх шалях.

Жандар, які падаваў Рытвінскаму Косцікаў прыгавор, папрасіўся ў каравульнага начальніка — сяржанта Зомбера:

— Дазвольце, пане афіцэр, выйсці на вуліцу, купіць канверт.

Зомбер вельмі любіць, калі салдаты звяртаюцца да яго не «пане сяржант», а «пане афіцэр». Яны разумныя, смякалістыя!

Зайшоў жандар — Зомбер сядзеў на крэсле, выцягнуўшы перад сабою доўгія ногі. Не зводзіў вачэй з веснавой мухі. Яна бумкала на шыбе акна — не магла ўзняцца, паляцець, куды ёй трэба. Было вельмі смешна. Паўзе, паўзе, да сярэдзіны шыбы дапаўзе — і зноў адкідаецца на раму. Для яе цяжкой такой — слізкае шкло.

«Не ўпаўзеш...— думаў Зомбер.— Я цябе зараз вазьму на шпільку...»

І ўжо хацеў узняцца з крэсла...

— Чаго? — нібы не ўцяміў Зомбер, калі пытаў жандар дазволу.

— Купіць канверт, пане афіцэр.

— А дзе плютановы, пан Рысіцкі? — запытаў Зомбер.

— Ён недзе на нізе, пане афіцэр. Таму я вас і патурбаваў.

— Угу... Каму пішаш?

Не ведаў, што сказаць, але здаўмеўся.

— Дзяўчыне, пане афіцэр.

— І нічога дзяўчына?

— Хто ж яе... Можа, і дарма... Дачка фальваркоўца...

— Дзе яна жыве?

— Тутэйшая. Вёрст дваццаць ад горада. З Курга-

ноў. Ездзілі рэквізаваць — пазнаёміўся. Начавалі з Бронісем Савіцкім у гэтага фальваркоўца.

— Маладзец! — падхапіў Зомбер.— Не трэба драмаць у шапку. Гэтымі днямі я паеду ў Выжары — вазьму цябе — заедзем. У мяне наконт паненак ёсць густ. Прыпішы, што з ёю хоча пазнаёміцца афіцэр. Ідзі.

І не паспеў высокі дайсці да дзвярэй пакоя, як Зомбер спыніў яго:

— Фурс, зачэкай. Хоць тутай. На, вазьмі бутэльку каньяку... Ведаеш якога? Толькі не баўся. Зараз павяжем на «вечны одпочынэк» бальшавіка.

Фурс гэта ведаў. Чуў сваімі вушамі, як чытаў Рытвінскі Бранявіцкаму прыгавор. Толькі ён і другое ведаў: трэба паведаміць Яся Таркевіча. Ясь таксама некаму скажа. Можа, і перашкодзяць? Хаця ніякай надзеі не відаць. Што можна зрабіць, калі вязуць смяротніка дзесяць жандараў з адзінаццатым афіцэрам? Машына «фура» — зачыненая. Ідзе дарогаю поўным ходам. Хто яе спыніць?

— Пане афіцэр,— хаваючы грошы на каньяк у кашалёк, не сцярпеў Фурс (якраз да гаворкі),— а дзе, пане афіцэр, гэта будзе?..

Не мог выгаварыць жудаснага слова, а Зомбер сам зразумеў.

— Не ведаю. Напэўна, за Шырокаю...

Сказаў і спалохаўся. Хіба можна гаварыць загадзя такія сакрэты радавому салдату? Нават раззлаваўся, крыкнуў:

— Ты, Фурс, як баба! Ідзь!

Каля двух тыдняў, як Сядуч прачуў, што Бранявіцкі ў «Белым Доме». Не мог з ім пабачыцца, не знаў, які ён з твару. Найбольш цяпер бываў каравульным турмы плютон сяржанта Зомбера. А Сядуч на каравуле станцыі ды гарадскіх вуліц. Нельга ж пайсці ў камеру сваім адумам, калі ўсё наўкол дрыжыць. Ды што паможаш?

Раіўся з Дзядзькам, што рабіць.

— Не вытрымае Бранявіцкі,— казаў,— яны могуць драць палосамі скуру.

Дзядзька ўсяго толькі мог і параіць.

— Сачы за допытамі. Добра, калі б на допыце заўсёды быў свой чалавек. Памагчы пакуль што не можам. Уцячы з «Белага Дома» — дарэмныя мары.

З кожным днём дазнаваўся Дзядзька аб Касцікавых

пакутах. Разумеў — напэўна расстраляюць. Самая балючая была думка. Калі б везлі Косціка ў «Хвойнікі», за горад,— можна было б, можа, выратаваць. Толькі ізноў жа: добра ведаючы, у які дзень і нават у якую гадзіну. Можна залегчы было пры дарозе і, як везлі б, адабраць Косціка зброяй.

Дзядзьку радавала Косцікава стойкасць. Шкадаваў, як свайго роднага сына. У кожным дні шукаў яго ратунку. А як знайсці, розуму не мог прылажыць.

Сядуч даведаўся, што Косцік у «Белым Доме», праз Яся Таркевіча (Ясь у яго дружыне [1] радавым салдатам. Родам ён з ускраіны Львова, з рабочых пасёлкаў).

А Ясю сказаў Фурс. Часта бывае Фурс у каравуле «Белага Дома». Ясь папрасіў Фурса:

— Ты там прачуй, ці ёсць такое прозвішча — Бранявіцкі?

Фурс перш быў запытаў:

— А што ён, гэты Бранявіцкі, твая радня?

— Не...— тлумачыў Ясь Фурсу.— Ніякая не радня. Я з аднаго краю свету, а ён тутэйшы. У яго прыгожая сястра... я цераз яго сястру пазнаёміўся з ім. Дык сястра цяпер не ведае, дзе дзеўся брат. Быў дома, выйшаў з дому і не прыйшоў дадому. Яна думае — можа, ён трапіў да нас.

І толькі праз некалькі дзён Ясь спрабаваў больш выразна сказаць сваю думку Фурсу.

— Ці ведаеш ты, пане Фурс, за што мы ваюем? — запытаў ён.

— За айчызну! — не задумаўся Фурс.

— А дзе яна знаходзіцца?

— Дома, дзе ж!..

— І вялікая?

— Я цябе не разумею! — пазіраў Фурс на Яся здзіўленымі вачыма.

— Што разумець: я пытаюся, колькі валок зямлі ў твайго айца і ці вялікія палацы?

— Што ты пляцеш? — яшчэ больш здзівіўся Фурс.— У майго айца на Пазнанскай адзін пакойчык. Айцец плаціць за яго гаспадару Кнеўскаму дваццаць пяць марак у месяц. Пакойчык вельмі цесны і вада — за цэлы квартал.

— То за якую айчызну наша вайна?

---

[1] Дружына — аддзяленне.

— Я ж не ведаю,— засаромеўся Фурс,— так гаворыць пан Зомбер...

— Зомбер, можа, і праўду кажа: у яго айца, як я ведаю, дваццаць валок зямлі. Яму ёсць за што ваяваць. А нам з табою... Калі б я ведаў, што ты не лёгкі на язык,— сказаў бы...

Таркевіч на той першы раз доўга гаварыў з Фурсам. Адважыўся: што будзе, то будзе. Фурс не ўсё зразумеў, а гаворка вельмі спадабалася. Калі падумаеш — правільныя словы. Нічым ты іх не расколеш. Дык за што так часта ўночы вывозяць людзей за горад? Ці ж не за тое, што здабываюць бацькаўшчыну, якой не мелі цэлымі вякамі?

Фурс яшчэ не разумеў да канца, што такое бацькаўшчына чалавека. Часамі доўга думаў, меркаваў:

«Можа, мы ваюем за сваіх, за палякаў? От, якая айчызна. А рускія — за сваіх...»

Але не адважыўся запытацца ў Яся. Адчуваў, што Ясь таксама знойдзе адказ. Тады ў яго «душы» нічога не застанецца, каб апраўдаць сябе перад гэтай вайною. Тады будзе адна крыўда і боль. Лепш не будзе пытацца, а Яся паслухае.

Фурс выйшаў за браму, і тут недалёка: ён дойдзе да Яся Таркевіча, а потым па дарозе купіць каньяк. Ён скажа Ясю — няхай спяваюць Бранявіцкага бацькі «вечны одпочынэк». Ну, што ён можа зрабіць? Яму таксама шкода гэтага хлапца. Чытаў Рытвінскі прыгавор — не мог слухаць. Хацелася заткнуць вушы альбо выйсці. Ішлі з камеры — сціснуў Бранявіцкага за локаць: хай ведае, што Фурс не такі чалавек, як тыя. Фурс хоча, каб яшчэ жыла Бранявіцкага маладосць. Хіба ён разбойнік ці які злодзей? Ну, за што забіваць чалавека?

Ішоў гэтак з развагаю, а нехта ззаду за плячо рукою: як спалохаўся!

— Куды ты?

— Броніс... Адкуль ты?

— Іду... думаю ў сквер. Я пасля змены. А ты?

— Я... я... таксама іду. Я ў караўуле, у «Белым Доме». Выйшаў купіць канверт...

— Што чуваць у «Белым Доме»? Шмат бальшавікоў?

— Хапае! Сёння аднаго павязем...

— Быў суд?

— Суд? Хто ж яго ведае. Сам Рытвінскі чытаў прыгавор. Пэўна ж быў.

— Са-ам?

— Сам. Злосны бальшавік. І малады яшчэ, а не сазнаецца. От натура!

— І ты чуў прыгавор?

— Я быў канвойным. Канешне, чуў. Нейкі Бранявіцкі.

— Бранявіцкі!!!

— Чаго ты?!

Абодва адзін перад другім спалохаліся. Ускрыкнуў Броніс — Фурс падумаў сам сабе: «Можа, ён ведае, да каго я іду». Фурсу здалося, што Броніс падслухаў яго думкі.

А Броніс спалохаўся, як пачуў Косцікава прозвішча. Здрыгануўся ўвесь. Ён жа павінен сачыць за Косцікавым лёсам: як жа так раптоўна!.. І другое, можа, Фурс наўмысна сказаў перад ім? Можа, ведае яго думку ды выпытвае цяпер такою гаворкаю?

Ішлі да магазіна ды адзін перад другім, каб апраўдаць свой спалох:

— Так яму і трэба, калі такі цвёрды бальшавік!..— сказаў Броніс.

— Яшчэ ж і які!.. Я б такога жывога на агонь.

— На агонь — не на агонь, а хопіць з яго адной кулі.

— Мала адной. Выстраліў, і ўсё тут. Трэба, каб папакутаваў.

— Яно ж пэўна.

— Канешне, на агонь...

— Я дык ніколі не бачыў, як страляюць бальшавікоў,— раптам сказаў Броніс.

— Нічога цікавага,— праказаў Фурс.— Таксама памірае, як і на фронце.

— Кажуць, бальшавік пачынае перад смерцю спяваць?

— Выдумка! — махнуў рукою Фурс.— Я ніколі не чуў. Не вельмі наспяваеш, калі дула карабіна пазірае ў лоб.

— Хіба ў лоб так і страляюць?

— Не, канешне... Я так, для прыкладу гавару.

Абодва замаўчалі. Дайшлі да віннага магазіна, і Фурс спыніўся. Хацеў, каб хутчэй пайшоў Броніс. Яму трэба, вунь Таркевічава кватэра — забегчы, сказаць.

Фурс першы парушыў маўклівасць:

— Ты ідзеш у сквер... Ну, дык до відзэння...

Працягнуў руку Бронісю, а той зусім спакойна:

— Я цябе правяду да «Белага Дома». Мне ўсё роўна няма чаго рабіць. Спаць не хочацца... Сёння такі цёплы дзень... Ну, ідзі, купляй твае канверты...

Фурс і сам не ведаў: што ж будзе? Як наказаць? Прычапіўся як смала.

А ён і не будзе наказваць. Можа, Броніся што-небудзь падазрае на яго. Мала як. Не трэба гаворкі было ўздымаць. Гатоў яшчэ сачыць за ім, куды ён пойдзе. Ды што з таго, калі ён і накажа? Хлапцу ўсё роўна смерць. Скажа, як прыйдзе з каравула. Нечага за адным заходам будзе ведаць, дзе яго труп. Можа, захочуць пахаваць як чалавека.

— Як хочаш,— згадзіўся Фурс з Бронісем.— Праўдзі сабе, калі не лянуешся. Мне яшчэ трэба таксама купіць «паручніка» [1] — пан Зомбер даў грошы.

* * *

Усё нутро гарэла ў Броніся агнём. Што яму рабіць? Які знайсці ратунак? Ледзь не рваў на галаве валасоў. Няхай бы лепш не сустракаўся з Фурсам. Калі б нічога не знаў, не ведаў, тады лягчэй бы... І няма з кім параіцца Сядуч з Дзядзькам на сходзе. Броніс ведае, што сход за горадам у лесе. Ды што з гэтага? Застаўся ў горадзе, каб назіраць за настроем начальства. Шпікі могуць высачыць, данесці. Заварушыцца трывога — Броніс дасць сігнал. Выстраліць запар тры разы з моста ў ваду: нібы ён лавіў рыбу. Цяпер жа нераст язёў. А які сігнал, што Косціка вязуць на смерць? Ды што з сігналу, калі вязуць яго на Шырокую вуліцу ў прысады? Зусім на другі бок горада.

Броніс сказаў сам сабе: «Я паеду з канвоем, што б ні было! Хоць буду ведаць, дзе яго магіла... А можа, буду завязваць вочы, нават шапну яму: «Мы за цябе, дарагі таварыш, не даруем!»

І ён сядзеў цяпер у «фуры» разам з канвоем. Яму пашанцавала. Як падыходзіў з Фурсам да «Белага Дома», сказаў:

---

[1] Паручнік — на пагонах дзве зорачкі. Салдаты, найбольш дзеншчыкі, якія ходзяць купляць для афіцэраў каньяк, называюць яго па чынах начальства — колькі ў таго зорачак.

— Я папрашу пана Зомбера... Як ты мысліш: ці дазволіць? Я хачу расстраляць сваёй рукою хоць аднаго бальшавіка...

— Не дазволіць...— сказаў Фурс.— Загадае страляць цэлай дружынай. Ён кажа, што для нас двайная карысць: першае — вучымся страляць па жывых цэлях, другое — забіваем бальшавіка.

— Я і не кажу, каб аднаму мне дазволіў,— зразумеў Броніс,— мы будзем разам.

А каб не было лішняй гаворкі, можа, нават падазронасці, Броніс дагаварыўся з Фурсам.

— Я паеду за цябе. Табе ўсё роўна. Ты не раз ездзіў, праўда?

— Едзь...— неахвотна нешта згадзіўся Фурс.— Толькі як прыедзеш — як сабе хочаш — пачысціш маю карабінку.

Капрал Янэк Стусевіч сказаў быў Бронісю:

— Ганаруся салдатамі-добраахвотнікамі, у якіх не дрыжыць на бальшавікоў рука. Я далажу пану сяржанту: — паедзем!

«Фура» выехала за браму «Белага Дома», і Броніса апанаваў страх. Косцік сядзеў, прыпёршыся плячамі да кораба машыны, а дзесяць жандараў — паабапал на бакавых лавачках. Сяржант Зомбер сядзеў у кабіны разам з шафёрам.

Усе жандары Бронісю добра знаёмыя. Вось Антэк Брыжэўскі... у яго шырокія плечы, вочы яго заплылі тлустасцю. Гэты чалавек можа страляць у чалавека, не выраніўшы з галавы воласа. У яго няма ні нерваў, ні «душы». Боліс Крыжановіч таксама будзе страляць. Яго валасатыя пальцы нагадваюць дзікуна. Станіслаў Рысіцкі — плютановы — стары легіянер. За Пілсудскага аддасць сваю галаву. Вінцусь Петрашкевіч можа драць з чалавека палосамі скуру. Капрал Янэк Стусевіч можа пароць у жывыя раны шомпалам. Ён — садыст. Любіць бачыць кроў. Броніс Зыгмуцкі — гадоў сорак. Былы жандар Мікалая. Добраахвотнік: ніяк не можа адвыкнуць... Стэфан Крыштанпольскі — яму ўсё роўна. Загадаў пан афіцэр — мусіць паслухацца. Двух астатніх Броніс Савіцкі не ведае. Яны новенькія. Бадай, ці нетутэйшыя фальваркоўцы. Зусім маладыя. Напэўна, пайшлі добраахвотнікамі.

«Каб гэтак везлі свае таварышы...— думае Броніс.— Сяржанта Зомбера можна было б супакоіць рэ-

вальверам праз акенца, што ў кабінцы. А тады — у лес... У глыбокі лес да партызанаў. Цяпер ужо не бяда: вясна!»

Броніська не мог глядзець Касціку ў вочы. Кідаў часамі позірк і адрываў яго. Ён бачыў: Косцікаў твар худы, завостраны. Вочы глыбока паўпадалі. Яны свецяцца мутным водблескам. Пальцы заверчаны марляю...

«Яны так і застануцца заверчанымі...» — падумаў Броніська і жахнуўся. Заверчаныя пальцы пасля смерці... Ён жа хацеў, каб яны загаіліся...

Аб чым ён цяпер думае? Каго хоча бачыць перад смерцю? Калі б ён ведаў, што з ім едзе сведка яго смерці... Броніська раскажа ўсё, як было. Броніська запамятае яго магілу...

Ад гэтай думкі Бронісю хацелася крыкнуць: «Нех жые рэвалюцыя!» Каб ведаў, паміраючы, што ён ніколі не быў адзін.

А закрытая машына «фура» праехала да канца Мяшчанскай, і Броніська здрыгануўся: машына не пайшла на Парэцкі пляц, каб звярнуць на Шырокую, а пайшла проста да Пад'езднай. «Яны вязуць яго ў «Хвойнікі»,— ледзь не ўскрыкнуў Броніська. Не сцярпеў — праверыў сваю радасць услых:

— Куды мы вязем?..— шэптам запытаў у Янэка Стусевіча.

— На крыжавыя дарогі!..— адказаў Янэк больш мацнейшым за Броніся голасам.

Броніська здзіўлена паглядзеў на Янэка. Хацеў, каб ён растлумачыў, і не адважыўся пытаць: можа кінуцца Янэку ў вочы, чаму пытае.

Машына ўжо выйшла за гарадок. На масце цераз рэчку сцішыла ход, потым напорыста ўзяла ўзгорак. Можа, праз пяць хвілін, за ўзгоркам, яны пад'ехалі да крыжавых дарог.

У Броніся аж сшэрхла ўсё цела. Цяпер толькі зразумеў, аб чым гаварыў капрал Янэк.

«Яны будуць вешаць...» — прашаптала Бронісева нутро, калі сяржант Зомбер загадаў, выходзячы з машыны, браць вяроўку. Броніська апошні раз зірнуў Косціку ў вочы — развітаўся з ім. І доўгі такі быў погляд. Невядома, ці зразумеў яго Косцік...

З машыны выйшлі не ўсе. Косціка яшчэ не выводзілі. З ім засталося трое жандараў. Сяржант Зомбер,

размахваючы рэвальверам, загадаў Крыжановічу лезці на бярозу...

Броніcь зірнуў на лес: вярста, калі не больш...

Крыжановіч абкручваў наўкол паясніцы вяроўку, а Зыгмуцкі з Петрашкевічам закурвалі.

— Чапляць будзем на гэты сук... што ад дарогі,— сказаў Зомбер Крыжановічу.

«Даць, можа, сігнал...— не ведаў Броніcь, што рабіць,— выстраліць тры разы... вунь у тую варону...»

— Агледзь сук... глядзі, каб не быў гнілы.

«Далёка ад лесу вырасла гэта бяроза...»

— Вяроўку завязвай вузлом. Абкруціш разы тры. Ён тут будзе вісець доўга...

«Можа, выстраліць у Зомбера...— бліснула думка.— Будзе гвалт... У лесе таксама пачуюць...»

— Я скажу, які даўжынёю канец спусціць. Лезь!

— Пан афіцэр! — падышоў Броніcь да Зомбера.— Няўжо вы не баіцеся граху?..

Зомбер сумеўся: ці не звар'яцеў салдат?

А Броніcь сам не ведае, што сказаў з непрытомнасці. Ён хацеў выстраліць у Зомбера і кінуцца да машыны. Прымусіць шафёра вінтоўкаю ўцякаць к лесу (Броніcь забыўся на трох жандараў у машыне).

Броніcь не выстраліў: рукі не ўзнялі вінтоўкі. Тады сказаў глупства: нібы афіцэр збаіцца грахоў вешаць чалавека.

— Я кажу, пане афіцэр,— бліснула ў Броніся думка,— грэх вешаць бальшавіка на крыжавых дарогах.

— ?!.

— Недаверка я павесіў бы на асіне,— акрэпшым, роўным голасам гаварыў Броніcь,— павесіў бы ў пушчы, дзе гуляюць д'яблы. Крыжавыя дарогі — святыя дарогі пана Езуса.

Зомбер здрыгануўся. Яго ахапіла перш злосць, што нейкі салдат пачынае яго вучыць. Але і другое: праўду гаворыць салдат. Крыжавыя дарогі — дарогі пана буга. Яму гаварыла аб гэтым некалі цёця Зося. Апавядала Зося, што як хадзіў некалі па зямлі пан буг і там, дзе адпачываў, заставаўся на зямлі крыж. Тады людзі хадзілі, ездзілі да святога следу з чатырох канцоў. І расла крыжавая дарога на ўвесь свет. Траплялася Зомберу пераходзіць такую дарогу — заўсёды хрысціўся. І на кожным скрыжаванні заўсёды стаіць крыж...

Сказаў Броніcь — Зомбер на хвіліну задумаўся:

жыды распялі пана Езуса на крыжы, а пан Зомбер патурае — вешае бальшавікоў над яго крыжам.

«Мне загадаў пан паручнік»,— апраўдваўся ў думках перад панам богам. Нават хацеў сказаць гэта Бронісю. І другое: «Можа, пан паручнік забыўся на крыжавыя дарогі? Можа, нават падзякуе, што не зняважыў святога месца?»

А Крыжановіч, выпускаючы бярозу са сваіх абдымкаў, пад Зомберавы думкі:

— Я не ўзлезу, пане афіцэр! Кара на бярозе збуцвелая. Абы ўзяўся пальцамі — адломліваецца. Хаця каб адзін сучок, пане афіцэр, можна б ухапіцца... Няхай падсадзяць...

— До лясу! — закамандаваў Зомбер жандарам, і ўсе ізноў селі ў машыну.

Броніс не памятае добра, як адбылося ўсё гэта жудаснае ў лесе. Не меў пэўнай надзеі, што ўбачаць падпольныя вартавыя «фуру». Ды калі і ўбачаць — могуць папярэдзіць сход толькі для таго, каб цішэй гаварылі. І не ведаў, ці далёка сход у лесе (напэўна, далёка), на якім баку дарогі.

Ужо было ўсё падрыхтавана. Ціха аб нечым шаптаўся малады прыдарожны ельнік. На разложыстым дубе (не было горкай асіны) вісела вяроўка. Яна яшчэ не нацягнутая, новая... Маленькі ветрык варушыў на ёй нейкія неасмаленыя вусікі асморжынаў.

Жандары стаялі твар к твару ў два рады, па чатыры чалавекі. Уздоўж іх — вулачка. Броніс — каля самай вяроўкі: хацеў шапнуць Косціку апошняе развітанне. Сяржат Зомбер воддаль, збоку. Трымаючы ў апушчанай руцэ рэвальвер, праказаў:

— Пшэвадзіць!

Тады двое жандараў — Вінцусь Петрашкевіч з Антэкам Брыжэўскім вывелі Косціка з «фуры».

Ён нібы яшчэ не ведаў, што з ім хочуць рабіць. Наіўнымі вачыма акінуў жандараў, паглядзеў на лес... Ён убачыў перад сабою шыбеніцу.

Броніс назіраў за ім. Бачыў, як адступіўся Косцік міжвольна назад. Антэк Брыжэўскі падставіў карабінку, папхнуў яго прыкладам наперад.

— Ідзь!..

Усё здарылася так, як праходзіць на небе ў навальніцу маланка. Броніс не зводзіў з Косціка вачэй і не апамятаўся, як збоку прарэзаў яго вушы крык:

— Урра-а! Косцік!!

Броніcь азірнуўся: з ельніку бег Сцёпа.

А Зомбер, як згледзіў хлапца — узняў рэвальвер і выстраліў. Сцёпа бег і нібы спатыкнуўся аб корань: хапаўся за паветра рукамі, потым узмахнуў усім целам, рынуўся на зямлю.

Тады здрыгануўся лес, здавалася, цэлым выбухам: з ельніку выбегла чалавек дваццаць з вінтоўкамі. Жандары, як стаялі ў радах — змяшаліся, кінуліся да «фуры». Броніcь таксама адбегся за імі. Быў за машынаю і бачыў: Косцік кінуўся бегчы да Сцёпы, а Зомбер, стоячы за хвояй, выцягнуў наперад руку, жмурыў вока...

Броніcь таксама ўзмахнуў вінтоўкаю... прыпёр яе да пляча. Вінтоўка перш тузянула, потым аддала прыкладам у плячо... Сяржант Зомбер адразу расшчапіў пальцы — выпусціў рэвальвер. Павольна апускаўся на мох каля хвоі, скрабучы пазногцямі яе сухую кару.

* * *

Лес ціха аб нечым шаптаўся. Ноч даўно ўжо запаліла мільёны зорак. Яны, як свечкі...

Недзе далёка за лесам выў сабака. Напэўна, чуў сабака галодных ваўкоў.

Ціха гарэў раскладзены каля балота ў гушчары маленькі агонь. Яловыя сучкі часамі патрэсквалі, парушалі нямую ціхату.

Каля агню сядзелі Фіма з Бронісем і Дарахвей. Воддаль ад агню на яловых лапках на Бронісевым шынялі ляжаў Сцёпа. На яго твар падала жоўтае святло. Яно цалавала яго твар, трапяталася шырокімі крыллямі падстрэленай птушкі. Каля Сцёпавых ног сядзеў і не зводзіў з яго твару сваіх вачэй Косцік.

У Сцёпы вочы заплюшчаны. Часамі нешта хрыпіць у яго горле. Высока ўздымаюцца грудзі.

Косцік не зводзіў са Сцёпы вачэй і не бачыў ясна яго твару. Не, ён не плакаў... Вочы яго так ад нечага цьмяныя. Праціраў адным пальцам, каб не заўважылі, ад агню...

— Не пайшоў...— ледзь прыўзняў Сцёпа павекі вачэй,— не слухаеш... Зловяць... Косцік. Ідзіце... усе ідзіце...

— Мы далёка, Сцёпачка,— адказаў Косцік,— не бойся, братка, не зловяць.

— Могуць... Яны хітрыя... Пакіньце мяне...

І глухі ахрыплы стогн.

Фіма ▪ Дарахвеем паглядзелі на Сцёпу. Броніс узняўся ад агню, падышоў да яго. Прысеў збоку на кукішках.

— Stefanie, nie trzeba się przejmować. Wkrótce przyjdzie doktór... My bendziemy razem... nazawsze...[1]

— ...горача... тут...— хацеў падняць Сцёпа руку, паказаць, дзе горача, і не мог.

Ізноў усе маўчалі, як і сама ноч. Аб чым гаварыць? Цяжка гаварыць. Разумелі — памрэ Сцёпа. Куля трапіла ў жывот і прайшла наскрозь. Убачыў з ельніку дарагога Косціка — забыўся на ўсё. Думаў, што не паспеюць выратаваць, першы выбег з лесу. «Чаго ж яны марудзілі...»

Маладосць... Яе ніхто не абвінаваціць. Яна дужая, адважная, смелая.

Сцёпа памёр, калі ўзыходзіла сонца. Таварышы выкапалі магілу недалёка ад вогнішча. Асцярожна палажылі Сцёпу ў магілу і знялі шапкі. Хвіліну стаялі ў зацятай маўклівасці...

Гэта была хвіліна іхняй жалобы і прысягі.

## Даказ

На рагу Ленінскай і Савецкай стаяў Карзюк. Хацеў перайсці цераз Савецкую вуліцу на той бок. Ніяк не мог перайсці: па вуліцы праходзіў полк чырвонаармейцаў энскай дывізіі. Першыя шарэнгі ўжо каля Камсамольскай, а задніх з-пад Энгельса яшчэ не відаць. Полк быў у новым абмундзіраванні. Ішоў нага ў нагу пад музыку духавога аркестра.

Карзюк некуды спяшаўся. Не ўстаяў на тратуары — сышоў на брук. Усё хацеў улучыць момант — прамкнуць праз шарэнгі. Вось-вось ён прабяжыць...

І не заўважыў, як збоку падышоў чалавек у рабай кепцы, у сінім гарнітуры і да яго:

— Ты гэта ці не ты?..

Карзюк здрыгануўся. Чамусьці ўявіў, што перад ім стаіць Косцік Бранявіцкі.

Будзе месяц, як ён атрымаў ліст ад сваіх. Яны

---

[1] — Сцяпан, не трэба хвалявацца. Неўзабаве прыйдзе доктар... Мы будзем разам... назаўсёды...

асцярожна пісалі: «Марыся Суравец у Мінску. Вучыцца на першым курсе рабочага факультэта. Кастусь Бранявіцкі дома. Цяпер ён камсамольскі начальнік. Усё збіраецца ехаць да Марысі...»

З гэтага часу, абы выходзіў у горад — усё сцішка азіраўся паабапал. «Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам...»

— Не пазнаеш? — запытаў чалавек у рабай кепцы, калі Карзюк пазіраў на яго разгубленымі вачыма.

— Цвікун!..— успомніў Карзюк дэлегата з'езда ад сацыял-дэмакратаў.— Скуль ты? — узрадаваўся Карзюк.

— Стуль, дзе няма... А ты?

— Я... я стуль, дзе ёсць...

Абодва рассмяяліся. Карзюк з вялікай радасцю паціснуў Цвікунову руку: якога дарагога чалавека спаткаў! Саступаючы з бруку на тратуар, Карзюк праказаў:

— То, можа, вып'ем пакуль што піва?

— Вып'ем,— згадзіўся Цвікун.— Чаму ж не.

Яны ішлі проста па тратуары, а чырвонаармейцы па бруку насустрач ім.

— ...раз-два! раз-два!..

— Факт...— сказаў Цвікун, паказваючы вачыма на чырвонаармейцаў.

— Паглядзім...— адказаў Карзюк і перавёў гаворку на другі лад: — Між іншым, я выязджаю каморнікам на вёску... для пасёлачнага, так сказаць, землеўпарадкавання. Табе таксама, калі захочаш, знойдзецца работа...

На шкляных дзвярах перад імі белымі літарамі было напісана: «Піва, квас і халодныя закускі».

Яны бразнулі за сабою шклянымі дзвярмі.

*1935—1936*



# ЛІСТЫ

*15 октября 1937 г.*

Дорогая Надюшка!

Приехал в Могилев 15 октября. Ждем этапа. Чувствую себя хорошо. Очень жаль, что ты не пришла на станцию, когда мы уезжали. Жонки Скрыгана, Микулича и Стаха были. Ты, наверное, не знала о нашем отъезде. Очень жаль, дорогая Надюшка. Ты так много для меня сделала, передав мне зимнюю одежду. Теперь пальто осеннее я мог бы отдать тебе. Оно, по правде, мне не нужно.

Дорогая Надюшка! Если бы ты выхлопотала у прокурора свидание. Очень был бы я счастлив. Я бы хотел, чтобы ты приехала в Могилев. Жонка Алеся Пальчевского добилась с ним свидания в Орше. Приезжай в Могилев и пойди к прокурору здесь. Проси, чтобы разрешили. Также обратись к начальнику тюрьмы, он тоже иногда разрешает.

Для меня это очень нужно. Год я не виделся с тобой.

Надюшка, ты только не скучай. Самое главное — здоровье. Я себя чувствую здоровым, и это все, немного болел гриппом.

Мне так хочется знать, как ты живешь?

Дорогая Надюшка, имей в виду, что свидание здесь официально не разрешено, но я пишу тебе, может быть, ты возьмешь как-нибудь разрешение, т. е. от прокурора в Могилеве или же от начальника тюрьмы. Передачи и посылки тоже запрещены. Деньги можно посылать по почте. Но у меня деньги есть. Только они еще находятся в минской тюрьме. Начальник городской могилевской тюрьмы говорит, что их нам перешлют. А пока у меня одна квитанция на 90 руб. Последний раз я получил от тебя квитанцию на 50 руб. в июле месяце. Так что, если я получу деньги, до этапа, я буду на дорогу обеспечен и продуктами. Ну все пока что. Жив и здоров. Не скучай, дорогая Надюшка... Смотри за своим здоровьем. Привет Ане и бабушке. Как растет сын Ани? Большой ли? Я слыхал, что Аня была больная после родов. Как она себя чувствует. Я также слыхал, что тебя обворовали в январе месяце. Правда ли это?

Писем пока не пиши, потому что я не знаю, сколько буду в Могилеве. Когда заеду в лагерь, буду писать. Не скучай, Надюшка. Больше не о чем писать. Крепко тебя целую. Дорогая моя Надюшка! Будь здорова.

Остаюсь твой *Сымон.*

*27 декабря 1937 г.*

Дорогая моя Надюшка!

Я послал тебе с моего места 13 декабря первое письмо, а это второе. Ответа твоего на мое письмо жду со дня на день. Это для меня очень дорого. Ведь я ничего о тебе не знаю: жива ли ты, здорова ли? Также ничего не знаю, получила ли ты мои письма с дороги, я писал тебе из Орши и Свердловска. Письмо идет до меня 10—12 дней... Я просил тебя выслать мне посылку, если это возможно. Если ты получила письмо, то ты, конечно, выслала. Посылка, Надюшка, мне нужна на первое время: т. е. пока буду работать первые месяцы, пока оправлюсь после дороги. Если ты еще не выслала, то вышли и вот что: сахару кило, сала, махорки, побольше курительной бумаги, луку, немножко сухарей. Вышли конвертов и общую чистую тетрадь. Я просил тебя, чтобы ты выслала котелок, он в лагере

